# Дыялектная мова Гродзеншчыны




Хрэстаматыя

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

# ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Хрэстаматыя

па курсах: «Беларуская дыялекталогія», «Гісторыя беларускай мовы»,
спецкурсах: «Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны»,
«Беларуская этналінгвістыка»
для студэнтаў спецыяльнасці
1-21 05 01 – Беларуская філалогія

Гродна 2007

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3
Д91

Аўтары-складальнікі: *М.А.Даніловіч*, доктар філалагічных навук, прафесар;
*Н.К.Памецька*, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

Рэцэнзенты: загадчык кафедры беларускага моваяназнаўства Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя І.П.Шамякіна, доктар філалагічных навук, прафесар *В.В.Шур;*
доктар філалагічных навук, прафесар *І.Я.Лепешаў*.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я. Купалы.

**Дыялектная** мова Гродзеншчыны : хрэстаматыя / аўт.-склад.:
Д91 М.А.Даніловіч, Н.К.Памецька. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 260 с.

ISBN 978-985-417-933-9

У хрэстаматыю ўключаны фрагменты дыялектнага маўлення, якія адлюстроўваюць стан і характэрныя асаблівасці сучасных беларускіх гаворак Гродзеншчыны 1986 – 2006 гадоў. Тэксты сістэматызаваны паводле двух прынцыпаў. Спачатку даюцца ўзоры традыцыйных гаворак усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнаў Гродзенскай вобласці, затым – этналінгвістычныя запісы: тэматычнае апісанне мясцовых рэалій самімі дыялектаносьбітамі. Прыводзяцца таксама прыклады беларуска-рускага маўленчага ўзаемадзеяння.

Прызначаецца студэнтам і выкладчыкам філалагічных спецыяльнасцей. Можа быць карыснай лінгвістам, этнографам, гісторыкам, фальклярыстам, краязнаўцам.

**УДК 811.161.3**
**ББК 81.411.3**

**ISBN 978-985-417-933-9**

# УСТУП

Дыялектная мова, у адрозненне ад літаратурнай, больш рухомая. Не рэгламентаваная кадыфікаванай нормай, яна актыўней выяўляе і рэалізуе змяненні, выкліканыя лінгвістычнымі і пазалінгвістычнымі фактарамі. Для вывучэння стану і характару змяненняў дыялектнай мовы на пэўным гістарычным этапе неабходна яе пісьмовая фіксацыя.

Сёння па прычыне актыўнай міграцыі насельніцтва, а таксама пад уздзеяннем беларускай і асабліва рускай літаратурных моў адбываецца разбурэнне дыялектных сістэм, размыванне межаў гаворак, архаізацыя моўных з'яў, якія склаліся ў мінулыя эпохі. Практыка апытання інфармантаў паказвае, што ў сельскай мясцовасці традыцыйнай гаворкай у больш-менш чыстым выглядзе валодаюць пераважна карэнныя жыхары, узрост якіх восемдзесят і больш гадоў. Людзі сярэдняга пакалення дапускаюць значныя адхіленні ад нормы мясцовай гаворкі. Прадстаўнікі малодшага пакалення карыстаюцца так званай «трасянкай» (сумесь элементаў беларускай і рускай моў) або імкнуцца гаварыць па-руску.

Такая сітуацыя ў перспектыве непазбежна прывядзе да істотнага змянення сучасных гаворак. Таму цяпер перад дыялектолагамі стаіць задача іх неадкладнага пісьмовага дакументавання, бо тое, што не зафіксавана сёння, заўтра можа быць беззваротна страчана.

У мінулым стагоддзі беларускія гаворкі ў той ці іншай ступені знаходзілі сваё адлюстраванне ў публікацыях лінгвістаў і фалькларыстаў. Найбольш сістэмна яны паказаны ў дзвюх кнігах: «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Беларуская дыялекталогія: Хрэстаматыя» (1979) Е.С.Мяцельскай і Я.М.Камароўскага. Першая ўключае ў сябе тэксты жывой дыялектнай мовы, запісаныя ў 1948 – 1960 гг., другая – у 70-я гады XX ст. У 1990 г. выдадзена яшчэ адна хрэстаматыя «Вусная беларуская мова», у якой сабраны запісы пераважна 70 – 80-х гадоў XX ст. Ад папярэдніх яна адрозніваецца тым, што змяшчае тэксты не толькі дыялектнага, але і літаратурнага маўлення.

Развіццё навукі вымагае апублікавання новых фрагментаў сучасных гаворак. Наспела патрэба складання хрэстаматый абласнога тыпу, якія ахопліваюць моўныя тэрыторыі асобных рэгіёнаў. Працы падобнага характару патрабуюць больш шчыльнага абследавання гаворак адной адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, раёна. Яны дазваляюць прасачыць функцыянаванне асаблівасцей дыялектаў, груп гаворак, дыялектных зон у пэўнай мясцовасці, выявіць шматлікія вузкарэгіянальныя моўныя з'явы і тэрыторыю іх бытавання.

Сістэматызаваныя зборы тэкстаў жывой народнай мовы – каштоўны матэрыял не толькі для дыялекталогіі і гісторыі мовы, але і для такіх актуальных у наш час сумежных навук, як этналінгвістыка, сацыялінгвістыка, лінгвакраіназнаўства, лінгвакультуралогія, лінгвафалькларыстыка і інш.

Дапаможнікі такога тыпу неабходныя для падрыхтоўкі настаўнікаў роднай мовы, асабліва тых, што набываюць кваліфікацыю ў абласным універсітэце, размяркоўваюцца на працу ў межах свайго рэгіёну, дзе выкладаюць беларускую мову ва ўмовах мясцовага дыялекту.

Матэрыял для хрэстаматыі «Дыялектная мова Гродзеншчыны» збіраўся на працягу апошніх дваццаці гадоў. Запісы, праведзеныя складальнікамі дапаможніка і студэнтамі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы пераважна ў час дыялекталагічных практык і экспедыцый, засведчылі характар і стан гаворак Гродзенскай вобласці на мяжы XX і XXI стагоддзяў. Большасць фрагментаў вуснага маўлення зафіксавана з дапамогай магнітафона ад інфармантаў, якія нарадзіліся ў першай палове XX ст.

Хрэстаматыя складаецца з трох частак. У першай прыводзяцца ўзоры гаворак усіх семнаццаці раёнаў Гродзенскай вобласці. Звязныя тэксты размяркоўваюцца адпаведна парадку размяшчэння адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнаў з паўднёвага захаду на поўночны ўсход. Спачатку даюцца матэрыялы з гродзенска-баранавіцкай групы гаворак (Свіслацкі, Ваўкавыскі, Бераставіцкі, Мастоўскі, Гродзенскі, Шчучынскі, Зэльвенскі, Слонімскі, Дзятлаўскі, Навагрудскі, Карэліцкі раёны), яе паўночнай перыферыі (Лідскі, Воранаўскі, Іўеўскі раёны), затым – з сярэднебеларускіх гаворак (Ашмянскі, Смаргонскі, Астравецкі раёны). Для ўзораў адабраны тэксты, якія адлюстроўваюць традыцыйныя рысы гаворак. Другая частка хрэстаматыі «Міжмоўнае ўзаемадзеянне» ўключае ў сябе прыклады, якія ілюструюць адступленні ад традыцыйных норм гаворак, выкліканыя ўплывам рускай мовы. У трэцяй частцы пад назвай «Этналінгвістычныя запісы» змешчаны тэматычны падбор тэкстаў, у якіх мовай інфармантаў апісваецца мясцовая рэчаіснасць: быт, праца, адпачынак, абрады, гістарычныя падзеі і іншае. Гэтыя тэксты, як і ў першай частцы, дэманструюць асаблівасці гаворак, акрамя таго, яны паказваюць багатую народную тэрміналогію, звязаную з рознымі этнаграфічнымі рэаліямі.

Пры падрыхтоўцы кнігі паўстала пытанне, як лепш графічна аформіць звязныя тэксты, каб яны, з аднаго боку, дакладна адлюстроўвалі фанетычныя рысы гаворак, а з другога боку, былі даступныя не толькі спецыялісту-філолагу, але і шырокаму колу чытачоў. Была аддадзена перавага спрошчанай транскрыпцыі, якая нескладаная з тэхнічнага пункту гледжання, больш зручная і чытэльная ў

параўнанні з поўнай транскрыпцыяй. Заснавана спрошчаная транскрыпцыя на графіцы сучаснай беларускай літаратурнай мовы і на фанетычным прынцыпе напісання. Некаторыя тлумачэнні да яе:

1. Самастойныя і службовыя словы пішуцца асобна.

2. Выкарыстоўваецца адпаведна правілам арфаграфіі вялікая літара і ставяцца неабходныя знакі прыпынку.

3. Ва ўсіх фанетычных словах абазначаецца месца націску (па тэхнічных прычынах націскны галосны выдзяляецца не надрадковым знакам, а курсівам).

4. Для перадачы на пісьме афрыкат |z|, |ž| ужываюцца дыграфы **дз**, **дж**.

5. Фрыкатыўны гук |γ| абазначаецца літарай **г** (галав*а*, г*у*ліца), а змычны (выбухны) |г| – той жа літарай з дадатковым яе падкрэсліваннем (<u>г</u>ер<u>г</u>ет*а*ць, ні<u>г</u>е<u>г</u>лы).

6. Гук |j| абазначаецца літарай **й** (кр*а*й, м*о*й).

7. Падоўжаныя зычныя абазначаюцца падвойнымі літарамі. Калі падоўжаныя зычныя мяккія, то паміж адпаведнымі літарамі ставіцца мяккі знак (нас*е*ньне, вяс*е*льле).

8. Этымалагічная і асіміляцыйная мяккасць зычных пазначаецца мяккім знакам (п*а*льцы, сьв*е*т).

9. Мяккасць зычных перад галоснымі абазначаецца праз ётаваныя галосныя (вясн*а*, л*ё*н, л*ю*к, к*е*лба).

10. Спалучэнне |j| з |а|, |о|, |у|, |э|, |і| абазначаецца ётавымі галоснымі (*я*ма, па*е*хаў, салаў*і*). Пры раздзельным вымаўленні зычнага і наступных |j| і галоснага пасля мяккага зычнага выкарыстоўваецца **ь**-мяккі знак (ль*е*), пасля цвёрдых – ‘-апостраф (б’*ю*).

Для зручнасці карыстання кожны тэкст мае свой парадкавы нумар.

Усе тэксты пашпартызуюцца: паказваецца прозвішча, узрост інфарманта, месца і год запісу. Зрэдку ў пашпартнай схеме некаторыя звесткі адсутнічаюць па прычыне таго, што яны не былі запісаны, страчаны або інфармант не пажадаў іх апублікавання.

У канцы кнігі прыкладаюцца два дадаткі:

1. Лексічны слоўнік, дзе ў алфавітным парадку прыводзяцца і сцісла тлумачацца словы, пазначаныя ў тэкстах знакам *. Гэта пераважна незразумелыя словы, лексічныя дыялектызмы, сярод якіх значная колькасць паланізмаў. Што да русізмаў, то ўключаць іх у слоўнік не было патрэбы, бо ва ўмовах актыўнага беларуска-рускага білінгвізму, што пануе на Гродзеншчыне і ў Беларусі, іх сэнс зразумелы кожнаму.

2. Фразеалагічны слоўнік – алфавітны спіс і тлумачэнне ўстойлівых выразаў дыялектнага характару, якія ў тэкстах суправаджаюцца знакам **.

# УЗОРЫ ТРАДЫЦЫЙНЫХ ГАВОРАК

## СВІСЛАЦКІ РАЁН

**1.** Вайна была, пагарэлі ўсе. Цяшка было, галадалі. Ціпер во кажуць, што кепскае жыце. Калісь было кепскае жыце. Ціпер жыць можна, кап ні гэта... Пьюць. Мы былі ўсе дзяўчаты. Пяць дзяўчат было. А якое калісьціка што было: ткалі, вязалі, дзерлі, пралі. А я была дзеўкай, і тая, што ў Сьвіслачы, сястра была. Як яна пойдзе, та адзене ўжо мне німа ў чым ісьці. Бо як вясной, плаця панадзяваям, пойдзям. Зімой яна пойдзя, я ў хаце сяжу. Мая мама засталася маладая. Мы ўсё таткам называлі. Я ўсё папа не магу сказаць. А чаму мы так называлі? Татка памёр у сорак сем лет. І я так кажу, усё роўна маёй маме было ляхчэй, чым мне. Я асталася адна, а яна была зь дзецьмі. Ёй мусове* было да дзяцей. Не было калі плакаць: былі і велькія, і малыя. Ля, самая малая – два годзікі было. Адно ты туды йдзі рабі, ты туды йдзі рабі. А я сама ўсё раблю. Хто мне зробіць? Ціпер кепска, німа горшай бяды, як старасьць і гады. Ні аказаца. Упраўлюся, іду ў хату – адныя сьцены. Ужо восем лет, а ні магу прывыкнуць адна. Калі яны прыедуць? Вясна, то на лаўку пойдзеш. А ціпер куды? Ну сусетка з работы прыдзе. Ёй трэба ўправіца, ужо ні пойдзеш да яе пасядзець. Дажа кап прыйшла, прыняла п яна мяне, пасядзелі п. Але ш і на рабоце цэлы дзень, і ў хаце трэба рабіць, і хочаца атдыхнуць. Дажа няма куды пасьці, кап пасьці. А ўсё шчэ жду званка, можа хто пазвоніць. У Сашы отпуск у марце. Тыдзень былі яны. Сяргей зь Ленай і Машай зараз робяць. Я ні паеду. Хто будзе ў хаце што рабіць? У мяне чацьвёра сьвіней. Сашы хутка пядзісят лет. На пеньсію пойдзе – будзем калоць. Будзе ўжо што есьці. Ужо будзе ляхчэй. Усё раўно цяшка вёдра насіць. А не дзяржы нічога, і што?.. Трэба хоць крыху калупацца ш чым. Чалавек стары – як конь: як адымуць аглоблі, дык упадзе. Трэба рабіць, кап хоць крыху падзержывалі аглоблі. Усё можна купіць, а што сваё, кусочак мяса зварыць... Мне трэба ўсё самой рабіць. Віця памагае, прыедзе, мне сечкі нарэжа. Але што, кажды дзень не наезьдзіш, трэба мне самой рабіць. Ля о, рана ўставаць трэба мне. Гэтага двацацілітровага чыгуна на трыбуху* валачы. Мне ніхто ні застаўляя. Гэта я сама сабе работу раблю. Гэта ніцяшка. Кап цяшка было, я п адно парася дзяржала п. Былі маладыя – зусім другое было. Ні сядзелі так у хаце. І да нас хто прыйдзя, і мы хадзілі. І выпівалі на сьвяты. Ні напіваліся так, як ціпер. Вясельлі

былі, каравайніцы. Былі, ля, браты і сёстры. Шлі замуш і пяклі ўжо караваі. Ля, гускі пяклі, гускі рабілі. Ляпілі і малыя, і бальшыя. Хто тады тыя цукеркі кідаў – гускі кідалі. Танцы былі. Калісь і вясельле было інцярасьнейшае. Прыгожа адзенуцца і караваі вязуць. Там ужо музыкаў у хаце. Свой каравай да іх караваяў нясуць. Тады ўжо пьюць. Зранку дахаты прыходзілі. Вясёлае жыця было. І сьпявaласё, і гуляласё. Гэта ціпер скушна. У мяне свацьбы ні было. Сваты прыяжалі, а свацьбы ні было. У сястры старшай была свацьба на Паўла, а я ўжо другога февраля. Хто мне будзе што рабіць, ш чаго было рабіць? Ля, а там, у яго, была свацьба. Мне не было ш чым замуш ісьці. Я як падумаю, што ціпер е і што тады было... Ну што мне. Во, яго маці дала воўну, то сястра старшая, што ў Грынках, выткала дывана. І дала яго маці падушку. Бо гэта ішла, што ў Сьвіслачы, хоць было две падушкі, то і забрала адну. На пяць чалавек, пяць дзяўчатак. Старшая шла – трэба была падушка. І яшчэ пада мною шла – тожа ўзяла. А мне ўжо... Хто рабіў тады так велізна* падушак. Міша з арміі чамадан прывёс, дзесь ішоў з арміі і купіў, ля, дахаты ісьці. То ў той чамадан усё склалі, і с тым замуш пайшла. А ціпер, палянь, колькі ўсяго! Куды іх... Шла адна ўнучка замуш – ёй дала падушкі, другая – ім падавала. Хлопцам падушкі дала. І ў мяне шчэ е. Калісь добра было. І ні сварыліся. Ніхто ні гаварыў, што бедна. А ціпер усё адно трэба за багацтва, кап яго. Нічога багацтва ні трэба. Трэба, кап между сабою добра жылі і адно аднаму ўступалі. О, гэта самае глаўнае багацтва. І кап здароўе было. Я о ш чамаданам пайшла, а ціпер машыну трэба, кап вывесьці гэта. Усё нажываецца.

*С.Ф.Гінч, 1927 г. н.*
*в. Ражкі, 2003 г.*

**2.** Нарадзілася я ў Церахавіч. Падгадавалася. Маці хутка памярла. Сіратой асталася. Тато ажаніўся з другою. Мачаха была кепскаю, міне біла. Ні пусьціла ў школу міне, таму я ніграматна ціпер. Мачыха збыткавала*. Ішчэ па службі хадзіла. Я ў горы жыла заўша*. Вышла замуш, мужык хутка пам'ёр, адна выгадавала дваіх дзяцей, трэцяё памярло. Маладая была – у пана служыла. Пагналі нас у завот рабіць. Там апілкі насіла. Мулячкі* зрэзвала цераз дзьве нядзелькі, так цяшко было. Уставала кожны дзень рано, трэбыло* ўстаць у тры часы, наварыць есьці. Ішла на работу ў пяць часоў. Пагарэлі. Будаваліся.

Лён сеялі, палолі, потым білі, церлі. Кудзялі ткалі. Бывало, то руку зьвіхну, то руку зламаю, гэто ўсё была ў руху баба. Нех яго халерачка** з маім жыцям, успамінаць ні хочацца. Пайшлі ў кал-

хос, там рабіць сілаю застаўлялі. Бо й было, ля, гэдак. Дзяцей адна гадавала, халасьцяцко плаціла, а самой ні было скуль рубля ўзяць. Находзіла вайна, а я ў паноў служыла, перш у Шарая была, потым у Кабыляка. Як вайна пайшла, той паніч па падворку хутко ехаў і ўпаў с каня ў калодзясь. Хутко Міша пам'ёр, сын мой. Ціпер німа с кім жыць. Дачка забрала да сібе. Раней рукі, ногі ламала, бо много рабіла, ціпер баба старая галаву разьбіла. Шшывалі, алі ціпер нічога, жыву ішчэ.

*Е.В.Сушко, 1916 г. н.*
*в. Вялікія Масушыны, 2003 г.*

**3**. Ціпер, дзеткі, трэба вам толькі вучыцца. Гэто ні то, што даўней было. Вось паслухайце міне, як нам жылосе. Была я яшчэ саўсім маладая, як атправіла міне маці ў школу. Я і ў голаў ні брала** гэту навуку. Прахадзіла два года і распісацца ні ўмела. А жысьнь цяшка была. А нас у мацяры на шыі чацьвёра дачок сядзела. Гэтак я школу і пакінула, я з мацярай і старэйшай сястрой пайшлі да пана на работу, картофлі* капаць. Рабілі ажно пакуль сонца ні схаваецца. А саўсім скора пачалася вайна. Мы тады ў Канюхах жылі. Немцы забіралі ўсіх дзяўчат ат пятнаццаці гот, якіх прадаваў солтус* у Германю. Баба мая пайшла да цёткі ў Кусінцы. Немец быў і там. Ён ўладаў хазяйствам, а я рабіла ў німецкага ўпраўляючага, заміш* Германі. Солтус уеўся і заміш міне прадаў у Германю маю сястру, ну а я ўсё рабіла. Як прыйшла савецкая ўласьць, то тыя мацяркі, чыіх дзяцей у Германю забралі, заявілі саветам, што солтус немцам служыў, і яго забралі ў шахты. Ён прабыў там восім гот і там асьлёп, і атправілі яго дахаты. Тут ён і памёр. Я за немцам** і замуш вышла, але маяго мужыка на вайну сразу забралі. Ён міне ў Кавалі забраў і прыказаў, кап я яго ждала і сядзела пры яго бацьках. А сьвякруха сразу хацела паглядзець, ці ўмею я ўсё рабіць. Штаны мне лataваць дала. Я наладавала іх. Бацька і маці міне пахвалілі. У яго ў саміх было пяць чалавек, я – шостая. Яго сёстры былі меншыя заміш міне, і ўсё хазяйства лягло на міне. Бацькі тожа старыя былі. Свае дочкі сьпяць, а як я, нівестка, усё рабі. Дзяржалі дзьве каровы, пару сьвіней, і я ўсё ўпраўляла. Урэмя было цяшко, трэба было ўсё плаціць. Трэба было за трыццаць кілометраў насіць у Ваўкавыск хлеп, сало, масло. Продалі пасьледнё. Трэба было за чатырох плаціць, аддаваць усё. Калі закон гаварыў, мусове* было заплаціць. Потым мой мужык прыйшоў з вайны, і мы ўжо зажылі.

*М.І.Аўсейка, 1927 г. н.*
*в. Гарнастаевічы, 1993 г.*

**4.** Нарадзілася я, дзеткі, тут і ўжэ семсят трэйці рок* тут жыву. Перш я тады была зусім маладая. Жылі мы з мамай і татам у майго дзеда, бацькавага бацька, яго ўсе называлі Вайтахом. У дзедавай хаці, апрача нас, жылі яшчэ два татавы браты ж жанкамі і дзецьмі. Потум мой тато паставіў сваю хатку на выгане, яна ціпер ужэ зусім стала старэнька, развалілася. Перайшлі мы ў сваю хату. Я была найстарэйшая ў мамы, а яшчэ было шасьцёра малочшых: пяцёра братоў і сястра. Як найстарэйшай, мне такі прыйшлосё найцяжэй, трэбо было памагаць мамі гадаваць малочшых, рабіць у хаці, на полі, бо мама наша была хвора, сама рабіць нічого ні магла. Калісьціка жыця было ні тоё, што ціпер. Як успомню, колькі было работы!.. Жалі сярпамі, гараць трэбо было коньмі, і той лён рвалі, трапалі, пралі і ткалі ўзімою. Я хутка стала рабіць усю бапску работу. Нарабілася за жыця, цяшко было, усяго пабачыла. Алі ціпер усё кепскаё забыласё. І скажу вам, дзеткі, хоць і цяшко жылосё, алі ш весялей было калісьці ў вёсцы. Ціпер стало зусім сумно, нідзе ні пачуеш песьні. А калісьціка было много хлопцаў, дзяўчат, у горад ніхто ні ўцякаў. Бывало, як зыдуцца вечарам на танцы, весяло. Узімою дзяўчата зыдуцца на вячаркі с прасьніцамі, с калаўроткамі, разам пралі і песьні сьпявалі. Я натто любіла сьпяваць і галасістай была, як была маладая. Каля нашай хаты была студня, глыбокая такая, аш на трынаццаць катак*. То я, бывало, выйду ўвечары на двор, перагнуся галавою ў студню ды як завяду якую песьню, а эха далёка разносіцца. Учуюць хлопцы на даліні і думаюць, што гэто ўжэ дзяўчата на гарэ пазьбіраліся ды сьпяваюць, і яны ідуць ужэ сюды. Тады я вазьму ды схаваюся, яны абыдуць усю вёску, а дзяўчат так нідзе і німа. Стала і я хадзіць зь дзяўчатамі на вячаркі.

*С.Ю.Шыманчук, 1922 г. н.*
*в. Крапіўніца, 1995 г.*

**5.** Раскажу я вам, як у нас даўнейшая вяселя праходзіло. От прымерно гэто так. Выпраўляюць сьпярша каравайніцаў, у суботу пат вечар выпраўляюць. Гэта каравайніца ходзіць і кланяецца кожнаму ўстрэчанаму. Сваіх запрашае на каравай, а чужых – на вяселя. І каго сустракае, усім кланяецца. Калі праходзіць усіх, то прыходзіць дадому яна. От ужэ вечар. Каравай сьпяклі, шышкі зьляпілі, гатуюцца да вяселя. Завязваюць жыто, гэто робіць маладая. Гэто нейкі прызнак для добрага жыцьця. Прывядуць такога стагасту. Ён піша ўсёй пасах. Сьвякроўка, бацько, маці распытваюць пра пасах. Пытаюць чым пабольш поля, балота, карову, авечку, курэй. Запішуць гэты пасах, зацьвярдзяць. А зацьвярдзяць то як? На гэту

бумагу ложаць усе рукі: і друшкі, і маладыя, і бацькі, і ўсе вясельнікі. Пасьля гэтаго ўсяго сьвякруха дае пат стол і гаворыць: «На табе, нявестка, сыра, кап ты любіла майго сына, і даю табе пат стол, кап мой сын у цябе ні быў пастол*, а быў паважаным гаспадаром». А як выпіваюць першу чарку, то сьвякроў паложыць нявесткі ў чарку грошы. Ужэ нявесткі ні трэба гэту чарку выпіваць. Яна вылівае гарэлку на платочак, грошы забірае і беражэ ўсё раўно як шчасьце. Во такі закон. На гэтым заручыны кончыліся. Патом прыходзяць дружбанты. Гэто ўжэ называяцца зь вянком прышлі. Старшы дружбант прыносіць вянок, такі ён з руты. І маладая ў валасы ўплятая гэты вянок. А на свадзьбі вянок ушывая ў сваю падушку, на каторай сьпіць. А малочшы дружбант прыносіць касу, гэта такі пірох. Маладая павінна разьдзяліць. А малады прыносіць маладой панчошкі, чаравічкі. Пад вянец яна так пойдзя. Гэто ў суботу, цераз ноч будзя нядзеля. Будуць наражаць маладую. Дзяўчаты будуць банцікі павязваць. Гэдак у суботу праходзілі заручыны, а ў нядзелю маладая паедзя да маладога.

*В.М.Ярош, 1921 г. н.*
*в. Дабраволя, 1993 г.*

**6.** Жызьня ў нас была ні такая, як ціпер. Цяжэй было. Кончыла я толькі пяць класаў. Тады на ціф захварэла, гот прапусьціла і больш у школу ні пашла. Школа наша была ў старым панскім маёнтку. Учылась я слаба, мацімаціку саўсім ледве цягнула. Пашла рабіць у бальніцу саніт аркай. Бальніца тады за рэкаю была. Цяшко было, алі спраўлялася. Рабіла нараўне са ўсімі. У мамы нас было двое: ішчэ мой брат. Алі ён разумнейшы быў, два іньсьцітута коньчыў. Дзеўкай я малая была, та ўбіла сабе ў голаву, што нікрасіва. Хлопцаў ні мела. Як са сваім пазнакомілась, та натта ш мне валасы яго панаравіліс ь. Ён высокі такі, красівы, алі ні любіў ён міне. Ажаніўся, абы толькі было каму наварыць і памыць. Церас тры года першае дзіцятка знайшлося. Дзікрэтаў тады ні было. У хаці ні сядзела, рабіла. Посьля ішчэ двое дзетак нарадзіла. Алі жылі мы зь ім біз росьпісі. Толькі патом расьпісаліся. Ніхто вяселя ні рабіў. Мама анна была, папу на вайне забілі. Будаваліся мы зь ім, як дзеткі малыя былі. Цяшко было, алі нічога, спраўлялася. Патом у інтарнаці рабіла, дзяцей гадавала. Свайго старшага сына пахавала. Малады саўсім быў, двое малых дзетак і жонку маладую пакінуў, алі й гэта гора піражыла. Патом маму пахавала і мужыка. Ціпер анна, на пеньсіі. Памагаю ўнукаў гадаваць, ба грашыма ні вельміся магу.

*Е.М.Крэўчык, 1928 г. н.*
*в. Ранявічы, 1996 г.*

**7.** Прышлі немцы, а я якрас авец гнала. А яны пасталі пасярэдзіні дарогі і давай авец лічыць. Ну усё, думаю, забяруць. Анум* нічого. Патом па хатах пачалі хадзіць. Анно парася аддалі, патом другоя, патом цялушку. Людзі іх ні баяліся, ніхто зь вёскі ні ўцякаў. Нікаторыя ім нічого ні давалі. Зарас і канец вайны быў. Рускія ішлі з гарадоў. Спачатку мы іх кармілі, а патом надаело, бо много натто было іх. Як немцы атходзілі, то вёска ні гарэла. Хацелі патпальваць, але людзі насілі яйка, сало, то ні патпалілі. Нікаторых зачынілі ў гумно, кап с сабою ўзяць, але паўцякалі. Кап ні ўцяклі, то павязьлі п. Мы ў акопах сядзелі. Страляніны ні было. Тангаў німецкіх цэла вёска была. Анно як пераскакалі церас вёску рускія на двух здохлых коніках, то ўсе тангі згінулі, як і ні было. Прыбегла наша Гэля. «Вы, – кажа, – сядзіце, паляньця, што робіцца». Я вылязла і пайшла. Лесам тангі пайшлі. А нашы прыехалі на здохлых коніках, а тангі велькія ўцяклі. Скаціна ўся была ў лесі. У нідзелю ўжэ і коняй прывялі, і кароў. А да міне ў хату прышоў камандзір рускі. На сталє ляжалі «Жыце работніка в раю большэвіцкім». Там былі анікдоты. То ён узяў, пачытаў, пачытаў і пайшоў сабе. А я адразу ўсе якія былі – у печ, у печ. Страшно было. Я баялася, кап ні палес на гару*, бо там много гэтаго было.

Ні давалі жыць. Норму далі вельку. Прышлі гэтыя вызвалііцелі, як налажылі падат*, то той ні знаў, як пазбавіцца ад зямлі. Як прышлі, усё асвабадзілі то асвабадзілі. І падат велькі, і норма. О-о-о! Але й тады былі людзі хітрыя, усяк круціліся. Сілаю зганялі ў калхос. Такарчына забралі, а посьля запісаўся. Што было ў каго намалочано, забралі ўсё да крышкі**. А ціпер, ля, голу землю прадаюць. Усё пражылося, хай Бух крэя**.

*В.Г.Івіна, 1910 г. н.*
*в. Шурычы, 1996 г.*

**8.** Каліcь у мясает усюды сваты былі. Ано ў цэркві ўбачаць, есьлі патхадзяшча дзеўка, на людзях пытаюца пра дзеўчыну, а тады едуць у сваты. Там запіваюць яе, абвязваюць рушнікамі сватоў, а як яна ўжо ні хоча ісьці за яго, то павінь адвясьці рушнікі назат. А каторы і ні адвозілі. У нашай Люпкі за мясает дзевяць сватоў было. Бацько меў грошай много. Усім атказвала. А потым прыехаў адзін, за яго сагласіласа і пайшла. Ні бачыла ні разу дагэтуль. А ў вайну яго на яе вачах растралялі. Вянчаліса ў цэркві. Ніякой росьпісі ні было. Павянчаюцо і вяселе робяць. Усіх абвязвалі рушнікамі: чашнікаў*, сватоў, свахаў. Перат вяселем пякуць адзін бальшой каравай. Каравайніцы яго гібаюць*, складаюць у каравай і пякуць. Тады

выразаюць траяк зь дзерава, апкручваюць цестам і садзяць у печ. Калі ён сьпячэцца, вымаюць і ставяць на каравай. Выносяць у камору, накрываюць толькі чырвонай шаліноўкай с кутасамі. Перат дары* яго выносяць каравайніцы. Музыкант грае, і нясуць каравай, праці маладых ставяць. Када пачынаюць дарыць, сват з нажом рэжа па кусочку і дае ўсім, хто е на вяселі. І сыра кусок. Квашаніны навараць, мяса, гуркі, капусты. У каго, бывая, булкі і шышкі дзецям пяклі. Музыкант дзеравенскі граў. Танцавалі ў хатах, патом дарылі. Дарылі хто рушніка, хто кусок кужалю, хто сіццу кусочак, хто гавечку, хто парася, хто што. Хто палоску зямлі, у каго больш зямлі было. Маладую адвядуць туды, да яго, і тады людзі расходзяцца.

Вёска наша Немяржанка, была яна ў глыбокай пушчы. Сем хат там было. Вакрух лес і рэчка. Бялізну палакалі ў рэццы, купаліса і карову паілі ў рэццы. Хата ў нас была дзеравяна, печ стаяла с гліны. Трох дзеці спалі на пеццы, а бацькі – на запеку. Елі бульву*, квас*. У пост усе посьцілі, толькі елі капусту, печану бульву ў лупінах, сушоны грыбы. У пушчы было много грыбоў. Сушылі ў пеццы, потым адварвалі, атцэжвалі, палівалі лукам і посным маслам. Насеня таўклі ў ступцы, пасыпалі картошку. Сала, жыру брынь Божа** ні елі ў пост. Адзявалі кажуха, пасталы* зімой, летам – босы. Цэлу зіму ў пастоліках хадзілі. Кажухі, ватоўкі – якое там адзеня. А дзеці ўсе ў башмаках. А адзежу ўсю с кужалі шылі. Толькі на выхадны мелі крамнае*, кап у цэркаў ісьці. Якія людзі былі? Каторы добры, каторы кепскі – усякі былі. Быў у нас у вёсцы Калстэнты – вядзьмар. Мог зрабіць чалавеку. Як каму паляне, хто лепш жыў, пагаворыць, што і ні будзе. У нас дзьве каровы было. Яму ні панравіласё, пагаварыў – і забралі. Трэбо было мяне лячыць, захварэла я. Даў мне гэты дзяцько брушкі, і нага нарывамі пашла. Бацько хадзіў да варажэя* ў Пружанскі раён, і варажэй сказаў, хто што зрабіў, напісаў запіску, пусьціў у вядро ў воду. Запіска дайшла да палавіны вядра і стала. Сказаў той дзет, што будзе жыць дзіця, але папалечыш ты яго. Вышло нарывамі. Парылі ў крапіве сухой па голаву. Выцяклі нарывы і загоіласа. Када ён убачыў, што я ўжэ здарова і ні памру, яму гэта кепско было, і ён тады задумаў другое. У нядзелю раніцай прышоў да нас дахаты. Папытаў пра бацька і вышаў. А потым маці нашла на лошку пятнаццаць грошы, але нічога ні падумала. А тут па вёсцы ішлі цыганы, і адна цыганка за дзесяць яек папрасілася пагадаць. Сказала: і штосьці пакінуў. Тады мама – пра грошы. Цыганка сказала, што гэта напушчана порча на старэйшае дзіця, і сказала маме, кап яна грошы вечарам кінула на падворак таму чалавеку. Мама так і зрабі-

ла. А ўначы Калстэнты пастукаў да нас у шыбу і спытаў у бацькі, куды ён вазіў мяне, калі я была хворая. Але ён ні ўсьпеў сваю старэйшую дочку нікуды давясьці, пат раніцу яна памерла.

*Я.К.Гутар, 1929 г. н.*
*в. Званкі, 1996 г.*

**9.** Рас ідзем мы с сусеткай увечары дадому, я нясу прасьніцу пад рукою. Прыйшлі мы ужэ на выган, а ноч была зорная, ціхая. Аж бачу, на гарэ, дзе ціпер крыш стаіць, стаіць баран белы, на нас узіраецца. Мы сталі, стаім, і ён стаіць і ўсё паглядая. Як узяў нас страх, думалі, што нічыста сіла гэто нас заступіла*. Ды давай мы зь ёю ўцякаць, што было духу. Бяжым, а здаецца, што і той баран за намі бяжыць і вось-вось ухопіць катору. Ну ш і страху было нам у той вечар. А йшчэ адзін рас пайшлі мы сь сястрой жыто жаць. Тады яшчэ было адзіналічаство*. Наша палоска была за рэкай. Жалі мы цалюткі дзень, а пакуль снапы ў бапкі пастаўлялі, то ўжэ быў добры сутонак. Ну ідзем мы дадому, падыйшлі да рэкі, хацелі памыцца, кап у хаці адразу лехчы спаць, бо натто замучыліся за дзень. Тут бачым ад вёскі да рэкі ідзе солтысіха*, наша сусетка, солтыс* жыў крас дзьве хаты ад нас. Нясе яна на плячэ бяльё паласкаць. Падыйшла яна да берага, скінула ў рэку бяльё, а тады і сама шусь у ваду. Вада булькая, б'ецца ў беразі, а кругом цішыня. Мы глядзім і вачам сваім ні верым. Тут ужэ і мыцца німа як. Трэбо бехчы хучэй у вёску, расказаць, што мы тут бачылі. Сястра пабегла дадому, а я – да солтыса, сказаць трэбо, што жонка ўтапілася. Ну заходжу я, атчыняю дзьверы, а ў хаці сама салтысіха дрэўчыны* ў трыножак паткладае. Узіраюся я на яе і не ведаю, што мне казаць. Можа я ні пазнала. Кап я была тады анна, то і праўда падумала п, што ні пазнала тае бабы каля рэкі, алі ш і Мальвіна бачыла солтысіху. А што гэто было? Я й сёньні ні ведаю, каго мы бачылі. У той дзень у нашай вёсцы ніхто ні ўтапіўся.

*С.Ю.Шыманчук, 1922 г. н.*
*в. Крапіўніца, 1995 г.*

## ВАЎКАВЫСКІ РАЁН

**10.** Маё жыцё такое. Я ў дзевяць гадоў засталася бес мамы й таты. Мама памерла ў марцы* ў саракавым годзе, а тато потым прас гот. Потым была адна, і ў міне была цётка і яна перайшла ў мой драхлы дом. Яе мужык тожа ваяваў на фронці. У яе было двоя дзетак. А так, ну што я раскажу... Плацілі ўсяго чатыры рубля, што

тато забілі на фронці, што я сабе не магла купіць чулкі. То ягат назьбіраем, нясем у Валкавыск прадаваць. Як падрасла, пайшла ў ваенкамат. Ну і сказалі мне, што работы німа. Я была слабенька. Быў такі Маліноўскі. Ён кажа мне: «Куды ты лезяш, дзіця?» А далей ваенком даў работу ў дзецкум садзіку нянячкай, Дубінка направіў міне. Потым пайшла рабіць у бальніцу, гады два санітаркаю, а ўжо потым забралі на кухню поварам. Сь підзісят другого года пачала рабіць. Прарабіла ні ведаю скоко гот і пайшла замуш. Мужык сам з Дабраволі, рабіў у бальніцы, так і пазнаёміліся. Само глаўно ў вайну было. Картошкі было многа пасажана. І йшчэ цётка запрагае каня, і мы сядзям на павоску, ну і едзям па полі. Прыедзям туды, ну й ужэ стаў марос. Возьмя бутылку малака і картошкі паесьці, і так от у школу стану хадзіць... Цяшко было вучыцца. Хадзіла, укрывалася каля дрэў, рэчак, зямлянкі рылі і так хаваліся. Ну й шчэ, прачынаюсь рано, нідзе нікого німа, і стала плакаць, што мамы с таткам німа. Нідалёка хтосьціка клякоча: красныя прыйшлі. У бацькоў я была адна. Ішло нашо войско, салдат ранены міне ўгасьціў канфетай. Ну й я яшчэ думаю: «Аткуль у салдата ў той час шчэ канфеты былі?» Летам во хадзіла жаць сь цёткай, на полі ўбіралі. Пот руччом ліў. Хацелі міне ў антарнат забраць, алі цётка ні аддала. Ну што я магу сказаць? Цётку ш ежжу, даглядаю. Яна йшчэ жыве, сьціраю, купляю, важу ўсё. Пачалі з мужыком строіцца. Ні грашамі – сілаю. Я сірата ш. У міне нікога ні было. Прарабіла ўсю жызьню і ў бальніцэ, і ў калхозі. А я нічога ні маю с той пэнсіі. А так абідна і шкада... Людзі якіясь ільготы палучаюць і пэнсіі большыя. А я пачці нічога. Цёццы пат дзівяносты гот. Дзеткі яе паўміралі. Такая ў міне цяшка доля... От як мне было цяшко, дзіця. Ніхто ні ведае, што я пераажыла. Цяпер дачка Лена ёсьць сь сям'ёй і сын Юрак, у Сьвіслачы тожа жыве, мае двоя дзетак. Дзяржаць парасяты, куры. У нас у вайну і сьвіня, і конь, і Зорка жыла. Мама то ў бальніцы ляжала ў Багудзенках. Пшаніцу мыла ў калодзежы, захварэла, і мне толькі грэбень ад яе перадалі. Людзі зналі, што яна памрэ. Ну такого што ў міне пераажытку хапіла, і мужык памёр, сем лет прайшло. Підзісят шэсьць гадоў было яму. Тут, у Сьвіслачы, пахаваны. На магілкі хажу, праведваю ўсіх сваіх, знаёмых, што пасьля вайны жылі. Ну а ціпер з дочкай жыву, пака ніплохо. Каб даў Бох, дзеці былі здаровыя, алі байкі*, пакуль што добро ўсё. Ой, цяшко ўсё ўспамінаць... Тут жыла адна баба, алі паехала да сына. Ну, у вёсцы ёсьць мае равесьніцы і дзеці гадуюць. Як у міне нікого ні было, то думала, як у магазін пайсьці, хлеба, малака купіць. Сама ні даядала, ат, с тою бульбаю. Вось так цяшко было. Алі ўжэ, мусіць, тут нікого німа. Цётка ў бальніцы,

гавораць, яна ўжэ забывая, ні помніць. А ціпер печкі дымяць у вёсцы маёй, ніхто на іх ні глядзіць. Пасьцель забяру зь вёскі, тут памыю ў гарачай вадзе... Цётка кажа: «Што я рабіла п, каб ні ты...» Ішчэ помню немцаў... Парцізаны прывалакліся... Век пат страхам жылі. Парцізаны выцягнулі кабана, есьці то трэба было штосьці. Натто мама баялася, кап тату ні забілі. Нараніцу прыехалі немцы і гергечуць* на матку: «Дзе сьвіня?» У вёсцы нашуй жанчына была прас гароччык, і немцы гэтыя недапетыя забілі яе. А ў яе грудзі разьняло ат пуль. У Хілімонаўцах немцы на гары забілі сям'ю ш шасьці чалавек. Ляжалі ўсе мёртвыя. Ну і я бачыла, стралялі з гэтых дырындаў... Тату яны хацелі забіць, алі чо-то праняло. Церас дарогу шчэ жыла адна баба, хацелі патпаліць хату. Бабы пайшлі зьбіраць яйкі. Помню, як у Скраблы ішлі, баяліся, была там, хавалася і я, і людзі, то бацька былі маёй сястры забралі. Ну мусі ўсё сказала, што помню. Зарас ні будзя ат каго пісаць і зьбіраць гэто ўсё пра нашо жыцё, паўміраюць усе. Я от гэты Дзень Пабеды, людзі весяляцца, сьмяюцца... А я кожан рас плачу, бо ў міне нікого німа. Кап хоць былі ці брат, ці сястра, а то ш нікого німа. Па радзіві чула, што гэтыя вецяраны вайны будуць ільготы палучаць, алі калі гэто будзя. Людзям помачы дзе-то скуль, а гэто чорт ведае што. Калісь паткалоткі навараць і ядуць. А помню ішчэ, пойдзям у гароччык граткі палоць. А цётка хлеп пячэ, і смашно было. Рас прыехалі немцы, а я бегла і ат страху ўпала, і нос моцно пабіла, што і па сёньняшні дзень ён мне ў гэтым месцы баліць. Я ж зь Вялікага Сяла ў Сьвіслач пяшком ішла ўсё ўрэмя, а ціпер маладыя ш ні пойдуць. Ціпер пачці ўсе маладыя хварэюць. Алі мо дасьць Бох палепшае трохі ў нашым сьвеце. Старыя ляжаць у бальніцах ужэ зусім чамарашныя*. Зарас нікого ні будзя з нашых, паўміраюць усе. Як цяшко ўспамінаць жыцё!.. Адразу плакаць хочацца, нат ужэ ўспомніць усё ні магу. Вось расказала, што само глаўно было, што трохі помню... От такоя маё было жыцё...

*В.І.Чурык, 1934 г. н.*
*в. Вялікае Сяло, 1998 г.*

**11.** Цяшко расказваць. Жылі цяшко мы. Былі малыя. Пачалася вайна. Прыйшоў немец. Маці нас у каноплі хавала. А было нас шасьцёх. Маці нас нікому ні атдала, дзякуй Богу. Маленькія хадзілі капаць, рабілі ўсё, бо дарэмнага хлеба ні было. Прыходзіў немец, патрабаваў есьці. Адзін рас даў нам канфет, а мы іх кінулі ў ламату*. Як тато ішоў на вайну, то купіў нам кілё сахеру. Якое гэто жыце. Маці казала: «Ешце, дзеткі, сырую бульбу і благадарэце Бога, што яна ёсьць». Былі голыя і босыя. Ткалі, сукенка была ткана. А

ў школу ні было калі хадзіць. Няма калі сядаць за кнігу, а трэба сядаць і прасьці кудзелю. Учэнікоў было шмат, кніга адна на ўвесь клас – «Роднае слова». Усё сяло чытало, а цятрадзі с цэментовай бумагі, с аднаго краю – арыфметыка, а с другого – пісьмо. Вучыцель быў с Ваўкавыска. Звалі Барыс Ільіч. Усе ўставалі і енчылі: «Добры дзень!» А калі немцы прыяжджалі ўначы, то ўсе ўцякалі, бо баяліся, што будуць рэзаць. А яны, ліхо ім, культурныя былі, чыстыя. Нават адзін казаў аднаго разу матцы: «Матка, бяры кіндэра* і ўцякай». Усе ў нас у хаце дзяліліся пасьледнім куском. А цяпер адна растапырыцца і жарэ. Я была самая старэйшая, то мне цяжэй прыходзілася. То па грыбы хадзілі, то па ягады, кап неяк маці дапамагчы, кап дзеці малыя галодныя ні былі, кап ні пухлі з голаду. Тато памёр у тысяча дзівятсот сорак сёмым годзе. А потым усе паразьляталіса. У кожнага сваё жыцьцё стало. Раней дружылі, адзін аднаго запрашалі ў хату. Выйшла замуш пасьля. Ніўдачно. Усё жыцьцё прамучылася, бо горла заліваў**, па гаспадарцы нічога ні хацеў рабіць. А ў мяне трох дзяцей было: Саша, Наташа, Аня. Я нават хату сама будавала, цягала бярвеньні зь лесу на кані. На фермі рабіла, цялят карміла. Работа цяшкая, ні ляжачая, аж рукі, дзеткі, пакруціла. Сьвіней пасьвілі дзеці. Саша па хаці мне памагаў. Ён быў маленькі, а тут сьвіня апарасіласа, то ён іх апціраў, у анучы ўкутваў, а пасьля на ферму прыбех, енчыць: «Мамо, хутчэй дадому бяжы!» Увесь спалоханы, а мне сьмешно. Хадзілі ў школу ў Зарудаўя. Дарога далёкая была, а зімой ажно ў сугробы падалі, еле ногі цягнулі, але ж нічога, здаровыя былі. Прыдуць, капусты, бульбы пад'ядуць, і добра, ружовыя ўсе. І хваробы ні ўвязваліса. Так і жылі. Потым дзеці павырасталі, ажаніліса, сваіх дзяцей нарадзілі. Мне ўнукаў, усіх разам шасьцёх. Але ж рэтка да мяне прыходзяць: то аўтобуса няма, то няма калі. І дзеці ўсе нешта крыўдуюць: і Саша злуе, і Наташа злуе, адно яшчэ Аня трымаецца. Як захварэла, то нікому патрэбнай ні стала. Але ж я не злую, хочацца яшчэ пажыць, дзет памёр тожа ат хваробы. Апошнія месяцы ўжо нават ні ўставаў і ні еў. А пасьля памёр. Усе жывуць здаровыя, дзякуй Богу. Усё добра мне хочацца каб было. Суседзі добрыя ў мяне. Во я хадзіць ні магу, зрабіць сабе пад'есьці ні магу, то прыходзяць, прынясуць мне міску супу ці кусок якое булкі. Раней я і сама, дзеткі, магла сьпячы, цяпер ужо рукі ні тыя, ні слухаюцца, старыя сталі. Але ж дзякуй Богу дажыла і да праўнукаў: Юлька, Даніл, Ягорык. Дзеці – гэта добра, але ж іх цяшко гадаваць, але вось гляджу на іх, то аж з вачэй вада ільецца. Але ж мы ўжо сваё аджылі. Хай дзеткі жывуць, калісьці вырастуць, будуць мець сваіх

дзяцей, тыя будуць малыя, енчыць, плакаць. *А*ле мы ўжо гэтага не пабачым, бо памрэм. Прайшло жыцьцё, але па праўдзе кажучы, нічога добрага ні было. Жыла і мучыласа ўсё на гэтым. Зарас скурчымса, хоць добрым словам, можа, дзеці памянуць.

*М.С.Хамлюк, 1937 г. н.*
*в. Калядзічы, 2003 г.*

**12.** Нас у сям'*і* было трох. *Я*, сястра ды брат. Браток быў самы старэйшы з нас, яго яшчэ ў першу вайну забралі, катавалі. Бацьке, праўда, слалі пасылкі. Калісь ноччу сьпімо, чуем стук у вакно. Збудзілі нас сярод ночы. Бацькоў забралі – прас тры дн*і* вярнуліся. Мой мужык жыў у Пуцілі. Бацька яго быў фэйчарам*. Было васьмёра дзяцей. Праўда, хлеба мелі, каня харошага й брычку да касьцёла зьегджаць. Мацяра кажа яму, каб жаніўся. Але ў той год жалоба была: бацька ўмёр. А сяроўна* броў, бо застаўся з мачахай, а мачаха пайшла замуш. Мужык умеў гараць ды касіць. Калі прыйшоў немец, у той год добра картофля ўрадзіла. Немцы хадзілі па гародах. Ножыкам прарэжуць і ґірґічуць, што крухмалу шмат, а ноччу паршукоў бралі. Тафіля мая ладная ўжо была. Яна й малотшых глядзела. Добра помац ад яе была. Замуш пайшла рана: на васямнаццаць пахілілася. А сын *А*нтак вывучыўся, дарэктарам школы стаў. Вучыцельку ўзёў. *Я* яе адразу панаравіла. Здатненькая такая Воля была. Така во дзяўчук. *А*нтак ужо восім гадоў у земл*і* ляжыць. Воля даглядае. Але, як людзі кажуць, нявестка ні дачка, сьвякруха ні маці. Прышлі зь Вінцусём. Стукаюць у дзьверы. А *я* зь вячоркаў прышла. Пачал*і* стукаць. *Я* ж думала: вярнуўсь мой брат, дый кажу, што кал*і* звала, ты не шоў. А гэта был*і* сваты. А *я* ў адной сарочцы. Плачу. Потым брата прывял*і* і сталі так*і*я за паны. Дзеўкі сьпявалі сіроцкія песьні, а *я*, сіротка, плакала, бо каму *я* была патрэбна. Аля ўсе зав*і*давалі, бо йшла ў багатую сям'*ю*. Ах Божа, як*і* мой замуж быў! На Пятра ў абет прыехаў малады з дружбантамі, зашл*і* ў хату, прывіталіся, пасадз*і*ліся за стол, па тры румачкі выпілі. Маладая і малады пацяры згаварылі і на вазах па пару коней, коні ўбраныя, паехалі да касьцёла. Шлюб бралі багаты, усюды гарэлі сьвечкі, бо ён багаты быў на ўсю вёску. Людзі зав*і*давалі, а жыця мае было марнае. Трынаццаць лет жыл*і* з братам, залоўкаю, дзяцьм*і* вмесьце. У сям'*і* было так: пайду за хлеў, паплачу, паплачу, утру рукавом сьлёзы, каб мужык ні бачыў. Пакуль сам ні ўбачыў, як за сталом абдзяліла міне яго маці. *Ё*н запытаў пра маю порцыю. *Я* заплакала і адышла ат стала. А ён як к*і*не сваю м*і*ску, гаворачы, што німа маёй жонцы – ні трэбо і яму. Потым, як аддзял*і*ліс*ь*, было ляхчэй, аля гора пазналі.

*Н.М.Зарыхта, 1884 г. н.*
*в. Плябанаўцы, 1989 г.*

**13.** А што табе расказаць, мая ты харошая? Пра моладасьць. А колькі яе было, той моладасьці? Рана я замуш выскачыла. Толькі сямнаццаць гаткоў стукнула, як пайшла пад вянец. Маладая была, дурная... Дужа дзет наш файны быў. Зачакай, я табе яго фотку пакажу. Бачыш? Ля, які статны, вочы, як вуглі, сьвецяцца. Кучаравы, што баран, валасы чорныя, як смоль. За ім жа ўсе дзеўкі падалі. А я дзеўка тожа нічога была. Татка мой праціў быў. Кажа: «За голага йдзеш, нішчанкай будзеш». Але ш сьмірыўся, ён мяне больш ад усіх любіў. Бывала, паедзе на горат, прадасьць што і вязе гасьцінцы. Другім не вёс, а мне то цукерку, як малая была, то лялькү. Помню, купіў файную такую: вочы заплюшчваліся й «мама» гаварыла. А стала я дзеўкаю, а я адная ў сям'і дзеўкаю была, лепш са ўсіх у патсобным выдзявалася. Тут ля й прымеціў мяне мой Фэля. Дужа гарная мы пара былі. Я ш, можа, нічога была. Круціла трохі хлопцам галаву. А я ўклюпалася ў аднаго і ўсё. Браты мае колькі яго білі, не хацелі яго. Голь, казалі. Натто моцна не любіў яго брат мой старэйшы, Боляк. Але ш татка ўсіх прыструніў. Я ж дачка, адная і любімая. Ён і пасах мне добры даў: карову сь целям, авец, дабра ўсякага. Фэля ж мой гол як сакол быў. От як было, харошая мая. Пытаеш, ці шчасьлівая была? А хто ш яго зная. Да вайны мы мала й пажылі. Пайшоў на вайну, мяне с трыма малымі пакінуў. Адное толькі нарадзілася было. Яно й памерла прас тры месяцы... Ох! Колькі мы ўсе пеpaжылі ў вайну!.. Трудна й ўспамінаць. Та й не будзем, дзетка, балюча мне... Я табе ляпей раскажу, як мы зь дзедам далей жылі. Ты ш гэта пытала ў мяне. Дзет на вайне некалькі рас паранены быў, алі вярнуўся жывы, здаровы. Пасьля вайны твая мама радзілася, Ромка, Марусь зДанусяю, яны блізьняткі былі. А Фэля мой дзяцей нарабіў ды пат старасьць лет на заропкі падаўся. На цэліну паехаў. Потым і дзяцей туды пазманьваў. Галіна мая там і засталася, замуш выйшла, дзяцей напладзіла ды памерла. Я старая й то дачку пеpaжыла... Хай зямля ей пухам будзе... І муш хутка памёр. Цяшка было адной дзяцей гадаваць. А брынь Божа** вас, дзеткі, ат такой долі.

*В.І.Багдановіч, 1917 г. н.*
*в. Гнезна, 1992 г.*

**14.** От ціперака мы картоплю капаем – шасят мяхоў, і ўсё мала. А за панамі што было. Была ў нашым сяле така Марылька, у пані працавала. Да быў яе гароччык. Што там расло? Нічога. Картопля. Рас восеню накапала яна вядро картоплі, та й то крычала: «Божа, дзе я яе столькі падзену?» Вось які час быў. А нам усё мала. Я тады малы быў, пяцёра нас у маці было. Помню, як у школу пашоў, па-

шоў я за палякамі, а кончыў пры саветах. Та я вучыўса восем гот, а нікаторыя дванаццаць. І ні за таго, што кепска вучыліса. Спачатку нас па-польску вучылі, а як прышлі саветы, дык усіх у адзін клас і запіхнулі. Мы ш рускай мовы ні ведалі. От такое жыцё было.

*Д.І.Адамовіч, 1920 г. н.*
*в. Бердзікі, 1996 г.*

**15.** Мой бацька быў самы старшы. Яго бацька (мой дзет) рана памёр. Уся работа на яго. Рабіў зямлю. Да таго навучыўся калёсы рабіць. Зямлі німного было, мусялі зарабляць. Тады што, аддаў адну сястру замуш, тады другую. Трэбало* вяселё зрабіць. Трэбало карову ў пасазе даць. Пошля сам жаніўся. Пяцёра дзяцей было. Адно ўмярло, мусі, з восім месяцаў было. Цяшко было. Пошля адзялілі. Хату строіў, хата была малая, ні было дзе жыць. Зрабілі прыстройку і жылі апрыч*, толькі пад аднаею стрэхай. Пошля аднога брата спаралізавало. Другі па п'яні ў петлі зайцавы ўлес, ногі адנялі, зрабілі пратэзы. Наўчыўся за краўца, шыў харашо. Па хазяйству мусяў памагаць старшы. Свая сям'я стала падрастаць. Зямлі мало было. Дзяржалі кароў, сьвіня, быў конь. Калі прададуць, калі купяць. Сваго ні пракармілі п. Трэбало купляць і карміць. Ат сваго дзеда наўчыўся рабіць калёса. Езьдзіў у лес, купляў мацяр'ял, тачыў калоткі. Такая такарня на ногу. Расцом выробляў калоткі. Тады што? Шпіцы перш апчэсваў, тады стругаў. Усё рабіў уручную, на таком слоні*, дзе стругаць шпіцы да каляса. З дубу шпіцы былі, з беразіны. Як дылі* на званчакі* апчэсваў сякерай, а потум выпілоўваў званчакі ручною пілкай. А баба паліла печ два разы на дзень, сушылі ўсей мацяр'ял у печы. Рас выкідалі, пошля зноў. Бацька ўсё рабіў. Першы сон пtriерасьпіць і зноў устае. У слон* засаджваў дзераво, з аднаго боку дзераво, з другого вяроўка, і ўручную пілаваў. Сані рабіў. Ціпер мэблямі застаўляюць хату, а раней – лава на ўсю хату, слон* і маленькія слончыкі сядаць. Як абет, стаўлялі велькаго столка* каля стала, усім маленькія столачкі. Пасядзямо і ямо. Міскі гліняныя, чорныя, лошкі дзеравяныя. А мамін дзет рабіў лошкі* дзеравяныя, верацёна тачыў. Баба прала на калаўротку, а дзеці на верацёнах пралі. Дзет сані рабіў, загатоўліваў мацяр'ял. З дубу палазы вычэсваў. Езьдзілі на вываску, на базар вазіў у Ваўкавыск дваццаць другого, Рось – дзісятаго, Зэльва – трэцяго чысла. З базара збожо прывозіў. Што за грошы продаў, грошы ўсе пушчаў на пражыцё. Хоць было мало зямлі, але біс хлеба ні былі дзеці, ні галадалі й самі, хватало ўсяго. Рабілі ат сьцямна да сьцямна. Як біс працы, німа каляцы. Як зачалася вайна, дзеці сталі рабіць. Старшы за камяншчыка, пры ём астатнія

навучыліся. Пасьля вайны зрабілі хату вельку, пол, тры комнаты. Дзеці паўрасталі, усе тожа страіцялямі сталі. Ціперака ўсе ў Польшчы. Старшы мая сваю гаспадарку, пілараму, стальмашню, мельніцу, памятнікі робіць. Усе хаты сабе зрабілі. Усе выяхалі тады, а нас з Гэляю ні пусьцілі, граніцу закрылі. Ціперака тут жывем.

Раней на папрадухі** хадзілі. Маладыя дзяўчаты зьбіраліся, хто рукавіцы рабіў, хто шкарпэткі. Пасядзям накруга хаты дзяўчат зь дзесяць. Пасярэдзіні лямпу на дроці вешалі, і ўсім было відно. Пошля хлопцы зьбіраліся на вечарынкі. Сьпявалі. Пошля на прагулку бегалі, та настрашым дзе каго, пасьмяемся, пагуляям. Тады ізноў ідзеш у хату, далей прадзем. І так кажны дзень пераходзілі ад аднаго да другога з работамі. А ў нядзелю да касьцёла хадзілі. Да новага року* мы пралі, а пошля ткалі. Цэлы пост ткалі, да Вяліканьня. А ўжо вясною, перад лето, кужалі бялілі, мачылі ў рэццы, слалі на балоці, на сонцы сушылі. Пошля зноў мачылі і шморгалі па жарстве. Тады пранікам перылі і паласкалі. Ціперака парашкі ўсякія, а раней лух варылі. Як лух варылі? Кіпіць вада, а ў яе сыпалі попял з дроў. Тады вада рабілася мулкай, сьліскай. У ёй і мачылі. Мачылі нанач, а днём сонцо выпякало. Зробіцца харошо. Тады ў сваю скручвалі, складалі ў куфар. Пошля ткалі мяшкі, посьцілкі, рушнікі – усё было свае работы.

*І.І.Кавалевіч, 1928 г. н.*
*в. Мацвееўцы, 1993 г.*

**16.** Было ў мацяры восем дзяцей. Жылі марно. Трэ было рабіць на паноў, но ні было ў чом. Значыць, што маці робіць? Бярэ нас осяню, каторым па дзесяць, па дванаццаць гот, боразну картопяль капаць. Было нас чатыры чалавекі. Ёй дваццаць капеяк, а нас становіць двух на боразну, і нам ужэ па дзесяць капеяк. І мы робім гэтак цэлу осянь. Яна нас водзіць па панох, кап які-я ходачкі* купіць, ба ні было ў што абуцца, не даць рады с хазяйства выручыць. І вось гэтак мы пражывалі. Потым мяне атправілі да аннаго кулака пасьвіць каровы. Той заплаціў мне за цэлы гот дзесяць рублёў. Я там пасьвіла, рано пасу, прыжану дахаты, дзеці калышу. Потым што? Прыбірала ў хаце. Цэлы гот пасьвіла за дзесяць рублёў і такім спосабам зарабляла грошы. У пятнаццатум гаду я ажанілася. Было мне тады дваццаць гот. Хлопяц быў добры, працавіты. У гэтым ш годзе забралі яго на фронт. Быў ён на фроньці пад Дзьвінскам, на Дзьвіне стаялі. Салдаты ваяваць ні хацелі. Палучылі яны на фроньці газету «Праўда». Там было напісано: «Ні нужно ваяваць. Салдаты, брасайце фронт! Даволі ваяваць!» Ой, даўно гэта было.

*А.І.Герман, 1897 г. н.*
*в. Пятакі, 1993 г.*

**17.** Раскажу я табе пра вайну. Пайшла я да сває сястры. Узяла с сабою і Зіну. Як стаў ляцець самалёт за мною ды ўсё ляціць ды ляціць за мною, чуць на голаў ні сядае. Нямецкі. А посьляй ужэ я туды зайшла, і тамака, у альшыне, дзінітка недзе стаяла, да с тае дзініткі як грымнуў, да мы пат печ пахаваліса. Як выйшла я дахаты ісьці, а той араплан, дальбу*, над галавою ніско, здаецца, упадзя. Тады я ні дала рады бехчы дахаты. А там хата Вінцэськава стаяла (с кузьні хату ён купіў сабе). Я ў тую хату. Ды гэты араплан паляцеў посьле. Дахаты прышла, а Стэпка каровы прыгнала, уцякла с поля дахаты. Як ішоў фронт, мы тады ў склепі сядзелі ў Маёра, та ішла машына, астанавіласа. Ідзе, настaвіўшы аўтамат, паўзіраўсё, што ў нас мушчын ні было, сеў на машыну і паехаў. Потым сядзелі пат хатаю ў нас, баяліса ісьці ў хату. Ажно прышло два некіх, па-польску гаварылі. Кажа, як сьцямнея, та вы ўцякайце да сваіх, кап нашыя снарады да вас ні даставалі, ды астанецяса жывы. Кажа, кап курыцу яму. Ідзем, кажу, зловім. Злавіў, голаў аткруціў і папёр с сабою. Галодныя, як сабакі, былі. Беглі, моркву рвалі да елі. Вырвя, абатрэ ап каптан, так і грызе. Можа, па пяць дзён ішлі галодныя. Нашы гналі іх. Што там было? Страху было даволі. Хай Бог бароніць гэдыкаго страху!

*С.І.Лазоўская, 1906 г. н.*
*в. Лазы, 1992 г.*

**18.** Посьля вайны дзет з братам былі кавалямі, рабілі ў кузьні. Прыехалі да іх салдаты і продалі каня. Прасілі за каня баханку хлеба, сала кусок і два літра воткі. Віцько (брат) пазычаў у Стахі воткі. Яны за того каня – і схаваць. Завялі да швагра Оляся. Назаўтра прыязджаюць другія салдаты і забіраюць каня. І Бронак на Віцько кажа, кап ён паказаў того каня, бо кепско будзя. Віцько ні хоча. Але як зачалі моцно біць, тады паехалі на Галынку і забралі того каня. Салдаты былі з брычкаю. Прыехалі сюды, іх абодвых паставілі пад аўтамат, сказалі: «Ідзеця». Адасіха (маці) – у енк, а ён прыкладам як вальнуў і пірабіў руку. Гналі і камандавалі: та ўстань, та ляш. І білі. Тады ўверх сталі страляць. А дзет кажа на Віцька: «Падаймо й ляжэм». Яны ўжэ тады паехалі. А яны цераз Елю ў рэку пашлі мыцца ат крыві. Прыехалі дахаты, а ў мацяры рука пірабіта.

Шчэ табе так раскажу. Пасьвіла я воўца каля гасьцінца, і воўца нашыя (гарачо было) ляжалі, а мы сядзелі двaіх с Стаськам. Ехалі сабе ласаўцы – сабакі – коньмі з вазамі. Астанавіліся пачці пасьледнія. У стаду, за барана і забралі. Я прашуся: «Аддай!» А ён: «Ні дам!» За міне і валачэ ў лес. А я назат тады, і Стасько за мною. І пусьціў, ні завалок. Прыгналі, і Янушчынаго барана ні

было. Ні плацілі мы тады за яго. Тады Бронак якрас дровы вёс і бачыў усё.

Мая мама гэдык сумела. Добро, што ўсё абышлося. Забралі немцы ў нас кабылу, а мама хацела забраць у ласаўцаў. Ну і пашлі яны зь Людзьвікам Радзівонікавым. Ласаўцы пасьвілі коні і паснулі. А яны, Людзьвік Радзівонік – аднаго каня, а мама – другога, і павялі. Завялі ў такі глыбокі роў у хвайняк, прывязалі тыя коні – і дахаты. Тудака ласаўцы папрачыналіся – німа коняў. Бегаюць і шукаюць. Яны ніаружаныя былі, папрыходзілі да хаты. Людзьвікаў Франак хацеў палянуць на тыя коні. Пашоў, а ласаўцы ўбачылі яго. Учапіліся, страляюць – аддай коні. А ён нават добро ні ведаў, дзе яны. Ну ля, пірапалохаўся, стаў як стоўп і стаяў. Яго зь месца ні маглі зварушыць. Дзе яны яго ні вазілі. Потым крыху адышло, ніпраўда. Але ўсёраўно астаўся памешаны. Ніхто ні думаў, што ён будзя жыць. Ні еў і стаяў як стоўп. Ласаўцы паехалі, а яны забралі сабе коні.

*Я.Л.Радзівонік, 1931 г. н.*
*в. Косцевічы, 1987 г.*

## БЕРАСТАВІЦКІ РАЁН

**19.** Як жылі? Добра. Лепш, чым зарас. Была культура. Хлопцы былі культурныя. Помню, у дзярэўні Сіньках былі танцы. Туды прыехала рольняўская маладзёш. Усе яны былі ў белых кофтачках, зь белымі бантамі, у чорных туфяльках. Усе аднолькава паадзяваты. І свае музыканты ў іх былі. Танцавалі яны ў дванаццаць кален. Хорашо танцавалі. Пасьля пасядалі на вазэ і паехалі. С тых танцаў падводзілі нас хлопцы. І мы ішлі, ішлі. Пашлі церас дзядзінец. Там язьмін рос. Ён зарваў адну галінку, меньшую, – гэта я, другую, большую, – гэта ён. Пацалаваў тыя галінкі. Падарыў на доўгую і вечную памяць. Во, ля, якая была культура. Прыйдзя лета. Коньмі жалі. Паадмерваюць постаці*. Паадмервае намесьнік*. І мы ходзім наўкола палетка і вяжам снапэ. Давязваю я постаць, бачу, ідзе пан, кручу круцяля*, кап падвязаць, паздравіць з новым уражаем. Ён сказаў мне: «Дзенькуем», – і даў пятнаццаць злотых. Мы паехалі ў Бераставіцу і купілі хусткі-бацістоўкі. Як лета, паняеш вянок пану. Зьбярэмса дзяўчаты, вянок сьпляцем і ідзем, сьпяваем, а хлопцы па-за вугол пахаваюцца з вадой, кап абліць. Ідзём назат, паабліваюць, кап уражай быў на рок* харошы. Весяло было, інцярэсна. Як выйдзяш на вуліцу вечарам, усюды сьпяваюць, такая красата была! Усё было, і ўсё прайшло. Цяпер толькі п'яніцы валяюцца. Перавярнулася ўсё на сьвеце. Хай Бох крыя**!

Яшчэ мама мая расказвала. Можа гэта і ат Бога пасланец быў. У сяло як хто заявіцца, вядуць да дзепутата, кап прызначыць, дзе пераначаваць. А яе бацька быў дзепутатам. І тую бабу прывялі. А яна плача, сьлёзы, як грат, сыплюцца. Яна была сьляпая. Бацька пакінуў яе ў сябе пераначаваць. Яна прыхіліла кофтачку, а там сарочка гразна-гразна. Тады маміна маці дала ёй чыстую сарочку. Баба й перастала плакаць. Назаўтра маці наварыла капусты. Усе селі есьці. А чалавек той, што быў з бабаю, і кажа: «О, донька*, што я табе раскажу. Во гэта пакаленьне цяшка жыце ні прыждзе. І гэта не. А гэта, трэцяе, прыждзе. Будуць сёлы стаяць як стаялі, а людзі знаць адзін аднаго ні будуць. Пааткрываюць граніцы,ператасуюцца людзі. Будуць у людзей на хатах скрыньне гаварыць. Будуць лятаць жалезныя птушке. Будзе, донько, нарот у такой латануй адзежы хадзіць. Будзе такое безустыдзьдзе*. Будуць хадзіць ні голы, ні адзеты. А будуць у скрынках крычаць: «Мір! Мір!» А міру нідзе ні прыдвідзіцца. А там, дзе Ісус Хрыстос радзіўся, будуць біцца, біцца доўгі час. Прыйдзе такое ўрэме, і ні адна вінтоўка ні выстраліць там, у тых арабах. І будзе так: Гасподзь прыйдзя на зямлю сам і будзе судзіць мёртвых. Добры нарот будзе па правуй старане, нідобры – па левуй. Патом будзе судзіць жывых. Нігодныя пойдуць на патампленьне*. Тады Гасподзь аткрыя паўсюль рай. Людзі ні будуць старыцца, ні будуць пладзіцца». Мо, так яно і будзе. Вы яшчэ пажывеце і ўбачыце.

*С.М.Шэмет, 1915 г. н.*
*в. Старынцы, 1996 г.*

**20.** Гэто вам ціперака добро жывецца, а мы нічого добраго ні бачылі. От у міне мама ўмярла, я яе дажа ні помню, малая шчэ была. От так і гадаваласа. Тато ўзяў другую жонку, яна ні сказаць, кап плахая была, але заўсягда гаварыла, што ні родныя мы зь ёй. От якія дзелы. Што і гаварыць. У школу хадзілі, у польску, я чатэры класы адучыласа, бо далей плаціць мусялі. Дак мачыха сваіх то павыучывала, а мы так і былі. Потамака пасватаўса да міне хлопяц, да багаты. Адно людзі казалі: вельміся ўжэ ніхарошы, лёхкія рукі меў**. А што мне было рабіць, мусяла ісьці, бо мачыха сказала, што ні будзе міне карміці зра. Ну і пашла. Што зь ім гора мела, то ні расказаць. Ён жа ўсе сваі грошы праграў у карты. А мо й добро, што праграў, бо як савецка ўласьць прышла, то паехалі п мы ў Сібіру, а так бедныя ды бедныя. Патом зачаласа вайна. Бацька на вайну забралі, Пётру майго тожа. І асталаса я адна зь дзіцем малым на руках. Дак от, кажуць, што немяц благі быў, а яны, як праз вёску нашу ішлі, дак ні только што нічого ні ўзялі, а шчэ і

хлеба нам прыносілі. Толька было адзін рас, што зашоў у хату немяц, а ў яго рука ў крові, дак ён наставіў на міне аўтамат, каб дала чым руку завязаць, а ў міне нічого ні было, дак ён узяў маю сукеначку, харошу такую, у колцы, і завязаў руку. А больш нічого благого ні помню.

*Л.М.Аслова, 1918 г. н.*
*в. Берaставічаны, 2004 г.*

**21.** Калі пачалаcа вайна, я яшчэ зусім малая была, адзінаццаць лет мне было. Жылі мы ў той час у Сямяноўцы, а хадзілі ў Крынкі, бо там маей мамы сваякe жылі. Вельмі страшно было жыць, хоць я і малая была, алі помню той час добра. Ну што мы, дзеці, рабілі? Памагалі мамі, слухаліса, ні так, як ціпер, бо вельмі мамы баяліса. Што ні скажа, усё рабілі. Мама вельмі пераживала, кап нас немцы за якую шкоду ні пазабівалі, бо ім што ні так зробіш, то ўсё мелі моду** растрэльваць. Помню, так у вёсцы ў нас застрэлілі аднаго чалавека. Вельмі добры каваль ён быў, алі ні дагадзіў ён гэтым гадам. Забілі яны і бацька нашага, і мама трох дачок адна гадавала. Трохі сваяке ей памагалі, алі якая гэта помашч. Трымалі гаспадарку, алі ўсё немяц забраў. Усё пажэрлі, гады гэтыя, забралі ў нас кароўку і сьвінча. Мама тады вельмі плакала моцна. Аднаго разу такі случай быў. Паслала міне мама ў Крынкі да сваякоў. Гэта ціпер тут граніцу якуюсьці выдумалі, а раней можна было хадзіць. Пайшла я са сваёй малочшай сястрой Таняй. У лесі мая сястра зачапіласа за якісьці дрот, і ён разарваўса. У лесі нас дагналі двое чалавек зь вінтоўкамі. Гэта былі парцізаны. Гэтыя парцізаны сьлядзілі за намі і бачылі, як Таня зачапіласа за іх дрот. Гэта там у іх рацыя была, і дрот быў кепско прысаідзіняны. А яны зразу рашылі, што мы яго сьпіцыяцельно парвалі. Потым яны ва ўсім разабраліса і далі нам яшчэ гасьціняц. Во такі ў нас случай быў. Посьля гэтага случая мама нас адных ні пускала, а як трэбо было, та хадзіла сама. Аднаго разу прыйшлі да нас немцы ў хату. Усё ў хаці перавярнулі, пад лошкамі заглядалі, штосьці шукалі, а што шукалі, чорт іх ведае. Скольки мы прас іх выцярпялі, скольки гора было. І голат быў, і холат, алі яксьці павыжывалі. Якоя там жыця было, адна мэнка*.

*Л.А.Карпук, 1931 г. н.*
*в. Сямёнаўка, 1996 г.*

**22.** Панэ былі. Я хадзіла на работу. Там, у Новым Дварэ, жыў шляхчыц, той Занеўскі такі быў. Яму было сорак гадоў, ёй – двац-

цаць. Жаніліса. І тока рас я плакала. Мы пайшлі капусту крышыць. Прыйшлі, паломку* прабілі і палакалі*. Трэба было ў халодную воду, а зь міне сьмяюцца. Тая пані наварыць там шчаўёў. Мы заехалі ў Казань. Колькі мне лет, я ні знаю. Помню, як бегла. Коні прысталі, і мы пазлазілі з воза. Помню Оршу, гэтакі куточак. Падыехаў пояст, а як ехалі, ніц* ні помню. Тады завязьлі ў Казань. Мы перабраліса ў Харкаў. Так здаецца, тую станцыю бачу. Папрыходзяць царскія дзяўчаты, тры радэ па тры закладачкі. Цяпер не пашыюць так швачкі. Бабушка міне забрала. Зь дзяцькам гадавалі, а мама засталаса і памярла. Ціф як ўзяў, так усе паўміралі, сіротаю гадаваласа. Першы рок* хадзіла ў школу, добра вучыласа, а сяброўка кепска вучыласа, у яе былі грязныя сшыткі. Другі рок ні пусьцілі ў школу, трэба было рабіць. Тут вырасла. Той мужык узяў памёр. Я яго ні шкадавала, бо ён біўса, дрэнны быў. Вырасьціла шасьцярых дзяцей, усе вывучыліса, працуюць і маюць свае сем'і.

*Я.Д.Кот, 1907 г. н.*
*в. Алекшыцы, 1991 г.*

**23.** У тое ўрэмя зусім другое было, чым ціпер. Ціпер у школу дзіцей аўтобусам возяць. А ўпярот* сьнегу много было, а ў школу хадзілі ў Есьманты. Хадзілі ў абіяках*, с торбамі, а ні сумкамі. Кніжак было мало. Ціпер та ўсё мяняюць кнішкі, выпускаюць часто, а тады пару кніжак было на ўсю вёску. Гэдык і ўчыліса. Усё раўно стараліса ўчыцца, ні то што, як ціпер: сумку кніжак носіць, а ні учыцца. У міне мало зусім было кніжак, алі мяняліса. А часамі і адна на пяціх была, і гэдак учыліса. Тады кепско было хадзіць, далеко, цяшко па сьнягу. Ніхто там у школі ні карміў, а ціпер сталовыя ўсё, кормяць. Цёмно ўставалі, трэбо было на ўрэмя заходзіць. А посьля, як падрасьлі, вясною па хазяйству трэбо было памагаць. Садзілі картошку, коньмі гаралі, а бабы садзілі, на ступень, называлі, гэто на ногу. Як яна станя сходзіць, пасылалі і хлапчакоў баранаваць. Як падрасьце, то абраблялі яе сошкамі. Расла аш да осяні, осяньню выгорвалі плугам. А як ні было чым паліць, та хадзілі ў лес. Шышке с сасны зьбіралі, кару, насілі дахат, каб было на чом зварыць. Хлапчаке вадзілі пасьвіць каровы. Зьбіраліса ў кампанію пяць-шэсьць чалавек, бралі с сабою картошку, у лузі, там, дзе пасьвілі, раскладалі касьцёр, пяклі картошку. Яна пагарыць, алі ўсяраўно смашна. А катора карова як лезя дзе ў шкоду, та ляцяць усёй кампаніяй. Барташоў называласа карова Молат, і яна найбольш уцякала. А як вядуць дахат, та Коля ні хоча ісьці каля каровы. Сеў на карову, а яна як панясе, алі ён удзяржаўсо. Упярот трэбо было і торпу* самым капаць. Зьверху была зямля балоціста, скідвалі гэты верх, называлі

шлям* – зямля на торпі. Ён гадзіўсо на ўдабрэня, а торпу капалі. Зробляны быў такі страмак*, як лапата, а пры ём яшчэ ножык, і адрэзвало. Яна рабіласа доўга, як цаглінa, і той, які капае, выкідваў з гэтай ямы, а яго глыбіной было чатэры й пяць. А ў Алекшычах, называлі Падбагонікі, аш восім радоў у глыбіну гэтых тарпін. Гэта глыбока яма ўжэ была. Яе наверх выкідвалі, адвозілі тачкаю далей. На балоці гэтум клалі ў такія сташке, кап патсыхала, бо яна з вады й мокра. Патсохня, пасьля перакладвалі ў больш высокія сташке, бо як пакласьці высоко мокру, то падае. Як дзе ні даехаць вазамі, бало-то, та клалі як скірды, а зімою ўжэ, як умерзьне, та саньмі вазілі дахаты, а летам, як патсохня, та вазілі вазамі. Вазэ былі дзеравяныя, калёса тонкія і прарэзвалі гэту зямлю, і коням было цяшко. На возі залажвалі такія драбіны*, кап больш улезло. Дзе людзі гэту торпу капалі, патом ужэ тут гэтай торпы ні было. А патом езьдзілі ў Прывалкі, там ужэ капалі машынамі. Машына выкопвала і лажыла радамі па балоці, а посьля хадзілі людзі і варочалі ўручную. Яна, як усохня, та моцна, цьвёрда, а дзе ў долі, та сырая.

*М.І.Дзямбіцкая, 1924 г. н.*
*в. Кавалі, 1997 г.*

**24.** Ніцікава цяпер людзі жыці сталі. Некія замкнёныя ў сабе сталі. Шчэ як у вёсцы, та трохо лепей, а што ў горадзі, та й гаварыці няма чаго. Вунь дачка мая ў Гроньні жыве, та й саседзяў ні зная. Калі ш такое было? Раней, як я шчэ маладой была, та мы па ўсёй акрузі адзін аднаго ведалі, а цяпер дажа ў госьці пірасталі хадзіці. Усё ім талявізары ды таляхоны замянілі. А што песьні цяпер сьпяваюць, та хай іх халера**. Ужо ўнук з Гронна як прыедзе, як уключыць свой махнітахон, та хоць ты с хаты цякай. І што добраго ў такіх сьпевах? Калі я шчэ маладая была, то тады песьні дужа добрыя былі, я й сама сільна сьпяваці любіла. Бывала, як зьберамося ў адной хаці з усяе гуліцы бабы на вячоркі, хто с кудзеляю ці с пруткамі, кап вязаці, альбо з вышываньнем. І дзеці малыя папрыходзяць, пасядуць на пячы і ўслухаюцца, пра што бабы гавораць, та й пазасынаюць тамака. А мы пра жызьню нашу пагаворымо. А ўжо нагаварыўшыса, песьню зацягваемо. А песьні сьпявалі розныя: і вясёлыя, і такія, што нават заплачасса. А як хлопцы прыдуці, та й патанцуемо тады. Дый танцавалі та як, не тое, што цяпер: дрыгаюць толькі, глядзеці гатка. А то цыганачкай як пойдзеш па крузе, альбо ўпрысятку. Пазабаўляемоса гэтак цалюську ноч. А зранку та да працы ісьці трэбо, і нічого, рабілі.

*М.К.Лыч, 1905 г. н.*
*п. Пагранічны, 1992 г.*

**25.** Была малая, усе памерлі: і маці, і тато. Трэбо было гараць самой. І шчэ трэбо было даць дванаццаць пудоў жыта, кап згаралі поля. Гэта й с суседзямі так пагадзілася. А сама баранаваць хадзіла, бо дораго было плаціць, што гаруць, што наняць трэбо было. А прыходзіць лето – жаць трэбо. Прыходзіць сусед у хату, кабы дала дванаццаць пудоў жыта. Станаўлюся, два дні малачу, дзень сею. Ён с конем прыяжджае, бярэ жыто, вязе на возі і дахаты бярэ. Адна рады пажаць не дам, найму жанцу*. А потым прадала поля, не дала рады пражыць і пайшла замуш. Ат сястры йшла замуш. Жыта нажала шчэ свайго с поля, завезла, сьпітлявала, напякла пірагоў. І вяселё было. Паселі ўсе. Коньмі ехалі. Заехалі ў царкву, зьвянчаліся, прыехалі дахаты, прыйшлі да яго маці. Яна паставіла бутэльку воткі, а я ёй на сукенку падарыла. Дарылі грошмі, кужалём больш, вось і ўсё вяселё, вось так і жылі. Аснавалі далей дзесяць губіц* кужалю, і трэбо было ткаць. Як швагер паедзе за гноям, то працую, а як прыедзе, бягу дапамагаць. А як дзеці пайшлі, набяру калубель і збанок малака і іду на поля кіламетраў с два. Тут кідаю дзяцей, бягу карову даіць, ізноў бягу на поля. Адзін рас паехаў мужык гараць са шваграм. Гаралі, гаралі да вечара. Трэбо дахаты ехаць. Ехалі. Напроціў магілок баран выскачыў с кустоў, і яны давай яго лавіць. Намучыліся да дванаццаці часоў. Тады коні выпраглі і лейцы зьвязалі і давай лавіць. Лавілі да рано. Ловяць, а бык брык і ўцёк. Павымучваліся і дахаты прыехалі, пакінулі барана. А назаўтра, казалі, што чорт гэта іх вадзіў. Вось як жылі: усяго было, і добраго, і цяшкаго.

*В.Ф.Аляшкевіч, 1906 г. н.*
*в. Малая Бераставіца, 1990 г.*

**26.** Пярот*, помню, хлеп пяклі на лапаці. Рабілі рошчын у дзешцы, а потым на гэтай рошчыне мясілі цесто. Палілі руску такую печ і на лапаці рабілі бохан хлеба і тады – шух яго ў печ. Калі не ўпадаў, то возьмуць патрасуць лапату. Закрывалі печ дзьверкамі і так пяклосё ўсё. Чэрас час чы два даставалі боханы, а пяклі боханаў, сколькі ў печ улазіло. Хватало хлеба на дзьве нядзелі, а то і болей. Хлеп чарствеў, алі ш елі, лепшаго ня было. А бацькі ўсё казалі, кап елі хлеп усей сухі, то не будзяця грымотаў баяцца. Мы елі аш вушы трасьліся**. Калі на поля хадзілі, бралі ўсягда абет с сабою, і што астануцца куске хлеба, то прыносілі да дзяцей, гаварылі, што гэта зайчы хлеп. Дзеці аш біліса за яго, так любілі. Хлеп пёкса на рошчыне, дражжоў не было. А гэту саму рошчыну рабілі са скарынкаў, змочаных ў вадзе. Толькі сьпякуць хлеп і ўжэ рыхтуюць рошчыну на наступны запёк*. Помню яшчэ, які смачны быў,

добра кісьленькі, такі квас у поле бралі, малавеле* падобны на той, што продаюць цяпер у бочках. Але свой квасок ёсьць свой. Сваё ўсё смачнейшае. А цяпер што за хлеп магазінны, некія апілкі. О, пры тых часах і ў крамах хлеп быў смачны. Жыдэ пяклі, мелі свае лаўкі*, у якіх і продалі. Бацьке мае ня куплялі, бо свой мелі. Цяпер другія часы. Хлеп ня пякуць, да й ня ведаюць маладыя, як, бо нашто, папрывыкалі на ўсём гатовым, працаваць ня хочуць, а смачно есьці токі давай. І на вёсках мало хто сам цяпер пячэ. Рок* таму быў у Польшчы, то там па вёсках не пазабываліса хлеп пячы. Захожу ў хату, а там пах прыемны такі стаіць, у бляшках* гаспо-ся* боханы пячэ. О, такія файныя*, ня то, што магазінны ляпняк*. Купі, ён паляжыць дзень і ўжо будзе чорствы. Забыліса людзі, як хлеп пячы, і ня вярнуцца тыя часы. Прагрэс ідзе, але ш да чаго дойдуць, аднаму пану Богу вядома**. Усё цяпер ня тое, і сьвет другі, сьвет атручаны. О, і малако стала горкім, да і скісае за дзень. А пярот стаяло тры дні, і нічого. Улетку пчол амаль ня відаць, павымiралі. Салоўку і таго толькі зрэдку пачуеш. А ў гарадах скуль бела зельска* ўзялоса. Хтосьць казаў, што амярыканцы с самалёту скінулі. Жартуюць, а тут ня да жарта. Сьвет ратаваць трэба. Кленска боска** спаслаласа на людзей, і няма паратунку, калі станям рукі спусьціўшы.

*Я.І.Руткоўскі, 1933 г. н.*
*г. п. Вялікая Бераставіца, 1994 г.*

**27.** Немцы людзей лупілі, білі. Як паткусіць* хто, так і б'юць. Яны самі казалі, што беларусы дурныя, бо людзей падводзяць. Шмат людзей вывозілі ў Германію. Была ў нас іхняя жандармер'я. Уся маладзёш ішла ў паліцаі. Не пойдзеш, та растрэляюць. Немец казаў, што калі не хочаш ісьці, то чакаеш бальшавіка. А тады – пулю ў лоп ці ў Германію. Мяне хацелі забраць у Германію на работу, але забралі маю сястру. Памог мне выкруціцца адзін шалудзівы паліцай. За гэта я паставіла яму бутэльку самагона. А пасьля гэтага паліцая на засадзе партызаны забілі. Так і пагіп малады хлопец. Немцы забіралі каровы, сьвіня і адвозілі ў жандармерыю. Хватала паліцаяў, немцаў, а есьці штосьці трэба было. Многа людзей немцы перастрэльвалі. А партызан покуль застрэляць, та яшчэ памучаць. Папробуй толькі партызана пакармі, та й табе дадуць. А партызанаў у нас было!.. Былі й такія, што грабілі. Найбольш немцы білі жыдоў, страшна білі. Заб'е жыдоўку і валачэ па бруку за карк. Майго бацьку рас прынялі за жыда і хацелі застрэліць. Жыдоў пазабівалі ўсіх, мала засталося. Прывязуць машыну жыдоў, паставяць на бераг і страляюць. Каторага заб'юць, каторага пат-

стрэляць, усіх у яму закапвалі. У вёсцы ўсе немцаў баяліся, бо, як падыме аўтамат, та й не пікнеш перад ім. Яны людзей лупілі, вёскі палілі. Людзей жыўём у гумно паўганяюць разам зь дзеткамі і паляць усіх. Азіяды* былі. Каля нас вёска Слабада была. Усю вёску спалілі жыўём. Страх адзін. Палілі вёскі больш там, дзе былі партызаны. А ў гэту вёску яны даволі часта прыходзілі. Пастрадалі людзі за вайну... Немцы білі ўсіх, хто быў солтусам*, хто ў гміне* рабіў, хто ў якой уласьці быў. Зьдзяваліся с салдатаў савецкіх. Пленых, каторыя слабей, – за карак ды ап зямлю, а не – пулю ў лоп. Як добры немец гоніць, та папросіш, і астановіцца. Тады людзі нясуць хто хлеп, хто бульбы, хто малака збан. А як які гат, та б'е і ўперат прэ. Паўбівалі многа нашых. Хто меў радзіва, тых усіх забілі. Ксёнц наш у касьцёле слухаў радзіва, і там знайшлі і забілі. Хай яго халера** с такой жызьню, нацярпеліся людзі гора ў вайну.

*С.І.Скуратовіч, 1914 г. н.*
*г. п. Вялікая Бераставіца, 1994 г.*

**28.** Раскажу табе, унучачка, як мы сьвяткавалі сьвяты. Пачну с Пасхі. Перат Пасхай ідзе пост. Калі пост заканчваецца, пачынаяцца місаег, колькісь там шэсьць, сем нядзель. За тыдзень да Пасхі сьвяткуюць Вербніцу. Убіраюць веткі і ўтыкаюць пат бэльку ў хаце, а пасьля выганяюць гэтай сьвянцонай вярбой жывёлу. А яшчэ яйца закопвалі ў гной ў хляве, кап сьвіня вяліса добра. Перат Пасхай трэба, кап кожны паспавядаўса. І пасьцяць сераду і пятніцу перат Пасхай шчырым постам. На Пасху людзі ідуць на ўсюночную. Удзень у хаце пірагі, усё прыгатоўлена. Прыходзяць, разгаўляюцца. На другі дзень рабілі танцы для маладзёжы. На першы дзень та не танцавалі. Хлопцы, мушчыны вылівалі смаляное яйцо, ну, дырку рабілі і туды залівалі смалу, а тады ўжэ йшлі біць адзін з другім яйцы. І бывала, адзін зусім разарыцца, а другі дахаты навалачэ. Сьвяткавалі тады чатыры дні. Нядзелю, панядзелак, аўторак і градавую сераду. У гэты дзень нічога ні рабілі, бо грат паб'е. Як пройдзе сьвята, браліся за работу. Як пройдзе тых шэсьць нядзель, тады Ушэсьця. У цэркві фэст і ўвечары таксама танцы. Танцавалі, у каго была ахота. А гэтая Ушэсьця бывая толькі адзін дзень. Чацьвер, а тады праходзіць паўтары нядзелі і начынаецца Сёмуха. Да гэтай Сёмухі гатовяцца тожа. Выразаюць бяроскі ў лесі, прыносяць дахаты, устаўляюць гэтыя бяроскі ў вароты, хату бярэзіною ўпрыгожваюць. На паталку раней былі такія бэлькі, і ў дзіркі пат бэлькі засоўвалі веткі бярозы. Вешалі іх усюды. І на сьцены, і ў варотах, каля дзьвярэй трэба было, кап стаяла

бяроска. Тады, як с поля прыдзя ўся жывёла, на рэчцы нарэжуць агеру*, на нашай рэчцы яго даволі хватая. Дык нарэжуць агеру, у хаце пасякуць яго намеленька і ўвесь падворак высыплюць агерам. А тады ўжэ наранку ўстаеш і глядзіш, а ўсё вымяцена і засыпана агерам. Тры дні сьвяткуюць і йзноў пайшлі ў поле. Цяпер та ні сьвяткуюць, а раней было такоя. Асобенна на Сёмуху многа свадзьбаў. Ой, тады ўжэ вянчаліся ў цэркві невядома сколькі пар. Усё вяселі на Сёмуху ды на Сёмуху. Е такое сьвята, як Благавешчаньне, на гэта сьвята ніхто нічога ні робіць, бо, як кажуць у нас, што птушка нават гнязда ні ўе. Затым сьвяткавалі Яна, Пятра, асеньнія сьвяты, гэта Іля, Спас, Успленя, Вазьвіжаня. А там ужэ і зіма, і зімовыя сьвяты. Сьвяткавалі Каляды. Хадзілі па хатах с танцамі, песьнямі. У кожнай хаце іх павінны былі чым-небуць пачаставаць. Стары Новы гот. Тады ўсе хадзілі перадзетыя, нават я сама хадзіла, вокны размалёўвала. Усяк было тады. Сьвяткавалі Пакрову. Гаворацць: «Пакрова – дзеўка замуш гатова». Яшчэ і другія сьвяты сьвяткавалі. Я ўсе і ні помню, а цяпер некаторых і німа. Вось і ўсе сьвяты.

*Н.Д.Юшко, 1929 г. н.*
*в. Клепачы, 1994 г.*

**29.** Я ў сорак першым гаду ў крэпасьці Асаўцэ быў. Было нас каля дзесяці тысяч войск – многа. Нас забралі на сорак дней. Мы дваццаць пяць кілометраў ат граніцы нямецкай стаялі. Дваццаць другога іюня, утрачкам, немец напаў. Пяць дзён адбіваліся, а тады пайшлі ў атступленьне. У нядзелю пачалася, а ў пятніцу пайшлі ў атступленьне. Па нас немец з Германіі біў, біў па нас аш токо курэло. Немец самалётамі стаў біць, та дзе ты там устоіш. Напаў, та ўсе ўрасплох пайшлі. Масты пабіў авіяцыяю, сьвясь папарываў. Па нашых ерадромах як ударыў, та ўсё папаліў. У Беластоку нашы самалёты пабіў, а яго лятаді хоць бы што. Паўкоўнікі драпанулі сразу, аш пыл курэў, аставілі толькі лейценанцікаў. Быў паўкоўнік, але ён дзесь прапаў. Што казаць, там нас прадалі. Тыля* войск было, і не варужылі. Гнаў як авец немец. Скоко ў плен браў – страхота. Што ш ты зробіш. Мы яшчэ тамака былі, а ён ужо ў Мінску. У Асаўцэ немец нас разьбіў, пабраў у палон. Як у палон пабраў, то пытаў, дзе быў, як, што да чаго. Мы атказвалі, што рабілі на пляцы Даўнары. Ерадром там строілі. Там былі рабочыя. але мы ўжо пад іх марку, мусілі махляваць, што былі забраны на работу. А хто быў у войску, забіралі ў лагер. Махлявалі, кап пусьціў дамоў. Тутэйшых пускаў, а другіх браў на работу ў Германю. Мяне пусьцілі. Да сорак чацьвёртага года ў хаце быў, потым пазвалі ў

ваенкамат у Крынкі ды забралі ў войско. *Я* быў у Полацак, а тады – на фронт. І пайшлі ваяваць. Гналі немца прас Літву, Польшч і ўвайшлі ў Германю. Дахаты с Германі ішлі пеша, прас Польшч. Цяшко было ваяваць сь немцам, хай яго халера возьме**.

*М.Т.Апон, 1909 г. н.*
*в. Кордзікі, 1993 г.*

**30.** А Божа ш мой міленькі, нарадзіласа я ў Дзіневічах. Нас было сямёра, але два хлопцы і две дзяўчыны ўмярлі. Ага! Помню, у школу хадзілі. Чатыры закончыла. У першы клас пашла за польскімі**, перашла ў другі за польскімі. А цяшко жыць было. Сумкі ў нас былі не такія, як ціпер, а зь лёну. Ага! Хочацца ў школу, ды трэбо ў хаці памагаць. Ды ў чом ісьці, як ні маеш боцікаў, а бацька парабіў абіякі* зь дзерава. Падэшва зь дзерава, а тутака гэтыя аборкі. Цяшкія былі. А потым ужэ былі абіякі тоненькія, а зусім файныя*. Бацька быў спраўны*: і сталярку рабіў, і што толькі трэбо, усё рабіў. На ўсе рукі быў. Потым, пазьней былі ў нас ужэ фільцы*. Натта добрыя былі. Увечары зімой хадзілі на санкі. Другі рас, бывала, з горак катаеса, у міне санкі былі с кары дуба, за вечар і парвеш. А бывае, абора парвецца. Прыдзеш дахаты і плачаш. Гэтак мне было. А другія плакалі, бо і гэтага ні мелі. Рас у две нідзелі пяклі хлеп. Хлеба ў нас было. Хлеба ў нас не замыкалі. Ужэ як зазелянее той хлеп, мама казала есьці, кап не баяліса грымотаў. Вось, ага, так і жылі. Стала вайна. Хочацца ў школу ісьці. А бацька казаў, кап у калхос ішла на работу, там то вобуў дадуць і дадуць на плаця паркаліку. Врэмя было цяшко. Але што, ні пашла я на экзамен у тую Вайцехаўшчыну. Была ў нас кампанія свая. Прышлі мы ў школу і сталі малітву гаварыць. А наўчыцелька*, полька была, казала, што так ціпер мувіць* ні тшэбо*, калі хцэш* жыць. Пасьля школы хадзілі на камадэйкі*. *Я* на камадэйкі была перша. Аднойчы ўзяў хтосьці і пусьціў вядро ў калодзец. Сказалі, што гэта я, бо была найцікавейша. То я не пашла адзін дзень у школу, другі. На трэці перадалі, што наўчыцелька казала, кап ішла ў школу, бо знайшлі, хто гэта зрабіў. Так я павучылаcа і ўжэ трэбо ісьці ў калхос. Так я асталаса на бабах. У калхозе, у канцэ года, ужэ давалі сколька рублёў і збожам троха давалі. Мама тады хвора была, ні хадзіла ў калхос. Так і жылі. Жыць кепско было. Умярла мама. Ах, маладая была, сорак пяць гот. Хварэла. За немцамі мне было ўжэ чатырнаццаць гот. Ужэ немцы вазілі нас на картошку. Помню, жыды зьбіралі каля нас. Рас прышоў немец і якісьці галоўны, і як сталі біць тых жыдоў. То і дзісь* помню. Не забыласо. Ох, папамучыліса. Пазьней у міне ровар* быў, дык я на ровары на

поле езьдзіла. А хто пешшу, канём. Цяшко жылоса. Адзін рас паехалі на хрысьціны ў Вайцехаўшчыну. Там Павэлэк зьвёў з адным хлопцам. Спадабаўса мне хлопец, хоць і бес нагі быў. Так і пашла замуш, хоць хлопцаў мела як гразі. Натто быў ён прыгожы і рабацяшчы ды і добры. Ён на адной назе нават касіў. Вось так мы, дзеткі, і жылі.

*Л.М. Клімовіч, 1927 г. н.*
*в. Клюкоўцы, 2005 г.*

## МАСТОЎСКІ РАЁН

**31.** *Я* жыла ў Тоўсьціках. Сям'я была ў нас велькая, было сямёро дзяцей. Былі хлопцы і дзяўчата былі. Маці наша вычадавала нас. Было цяшко гадаваць, бедно жылі. Бацько нездаровы быў. А мы нек ужэ паўрасталі, пашлі рабіць ужэ. Хадзілі на наём, жалі. Людзі та нам плацілі, ужэ нам дзе два злотых за дзень выходзіла, польскія грошы былі. Ну ўжэ ўсей тыдзень жнем там у хазяіна. Ну ўжэ трохі заробім там тых грошай, прынясеш ужэ. Пуйдзе ўжэ маці што купіць нам зь якого ўжэ адзежду. Мы самы ні хадзілі, эта цяпер та ўжэ эта маці табе ні купіць, а тады, што маці купіць, то ўсе і добро, і харошо. Тады ўжэ я сама падрасла, ужэ дзеўкаю стала, ужэ вышла замуш. У нас добры быў замуш, багаты быў. Ён мяне ні знаў, я яго ні знала. Пашла на фэст, бывало некалі, та тады было сьвято, і мне паказалі яго сваякі. *Я* ўжэ панаравілася ім, ужэ пашла за яго. Ён багаты быў, да жызьні харошы быў. Ні то што які там ругаўсо ці біўсо. Сядзеш есьці, то ён без міне нават нідзе і рас ні возьме: сядай, сядай разам зь ім. Землю рабіў, а зямлі было много, адзін абрабляў усё. Тады пашла ўжэ я на той замуш, той замуш мой некі ні сяк ні так**. Ну, шчэ пака да тае вайны, ну то ля, добро жылі. А як стала вайна, забралі на вайну. Ужэ у міне дзеці, ля, былі. І пакінуў міне з этымі дзяцьмі малымі. І што хочаш рабі. Дзеці плачуць па этум полі, што людзі гаруць, робяць. Гаспадары ш каторыя паасталаліса старэйшыя, бо малады то ўжэ былі пазабіралі ўсе на вайну. А ў міне ўжэ нікого ні было. Хадзіла гэдыксамо*, прасіла, кап хто мне згараў, і я плаціла. Чаму не. А якое там гараньё чужому. От, што рат папароў. Стане расьці як якое жыто ці там які ячмень, то ля, мятліца расьце, бо вядомо, чужое ён згарэ табе гэдак, як свой спадар? А тады, як на тую вайну забіралі, а плакалі, а енчылі. А міне яшчэ буў малы хлопец, а было гадоў тры нешта яму, і эта дзіця плача, ён на рукі ўзяў, нясе, а я сама зну* плачу. Але скуольку ён там на туй нешта вайне пабыў. *Я* ні ведаю,

сколько то ўжо прайшло часу, ужэ прысылаюць зьвяшчэне, што ўжэ няма яго, што пагіп. А была ў яго шчэ маці старая. Як сказалі, тая маці ўчытаць* у туй хаці. Пайду я на двор – яна так і енчыць, вайду я ў хату – яна ўжэ сьціхне. Кау: «Чо ты енчыш на ўсей сьвет?» – «А мой сынок, а мой міленькі, а хто мне рабіць будзе?» – «Та што ш ты, – кажу, – зробіш? Што ты зробіш? Судзьба была яго гэдака». І вот гэта жыце было. Потым тая маці памярла, а хата нівелька была, малая была. Потым, канешне, цяпер та ля, і шыферам накрыеш, тады было таёю саломаю крылі стрэхі. Як прадралася тая стрэха, як стане калідор, да ў хату льецца. Я плачу-плачу, плачу-плачу... Та вот пуойдзеш у кантору, папытаеш: «Дайце хоць стрэхі саломы накрыць хату». Хто там на цібе вніманe якое меў. Усе-такі нека абрашчэне, так нек ціпер та ля, пуойдзеш, чаго папросіш, та й ні атказкуць, даюць. А тады – не, не. Ідзеш, тыя дзеці бярэш, падрасьлі кап. Пуойдзеш, каб уставы некія там, расла такая трава высокая гэдака. Тую траву жнем, жнем, жнем, ды прынясу, ды чалавека папрашу некого старого, дык і накрые тую стрэху. І гэдэк во і сядзелі ў туой хаці. Посьле ўжэ стала ніпраўдай. Ужэ гэта па туой вайне стало лепша жыце, было ўжо. Можно было ўжэ да чаго дзе дабіцца. Пуойдзеш, і памогуць, і ўсё. От якое ўсё жыце было. Перанясьці трэ было ўсё гэта. Што ты зробіш. От якое ўсё.

*Н.С.Гуліда, 1918 г. н.*
*в. Зарудаўе, 1991 г.*

**32.** Вайной праз нашу дзярэўню бой ішоў, с чатырох пачаўся, падранкі* кончыўся. Гэто было, калі яшчэ жыто не пажалі, каноплі былі пасеяны, лён. Каля Бучаняцінай хаты сядзелі дваццаць немцаў, а другія немцы не бачылі, мусіць, што гэто немцы, і кінулі с канапель гранату, і ўсіх чыста пакалечыла. Каторыя ішчэ варушыліся, прасілі: «Ацец, дайце вады». Але да вечару ўсе дайшлі. Гуліца ад гулачкі ўся выгарала, ажно да магілкаў, а другая поўнасьцю. У ямах ляжалі рускія і крычалі: «Гура! Гура!» Запальвалі хаты, кап праз дым нічога ні было відно. Юрчыкавуй Насьці ў гулду* папала пуля, і ўсе людзі на ямы ў паграбы пабеглі хавацца. А ў нас не было пограба, цяшко мы жылі, і я ў аткрытую яму схавалася. А зорно, толькі зямля – сып, сып, а пулі – ф'ю, ф'ю... А я ў адной сукенаццы, засыпаў міне пясок. Немцы з арудзямі, с тангамі, а панічыха ў рове сядзела і папаўзла яна каленьмі. Немцы пусьцілі п снарат, яна кажа: «Панічыку, гэта нашыя цывільныя людзі». І яны пусьцілі снарат на Таўкаліцы, дзе былі рускія салдаты, а ні на вёску. Калі атступалі, выпусьцілі дысантаў с самалётаў. Сьціх наранкі бой, кругом салдаты пабітыя. А Паўлюк Лошчын гукае:

«Людзі! Хто жывы, вылaсьця!» Каля магілак Барташово гумно было, ляжыць адзін, другі наш салдат, картачкі параскіданыя. А я падабрала і схараніла. Потым пасьля вайны да Галі Каралёвай прыяжжаў Генік, кажа: «Дай мне картачку. Я ў Мінску па радзіву перадам. Можа, знайду родных». А на другой – украінец, пахавалі яго ў Малькавічах. Потым пасьля вайны прыяжжала маці, брат і сястра. А ён быў пахаваны ў лесі. На ём вырасла рамашка, вялікі цвяток. Хлопца таго дасталі і пахавалі каля памятніка. А маці рамашку выкапала і сказала: «Павязу дахаты. Сын мой будзе цьвісьці са мною...» А на выгані ў нас, каля Ігнасіхі, сем нямецкіх магілаў было. А потым іх аткапалі і павязьлі ў Германію. А ішчэ... Быў другі дзень Калят. Твайго дзеда сястры дачка Воля, партызанка, у гміне* служыла, прыехала з жаніхом васточнікам ў госьці. А бункяра зь немцамі ў Дзярэчыне, у Курылавічах. А яны прас Азёркі сюды прыехалі. Я была ў каваля тады. Усё відно. Ехалі па вуліцы, так ганарово двaіх сядзелі; конь чорны, харошы, брычка натто красіва. Яна ў новум кажушку, папругай патпяразана. А нехто сапшчыў. Пабылі мало. Тут кажуць, паліцманы* с Курылавіч. Яны хацелі ўцякчы зноў на Азёркі, а іх акружылі, і яны – на выган. То яго адразу забілі, а яе ранілі. Але яна прытварылася. Боты пазьдзіралі, нагой штурхнулі і пашлі. Тады яна папаўзла ў гумно да дзеда, дзе авечкі, і схавалася. У нашай дзярэўні былі каторыя прадаліся ў паліцманы. Стэфан, Тамашоў брат, Дэгунаў Валодзя, Лавік, Долік. Так прыйшлі, сабакі, знайшлі... Як доў каторы-то прыкладам па галаве, і забілі. Дзет зрабіў труну з дошак. Хавалі назаўтра, так босу ў насках, і кавалера разам. Патом маці праз паўтара года рашыла дастаць і пахаваць ў сваёй вёсцы, у Мілявічах. Бацько, Блажэй, вучыцелем быў. Труна, як і закапалі, так і была цэлая. Усе людзі чысто* былі. Аткрылі, а там – папялок. Дзьмухнулі – як павуцінечко. Ногі яе белыя-белыя былі. А то ўсё чорно, як у пелюсьцях* сажа. Але і с паліцманаў ніхто ні астаўся жыў. Лавіка граната разарвала, астатніх пазабівалі, бо много нацярпеліся мы ад іх.

*М.Жогла, 1928 г. н.*
*в. Монькавічы, 1998 г.*

**33.** Цяшко жыцё было ў міне, дзеткі. Нарабілася, нагаравалася ўволю. Алі ўсё кепско забылася. Тулькі добро помніцца. Хаця того кепскаго даволі было. Мая маці памярла, та мне шчэ шэсьць год было, а сястрэ Вальцы – пяць. Нек перат Калядамі мама захварэла, а ўжэ да Вялікання ні дажыла. Ну, та ля, бацько нізадоўго ды зноў жаніўся. А мачаха натто кепска папалася, ніяк нас ні шкадавала. А як у яе свае дзеці знашліса, та мы ў іх за няняк былі.

Дзяўчата ўсе на сяло бягуць, гуляюць, дзыгаюць*, а мачаха наша ўсё адзеня пахавая і ні пускaя, кап яе дачок калыхалі. Купіць, бывало, ім пранікаў ці шчэ чаго смашнаго, павесіць у вузялку на сьцяне, каб мы ні дасталі, і тулькі тады дае, як нас у хаці німа. А нам тожа тых смакаў хацеласо ды і есьці тожа ўсё ўрэмя хацеласо. Так і жылі: сваім дзецям мачаха ўсё лепшо давая, а нам – горшо. Замуж я рано вышла. Быў у нас у дзярэўні хлопяц адзін. Мацей зваўса. Файны такі хлопяц. Многа дзевак меў, бо багаты быў. Зямлі ў яго много было, а гэта тады само глаўно было. Ну й надумаў той Мацей жаніцца. Павёс у нядзельку з адной на запавяць** падаваць. Гэто ціпер заяўленьня падаюць у заксі, а некалі ў цэркві на запавяць падавалі. А мы, дзяўкі, пашлі на маладога ды на маладую паглядзецы. Ну, стаім мы гэдык на ганку. А зну ж выходзяць яны. А Мацей ішоў-ішоў, а патом стаў і на міне зьверху глядзіць, а патом пашоў даляй. А я маладая, красіва была: каса тоўста, сама поўна, чырвона. Праўда, малая была. На гэтым і кончыласо. Алі Мацей пасьля таго да сваёй нажычонай* ні паехаў, а прышоў да міне ў сваты. А я ш шчэ маладая была, сямнаццаць гаткоў тулькі, а ён ўжэ дваццаць сем меў. Алі мачаха рада была, ёй абы з галавы збыць ды шчэ прытом за такога багатага кавалера. Так і пашла замуж. Зара дзеці сталі адно за адным находзіцца. Восім дзіцей выгадавала, а чатырох памярло. Цяшко было. Дваццаць год ні разьдзяваўшыса спала. Алі з Мацеям мы жылі добро, дружно. Натто ён рабацяшчы быў, добры, усё памагаў. А ціпер тулькі жыць. Унукаў даждаласа, праўнукаў. Во якоя яно, маё жыцё.

*І.С.Макей, 1913 г. н.*
*в. Старына, 1987 г.*

**34.** Была велька сям'я: тры братэ і дзьвёх нас. Сястра старэйша Ганэфа была натта хароша. Косы ў яе былі аш па пяты. Ну й прыехалі да яе ў адзін дзень чацьвёры сватоў. Яны коньмі тады ехалі. Коні пазапраганыя ў вазэ. Адзін прыехаў конна, на кане, бяс свата, бязь нікога. Казоў, каб яна вышла на двор, а яна ні пашла і баялася, каб ні забіў. Ну і выбрала аднаго з гэтых, кульгавага на ногу. Яе дзяцька ўгаварыў, каб яна за яго ішла. Яны далі на запавяць**. Другі яе ўгаварваў, што заплаціць тому грошы, кап яна за яго ішла. Палічылі грошы. Стоў тата плаціць. «Шчэ, – кажа яму сват, – за кручок* краскі» (бутэлечка такая была). А яна кажа: «Тата, ні плаці. Я пайду». Тата за грошы і ў кішэнь. Потум забраліся ўсе свае й выпіваюць, называецца бяседа. Па бяседзі той прас тры нядзелі вянчаюцца. Бяруць друшкі, свата. Шмат ні бралі: тры друшкі, больш ніхто ні броў. У тры нядзелі едуць у касьцёл, вян-

чаюцца. Па вяселі том ужэ жывуць. Жыця яе было кепскае: біўся, лядачы быў, піў, братоў сваіх слухаў. Сьвякроў была ліхая. Было ў яе дзіця, дзевачка, і яна пашла ад яго да нас, да бацькі. Пабыла яна мусі так с паўгода і прасілася, каб яе завёз узяць сваё адзеня аттуль. Там усе на яе навалiліся, абвінавацілі яе, й яна засталася зно там жыць. Аля сядно* ні было жыця, сядно біўся, ухопіць за валасэ, накруціць на руку, у яе каса велька была... Прыдзя ён п'яны, а яна залезя на печ, кап ён яе не дастоў, сядзіць і лая. Бедна яны жылі. Паехаў у Шчуцін на базар, купіў парася. Ну й ехаў і згубіў яго. Прыехаў дахаты – німа парасяці. Сказалі тут нам, што згубіў парася, я пашла, а яна сядзіць і плача. Ну, чым маглі, тым памаглі. Во як цяшка ёй было. Я й кажу, што найлепшы замуж, то найгорша дзявоцтва. А пра такі замуж, то й німа чаго й казаць.

*А.К.Бакун, 1913 г. н.*
*в. Мікелеўшчына, 1993 г.*

**35.** Такоё маё жыцё. Расла ў велькуй сям'і. Было ў сям'і пяцёро дзяцей ды шчэ ўмярло двоё. Бацько і маці мелі актараў два зямлі. Хлеба бракавало. Хадзілі на наём да багатых людзей, жаць, капаць картофлі*. Хацелі зарабіць на адзежу, бо с сваe гаспадаркі адзецца і абуцца ні маглі. У паноў у дварах рабіць было цяшко, а плацілі за дзень работы за капанё пісят капеяк, а за жніво – два злоты. Замуж вышла за беднаго, у яго зямлі было шчэ менш, як у міне. Жыла ў яго сям'і. А сям'я была велька: дванаццаць душ. Ні ведаю, як жылі б даляй, ды пачалася вайна. Немцы прышлі ў сяло. Было страшно, думалі, усіх паб'юць адразу. Немцы сталі вывозіць у Германію маладзёш. І нас вывязьлі тожа. На той час у нас ужэ была дачка Зіна. Нашу сям'ю забраў пан у свой маёнтак. Тут мы з мужыком рабілі на полі. Тут я нарадзіла другую дачку. Ніхто ні даў мне пасядзець каля дзіцяці. Пойдзям, бывало, у гарот, зельля ішчэ німа, ні вырасло, а пані застаўляла грапці землю рукамі, гэдак палоць. Палю, а сама думаю пра сваё маленько дзіця, бо пакідала яго с старэйшаю дачкою Зінаю. А было ёй тады только дзевяць гот. Гэдак было, пакуль пачалі наступаць рускія. Немцы сталі ўцякаць і нас с сабою павязьлі, а посьля мушчын вярнулі зноў у маёнтак малаціць. А міне зь дзецьмі атправілі ў лагяр. Была ў многіх лагярах. Часто бамбілі. Уцякалі ў падвалы, хаваліся. Только пачуям «Алярм!» – дзіцей на рукі і бягом у падвал. Дзіця было маленько. Нагрэю падушку за пазухаю ды й закручу. Алі, дзякуй Богу, выжыла і прывязла дадому. Кончылася вайна, атправілі ўсіх дадому. Дарога была цяшка, бо калеі пабітыя. Куды вязуць, сама ні ведала. Скінуць у полі і чакай, пакуль даляй павязуць. Дабіралася дахаты

чатыры месяцы. Пасьля вайны пашлі ў калхос, бо выжыць было цяшко. І ў калхозі першыя ракі* было тожа цяшко, бо плацілі мало. Алі с кожным рокам усё было лепш. А потым і зусім стало добро. Ды жыць ужэ мало засталосё. Много лет ужэ пражыла. Усяго нацярпелася: і холаду, і голаду, і збыткаў*. А ўсё жыву. Ні знаю, у каго заслужыла гэдаку павагу, у Бога ці ў людзей.

*К.Ф.Мандзік, 1911 г. н.*
*в. Самуйлавічы, 1996 г.*

**36.** Атступаў полк. І яны думалі ўжэ: перапынім і разаружым. І гэта, запынілі тут у Дубніцы, акрас каля мосьціка. Гэтыя палядзелі, што много, па гэтай Дубніцы бягом. А тыя давай страляць, давай паліць. Спалілі Асанікаў, Крупянкаў, асталіся Драздэ. Пабеглі, наша крайня хата, і яшчэ с-пад нашага гумна давай страляць! А ўжэ галава калоны зашла, ак дзе каровы зганяюць. А стаяў пат хатай плух, так с пулямёта пабіў усей плух, так метко страляў пулямёччык. Ну ўжо ў хату як сталі страляць, пулі сьвішчуць, мы за... Хатка была маленька. Усё акно пабілі, усей вугял. Пат хатай плух усё ён біў, думаў, пулямёт. На заходзе сонца гэта было. Там была хата, токо ні так стаяла, як гэта цяперака. Прыехалі – мы ў хаці. Патпальваў, патпальваў – ні гарыць. А ўсё было ў шырэнх* пастрояно: хата, хлевушок і яшчэ пры хлевушку сено клалі. Двое. Адзін як кінуў гранату ў сено, тады загарэласё. Мы ўжо вылязьлі, як стало гарэць. І сразу бацька і гэтая паклалі растрэльваць. Я стаў прасіць, та мне як даў нагой, та я ляцеў ад яго. Паруччык с цагельні выяхаў і пачуў, што мы равем, і як закрычаў: «Ні ччэляць! Бандыты на той строні!» І гэта ш паслухалі паруччыка. «Шчасьце ваша, што паруччык», – і паехалі. Так бацька с тым астаўся жыў, а так пастралялі п. Але хату спалілі, толькі гумно асталосё. Патом сем лет жылі па чужых хатах, пака ізну ўжо бацько паставіў новую. Прышлі саветы назаўтра. Ні было ніякой помашчы. Там далі, мусіць, нека адзіяла. Калхозы патом сталі арганізаваць. А што тыя калхозы? Бедныя тыя калхозы былі. Усё зьбіралі ў людзей: та жняяркі, та коні, та вазы. Як сявоня помню, с красным флагам ехалі сеяць. У саракавом гаду ўжэ пачаўсё калхос. Арадром немцы ў сорак трэцім гаду пастроілі, на вясне пачалі строіць. Патаму што жыто шчэ было нівелька, і ужэ сталі строіць, то гналі па жыці каровы пасьвіць. А ў Чарлёнай быў тады ўжэ арадром. Як пачалася вайна, каторы самалёт быў запраўлены, у таго варужэньня – на прафілакціку. Пару ўзьляцело, але іх пазьбівалі. Як наляцело, та што варонаў, бамбілі арадром. Мы жылі, як немцы наступалі, ужэ ў сяле. Жылі ў дзеда, у маціранага бацька.

Хадзілі на кустоўку каровам даваць. Я ўжэ быў бальшы, як бацьку выгналі на вывас. Усяго, хлопец, паражылі, і засады рабілі на партызан. Раз ехалі з маціраи на кане, та конь першы пачуў, захроп. Калі бачу, ляжаць с кулямётам. І мы ш прайшлі каля іх самых, і яны не аказаліся, на гарэ, дзе каровы ганяюць. Я першы, та ні так спалохаўся. Маці як спалохалася, та прышла дахаты – гаварыць ні магла, баялася, што застрэляць.

*Н.П.Касценка, 1928 г. н.*
*в. Дубна, 1996 г.*

**37.** Раней жылося цяжэй, чым цяперака. Я акончыла чатэры класы і далей не магла вучыцца, бо трэба было далёка ісьці ў школу. А ў мае мамы была велька сям'я: было нас шасьцёра. Лёхка мне давалася матыматыка. Мяне запрашалі вучыцца далей, але не было сродак ісьці вучыцца далей, і прышлося ісьці служыці да пана. Так як была малая, та працавала за кусок хлеба, лушчыла пасолю, драла пер'я. Рабіла ні быля*-як, сумленна. На другі год ужэ падрасла і вазіла на кане малако ў горат. Было натта цяжка с канём спраўляцца, але мусіла рабіці. Гэта малако прадавала за квітке пастаянным людзям. Мне яшчэ ні было спаўна шаснаццаці лет, як я ўжэ пайшла працаваці на завот. Ні хацелі мяне браці, але маці стала плакаці, прасіці. І так пачала працаваці на заводзі. Праца была добра. Ну наступіла вайна, немяц напаў на Польшу ў трыццаць дзявятым гаду. Затым выйшла замуш, нажыла двое дзетак. Жызьня была п лепша, але ў шэйсят фтарым гаду пахавала сваю пару. Ізноў усё рабіла сама. Выгадавала дзетак, давяла да ладу. Цяпер на пенсі, гадую ўнукаў і праўнукаў.

*А.Я.Каспяровіч, 1920 г. н.*
*в. Малыя Сцяпанішкі, 1996 г.*

**38.** Спакойно пашлі, нічого ні было. Бацько с кабыламі быў, а я зь дзецьмі. Прышоў немяц і вады прасіў. Хазяін даў, а нам страшно было. Аля немяц тылько: «Данке! Данке!» Балотам ішлі. На балоці стаялі таборы, вазэ. Салдаты былі цывільныя і кажуць: «Куды ты, жэншчына, ідзеш?» А я тылько галаву зьгінала, кап ні дало па галаве снарадам, ні было сілаў ухіляцца. Божа, спасі! Мы тако вышлі. А Хамічэ гарэлі. А табораў много, як ягад у лесі. З малым ішла і ні помніла, і ні знала, і ні міне Божа зьбярох, а дзіцё п, думала, што снарады велькія, жалезныя. А яны былі бліскатушчыя, харошыя. І дарога была шырока, брукі. За адным брукам яма вырыласа, і зямля ляцела на небо. Аднаму салдату пяту адарвало, і клікаў: «Паша!

Сева!» Трох салдатаў ішло. А мне шкада было іх маладых. Як мне было страшно!..

*М.А. Урбаш, 1918 г. н.*
*в. Стральцы, 1996 г.*

**39.** Раскажу вам, дзеткі, як жылі пры Польшы**. Да сямі гадоў вам нічога ні скажу, бо нічога ні помню. Булкі і цукерак ніколі ні ела. У сем гадоў трэбало* ў школу хадзіць і каровы пасьвіць. А цяплом было цяшка пасьвіць, дзень пойдзяш, два дні ні ідзеш. Цалы гот пасьвіла каровы, ат Калят да Калят. Да дванаццаці гадоў я пасьвіла і ў школу хадзіла. Чатэры класы скончыла, а потым трэбало да паноў хадзіць. Два гады прабыла ў паноў, падрасла, стала жаць, хадзіла садзіць лес, стала зарабляць грошы. Заработак быў очань малы, трэбало цэлы дзень матыкаваць поля за восімсят грошай. Трэбало ўжэ адзявацца, ужэ пятнаццаць гадоў стала. Трэба думаць, што трэба праць ды ткаць. Цэлы дзень жала жыта. Чатэры дні трэбало жаць мо сотак тры. А потым цалу зіму абрабляць гэты лён і прасьць, і ткаць. Было цяшка прасьці: і пальцы прапрадалі, што ішла кроў. Так спаць хацелася, што, кажацца, кап выспацца, нічога на сьвеці** ні хацела п. Прасілі ў мамы, кап дала паспаць. Усё было самаробная, ні магу я вам перашчытаць, бо купіць ні было за што. Калі купіш што з лахманоў, то дзяліліся сь сястрой на дзьвёх. Цяшка было жыць ні толькі тым, хто меў мала зямлі, але і тым, хто меў многа. Пут збожа стоіла два злоты. Тожа ні напрадае, ні разгуляяцца, бо мацяр'ялы былі дарагія. А с пуда** трэбало скаціну карміць. Коні зьядалі многа збожа, то, можа, на ўсю Беларусь хваціла п хлеба. Чалавек сам ні еў, а карміў коней, бо слабы конь ні пагарэ. Пасьля падрасьлі, сталі дзяўкамі, замуш ніхто ні хоча браць. Насватаюць тую дзеўку, у якой больш зямлі, і кавалер едзя ў сваты. Ніважна, якая яна, абы ў яе зямля была, бо людзі былі безьзямельныя. Алі я пашла за такога, як сама. Дзякуй Богу, жылі добра. Пашла замуш у саракавым годзі. У гэты час людзі сталі думаць і жыць па-другому. Ужэ да бедных дзяўчат сваталіся і багатыя хлопцы. Пасьля сталі ствараць калгасы. Сьпярша пераҗывалі, як ісьці ў калхос, двары ўжэ параспрадзялялі... Як прышлі саветы, стала ляхчэй жыць. Каровы сталі пасьці ў лесі. Я пражыла да дваццаці гадоў і ні разу ні пасьвіла ў лесі кароў. Таксама ні зьбіралі ў лесі ягадаў – прыдзя ляснік, паломіць кошыкі і ягады патопча. Ужэ людзі пачулі якую-то свабоду. Калі арганізавалі калхос, сталі даваць па трыццаць сотак зямлі. Стала хапаць сваёй картошкі, збожжа выпісвалі. Дзеці пашлі вучыцца. Мы ніколі ні думалі, што нашы дзеці павывучваюцца і стануць людзьмі. Раней ні было та-

кога забойства, як ціпер. Ціпер забіваюць адзін аднаго. Нашы дзеці і ўнукі ўсе езьдзяць у машынах. *Я* ніколі ў гэта раней ні паверыла п. Гэта ўсё благадара савецкай уласьці. Раней хадзілі вучыцеля па хатах і прасілі, кап бацька выпраўляў дзяцей у школу, а *я* за польскім** пацалавала старосту ў ногі, то ўзяў у гаспадарчую школу. Было пяць прадметаў. А потым і цалаваня ні памагло, бо ні было чым плаціць. Так што ціпер жалаю маладому пакаленьню вучыцца, вучыцца і вучыцца і быць настаяшчымі грамадзянінамі Рэспублікі Беларусь.

*М.У.Ваўчкевіч, 1921 г. н.*
*в. Галубы, 1996 г.*

## ГРОДЗЕНСКІ РАЁН

**40.** Якрас як хазяін памёр, было дзьве карові. Так тады прызналі адну – бальная, дохтар правяраў. Трэбо вам здаць, ужэ малака ні будзяця здаваць. Шкадавала *я* ўсе, аля нічого, здала. Думаю, *я* ўжэ адна, мне аднае хваціць. Потым цераз два года дохтар сказаў: «Глядзеця, бо можа і гэта быць заразна». Цераз два года прызналі, бралі кроў, і гэта ніздарова стала. Сказаў, што нада здаці і гэту. Так *я* пераживала, хацела падзяржаці. Як хазяін памёр, ашчэ *я* была нека дужайша. Біс хазяіна была *я* сем лет, дзяржала ашчэ кароўу, шкадавала здаваці. *Ён* кажа, што возьмеце ў калхозі кароўу сабе. Кажу: «Людзі ні дадуць». Кажа: «Дадуць! Вы самыя ні продайця. Мы ад вас забіраям, прызнаем, што яна бальная». *Я* неяк тут страсла* грошай, за кароўу гэту, за бураке, што палолі, усе зьбірала, зьбірала. Думаю, вазьму сабе маладую. А зно, дзяку Богу, мне вышло тулько мало даплаціць. *Я* ўзяла кароўку маладзеньку і назвала яе Зорка. Мне сказалі, на машыні згрузім, бо зіма была тадыка, у наябрэ месяцэ *я* ўзяла. Яна мне за тры нідзелькі ацялілаcа, і, дзякуй Богу, такая хароша, удачна была кароўка. *Я* яе прыучыла, хлеба кіну ў жолап. На пашу хадзіць далёко, тутака ўжэ па гуліцы ні было кароў, яна адна ішла, туко выдзе сюды за угал, зараве, *я* скажу: «Зорачка, хадзі, Зорка, дахат хадзі, Зорачка!» Ідзе, так стараяцца і ў хлеў. *Я* яе пілнавала, каб яна такая нірасьцягаўшы была, і чтыры года дзяржала *я* яе. А гэта на пяты год ўжэ цяшко было, сказала: «Буду продаць». Та ўзяў у вёсцы кум мой і сказаў: «Люба, будзяш продаць – *я* забяру тваю карову». Кажу: «*Я* ў сваю вёску ні буду продаць». – «Чаму?» Кажу: «Ай! Будуць тады што гаварыці, будуць бачыць што кепско». *Ён* у вадном канцэ жыве, *я* – тут у гэтум канцэ. Там каля аго пасуцца. *Ён*

ўжэ знаяя маю карову і настояў міне, што прадай мне, прадай кароўу. *Я* кажу: «Ціпер, Міша, продаць ні буду. Ашчэ *я* буду дзяржаць да осяні». Кажа: «Дзяржы, дакуль хочаш, хай сабе і ў хлеў станунць, тулько каб ужэ як на зіму, та прадасі». І Маня кажа: «Хаця ты міне ні падвядзі». – «Не, не, што *я* такая, што буду ўжэ падводзіць». І дзяржала да осяні, да Пакроў. А тады ўжэ пасьвіць халадно было, ні было каму. Пашлі дзеці, ужэ ў інсьціту́ці учацца ўнучкі. *Я* ўжэ сказала: «Забірайця, як будзяця браці!» Забралі і ні таргаваліса, сколько сказала, стулько й заплацілі мне. *Я* ні шкадую яе, хай Бох дае ім што найлепей, бо *я* ўжэ ні дала б рады, цяшко, бо ўжэ вядро вады ледво ат студні прынясу для сібе. Як сьвіням, та ўжэ й дошч нападае, і прыедуць, наносяць мне. Ужэ гэдак апходжусо. Пака дзяржу сьвіня троя, а даляй ні знаю, што будзя.

*Л.С.Свяртока, 1927 г.н.*
*в. Ліцвінкі, 2002 г.*

**41.** Ціпер жыць добро. У хатах чысто, парадак. А даўней дружыны* былі велькія, па дванаццаць душ і больш. Натто кепско жылося. У хатах падлогі ні было, а была зямля. Зямлю пасыпалі жоўтым пяском. Каля сьцяны ў каждуй хаці стаялі сланы* і лавы. А сярот хаты стаяла велька печ. На печ слалі кажухі, гаўчыны і спалі на іх. На зіму пат печ зачынялі курэй. У моцныя маразы прыводзілі ў хату карову з малым целям, бо маразы былі велькія, а адрыны былі халодныя, жывіна мерзла. У хатах таксама было халадно. Стрэхі былі с саломы, окна маленькія, у хаце было цёмно. Ціпер зусім другое жыця. Хаты велькія, сьветлыя, крытыя бляхай ці шыферам. І людзі начай жывуць, усяго хватае.

*Ф.І.Шватро, 1911 г.н.*
*в. Старая Дубавая, 1989 г.*

**42.** Цяшко жылі калісьці людзі, рабілі цяшко, а елі благо: бульва* ды квас. Аля балюча мінуча. А зарас во добро: і кароўка есьць, і хатка, і хароша жыця. А што патрэбна больш старому? А зажыла, дзеткі, усяго: голат, вайна, век пражыла як на баране праехала**. Маці рана пакінула, калі міне було тры гады, а ў хаце яшчэ було чатыры хлопцы. Бацько зноў ажаніўса, узяў кабету нікепску, аля вядома, ні маці. Так і гадаваліса ўсе разам, калі горш, калі лепей, а ні ў доўгі час** бацько таксамо адышоў на той сьвет. Тады зусім цяшко зрабіласа, аля *я* расла вельмі вясёла дзеўка, кажуць, сьпявала добро. Помню, як выйду на гуліцу, засьпяваю, та й зьбярэцца маладзёш на гулянку. А потым братэ пачалі ажэньвацца. Ну тады й забракла* міне месца ў хаці. Во як пасватаўса да міне мой Фра-

нэк, тай панясла зь ім да касьцёла на запавяць**, а яшчэ зусім маладая була. Значала файны хлопяц, думаласа, буў, красівы, стройны. У Франэка майго зямлі троху було, а ў міне – нічога, прышла з адным вузялочкам. Пачалі ставіць хату, а тут дзеці пасыпаліса адзін за адным, пяць було ў міне іх. Старэйша такая файна була, Вандэчка называласа. А як шэсьць гаткоў споўніласа, захварэла, то й памярла. Галота була. Вайна. Дзеці малыя. Аля чалавек, ведаяця, мусіць усё перажыць. Дзеці сталі падрастаць, вучыліса добро. Зь іх пацеху мела. А неўзабаве памёр мой Франэк, засталаса ўдава. Усё жыцё прарабіла ў школі цяхнічкай, людзі міне ўважалі. Зарас дзеці ўзрослыя, паажэньваліса. Маю ціпер унукі і адну ўнучку. Зарас жыці ды жыці, ды часу ўжэ німа, старая стала. Во маё якоя жыцё.

*А.Н.Марціновіч, 1909 г.н.*
*в. Адэльск, 1995 г.*

**43.** Цяшка маё было жыце, гора было па калена**. У мамы было сем дзяцей. Сама яна вдавою засталаса. Не ведала, чым дзяцей выхаваць. Не было каму землю абрабляць. Калі я мела восім лет, я ўжо пасьвіла свае і чужыя каровы. Мама будзіла рана, і я боса, па халоднай расе гнала каровы. Боса лятала і не харавала. Мама есьці зробіць і ідзе да мяне на поле, а я лячу ў школу. Абедам каровы зноў жану. Потым сястра ўзяла на работу да багатых. Там я падбірала траву за касою. Хадзіла да жыда Бэркмана на работу. Ён быў вельмі добры. Хто быў натта бедны, таму даваў наўпярот* пара злотых. Потым была вайна. Якое пражыця вайною было! Голат, холат. Як немяц стаў наступаць, забівалі, палілі, бамбілі, рабавалі. Людзі зь дзецьмі маленькімі шукалі прытулка. Хаваліса ат бомбаў у будынках памешчыка. Па тыгоднях* сядзелі галодныя, не маглі выйсьці, бо падалі хнарады. Уцякалі ў Шынкаўцы. Бомба за бомбаю. Гарэла збожа. Вярнуласа дахаты, а с хаты ўсё пазабіралі: адзеня, скуры ад авец. Якісьці салдат ляжаў на пячэ. Бывала, прыляціць немяц з нагайкаю і забіраў на работу. І мяне бы забраў, але ў мяне былі дзеці малыя. Нават у маім падворку немцы стаялі. Павырывалі цыбулю, вытапталі ўвесь гарот. Як тыку* што выгадуем, тое й забяруць. Усялякія чолгі*, машыны стаялі вакол хаты. Заляціць немяц у хату і енчыць: «Мама, яек, яек!» А скуль я яму гэтых яек вазьму? Калі немцы ад'яжжалі с падворка, мой спытаў у іх, дзе ш яны паедуць. Немяц пачаў нешта швэргетаць* па-нямецку, пэўна, падумаў, што мой мужык нейкі разьвеччык, хоча даведацца, дзе яны зарас паедуць. Але Стась непрыметна дзесьці ўцёк

і схаваўса. Добра, што ўцёк, а то забралі бы дзе. Стрэчны брат майго Стася нагаварыў на яго, што мой мае схаваную броню* і ўсялякае адзене. Партызаны прышлі ўначэ, выламалі дзьверы і пачалі яго біць прыкладамі. Кажуць, бяры шпадэль*, і пагналі яго за хату. Сказалі капаць яму. Я пачала енчыць, плакаць. Кажу, дзе ж у нас тая броня, адзеня. І яны мне паверылі. Як немца адагналі, стала лепей, але не было за што рук зачапіць. Хварэлі на тыфус. Мо запанаваў гэты тыфус с голаду, бо елі абы-што. Елі гнілую картофлю*, ліст ад дрэва, лебяду, крапіву. Жылі фцале* ўбога.

*Л.А.Жураўская, 1911 г.*
*в. Васілевічы, 1996 г.*

**44.** Стала вайна. Пачулі, што сталі страляці. Сталі людзі казаць: вайна, вайна. А тамака на полі сеялі некаторыя с коньмі. Упярот* не было трахтараў, і коньмі сеялі. Сталі разьлятацца. Ужэ, кажуць, там таго забілі, там самалёт наляцеў, кінуў бомбу. Там, дзе ціперака эта наша кантора, тут быў клуп. Там некаго забіло, маладога хлопца. Там каля саду другога забіло. І от гэдак і вайна. Мы пазабіраліса, кінулі ўсё, пашлі аш тудэ ў Горы Круглянскія. Двоя дзіцей. І тамака сядзелі ў хаце, бо там, у Горах, людзі жылі. Дарога, скрось фронт. Як трохі тут уціхло, вярнуліса дахаты. Ужэ хаты не было. Ужэ хата спалена, каровы пагарэўшыя, усё пагарэўшы. А каторыя паўцякалі, та потым недзе адну карову знашлі на пасьвішча. Яксьці там яна мо не была загната ў хлеў. А бомба дала ў хату, так і ўсё пагарэла, тут тылько наша цэлая, там тая во, другая, дзе Гэнюсь. Алюткава згарэла хата. Гэта Ядзіна неяк убоку асталаса. Вядома ш, было цяшко, ні было нічого. Зьбіралі тыя каласэ тымі коньмі. Коні такія папалі, дзе як цягаецца такі параняны конь. Мы і самыя злапалі* такого маленькаго коніка. Усенькі* быў параняны ат пуляў. Варылі ўсе яму эты румянак* называецца, жоўты, і этаго, і этыя раны ўсе гнілі, гнілі, зажывалі. І гэдак выгадавалі коніка. Гэтым конікам сталі ўжэ рабіці: та снапэ якія былі на полі вазіці, там та другое што. Ну, адным словам, ужэ лякчэй было, як на плячох насіці. Потым недзе другого гэдакаго коніка купілі, нейкія салдаты цягнулі паранянаго. А было ў склепе ў нас трохі скваркі, і зямлёю насыпалі на этыя дзьверкі, і яна не згарэла, асталаса. Ну та тае скваркі далі там салдатам у дарогу. Коніка ўзялі. Ну й далей жылі, усё памалу рабілі, аш пакуль ужэ этыя калхозы. А тадэ ў калхос пашлі. І от гэдакае ўсё, і больш што ш. А ў калхоз былі так, што сам дабравольне, казалі пісаці такое заяўленя, што прашу прыняць у калхос. Ну то от мелі ў хаце двое конікаў, ну та трэба было ш ужо разам здаваці, там неяк і каровы,

мусі, тылько пару, я гэтаго не помню добра. І ўжэ стаў калхос, сталі разам рабіць этыя паля. Ужэ што-то ўпярот былі такія палоскамі паля, і па тых палосках сярпом снапэ... Вазілі коньмі і гэдак неяк жылі людзі. Якога там парася ўкорміш на рок*, та і то добро. Ці мясо тылько калі на нядзелю трохі можна было паўзірацца ці пакаштаваці. Ні гэдак, як ціпер: і каўбасы, і ўсё.

*М.П.Дзюрдзь, 1912 г. н.*
*в. Квасоўка, 1996 г.*

**45.** Калісьці ваўке былі галодныя, у саму вёску прыходзілі. Рас вечарам маці прышла ад Будніцкага й кажа, што каля Кавальцовага хлява есьць воўк. Штосьці чмыхая. Якрас Франак паіў коні, тулькі выпусьціў да вадэ – с хлява выляцялі парасята, воўк і панёс аднаго. Мой дзет быў у лесі на рабоці. Кончыў работу і пусьціўса ісьці дахаты. Як вышаў на дарогу, агледзяў, што за ім вядзецца воўк. Дзет стаў, і воўк стаў. Дзет стаў ісьці, і воўк упоруч. Так ішлі вярстоў два. Дзет меў у руках сакеру, аля ваўка ні чапаў, бо баяўса, што прамахнецца, тады воўк яго зьесьць. Так воўк веўса да будынкаў. Мой дзет закалоў сьвіню. Мяса пахаваў і пакінуў троха ў ганку ў шафцы. Я біла масла. Бачу, ідуць немцы. Я спалохаласа. Як схапіла хаваць гэта мяса і ні ўсьпела. Бах на прыпячак. Пасьля тата прышоў у хату і сказаў, што гэта немцы ўвідзялі на гуліцы нашы гусянята і ні палянаваліса аччыніць вароцячка, упусьціці іх у падворак.

*Л.С.Можджар, 1927 г. н.*
*в. Цідовічы, 1992 г.*

**46.** Калі бацька ўміраў і благаславіў сына, то сказаў: «Глядзі, сынку, ніколі нікому ні давай «памажы Божа». Хай людзі табе даюць, тады будзяш багаты». Сын так і зрабіў, нікому ні казаў «памажы Божа». Аля багатым ні стаў. Потым ён паняў, што бацька наказаў яму, кап ён рана ўставаў і рана пачынаў работу, тады людзі, ідучы на поля, будуць казаць яму гэтыя словы. Во, помню, расказвала Гэльця. Ня тая, што жыве на горцы, а што Янусева маці. То казала яна, як хадзілі з бабамі матке фарбаваць да Гродна, то бачыле на Пашышкох чалавека. Сядзіць у чорну шапцы ды сьпіной да іх. Яны далі яму пахвалёны**, а ён маўчыць. Тады ўсім пахвалёны давалі, калі спатыкаліса. Ідуць яны далей. У лесе зноў бачаць чалавека. Прызналі, што той самы. Сядзіць войдзі*, як там. Зноў пахвалёны далі. Той чалавек зноў ня атказаў. Пэўна, што нейкі нядобры чалавек, бо добры атказаць павінны. Але ш во цут, як ён

уперат іх да леса дашоў, бо карочшай дарогі няма. Старыя казалі, што раней на сьвеці ўсялякіх відовіскаў* бывала.

*Б.С.Юрэвіч, 1929 г. н.*
*в. Цідовічы, 1992 г.*

**47.** А ўжэ да вайны, то пака немяц прышоў, горо было. А немяц прышоў – яшчэ горшо горо стало. Стаў людзей вывозіць, стаў убіваць, усяляк. Страшно было, казаць німа чаго. Аднаго ваеннао пленнао та мы нават і хавалі. Ён уцёк з асфальту, як гналі ўжэ немцы, а ён узяў уцёк. Прышоў туды от да нас, падзецца німа дзе. І мы баяліса. Ад немцаў хавалі ў беразі. Там ашчэ з анною, цётка была, што ў Навасёлках яна. Адзін дзень мама носіць карміць у кошычку, другі дзень яна нясе карміць яго. Тато сваю адзёжу даў, бо ў яго ваенна была адзёжа, дзе ш, нідзе ні вылязяш. Тую спалілі, а даў тато сваю адзёжу. Ужэ як дзе зустрэнецца, кап людзі ні зналі хоць, пастароньнія. І от так яго выхавалі, і ён патом нашоў кампаню ўжэ сабе і пашоў. А нас за парцізанаў і вывязьлі. Можа хто дзе й шапянуў, хто ведае. Немцы прышлі, тата забралі, білі так. І маго тата, і там суседзяў усіх на футары мушчынаў да таго білі, бізунавалі*, ледво жывыя. Завядуць на ток, разьдзенуць наголо і бізунуюць. Скінуць штаны, скінуць сарочку, усё скідай і лажыса на ток. А там только як цапамі якімі, аш німожно гаварыць, хай Бог бароніць** як. Тато ўвайшоў у хату і кажа на немцаў: «Ужэ ніведамо яны, пане, я невем». Та бізуном як пацягнулі – мне сёньня ўвачу гэто ўсё стаіць. Ён токо за твар о ўхапіўса, нічого ні сказаў, і пагналі. Пагналі, загналі ў Гронно ў цюрму, пасьдавілі ўсіх там мушчынаў. Мясо кавалкамі атпадало, так зьбізунавалі. Ну, а патом прыехалі і нас акружылі – нікуды нікого. А зімою было – ніхто нікуды ні выдзяш. Акружылі, загналі ванну хату, усе думалі, што мо пастраляюць, аля тады яшчэ растрэлу ні было. Эта шчэ начало, яны забіралі, вязьлі туды, у Германю, на работу перлі, на заводы, на этыя, на акопы капаць. Ой, я спамінаць ні хачу, так натто трунно было. Думаю, Божа мой Божа, ціперака дажыліса, кусок хлеба есьць, дадуць некаго рубля, і чалавек давольны гэтым, ляпей ні можа быць. Я ціпер даражу ўсім на сьвеці, мне ўсяго шкада, от што, мне лахманчыка шкада, мне таго шкада. А я ціперака і есьці маю што, і піць, і дрова есьць, і ўсё, і кажу: «О дзе было горо тады». Ціпер ужэ можно жыць, кап только мір, спакой быў. Хай сабе ну, калі нідастача дзе чаго, от так бывая, што ні так, як мы хочам, аля я та не, ні хачу нічого, мне ўсё добро, от што, усё добро.

*Г.А.Васілевіч, 1929 г. н.*
*в. Сухары, 2004 г.*

**48.** Жыле ўдваіх. Зямле мелі палавіна аспадаркі. Мелі каня, карову, сьвіня, авечкі, куры, два сабаке, катэ, усё хазяйства сваё мелі. Самыя рабілі, ні наймалі нікога. Настаня вясна – трэба йсьці ў поле гараць, сеяць пшаніцу, ячмень, бульбу садзіць. Гэта ўсё пасеям – лета ўжэ натходзіць, трэба йсьці жыта жаць у поле. Сярпамі жалі, ніхто косамі тагдэ ні касіў. Жалі сярпамі, снапэ вязалі, у дзісяткі* ставілі, сушылі жыта. Як ужэ высахнуць гэтыя снапэ, тагдэ ўжэ запрагаям каня ў павоску, едзям снапэ вазіць у адрыну. Як зьбярэм ужэ с поля ўражай, павозім усё, тагдэ ўжэ патходзіць восянь. Трэба пачынаць жыта сеяць. Пасеям жыта – трэба бульбу капаць. Выкапаям бульбу – зіма ўжэ натходзіць. Трэба лён церці, а каля лёну многа работы. Трэба яго давясьці да паратку. І дзеці есьць, гадаваць. Трэба іх глядзець. Трэба й жывіну* пакарміць. Трэба с аспадаром пайсьці сечкі нарэзаць, накарміць каня й карову. У міне было чацьвёра дзіцей: тры дачке й сын адзін. Большыя дзеці карову пасьвілі, сьвіня. А патом падрасьле, пашле ў школу й вучыліса харашо. Каторыя большыя, ішлі памагаць сечку рэзаць, а зну* меньшыя астаюцца ў хаці. Аспадар ні сядзіць удома, работы многа. Усё трэба рабіць самому, а я тожа занята работаю. Як ухаджу з дома, та дзіця менша прывязваю за сьпіну да сталовай наге, а дзіця адно ўдома сядзіць і наробіць, што захоча. Як я вярнуса дамой, пагляджу на сваё дзіця, та я сьлязьме абальюса. Як нам было жыць цяшка. А я ціпер пагляджу, якая жысьць хароша наступіла: малыя дзеці ў калясках, у палзункох, паадзяваныя, паўбіраныя й з мамкамі на вуліцы гуляюць. І ўнукі мае ціпер тожа ніякога гора ні маюць. Жывуць як панэ, у школу ходзяць вучыцца. Мае ўнукі любімыя, натта я іх люблю і хачу, кап янэ харошымі быле на ўсю жысьць. Дай Бох, што п такога гора ні зналі, як я ўсё пераржыла на сьвеці.

*Я.В.Хадунай, 1905 г. н.*
*в. Багушоўка, 1996 г.*

**49.** Было это так. Прышоў я с танцаў, ну, кіно было, а ў нас былі на кварціры ўчыцяля. Там было дзьве дзеўкі: Людміла Іосіфаўна і адна зь Ленінграда. А тут ужэ два хлопца. Прышоў с танцаў я, только лёх, яшчэ ні ўсьпеў заснуць, стукаюць там у ганак, у дзьверы. Ну, я сабе ляжу і нат думаю, што эта за дзяўчатамі якія хлопцы. Дзяўчата ні пускаюць іх. Яны крычаць: «Хазяйку!» Ніхто ім ні аткрывая. Ну а патом сказалі, што ўжэ эта міліцыя, кап аткрылі. Ну і сказалі: «Сабірайцяса». Зачыталі такі закон, што вы падляжыця к высылкі. Маці та стала плакаць. А я гавару: «Рас нада, так нада». Я як бы з радасьцю. Якая радасьць?! Алі ш ні плакаў. Памагаў нам начальнік зьбіраць усё. Можа с полдзьвянаццатай пры-

ехалі. У часоў пяць павязьлі нас у Казакстан. Пояздам ехалі мы сямнаццаць сутак. Сямнаццатага апрэля нас забралі, а фтарога мая завязьлі нас туда. Фтарога мая субота была, а ўжэ заўтра там, дзе мы жылі, быў бальшы базар. Меснасьць называлася Южна-Казахстанская обласьць, а раён – Пахтаран. Пахтаран – эта ў пераводзі с казахстанскага (пахта – эта хлопак, а аран – эта астравок) астравок хлапка. От і там пражылі мы шэсьць с палавінай гадоў. Сначала было трудна, хай яго, было работы. У калхозі трэба было хлапок цяпаць, палоць. Я ні хацеў яго палоць, палоў трохо. А ў осянь – сабіраць. Ганялі міне ў каміндатуру, што я ні зьбіраў. Завязьлі – много нас, цэлы пасёлак такі. Нам папаў некі добры шафёр, там рабіў ён, знаў, дзе хата свабодна есьць. А дошч пірыў*, такі дошч. І ён прывёс нас на самасвалі, на зілу, пат тую хату, кажа: «Я знаю, дзе кварціра свабодна». І мы разгрузіліса там, а людзі сядзелі пат кантораю, нікаторыя на дажджэ мо сутак двоя. Каго ў сараі патом памясьцілі. Нам добра кварціра папаласа такая, ну, аднакомнатная такая кварціра, алі ш та ні на уліцы. Збудавалі печку сабе на уліцы такую. Утрам, як усталі, наехала тых казахаў. Языка ні зналі. На конях усе, вярхом, з этымі бізунамі. Нешта лахуцяць*, ні паймеш што. Не-не-не, нічога німа, грошаў німа. Што ты, голат, уміраць трэба з голаду. Такі быў кепскі, бедны нагта калхос, страшна бедны. Алі ш нек выжылі. Выжылі, дарагая, от. Патом я ўжэ пашоў у школу міханізацыі, як-та, ну, пазнакоміўса зь дзірэктарам эмтээс. Далі напраўленя. Як прыехаў аттуль, кварціру другую перамяніў, ужэ лепшу палучылі кварціру. А патом, патом перабраліса ў этат, у эмтээс. Там ужэ нармальну кварціру далі. Хата с паталком, крыша. Сястра стала рабіць ужэ. І ўжэ нам пашла жызьнь. У пійсят сядзьмом гаду вышаў укас аб асвабаджэньні нас, што маям права вярнуцца дахат, на Родзіну.

*Р.С.Ханевіч, 1931 г. н.*
*в. Мількаўшчына, 1996 г.*

**50.** Цяшко жыцця было ў міне і ва ўсіх нас. Мы жылі ў лесі. Была ў нас парцізанка*. Парцізаны, бывало, прыходзілі да нас у дзярэўню. Потым немцы ўзналі, што была такая вёска Засады. Сталі пільнаваць. Парцізаны ўзялі патстрэлілі немца. За гэтаго немца ўзялі немцы сярадня* загналі ўсю вёску ў адну вулачку і хацелі пастраляць, але потым атставілі. І тады гэта вёсачка пайшла да парцізанаў. Пайшлі ўсе, разам пагналі скаціну, панесьлі судзя*. У хатах ні засталося ні скаціны, ні людзей, толькі ночу нікаторыя прыходзілі чаго-кольвечы ў вёску. Немцы дазналіся. Ну й нек мы й нікаторыя нашы суседзя прыйшлі хлеп рашчыніць, сьпячы.

Немцы сьпеціяльно ўстроілі абл*а*ву. Некалько ўцяклі ў лес з гэтым хлебам, аднаго ўбілі. Так і жылі ў лясную парцізаны. А шчэ нек раней у нашай хаці патстрэлілі немца. Ну вот, мы палянглі спаць ужэ. Чуям, стукае нехта. Мама аткрыла, зайшлі немцы і заказалі варыць ім есьці. А парцізаны стаялі прас хату ў гумне Мацеявых. Мама падняла нас, і эта мы давай варыць бульбу, кашу. Мама завесіла фіранкай акно, кап ні было відно агня. Парцізаны прыйшлі, акружылі хату. Мама якрас выйшла паўлядацца, ці німа каго. Яны і кажуць, кап мы ўходзілі, бо яны будуць страляць немцаў, уб'юць і нас. Тады мама ўходзіць у хату і кажа: «Дзяўчата, уставайця, каровы пайдзем у поле гнаць». Мы бягом у прыстань*. І чуям: «пах-пах!» у нашай хаці. Калі прыйшлі ў хату зноў, было ўсё ціха, толькі ля лавы ляжаў забіты немяц. Мы зацягнулі гэтаго немца ў бульбяную яму. Яма была кепска, у ёй падзяла* ўваліліса. Ну так закапалі мы там таго немца. І па сёняшні дзень ён там ляжыць. Людзі доўгі час абмылялі гэта места. А потым мы хадзілі па хатах, суседзях, бо баяліса, кап немцы зноў не прыйшлі, а ўдзень хадзілі жыто жаць. Ай спакутаваліса людзі церас гэту вайну. У парцізанаў, помню, было радзіво, а мы хадзілі і слухалі, ці далёко фронт, пільнавалі. У пасьледні вечар пайшлі, ажно ў Мінску фронт. Расказалі нашым. Як пачалі біць у кацюты** тыя ат радасьці! Ой Божа ж мой, сколькі гадоў прайшло. На месьці нашых Засадаў усё зарасло. Ціпер там гуш галавы не ўсуня**. А як станеш спамінаць, здэцца, учора гэта ўсё было.

*М.С.Кузьміч, 1929 г. н.*
*в. Парэчча, 1996 г.*

## ШЧУЧЫНСКІ РАЁН

**51.** Ты ведаеш, дзеткі, як было цяшка раней нам такім вось маладым. Цяпер дзяцей пястуюць, усё яны маюць. А мы некалі ну пачці нічога ні мелі. Цяпер вось табе маці кожны гадок купляе новыя боты, ды ўсё здатнейшыя рас за рас, а нам нігды* такіх ніхто ні выкупляў. Мы ш за польскім** жылі ў той час, дык тата на лета нам лапці плёў, а на зіму калодачкі драўляныя. Так во і хадзілі; абматвалі ногі ў ганучы, бо што яны грэлі, тыя калоткі. А тыля* было, што абмарожвалі і ногі... Гэта ш Стэпка с футара так абмарозіла, што адняліся. Ат, раней і людзі былі больш здаровыя, чым ціпер. І ні дзіва, што вы хварэяце гэтак. Ходзіце бяс шапак, што ты, што маці, дзе ш ні захварэць. Бывала, я некалі як закутаюся, та тока вочы відаць. Я нацярпелася гэткі і ў холат рабіла. Усё цяр-

пелі. Мы та жылі больш бедна, а ўжэ як ажаніліся, та ў дзеда хоць хлеба было. Ну што ш, дзеткі, а ў дзеда ўжэ твайго адныя мушчыны. А як пажаніліся мы, та добра жылі. Яды было. Рабілі та мы цяшка. Яшчэ і лён жалі рукамі. Ой, цяшка! Але што зробіш, прыходзілася трываць. Цяпер дзецям толькі вучыся ды гуляй, сілы набірайся. Яшчэ як на вёсцы дзеткі работу якую ведаюць, а вам і зусім нічога ні трэба. Мы зь дзедам та ні адно ні вывучыліся. Ён сем класаў кончыў, а я чатыры. Стары ў беларускай школе вучыўся, а я ў польскай, але ўмею ні горш за яго. Мы та мала што вучылі, усё больш малітвы, ну ды чытаць і пісаць. Гэта вам цяпер навукаў столькі, і ведаеце ўсё, як старыя. А мы за работай сьвету не бачылі. А пасьля вайны яшчэ ляхчэй стала. Вайну ўсю я ў хаце прабыла, а кап каля нас бліска баі былі, та не. Гэта дзеда ў лагер з васемнаццаці забралі. Ён у немцаў доярам быў. Прышоў ён дахаты змучаны, рабіць яму цяшка было. Але ш трэбола* жыць. Craраліся, каб дзеці нашы ўсё мелі. Ім ужэ ні так было. Яды хватала, голыя ні хадзілі, вучыліся, ну і памагалі нам. Столькі гэтых трапак было, што і шафу новую купляли, і палову на гору выкінулі. Маці ўжэ як вырасла, та ўсё ганучніку* здавала. А як паехалі вучыцца, та грошай хватала. І па тры рублі давалі, і па пяць. Што хацелі, тое і купляли сабе. Але ш даў Бо дзеткі харошыя. І памагаюць заўсёды, і стыд мы за іх ні мелі. А мы выпрацаваліся, та і пахварэлі зь дзедам. Я кап ні асьлёпла, та яшчэ рабіла п, а дзет зусім ужэ на ногі ўпаў**. Хаця, дзеткі, вы шануйце сібе. Адзявацца трэба добра, бо натта хвораму кепска.

*Г.У.Рымко, 1923 г. н.*
*в. Мардасы, 1997 г.*

**52.** – Заставіла гаспадара масла біць, а сама сядзіць. Во і я паставіла зацерку варыць, а Гэнюсь папільнуе. Во, Ядзя, ні мела я клапатэ, ту во маю. Ізноў гэта дзеўка прыслала пісьмо. Ужэ хоча прыехаць у гэту суботу. А я ні хачу, паршук ніколаты, у хаці ні пратана, дзьверы ні зроблены ў каморку. Хоць павуценя пазьнімаць. Так ні хачу, кап жаніўся. Алі ён упёрся. Кажа: «Мама, вы як памрэця, ту я адзін буду зусім». Што рабіць? Званіць ёй трэба. Хоча, кап спатыкнулі. Алі во што за бабы ціпер, страла іх зная**! Мая хату, дачку, і трэба перціся аш з Воранава сюдэ ніведама на чым. Мусі, якая лядашча. І ні хачу ёй званіць, алі ш хлопяц надумаўся.

– От, Маня, хочаш ні хочаш, а прыедзя і найдзя спосап жаніць твайго Гэнюся. Ціпер яны шустрыя натто. О, як шустрыя!

– Я Зюняку казала: «Ты робіш на комплексі, там бабаў шмат, усватай якую». Янэ да яго прыпалі п. Алі ш зь ім не пагаворыш

культурна. *Ён* *і*х ахрысьц*і*ў. Каз*а*ў: «Т*ы*ля б*а*баў! Як т*о*лькі выпл*а*-та, самаху*о*ну грошы в*ы*цягнуць».

– А шт*о*, Гэнюсь сагл*а*сен *е*хаць мо ж*ы*ць у В*о*ранава?

– *Я* ні хач*у*, алі шт*о* зр*о*біш? Сагл*а*сен. Папяр*о*к ні ск*а*жаш, тр*ы*ццаць шэсьць гад*о*ў хлопцу. М*о* ні зван*і*ць *ей*? Н*е*к прэнтка* цямн*е*я, мо ужэ сп*а*ць лягл*і*. Скаж*у* хлопцу, што ні адвяч*а*лі. А т*о* пры*е*дзя – клапатэ т*о*лькі, карм*і* *я*е, глядз*і*. *А*лі ш т*а*к далёка. *Я*дзя, пазван*і* т*ы* ў Клешняк*е*. Мн*е* каз*а*лі т*а*м нека стар*а*я дзеўка *е*ст. *Я* т*у*ю л*е*пей хацела п, хоць в*е*даць б*у*ду, як*а*я ян*а*.

– *О*т, чаг*о* лап*о*чаш? Х*а*й адн*а* пры*е*дзя, прыгл*е*дзісься. П*о*-тым друг*а*я. Як*а*я панр*а*віцца, т*у*ю і в*ы*завяш.

– Аг*а*, пры*е*дзя як*а*я ляля, ту ні в*ы*ганяш. П*о*тым жан*і*ць трэба б*у*дзя с*ы*на. То ужэ пайд*у*, а т*о* «Унясёныя в*е*трам» прапушч*у*.

– *О*! Х*о*ча сходз*і*ць і кін*о* дагледзяць.

*М.М.Стальмашок, 1924 г. н.*
*в. Гурнофель, 1997 г.*

**53.** У н*а*с у лесі раней пал*а*ц б*ы*ў. Дом б*ы*ў на дв*а* этажэ. Ксенжну зв*а*лі Тарэса, а п*а*на *я*к, *я* заб*ы*лася. Д*о*м б*ы*ў хар*о*шы, круг*о*м сьвет б*ы*ў падв*е*дзены. У *і*х кагэла* был*а* свая. К*у*хня был*а* для п*а*на і для рабочых. А дачк*е* папрыязджаюць з Варш*а*вы і ляж*а*ць у л*о*тках на вадз*е*. *Я*сік* пад г*о*лаву, і кн*і*га на трыбус*е**, і цэлы дзень круж*а*цца. Н*а*с не пуск*а*лі тудь*ы*, саб*а*ку спуск*а*лі. Як с*о*нца сп*у*сь-ціцца, т*а*к і шпацыр*у*юць. Далік*а*тненька падрэзваюць кв*е*ткі. І саб*а*-цы кід*а*юць, а *ё*н папёр у пал*а*ц. *О*й, наўзір*а*ліся за п*а*нам. А як*і* б*ы*ў вазон у п*а*на. К*у*рчык, стыдл*і*вы н*о*сэк назыв*а*ўся. Як да-ткн*е*шся, так *ё*н ск*у*рчыцца, а як ад*ы*дзеш, ізн*о*ў расп*у*сьціцца. Кв*е*ткі ўс*е* за гран*і*цы прыв*е*зяныя. А даж*ы*нкі *я*к інцярэсно раб*і*лі. Па-нав*у*чваюцца багаслаоў, вянк*і* паплят*у*ць да зямл*і* з ж*ы*та. Бярэ п*а*н парапч*ы*ху і танц*у*е, а тад*ы* ўс*е* за сталэ. А *я*к князь аддав*а*ў сваю дачк*у* з*а*муш за к*а*прыля? Шасьцёра к*о*ней запрагл*і* ў карэту, і *я*е м*ы* ўбір*а*лі дв*а* дн*е*. Вянк*е* кл*а*лі ў к*а*жну сьп*і*цу. Як в*ы*йшла мала-д*а*я с х*а*ты, бэлян* *я*е мэтраў дв*а*ццаць ці тр*ы*ццаць цягн*у*ўся з*а*ду. Нас*і*лі яг*о* кьняжанята. Пякав*ы*х* был*о*, мо ст*о* з Варш*а*вы. Пілі, пілі ян*ы* т*а*м, а м*ы* с куст*о*ў назір*а*лі. Злав*і*лі ян*ы* галупк*а*, прывя-з*а*лі ям*у* да наг*і* галуб*у*ю л*е*нту, а *ё*н паляц*е*ў, с*е*ў на кр*ы*шы, і згуб*і*ў *я*е. У пал*а*цы был*о* мн*о*га к*о*мнатаў. Падл*о*га з ц*а*цкаў павырабля-на. І парав*о*е атапл*е*ньня был*о*, тр*у*бы прав*е*дзеныя ў к*а*жну комна-ту. Был*і* ўстан*о*ўленыя часэ, і ўкл*ю*чаныя ян*ы* на пар*у*. Ук*а*звалі на цяпл*о*. П*о*тым *я* т*ы*я часэ скруц*і*ла. Сав*е*ты як прыйшл*і*, пасадз*і*лі п*а*на ў лякаб*у*ю* і павязьл*і*. *Ё*н у Маскв*е* па ангельску дзяц*е*й ву-ч*ы*ў. А ксенжна з *А*нгліі патрэбавала яг*о* ў гасуд*а*рства, і адазв*а*ла

на родзіну. Кнігаў розных было ў пана, і піяніна, што на паліцы, і асопчык* быў рабэнькі. Мы ўсе гладзілі яго, а ён такі іньцярэсны. Як забралі пана, та і палац разьбілі. Весяліўся пан, а мы страдалі.

*Н.П.Мецька, 1931 г. н.*
*в. Новая Спуша, 1987 г.*

**54.** Ну яг жывем? Як прыйдзеца. Цяшка, што ні кажы. Здаровя таго чалавек ні мая, а работу рабіць трэба. Кароўку сваю яшчэ такрок* здалі, бяз малака дрэнна старым, алі што ты скажаш. Трэба й корму загатовіць, падаіць, гной выкідаць. А сілачкі німа. Увесь век працавала: кросны ткала, выбівала, прала кудзелю, вышывала. Усё самаробна было. Сачкі* с сукна шылі, спадніцы ткалі. Зімою вечар доўгі, то збіраліся адны ў адных – разам весялей. Нас мама да працы з малога прывучала. Ойцец* меў два надзелы зямлі, абраблялі яе. Працавалі да цямна. Летам, покуль слонца ня ўзыдзя, бегалі ў Мадушэўскую пасатку па лісіцы альбо па ягады чорныя. Потым роварам кошыкі ў Астрыну здаваць вазілі, усё некая капейка была. У школу хадзілі. Я тры класы за польскім** коньчыла. Алі от, якая там вучоба. Трэба было ойцу памагаць па гаспадарцы. У хаці ўсё паробіш, а потым яшчэ й суседзям паможаш: бульбачку пасадзіць ці бураке церабіць. Замуш я рана пайшла. Алі, дзякуй Богу, ні горш людзей жылі. Пятага ліпца* залатоя вяселя будзя, калі дажывем. Дасьць Бох.

*С.І.Семянчук, 1924 г. н.*
*в. Рыча, 1992 г.*

**55.** Уперат* дурная мода была. Адно коні хадзілі датуль, покуль сьнех ні пакрые. Адзін рас я пасьвіў, схадзіўся сьнех. Я загноў коней, сам пашоў дахаты, сьплю. Назоўтра пачало тапіца. Марцін па міне: жэнь коні ў Будзіловічаў сат, там хароша трава. Сказоў гнаць – я пагноў. Папільнавоў, покуль добра сьцямнела, сам пашоў, сьплю. Коні пасталі на дарозі, яму ні праехаць. Назоўтра пытае, хто пасьвіў. Я кажу – я. Чаму коні хадзілі па жыці? Я ні выдзяржаў: а дзе і дакуль жа ш пасьвіць? Выстай, холат такі. Было пісят капеяк выпісаць каня ў Шчучын з'едзіць. Пашоў выпісаць, а мне гаворацць: сам пасеш – не можаш так? Я гавару: не хачу, выпісаў, то знаю, а прасіцца упражы ў Марціна, хай яно. З старэйшых конюхаў найлепшы быў Казюль. Праўда, запрыдух*, ногу як атставіць, нагаворыць бочку арыстантаў. Кап ты коні пасьвіў і каня першы ні ўзяў сабе. Балбатун быў. Рас пат сьвет** прыходзіць Альбіна і гаворыць, што мацяру ўзяло. Я да брыгадзіра – так і так. Той кажа: вязі. Я да Марціна. Той упёрся: не дам упражы, покуль усе

не пазьбіраюца. Ён аткрыў хамуталаўку*, я сам узяў што трэба і завёз мацяру ў больніцу. Назаўтра міне да прадсядзяцяля: чаму сам узяў, не спрашваў? А я яму кажу, што да дохтара не трэба спрашваць. Цяшка было конюхам. Рас пасу коней с Шымуком. Дошч, холат, а летала сука Лынды, палохала коней. Я стоў пат стрэху, бачу, ляжыць гэта сука. Я ўзёў добры камушок, гэта паткрадуся, дам гэтай суццы. Як доў, а там не сука, а Шымук. Енчыў-енчыў бедны, а я яму ў лэб з усяе сілы. Гэта Бох стаяў**, што не забіў. А так страхаў такіх не было, бо ў хаці кватарантаў дзяржоў. То балотнік*, казалі, вывучыўся на афіцэра, але зачоў піць, і яго прагналі. То ў міне ў хаці Бальтавічок вайлаке біў. І ціпер са старой засталіся, якусь жывем. Но гэта карова, усё гляджу, кап трубы ні папэнкалі*. То масла зьлёпаю*, то дзеці калі дабюцца.

*Л.С.Лагоцкі, 1913 г. н.*
*в. Амбілеўцы, 1996 г.*

**56.** Цяшка было жыцё. Па ўсёй вёсцы людзі былі невучаныя. Калі адзін выдарыцца разумнейшы, то паможа жонт* вучыцца, а так пралі ды ткалі. Адзяваліся ў зрэбныя кашулі, льняныя спадніцы шылі. Прыбяромся, і гэтак было здатна-здатна: с кужаля спадніцу адзенем. На музыку хадзілі толькі ў дзеравяніках* на басанош альбо ў туфлях. Прыйдзеш да дзяцькі ў хату, дзе музыка грая, абуў* з нох пат лошку схаваям, басяком танцуям. Паабіваюць усе ногі хлопцы ботамі, бо яны не разуваюцца. На печы газоўка – і гэтак танцуям. Цёмна, мала адзін аднаго бачым, але танцуям цалу ноч. Дахаты прыйдзем, ногі мыям. Буднымі днямі хадзілі на вечаркі с кудзелямі, было весела. Пралі да двух часоў кажны вечар. У каго лямпа, газоўка, а ў каго лучына. Пасярэдзіне сьвяцільнік, лучыну ўткнуў, не трэба яе дзяржаць. Вакол яго дзяўчаты пасядуць, гаспадар лучыну мяняя. Усе сьпявалі песьні ўсякія, весяліліся. Іны рас раставім прасьніцы ды танцуям. Німа гармоніка, то пат балалайкі. Весяло жылося. Хлеп свой, сала сваё, купляць не бегалі па магазінах. Жылі дружна ў вёсцы ўсе. Гаспадыня гарохам, бобам частавала дзяўчат у пятніцу, як пост. Іны рас каўбасу сьпячэ, частавалі кудзельніц. Увосені лён труць у сушні. Бярэ гаспадар пятнаццаць дзевак, якія труць цалы дзень, націраюць на дзьве капы ўсе. Вечарам балююць. Потым перат Коляды лён трэплюць на гарэ* некалькі бабаў. Прычакаўшы лета, выходзяць у поле жаць кожны сваю ніву. Зажынкі – першы дзень. Сьплятуць дзеда*. Нясуць дахаты той сноп. У чыёй хаці маладзіца, дык тая ўжо вешая падарак сьвекрыве на полі на гэты сноп. Большыя гаспадарэ наймалі, бяднейшыя ў іх патзараблялі. У каго дачок у хаці многа, то сваё пажнуць прэнт-

ка*, ідуць на шыршую ніву да гаспадара, дзе адна гаспадыня, яна не здужая ўсяго зрабіць. Плацілі добра: два пуды жыта на дзень. Кончыцца жніво – робяць людзі дажынкі. Дзяўкі сьпяваюць на полі, уморацца жнучы і давай сьпяваць пат вечар.

Барджэй, барджэй вечар будзе –
Майму сэрцу ляхчэй будзе.
За бор сонца, за даліну,
А дай Божа вечарыну.

Не было калі гараваць за работаю. Кончылі жніво – пайшлі картофлю* капаць. Капаюць перш сваю, потым у заропкі ходзяць дзяўкі. А маці ў хаці атпачывая. Летам за ягадамі хадзілі, за дзень пойдзе маці з дачкою і набярэ кошык і нясе на торх. Прададуць – купяць на сукню, дачцэ шаляноўку альбо другое што. Цяпер замуш толькі рвуцца абы выйсьці, а рабіць нічога не ўмее. А раней хлопцы шукалі гаспадыню, затое і жылі, разводаў не было. Жыве цала жыця. Вось такое было жыця ў вёсцы. Хоць і скупей было, цяшка, але весяло было. Вёска цьвіла. Зарас у добрым жыці замерла, глуха, адны старыя засталіся, што далей будзя, невядома.

*Я.І.Бонда, 1926 г. н.*
*в. Вялікае Сяло, 1996 г.*

**57.** Жалі жыто. Палоскі былі далёко. Зь дзецьмі малымі хадзілі. Бралі калыску. Калыска была зроблена с палатна, апшыта палатном, і тры палкі зробленыя, кап калыску вешаць. Дзіця на рукі бярэм, яду і ідзем. Растаўляем калыску, ложым дзіця і начынаем жаць. Палоска дліная, жнём-жнём – канца не відаць. Аджала далёко, дзіця плача – ні чутно. Жнучы, сьпяваем і ні чуем, што дзіця плача. Прыйшоў да нас Мішутачка: «Памагай Бох, малодушкі! Чаго твае дзіця плача, мусі, яно есьці хоча?» – «Няхай плача, разарвецца, калі палоска астанецца». Круцім перавесла, ложым жменкі, вяжам снапы, а дарогаю едуць мушчыны па снапы. Адзін мужык быў такі шутлівы, а бабы далёко ад дарогі жалі. Ён кліча адну: «Гануля! Хадзі сюды, хадзі сюды». Так разоў колькі крыкнуў. Гэта Гануля андарак у зубы** і бяжыць бягом да дарогі, думае, мо што зрабілася ў хаці. Прыбегла і пытае, а ён кажа: «Памажы Божа!» Яна плюнула, пашла назат, плетучыса, і кляла яго: «Кап цябе халера, што ты мяне абмануў. Я бегла што дух стаіць**, думала, мо што там у хаці зрабіласа». Так мы жалі аш да вечара. Пад вечар збіраем снапы, носім і ставім дзесяткі*. На заходзі слонца збіраемса дахаты. Дахат ісьці далёко, бярэм дзеці, калыскі на плечы і ідзем. Прышоўшы дахаты, трэба ш ахожвацца*: каровы, сьвіня. А тут сьвякруха яшчэ бурчыць, чаго позно прышла. Трэба ахожвацца

быстрэй, сьвіня крычаць, каровы с поля папрыходзілі, трэба даіць, вячэру варыць. Вячэру варылі вечарам на падворку, ставілі трыножак, маладую бульбу капалі і варылі. Так было заведзяно: на падворку ўсе варылі вячэру. Вот такоя даўнешнае было жыця.

Калі я была малая, мела ўсяго два гаткі, памерла мая маці. Бацька ажаніўся другі раз на бабі, якая мела трое дзяцей. Я была для яе чацьвёртая. Яе я лічыла сваёй мачахай, з бацькам яна была добрая, а мяне не любіла. Што самае лепшае, андавала сваім дзецям, а горшае андавала мне. Калі аднойчы прышла да мяне цётка прасіць, каб я ішла вучыцца на швяю, але мяне мачаха не пусьціла і сказала, калі я буду сядзець у хаце, то больш будзе толку. Мачаха мне андавала адзеньне тое, што насілі яе дочкі, а ім купляла новае. Аднойчы прышлі да мяне сваты, але мачаха за гэтага хлопца не андала замуж, бо яна хацела, каб ён браў яе дочку. Мачаха андала мяне замуж за хлопца, які быў напалову старшы за мяне, але нігледзячы на возраст, мы жылі ў згодзе.

*Сідлярэвіч, 1907 г. н.*
*в. Замасцяны, 1994 г.*

**58.** Жылі на аспадарках. Каб абрабіці аспадарку, трэба была сіла, кап было ўсё. У хатах было па дзьве ці больш сям'е, у каторых болшыя, у каторых меншыя. Дзе сям'я болша, там абробяць скарэй зямлю, дзе менша, гарэй было. У каго зямле было больш, той быў багацейшы, той наймаў сабе работнікаў, ішлі яму адрабляць, кап ён даў пут жыта. За той пут трэба было дзён два ці тры жаці яму. Як настае лета, то людзі падгатаўліваюца, зубяць сярпэ. На руку, бывало, завязваюць такі касьнічок з разных нітак, кап харошанькі быў, гэта азначало, што пры касьнічку ні зажнеш руке. А ўжэ жаці выходзілі ўсе с хаты. Мушчыны адзявалі белыя сарачке, а бабы ў белых блусках, у белых хустках, хвартушке патпяразаныя, кап азначаласо, што гэта ўжэ лето. Бралі с сабою дзяцей, яду. Малым дзецям такія калубелькі. Апшыюць, як аблучок*, палатном, або сьплятуць з лыка, паставяць тры калке, абвесяць радзюшкаю*, павесяць туды калубель. Дзіця сьпіць, а мы жнем. Горач была, за потам ні віно таго жыта. На поля бралі яду, квас такі рабілі: у воду кідалі скарынку хлеба, як яна заквасіцца, та і квас такі быў. Пап'юць таго квасу, і зно жнуць. Як прыдуць на поля першы дзень, та выжыналі спарыш – дзьве жменькі жыта зьвязвалі перавесялкам, ставілі яго ў хаці пад ыконаю на покуці. Той спарыш стаяў на покуці, покуль ні возяць жыта. Як пажнуць жыто і ужэ канчаюць, тады робяць дажынкі. Плятуць з жыта такі вянок с каласоў, уплятаюць квятке, рабіну, прыносяць потым яго дахаты. Тады ўжэ яго

вешалі на аспадара. Аспадар ужэ даваў па кілішку воткі за гэта. А канчаўся дзень, та бабы дахаты ішлі, а мушчыны насілі снапэ і зносілі, ставілі дзісятке. А бабы ў хаці ахожваліся*, давалі скаціні. Прыдзям дахаты замучаныя, алі ш усяраўно* нека весялосьць была. У бутнія дне пазьбіраюцца хлопцы, дзяўчата і сьпяваюць, у разныя гульні гуляюць, с песьнямі ходзяць па лесі, па дарошках да самаго ранку. А ўжэ ў нядзелю ні хадзілі на поля, ні жалі. Пойдуць у цэркву, моляцца, кап Бох здаровя даваў, а як прыдуць с цэрквы, рабілі такія на дзеравах гэйдалкі. Пазьбіраюцца хлопцы і дзяўчата, гэйдаюцца, у фанты розныя гуляюць. А ужэ ўвечары складаліся па столькі там грошай, па сколькі выходзіло на музыку. Потым хлопцы езьдзілі па музыканта. Тады просяць хаты ў каго, бо клубаў тады ні было. Пусьціць у хату які чалавек, тады ўжэ ідзем яму мыям пол за гэта, што ён пусьціў у хату. А хлопцаў назьбіраяцца з другіх вёсак, танцуюць да ранку. Было весяло, хоць замучаныя людзі былі, алі ш ні чулі гэтаго. А ўжэ калі было вяселя ў вёсцы, то маладзёжы збіраласё паўнютко. Прыходзілі ні толькі хлопцы з другіх вёсак, алі й дзяўчата. А нашыя дзяўчата тады злавалі, нашто прыходзяць другія да іхніх хлопцаў, баяліся, кап ні занялі. Калі хлопцы прыходзілі, то гэто было добро. Так і вясяліліся да ранку, а ранкам трэба было ізну ісьці рабіці, бо аддыхаці ні было калі.

*Сідлярэвіч 1907 г. н.*
*в. Замасцяны, 1994 г.*

**59.** Радзілася я ў вёсцы. Мае бацьке былі людзі прастыя земляробы. Я таксама зь імі вучылася рабіць, і з маленства я рабіла, працавала, ім дапамагала. Яшчэ жыта жалі. Яшчэ калхозаў не было, а яны на сярэдзіне загона былі, а мне разорку давалі выбіраць. Я хадзіла сярпом разорку пабірала за імі і ў снапочкі вязала. І ўсё. А патом падрасла. Было мне сем гадоў. Пачала пасьвіць у полі. Сь сямі гадоў пасьвіла ў полі. Сем гадоў пасьвіла. І цяшка было. І ўставаць не хацелася. І плакала. Ніколі міне не адменьвалі, бо часу не было ніколі, бо дошч і холат, і навальніца. А я ўсё раўно жану ў поле, плачу. Ногі пашчапаюцца, боса. Халадно за ногі. Зьмерзну – пагрэю ногі, пасяджу, накрыюся посьцілкаю. І так пасьвіла ў полі. Падрасла, мне было трынаццаць гадоў. Пачаўся калхос, пашла с першых дзён у калхос. Рабіла. С першых дзён пашла ўсё рабіць: і бульбу садзіць, і жаць. Бо ўмела ўсё рабіць: капаць і лён церці. Церніцамі церлі, а патом сталі ўжо і машыны. І машынамі церлі. А прыдзе нядзеля, бывала, – на танцы хочацца. Хоць цяшка, але хочацца. У нас у вёсцы былі два музыканты свае. Кажду нядзелю, суботу танцы свае. Пайдзем на танцы і танцуем

да сьвету**, а заўтра наранку трэба ш уставаць раненька. Бывала, прыдзе восень – бульбу капаем. Мама не глядзіць, што ночай не спалі. Але назаўтра раненька, пакуль у калхос трэба ісьці, трэба баразён чатыры бульбы ўжо выкапаць. Тады ў калхос у дзевяць гадзін ідзем. Такое было наша дзества, такая наша была маладосьць. А патом ужэ сталі, як Юр'е ў нас, Зельна, тады ў нас танцы, гучныя. Тры музыканты, маладзёжы як паназьбіраецца – вясяло, харашо, гуляям, танцуям. Было ўсім весяло, радасна. А ціпер дзе яно што прапала. Сталі рабіць дзіскацекі нейкія. Сталі рабіць гэтыя клубы. А ўпярот гэтых клубаў не было. Гулялі па хатах. Патом вочарацъ устанавілі па хатах. Сталі людзі красіць хаты. Сталі людзі палы выкрашваць. А ніхто ні хоча ўпускаць, кап у хаці было брудна. Ужо давай вочарацъ устанаўляць. Танцы рабілі па хатах па очарадзі. У каго ест маладзёш, ці дзеўка, ці хлопец, давай, пускай танцы. Сёньня ў адных, заўтра ў другіх, трэцьцю нядзелю ў трэціх. Так танцы танцавалі. Ну патом у калхозі як пайдуць. Гэта пазьней сталі гэтыя камбайны па полі. А сначала былі этыя, нейкія малацілкі. Усё на месцы. Прыгоняць да гумна, бывала, ночамі паўключаюць этыя фанары, павешаюць на сталбах. Ночамі малацілі ў гумнах, і саломы тыя панакладаюць. Бывала, дзе калхозныя былі гумна велькія, дзе каторых багатых гаспадароў, такія велькія стагі саломы паробяць, па два, па тры. Эта ці мы кажду ноч, бывала, салому прачаш*. Малацілка малоціць салому тую. А патом дзе-дзе накідаем. Ужо відзяць, як толькі дошч, ідуць нам заказваюць. Вечарам павешаюць фанарэй на сталбах. Ідзем вечарам да часоў да адзінаццаці, да дванаццаці салому прачам тую. Тады прыходзім, бывала ўвосень, капаем бульбу ў калхозі. Выкапаем бульбу – ідзем калаціць лён. Прыходзіць вечар – заказваюць нам ісьці ў лён, бо ў дзьвіне была таксама ў лёні. Усё сваё дзявоцтва была ў зьвіне, аш пакуль гэтыя льны былі ў нас, то ўсё сваё дзецтва, усё сваё дзявоцтва была. І табак садзілі. І ў табаку была ў зьвіне. А якія ў нас зарабаткі ў калхозі былі. Бывае, па дваццаць капеек, па пятнаццаць капеек мы зараблялі на трудадзень. Бывала, альбо заробіш трудадзень, або два, бывае, заробіш. А бывала, і паўдня напішуць. І такое было наша жыце. А ўжо ціпер можна было п пажыць. А ўжо старыя годы, ужо цяшка, выпрацаваныя. А пеньсіі гэтыя малыя даюць. Пашоў бы дзе што-нібуць купіў бы. Бо хоць успомніў бы дзе-што. Якія ш нашыя пеньсіі. Што мы зараблялі ўпярот. Якія нам нашыя пеньсіі падавалі за трут. Хто ні рабіў, а больш палучаў, то той харошыя пеньсіі палучае. Хто працаваў, як дзікі асёл, той такі і пеньсіі зарас палучаюць, што цяшка пражыць. Вот наша і

жыце. Вот мы і пражылі. І так і ціпер. Ні бачылі мы дабра, так і не ўбачым. Ужо скора нам нада ў магілу глядзець. Усё.

*М.І.Багатава, 1914 г. н.*
*г. п. Астрына, 1996 г.*

**60.** У гэтай больніцы была, дзе касьцёл, хачу быць у споведзі. Аш пукі* прышла ў велькі пёнтэк*, позна было, кончылася споведзь. Мне над Бога няма дохтара. Без Бога ні да парога. У Шчучыне ляжала ў бальніцы. Аперацыю рабілі ўвосеньню. Сказаў дохтар: бабушка, спадзяваймыся. А я нідзе не была ў бальніцы. Любачка, не верыла. Усяго пераляцела. Без мамы гадавалася. Была стральба якаясьці. Мама маленька яшчэ дзіцятка радзіла. Дзіця першае ранілі, а потым і маці забілі. Нас засталося пяцёры – тры дзяўчаты. Кап мама была, вечны покуй, то ўжэ і ляхчэй было п нам. Ат васьме гаткоў пайшла служыць. Быле панэ, пры іх служыла. Фальваркі быле, маёнткі. Маёнткі большэ, а фальварак меньшы. Наймалі кароўкі пасьвіці, капаць, усё рабіць. А яны, панэ кракоўске, да касьцёла езьдзілі. Я кажу пані: і мяне пусьціце. Пан, пані ў капалюшы, а я касынку надзену, толькі вазьміце да касьцёла. Я адразу пайшла – каровы пасьвіла. Мусі адзін клас кончыла пры Польшчы**. Ужэ ні спомню я гэтых літараў. Прас дваццаць гадоў замуш пашла. Я сірата, мне німа каму выдаць пасага. Мужык канюхом быў, вёска наша велька, і ўночы іду і памагаю коні пасьвіць. Горачка, пашла на дваіх дзяцей. Гэтыя дзеці, нябошчык іх бацька, людзі праклінаюць, а мне шкода. Дзеці – Гэля старша, Юзік малотшы. Я прышла і васьпітывала. Ніхто мяне не пытаў. Другія дзеці – другое жыце. Раней, калі разводніца, пальцамі запоруць. Даўней і шлюп вазьме, а цяпер памяшаліся рускія с польскімі. Яно факт, гэта ш сёраўно* ш чалавек. Нябошчык мой і па будове хадзіў, і рабіў усё, і канюхом быў, і нага балела. Я казала: ідзі да дахтароў. А не, ён не ехаў нідзе, ганаровы быў. Ён неграматны быў, ён быў на вайну забраны і быў ранены. А раньшэ якія панэ быле: ты бядняк, так цябе не ўважаюць. На цэлы гот на двёх – дваццаць пяць кароў, рана – трынасьце, у абет – дванасьце, а яшчэ які чацьвёра кабаноў-дварнякоў ляжаць тоўстых, две свінаматке. Не мела хваробы, нічога, міленька. Лятонца* была і рабіла. А нігды* нічога мне не балела, любачка. І сьпяшыш на работу, іншы рас плачу. А гэты дзеці, пяцёры было. Нігды не разьдзявалася, кулачок пад вуха, і так спала. І ў печы выпалі гэтымі сағанамі даўнейшымі. Гной свой рабіла. Навалачу два вядрэ, і мне цяшка, пастаўлю, атпачываю і думаю – мне капут. Навалачыла машынаў две гною. А ў нас яшчэ два пляцэ каля хаты было. Адзін

гот выкідалі пляцэ, так больша соткі на поле далі. Хата дзеравенска, раньшэ школа вяскова была ў хаце, яшчэ пры Польшчы, любачка. А які забрані*, як зашлі саветы, усё з нашай хатай, бо вяліка была. І клуп быў. Ну просяцца маладыя, ну як ты не пусьціш. Хлявэ каля хаты памагалі разьбіралі. Тут, з гароду, дачу маглі п паставіць, тут і больш расьце. Зарас там бульба. Баюсь, кап не змарнавалася. Трэба было зрабіць прадуху каля зямле. Упярот ямы гэтыя быле добрэ.

*Якубашка, 1914 г. н.*
*в. Кронькі, 1996 г.*

**61.** Бацька быў у нас от добры чалавек, ніколі на нас ні сварыўся. Гэта пэўна таму, што цяшкае дзяцінства выпала на яго долю. Было сем гот яму, калі маці памерла, а праз два гады і бацька. Застаўся ён з мачахай, у якой былі свае дзеці. Напячэ мачаха хлеба, насушыць сыру, усё пахавае ў кошаль, сваім дзецям дасьць, а яму шкада. Пачалася вайна, кінула яго аднаго, а са сваімі дзецьмі пашла жыць да сваякоў. Прышлося яму туляцца па людзях, пакуль ні ўзяў яго адзін дзяцька з Дашкаўцаў. Быў у таго сын, але бацьку нашага ён шкадаваў. Рас хацеў забраць тату да сібе салдат з Расеі. Ні было ў яго сваіх дзетак. Прыехаў за ім, але ні аддаў бацьку нашага дашкаўскі дзет. Так і застаўся жыць у яго. Рабіў шмат, але ставіліся да яго сям'е як да свайго. А калі жаніўся, купілі зямлі. Тата наш рабацяшчы быў, умеў сам усё рабіць. Каля хаты сат пасадзіў велькі, пчол разьвёў. Жылі мы ў дастатку. А дзеда дашкаўскага мы любілі, яны часта да нас прыяжжалі. Баба сыру насушыць, дзет рыбы наловіць, от нам радасьці было. Мы, дзеці, іх далёка за вёскай чакалі. Мачаха таты тожа прыходзіла. Калі яна ішла, мы пад масток схаваемся, а яна нас кійком пора, каб вылазілі. Ні любілі яе, ні за што да яе ні вылезем. Па тым часе жылі мы добра. Бес хлеба і сала ў хаце ні было. Пабягу да суседзяў, там картошку с саладухай ядуць. І мне хацелася такой. Пабягу дахаты, папрашу мёду, занясу суседзям. Нальюць у міску мне саладухі, і такая яна мне смашная здаецца. Вайну з немцам мала помню, малая я яшчэ была, але ўсяго было, бу вёска каля чыгункі. Парцізаны ўзрывалі часта паязды. Немцы адразу ў вёску. Выганюць людзей на вуліцу і са злосьці расстраляюць. Ту хаваліся хто дзе мох. Мы часта сядзелі ў ямі за гаем. Рас уцячы ні ўспелі. Прыйшлі немцы ў хату. Тату вывелі ў сат, мама і старэйшая сястра выбеглі ўсьлет за імі, а мы, малыя, праз акно ў ганку глядзелі. Пыталіся нешта, а потым сабаку на яго наскавалі. Маці сь сястрою ў енк, загрызе сабака. Я як убачыла гэта, кулём туды. Падляцела да сабакі, схапіла яго за

шыю і павісла. Сабака мяне ні кусала, можа, што малая. Тата тым часам пачаў уцякаць у гай. Пакуль міне аццягнулі ат сабакі, тата далёка быў. Даганяць яго ні сталі. Во як я свайго бацьку ўратавала. А падрасла, дзеўкай стала, на танцы хацелася, ды маці ні пускала. Сямнаццаць гаткоў было. Пабегла зь дзеўкамі ў суседню вёску, маццы нічога ні сказала. Ту яна з дупцом прыйшла туды і пры ўсіх міне пабіла, тады баяліся, кап у падоле ні прынесла**. Натта брытка было. Баялася маці за дзявок. Нас у яе чатыры было. Замуш трэба было аддаваць, па-люцку хацела, ту і баялася, вядома, які ў маладых розум.

*М.Л.Місюк, 1936 г. н.*
*в. Янчукі, 1995 г.*

**62.** Якоя там жыця было. Брата старэйшуга забралі, астаўся я адзін у хаці. Трэба было хадзяйства рабіць, а я паняця ні меў, як плух дзяржаць. Помню, ні ўмеў плуга наставіць, адной кабылай гароў. Поля прыгатую, нек памалу сеяў. Гэдак памалу навучыўся. Касіць ні ўмеў, касы кляпаць. Гот па году, навучыўся. Як немцы прыйшлі, у чэрвені, ужэ тады наша хадзяйства былі палоскі, затым калёні*. За немцамі** людзі страдалі. Да вайны мелі кусок на калёнях, і лепяй было рабіць, уражай быў лепшы. У сорак чацьвёртум немца ад нас адагналі. Так мы рабілі сваё хадзяйства да сорак дзевятага года. Пачалі зарганізоўваць калхос. Зразу казалі, што паўміраям з голаду, а тут надварот. Адразу было трынасьця заяўленяў. Я, бывала, нігды* ні відзяў начальніка, што запісваў у калхос. Як згледжу яго, так праз вакно, і пашоў. Каго паймалі, далі чысту карту, кап расьпісаўся. А як ужэ зарганізавалі, адразу правялі забраня*. Тэсьця выбралі прасядацялям. Назвалі калхос «Новая жыцё». Шмат зрабілі канюшняў. Тудэ завязьлі плуге, бораны і начыналі рабіць. Першай вясной пашлі гараць пад яравыя. У нас у вёсцы былі дзьве канюшні, восім пар коней. Ніахвоча рабілі. На сямяна выбіралі ў хадзяіна на зернавыя і картошку. Так куры і авечкі. Каровы купілі на рынку, штук пяць. Потым пасьцяпена рабілі і зьнялі добры ураджай. Ната добры намалацілі, бо на бульбяніску расло. Так разьвялі сямяна. Ужэ было сваё на другі гот. У підзісят другом годзі ужэ нас скрупнілі, дзесяць вёсак разам, і прасядацялям выбралі маладога агранома. Калхос ахрысьцілі «Жданава». Ён некі палкаводзяц быў ці міністар. Былі кнігі пра яго. У шэйдзісят сёмум годзі зарганізавалі ручны конны трут, зьвяно нат картошкай. Я быў зьвенявы, а Яхант – памоцнікам. У тым годзі ўрадзіла дваццаць пяць цэнтнераў з гектара. За гэта нам далі прэмя, тры тоны бульбы, і міне паслалі ў Маскву на выстаўку Вэдэнха.

Партарганізатар прышоў і кажа: ідзі сюдэ. Сказаў мне, кап я ехаў у Маскву, у хаці наваліліся: прападзеш у Маскве. Але я паехаў у пальці і войлаках. Там усяго відзялі, семсят два павільёны, праве* ўсе абышлі. Назат пашчасьлівілася самалётам. Сама лепяй у памяці, файны самалёт. У Маскве мятром езьдзілі. Пазьней трактарэ сталі паяўляца, трактарыстак поўна вёска. Шчэ табе эпізот скажу. Нам давалі пшаніцу, што мы і самы прыкралі, намалолі, пяклі пірагe з муке і вазілі на рынак у Шчуцін. Поўны вос. Грошы патрэбны былі, для хаты. Хата марна была. Тады добра ўтаргавалі. А ціпер кажуць: землю бярэця. Усё зрабіў бы сам, але ўжэ годы. Німа каму памагаць, маладзёш у гарадах, абіваюца, ні хочуць рабіць. А я жыў-жыў і дажыўся: ні рабіць, ні памагаць німа каму.

*Ф.М.Яцэвіч, 1923 г. н.*
*в. Старынкі, 1996 г.*

**63.** Сколькі ў міне ў сям'і было. Бацькі і нас пяцёра (брата на фроньці забілі), дзьве сястры і трох сыноў. Зямля была плахая, ніхарошая. Сенакосу было дзе-та каля двацаці актараў с пасьбішчам. Пасьбішча было нідзеляна. І лес быў. Тут нарадзіўся, тут вырас, тут вучыўся. Пасьвіў каровы. Як падрос, вучыўся ў Дудоцкай школі. Чатыры класы школы польскай кончыў. Падрос – у лес на заропкі езьдзіў, у лесі рабіў. Тырыў*, як дурань, бо жыць трэба было. Падарваўся, хварэў, у трыццаць дзівятым, як стала вайна, сядзеў у хаці. А ў сорак першым – немцы. Угналі на работу чатэрнаццатага аўгуста сорак другога, забралі ў Васточну Прусію. Нямецкія каровы даіў у памешчыка. У сорак пятым гаду ў январэ месяцы ўцёк у савецку армію, бо дзеля таго, бліска падышоў фронт. Зьнялі зь міне дапрос, і ахвотна пашоў дабіваць немцаў. Далі карабіну і станкавы кулямёт. Каронкі падносіў. Потым заражаючым паставілі. Я быў да канца. Выжыў. Потымака даслужваў. Праз Чахаславакію аж да Венгрыі прышлі. А восяняй дэмалізавалі. Вярнуўся дахаты ў Замошы, у пійсятым годзі ў калхос пашоў. З пійсят восьмага быў брыгадзірам аж да шэйдзісят чацьвёртага. З шэйдзісят чацьвёртага быў конюхам. Пасьвіў, карміў, у семдзісят пятым пашоў на пенсію, ціперака жыву.

*М.М.Антухевіч, 1914 г. н.*
*в. Замошша, 1997 г.*

**64.** Радзілася я ў вёсцы Міляўцы. У нашай сям'і было нас чацьвёро: я і тры сястрэ, Ялена, Ніна, Марына. Жылі мы каля рэчкі, балоцо было нідалёко. Дзецтво маё праходзіло весяло, хоць і бедно мы й жылі. Я шчэ была малая, калі вайна пачалася. У Клачках

упала бомба, пэўна, немцы скінулі, а я, малая, думала, што на нашу хату яна ўпала. Помню, мама нас чысто адзявала, і мы хаваліся ў жыто. Мне ўсяго чатэры года было, ле я помню, як немцы да нас прыходзілі. Але немцы прыходзілі мало, усё боляй з Армі краёвай, палякі. У нас праз рэчку граніцу немцы зрабілі. Тых, хто пераходзіў праз яе, ак зловяць, каралі, а хадзіць то трэбало*, і да родзьсьцьвянікаў, і так. Пасьля вайны ў школу я пайшла. Дзярэктарам быў Паньцілеянка М.К. Ларыса Іванаўна, жонка яго, была маёй першай вучыцельніцай. У школу хадзілі да Будроўцаў. Вучылася я харашо, вурокі не прапускала. Ак мы хадзілі ў школу, то часоў не было. Ужо па пятухах глядзелі, ішлі па трэціх. Іншы рас прыйдзеш, а школа закрыта. Як ты пачуяш, калі тыя пятухі, трэція ці другія. Помню, зіма была сьнежная, у школу ісьці цёмно, а мне натто хацеласё ў школу. І я ана пайшла ды й засела ў гурбу. Потым ужо мама прыйшла і выцягнула. Школу я скончыла ў пійсят трэцім годзі, пашла ў калхозі рабіць. Ой, у калхозі было весяло. Старэйшыя бапкі танцавалі і сьпявалі. Плацілі мало. Ак заробіш, дык толькі зярно. Ак лён, сталі купляць адзеньне, палучалі добрыя грошы, а так у аной сукенцы выхадзіш цэлы гот. Раней жылі мы ў драхлуй хаці, ак пачне дошч, то кругом капало. Акраз у той час давалі дзерава на перасяленьне с футара. Хазяін мой чалавек быў акуратны, дом надумаў пастроіць з блокаў. Але пажыць хазяіну тут было мало, забіла токам яго. Добры чалавек быў. Засталася я адна, надышла над намі цёмная хмара**. Сыну малотшаму тады дзесяць гадоў было, а старэйшая дачка вучылася, другі сын у армі служыў. Хазяйство ў нас было немалое: дзьве карові, сьвіні – усё зваліласё на мае плечы. Церас тры гадэ памёр тато, і мама пераехала да міне, стало лякчэй. Ціпер я на пэньсі. Грошы плоцяць, ды й добро. Пэнься велька, бо ўсё жыцьцё адрабіла ў калхозі.

*Л.А.Белайц, 1937 г. н.*
*в. Будраўцы, 2005 г.*

**65.** Мама адна нас гадавала. Бацька прышоў с спляну, быў там, сядзеў у некім склепі, поўным вады, захварэў. Па дарозі некі sклат абабралі. Прынёс дахаты неку хустку ў палосы, харошу, туфлі з высокім апцасам. Мама ўсё хавала іх, а мы, малыя, скруцілі! Покуль німа яе, надзеням і шнуруям па хаці. Файна*! Бацька хворы быў на лёхкія, ўсё ляжаў, ляжаў – і капец. У той дзень як уміраў, мама хлопцаў недабудзілася кароў гнаць на сенажаць. Яны нанёўшыся былі. Ну тут я пагнала, зьмерзла, потым хлопцы прыйшлі, а я дахаты пабегла. Залезла на печ, дрыжу, на бацьку ўзіраюся, а той глянуў на міне і кажа мамі: «Глядзі, дзевак не абі-

жай!» Адным цяшка было, галадавалі. У Адамчыка ў гумне нека малатарня была. Яны багатыя былі! А мы, малыя, зьверху снапы кідалі ў яе. А мама ў паўкажушкі кішэняў панашывала. Дык мы, каб ні бачыў ніхто, круціліся, як вошы, панасыпаям зярнят ды паўзём дахаты, як жабы. Мама зьбярэ. Як станям малоць на зьмену, а цяшка! Таго камня як пакруціць. А вайной грачыху жалі. Мама ў сярэдзіні, а мы збакоў, дзе менша. Тут самалёт як зашумеў, як зароў. Мама кажа, кап хаваліся, а куды? Галаву сама задзерла, глядзіць, дзе скολькі ляцяць. А куды нам уцякаць? Ёй пат спадніцу галовы пазасыпалі, равём! Дзяўкамі парабіліся – у калхозі работалі, лён церлі церліцамі, хадзілі, рвалі рукамі. Мушчыны сеялі лён, хіба баба так пасея? У сенажаць клалі, на атаўцы, сохнуць. Потым падбіралі, трапалі. Хай яго бомбы**! Цячэ пот па лэбі. Выскачыш, бывала, падыхаяш ды зноў. Дулькі, пыл ад лёну, йдзе ў горла. Потым ткалі, я толькі абрускі ткала. Мама вучыла. Бас яе, бывала, папробуяш – прыдзя, пірыць* нас, што ткалі. А так куплялі шчэ сабе адзеня ці шылі. Штапялю купіць мама, а за што? Мо што прадасьцъ, яйко якоя. У жыдоў куплялі. Цяшка было, але весяло. Дзе якую скарынку ўхопім, яйко разбоўтаям, хлеп пашмаруяш* – смашна. А есьць цёнгля* хацелася. А як рабілі, і ўсё рукамі. Ціпер ні вытрымалі п! Кукурузу кіняш, нагой закапаў – і даляй, і даляй. Ногі паапшароўваяш. А жалі як! Мама дзялак набярэ, мучылася. Жнём. А хусты белыя надзявалі – у абет уся жоўта! Папалакаям, высахня. А рука што подушка, адыдзя – і пашлі зноў. Пад вечар сіл німа, крукам настаісься. Пару воркаў* зярна заробіш. Да касьцёлу ні давалі хадзіць, пілнавалі. А мы – кустамі ля вёскі, хаваючыся. Потым вызываюць, маралі чытаюць, гоняць на тую іхню работу. За дзень наробісься, здэцца, ўпоў бы і спаў. А на танцы хочацца. Дзе тыя сілы браліся. Па вочарадзі* ў хатах танцы былі, у каго больша. Падлогу пірацъ* нагамі! Пылу! Вадой зьлюць – і даляй. Хлопцы калі дзе на дварэ ці ганку выпюць трохі, а так пяныя не хадзілі. На танцах і з Зыгмусям пазнаёмілася. Тады ўцякла ад яго, а ён дагнаў сядно*. А што ш? Кавалер! З войска прышоў, вучоны, ўсё па-руску закладвая, паказвая, што-та я**. Так і замуш пашла. Мама воткі з буракоў выжаня, прадасьць, грошы зьбірала. Каб было ш чым мне лайсьці ў чужую хату. Во скολькі я ўжэ пражыла, а здэцца, усё дзісяй* было. Сасьвякрухай жылі – усё згракам на міне ляцела**. Пат старасьць памякчэла. Памярла яна, пуста ў хаці стала! Ніхто зраня ні поўзая, ні бурчыць. Ну ўсё, наўспаміналася. Хвора я, горла баліць, во зарас папалакаю лякарствам і спаць лягу.

*М.У.Арлукевіч, 1937 г. н.*
*в. Красулі, 2005 г.*

# ЗЭЛЬВЕНСКІ РАЁН

**66.** Наташа прыягджала ў вёску, казала, што ў Старум Сяле кьсёнц даваў шыкаладнае пячэнё з мармалядам. Казала яна, што яны ўзялі тры кілаграмы на душу. Трэба за кілаграм плаціць тысячо. Дае па кілаграму. Яны ўзялі тры, а два атказаліся. Пагэтаму, што будзе палучаць яшчэ ў Бібіках. І мне дадуць кілаграм пячэня шыкаладнаго. Да Вялікеня* далжны палучыць мы. Ужо праз гэто німа чаго гаварыць, толькі ажыдаць будзям. Давай начнем ужэ другое гаварыць. У ваўторак або ў сераду будзям садзіць картофлі*. А соткаў яшчэ ні давалі. Абяшчалі нам прыехаць сьпілаваць ліпу, но ні знаюць, прыедуць ці не. Учора хадзіла ў цэркву да споўядзі. Людзей было німного. Узаўтра думаю схадзіць пасьвяньціць вербачку. Харашо, што Жабрак пад'ехаў і пасадзіў на вос і прывёс дахаты. Як мы былі маладымі, та перад Вялікеньнем хадзілі пяшком на ўсю ноч. Ішло нас много, а як засьпяваюць песьні, усё балото разьлягаецца. Пазапаліваем смальнякі, каб відно было іці да самай Зэльві. Харашо было, весяло, сьмяяліся, а патом хто куды: хто ў цэркву, хто на сабранё ў бапцістыя пайшоў. Некалі было маладзёжу весялей, як цяпер. А назаўтра ўжо хлопцы бяруць музыканта – і танцы. З другіх вёсак хлопцы прыходзілі. Але і біліся. Біліся, як начнуць гвазддацца*, та ледзьве паўцякаюць. А для нас чужыя хлопцы – весяло. Іньцярэсно пастаяць з другой вёскі с хлопцам. А нашыя не любілі, што мы стаімо з другімі хлопцамі. А посьля ходзяць пад вокнамі, сьпяваюць песьні, імшуюць, каб дзяўчына здарова была і ў гэтум году замуш вышла. За гэто давалі ім валачодно* яічка і булкі, калбасу. А яшчэ калі былі маладыя, хадзілі ўзімою на вечаркі, па вочэрадзі. Пралі кудзялі, хто вязаў, хто вышываў, хто праў. І хлопцы да нас хадзілі. І дахаты ідучы прасьніцы нашыя падносілі. Усё, пайду на гуліцу сьвіней карміць.

*В.А.Кананові́ч, 1930 г. н.*
*в. Бібікі, 2003 г.*

**67.** Была малая, каравы пасьвіла. У лесі. Анная. Тры карові пасьвіла. Свою, цёччыну і лясьнікову. Пажану ўжо ў лес, а яны – туды, на гэту пасадачку. Я ні баюсё. Мячыка мне купілі. Нічого. Але ні ведаю, калі дахаты гнаць. Як сонцо сьвеціць – па цені, па шагах. Два шага – трэба дахаты гнаць. А як хмурно – жану, альбо позно прыжану, альбо заранё прыжану. Плачу: «Я больш ні пажану пасьвіць каровы». – «Чаму?» – «Бо ні ведаю, калі дахаты гнаць». Часоў* та тады ні было. Якія тады часэ былі. Ну але ганіла, пасьвіла, бо не было каму пасьвіць. Бацько ляжаў хворы. Пасьвіла.

Андрэй пасьвіў, каня вадзіў пасьвіць. А Маня была маленячка, ляжыць. Ой, гора тады знали, маці зімою малоціць цэпам. Але і добра было, як савецка ўласьць прышла. Я рада-рада была. Кароў ні пасьвіць, ні малаціць. А то пайду, аная* там, тады малая была, а трэба малаціць. Маці плача. Калхос прыйшоў, жыто ўжэ, ля, забіраюць да жнуць. А мы радыя патскокваям, ох, камбайны прыдуць ды будуць жаць! Не трэба малаціць. Пазасеялі калхозно ўсё полё. Паадгараваліся ад гора, ужо добро цяпер.

*В.А.Каўчун, 1932 г. н.*
*в. Чырвонае Сяло, 1996 г.*

**68.** Было нас у бацька дзесяцёра: бацько, маці, баба Хвядорка і цётка Ульянка (замуш ні пайшла). Сям'я велька-велька ў хаці, у гэдыкум горы, у гэдыкум сьціслум. Зямлі много, бацько і маці с поля ні сходзяць**, а тая Хвядорка і Ульянка знай дзісьціпліну дзяржаць. Пасьпеюць картофлі* – сем гадоў ужэ, ідзі накапай кунатку* на вячэру. Канешна, каб дзьве і каб ні больш, а то як больш, то змарнуяш. А малая ляжыць у калубелі. Цяпер вось і стушкі, і малако, і ўсё, а тагды – нічого. Маці напоіць, баба хлеба нажуе, трохо цукру туды і ґанучку зробіць і гэтаму дзіцяці ў рот вапхне, а сама тожа што-нібуць у гародзі робіць, а нам у хату ні ўваходзіць, калі ўваходзіць, то ні енчыць. Вайдзеш у хату, а тоё дзіця мухі апануюць, тую дунду (гэта дунда называлася тая ганучa). Да таго сасе дзіця той хлеп, што анно лапіко тоё стрычыць у році. Баба крычыць, што ні плакало ішчэ, не, ні плакало, а ўжэ зьзело той хлеп. Яна ні пытаяцца, ці высмактало, ці зьзело. Зьзело, зьзело, та там зрабіця, а як ты зробіш. А маці на полі, німа, а яно цыцкі хоча. Прыдзя ў хату, адрэжа кусочак хлеба, пажуе-пажуе ды малака капяльку вазьме, ды на паляц, ды дзіця разьзяўляе рот, а яна яму – рас у рот. Есьць малоё дзіця, алі есьць, тры месяцы есьць гэдыку жувачку. Ну, гэто як малыя. Ужэ як пад восянь, ізноў бацькі с поля ні сходзяць. Сем лет хлопцу, а ўжэ трэба, каб каравэ хлопяц пасьвіў, ужэ жані кароўку пасьвіць, ды яшчэ ні анно сваю, ды там суседзяў сем якіх штук. А рано ўставаць, тыя лапці пака абуя с аборамі, панакручвая тыя аборы. Цяпер гэто раз ды панчоху адзеняш, а тагды скуль тая панчоха, калі якую панчоху зробіш, то гэто трэба, кап свая нітка была. А жане ўрано. Што, ён хлеп с сабою бярэ? Ні бярэ. Якія здаровыя парасьлі. Як дубэ братэ мае. Ну анно дзьве сястры мае ўмярло зь дзесяці, а гэтыя ўсе парасьлі. Ну і ціпер, брат умёр, а гэтыя астальныя жывуць. Ну і прышла тая восянь. Як ціпер школы, а тагды якая школа. Ціпер есьць, ды ні вучацца. А тагды кап вучыцца – дзе там. Анно багатыя, што жывуць, мало

дзяцей, то тыя у Дзярэчын, то ў Зельві наймаюць квацеры, вучацца. Знай, прыдзя восянь. Вясною гэты лён поляш-поляш, поляш-поляш, а ўжэ прыдзя восянь, ужэ так сьцеляш, патом церці яго трэба. Ужэ ў гэтым церніку* яго зноў трэш-трэш, трэпляш, трапачка гэдыка зроблена. Гэтаю трапачкаю гэдык трэба выпіліць, кап каросты* нідзе, страсанеш, каб нідзе каросты ні было. Маці праверыць – добро, добро. О ўжо як мы сабярэмся сь церніцамі, нас там дзяўчат много-много, дзе да каго ў хлеў гэдыкі парожні. У нас быў склеп мураваны, папрыходзім, ужэ там вясельля, ні гэдак, як ціпер.

*Г.С.Лукашэвіч, 1918 г. н.*
*в. Крывічы, 1995 г.*

**69.** Бралі ў Германію. Я яшчэ была малалеткаю. Бралі й маю сястру. Тут ужэ гэдак гавораць, што малалетак трэба аддаваць, бо там паглядзяць, што малалетка, і пусьцяць. Мне было трынаццаць гадоў. На маё шчасьцё, на маю ўдачу, забралі мяне, бо я росла, высока, на тры гады. Першы гот мы пасьвілі гусі, другі – рабілі ўсё, што і старыя і малыя. Тры года пражылі не знаючы языка – нічога. Былі мы разам с пленнымі, садзілі капусту, як у калхозі. На работу гналі зь вінтоўкаю і дахаты гналі зь вінтоўкаю. Мало есьці давалі. Мы ночу картофлі* дралі. Нясем картофлі*, а ў хаці ў дзьвярах немяц з гумаю стаіць. Тагды мы тыя картофлі спусьцілі, рукі гэдако назат залажылі, а ён як пальня па руках, кроў спусьціць. Есьці ні было чаго, кажны месяц з дому пачкі* слалі. Он якоё жыцё было. Гэто ўсё цяпер гавораць: «Німа жыця». О, тагды ні было. Быў у нас немяц повар, а яны сьвінскаго мяса ні елі, але жабы. Смашны суп быў, але як угледзялі тую лапу жабіну, і ўсе-такі застрайкавалі і ні пайшлі на работу, два дні. Ганялі нас, але ні пайшлі. Пасьля такі далі нам свайго повара. Гэдыко мы і жылі. А як дахаты дабіліся, яшчэ горшо дзело. Ідзем самі ні знаям куды. Дзе ні йдзі – немец, дзе ні йдзі – рускі. Немяц сабе пытая, куды ідзем, а рускі сабе пытая. Ішлі, ішлі мы гэдак цэлую весну. Такі дабіліся да лета. У ліпцы* прышлі дахаты. А ў нас хаты німа, адзін попел. Дальбо, гэдак было.

*В.Л.Раманчык, 1931 г. н.*
*в. Падбалоцце, 1998 г.*

**70.** Хай Бух крэя**, як жылі. Пасьля вайны была бяднота, адналічно* жылі, лён абівалі, пралі. Тады калгасы сталі закладаць. Людзі не хацелі, сапраціўляліся. Гэта цяпер усе ў калгасах, а тады падавалі коні, кароў, рабілі ўручную. Жалі рукамі, капалі картоплі

с-пат коней. Трудадзень ставілі, давалі дзьвесьце грам жыта. Бувало, здумаю, як паявіліся плюш, байка, дык адразу панашывалі шапок. Пальтачко пашыла, плашчык. О гэдак і гадавалі дзяцей. Як навару заціграчкі, налажу маслам, і ўсё. Як ацеліцца кароўка раней у каго, насілі адзін аднаму. Шкадавалі, адносіліся добра, у каго няма чаго, дзяліліся статнім. Не було хлеба. Дзяцька нясе бохан велькі хлеба, пака нажнем. А як нажнем, баба нажне снапочкаў раней, пасушым каля плота, намалоцім, цэлы тыдзень ямо, а гумно было далёка. Ды, бало, тоё жыто барджэй* абмалоцім, ды баба напячэ. Але, бало, хавалі сьвіней, смалілі ноччу, бо трэба було гасударству андаць. А ў вайну па балотах начавалі – ішла акцыя*. Бацька не пайшоў да немцаў; ды ў алсі* хаваліся. А мы, матка і нас пяцёро (бацька згубіў нас ды пабег на лес), а мы на Дубраўку валаклі ўсё сваё дабро. Па вадзе халоднуй дайшлі да рова, а роў глыбокі-глыбокі. Мая матка стала плакаць: «Оёй, Сьцяпанко, а што мы будзям рабіць?!» Дзяцька браў і перакідваў нас праз роў. Бярэ і пуляе, а сам у вадзе стаіць. А там на Дубраўцы акцыя*. Усе баяцца трымаць каго ў сябе. Матка бярэ нас трох, а на мяне кажа: «Ідзі, дачушка, дахаты, паглядзі, што там». Даходзім да сяла чалавек трыццаць дзяцей і бап. А немцы дасталі пулямёты, а мы ідзём на пулі, на сьмерць. Даходзім мы мо метраў пяць, і ўжо здэцца восьвось будуць страляць. Паглядзеў немец, што там старыкі і дзеці – і ўсе сваe пулямёты на машыны. А ў сяле ўжо голасам гудуць. А потым быў случай, як немцы на гары* знайшлі нас. Я баялася, пабегла да падругі, палезьлі на гару. І немец туды залес, наставіў аўтамат. Мы зьлезьлі з гары. Галіна ўцякала ў гарот, ды застрэлілі. Іншых дзяўчат пазьбіралі ў Германю. Мае ногі сінія, халадно мне, а я кульгаю. Тых дзяўчат падзялілі, а на мяне кажа: «Ідзі!» А я не магу ісьці, набоі* баляць, на адной назе скачу. А матка баіцца выбягаць мне памахчы. Нам па чатырнаццаць гот было, яшчэ дзяўчуке. Свой гузялок кінула. Пасьля матка забрала той гузялок з лахманікамі. Ніхто яго не браў. Усяго було. Як стану ўсё ўспамінаць – плакаць буду.

*Г.М.Жук, 1929 г. н.*
*в. Вострава, 1993 г.*

**71.** Бало за паншчынаю. Баба твая ўстаня ранянко, падоіць каровы, дасьць сьвіням, паставіць саганы ў печ з вадою ці сьвінураю*, накладзе ў каторы саган сьвінуры, ето картофлі, якія варацца для сьвіней, няскрэбаныя картофлі. Бярэ сярпок і ні еўшы ідзе жаць панско жыто, ідзе паншчыну адрабляць. А ў нідзельку, бало, бацько мой зьбіраяцца ехаць у Зельву на кірмаш сьвіней продаць,

маленкіх парасяткаў, і пытаяцца ў міне: «Цурко*, што купіць табе ў горадзі?» А я ды кажу яму: «Тататачко, нічого ні трэба, але купі мне чырвоныя пацяркі, як рабіна, такія, як у нашае Міхаліны». Аднаго разу, калі ён быў у Зельві, то яму патрафіло* купіць мне гэдыкія пацяркі, як я хацела. І я была натто радаю. А Міхаліна, сястра мая, та і кажа мамі: «Мамо, цяпер ужэ наша Яня будзя паслухмянаю, бо тато пацяркі і ёй купіў».

*Я.К.Ліпская, 1930 г. н.*
*в. Лаўрыновічы, 1993 г.*

**72.** Учорака хадзіла я да Ліды. Гэта сястра мая. Удома скушна адной было сядзець. Хазяйства Галька забрала, дык я цяпер бес каровы й работы ні маю. Дык думаю, схажу малаку паспытаю. Прыйшла, а яны якрас стару сьвіню закалолі. І кажуць мне: «Ты заўшэ* ўгодна трапляеш на ўкусную яду». Я, канешне, адразу дапамагаць пачала. Разабралі кішкі зь Лідаю, паўмывалі, накруцілі каўбасаў, пазаварочвалі ў чыстыя ганучы палянгвіцы*. А кабан добры папаўся. Рулі лець паднялі, кап падвесіць нат печкай. Адразу мушчыны парубалі рабрыны, пазасольвалі сала, косьці і ўсё ў каморку занесьлі. А мы тым часам ражжарылі пачарэвак*. Гэтык смашна паелі. А потым яшчэ пячонкі зь міску ўелі, па тры чаркі выпілі. Дык гаварыць праж жыцё сталі. Успомнілі папку з мамкаю нашых. Ты ўжо, унучка, татку майго ні прыждала, адно бабу Валю павінна помніць. Яна ўсё на цябе злавала, як ты, малая яшчэ, усе ходнікі ў гурт зьбірала і качалася ў іх разам с сабакам нашым. Помніш, як яна цібе за гэта ганучай лупцавала... Дык вось, успомнілі іх ды паплакалі крыху. Я кажу Лідзе: «Пойдзем да цэрквы ўзаўтрам, бо сьвята нядзелька будзя». А цэрква ў Міжэрыч знаходзіцца, трэба ісьці пяхотай, бо аўтобус ні ходзіць. Але яна ні схацела, бо ёй калейка якрас. І я ўжо адна ні пайшла. Ды й добра зрабіла, бо вы якрас наехалі. Ось каторы та дзень паштарка* да мяне прыягжала, пэнсю андала і пыталася, чы буду газэты выпісваць. Дык я ні схацела, кажу, што дочкі мне прывозяць кожны рас газэты, кап печку распаліць. А чытаць ужо ні чытаю, бо сьляпая стала. Яна яшчэ праз здароўе маё паспыталася, пагаварылі крыху, і далей паехала на ровары. Спрытны такі ровар, маленькі. От і мне п такі добра быў. Бурака дзе с поля прывесьці чы брушкі* альбо бурачэньня* якога. Але ш цяпер ён, мусіць, дарагі вельмі, за пэнсю ні купіш.

*М.А.Коўш, 1928 г. н.*
*в. Рудзевічы, 1996 г.*

# СЛОНІМСКІ РАЁН

**73.** Добро помню, як суседачка мая гаротная пагарэла. Тады я са сваім чалавекам жыла ні тутака, а за дзесяць кілометраў ад маста. Гэто ш паехала я аннэм разам у Слонім прадаць пару курачак і яечак. Шкода, ай шкода, добры ш былі курачкі, але мой гаспадар наказаў. Я ш яго вельме слухала, добры быў чалавек... Дык восяка прыехалі мы стуль і ў ладкі пляснулі. Шчэ з гары спускаліся, ужэ быў відзён дымяка. Покуль мы даехалі, усе ўжэ бароліся з вагнём. Я была ў ту пору малода, жвава, схапіла старэйшо вядро і патрусіла на панмогу. Доўго мы бароліся. Усё чуць ні дашчэнту згарэло, але дзякуй Богу людзі засталіся цэлыя. Гэто ш, дзеткі, ні то, што ціпер: загарэласё, і тутака ўжэ прэцца. А тады вуй як цяшко было. Пасталі мы ўсе ў радочак. Хвецька набіраў с калоцца воду, а мы перабіралі з рук у рукі, так па шнурочку. А Стэпка галосіць, а дзеткі мае, як шкода. А ні дай Божа Госпадзі такое нішчасьця. Гэто ш яна вунака ўжэ тады анна была. Сымон яе ні вярнуўся з вайны. А на руках трое дзетак. І тут на табе, хата ляснула. Шчэ крый Божа, скацінка ўцалела. Лыску і гавечак старшы Язэпік выпусьціў с хлява. Усе стаюць і плачуць. А чош згарэла хата? Сама Стэпка запаліла печ і пашла ўходжвацца*. Меньшы Юзік узяў трэсачку, патпаліў і давай забаўляцца, бегаць па хаце. Забраўся на вакно, і шторка загарэлася. Покуль Стэпка ўправілася, вагонь ужэ на сьцены перайшоў. А яна зьлякалася* і стаіць рот разявіўшы. Восяка, дзеткі, так што ні баўцеся з вагнём, а то ш вельме ўжэ страшно. А патом Стэпка зь дзецямі хадзіла па хатах. Пабудзе ў анных колькі дзён, ідзе да другіх. Доўго так яна блукала па людзях, сама змарнела, і дзеці пагоршалі. А патом яна паехала да свае сястры ажна пад Віцепск. Боляй мы аб ёй і ні чулі. А я са сваім чалавекам хутко пераехалі во сюды, у Сурынку. Памянялі хату, перавялі сюды сваю кароўку. Было і голанно і холанно. Усяляк было. То ш жыцця. Іначай і ні можа быці. Але ш зато было весяло. Здэцца, і зарас шчэ помню, як вернемся с поля, управімся і зьбіраемося ў каго аннаго ў хаце. Сьпявалі, казалі, маладзейшыя танцавалі. Ванька ш мой вельме любіў хадзіць са мною. Я на яго: «Кладзіся і сьпі!» А ён учэпіцца за спаньніцу і са мною. Велькі ўжэ быў, гаткоў дванаццаць меў, а ўсё шчэ хадзіў са мною. Хлопцы сьмяяліся зь яго, а ён ні ў какую. Вельме ш яму там нравіласё. Ванька мой добры хлопец, пасабляў усё, што ні кажаш. Меншы трохо ленаваўся, а гэты не, добро рабіў.

*К.І.Лысуха, 1914 г. н.*
*в. Сурынка, 1994 г.*

**74.** Як я была дзеўкаю, мы жылі на футары за жалезнай дарогай. Называўся ён Маляво. Скучно было на гэтым футары. А мы маладыя былі, патанцаваць хацелася. І вось на танцы хадзілі за сем кіламетраў у вёску Ярняво. Хадзілі напрасткі, каб бліжай было, прас лес, Брынькава яго называлі. Дарога ў Ярняво была зусім нікуды не годная: канавы адны з вадою. Мы лапці паскідаем, тады пасьля вайны болей нічога не было, мой бацька пакойны распорваў рэзіну с калёс і шыў нам лапці. Дык вось мы бярэм іх у рукі і босыя па вадзе. А канавы глыбокія трэба было пераходзіць, калі і лёт быў дажа. І мы плылі на гэтых крэгах* на тыя танцы, босыя сядзем на крылі лядзянкі і плывём вось. А на танцах граў дзяцька Кастын на скрыпцы, гармошкі ў нас не было, танцавалі мы польку, падыспан, кракавяк. Але польку мы больш любілі, трапечамся, трапечамся, потым аддыхнем крышачку і зноў просім дзяцьку Кастына, кап польку граў. Танцавалі недзе да часу ночы. На танцы нас ішло сем дзевак с хутара, а назад ужо кожная с хлопцам ішла. Бывала, прыйдзеш с хлопцам пат хату, сядзеш на дзеравіне і сядзіш, пакуль маці не пражане. Калі і разьвіднее ўжо, а ў хату ісьці не хочацца. Вось што значыць маладосьць! Бегалі, шукалі нечага, бо глуш на футары была. Там я і с мужыком сваім пазнаёмілася, разам танцавалі. А калі мне было дзевятнаццаць год, мы пажаніліся. Адно што мала жылі, а так усё было добра.

*Н.А.Чан, 1928 г. н.*
*в. Азярніца, 1992 г.*

**75.** Вайну я добро помню, бо было мне тагды ўжэ гаткоў дзевяць. Ні дай Бох такога жыцця, як дасталося мне й маім сястрэ й брату. Маці наша памярла. Нарадзіла блізьнятаў і памярла. Вядома ш, дохтура прывясьці было натто цяшко. Але бацько прадаў два кажухе, яшчэ там нешто й прывёс дохтура. Той паглядзеў і сказаў, што жыць ні будзя. Яна памярла й дзеці зь ею. Бацько ажаніўса на дзеўцы брыткой і малой, але ш натто акуратнай. Я помню, як бацько гаварыў людзям, што яго дзеці будуць дагледжаны, як ён пайдзе на вайну. Сваіх дзяток Бох ні даў нашай мачасі. Праўда, былі, але маленькімі паўміралі. Пахавала іх, ну й с тых пор ні стала вераваць у Бога. Потым, як бацько пайшоў на вайну, яна сказала, каб мы называлі яе ні мацяраю, а Марыяй. Не, я ні гавару, што яна кепска была, але ш чужы чалавек е чужы. У сорак другім забілі бацьку. Ой, бедно мы жылі, ні было чаго на плечы надзець. Адзін каптан на ўсіх быў, адныя боты на трох. Абувалі па вочарадзі. Накручвалі ганучы, або набасяк. Трыбухе* былі ўсё ўрэмё пустыя. А што тагды картоплі* мерзлыя с квасам – уся яда. А за-

церка с жытняй мукі была на сьвято. Але ш нек жылі, выгадаваліса, замуш павыходзілі. Толік ажаніўса. Во цяпер жывем у адной вёсцы, на адной гуліцы. Марыйка наша ўмярла ўжэ даўно.

*Г.Берук, 58 гадоў*
*в. Шыганы*

**76.** Ой, да ці так было, як мы былі маладыя? Бало, прыдзя вясна, трэба сьці на полё, а дзіця малоё... І бярэ тады баба матычку альбо серп і палудзень, за плечы бярэ калыску і дзіця і так ідзе далёко, на полё, а полё было далёко, на цалюткі дзень выходзілі бабы. І дзіця на полі было цэлы дзень.

*С.І.Белуш, 79 гадоў*
*в. Паўлава*

**77.** Бала, як пачынаяцца жніво, то ўся душа перакалоціцца. Жыто нашэ было за гарэю. Паласкі вузюткія, ня разгарнуцца. Цэлы дзень жнеш, аш сьпіна калом станя. На палудзень ня хадзілі дадому. Сьвёкар крычаў, што мало нажнем. Калі мець яду, то на полі з'ямо і хутчэй зноў за жніво. Жыто ўрадзіло, снапэ цяшкія, як падняць.

*Г.М.Харко, 1914 г. н.*
*в. Вялікая Кракотка, 1995 г.*

**78.** Наша сям'я была велька: сьвёкар, сьвякруха, мужык мой і я, васьмёро дзяцей. Бало, сядуць за стол, пастаўлю картоплі*, расхватаюць мамэнтам. Скораму пасьці ня було. Няшчымніца. Рабіць трэ було цяшко. Мужык гараць хадзіў людзям багатым, старэйшыя дзеці каровы пасьвілі чужыя. Абуцца невашта, есьці тожа нечага. Набяруць грушэй-дзічак ды цалюткі дзень так і прабудуць. Вечарам звару зацерку, чуць падбялю – ядуць за вушы ня атцягнеш. Зацерка трохі голат спатоліць ды сон зморыць. Назаўтры зноў дбай пра яду. Німа ш нічагутка, кап у гаршчок укінуць. Увесну сьвякруха ўсё крапіву зьбірала, потым варыла, забеліць трошкі малаком, яно смашна. То ня жызьня была, а трасца ліхая.

*Е.С.Арочка, 1913 г. н.*
*в. Вялікая Кракотка, 1995 г.*

**79.** Маці мая гадавалася сіратою, жыла пры сястры, пагэтаму замуш вышла рано, маладая. Бацько быў на дзесяць лет старшы. Маці за ракою служыла, і там яны пажаніліся. Яна хацела мець сваю сям'ю, бо й служыць было цяшко й пры швагры жыць тожа цяшко. У сям'і нас было дзесяць дзяцей. Я ў трыццаць трэцюм годзі радзілася ў Навасёлках. Было бенно, зямлі было мало, а

сям'я велька, самаму меньшаму ано было паўгодзіка, як бацько ўмёр. Хадзілі гэдак людзям рабілі за міску гароху ці картоплі*. Гадаванё было цяжолаё, але Бог даў павырасталі ўсе. Хлопцы арміі паатслуживалі, пажаніліся. У сям'і сем хлопцаў было і тры дзеўчыны. Паразьяжджаліся па ўсём белум сьвеці: і ў Смаленск, і ў Талін, і на цаліну. Але ні ўсім Бог пажыць даў: пяць браточкаў ужэ ўмярло, а троё – шчэ як маці жывая была, з гэтага гора яна й асьлепла. Анна я ў сяле пры мацяры асталася. Замуж вышла тожа за сірату, жыў пры мачасі. Памахчы ні было каму, усё с сваіх пяці пальцаў** нажывалі. Жылі добро, дружно, хоць і бенно. Абжыліся, хатку пастроілі. Пакуль здароўё было, ў калхос хадзілі. Нажылі двоё дзетак, выгадавалі. Стараліся, вучылі іх, каб іх доля была лепшай, бо самым ні было за кім вучыцца. Хацеласё, кап дзеці былі граматнымі. Сын робіць электрыкам-шафёрам, тожа мая дваіх дзетак, дочка – настаўніцай. Цяпер анно жыць і жыць, а здароўя ўжэ німа. Але мы й так пажылі. Слава Богу ўнучкаў во дачакаліся. Хочацца, кап дзеці і ўнукі нашы ні бачылі такого гора і страданьня, як мы.

*К.А.Стралкоўская, 1933 г. н.*
*в. Навасёлкі, 2003 г.*

**80.** Як у войну жылі? Мушчыны пашлі ваяваць. Асталася с мацяраю і с братам малым. Па хазяйству рабіла: гарала, баранавала, малаціла снапэ цэпам, дровы рубала. Вечарам хадзілі на вячаркі, пралі кудзелю, вязалі, шылі. Жылі ў страху. Днём прыдуць немцы, а парцізаны сядзяць у скляпе. Баімося, кап хаця ні загаманілі яны. Есьці ні было чаго. Аш у Альбартыне хлеп давалі на картачкі. Хадзілі грумадаю* чалавек дзесяць. А хлеп той с асьцюкоў аўсяных, с лускі грэчнявай пяклі, трохо мукі дабаўлялі. Ну а посьле вайны начаўся калхос. У школу пачалі хадзіць. Кніжак ні было, цітрадзяў ні было. Так і вучыліся. Потым на кірпічным заводзе рабіла, фармавала чарапіцу ля станка. Хадзілі мы на шэсьць часоў наранiцу, рабілі да трох часоў. Зарабляла восімдзісят – сто рублёў. Там пазнаёмілася с Алёшаю. Скора пажаніліся. Троё дзяцей набылі, выгадавалі, апрадзялілі дзяцей, пажанілі, унукаў прыждалі. Дзет мой памёр. Засталася адна. Вось такое жыцё было.

*А.І.Шлыковіч, 1926 г. н.*
*в. Шылавічы, 2003 г.*

**81.** Адзін рас маці пашла па ягады з начавою ў Залесьсе. А я з братам выглядала мацяру на грэблі, ці йдзе зь ягадаў. А брат пашоў залес у воду. В то врэмё пастухі гналі коні. І коні як пабеглі, чуць яго ні задушылі. Шчасьцё, што конь пераскочыў церас яго.

*Ё*н т*о*лькі намач*ы*ўся ў бр*о*дзі. *Я* прывял*а* дах*а*т, перадз*е*ла сваё прыг*о*жо пл*а*цё. Был*і* мал*ы*я. Бацьк*і* пакід*а*лі н*а*с удома. М*ы* был*і* нянькамі, меншых дзяцей глядз*е*лі. П*о*сьля падрасьл*і*, пашл*і* ж*ы*то ж*а*ць, у п*о*лё бацьк*і* вадз*і*лі, каравэ п*а*сьвілі. У майг*о* б*а*цька был*о* тр*ы* кар*о*ве, ав*е*чкі был*і*. Хл*е*ба ў н*а*с хват*а*ло, і с*а*ло был*о*, і малак*о*. М*о*й б*а*цька б*ы*ў раб*о*чы, і м*ы* зь *і*м р*а*зам раб*і*лі. *Ё*н нік*о*лі ні б*і*ў н*а*с, ні крыч*а*ў. Б*а*ло*, ск*а*жа слово – м*ы* т*у*т жа іспалняям. *Я* нік*о*лі ні сказ*а*ла, што ні п*о*йду.

Вяс*е*льё н*е*калі было т*а*к. Тад*ы* бр*а*лі дв*а* ч*а*шніка* і дзьв*е* др*у*шкі. Вяс*е*льё пачын*а*ласё ў нядз*е*лю ў маладо*й*. У панядз*е*лак пераяжджа*л*і да маладога. На вяс*е*льё вар*ы*лі вяраш*ча*ку, пякл*і* блінцэ. Был*а* кв*а*шаніна, карав*а*й пякл*і*. Гарэлку піл*і* адн*о*ю ч*а*ркаю. Лашк*а*мі *е*лі, шт*о* был*о* прыбр*а*но к вяс*е*лью, ні в*і*лкамі. Гарм*о*нь гр*а*ла, бараб*а*н б*ы*ў, ін*а*чай м*у*зыкі ні был*о*. Скак*а*лі п*о*льку, кракав*я*к, падзісп*а*н, кар*о*бачку, л*ы*саго.

*Л.П.Сучко, 1924 г. н.*
*в. Шылавічы, 2003 г.*

**82.** *Я*к жыл*о*ся. Хвар*о*ба як*а*я як прыц*і*сьне чалав*е*ка, то й р*а*ды нім*а*. Л*е*камі ні л*е*чыцца, зёлкамі ні выган*я*ецца. І саўс*і*м згас*а*е чалав*е*к. Ні п*і*ці, ні *е*сьці. Ні с*а*ло, ні карт*о*пля т*а*я – саўс*і*м см*а*ку ні ч*у*еш. І раб*і*ці ніч*о*га ні р*о*біцца. То ў н*а*с тад*ы* гавар*ы*лі, што ўракл*і*. І ўжэ ідз*е*ш са сваёю хвар*о*баю да М*а*ні. Увайдз*е*ш на дв*о*р, а ян*а*: «Ах л*ю*банька ма*я*! Ах р*ы*банька ма*я*!» Ск*о*ранькая так*а* б*а*ба был*а*. Ды як пачн*е* ян*а* вак*о*л цяб*е* хадз*і*ць ды н*е*шта шапт*а*ць. А шчэ хлеп у дал*о*нь в*о*зьме ды кач*а*е яг*о* па рук*а*х, наг*а*х, па грудз*я*х. А сам*а* ўсё шэпча н*е*шта. А тад*ы* за галав*у* в*о*зьмецца ды зяв*а*е. К*а*жа, што хвар*о*ба т*а*я забр*а*ла ўс*ю* с*і*лу зь *я*е. Ды хл*е*б аддав*а*е таб*е* і к*а*жа, кап саб*а*ку аддал*а*, кап саб*а*ка зь*е*ў. Цяпер*а*ка ўжэ і б*а*бак так*і*х у н*а*с у сял*е* ням*а*, а т*а*я вой лячыла. Вот і лячыліся т*а*к.

*В.П.Васілюк, 1926 г. н.*
*в. Шылавічы, 2003 г.*

## ДЗЯТЛАЎСКІ РАЁН

**83.** *Е*гдзілі ў Ж*ы*рава прас*і*ць за б*а*цюшку. *Я* *е*хала, кап тр*а*піць на сл*у*жбу і пад*а*ць зап*і*сачку за здар*о*ўе. Кап ус*е* был*і* здар*о*венькія. Т*а*м сл*у*жба к*а*жды дзень. Аш упяцёх *е*гдзілі. Камарэ зн*а*лі, што па*е*дзе М*і*ра. Г*а*ля зд*у*мала на ўк*о*лы хадз*і*ць. Мал*ы* прыш*о*ў і сказ*а*ў, што м*а*ма пр*ы*дзе на полдзев*я*тага. Дык М*і*ра пабая*л*ася,

што як не будзе на месьце, дык пазвоняць у паліклініку, і яе здымуць з работы. *Е*гдзіла *я*е саніт*а*рка. Улад*ы*ка малад*ы*, але т*а*к хор*а*ша н*а*с прыняў. *Ё*н не ў манастыр*ы*, а т*а*м трохэт*а*жнае зд*а*ньне. М*ы* ідз*е*м, б*а*чым, н*а*ш ста*і*ць с т*ы*м, што ўч*о*ра б*ы*ў у н*а*с. М*ы* паздаров*а*ліся. А шт*о* н*а*м раб*і*ць? Ста*я*ць жа не будзем, пайшл*і*. А шт*о* н*а*м был*о* раб*і*ць? А н*е*кі т*а*м сядз*е*ў ля ціліф*о*на, м*у*сіць, інвал*і*дзік. М*ы* ў яг*о* запыт*а*ліся. Мн*о*га т*а*м так*і*х кал*е*каў. Ну м*ы* падышл*і*, запыт*а*ліся. Н*е*кі т*а*м т*о*жа іш*о*ў с крастом. М*ы* павіт*а*ліся. Атк*у*ль м*ы* вед*а*ем, хт*о* ён так*і*. Т*а*м т*а*к крас*і*ва!.. Ну яшчэ. Т*а*м ік*о*на так*а*я Мікал*а*я. *Ё*н у паг*о*нах, як даўн*і*шнія. *Я*к у дзеда н*а*шага был*і*. *Я* за гэта гавар*у*, што партрэцік с краст*а*мі. Пяць краст*о*ў, адз*і*н за адн*ы*м. Ал*е* па*е*хаць у так*і* ў б*у*дні дз*е*нь, дык уб*а*чыш, а ў выхадн*ы* дз*е*нь, дык не ўц*і*сьняшся. Хараш*о*, дав*о*лі хараш*о*. Як*і*та малад*ы* ста*я*ў. Малад*ы*х мн*о*га, н*е*кі аўт*о*бус ста*я*ў. Ал*е* малад*ы*х не ўпуск*а*лі чам*у*сь адр*а*зу. *Я* шт*о* ўзд*у*мала – узяць ліст*о*к бум*а*гі. А пра бут*ы*лку зус*і*м заб*ы*лася. Пр*а*ўда, папрас*і*ла ў н*е*кага б*а*цюшкі, ён т*о*лькі пры*е*хаў, был*а* ў яг*о*, д*а*ў. Б*о*жа ш м*о*й! Сказ*а*лі н*а*м, што ўсё зав*і*сіць ат б*а*цюшкі. *О*й! М*ы* ў дзятлаўскага крыч*а*лі, *е*нчылі. А т*а*м спак*о*йна, д*о*бра гавар*ы*лі. Ям*у* панр*а*вілася. Каз*а*ў, што ўс*я*кія да яг*о* прых*о*дзяць, то крыч*а*ць. Каз*а*ў, мн*е* нр*а*віцца, што пры*е*халі за б*а*цюшку прас*і*ць.

*В.І.Табарчык, 1938 г. н.*
*в. Юравічы, 2003 г.*

**84.** *Я*к пачал*а*ся вайн*а*, у мін*е* дв*о*е дзетак мал*ы*х был*о*. Цяшко был*о*, дый ні т*о*лькі мн*е*, а ўс*і*м цяшко был*о*. *Я*к жа ш м*ы* н*е*мцаў першы р*а*з угл*е*дзялі, стрэлі *і*х? Был*о* гэто *о*т як. Перастрэлка чув*а*ць был*а* ту тут, ту т*а*м. Саветы ўцяк*а*ць пачал*і*, атступ*а*ць. Ц*а*лу ноч сядз*е*лі м*ы* пат стал*о*м, стр*а*х гэдакі б*ы*ў, баяліся, кап ні заб*і*лі. Як найх*о*дзілі н*е*мцы, ту л*ю*дзі ўсё павыгр*у*жвалі з дам*о*ў. Дзе як*о*ё был*о* зярн*о* ў камо*р*цы, усё панас*і*лі ў ж*ы*то, пастаўлялі. К*о*нь у н*а*с б*ы*ў. Муж*ы*к с кан*ё*м у лесі схав*а*ўсё, сястр*а* яг*о*, Антося, с кар*о*ваю, а *я* з мал*ы*мі дзецьмі ў ж*ы*ці схав*а*лася, хлопца б*о*льшаго на плечы пасадз*і*ла, дзеўчыну на р*у*кі ўзял*а* ды й бегла гэдак. А пот*ы*м прытул*і*ла *і*х да сяб*е*, ды й прас*е*дзялі, пак*у*ль ні сьцямн*е*ло. Тр*ы* г*о*ды прабыл*і* н*е*мцы. Тр*у*дно за паг*а*нымі был*о* ж*ы*ць. Планэ дав*а*лі н*е*мцы на зб*о*жо. Мушч*ы*н на выв*о*ску ганялі. К*а*жын дзень трэбало* *е*хаць л*е*с траляв*а*ць. П*о*мню, як анн*о* найшл*і* н*е*мцы, сус*е*тка ма*я*, Матыл*і*нска, узял*а* хадак*а*, панясл*а* перат н*е*мцамі пл*а*кацца, д*у*мала, б*о*ты даду*ць*, анн*о* ш яшчэ г*о*рай был*о*. Папацярп*е*лі л*ю*дзі г*о*ладу ў вайн*у*, зьдзек*а*ў. З адн*а*го б*о*ку н*е*мцы душ*ы*лі, забір*а*лі ўсё, а з друг*о*го ат парціз*а*н ні был*о* сп*а*су. Мн*о*гія ні

начавалі ў дамох, на лесі ішлі с каровамі, коньмі, бу парцізаны забіралі сьвіня, каравэ, коні. А хто і аставаўсё ў хатах, ту цалу ноч ні давалі спаць парцізаны. Як убягуць у хату, дзе што есьць зь яды, збанэ з малаком, хлеп – усё забяруць. Многія па сваёй ахвоці ішлі ў парцізаны, а каторых сілаю забіралі, найбольш маладзёш. Колю, брата майго меншаго, забралі ў парцізаны, і нешто ні паччыняўся ён ім, забілі ўзялі. Хіба ён ураг які быў? Дзіця яшчэ горко. Посьля й саветы паўходзілі, алі людзі апяць хаваліся. Бабы па дамох, мушчыны ў лесі. Казалі, што будуць біць людзей. Пайшлі саветы і сталі шукаць нямецкаго шпіёна. Начальнік павыганяў бабаў з дамоў, пастаўляў у рат. Сказаў, што, калі хто ўцякаць будзе, застрэліць. Доўго дапытваўсё ён у нас, алі нічого ні дабіўсё, бу мы ні ведалі нікакого шпіёна. Як усталявалася савецкая ўласьць, сталі браць на вайну мушчын. Майго Ёзіка забралі. Колько ён там пабыў, анно ш прыходзіць пахаронка, што забіты пат Кеніхсьбергам. Колько сьлёз я праліла, колько нагаравалася. Ледзьве дзяцей на ногі паставіла.

*Д.А.Яфімік, 1915 г. н.*
*в. Пруд, 1995 г.*

**85.** А ў нас у той чацьвер уноч у суседа стох гарэў. Якрас зьвечару дошч пашоў і крапацеў такі маленькі ўсю ноч. Палеглі мы ўсе ўжо спаць. Я ўночы прачнулася, чую крыху грыміць, на гуліцы цёмна. Ізноў я заснула. Потым чую, Лідзя стукая ў шыбу мне, усё крычыць: «Пажар! Пажар!» Я схапілася, выбегла, стала на парозі і пагледаю, як гэты стох гарыць. А спалохалася я спалохалася, стаю, а мяне ўсю калоціць. Пакуль я ўспакоілася... А Лідзя пабегла ў той канец людзей будзіць. Яна потым казала, што як праснулася і ўбачыла, што нешта гарыць, дык адразу падумала, што гэта хлеў мой гарыць. А Марыля падумала, што хата мая гарыць. Ну ды што я думаю рабіць – пабегла будзіць гэтага Валодзіка. Стукала я стукала ў акно, а яны нічога ні чуюць. А потым, проўда, чую, што нехта па хаце ходзіць. Гэта Алех іх прачнуўся, учуў, што я стукаю, і пабудзіў, мусіць, усіх. Ён як выбех і адразу пабех у пажарну званіць. А стары выбех у адных кальсонах, а Ядзя ў сароццы, ды як пачалі махаць рукамі і крычаць: «Людзі! Ратуйце! Тушэце!» А хто тут будзе тушыць, пасталі ўсе як укопаныя. Я скарэй пабегла, вядро прынясла, тут яшчэ нехта прынёс. Пачалі з лужыны чэрпаць воду ды як плюхнем на стох, а іскры як сыпануць угору. Добра што яшчэ дошч крапаў. А так згарэў бы стох, і ніхто не ўбачыў бы. Тут пажарна прыехала, пачалі ліць воду. Глядзімо, і дровы пачынаюць гарэць. Пажарныя пачалі крычаць, кап дровы

аткідвалі. Пабеглі мы дровы аткідаць. Кап дровы загарэліся, то пачало п і гумно за імі. Пааткідалі мы тыя дровы. А тут у пажарнай вада кончылася. Паехала яна па воду, а куды яна езьдзіла запраўляцца, не ведаю, не скажу. Ну што, прыехала пажарна, датушыла ўжо гэты стох ды паехала, а мы расьцягнулі салому, што асталася, а яна курэла яшчэ аш да раніцы. Пастаялі людзі ды пашлі па хатах. А я прышла ў хату, глянула на часэ, было ўжо пяць, я і не клалася. Пашла падаіла карову, управілася. А во на другі дзень прыехала міліца. Пачалі ў мяне распытваць пра пажар. «А можа, – кажуць, – бачылі каго, а можа, ат маланкі?» Але ат маланкі ні можа быць, там крыху пагрымела ўночы. Я ім так і расказала, што збудзіла Лідзя. Кажу ім: «Аткуль я ведаю, хто тут патпаліў? Мяне клікалі на пажар, ды я другіх клікала». Пашлі потым міліцыянеры да Лідзі, пачалі ў яе распытваць: «А што? А як?» А што яна скажа? Тоя само, што і я. А хто ўжо запаліў гэты стох, то і невядома. Хто яго зная, можа, хто ішоў курыў ды кінуў акурак, і загарэўся гэты стох. А Валодзік кажа, што гэта яму пазавідавалі, што аш чатэры стогі мая, ды гэта ўжо патпалілі адзін, але прас два дні новы стох прывёс с калхозу.

*М.В.Сіняк, 1927 г. н*
*в. Лозкі, 1994 г.*

**86.** Жылі ў вёсцы Малдуці. Жылі мы бедна. Нашы бацькі судзіліся за землю з бацькавага брата дочкаю. Усё, што выгадуем, там каня ці кабана, продалі, аддавалі на адвакаты. Бацькі нашага гэта ні быў родны брат. Ён быў аднаго бацькі, а наш быў другога. Яна хацела аддаць нам толькі часьць, і яны судзіліся з намі. У Вільню паслалі на перасут, тамака папалам падзялілі зямлю. Наж бацька быў учасьнік сьвятовай* вайны, ён палучаў троха пэньсі. І тады нехта яму параіў. Ён як пасляў у Вільню, у банк, кап пазычылі нам пажыткі* на купленя зямлі ад братняй дочкі. Зразу прышло, што банк разрашыў. А потым патшыкоўвалася пад вайну – атказалі. Наз было ў сям'і ў бацькоў чацьвёра. Брат быў зь дзьвянаццатага года, я – зь дзявятнаццатага, а сёстры былі меншыя яшчэ дзьве. Бацька наш быў забраны на вайну ў чатырнаццатум гаду, вярнуўся ў сямнаццатум. Быў раняны, ляжаў у госьпіталю. І ён, як выпісвалі з бальніцы, яго дакуманты пацяраліся, што ён быў раняны, а на сьвяткі палучаў троха пэньсі – трыццаць злотых некалі. Як мы былі малыя і судзіліся нашыя бацькі, мы заўсёды чакалі іх вечарам, бо думалі, што пасадзяць, чы што. Бацька палучыў пожжа пэньсю. Некалі егдзілі ў Амэрыку, і хто ехаў у Амэрыку, трэба было ў жыдуў пажычаць. Каторы ехаў, трэба было браць сьвідзіця-

ляў, кап патпісаліся за яго, што, як ён ні прышле, яны аплоцяць. Гэтыя бумашкі называліся вэксаль. На ёй ставіўся гэрп. І вот наж бацька патпісаўся, мусі, тром людзям, а потым, як жыдэ сысквалі, ён у аднаго пажычыць, а другому аддасьць. Палучаў бацька пэньсю, тышчу ш чэмсь злотых. Жыдэ ішле да мамы, кап аддавала. Матка аддала гэту тышчу ш чэмсь, і рашчыталіся так. Я вот старша была, сёстры – меншыя. Малотша ўмярла. Мама міне брала на работу, на поля, кругом. Хоць я слаба жала, але за двоя плацілі нам. Потым мы падрасьлі, хадзілі зараблялі і адзяваліся з гэтага. Хлеба хватала з гэтых гактараў, каторыя мелі свае. У суседа нашага, што футара былі разам, было зямлі многа. Анно адна дачка была ў іх і зяць, жонка хадзяіна. У трыццаць дзявятум году выбухнула вайна.

*Б.В.Лябецкая, 1919 г. н.*
*в. Малдуцi, 1996 г.*

**87.** «Ганначка! Ці чула ты, што ў нашай вёсцы было?» – «Не, ні чула, а што?» – «А пат самы вечар, ужо сонца садзілася, як зь лесу, што каля Маўчаткі, вылезло чатэрэ ваўке і напалі на гэтых, як на іх брэшуць, а, на Шышковых авечак. Алесь у іх калэ кідаў, а яны пакуль не схапілі баранчыка і не павалаклі, то не ўцякалі. Алесява баба рукі ламала, плакала, пасьля села на зэдліку. Алесь ёй падаў конаўку вады, яна папіла і пакрысе прыйшла да сябе. Вот якая бяда. Цяпер усё натта дарага, а баранчык харошы быў. Яны хацелі прывесьці ў Зецела на базар. Дачцэ грошы трэба, хоць і грошы гэтыя мала што вартыя, але і безь іх кепска. Дачка іх, Маня, вучыцца ў Гродні, кажуць, на дакторку». – «Але ш, галупка мая, цяшка ўведаць, аткуль бяда зваліцца. Я нядаўна пайшла ў лес, тут нідалёка, кап сухую галешыну на дрова ў групку прынесьці, ды, мая мілая, ногу стронціла*. Вот і кульгаю. Кепска без гаспадара. Галаву злажыў у Нямеччыне. Колькі ўжо гадоў мінула... А чалавек быў харошы, гаспадарлівы. Ужо підзісят гадоў мінула. Скажы Алесявай бабе, няхай не ўбіваецца, усякае бывае. Людзі гінуць. А баранчык – дзела нажыўное. У Васілевічаў карова пала, і пераражылі, людзі памаглі».

*Г.М.Даргевіч, 1923 г. н., А.Ф.Лаўнікевіч, 1925 г. н.*
*в. Засецце, 1994 г.*

**88.** Юр'я ш некалі было, ды натта ш сьпявалі. Хадзілі дзяўчаты. Шэсьць ці восем пад рукі возьмуцца і ходзяць сьпяваюць: «А сьвятое Юр'я, а па-за плоце ходзіць, а вярбіцу ломіць». Мой бацька гроў на скрыпку. Нека была кадрэля. Бацька едзе па снапэ, а дзяўчаты просяць: «Дзядзюшка, паграй». Полька «Патрасуха» была. Як здумаеш, што раней было, як жылі... Забралі дзеда на

вайну, а я асталася з Рэняй і Валяй. Прышлі парцізаны. Солі была мех, мукі жытняй – забралі. А я плачу горкімі сьлязьмі. Атсыпалі солі крышку. Пабралі аўчыны. Пярун іх знад**. Рэню нясу горшкі*, Валя каля мяне ідзе. Ідзе бацька без рукі. Валя бяжыць, спатыкае, у кацюты б'е**. А бацька ды адну дачку пацалаваў, ды другую. Папроўдзі, Элік выклапатаў за бацьку. Што ш табе, дзеткі, яшчэ казаць? Ну, як жаніліся. Вянчаліся, ехалі на возе. Шаластунэ* на конях на шыях, як званке. Сват быў. Гармонік, скрыпка была. Так жо харашо ў мяне сьвячке гарэлі, у бацькі. Бабы кажуць: «Хароша жызьня будзя». Ну от, якая яна хароша. Але мой Костусь не біўся, адно што выпіваў троху. Гэдак і жылі.

*М.І.Цішук, 1912 г. н.*
*в. Раманавічы, 1995 г.*

## НАВАГРУДСКІ РАЁН

**89.** Чаму Люпчо так назвалі? Гэто па-гарацкому Люпчо, а мы, старыя, усё завём як даўней – Любач. Дый вясковыя тожа так кажуць: паеду ў Любач. А чаму так назвалі, я нават ні знаю. Адны гаворацъ, што калі шчэ толькі першыя людзі сталі расьсяляцца, то й панаравілі гэтае месцо. Красіво гэтака, рэчка, дый да лесу бліско, да Наваґратка нідалёко. Здэйся, і слово гэто, Любач, нарадзіласё ат слова аблюбаваны, любавацца. Другія гаворацъ, што гэто ні так, бо гэтака жыў нейкі пан, з Радзівілаў ці што. Маці тожа, бывала, гаварыла пра яго. Дык вот была ў яго нібы дачка малотшая, хворая зусім, а звалася Люба. І пан вельмі ш любіў яе. Ні знаю вот только, ці ж ат хваробы яна памярла. Але пан у чэсьць яе назваў і гэто паселішчо – Люпчо. Здэйся, ёсьць у гэтых двух расказах доля праўды. А мо людзі і выдумалі што. Ні знаю я добро. Гэта ўжо хай вучоныя точно скажуць. Помню, пазатакрак* ці мо шчэ раней прыехалі былі якіясьці капальшчыкі ў маёнтак. Іньцярэсно вельмі звалісё яны, ці то рхіёлагі, ці то архіёлагі. Чорт яго ведая. Але ш капалі ўсё, шукалі нешто. А ці нашлі там што, ні знаю. Гэто цяперака просто мястэчко, а раней раённы цэнтар быў Любач. Вот як. А цяперака разбудаваўсё. Пашці што сваё ўсё есьць. Да Наваґратка толькі за патрэбай якой пад'ехаці трэба. А так хлеп свой, кілбаса, сыр, сьмятана, булкі смачныя пякуць. Што шчэ трэба. Як нам, старым, то й досыць, гэто ўжо вам маладым трэба жыць хорашо. А нам ужо як Бог дасьць.

*Я.М.Карповіч, 1928 г. н.*
*г. п. Любча, 1992 г.*

**90.** Вот раскажу вам, дзеткі, каску адну харошую. Было, значыцца, у бацька два сынэ. Падрасьлі яны, бацько й кажа: «Пара ўжо, кап кожны работу выбраў». Але сынэ шчэ ні зналі, чаго яны хочуць. Тады бацько сказаў ім: «Пойдзямо ўсе трох у сьвет, паглядзіцё хоць, што людзі робяць». Вот прышлі ў вёску адну, а тама кузьніца была. Ну й зашлі яны туда. Большы сын дак нават і памох кавалю паткову нейкую выкаваць. Патом пашлі даляй. Ну і забрылі ў другую вёску, кузьніцы там ні было. Тады большы сын і сказаў бацьку, што будзя гэтака рабіць кавалём і кузьніцу сваю пастроіць. Бацько рады, от жа хоць адзін сібе да жыцьця прыспасобіў. А меншы ўсё ходзіць па сьвеце, і ні наравіцца яму нічого. Аднаго разу ідуць яны лугам, бачыць сын, цялё нечыё пасьвіцца адно. Вёска далёко была, то й рашыў ён яго ўкрасьці. Сказаў пра гэта бацьку. Той сагласіўусё. Узяў ён цялё і павалок дахаты. А бацько тым часам у вёску схадзіў, быццам да знаёмага. Сын падагнаў цялё да лесу ды баіцца ўсё, кап жа хоць ні увідзяў ніхто. Дачакаўся ён бацька, ды пашлі разам сь целём дахаты. Дома бацько завязаў нейкую ганучу замест хвартуха, узяў нажа і зарэзаў цялё, садралі шкуру дый сталі варыць ежу. Нагатавалі пасолі зь мясам, тады і кажа бацько: «Давай здымемо мерку і гляньмо, хто з нас патаўсьцея». Узяў ён нітку, памераў сваю шыю і сынаву, пазавязваў вузялкі. Сталі яны есьці. Бацько-то той спакойно есьць, а сын усё баіцца, на дзьверы паглядая. Рукі ў яго трасуцца ат страху. І так з дню ў дзень. Ну вот зьелі яны тое цялё. І сталі знова шыі свае мерацьць. Памералі, дык сынава шыя роўна ў два разэ схуднела, а бацькава зрабілася тоўстай. Тады і пытая сын: «Чаму гэта так?» А бацько кажа: «Ты ж еў крадзенае мяса». Сын быў натта ж зьдзіўлены, выцер лоб аб рукаво і кажа: «Тато, ты ж тожа крадзенае еў». Але гэто ні так, бо бацько заплаціў за тоё цялё хазяіну. Вот так, дзеткі, ат крадзенага ні патаўсьцеяш.

*М.А.Кулеўская, 1925 г. н.*
*г. п. Любча, 1992 г.*

**91.** Вот мне чатырнаццатага аўгуста споўніласё дванаццаць гот. А ўвосень малаціць у Мураванку прыгласілі дзяўчат. Пашлі дзеўкі ўжо па васямнаццаць, а мне дванаццаць гадоў, маленькая, худзенькая. Вілы на плечы і прышла ў Мураванку. Праўляйчы Мураванкі, Яленскі, пан, усех шчытаў, пальцам пакaзваў. На мяне кажа: «А ты, мала, іць да дупы». Ой, я пачырванела, як рак, павярнулася, іду дадому, плачу. А дзяўчаты клічуць мяне: «Анютко, Анютко, вярніся». А я іду, уся замульзалася с плачу. Пан пытая Яленскі: «Чэго ш ты, дзецко кохано, плачаш?» Я кажу: «Паночку,

як ш мне не плакаць, калі ўсім работу даў, а мне яшчэ да дупы паслаў. А я дзевяць месяцаў у дупы была і на волі нічога не спажыла». Пакінуў ён мяне рабіць. А лоскаўскія шупені, іх празвалі, дзевак, бралі торбы, а балоценскія не бралі, на абет хадзілі. І яны, гэтыя тры шупені, адбіралі гэтую салому, і я адбірала зь імі. Яны па цэламу снапу здавалі ў малацілку, гэдык запрудзелі, вышай сьцірды саломы, не ўсьпелі адвозіць. А я як нарабілася, ручкі малыя, слабыя, а яшчэ і вока зацерушыла. Вабет прышлі абедаць, а торбы сабакі ўкралі, не брахалі і ўкралі. І што ш, прышоў с абеду пан Яленскі, я кажу: «Паночку! Ні хочу вашых ні пенёнзыў, нічого, атпусьцецё дадому. А паночку, гляньце, мае вока не бачыць, і нашы торбы сабакі ўкралі, німа чаго паабедаць». А ён кажа: «Ець да моей жоны, – даў запісачку, – а яна вам абеда дасьць і табе ензыкам дастане сьмеце з вока». Я прыходжу. Пані Еленска ў таком харошум халаце, прачытала запісачку, дала мне сыра галанскага с какавам, што мы век не бачылі, беларусы, гэтаго. Пасьля я ручку пацалавала, прынесла дзяўчатам паесьці. Сталі мы ўжо рабіць с абеду. На другі дзень ужо пашла рабіць гэдык, як усе. Што пан скажа, што прыкажа, зноў вазіць, то тоё. Цяшко было злоць ці восемдзесят грошаў зарабіці. Ну але ш былі сытыя, і не было фуліганства гэтакого. Усе разам жалі збожо, малацілі і сьцірты складвалі. Так рэйка зазвоніць на абет, а мы вадных плацішках бяжымо, а сам градо: «Ціхо-ціхо! Хаця не паламайцё рукі і ногі». Ён дзержыць гэтыя драбіны. Затым абедаем. У маладосьці было гэдык, ну нарадаў такіх не было, як цяпер у маладых, лапці насілі, спаньніцы сваe работы халчовыя, або толькі хустычка і плацішко сіццаваё на мне. А так што ш, была веселасьць, было дружно. А як лес садзілі, каштуравалі*, па трыста дзяўчат і трыста хлопцаў вадном гумне начавалі. Гэто ў вапрэлі месяцы пасатка лесу была. Бывало, і музыканты граюць, гуляямо і касьцёр палімо, хто зацірку, хто булён варыць, бо на цэлы тыдзень на Кромань атпраўлялі. Вось якая ў мяне была жызьня пры панах, калі я была маладая.

*Г.Н.Барынава, 1920 г. н.*
*в. Шчорсы, 1995 г.*

**92.** То пра мужыка маго скажу. Хлопцам шчэ хацеў кавалём быць. У арміі быў, то с цехнікай разам. За рулём езьдзіў. Гэто было, што зара* касманаўты. Вось тамака і навучыўся кавальскім дзялам. Прышоў у вёску, стаў кавалём, а рукі ажно гарэлі да працы. Як зара помню: гэтулькі цікаўных на кузьні сабралосё, нат бабулькі. «Свой будзя каваль. Ці серп насячы, ці капаніцу* нагастрыць, усё тутачы, не ў суседню вёску несьці», – казалі. Усё неслі к яму с усёй

ваколіцы: сярпы, плугі, бароны, колы. Нат наваграцкія прыяжжалі. Так вось і жылі, ён у кузьні, а я ў гародзе, хляве, у полі, то картопля, то бураке. Вайна, гадаўка, забрала його ваяваці, доўго його там трымала. Я ш анна сь дзіцямі. Цяшко было, яды не хапала. Прышоў, слава табе Госпадзі, дый зноў узяў малаток у рукі. Дзе ш там, дзетачкі, усё сваё, роднаё. Пры калхозе работы пабольшало. Канешне, усяго многа трэ було. Памочніка далі, добраго, дый рабіў мой Раманавіч ат зары да зары, аш да ночы. Казалі, ён не толькі куе рэчы, а й карахтары людзей, во як. Зара ўжо ня тоё, што було, самі паляняце, ногі не ходзяць, рукі не слухаюць. Спрыту таго нямашука. Маемся паміраць ужо. Дзеці нашыя усе харошыя, як трэ што, дык едуць, а памахчы не дажджэсься. Чужы скарэй дапаможа. Вось і атрымаласё, што гадавала сава дзеці, а няма на каго глядзеці. Вось так яно, дзеткі. Жыцьцё наша гаротнаё, толькі і чакаеш, кап скарэй адысьці ат белаго сьвету.

*Г.І.Гайдук, 1917 г. н.*
*в. Валеўка, 1996 г.*

**93.** Ішла я з лаўкі* дый зайшла да дзядзінэ. Палядзець, як яны там маюцца. Верка ўзрадавалася. Пачала на стол зьбіраць. Прынясла рандэлек* бярозавіку. Бутэльку паставіла. Выпілі мы зь ёю па дэку*. Казала яна, што кепска пачуваецца. Пячайка* пячэ, ногі адымаюцца, часто млосно робіцца. А я кажу: «Но ля, ціпер усе ходзяць як мухі траўленыя. Усе слабыя. Пэўне, мой стары казоў, што перат канцом сьвету гэто. Усё можа ціпер быць. Вот Нінка ў панядзелак званіла, та тожа казала, што плохо ёй. Дзеўчына нека да яе прасілася на кварціру. То казала, што добро б было, каб не адной жыць. Ціпер ёй адной плохо, а так ходзь жывы чалавек у хаце, хоць хто. І начаваць ужо не так страшна. Ага, яна можа калі б і памагла што дзе. А што там у тваёй Ірыны чуваць?» – «А хварэла на грыпу. Ціпер ужо паправілася. То можо ў пятніцу с Коляй прыедуць. Картоплю садзіць будзім, бо час ужо». – «Ага, добра табе, дзеці бліска жывуць, то от, прыяжджаюць, памагаюць табе, а маі далёка, рас у гот на лето прыедуць, і ўсё». – «Ну што ты ўжо так. Яны ш працуюць. Ды й дарога ціпер такая дарагая. Унукі можа летам прыедуць, памогуць што, усё ляхчэй будзе». – «Но ля, чакаю я іх. Пэўне ш прыедуць. А як жа йначай. Усягда ш прыяжджаюць. От і зарас прыедуць».

*М.С.Калюжная, 1927 г. н.*
*в. Невашоўшчына, 2004 г.*

**94.** Адзін гот гэты, тут я была, пасьвілі каровы, дажа тут у нас сусет, ён замаўляў ад гадаў. Там знахары не вылечваюць, токі замоваю. Пасьвілі мы з ім разам. Ён з аннаго боку лесу, я з другога. Усё было пакошана, мы пасьвілі каровы. А я зьбірала казьлячкі* маладзенькія, узяла цэлафанаву торбачку, ножык у міне быў. І я ўсё каля лесу, маладзенькія казьлячкі, дык я яго вазьму аблуплю і ўсё ў цэлафанаву торбачку. Іду – як вожычак, ляжыць каля хвойкі гэдака ш бальшая гадзіна. А міне палка была пат пахаю, я забылася, што яна ў міне пат пахаю е. Думала, як жа ш яе забіць, ах Божа ш мой. Я паціхеньку атхілілася, узяла там сучок такі добры і прышла. Яна ляжыць. Я як дала па галаве – скруцілася. Біла я яе біла – на кускі ні паб'ю ніяк. Такая велька во гэдыка ды тоўстая. Як б'ю, дак сераўно* як па падушцы ці гэдак. Ніяк ні каб гэта забіць. Ужэ ш галаву гэту дак разьбіла проста галаву. Ну так па ёй б'ю – ні разаб'ю, ана тоўста, ці яна мо паросна была, хвароба яе знае. Ага, ну то забіла, што ш, яна ўжо выцянуўшыся, ні рушыцца. Я ўзяла на сучок я яе павесіла. Павесіла я яе на сучок, на хвойку гэту, і вісіць. І гэты чалавек, ужо каровы прышлі на мой бок, ён прыйшоў. Я кажу: «Руткоўскі, хадзі я табе нешта пакажу». Ён кажа: «А што ты мне пакажаш?» – «Ну хадзі сюды». Ён прышоў, дак яна, халера, аджыла і ўжо аткацілася пат куст. Я яе апяць гэтай палачкай зноў падлажыла і давай біць. Я павесіла, а яна звалілася, халера на яе. Ну дак ён кажа гэдак на міне: «І гэта ты гэтаю палачкай і гэту гадзіну забіла?» Кажу: «Забіла, толькі, – кажу, – гэтаю палачкай». Дак ён дзівіўся: «Як ты ні баялася біць?!» Кажу: «Знаяш, каб мусі штук дваццаць ішло, дак я ўсе перабіла п. Гэдак б'ю, і ахвота, вот біць хочацца мне яе біць, і ўсё! Вот!» Ён кажа: «Ну ты ш і адважная. Ах Божа ш Божа, дак гэта, – кажа, – пакажы каму гэту гадзіну, дак будзе уцякаць. А цібе адвагі хваціла біць». – «Так вот як б'еш, дак хочацца, каб забіць». Ён кажа: «Правільна. Гэдак гадзіну станеш біць – да таго ахота, каб невядома скolькі лезла, дак усіх перабіў бы, і страху німа». Ён тады зь міне гэдак дзівіўся, што, кажа, гэтаку гадзіну і забіла. От. Кажу, міне людзі тожа навучылі, я, кажу, уцякала некалі. І бывала, абы ў лес, ну сераўно* найду гадзіну. Вот ці грыбы зьбіраю, ці ягады, як нагнуся – ляжыць гадзіна. Ах Божа ш мой, я тады ў крык, уцякаю і ўжо кажда ў куст хаваюся, дзе ні гляну, мне здаецца – гадзіна ляжыць. А як я стала іх біць, ужэ мне страху ні было, ужэ аны ад міне хаваліся. От. Была, калі дзе ідзеш, дак толькі ш-ш-ш – і ўцякла. От. Хай іх халера! Ой. Дахтары ш ні памагаюць ад гада – толькі замовы. Во так вот некалі лячылі скolькі то, ужэ ні памагала – толькі замова. Я помню, адну жэншчыну ў нас за нагу ўкусіла гадзіна, і яна тожа

лячыла, лячыла, лячыла і дахтарамі, і замаўляла, і ў яе на назе, во тут во, вылілася гадзіна, настаяшча рабая гадзіна, во гэдак во на лытцы. От. Усё роўна, гаворацць, дзе яна ўкусіць, дак гэты ят пройдзе і ўсё раўно знак паложыць свой. Хай іх халера! Гат страшны. Ой, я была адзін гот сюды ў Немераўшчыну, раньшэ як я была яшчэ малотша, дак я, бывала, адна за грыбамі хадзіла. Пайду, ні баялася нічога. І тут жа лесам, такі густы, і Бох мой, ні знаю ні ведаю, чорт яго знае, хадзіла. Ішла я рас, ішла там, дзе па баравікі пайду глядзець. Божачка, калі падышла ш я – ляжыць гэдака гадзіна, і ўся галава ў пер'і, і сьпіна ў пер'і. Ну я та аттуль уцякла ўжо. Пашла, і ўжо сколькі жыву я, то той бок у лес ніколі ні іду. Там старая гадзіна, бо на старой дак расьце пер'е, як на курыцы, такое пер'е на гадзіне. Гэта гат, на сьвеце німа нічога ўжэ горш, чым гэты гат.

*В.М.Вараніцкая, 1913 г. н.*
*в. Уселюб, 1987 г.*

**95.** Вайна пачалася, калі канчалі жаць аўсэ. Мы прыйшлі на абет, і удрух вайна! Зразу пачалі браць на вайну. Падняўся галас на ўсю вёску. Майго тату забіралі таксамо. Я маленькая распасьцерла рукі і крычала: «Ах татачка, не пойдзеш, а як пойдзеш, то вазьмі і міне». Ён ўзяў міне на рукі і занёс церас канец вёскі да цёткі і пусьціў у сат. Калі прыйшлі немцы, то бацько быў на вайне. Усе ж баяліся, ах Божачко, думалі, пастраляюць. Калі прыйшлі ў вёску, ніхто не выходзіў с хаты, а мы зашыліся за печ. Як пачалі сьвяціць фанарыкам у вокны, то мая баба казала: «Смаляке паляць». Мы ж не ведалі, што такое фанарык. Нас выгналі с хаты да другіх, бо наша была лепшая. Яны на гару* насілі сахар, ён жоўты вельма быў, дык мы яго празвалі конскім. А калі мы з братам хадзілі дадому па бульбу, то яны нам давалі пячэнікаў і сахару ў торбачцы, яны нас вельмо любілі. Мама баялася ісьці, бо была яшчэ маладая і прыгожая. У немца быў абос, запрэжаны сабакамі, а зімы тады суровыя былі. Дык немяц на санях як пачне езьдзіць па вёсцы, а мы, маленькія, выбяжым, бо нам тожа хочацца пакатацца. Колькі рас нас бралі с сабою, бо гэта павоска стаяла ў нас. Бацькі майго сем гот не было дома, зь іх тры гады быў у пляну ў немца. З плену еле ногі прынёс, ішоў аш з Баранавіч пяшком. Як ішоў па вёсцы, угледзеў яго мамін пляменьнік і хуччэй да нас. Майго брата ўгледзеў на надворку і пачаў крычаць: «Коля, твой бацько ідзе». Гэто было ўвосень, мама сабрала мушчын сеяць жыто, як пачула гэтую навіну, то чуць з радасьці не ўпала з гары. А мы сь сястрою не верылі, не зналі, што за бацько. Бо вельмо малых ён нас пакі-

нуў. Як прыйшоў, то я ўжо велькаватая была. Бацько, як ішоў дахаты, думаў, што нас у вёсцы няма і хата спалена. Але вельмо быў зьдзіўлены, як усё аказалася на месцы. Быў даволен, што ў нас хлеп быў і да хлеба скварка была. Прас зіму на весну бацько ўжо трохі паздаравеў і бульбу садзіў уручную, лапаткай, а я дапамагала яму, кідала бульбу ў ямкі. У бацькі былі часэ, ён хацеў іх прадаць і купіць каня. У хаце яшчэ трохі было сукна.

*А.П.Шушкевіч, 1938 г. н.*
*в. Ацмінава, 1995 г.*

## КАРЭЛІЦКІ РАЁН

**96.** Ну як раней жылі? Пэўнё, што ні гэдак, як цяпер. У тваёй мацяры, маё ты дзіцятко, адзінаццаць было, а ўсе і дагледжаныя, і ніхто благого слова, бронь Божа**, ні скажа. Было, есьці ні было чаго, а яна (маці) то крапівы с-пат плоту, то кіслаго малачка прыправіць с цыбулькаю, ды гэдак і перакідваліся. Дзякаваць Богу, ні калекамі вырасьлі. Ну а тыя, што памiралі, дык тады дзе ш тыя дактарэ былі. Покуль на кані да Наваградка везьлі, дык Мішка і сканаў на руках. Усяк, дзеткі, прыходзіласё. Алі маці твая хітрая была. Помню, ідзямо за гумна жыто жаць, а яна адышлася і гукая на большу: «Ірка, глядзі, кап там гопа* ў печы ні прыгарэла, то ш я забылася да засланкі падсунуць!» А якая там гопа, калі нават булёну ні было чым засквaрыць. Гэто ш кап мы ні думалі, што ў яе дзеці галодныя ходзяць. А падрасьлі дзеці, то хлопцаў большых у пастухе на лето аддавалі. Пасьвілі людзям вочарацъ, а тыя іх кармілі, абувалі і збожо давалі. Цэлу весну і восянь ў школу ш ні хадзілі. А во глянь ты, у людзі вышлі. Ірка – настаўніца, і Борык – ваенны, і астатнія як людзі. Ніхто ні пасьмяецца. Алі вот ты скажы, і жылі бедно, а тваёй мацяры ўсе завідавалі, бо ў вас ніколі сваркі ні было. Алі што ш хацець, твой бацько ніколі «ты» на мацяру ні сказаў. Усё хорашанько, ды ціханько, ды разам.

*В.У.Адзярэйка, 1903 г. н.*
*в. Райца, 1990 г.*

**97.** Даўней мы жылі ні саўсім бедно і ні багато. Якрас вайна была. Мы ўдома былі, як бацька на вайну забралі. Мы малыя засталіся. Потым брат памёр. Маці хвора была саўсім. Мне было чатырнаццаць гот. Зразу гаравалі, а як троха падрасьлі, сталі лепш жыць, бо рабіць пайшлі, от так. Навесну я вышла замуш. Мужык старэйшы шмат за мяне быў. Ён з братамі тожа гараваў. Яны сіра-

ты былі, бяз бацькоў. Жылі самі, былі дзісьцipліраваныя. Сям'я была очань харошая, куды я замуш пашла. Абразаваня ні было, але павэдля* вёскі яны славіліся, харошыя людзі былі, хоць і нібагатыя. Акуратныя, спакойныя. Як у мяне было вясельлё, то граў наш адзін музыкант ізьвесны – Чарноцкі. Пра яго, кажуць, кніга есьць. Жыў ён у Варончы. Бацькоў яго пабілі немцы. Астаўсё ён адзін. А яго ні забілі, бо ён быў сьляпы, бяз глас саўсім. Но ён красіво граў на кардзіоне і на скрыпцы. Славіўсё тутака ён, і жонку ўзяў сабе. І яна зь ім грала – барабаніла на барабане. І сьпяваў красіво вельмі. Яшчэ доўго людзям граў, а тады памёр па старасьці. От так. Пазьней сынэ нарадзіліся ў мяне. Як хадзілі ў школу, былі харошыя вучаніке. Пярот* на сабрані ўсягда казалі, што і вучацца добро, і дзісьціплінка харошая. Сынэ падрасьлі, пажаніліся. А цяпер во годы, старасьць, жыву адна ў хаце.

*Г.У.Наумовіч, 1924 г. н.*
*в. Райца, 2003 г.*

**98.** Называюся Ракач Вольга Іосіфаўна. Цяшко жыцё было. Дзявочаства ня было. Братэ адышліся, зямлю падзялілі, мне хату апісалі і два актары с палавінаю зямлі. Браты пашлі, падаткі не плацілі, мне плаціць не было чым. Сакватар* апісвае хату, карову забяруць. Пазычыла грошы, але скоранько сабрала і аддала. Кінь перат сабою – знойдзеш за сабою. Мужык добры быў. Верацёна ладна тачыць умеў. Але мало разам пажылі. На вячоркі хадзілі. Хто прадзе, хто вяжа, хто пер'е дзярэ. І сьпявалі. Напрадзём ж і на казла. Дамоў хлопяц падводзіць, нясе калаўрот, яна – прасьніцу. Маладзёш гуляла. Пярот* інцярэсьней было. Дзяўчатам і хлопцам было цяшко. Катора любіць хлопца, ідзе засьцілае вос. Ідзе, а хлопцу не наравіцца, не хоча. «Мне, – кажа, – другая засьцеля дзяругу». Заўтра вясельле. У суботу да вясельля жаніх прыводзіць гарманіста, і цэлу ноч сьпяваюць «Каравай». Робяць кветкі, ленты зь міртаю і папаранікам. Назаўтра коні с шаласткамі* здалёк чуваць. Паехалі да некага. Цюрук-цюрук ды пад вокны. Шукаямо, дзе фурманка стаіць. Звычай быў такі. Прывядзе хлопец дзяўчыну, трэба, кап села на дзешку, то гэта чэсная, акуратная. Нельга садзіцца, калі нячэсная. Дзяўчына як увойдзе ў хату, кажа сама, кап далі ёй дзешку. А як варажылі на Шчадзёр. Пат печу куры сядзелі. У горбачкі* зерне сыпалі, клікалі курэй. С чыёй перш пачне дзяўпці, тая замущ першая пойдзе. Палена носім. Ухопім тры – чатыры і нясём, наносім каму гуру*, лічым, да пары, ці не, ці ў пары ў гэтым годзе будзеш. Башмакі кідалі праз крышу. У які бок ляжа, туды замуш пойдзяш. Пярот на Куцю авес зьмеляш, кісель вару, пячэн-

чыкі п'*я*ку, куц*ю* вар*у*. Сяд*а*ям, сьвечку запальваем. Мал*ю*ся, п*а*церы гавар*у*. Т*у*шым сьвечку, пільн*у*ем. Куд*ы* д*ы*м ідз*е*, атт*у*ль с*у*джаны б*у*дзе. В*о*лаво вылів*а*лі над галав*о*й. Як вян*о*чак выльецца, п*о*йдзе з*а*муш. Куц*і* нав*а*раць, пат пад*у*шку пал*о*жаць. Сасьн*і*ш хл*о*пца – з*а*муш п*о*йдзяш. К*о*жная сьв*я*та сьвяткав*а*лі. На Ул*а*сё на с*а*нках кат*а*юцца, кап лён р*о*с выс*о*кі, а к*о*ні ўпрыг*о*жаны шаласткамі. На Куп*а*ла скак*а*лі церас агонь і п*а*параць-кветку шук*а*юць, *я* то баялася. На Дзяд*ы* абр*у*с засьцелюць, пад н*і*с – сена, зат*ы*м *е*жу ст*а*вяць. Цяшко жылося, ал*е* і іньцярэсьней был*о*.

*В.І.Ракач, 1919 г. н.*
*в. Баранавічы, 1997 г.*

**99.** Уж*о* як хл*о*пяц як*у*ю х*о*ча дзеўку ўзяць, то бярэ малад*ы* св*а*та, бутэльку і ідз*е* да т*о*е дзеўкі. В*ы*пюць бутэльку. Як малад*ы* х*о*ча пас*а*гу, то св*а*т пыт*а*е, шт*о* дад*у*ць, ці грошай, ці кан*я*. Ал*е* ш кам*у*, ма*е* м*і*лянькія, дад*у*ць, а кам*у* ш і н*е*. Ал*е* ш і бяс пас*а*гу бяр*у*ць. У друг*у*ю суб*о*ту зар*у*чыны. Т*а*мака дагав*о*рваюцца, кал*і* вяс*е*льё. А ў суб*о*ту в*е*чарам перат вянц*о*м, ма*е* м*і*лянькія, іс р*у*ты тав*а*рышкі вян*о*чкі ў*ю*ць і плят*у*ць. Як малад*а*я па*е*дзя да вянц*а*, прыцэпйяць яг*о* пат в*а*лен у валасэ. А прыбір*а*юць малад*у*ю да вянц*а* не ў сваёй х*а*це, а м*о*гуць і ў сваёй х*а*це альб*о* ў кам*о*рцы. Малад*ы* пры*е*дзе да малад*о*е выбір*а*цца да вянц*а*. Дв*а* братэ вяд*у*ць малад*у*ю ў х*а*ту, а св*а*т к*а*жа: «Св*а*цейко, гал*у*пко, пакаж*ы* т*у*ю кв*е*тку, што *я* б*а*чыў гэты г*о*т улетку». Сваць*е*я* вядз*е* *я*е ў х*а*ту. Бярэ м*а*ці вікону, малад*а*я йдз*е* наўкруг*а* стал*а* за м*а*цераю. Тр*ы* раз*ы* аб*ы*дуць. На п*о*куці паст*а*іць м*а*ці, і далей ід*у*ць. Як сабір*а*юцца *е*хаць вянч*а*цца, малад*а*я пр*о*сіць хл*о*пца, кап сьвёў к*о*ні. *Ё*н бярэ за ўсьдз*е*чку, сьвядз*е* кан*я*, й па*е*халі да вянц*а*. *Е*дуць вянч*а*цца. У цэркві братэ вянцэ дзярж*а*ць нат галав*о*ю, а с цэркві *е*дуць на вяс*е*льё. Патв*о*даў мн*о*га, к*о*лькі набярэ друж*ы*ны.

*А.Ф.Лежань, 1905 г. н.*
*в. Цырын, 1990 г.*

**100.** В*о*, і Тан*ю*шка якр*а*с прышл*а*. Памаж*ы* мн*е* ў кам*о*рцы папр*а*таць, а то адн*а* не да*ю* р*а*ды. Д*у*маю ў гэту нядз*е*лю сьвін*ю* закал*о*ць, а ў кам*о*рцы, бр*о*нь Б*о*жа**, за л*е*то й п*ы*лу нейкага нас*е*ла, і павуц*і*ньня – атк*у*ль т*о*лькі ян*о* ўзял*о*ся – і ат мышэй сп*а*су ням*а*. Мо ў в*а*с дома *е*сьць як*а*я атр*а*ва на мышэй, запыт*а*й у б*а*цькі. В*о*чы ўж*о* ня б*а*чаць д*о*бра таг*о* павуц*і*ньня. Н*і*тку ў г*о*лку ўж*о* не маг*у* зацягн*у*ць. А в*у*нь шв*а** к*о*лькі ляж*ы*ць, што не в*е*даю, кал*і* яг*о* паш*ы*ю. Нях*а*й бы нясьл*і* ў арцель, ды ш н*е* – шук*а*юць ам*а*ль дарэмнага. Х*а*й жа хац*я* п прых*о*дзілі шв*ы* апкід*а*ць, і т*о* был*о* п

ляхчэй. Тая ш Санька мае швейную машыну – усё роўна нясе мне шво. Не, кап прысьці павучыцца крою, дык ёй ўсё часу няма. Я, як маладою была, то хадзіла, кап навучыцца крою да адной удавы. Было ў яе трое дзяцей. Хаця й далекавата яна жыла, але ш і хадзіла за далёкі сьвет**. Папо за гэта атплачваў ёй то шкваркай, то яйкам, то яшчэ чым. Потым, як шыць навучылася, папо машыну купляць. Хоць і дарагаватая яна была, але ж я як завінулася з гэтай машынай, дык дзе ш дзенесься, прышлося тры карове прадаць, кап машыну тую купіць. Яна ш і цяпер яшчэ ў мяне робіць, не горш за новыя. Але ш я ўжо старая стала, няма ў мяне ўжо той ахвочы, што была раней, ды вочы й тыя ня бачаць. Ой, усё гавару й гавару тут с табою, я ш ваду на газі аставіла, трэба яшчэ рас працерці ўсе гэтыя полкі. Пайдзі яшчэ ў вядрыну* за дзяругай. Трэба гэту бумагу вынесьці ды спаліць, а то ўнукі ўсё сабіралі сабе тут нейкую макулатуры ды таквеляка* яе тут назьбіралі, а ў школу ды не занесьлі, а мышы яе тут трохі і пагрызьлі. Мо там бацька ў Навагратак на базар паедзе, то няхай мяне возьме, хачу ш парасяты купіць. Картошкі трохі ўкапала, дык есьць чым карміць. Заўтра Антон пад'едзе дровы пілаваць, накажы, мо й бацька падыдзе пасьля работы ці вабед ды паможа парэзаць. Удвох бы ўрас парэзалі п. Ну добра, бяжы дадому.

*Я.С.Кавальчук, 1921 г. н.*
*в. Равіны, 2004 г.*

**101.** Прыходзіць да мяне рас Марозіха ды кажа, што ў яе курэй хэўра*, яяк много. Пасадзіла, кажа, яна квахтуху, чакала-чакала, а куранят нямашака. У людзей ужо даўно куравоткі водзяць, а ў мяне аказаліся ўсе баўтуны. Певень у мяне ёсьць, але ён па чужых сьметніках шляяцца, бо ў мяне німа чым карміць. Можа бы ты мне пазычыла свайго пеўня, хай бы ў мяне пажыў нядзелькі дзьве. Можа твой мацнейшы, хай бы паграў* троху. Ну, тут я ёй расказала гісторыю, якую зарас і табе раскажу. Іду я з бабамі с сахаром* с калхознаго двара. Ідзём і гаворым, што нешто недзя сьмярдзіць, і чым бліжай дахат, дак чуваць мацней. А калі я аткрыла сваю кухню, дак аш ногі мае анямелі. Поўная кухня дыму. Стаіць на пліце накрыты саган, а аттуль нясе няведамо чым. Я гас выключыла, схапіла анучу, узяла гэты саган і вынясла. Як я яго аткрыла, дак там ня поймяш што: пер'ё, мясо, вантробы, лапы. Няхай сам Бог бачыць**! Аказваяцца, прышоў мой Дзямян дахаты пьяны, прынёс яшчэ бутэльку і рашыў зрабіць сабе закускі. Злавіў пеўня, атсек галаву, палажыў яго ў саган, накрыў і стаў тушыць. Сам прылёх і заснуў. Бордзянько* знайшла я попліску*

ды калі *я* яму дал*а*. *Ё*н схваціўся й пабех недзя на агароды, а тут і б*а*бы ўжо йдуць на работу. Шт*о* мне рабіць, і *я* пашл*а*. Б*а*бы пыт*а*юцца, а *я* нічого ні кажу. Прыходжу пат вечар, заходжу ў сенцы і як гляну *я* ўверх, а цёсу* ў нас у сенцах нім*а*, дак за крохву завязана вяроўка, зроблена пятля й стаяць боты. Выскачыла *я* на вуліцу і крычу: «Лютцы добрыя, хто ў Бога веруя, памажыцё, гэто ш Дзямян мой павесіўсё!» Прыбеглі людзі, пакуль знайшлі драбіна, *я* лямантую. Тут якрас едзя на ровары дзяцько некі з Даўгінава і пыт*а*ецца, шт*о* тут робіцца. Яму к*а*жуць, што, мусіць, Дзямян павесіўсё. «Які, – к*а*жа, – Дзямян павесіўсё? *Я* во еду з забяг*а*лаўкі, дак т*а*м сядзіць в*а*ш Дзямян з мужык*а*мі і піво п'е». Дак во, мілая, гдзе мой певень.

*М.А.Бусько, 1929 г. н.*
*в. Пагарэлка, 1994 г.*

**102.** *Я*к анн*а* засталась тутачы ў гэтай х*а*це? От, хадзяйна гадочкаў сем як закапала, а сам*а* ніяк тэй сьмерці не прычак*а*ю. Дв*а* сынэ і дочка ў Мінску ўжэ даўно свае кварціры папалуч*а*лі, але к ім не паеду: туды не ступі, сюды не сяць, гэто не зачапі. Сядзі ў куце як уваткнёны. Нічаво не хачу каз*а*ць, прыягдж*а*юць, памаг*а*юць і пляц* пасадзіць, і выбраць картоплю*, і перагар*а*ць. Тыя разы дак і кароўку трым*а*ла, а ўжэ дв*а* гады, б*а*чу сам*а*, нічого* *я*, то і збыл*а* людзям. Дочка каз*а*ла: «Дзяржы, м*а*мо, дораго ўсё ст*а*не». А *я* за грошы да на кнішку, хоць на пахароны сабе зьбяру. А б*а*ч, шт*о* робіцца? Дзеці злуюць, т*а*я кнішка з маймі тысячамі на мех мукі не пацягне, аннаго япрук*а* й трым*а*ю да дзесятак курэй. Не паехалі і ўнукі на лето цяпер. Дак *я* сабе саг*а*нчык прыст*а*ўлю якого панцачк*а** ці другой в*а*ры*, то й на дзень-дв*а* хват*а*е бес клопату. А быв*а*е, шт*о* й ні звару нічого, то тагды за̲га* мучыць. Бензіна дараг*а*я, аўтобусы не ходзяць, быв*а*е, й на Мінск. От тыя разы добро было с с*а*харам. *Я* дак ні н*а*дто й за малаком ганялась, усе неяк чае да чае, ці з палумашніком ці з чабаром, зьверабоем, малінаю. А малак*а* то м*а*ло й б*а*чылі, усенькае здав*а*лі. Трэбло* думаць пра сено, дзе ўзяць. Д*а*сь калхос апшчыпаныя дв*а* возікі ў П*а*марайнях, і думай, як карміць кароўку. А за малако хоць ат*а*ўкі вазок дабаўлялі. У калхозе рабілі мы тутачы крэпко. Як-то ўсе дрыж*а*лі за гэтай работай, дак і баялісь. Дзеці малыя, анно аннаго не падым*а*е**, а х*а*ту закрыеш і едзеш на ц*а*лы дзень за Нёманам копы насіць. Вечарам прылеціш, а меньшо сыпіць, а большо пл*а*ча, а ўсе мурз*а*тыя як чэрці. Да поўначы чысьціш, кашэрыш*, падходжваеся*, а нараніцы да сонца**, як падаіла кароўку, то й да вечара не прыткнесься сапануць* хоць трохі. І так яшчэ зьдзіўленьне, як ногі

носяць. Не бачыла жызьні я харошэй, і абінно, што хазяін сабе на багатыя памінкі грошай зарабіў, а мяне будуць дзеці за свае хаваць, панясуць растраты, нідобро ўспомняць. Можа, грашу, што так баю, але ш так есь. Каб жа ш лепей стало...

*М.Ф.Бусько, 1920 г. н.*
*в. Пагарэлка, 1993 г.*

**103.** Як раней людзі жылі? Ну што ж, раней усяляк было. Людзі былі галодныя і халодныя. Лапці с аборамі пападвязваем – і на канёк, значыць, гуляць. Прыдзеш дахаты, о Божа, пяты замарожаныя. Яны і цяпер пякуць. Гаравалі ўсе людзі, што тут гаварыць. Была ў мяне сястра родна, значыць, служыла яна ў пана. Як пойдзя жаць адна, бо й я яшчэ маленька была. Жне-жне цалы дзень. Прыйдзя дахаты, а есьці няма чаго. Налюць нейкага аднаго булёну, я ш кажу, а самі балююць. Жанцоў* наймалі, каторыя мелі шмат зямлі. А каторыя беднякі, хадзілі на заработкі. Як я падрасла, то ўжо тожа хадзіла на мельніцу, у Асташын. Гаравалі ўсе. А елі што... З лыгі* апалкі* пяклі, у жорнах малолі. Жылі очэнь-очэнь бедно, гаравалі людзі.

*Л.Ракач*
*в. Некрашэвічы, 1993 г.*

## ЛІДСКІ РАЁН

**104.** Была дзеўкаю я. Хлопцы любілі. А ў міне бацькі ні было, толькі маці, браты старэйшыя і сястра старэйша, а я сама малотша. Ужо я стала дзеўкаю. Мне дало ліха** палюбіцца с хлопцам, ды с такім бедным. Ды я і сама такая сама. Трэба было ш нам палюбіціся такім бедным. Мне ш уся мая сям'я забараніла, кап я сыходзілася зь ім. А кап ні было багачшых хлопцаў, так былі п радыя, хто браў бы, за тога і аддавалі п. Сям'я, канешне, – каб ішла за багачшых. Мы любіліся ў бядзе і сьлязах, бо нам забаронена. Давай мы саветавацца ўдваіх. Я згласна сь ім разысьціся, хоць і любіла, а ад яго ні абаранюся. Я яму саветую і проста ўгаварую, што разыдземся мы, бо што мы будзем рабіць, такія бедныя, як мы пажэнімся. Пойдзям шукаць, каб дзе на службу служыць. І ў нас ні будзе ўжо нашай любі, будзям толькі сварыцца. Ты шукай сабе дзеўчыны багачшай, а я выйду за багачшага. А мы будзям украткам любіціся. Ён толькі сказоў: «Ні бойся, мы маладыя, дамо ў жыцьці раду. Я маю работу ў руках – шавец. Ты ўсё думаеш, як будзям жыць, а я толькі думаю, абы мы пажаніліся». Ну, так ён

міне ўгаварыў. Я загласна за яго выходзіць. На суботу сваты, а я ш баюся ў хаці прызнаціся, што ўжо прыйдзе ў сваты. Але ш мусіш прызнаціся. Але сваім я ўсё ш сказала, што прыйдзе ў сваты Юзік. Усе ш захадзілі, усе напроціў. Малотшы брат старэйшаму кажа: «Халера яе ведае**, што зь ёю рабіць. Давай павесім і скажам, што сама павесілася. Што мела гінуць за батраком, то хай лепей павесім». А ён усе ш такі ўзёў свата, паўлітра воткі ішчэ і вяночкам прыброў вотку. Па-настаяшчаму трэба ш прыбраць усе, пазваць людзей на чарку, а я баюся, што тут ужо будзя. С хаты ўцякла, заляцела аш за гумно. Хай ужо бес міне, можа, будуць с хаты яго выкідаць. Сяджу ўжо там, а яны прышлі і с сватам. А ў хаці ўсе, хто на печ, хто на лошку, хто на другім лошку, ніхто ні ўстаў. Тады сват кажа на брата старэйшага: «Ваця, хадзі да стала. Буць ты чалавекам, прыдзі да стала, вып'ям па чарцы. Ні хочаш ты яго, так ты хадзі да міне пагаварыць». А брат сказоў: «Мне німа чаго гаварыць. Мы ўсе сям'ёй ні хочам, кап яна за яго ішла, і німа чаго гаварыць». А я за гумном сядзела ды ўжо думаю, што недзе ш ужо дагаварыліся, і давайісьці ў хату. А пад вокнамі кругом хаты людзей поўна. Усім цікавасьць, як Кавоклі прымуць Юзіка. Я ўвайшла ў хату. Юзік ўстоў ад стала, прыйшоў да міне, а я ў плач. А ён кажа: «Ні плач, Юзэфка, узоўтра каб была гатова, мы будзям ехаць, кап ты была гатова, я цібе паклічу». Забраліся і пайшлі с хаты сват з маладым. А я ш так стала плакаць па ўсём гэтым і думаю, кап тата ў міне быў, то гэтак ні было п. Ну, ужо кладуцца ўсе спаць. Міне сястра ні прымае на лошку. Я на лаву лахманчык паткінула і на лаўцы пралежала ўсю ноч. А сястра як пачула, што Юзік сказаў, а гэта было ў мясаедзі, сама па Калядах, так яна пахавала ўсё адзеньне, сьнягоўцы, панчохі. Назаўтра я давай прыбірацця. А я зімоваю парою абулася ў лодачкі і падраныя панчохі. І ўжо сват і з маладым едзя і міне завуць. Я да іх выходжу ніадзета, а загаварыць да іх ні магу, ком у горле засеў. І адразу лезу да іх на воз. Ну і паехалі барджэй за вёску. Юзік кажа: «Дамо рады». Разьвязаў мяшок сечкі і мае ногі закапалі ў сечку. А што сядзэня было заслана цёплым адзіялам, суконным, зьнялі ды накрылі на галаву. Заехалі да касьцёла. Я ш ужо ўстыдаюся ісьці. Увайшла ў пачакальню ды да жабракоў прысела. Выйшлі дахаты ехаць. Ізноў сяк-так акуталі ды едзям дадому, але ш запаведзь у ксяндза ўзялі. Едзям у вёску, а брат стаіць на вуліцы ў адной рубашцы бяс шапкі, зімою гэта. Я кажу Юзіку: «Нешта ш ён прыдумаў. Можа, будзя па васку, як той Слука». Ажно ш ён за каня ды на надворак ды кажа: «Швагер, захіляйся да хаты, там ужо ўсё прыгатована. А ты, Юзэфа, клі́ч людзей на чарку». А да нас прыехаўшы стрэчны брат з другой

вёскі і нават прывес карафку* воткі пакаштаваць першай вырабы. І як дазнаў, што ў нас робіцца, то накрычаў, насварыўся на іх. Тады вот была ў нас першая чарка.

*Ю.Т.Пушко, 1914 г. н.*
*в. Гуды, 1997 г.*

**105.** Дзеўкаю я была сіраціна. Тату забілі на вайне, я з мамаю засталася. Тады хто меў зямлі, то добра было таму. Як дзеўка мае зямлі, хлопцаў мора. Ну а я была маладая і красівая была, і танцаваць умела, і сьпяваць, добра сьпявала. Зямлі было ў мяне палова гаспадаркі, ладны кусок, зямля добрая, хлопцаў шмат. Але ш некалі, што маці скажа, то і сьвята. Скажа за каго ісьці замуш, мусяеш. Ці ты любіш, ці не, але ідзі, бо маці сказала: ён добры, спакойны, рабочы. Мела хлопца добрага, і мама сагласна была. Ён захацеў, кап палова зямлі на яго апісалі. Паехалі ў натарыус. Гэтыя ў судзе кажуць: «Не, мы не зробім так, яна яшчэ малалетка. Ён зь ёю зыдзецца, а там калі што, можа, другую захоча ўзяць, тады жызьні не будзе». І разышліся зь ім. Тады мама с сваёй вёскі выбрала: «Во, ідзі за гэтага хлопца. Добры, сталяр, сірата, ні бацькі, ні маткі. Ідзі за гэтага». А я гэтага зусім не любіла, нават і не хацела. Ад яго ўцякала, нават с танцаў разам не хацела ісьці. Але ш маці: «Не, толькі за гэтага». Што ш, пажаніліся мы зь ім. Немцы прышлі, сказалі яму на работу. Тры дні ў хаце, тры – на рабоце. Потым жа стаў на работу. Забіла на жалезнай дарозе кабылу, прыйшоў бес кабылы і захварэў на васпалене лёхкіх. Вазілі-вазілі ўрача там з Радзівонішак, фэйчара, лякарстваў не было ў вайну, і памёр ён. Засталася адна зь дзецьмі. Першаму хлопцу было дзевяць гадоў, дзеўчыне было тры гады, а трэцяй, дзевачцы, меншай, было дваццаць пяць нядзелькаў. Цяшка было мне зь імі, але выгадавала. Тры гады былі немцы, ганялі ў лес на работу, лес чысьцілі. А што нажнеш, намалоціш, помню як сёньня, запражэш кабылу, роўна з дугою накладу мяшкоў і павязу. Што зьбярэш, тое трэба і здаць. І яйкі здавалі, і масла, і шэрсьць з авец, і малако. Ласаўцы* нейкія хадзілі, яйкі выбіралі. Куры, бывала, дзе хочуць, там і нясуцца. Там, на кургане, стаялі немцы, увідзелі гэтых ласаўцаў, што на нашым хутары, восім хат было, хадзілі яны ш, прыляцелі, усё стралялі ўгору. Я выйшла, у пялёначкі дзіцятка ўкруціла, прытуліла да сябе. А немец стаіць і трасецца, што застрэліць. Ну я і прызналася ім, што хадзілі нейкія салдаты, а якія, я й сама не ведаю. Яны прышлі, я дзіцё спавівала і сказала ім: «Там пад жорнамі куры нясуцца, глядзеце». То я не ведаю, сколька яны там узялі і пашлі гэтыя ласаўцы. Я ім сама нічога не давала, бо не мела калі. Пе-

рапалохаць перапалохаў, але не застрэліў, і хату не спалілі, але мела страху шмат. Помню, яшчэ за немцам** кабылу ўкралі. У мяне хароша кабыла была. Я выгадавала сама гэту кабылу. Завідавалі мне людзі ўсе ў вёсцы. І гэту кабылу ўкралі. Дзе я ні хадзіла, дзе я ні была, чаго ні рабіла, і не магла нідзе знайсьці. Ну што ш рабіць? Пашла ў другую вёску с сынам, купіла другую кабылу. Але шкода той кабылы. Паехаў мой сын у Ліду. Там яму кажа адзін чалавек: «Ваня! Ваня! Відзеў я тваю кабылу, на базары прадаецца. Пашлі адбярэм, пойдзе яна ў калхос, хоць будзе красіць». Пайшлі. Мой сын і пазнаў, што наша кабыла. Яны да таго чалавека прычапіліся. «А браткі, а міленькія, а я ш нічога не ведаў, я ш на базары яе купіў», – стаў прасіцца. А гэты: «Ідзем па міліцу, адбярэм кабылу». А сын малалетні быў, спалохаўся і ўцёк, вядомо, дзіцё. І не ўзялі гэтай кабылы.

*А.І.Тузін, 1917 г. н.*
*в. Тарнова, 1993 г.*

**106.** Цяшка, дзетачкі, у вайну было ды страшна. Хто меў што ў запася трохі, дык не галадавалі. Мы то, помню, бульбы напарым сабе ды ямо, смашная такая. А хто й лебяду еў. Казалі потым, што й людзей елі, алі ў нас то і не было, мусіць. Спачатку так неяк нічога было. А потым немцы прышлі, то іх баяліся. Яны хадзілі ўсё па хатах, мусі, яйкі, куры любілі, што ўсё пыталіся часьцяком іх. Аднак ня натта ціснулі. Людзі ўсе хавалі такоя, што з адзеньня, грошы. Помню, мы таксама за хатай куфар закапалі свой, кап ні згарэла ні дай Бох. Пасьля ўжо, як немцы адыходзілі, то спалілі вёску. Ранілі там нямецкага ахвіцэра. Гэта ўжо нашыя хацелі памахчы. Ахвіцэр даў знак паліць. Ох, і пагарэла тады ш! Хоць нелюдзі такія, ды спачувалі мы ім. Людзі ш. Помню, ўваліліся да нас чацьвёра, а мы гэта парсючку, малоя сьвінчо, былі ў карыця запарыўшы сена с карой. Дык яны, як гусі, па поўніцы хапалі рукамі, у рот запіхалі. Потым усё ш падзякавалі і пашлі сабе, ні чапалі нас. Было, што і за так забівалі нашых. Таму мы і ў леся хаваліся, зямлянкі мелі. У нас то за метраў дзесяць лес пачынаўся, а там раўчучок быў, дык мы там атседжваліся, покі яны гаспадарылі. Мы с саседамі там былі. Уваччу Яська і зарас стаіць. Сядзелі, нос высунуць баяліся. А Яська высунецца, гляне – і назат. А тут немец хадзіў. Падышоў да рова, паглядзеў на ўсіх. Ну, думаям, браця, пастраляя ўсіх. Алі пазваў Яську толькі, той вышаў. Фрыц гэты і стрэліў у грудзі. Кроў так і палілася. Памёр. Харошы хлапчук быў.

*Я.В.Шымілевіч, 1925 г. н.*
*в. Ганчары, 1996 г.*

**107.** Сустрэліся мы з Ваням у Лідзе, мяса атпісвалі разам. Атпісалі, ну і ўсё, і мы свабодныя. Прышлі на рынак. А жара, цёпла. А мне піць хочацца. Кажу: «Так піць хочацца». А бабы прадаюць клюкву. Здумаеш, які цяпер базар, а тады там, о, ніякага базару ні было. Ён мне купіў стакан клюквы, і я ела, і ён. І шчэ там адна дзеўчына была зь дзітдому. Ну, і ходзім там сабе па рынку, ямо гэту клюкву. Возьмеш у рот – кісьленька, так яно ўжо ні так піць хочацца. Ваня кажа: «Давайця сфадаграфіруемся». А мне што, ну й давайця. Тая дзеўчына ні стала, бо яна нек вродзі як дружыла зь ім. А я і ні замячала, я і сфадаграфіралася зь ім. І мне ён фатакартачку заплаціў, і я дахаты забрала. Гэта дзеўчына кінула, ці яна дахаты пашла напешы, ці яна чым паехала, ні ведаю. Досыць яна й ні была з намі. А мы цэлы дзень нек хадзілі, прышлі на станцу пад вечар. Пашлі білеты купілі. Нешто мы седзімо на вуліцы, гаворымо, а ён кажа: «Валя, есьлі ты пойдзіш за міне замуш, я прыеду ўвосінь да цібе ў сваты». Я нек засьмяялася, кажу: «Ну й прыягджай». А да міне былі ішчэ прыехаўшы сваты с Касілаўцаў, з другой вёскі. Тады ш яг было: хлопіц як увідзіць дзе дзеўчыну, чуць панаравілася, то ўжо прыедзе ў сваты, паўлітра воткі, дай у сваты прыедзе. А я нек і ні хацела за тога касілаўскага. Ён прыехаў і хацеў, кап перат летай жняю ўзяць у хату, каб жаць было каму. А бацька кажа: «Мы то перад летай вяселя ні зробім, бо ўжо прэнтка* лета, мы ні зробім». А я кажу: «Тата, добра, што ты гэтак казаў, я за яго і ні пайду». І мы выпілі гэтага паўлітра, і бацька дастаў нескалька грошай і заплаціў гэтаму кавалеру. Ну ўжо я нічога ні далжна, а выпіць трэба было, таму што ш гонар дзеўцы, што ўжо прыходзіў сват. У міне было мо зь дзесяць гэтых сватоў. Усё то такі, то гэтакі. Ну а потым, гэта было ўжо вясною, нек нека сьвято было. Нешта мама міне пасылала сюды да цётак. Я прыехала, а тут вяселя неча было. Ён за друшка быў. Помню, у іх натта конь быў харошы. Мы пайшлі выпраўляць маладога, дзяўчата, хлопцы. Яны за сталом сядзелі, ужо выягджалі. Ну, мы выправілі. Потым назаўтра ўжо там адгулялі ў тых Гародніках. Тады былі танцы, мы пашлі на танцы. Іван ні гаварыў ужо з друшкаю сваёю, ужо за мною ўсё гаварыў. Міне прыглашаў гуляць. Тады некалі хлопіц як ні прыглосіць дзеўчыну гуляць, то й ні пойдзе сама гуляць, як ціпер, пойдуць і таўкуцца. Адна сядзець будзе цэлы вечар, як ніхто ні прыглосіць. І Іван ужо прывёў міне дахаты. «Валя, я, – кажа, – свайго слова ні забыў, што табе сказаў». А я кажу: «Я ўжо й забылася». І прыехаў ён да нас пад восень нек. А я ўжо ўдома шыла. Было нека вяселя, і помню, так дзяўчатам я шыла сукенкі. І прылятае да міне дзяцька мой і кажа: «Валя, да цібе едзе хлопіц такі

харошы». Я кажу: «Які хлопіц?» А я за друшку выбіралася. «Ён адзін прыехаў, палядзець. А я ш ні ведаю, хто». А ўжо як ён прыйшоў, то я пазнала. Мама міне ўжо за друшку ні пусьціла. Мы схадзілі на танцы, ці то нават і ні хадзілі. Тут ужо як узналі, што хлопіц у хаці, усе дзяўчата папрыходзілі, ужо ні пайшлі на вянкі* аш у другую вёску. І тут ужо ў нас цэлы вечар былі. Лаўкі расьцягнулі. Тата трохі на скрыпку паграў. У нас грамафон быў такі с трубою, пласьціны клалі мы ўсё. Ну так пасядзелі, і ўсё. І ён кажа: «Прыеду да цібе ў сваты». А мама мая хоча, каб я за яго замуш пашла. А я нармальна, вот толька што ён харашо гуляў, наравілася. Назаўтра пад вечар ён паехаў. Мы ўжо адну нядзельку яго чакаем і другую. А я ўжо, як толькі субота, печку вазьму забельваю. Адзета я ў такой спадніцы, запырскана, а тут – сваты. Бацька просіць: «Ідзеце ў хату». Яны прышлі ў хату, прынесьлі бутылку і лустачку хлеба. А сват многа пазагадаў пасагу, казаў, мы прыехалі да вас узяць вашу дачку, але наш букврар (гэта бацька ўжо Вані) так сказаў: дзесяць тысяч грошай. А тады дзесяць тысяч – гэта вялікія грошы былі. А бацька мой ды кажа: «У міне чатыры дачкі, і я ш каждай ні наўмеюся па дзесяць тысяч». А Ваня ўсё: «Ні слухай ты, – кажа, – яго». А я кажу: «На дзесяць тысяч мы ні сагласны, дажа й піць ні будзім вашай гарэлкі. А начаваць, – кажу, – начуйце, бо далёка ехаць». А мой кажа: «Ідзём людзей зьбіраць». Трэба было куму, суседаў, бацька хрышчоны, гэта абязацельна. Досыць мы набралі нек людзей на два сталы. Потым прыехаў, заяўленьне панясьлі. Трэба, каб заяўленьне доўга павісела на сьцяне ў сельсавеце. На Пакровы расьпісаліся. А яшчэ за месяц раней паехалі ў цэркву. А пасьля вяселя згулялі. І жывём ужо паўвека, підзісят гадоў во зара будзя. І сыноў двух маем. Во гэтака гісторыя.

*В.М.Урбановіч, 1925 г. н.*
*в. Ганчары, 1998 г.*

**108.** А што я вам туд буду гаварыць? Трэба ўпраўляцца ды малако пілнаваць, каб ні ўцякло. Была я маладая, хадзілі, зьбіраліся ўсе разам на вячаркі. Адныя пралі, другія так што рабілі. Прыходзілі хлопцы, было васало, сьпявалі песьні на вячарках. Я песьні любіла і ўмела сьпяваць іх. Хадзілі на танцы. Было многа моладзі. Моладзяж была харошая, як ціпер, воткі ні пілі. Танцавалі танцы ні такія, як цяпер: польку, вальца, мазурак, кадрыля, умбэрка. На вячарынцы бывала, што й біліся. Вёска была велькая, разлучаліся на тры якія пачкі*. Музыканты былі ні такія, як ціпер. Музыканты гралі ўручную: гармонік, скрыпка, цымбалы. Прыдзя вясна, аш

разьлягаяцца па вёсцы, харашо як сьпяюць. А потым дзе якога палюбіш і замуш выйдзяш.

*З.Паўлюкевіч, 1920 г. н.*
*в. Заполле, 1989 г.*

**109.** Знаяш што? Я помню йшчэ, як былі мы ў вёсцы, у нас былі вускія ніўкі. Мы хавалі* каня й карову. Потым, у трыццаць восьмым годзі, зрабілі футара, і мне прышлося ўсяго два гактары зямлі. Знаяш што, браця ты мой, ні мох я выхаваць каровы й коніка. Хавай каня – ні выхаваяш карову, хавай карову – ні выхаваяш каня. Патом зайшла савецка ўласьць. Зачалі панску зямлю раздаваць. Я ўзяў ішчэ тры гактары, і зачало лепяй жыць. Былі мы адналічнікамі*. Патом давай нас заганяць у калхос. На працадзень мала палучалі, найбольш па кілаграму. Я, браця ты мой, рабіў на фермі. Выхадных нам мала пападала, ну ціперака дабавілі трохі, жыць можна. Прыходзяць гады, стары. Прыглашаюць браць зямлю, ну ўжо яна ні нада.

*Г.Я.Казімір, 1916 г. н.*
*в. Янцавічы, 1989 г.*

**110.** Якая ш мая жызьня была? Я вышла замуш, калі мне не было васямнаццаці. Мы пажаніліся, і яго забралі ў армію. Служыў у армі бліска, у Лідзе. Потым прышоў з армі і стаў рабіць гаёвым*. Неяк разам мы ўсе былі ўдома і пачулі, як лес рубалі. Мой мужык узяў ружо і пашоў. А мы зь яго маткаю сьледам палецелі. А на возе было ўжо наложана дзерава. Ну і ён с той быстроты ўзяў за люфу* і прас вос хацеў ударыць гэтых, што лес рубалі. Як ударыў, то і выстраліла ў яго самаго. І перад нашымі вачыма ўпаў. Потым завезьлі яго ў бальніцу ў Ліду. У бальніцы ён шчэ жыў тры дні і памёр. Файны быў мушчына. Яго маці была вочэнь хароша. Яна мяне ўгаварвала, каб я выходзіла за малотшага брата. Мае бацькі не згадзіліся. Мама казала: «Не было шчасьця за адным, не трэба і за другога». У мяне ш быў пасах на кнішцы паложаны. Яны аддалі мне дзеньгі і дзьве каровы. А ў майго мужыка была свая купча зямля. І я ш расьпісалася, што не ўтранцаюся* да зямлі. Ну і што ш далей? Неяк ехала я зь Ліды, і са мною побач едзе мушчына. Ехалі церас нашу вёску. Дагаварыліся, і потым прыехаў у сваты, і пажаніліся. Тады ш было не гэтак, як дзісь*. Гэта быў марачок. Жылі мы зь ім хораша, хаця врэмя было цяшкое. Но мы з усім мірыліся. Жылі на футары. Вакол шмат лесу. Ён рабіў у заводзі сьціклаварам. Потым рабіў у ахране. Жызьня была цяжола. Гэта ш прас пяць кілометраў хадзіў на работу. Бывала, ідзе пасьля сьме-

ны дадому і ўночы зімою. Тады было не гэтак, як дзісь. Тады ніхто нікога не баяўся. Раней і сьнегу было шмат, але хадзіў, працаваў, кап сям'ю дагледзець. Потым сталі калхозы. Было і такое, што пойдзеш, каласоў жытніх нажнеш у дзярушку і нясеш дадому. А потым гэтыя каласы выбіваем, прасяём на рэшаце і ў жарнах малолі і пяклі хлеп. Жылі на футары, а нам трэба было на полё хадзіць аш пад Нёман. Там жалі калхозна жыта. І хадзілі туды картошку капаць. Далёко было, вочэнь далёко. Шчэ нясу вечарам кошык картошкі дадому, каб было што есьці. Нарадзілася ў мяне дзевачка перша, але потым забалела і ўмярла. Потым сына радзіла. За пара гадоў падрос гэты сын. І ўжо праз дзесяць год радзіўся трэці сын. Сыноў павыгадоўвала, потым унукаў гадавала. Так і прайшла мая жызьня. Натта неяк быстра. А цяпер і другі мужык памёр. І для мяне ўжэ жызьня кончана.

*А.А.Урбановіч, 1912 г.н.*
*в. Пудзіна, 1995 г.*

**111.** Хоць я шчэ зусім малая была, але помню, як вайна пачалася. Мне тады было гадоў два ці мо каля трох. Тады лета было, дзень цёплы, сонечны. Натта запомніла, што лён цьвіў. Такім сінімсінім цьветам, так харашо было ўзірацца. Нічога так ні помню, як лён. Я шчэ малая была, забуляюся на траве на слонцы й віжу, як самалёты ляцяць. Ніска-ніска адзін за адным. І ўсе суседзі, мама, помню, мая с татам гаворацць: «Вайна! Вайна!» Я шчэ ні панімала тады, што гэта такоя. А потым быстра нек забралі тату, дзяцьку Астапа, й асталіся мы адны. Ні помню, як тады жылі, цяшка ш было, але нейк во кідаліся патроху. А потым я ўжо й каровы ганяла пасьвіць. Мне тады толькі гадоў чатэры было. Адразу толькі свае, а потым і сусядоў. Бо ўсім усё работа нека была, а я малая шчэ была, та што мне было рабіць. Паша дрэнная была. Налетаісься за каровамі, ногі ўсе пазьбіваяш, назаўтра так ні хочацца ўставаць. Здэцца, кап яшчэ ну хоць мінут дзесяць паспаць далі. Але ўстаеш, хто ш пагоніць, німа каму. І восянь была, холат, а я босая, бо абуць ні было чаго. Вайна ш тады была. Я троха й немцаў помню. У нас та іх ня было, нікога ні залапалі*, ні стралялі. Толькі як атступалі, прышлі вады напіцца. Маладыя такія салдацікі, змучаныя, змарыўшыся, аш шкода іх стала. Мо й ні шкадавала п іх, кап яны зачапілі каго, расстрэльвалі, ці дабро забіралі. Але ўжо тады й забіраць ні было чаго, што ў каго й было, та парцізаны пазабіралі. О, тыя мучылі людзей, нічога ніхто ні ўхаваў ад іх. Дзіва што! Як кончылася вайна, та павылазілі зь лесу ў кажухах новых, скрыні адзежы дадому папрывалакалі. Самы адзеліся й сем'і

паадзявалі. Я ш ні перабольшваю, во хто старэйшы ў вёсцы есьць, ніхто злыгаць* ні дасьць. Мо яны й ні ўсе такія былі. За Нямнам таксама парцізаны былі, але тыя былі па-чалавечы, і немцаў тыя білі, мастэ ўзрывалі. А калі што й трэба было, ні рабавалі людзей, хадзілі, прасілі дзе што. Пасьля вайны што? Такоя жыця й пасьля вайны было. Тата пасьля вайны шчэ ўсьпеў хату паставіць і мяне да шасьці класаў давучыць. Больш я ўжо й ні хадзіла ў школу, ні было каму застаўляць. А хто тады больш хадзіў? Сем, праўда, многія пакані, а больш рэтка хто вучыўся. Удома трэ було рабіць. Ат, няхай яно праваліцца**, такоя жыця.

*Н.А.Кухта, 1939 г. н.*
*в. Мастаўляны, 1995 г.*

**112.** А як я была маладая, дзяцей ў бацькі было троя, была шчэ сястра Фаня і брат Косьцік. Бацька ні натта быў бедны, гаспадарка німалая была. С хлопцамі я ўмела гаварыць, то й сватоў у міне шмат было. А я натта аднаго любіла, беднага, сь Сямашок, Аляксея. Мы зь ім у цэркві ўсё відзяліся. А потым маладзеш на танцы ішла. От там ужэ добра было, як у нядзелю, та цалюткі дзень скачаш. Але ш ні пускаў міне бацька за яго, бо казаў: «Бяс зямлі ні пражывеш». А тут аднэй нядзелі сваты едуць. Малады, кажуць, багаты, харошы. Хоць шчэ й маладая была, а бацька кажа: «Ідзі!» Бо шчэ й Фаня малотша была, то трэба было выходзіць. Пашла якрас летам, у яго матка памярла дзьве нядзелі назат, жаць трэба было. Гаспадарка велька. Як пойдзем ат сьвету**, дык аш покуль слонца не зойдзя. А есьць хочацца!.. А кап хоць хто пра цібе ўспомніў!.. Плакала першыя дні, але, дзякуй Богу, Іван мой добры быў, дык хоць трохі памагаў мне, заступаўся за міне перат братам. А ў вёсцы міне любілі, бо сьпявала добра, вясёла была. Так і жылі першыя гады.

*Н.У.Валюкевіч*
*в. Парачаны, 1987 г.*

## ВОРАНАЎСКІ РАЁН

**113.** Раней васола было, не так, як тэрас*. Тады ў Гайцюнішках школа міханізацыі была. Курсантаў было поўна, то часто рабілі танцы. Тады ш гэтых клубаў ні было. Танцы рабілі па хатах. Найболей то ў Маліноўскай танцавалі. Яны, ведаіш, бацька прыехаў з Амерыкі, добры кавалак зямлі купіў. Такая ладная забудова ў іх была. Многа пакояў. Куляжанкаў* мела шмат, з імі і хадзіла на

танцы. Так прыдумаю, як на дзеўку выходзіла. Ні мела чаго ўбрацца. Адна сукенка на штодзень, другая – да касьцёлка, трэцяя – на вечарыны. А малады, убрацца хочыцца. Тады вайной нічога ш ні было. Так помню адну сукеначку, такую шэрую, цётыначка дала. А посьля й шарафанчык, такі ядвабны, і блузачку. Кажа: «Бяры стройся, ідзі на танцы. Я ш ужо ні пайду, куды ш мне». А ў хаце як ест, так і добра. Помню, у маладой мяне косы длугія, тоўстыя былі. Пайду танцаваць, то гэтыя косы тылько плясь па плячах, плясь. Ото ш надаелі яны мне. Посьля адрэзала ўзяла, андуляцыю* зрабіла. То бацька сварыўся, казаў: «Хіба ты, дзеўчына, здурэла». Раней і танцы не такія былі, як тэрас. Тэрас некія сьмешныя танцы, як стануць, то й таўкуцца на адным мейсцы. А мы гулялі белу кадрылю, краковяка, вянгерку, фокстротак, танго, польку. Найболей грацъ наймалі дзеда сь Сьвілоў. Курсанты сядуць на каня, то глядзі – рас-два** й прывезьлі. Як нашы ні былі паехаўшы да Амерыкі, то я ў Таўрэлі часто хадзіла на танцы, ці на васэля. От калі ўбачыш у касьцеле сяструу сваю ў другой стрэчы, то яна скажа: тады й тады прыхоць да нас на танцы. Часто ў хаце, дзе брацiха жые, тэш* танцы былі. Гэтыя хазяіны да Польскай ішчэ ні былі выехаўшы. Як набярэцца нас там, то поўная хата. Ото ш васало было. Наша хата тэш ні малая. Так ужо глядзі, курсанты й просяцца: «Белаус, пусьці, пусьці». Абы толькі папрасілі ў бацькі хаты, так і пусьціў. Шафу адсоўвалі да сьцяны й гулялі. А потым засьмецяць, затопчуць падлогу й ні хочуць пратаць*. І пратай ты за імі. А рас, помню, ото шмат курсантаў набралася ў нашай хаце. А дзяўчат было мала. Адзін укланіўся й вывяў мяне гуляць. А потым давай абымацца. Я як закрычу, як выляту с хаты ў кухню. А бацька кажа: «Чаго ты як дурная?» Аля рас у нашай хаце былі танцы, то ото ш біліся. Ужо тата казаў: «Ні пушчу боляй». Добра гокнаў ні пабілі. У Бэльскіх тэш хата нічога, туды часто хадзілі. Змовімся з дзяўчатамі і ідзем. Дзе нас тылько ні было. І во што спомніла. Рас пашла я с куляжанкай на вечарыну, з Валькай. Яна так ладна танцуя, я найбольш з ей і хадзіла. Добра ні прыпомню, хіба да Бэльскіх пайшлі. Уваходзім, а там ужо гуляюць. Поўна хата. Углядаюся, усе некія незнаёмыя. Адзін вывяў мяне гуляць, нізнаёмы, і як укусіў, то прама кроў пашла, хоць ты яму ў морду дай. І чорт ве, што рабіць, і няма як крычаць. Ну што рабіць, усю насовачку закрывавіла. Тады ў Гайцюнішках школа міханізацыі была, я думала які курсант. А посьля дзяўчаты даведаліся, скуль ён. Ну, дабыла я нек тую вечарыну. Ідзем ужо зь дзяўчатамі дахаты. Валька да мяне гаворыць. «Я, – кажа, – думаю, што ты ўсё выціраісься. І ўсенька хустачка ў крыві. Можа кроў з носу прарвалася?» Тады

давай я ім расказваць. А Валька кажа: «Я яму як дала п, дык ён адразу атскочыў бы». І сьмяюцца тады дзяўчаты: «От, знак пасадзіў табе». Прыходжу дахаты, бацька пытая: «А што ш гэта?» Аля што ш скажыш, маўчу. От якіх было паганых хлопцаў. І тэрас* хіба іх ест. Да трыццаці гадоў хадзіла на танцы, на васэлі, а посьля ўжо ні хадзіла. Думаю, стыдна ўжо ісьці, маладыя ўсе.

*А.А.Белаус, 1923 г. н.*
*в. Лушчыкі, 1997 г.*

**114.** Што ш мне вам расказаць. Я, што й ведала, то ўжо забылася. Ведама, жыю на сьвеце ўжо восьмы дзесятак. То хіба слухайце. Скажу вам не байку, а шчырую праўду. Эта было, калі я была зусім маладая, мела кавалера і любіла яо. А браты і сёстры не хацелі яо. Міне, праўда, паткручывалі* і другія хлопцы. І прыйшоў ён да нас у хату. А браты мае, старэйшы і малотшы, пачалі крычаць, што мы такога швагра не хочам, выганяй яо, мы не дамо за яо сястру. А матка ўзяла венік, а калісьці венікі былі вялікія, камлі доўгія, і венікам яму па галаве: «Вон! Ты тут ніпатрэбны!» Ён вышаў і стаў пат акном. А матка так разлавалася і пачала міне венікам біць, разьбіла галаву, і кроў палілася на белую рубашку. А бацька ляжаў на печы, ён не змох болей этао відзяць, выскачыў і закрычаў: «Нашто ты яе б'еш? Рас яны любяцца, хай жэняцца». А матка не дала. Ён пашоў. І разышліся мы як цёмныя хмары**. Потым ён казаў зысьціся, аля бяс шлюбу, а бяс шлюбу я не пашла. Сказала: «Хоць згіну, аля гоноровя». І згінула. А калісьці час быў дурны, не дасьць матка – не пойдзеш замуш, не дасьць бацька – тожа не пойдзеш. Такі час быў. А бывая, сваты прыедуць, мне не нравіца – ізноў не іду. Шчасьця мела шалёна, а долі ні каплі. Я не была моцна ладна*, аля хлопцы міне круцілі й танцаваць вялі. Быў яшчэ адзін хлопец, за каторага я хацела высьці замуш. Зразу я яо не ведала. І тут прыехаў ён у сваты. Селі ўсе выпіваць: сваты, бацькі, дзяўкі і браты. А я сяджу, і ён мне спачатку здаўся такім няладным. А потым пашлі танцаваць. Не пасьпела я патанцаваць, усё роўна як прыліпла да яо. Я добра танцавала, а ён яшчэ лепей. Селі ізноў за стол, адразу адвярнуліся адзін да аднаго, гаворым, сьмяёмся, і так панаравіўся ён мне. Дагаварыліся у суботу на запавець** несьці. Называўся ён Пятрук. І так я хацела яо ўвідзяць, што, здаеца, кап ведала дарогу да яо хаты, то пашла пяшком. Прыехала я з бацькамі да касьцёла, разам прыехалі браты й сёстры. Раптам сястра Алюня і кажа: «Дапраўды, Пятрук ідзе напераt». Ён падышоў, прывітаўся і кажа на міне: «Пашлі пакажу жаропку двух зімаў». А жаропка ладна была, яму аш пат сабой выка-

пала. Прышлі мы назат да бацькоў. Ён падышоў, маццэ і бацьку руку пацалаваў. А бацька ўжо ў руцэ мае грошы, кап аддаць за тоя, што напілі. Калісьці такая мода была. Як увідзяў ён грошы, засьлязіўся і спытаўся: «Чым жа ты міне забракаваў?» А бацька сказаў: «Нічым. Я так хачу». А я так знарвавалася, што не паехала зь імі, а пашла пяшком. А сястра мая Алюня не вытрымала й сказала бацькам: «Дакуль вы яе марнаваць будзеце, вы яе змарнуеце». І змарнавалі. Мела дужа кавалераў, аля не вышла за іх, а калі была ўжо ў гадах, за маладых не ішла, хоць былі й такія. Я ім казала: я вам не тавар, а вы мне не купцы. Вышла я замуш ужо у сталых гадах. Во такая мая доля.

*Я.І. Коўза*
*в. Вайкунцы, 1996 г.*

**115.** Ці ш тоя пярот* пелі. Пярот жыта было сваё. Калі добрая было жыта, ту нажыналі па тры капы ў дзень. Былі гады, што й марная жыта было. Усяляк было, аля жылі людзі, елі зацірку, скварку, картоплю*. Аля ці такая картопля пярот была. Хоць не такая велькая, аля смачная была такая. Усё гэтая хімія тэрас* патрула*, хваробы ўсялякай нагнала людзям.

*Я.Радзевіч, 1919 г. н.*
*в. Віганцы, 1990 г.*

**116.** Ня знаю, што табе й расказаць. Мусіць, пра сваю маладосьць. Як паглядзіш на тэразьнейшую* маладзеш, то душа баліць. Кап калісьць так рабілі бо мы, то бацька кап узяў дрын* ды паміж вачэй як перавёў, то й досіць было п. Страшны тэразьнейшы час. Тэрас яшчэ малыя дзеці, смарчкі яшчэ, а ўжо на танцы лятаюць. Мы, бывала, у асемнасьця адоў ляцелі. Калі прыляціш на вечарынку, то за бабаў плечы схаваесься й сядзіш. Бо баімося, што прыйдзе сталейшы хлопяц і гуляць вывядзе, а ты танцаваць добра не ўмеяш, і тады стыдна стане. Танцаваць ні ўчыліся. Падрасьлі мы, паразумнелі й на вячоркі любілі хадзіць. Нашы хлопцы ладна* тангу гулялі. А музыканты такія файныя былі. І на Коляды зьбіраліся і ждайгі* рабілі. Дзяўчаты ідуць канаплю сеяць, а хлопцы кажухі вывярнуць, адзенуць, і да нас. Як устрашаць, то потым с тыдзень с хаты за парох не выйдзеш. Зімой венцай* часу было. Зьмяркала рана, вечары длугія*, а на вясну ўжо на поле ідзём. У бацькі быў кавалачак зямлі, а хлопцаў у нас не было, то мы сь сястрой да бацькі на помац ішлі. У маі кужны вечар зьбіраліся на май, кап памадліцца. Покуль зьбіраюцца, то нарагочыся, аш зэдлі не вытрымваюць. Усе навіны пачуеш. А хлопцы набяруць у кяшэні хруш-

чоў, жукоў маёвых, і дзяўчатам за пазуху як накідаюць. Тады піску, енку, на ўсю хату. Бабы потымо лаяць. Лета як прыдзе, то няма часу ні паесьці, ні папіць. Рабілі з раня да зьмярканя. Папрацуеш цэлымі днямі, што вечарам ледзьве ногі дахаты прыцягнеш, а бывала й есьці ўжо не хочаш. А як сьвята якое рочнае, то маладзейшыя зьбяруцца ў адну кулэчку*, а старэйшыя ў другую. Ходзяць, сьпяваюць. А як ладна прыбіраліся. Не было з уборамі калісьці такіх выбрыкаў. Як вышла замуш, то мела пару сукняў*, спадніцу й блюзу, пальта зімовае, вясёнку*, боты адныя й туфлі. Трымалі адзеньне, кап у людзі ладней высьці. Штонядзелю ў касьцёл хадзілі. Мадліліся. Потым ужо равары пакуплялі. А як нашыя бацькі пяшком у Вільню і з Вільна хадзілі. Ту ж нямала, бо ў адну старану кіломатраў осемдзесят. І здаровыя былі. Можа таму такі й сьвет быў здаравейшы. І ні было тады ніякай радзіяцыі. Чула па точцы*, нашай радыі, што за Вільням ест такая станцыя й можа бяды нарабіць. Мне ту ўжо нястрашна, уміраць пара, але дзяцей, унукаў шкода, што труцяць. Але можа Бох дапаможа й перасьцеражэ ад такіх бедаў.

*Н.М.Матусевіч, 1903 г. н.*
*в. Пераганцы, 1994 г.*

**117.** Даўней жылі цяшка, траву елі. А потым савет* прыйшоў. Вайна страшэнная была. Як пераехалі сюды, хадзіла на стройкі, рабіла, цягалі цэглы, цымант. Пабудавалі цэлую вёску. Коньмі садзілі, машынаў не было. Тылька вайна зайшла*, дык яшчэ там рабілі, у Білюнцах. На кілаграмы рабілі, кілі* на дзень не заробім. Калі былі хто адналічнікамі*, землі мелі, лепей тым было. Два мужыкі мела, адзін да вайны, другі пасьля вайны. Жыла, як усе, дзеці гадавала, але больш яны самі гадаваліся. Усюды сьпяшалася й іх с сабою цягала. За плячмі, бывала, нясеш ці ў прыполе. Бяс мушчызны цяшка было жыць. Обуві не было, босыя хадзілі. Лапці з лыгі* рабілі, да дзёрава надзяруць. Як немец зайшоў, хадакі* насілі, туфлі абіваныя. Не было керасіны купіць за што. На кулёні* выходзілі, дык немцы чуць не забілі. Абос ішоў, бралі ўсё. Яны прывялі коней. Папрывязвалі да гумна. Акопы пакапалі, пахаваліся. Цяшка было. Сахарынкай* саладзілі, цукру зусім не было. Прыехалі сюды, у школе тры гады тэхнічкай была, а Янка наша кухаркай была. Тры гады ў натэрнаце* рабіла. Усюды працавала, усюды міне поўна** было. А веля* ў эташках дзяцей гадавала. Сваіх два сыны мела. Адзін сын у войску на чатыры гады быў пры самалёцкай часьці. А гэты малотшы тры гады быў у батальёне рабочых. Першы на пяты рок* прыйшоў. Той першы набор усё страшылі, што ні прыйдзе. Кажу, што будзе, тое будзе. На камісіях усё ў яго адабралі. Потым у цыганы

папаў, там ы шкарпэткі адабралі. Дзеці служылі, а ў хаце бацьку не было каму дапамахчы. Сама ўсё разрывалася. Часам слабасьць такая нападзе. Морхвай лячыў, калі стары, а я ганучу намачу і спаць лягу. Я гарушчая* баба, страшэнна гарушчая. Яшчэ дзякуй Богу за вочы, за рукі, за ногі. Усё сама. Ён едзе ў Мікшавічы, калоды вязе, а я зь дзецьмі хоць пэнкні**. Прыйдзе, кашуля уся ў ядловай смале. Мыдла купіла, але дзе ш ты атмыеш. Во было, не дамыць, хоць зубамі грызі. Брат да ўдавы мой хадзіў. Тая ўдава трэці рас замуш хацела ісьці. Бацька мой з мацерай не хацелі. Потым поест яго забіў. Я мусіла ісьці замуш. Васэля ў запусты* маё было, беннае. Як ішлі замуш за польскім**, мелі куфры гадзеньня, свої* палатна, гавечак. На васэля весела было тады. Людзі даўней больш жылі, і па дзевяноста гадоў, і па сто. Раней трывалейшы нарот быў. А цяпер што, цяпер ы дзеці негжэчныя*.

*С.Т.Войшніс, 1909 г. н.*
*в. Пераганцы, 1994 г.*

**118.** Даўней жа ў школу дзеці ні хадзілі, а трэба было сьвіньней, цялят, коней на начлёх ганяць. Цяпер як пагляджу, то ўвесь сьвет і разумнейшы, хітрэйшы. Бывала, дзяржыш па сём кароў, корміш іх саломай, поім іх вадою, абы кап жывыя былі, а малака з усіх вядро толькі й надоіш. А цяпер адну хазяін дзяржыць, а малака болій, як сь сямі. Усё гналіся, кап болій, а толку ні было ніякага. Было цяшка жыць. Мы сь сямёю пасьцілі сем нядзель. Елі сялётку, мак, кісель варылі, саладуху варылі, бульбу парылі. Із мукі саладухі, бывала, наробіш, ставілі чыгун, у чыгун мукі, халоднай вады нальлеш, на прыпячак, і яна грэяцца, тады ў печку ўстановіш, яна ўпарыцца, тады выніш сь печкі, яна застыніць, скарынка такая абразуяцца, а смачная, а салоткая, што мёт той! А зімой жа пралі. Пакуль атрэп'е* папрадзеш, а тады ш самыя галоўкі прадзеш, а тады кросны ткуць. Вясной беліш, усю вясну беліш. Бульбу сеім і палатно белім на рацэ. А летам ужо жаць ідзём. Жаць хадзілі па найму, кап трохі грошай зарабіць. Жалі на загонах. Як пападзеш к якому, то й есьці дасьць, а які і ні пакорміць. А праца якая цяшкая была. Выходзіць сявец с кубаркай* такой на шыі і сеіць. За цалюткі дзень гэтая кубарка адарвець і шыю, і рукі, што чуць прыпляцесься дамоў. Жнія даўней жала сярпом. Як у бальшым куску, то зарас ні зойміш. Дык некалькі разоў занімаіш і жнеш. Раніцай, калі жыта мокрая, жнуць на жменьку. А пасьля вяжуць у снапы. Вось такая й праца. Вось яна жыцця была. Яна работа была, дзеткі мае.

*М.А.Клімук, 1921 г. н.*
*в. Праважа, 1994 г.*

**119.** Алі тэрас* час. Раней такога ні было. Нарот быў вясёлы, а тэрас што на гэтым сьвеце робіцца. Раней ні пасьпееш дзень добры атказваць дзецям. Во як было. Я вам растлумачу, як было калісьці, і як замуш шла, як мы жылі. Я мела тры гады, калі бацька памёр. Мама мая нас утвох сь сястрой выгадавала. Жылі нічога, людзі памагалі. Замуш шла я, калі мела двадзесьця*. От я ды выбірала сабе хлопца на той час, такога нідзе ні было. От ладны* ён быў і смаглы*. Перат тым як вяселя наша зрабіць, паехаў мой Антось на заработкі аш да Аргеньціны. Ош сьвету ён угледзеў, дзетка маё. Цэлы гот ён там працаваў на шахце. На той час мой Антось зарабіў на шмат кароў. Калі патлічыць, то на цяперашні час дзесьці каля семсят кароў велькіх выходзіць. І мой прыехаў нябось да міне, не нашоў сабе другую. І пажаніліся мы. Я прышла ў родзіну* іхнію чынастая*. І жылі яксьці, мейсца ў родзіні хватала ўсім. Мы нігды* ні вадзіліся*. Жылі мы добра і згодна. Хлеп быў, калі сьпячэш булку якую, альбо так што. На сталох зафша*, дзеткі мае, хватала ядзеня. А ведаяце вы чаму? Бо ўсе смагла* і добра працавалі на сваёй зямельцы. І не пілі людзі. Бруні Божа**, як тэрас. Вечарам уся родзіна зьбіралася за сталом вячэраць, а бацьку насілі асобна. Гэто значыца, што паважалі. Пажылі мы так дзесьці каля року*. А потым ад Доцішак паехалі жыць мы ў Енчы. Купілі мы тутай дзесяць актараў зямлі і яшчэ сенажаці. Купілі ўсё гэта ў пана Яцунскага. Кругом усё было галютка, ні траўкі, ні кусьціка, ні дзераўка. І давай мы будавацца. Хату зрабілі велькую. Гумно пабудавалі сваё. Млын быў свой. Гаспадарка была ў нас велькая. Кароў зафша* трымалі каля дзесяці. І валы ў нас былі, і коні тэш*. Калі прыехалі сюды, то нічога ні было. А потым ражыліся сваёй працай. От мы то напрацаваліся за ўсенькі свой век. Як успомніш, аш ні верыца. А скуль гэткае багаце? Бо працавітымі мы былі. Калі сат свой садзілі, то я шчапкі* аш ат Эйшышак насіла. А потым мы пчол завялі. Ош мы то напрацаваліся за свой век. Антось мой быў майстар на ўсе рукі. Такога трэба было яшчэ пашукаць. Ён усім быў добра знаёмы, і паважалі ўсе людзі яго. Мой за цэла жыця воткі ні піў, ані слова брыткага ні сказаў нігды*. Калі саветы заступілі*, то сказалі маму старому, кап быў прэцядацялям ў калхозе, але ш ён не пайшоў. І на забрані ні хадзіў. Цяшка было, але ш мы любілі моцна адзін аднаго і працавалі. І дзяцей мы выўчылі сваіх. Ясюка унь покуль выўчылі ў Гродні за настаўніка, а тэрас унь па цілівізару паказваюць. Бацьку тваго тэ длуга ўчылі. А тэрас галоўны па сьвятлу. Во так, дзетка маё, мы жылі й працавалі.

*С.А.Матусевіч, 1906 г. н.*
*в. Енчы, 1994 г.*

**120.** Ты пытаеся, як я замуш ышла. От так сабе. Як і ўсе. Я ш тады маладая была, як тата казаў, так я й рабіла. Ты пытаеся, ці я мужа любіла. Якая тады любоў была? Абы жыць можна было. Тады ўсё ш глядзелі на сям'ю. Якія бацька й маці, такое й дзіця будзе. За гот перат гэтым, на Андрэя, да нас прыяжжала сваячка з Радуні. Яна мне й параіла паваражыць. Як клалася я спаць, то перажагнала крыжом подушку і пасыпала крыжом каноплю. Пат подушку трэба было пакласьці бацькавы гаці*. Я ш усё так і зрабіла. І прысьніўся мне сон. Іду я па вуліцы, а насустрач ідзе мне малады хлопец і чумаданчык пат пахай нясе. Але твару я яго не відзяла. Так я яго, свайго Стасюка, і ўвідзяла першы рас. Шыла тады кажух ў Каргаўдах з Галькаю. Ні было тады ў нас нітак, і ў шаўца таксама ні было, вядома, галота пасьля вайны. Шавец нам і кажа, што ў краме ёсьць ніткі, але толькі на сдачу яяк. Хлопец там малады робіць, можа вам і так дасьць. Ідзём мы гэта ў краму, а ш гэта Стасюк там крамнікам рабіў. Падыходзім мы, а ён ужо дахаты на абет ідзе. Увідзяў нас, стаў пагаварыць. Мы ўжо й просім, кап як гэта нітак нам узяць. Ну й што. Даў ён нам гэтых. Я пасьля тога й забылася пра яго. Потым у іхняй вёсцы кірмаш быў. Я с татам паехала, а дзеўка я тады багатая была. Ведама, анна ў бацькоў. Каля міне столькі ш тады хлопцаў, столькі ш хлопцаў. А як кірмаш ужо разыходзіўся, то хлопцы пачалі тату прасіць пакінуць міне. Ён спачатку ні хацеў, а потым дазволіў. Я засталася, а да танцаў пайшлі мы да хаты майго Стасюка. Я ш яго яшчэ тады й ні ведала й ні знала. Прыйшлі мы да яго. Хата як і ва ўсіх тады была дзеравянная. Фіранкі на вокнах, праўда, былі ні ва ўсіх, а ў яго былі. Прыйшлі мы да яго, а там ўжо стол накрыты. А на стале й кілбасы. Пасядзелі мы трошкі й пайшлі на вечарыну. А там гармонік грае, а моладзі многа. От так я й падзяўкавала*. Потым незадоўга й замуш ішла. Стасюк мой нават добры быў, ні біў міне ні разу. Па хазяйству ўсё рабіў. Як пашые мне сукенку, то й лепшая шаўчыха так ні пашыя. Жылі мы тады с маімі бацькамі, але ні сварыліся зь імі. Бывае, мама й зазлуецца чаго на нас, але ні кажа. А я рас у Радуні была й бачыла свайго аннаго кавалера. Ён усё калісьці казаў, што злапае* міне калі с воткай. Ён паліцманам* тады быў. А я падышла да яго, дала дзень добры**, запыталася я ў яго, як жызьня. Так ы пагаварылі. Ён мне так гарда атказваў, вядома ш, злы. Прыехала дахаты, расказваю Стасюку, сьмяюся. Потэм ўжо чула, што той кавалер чалавека забіў. Казалі людзі, што ён ў Польшчу ўцёк. С Стасюком сваім чацьвёра дзяцей мела. Трох дзяўчат і аннаго хлопца. Усіх у людзі павыводзіла.

*М.Э.Белязюн, 1921 г. н.*
*в. Салтанішкі, 1994 г.*

**121.** Некалі так ні танцавалі, як тэрас*. Пярот* танцавалі, як тэрас *о* ў вячорках паказваюць. Мы, як дзяўкамі былі, то тэш* ладзілі, як бабы або як хто называў, вечарыны. Складалі грошы, давалі каму, і той ехаў гадзіць музыканта. Наймалі хату дзе чыю і там гулялі. Дзеўкі хадзілі на танцы тыко* ў сваёй вёсцы. На чужую вёску ні йшлі. Маглі тыко хлопцы пайсьці, і то далёка ні йшлі. Дзеўкі маглі пайсьці на забаву ў вёску, аткуль іх тата ці мама. А больш нікуды ні йшлі. Ні было такой моды. Бывала, ідзём на танцы і нясём сабой вэнзал* строяў*. Патанцуя трохі ў анным і зьмяну робіць, потым ізноў так. І танцы пярот былі ні такія. Мы танцавалі польку, амбэрак, мазурку, усялякія кадрылі. Дзеўка зь дзеўкай ні танцавалі. Бывала, ніхто цібе ні вывядзя танцаваць, то так і праграэш лаву** цэлы вечар. Што было йшчэ, біліся за танцы. Напрымер, кажуць, пяць пар скача, а больш ані, бо кап вольна танцаваць было. То й біліся, што адзін танцуя, а другі стаіць. Некаторыя гвалтам лезьлі танцаваць. Тады былі заядлыя танцоры. Выдзя ў сені, скіня сарочку, выкруціць, зноў на сібе і зноў у танцы. Ішчэ маглі ні пагадзіцца за дзеўку. Потым музыканта вялі карміць. Бывала, як ноч малая, цяплом, то да сьвету** скакалі. Ідзём зь вечарыны, то й добра вывідняя, мама ўжо каровы доіць. А калі часам раней кіне музыкант граць. А калі й высьвітая, то йграя. Як які музыкант. Бывалі такія забавы анна – две ў месяц. Знаёміліся на вечарынах. А бывала, што пазнаёмяцца каля касьцёла і запрашаюць да сібе на гуляня. Ішчэ што было, ні толькі танцавалі, алі й сьпявалі на вечарынах, дзяўке сьпявалі, і хлопцы, бывала, сьпявалі. Дахаты ідучы, тэш сьпявалі.

*В.К.Адамоніс, 1928 г. н.*
*в. Мігдалы, 1993 г.*

## ІЎЕЎСКІ РАЁН

**122.** Раней цяшка было жыць. Усяго хватала, нарабілася за сваё жыцё, нацярпелася. Замуш выйшла ў дваццаць чатыры гады. Кавалераў мела шмат. З Ганчароў быў. Ужо да вяселя было. Ужо на пярэгляды егжалі, з братам і мамай. А там рэчка вяліка. *Я* можа і пашла п за яго, кап ні ўвідзяла яго п'янага. Было гэта за тыдзянь да вяселя. Прышла нядзеля, маладзікова нядзеля. Пайшлі мы с татам у касьцёл. *Я* ў працэсі была. А як скончылася імша ў касьцёлі, выйшла *я* й пайшла дахаты. А тата з *Я*нкам за мной пяхтом ішлі. Некалі машын ні мелі. *Я* пазнала, што *Я*сь выпіўшы быў. *Я* здалёк ішла па тратувары, дзе велькі магазын быў, а яны пайшлі

купляць пярсьцёнкі, кветкі. Ужо на другую нядзелю, у сыботу, вяселя. *Я* тады кажу мамі: «Ні пайду за Янка. Ціпер п'яны, а пачакаўшы, яшчэ горшы будзя п'яны. Пайду лепяй тапіцца, калі аддасьцё. У дзеўках буду сядзець, алі за яго ні пайду». І ні пайшла. Пазьней пасватаўся да міне Броніcь. Такі кругленькі, харошанькі быў. Гуляў натта добра. «От за гэтага, – кажу, – пайду». Пайшла я ў вёску Вурцішкі. На той час жылі мы ні бедна. Наш тата меў грошы. Лён прадаваў, купіў нам сенажаць. Матка яго апісала поля – Баранаўшчыну. Мелі мы з Бронісям каня, карову мелі. Добры мой Броніcь быў, рабацяшчы, ні гультай. Памаленьку й жылі мы. Вайну паражылі. От нацярпелася страху. Усяго было. У яму хаваліся, у суседнюю вёску ўцякалі. Ятаўтавічы спалілі й нас усё страшылі. А ў канцэ вайны забралі Броніся ў Германю. Вярнуўся аттуль, скора захварэў. Цяжэй нам стала. А тут, як калхос зачынаўся, забралі ў нас каня, я давай плакаць, усё пазабіралі. Прыехаў нейкі начальнік, конна. А кабыла яго была натта замазоляна, у каросьці. Сваю кабылу пакінуў, а сядло на нашага каня, і паехалі. Прывяла дахаты я тую кабылу. Лячыць трэба. Масьці нарабілі памазаць, і навязала на пастаўніку. А ў калхоз я хадзіла. Як пачаўся калхос, хадзіла. І гарала з мушчынамі. Нікаторыя ні хацелі ісьці, баяліся. Наш бацька натта баяўся. Як жа, усё забяруць. Ты нічога ні будзяш мець. Алі мы мелі свайго каня, купілі. Суседзі кажуць бацьку: «Багатыя ідуць, а ты трохі сярэньні. Ні бойся». Ну вот і запісаліся. Броніcь паплаўчым* быў. Алі мала ён у калхозі і рабіў: скора памёр. Засталася я зь дзецьмі анна. Двоя ў нас іх было, а двоя памярло. А я дачакалася і ўнукаў, і праўнукаў.

*Е.Л.Грыкень, 1911 г.н.*
*в. Юрацішкі, 1996 г.*

**123.** Шмат сваталася да мяне. І пан прыяжджаў стары сусецкі. Ды, дзеткі, я дзеда твайго любіла. Сем хлопцаў сваталіся, ды за дзеда пайшла. Бацькі далі ў пасах парку патсьвінячкаў. Дзед, дзеткі, быў бедны. А парасяткі тыя скора і здохлі. Сьвякруха ні любіла міне. Бацькі ні хацелі выдаваць міне за дзеда, дык далі толькі двух парасятак. Да вайны я ўжо трое дзетак мела. А ў вайну дзеда забралі ў войска. Што зробіш, сьвякруха памерла. Немцы былі ні такія, як у тую вайну. Помню, партызаны прыйшлі, бо ў нас нікога ні было. У Лаздунах былі немцы, а ў Чапуні партызаны два ды гавораць, кап курыцу аддалі, а курыца – гэта ж усё, што ў міне было, а дзетак трэба карміць. Ні хацела даваць. Адзін с партызанаў стукнуў па вусі мяне. Дык я загаласіла, што дзеткі малыя, карміць німа чым. «Забівайце», – кажу. Паглядзелі яны на міне, глянулі адзін на

аднаго і пайшлі. Немцы былі забраўшы карову. Але я схадзіла ў Лаздуны да іхняга начальніка, і яны аддалі мне карову. Так і жылі, дзеткі, у вайну, што зробіш. Такое жыце было. Потым дзед з вайны прыйшоў. Але прыйшоў, як вайна закончылася, яшчэ праз два гады. Лячыўся ў Польшчы, вярнуўся толькі на адной назе. Па вайне яшчэ трое дзяцей знайшлося. Хату трэба было ставіць, бо сям'я была велькая. Твой бацька ў войску быў, як дзет пачаў будавацца. Працавала я з дочкамі на кароўніку. Цяшка, дзеткі, было. Ну што зробіш, як той казаў, жыць трэба. Летам кароў выганялі і гналі аж у Росава. Там і даілі. Дзет твой любіў што-нішто рабіць: міскі, купкі. Стараліся, дзеткі, жылі як маглі, дзетак гадавалі, вывучылі іх, выгадавалі, дзеткі паразьехаліся, пажаніліся, замуж павыходзілі. Так і жылі.

*Э.А.Ленцавіч, 1910 г. н.*
*в. Лежневічы, 1996 г.*

**124.** От раней, помню, як прыяжжалі ў сваты, то й натта весела было. На конях раней жа ежжалі, машын то не было. Яшчэ добра было, калі ў каго хвурманка была. Едуць сваты, а ўжо здалёк чуваць. На коньску дугу раней такія бомчыкі весілі, звоняць, нібыта званочкі. Конь бяжыць, а яны трасуцца і звоняць усё, а так хораша. Тады ўжо як пачуям у хаце седзячы, што бомы звоняць, дык глядзім у вокны, усе глядзім, куды ета сваты едуць. А што вы думалі, раней так было. Ні зналі, калі і да каго прыедуць у сваты. Прыяжжалі ні ведаючы, ці хароша дзеўка, ці не. Раней ўсё за зямлю, за багатства ішлі. У каго добра гаспадарка, дык і бяды ні мелі, ведалі, што возьмуць замуш, а другая хароша, ды бедная, так і сядзіць у дзеўках. Ну звоняць бомы, то ўжо прыехалі па кагосьці. Але таксама глядзелі на хараство, кап ні даўганоса, ні гарбата, ні крывая. Іншы падыдзе, праз вакно пагглядзіць, якая, як нягарна, дык і назат, кап ніхто ні відзяў. А як ўжо прыедуць да каго, дык мы ўжо, маладзёш, сабіраемся пат вокнамі, ужо да нявесты. Потым тая ўжо выдзе, дык просім, кап нам жаніха як-нібуць паказала. Яна там пойдзе ў хату, ля вакна прысядзе, і ўсё роўна як незнарок фіранку атцяне. То мы ўжо ўзіраліся. Потымка прыходзілі дахаты сваім расказвалі. Сват раней самы паважаны быў. Прыяжжалі ў хату, сват бутэльку на стол і давай перабіранкі* слаць. Так жаніха, так нявесту хваліць. Сядзяць так цэлы вечар абгаворваюць усё, а калі ўжо дзяўчыне хлопец не даспадобы, то бацькі яе павінны былі і бутэльку, і падаркі вярнуць. Ды часьцей, калі хлапец багаты, то не натта зь дзеўкамі бацькі і цырымоніліся. Раней так і было, як бацькі скажуць, так і сьвята, не тое, што зарас. Выбіраюць, то

ніхарошы, то выпівае. Раней, які бярэ, за таго й пойдзеш, кап у дзеўках ні застацца. Таксама стыдна было. Ага, дак потым ужо прас пару тыдняў і вяселе гулялі. І таксама на конях усё. З гармонікам і бубнам. Але ш ужо гулялі то гулялі, потым цэлы тыгодзень* ногі атходзілі, але зудзелі.

*Г.І.Аляхновіч, 1929 г. н.*
*в. Суботнікі, 1996 г.*

**125.** Сям'я ў нас была велька, аш сем душ. Тата, мама, сястры дзьве мужыковыя, Стася, Ядзя ды Амэля. Хата наша была вельмі старою, лошкі дзеравяныя, падлогі не было. Зямля была. Вымяцеш венікам, жоўценькім пясочкам пасыплеш – і добранька. Есьці не мелі чаго. Варылі бульбу з мундурамі**, тады ставілі саладуху, ну такую рабілі мы і елі с халадніком. Слалі стол цыратай. Ну, так і елі, а што больш. Вой, мая ты, цяпер то дзякуй Богу, а некалі то што за жыцьцё было. У заработкі хадзіла аш з Гацішкаў да Баранавічыхі Іпінскай жаць, жалі сярпамі, тады гэта, там сушня лёну была, ды я яго жаць хадзіла. Набяру, бывае, кастрыцы, нясу дзе хоць каму, каму дзе, каму хто хоча. Усяляка вось такое было тады. Я ш нівучона, ніводнага месячыка да школы ні хадзіла. Тады ш маладая замуш пашла. Шаснасьця гадоў ні мела. Бацюшка шлюбу ні даваў, ні хацеў, а ксёнз быў даўшы. Вось. Сямёра дзяцей мела. Я іх падгадоўвала, а яны памiралі. Што-аніштo я ні рабіла, куды ні вазіла, нідзе нічога. Горлачка завяжуць і ўсё, ні палкнуць*, есьці хочуць, а ні палкнуць. Нейкая хвароба такая была ўбіўшыся. І так траціла першага, другога, трэцяга. Потым прышла адна баба і кажа: «Яны ў цябе ўсе памруць, трэба карасін». А золатка, праўда, карасінам вылячыла, вось і зельля. Горла я ім мазала. Цяжанька было. Была ў мяне кароўка. Дык я часта сырчыкі насіла ў Юрацішкі прадаваць. А там быў шакур* такі, усё мяне пільнаваў. Аднойчы я сырчыкі прадала, грошы за пазуху ўлажыла і пашла дадому празь лес, а ён – ззаду. Потым як заляцеў мне наперат, схапіў і папёр далей у лес. Ой, тады я перапужалася. А Божа мой Божа, куды мне дзявацца, думала. А тут хтось па лесу ішоў. Ой, дай Божа ножачкі**, так я паляцела, лоб абабіла аб хвойку, але ш уцякла. Халера яго ведае, чаго ён ад мяне хацеў, пэўна, сканаваліць*. Яшчэ ў мяне такі выпадак быў. Ну ш чаго пачаць. У студню была ўлешшы ў Юрацішках. Ах матачкі мае**, як глянула ўгору, дух у мяне перахвацiло**, я хутчэй перажагналася, ну знаеш, каб ні ў пекла папасьці, бо як сам сабе сьмерць зробіш, то ў пекла пападзеш, але мяне Боженька пашкадаваў, і я вылязла. Мокра-мокра была. А то ж добранька-добранька сябе на зямлі атчула. Пазьней я навучыла-

ся гадаць, і да гэтага часу прыходзяць да мяне. Гадаю ўсім. Ой, золацца мае, зь Іўя прыяжжалі нядаўна два галоўныя чалавекі да мяне, спачатку распытвалі, як я навучылася гадаць. А як, і сама ні ведаю. Аднаму пагадала – і ўсё праўда, другому – праўда. А Божачкі ж мае**, так кожну картачку і пераznала. Напрыклад, калі выцягнеш тус храстовы і накрыішся ім, то гэта ўжо памрэш. Я гэта ведаю, і гэта дапраўды* праўдзіць. Потым яны мне кажуць, што іх прадсядацель Худык выправіў і сказаў, што я ўмею варажыць. Ну, папрасілі паваражыць. Сеў во так вось адзін, я кінула на карты і кажу: «Вы жанатыя, і ў вас ёсьць хлопчык, але вы яшчэ адну бабу любіце». А ён аж тры разы пабажыўся: «А Божачка, праўда». Тады гэты і другі сеў. Кажу: «У вас няма сям'і, але ёсьць дзяўчынка, і хлопчык будзе». Дык гэты чалавек будзе казаць: «Праўда, мае ж ты золацца». Яны мяне так хвалілі, цуд, я ж у картах то добра панімаюся. Усё пыталіся, колькі плаціць, а я ні хацела браць гэтых грошай, думала, у турму пасадзяць, калі вазьму. Пасядзелі тыя людзі колькі тут, зьнялі мяне ў газэту і паехалі. А за чатыры-пяць дзён і газэта прыйшла. Ну вось цяпер я ў раі. Дзьве дачкі маю, адна пры мне, а другая – у Сібіры. Манька мая добрая, мяне корміць, адзяе, абмывае, мая ж ты любачка, каб ты ж ведала. Паміраць не хачу, ужо восемдзесят год маю, але ні разу ў бальніцы ні была. Нічога, люблю тэлевізар глядзець, там і гавораць, і музыкі граюць. Каб панімацца, то я ні разьбіраюся, але ўсё ж такі натта люблю паглядзець, ой, люблю, сядзела б цэлу ноч, ото ж добранька цяпер.

*Н.І.Нарэйка, 1915 г. н.*
*в. Лаздуны, 1996 г.*

**126.** Цяшка жылося. Маці анна гадавала нас. Мела шчэ трох. Хлопцы дужыя, як дубы. Хата маленячкая ў наз была. Кароўку мелі. Кап ні яна, то зубы на паліцу класьці прыйшлося п. Ні выядалі мы мігдалаў*. Убораў дарагіх ні мелі. Анегды* прадала маці цялё, дык справіла марынарку* старэйшаму брату. Было тады ў хлапца радасьці. А Бладысь наш відны быў, меў павадзэньне** ў дзяўчат. Дзеці ў нас усе працавітыя былі, з маці ад зары да зары сьпіны гнулі. Хлопцы ў поля гараць пойдуць, а я ў хаці кашару*. Шчэ дзеўкай умела ўсё рабіць: і дываны ткала, і кашулі шыла, і па гаспадарцы ўпраўлялася. Потым андалі міне замуш. Перш ела міне нэндза*, дадому хацелася. Потым прывыкла. Дзеткі пайшлі, пра іх трэба было думаць. Ціперачы анна са сваім старым засталася. Дзеці па ўсім сьвеці, толькі на велькія сьвяты й наведваюць нас.

Свае семы маюць. Мы са сваім цешымся. Дай Бох, кап у іх усё добра было.

*Б.С.Самакар, 1915 г. н.*
*в. Лаздуны, 1992 г.*

**127.** Раскажу, як даўней васэля было. Мамулька кажа: «Мая ты Агатка, прышоў час замуш ісьці. Табе ш дваццаць годзікаў. За каго ш цібе аддаць, маё ты дзіцятка. І Косьцік, твой сусет, добры, трошкі вотку любіць. Язэпка нядрэнна жыве, каторы пастухом ходзіць. Можа, ідзі за Стасюка. Але ш як яго ўзяць, кап ён быў мой зяць? Глядзі, дачушка, ён ідзе па ваду. Ідзі пацажы яму зачэрпаць, і вот будзя і знакомства». Пашла Агатка, паслухала рады сваёй мамуські. Глядзіць, ідуць дваіх назат, сьмяюцца. І вот як скора дагаварыліся, і прыходзіць Стась вечарам у сваты. Прышоў са сваім дзяцькам Антосям. Бутэлячку на стол, маму пацалаваў, бацьку абняў. І за стол усе паселі. І пачалі гаварыць пра васэля. «А што ш дасьцё пасагу?» – пытая дзяцька Антось. А Стаська: «Мне яна і бес пасагу добра». Аля бацька кажа: «Кароўку дадзім, пару патсьвінакаў, падушачкі й дзяружачкі, самі знаяця, гэта ўсё яе». Ну вот і судзьба прышла, і Агатка са Стасям жэняцца. І васола было, і прыходу шмат. Дай ім Бох шчасьця, добрую долю. А добрая доля ўсё ад Бога. І шлюп ў касьцелі ўзялі, і ксёнц, і арганы, вэнікратар засьпявалі. Усё такоя душэўная, ды памяць на ўвесь век вечная. Во як было даўней.

*Ф.Ю.Дайлідка, 1924 г. н.*
*в. Петрымаўшчына, 1992 г.*

**128.** Ну што я раскажу, галупка. Меў мой татка ладную гаспадарку. Усяго хватала, і зямлі мелі сто актараў. Аля ш быў у таты брат бедны ў Сьціганях. То тата й пашкадаваў яго, забраў да сібе. А потым брат жаніўся, і тата даў яму дваццаць актараў. А гаспадарка ў нас добрая была. Парапкі семьямі гадзіліся на работу. Мелі дзьве хаты, дзеравянную і мураваную. У мураванай парапкі жылі, а мы сь сямьёй у новай, дзеравяннай. Мелі сваю гаспадыню*, пастуха, гартая*. Аля рабілі ўсе: і парапкі, і мы, дзеці, і тата. Дружна жылі. А потым мы падрастаць пачалі. Павывучываліся ўсе, і ксёнц у радзіні* быў. А я, калі замуш ішла, дык на таксуфцы прывезьлі. І тата пасагу шмат даў. І зямлі, і скаціну, і грошай. А васэля велькая было. Ну а потым усё раптам зьмянілася, ну як бальшавікі прышлі. Усе зажытачныя людзі ў Польшчу павыяжджалі. А сколькі дабра павывозілі. Мая сястра таксама туды паехала. Ціперака жыве там

як пані. Ну а я тутака засталася. Бо тут і мужык, і дзеці скора знайшліся. Так і пражыла тут увесь век. Во такая яна, жызьнь.

*Я.М.Юхнюк, 1918 г. н.*
*в. Петрыманаўшчына, 1992 г.*

**129.** Раскажу, як за польскім** жылі, якія гаспадаркі былі. Сажнём свае, а тады да паноў ідзём, кап зарабіць. Пойдзяш, дзень бульбы папарабіраесься – тры злоты заробіш і тры сукенкі купіш, якія захочыш. А йдзём васола, сьпяваем. Як засьпяваем песяньку: «Юры, Юрасінька, абмый расічку на лён, на пшанічку». Ужо й зязюлька кукуя. Васола, добра. А цяперака й зязюльку ні чуваць. Дзе яна дзелася? Ці можа яна з голаду здохла? Аля ш, здайся, зярна хватая на полі. Зярно ўбрана, аля тоя сама, як пасеяна. Ды што там казаць. Дзісь* і людзі другія, і жызьнь другая. Даўней усё начай было. У каждага сваяя зямля была, і рабілі людзі з ахвотай. Бо чым боляй зробіш, дык боляй вырасьця. А боляй вырасьця, то й сабе хваціць, і яшчэ прадаць можна. Усяляк бывала. Аля й жылі, і трудзіліся, бо ведалі: сам ні зробіш – ніхто за цябе ні зробіць.

*А.І.Юруш, 1927 г. н.*
*в. Петрыманаўшчына, 1992 г.*

**130.** Ета было ў тысяча дзівяцсот трыццаць дзівятум годзе. Калі разьбіралі панскі двор, дык людзі ўсяго панацягвалі: і парэчак с панскага двара панасаджвалі, і шафу Салавей узяў трохкантовую, у вуглу стаіць. Тады панацягвалі ўсяго. А я толькі шляпаў хапіла цэлы чумудан. Усе лятуць да мяне, а я ні пазычваю, думаю, што можа добрае. А як разабрала, дык адны капялюшы, кап вы згарэлі! Праўда, яны добрыя былі, дарагія, шляпы с кветкамі такімі. А я думала, чорта яго зная, мо якая драгацэннасьць. А потым пашлі, дзе сыры робяць. А мы толькі с Гэляй Грудзевай былі. Эта ш я была даходная ўсюды. Палезьлі, панабіралі этых сыроў, нясём, а тут жа да нас нейкі с лявольверам – бах угору. Тады ш мох забіць і ўсё. То мы тыя і сыры пакідалі, ой, Божа мой Божа. А потым расьбіралі панскі магазін. А там солі шмат было. Дык я ўлезла, гэтак падняла спадніцу і гэту соль у прыпол гарну, гарну, дык і ні ўстану, вядома ш, соль гэта цяшкая. Потым у вёсцы немцы былі. Гэтыя немцы нешта шукалі. І Самук прывёў немцаў да нас. Тыя немцы пайшлі ў гумно, а ў гумне ў нас бацька дзяржаў руж'ё. Еўчын бацька ішоў с салдатам і атдаў Алеку Масановаму руж'ё. Алек баяўся ў хаце дзяржаць яго. Дык Алек даў майму Мішу гэта руж'ё і папрасіў, кап схаваў. А Міша ўзяў яго і схаваў яго ў гумне, засунуў у сена каля сцяны. Але ш немцы не знайшлі яго, але кап

знайшл*і*, то заб*і*лі п, дальб*о*х заб*і*лі п. Ал*е* ш *А*лек Масан*о*ў дурн*ы* б*ы*ў, друж*ы*ў с парцізанамі і прызн*а*ўся парціз*а*нам пра руж'*ё*, а парціз*а*ны прыйшл*і* н*о*ччу, прыст*а*вілі М*і*шу пісталет у в*у*ха і к*а*жуць: «Атдав*а*й руж'*ё*, а т*а*к заб'*ё*м». Паш*о*ў М*і*ша ў гумн*о*, узяў гэта руж'*ё* і атд*а*ў. В*о*, усякага пераж*ы*в*а*ньня был*о*. В*о* гэтака пар*а*, сяд*а*ем вячэраць, кап агн*ю* не пал*і*ць, бо с гэтага б*о*ку б*о*йся парціз*а*наў, а с гэтага н*е*мцаў. Б*ы*ў так*і* парціз*а*н П*ы*шкін. Заказ*а*ў б*а*бам, кап рукав*і*цы зьвяз*а*лі парціз*а*нам. Р*а*ніцай адн*о*й прыш*о*ў, забр*а*ў рукав*і*цы, пайш*о*ў у б*о*к царкв*ы*, а т*а*м наўстрэчу н*е*мцы. П*ы*шкіна гэтага заб*і*лі, рукав*і*цы пабр*а*лі. А м*ы* якр*а*с хлеп пякл*і*. Прыбяг*а*е Ан*ю*та і к*а*жа: «Немцы ід*у*ць!» А м*ы* х*а*ту стро*і*лі. І гэты буд*ы*нак пуст*ы* стаяў. Прых*о*дзяць н*е*мцы і к*а*жуць: «Дз*е* парціз*а*ны?» М*і*ша к*а*жа: «Не в*е*даю, не был*о* *і*х у н*а*с». А н*е*мец к*а*жа: «*Я*к гэта не был*о*, як ян*ы* сюд*ы* пабегл*і*». А ч*о*рт яг*о* зн*а*е, а м*о*жа ян*ы* ў т*ы*м буд*ы*нку сядзяць, а м*о*жа на страх*у* зал*е*зьлі. А т*о* ш тад*ы* стр*а*ху нацярп*е*ліся. Т*ы*я н*е*мцы пашл*і*, перавярн*у*лі ўв*е*сь буд*ы*нак, п*о*тым у х*а*ту прышл*і*. Бурак*о*ў салоткіх м*а*ма был*а* нараб*і*ўшы, ст*а*ў, разьвярн*у*ў. А ў стопцы* стаяла кад*у*шка с кап*у*стаю, то адз*і*н н*е*мец запусьц*і*ў туд*ы* рук*у* па л*о*каць, а *я* ям*у* каж*у*: «Чаг*о* ш т*ы* т*а*м шук*а*еш у кад*у*шцы, м*о*жа д*у*маеш, што парціз*а*н тут сядз*і*ць?» А п*о*тым вых*о*жу на в*у*ліцу, а т*а*м П*ы*шкін заб*і*ты ляж*ы*ць, а н*е*мцы ужо б*о*ты зь яг*о* дзяр*у*ць.

*В.А.Гудзень, 1914 г. н.*
*в. Морына, 1993 г.*

**131.** Был*а* малад*а*я, был*а* крас*і*вая. Хл*о*пца м*е*ла ў вёсцы. Н*а*тто люб*і*ў мяне, а *я* яг*о* не н*а*тто люб*і*ла. Не хацела, кап н*а*тто за яг*о* ісьц*і*. Ну і в*о*т м*ы* з адн*о*й, падр*у*шку м*е*ла, а на Андрэя вар*о*жаць, *о*, на Андрэя вар*о*жаць. Лят*а*юць і пад *о*кна, сеюць кан*о*плі пат ст*у*дняй ус*ю*м. Ну, да мін*е* прых*о*дзіць падр*у*шка і к*а*жа: «Ідзём, – к*а*жа, – Гэня, м*ы* кан*о*плі сеяць** пад н*а*шу ст*у*дню». А *я* стыд*а*юся, д*у*маю, ув*і*дзяць, б*у*дуць зь мян*е* сьмяяцца. Каж*у*: «Н*е*, Г*а*нна, *я* не пайд*у* кан*о*пляў сеяць». Ну ян*а* пашл*а*. А *я* кан*о*пляў м*е*ла даст*а*ўшы. Укл*е*нчыла на л*о*шку, а н*а*шыя ўс*е* ў х*а*це сьпяць. М*а*ма сьп*і*ць, і дзяцька, і сястр*а*. А *я* ўкл*е*нчыла на л*о*шку, перажаг̲н*а*лася і каж*у*: «Сьвенты Андрэй, кан*о*плі на л*о*шку сею». І кан*о*плі з рук*і* на л*о*шку пасеяла. І каж*у*: «Сьв*е*нты Андрэю, кан*о*плі сею, д*а*й Б*о*х сасьн*і*ць, с к*і*м б*у*ду ж*ы*ць». Ну і *я* засн*у*ла. І сьн*ю* *я*, што ста*ю* на м*о*сьці, на м*о*сьці ста*ю*, на рэццы. І патх*о*дзіць да мін*е* крас*і*вы-крас*і*вы п*а*рэнь, і бярэ мін*е* за рук*у*, і гав*о*рыць са мн*о*й, а *я* хач*у* ад яг*о*, вырыв*а*ю рук*у*, хач*у* адысьц*і*, а ён к*а*жа: «Вырыв*а*йся ні вырыв*а*йся, ад мін*е* не в*ы*рвісьсі». *Я* прачых*а*юся і д*у*маю, шт*о*

гэта такое. Такога ш і няма харошага кавалера, я ні знаю такога. Тады ш прылятая да міне падруга нараніцы. «Ну, што ты сьніла?» *Я* кажу: «Ой, ірунду сьніла: натта харошага хлопца на мосьці, міне за руку трымаў, а я вырывалася ад яго, а ён мне сказаў: «Вырывайся ні вырывайся, ад міне не вырвісьсі». А яна кажа: «А я, – кажа, – што сьніла, мая міленькая. Шэрсьць насіла сьвіную». А некалі шэрсьць сьвіную насілі прадавалі, грошы бралі, шэрсьць сьвіную ў Далінішках прадавалі. «Нічога, – кажа, – што ш тут за хлопец, такога німа харошага». *Я* тады жа ш прэціў у Вельканоцы* была там на базару. І сходзяць за мной два мушчыны, харошыя мушчыны, паадзяваныя і кажуць, знакомяцца і гавораць: «Мы маем швагра і хочам с паненкай ажаніць. Мы з Гіранён і хочам ажаніць з вамі». Дык я кажу: «Ну я ні знаю, ну і добра». І прыязжае у сыботу да міне эты кавалер. Эты самы, што я відзела. А свата то я знала. Мне буў знакомы. *Ён* з адным хлопцам быў у міне ў сватох, але іх вывезьлі на Сібір. *Ён* тады гэтаму патсватаваў. А быў красівы-красівы і багаты, зямлі было шмат. Ну гэты і прыяжжае. А я нічога ні ведаю, што яны прыедуць. І я тако чую: зазванілі бразгуны*. А некалі, бывае, едуць сваты не папытаўшысі, ці пытаюцца, а я ў хаце. А ён улятае, сват. А ў міне сват быў знакомы добра, бо ён с тым другім, того вывезьлі першого, то ён кажа: «Што ты, – кажа, – стаіш? *Я* табе кавалера прывёс хорошого». Ну й добра. Увaходзіць гэты кавалер, сеў ужо тутака зарас. Ужо я як глянула. Той самы, што я сьніла. А я ш яго век ні відзіўшы. Той самы. *Я* жа ш тады тутака да кумы. Дзіця хрысьціўшы ў сусетстве. Мама ўжо рабіць пачастунак, прасіць ужо кума на сваты. І кажу: «Такі харошы, што сколько я знала кавалераў, і зыходзіліся, і харошыі, і багатыі, алі ўжо брызгала, выбірала». І думаю сабе, і кажу. Дык яна засьміялася і кажа: «От ты, – кажа, – можа толька хваліш». Зарас прыходзяць кум і кума на сваты гэтыя. Тык яна, кума, да міне патходзіць ну і кажа: «Правільна, што ты казала, што харошы». Ну і зарас ён назаўтра, ён на запаведзі. *Е*дзем. Некалі ў касьцёл ехалі, давалі на запаведзі**. Чытаў, вычытваў ксёнз прас тры нядзелі, ну і паехалі мы далей на запаведзі. Прас тры нядзелі зарас і свадзьба наша. Свадзьба, ну а я парафіі Сыботніцкай. Ну дык ужо ш тамака давалі ўжо на запаведзі. А мела хлопца другога там. Такі але ш мады яшчэ, ён не жаніўся да арміі. Так натто ўжо нексьці хлопец усё прыходзіў. Вёска Лаўкенікі. Так ён нексьці думае. Хто ш яго ведае. Ну але гэты натто харошы, натто зямлі шмат, багаты быў. Бацька быў найбагатшы, на цэлу вёску, на цэлы Геранёны, на цэла мястэчка. Быў найбагатшы, зямлі шмат, і хата хароша. Тады малады мой, як уязжае дахаты, і кажа: «Прыедзеш на пераглядзіны*».

Ужо ён у міне ўжо ўлюбіўся. І кажа: «На пераглядзіны прыедзь». Ну ш мы зь дзяцькам ужо, бо таты не было, дзяцька родны быў, дзяцька мяне і выдаваў. Мы ўжо паехалі. Прыехалі мы на пераглядзіны сюды. Едзім. А стаіць ужо баба, ваду бярэ. Мы хаты не знаем, а хата аш на канцу мястэчка. Так мы пытаемся, так яна, тая баба: «А ўжо да каго, – пытаецца, – да Бэрнуся едзіця?» Бо яны чулі, што ён ужо ў сваты езжаў да дзяўчыны. Кажам: так. Ну й прыехала я. Палядзела: хата хароша, будынкі яшчэ харошы, сат харошы. Тады ў саракавым годзі сат вымерс, бо я ішла ў саракавым годзі замуш. Вымершы быў ужо, але не распускаўся. Яшчэ сьнех быў. Ну і тут нас угасьцілі ўжо. Ну і патроху-патроху, і вот скоранка паехалі на запаведзі. За тры нядзелі і запаведзі вышлі, і наша свадзьба. А гэты лаўкеніцкі хлопец маладзенькі, эты, што-то бедны, так ужо ш ён міне шкадуваў. Выехалі ўжо мы, і вясковы быў хлопец, натто любіў. То адзін быў. Ужо трэці хлапец, яго натто не любіла. Ён да того ш ужо ш любіў міне. Як ехалі маладыя да міне, як свадзьба ўжо была, ехалі, а там танцуюць, ужо вяселе. Музыка грае, і я пайшоўшы. Улятаюць музыканты этыя самыя. Нехта с маладзёжы ўлятае, кажа: «Музыканты, скарэй ляціце, бо маладыя прыехалі». Тады ночай ехалі ўжо маладыя, а назаўтра – да шлюбу. А я маладая. А ксёнс кажа: «Яшчэ трэба табе гусі пасьвіць, а не замуш ісьці этакой маладой». Ну ўзялі шлюп. Едзім дахаты ў Геранёны. А старушка ляціць наперадзі ўсё. І ляціць, і тух-тух-тух. І ляціць, і крычыць, і крычыць усё: «Маладую вязуць! Маладую вязуць!» Ну і прыяжжаем мы на падворка. Музыка прыехаўшы ўжо ат нас і сюды спатыкаць нас. Хата замкнёна, паляцеўшы гаспадар ужо, яго швагер да суседа. Ну і зарас тутака крыкнулі. Прылятае ўжо с талеркаю, с віном і с хлебам. Нас у хату ўвёў. Тутака ўжо папрылятали пад акно. Ужо было цёпла, акно атчынена. Усе ўсё маладую глядзець. А маладая, Божа мой. Ну, што ты зробіш. Ну й вот ужо асталася я тутака. І гараць умела, бо ўчылася ў хаце яшчэ пры дзяцьку. Пашлі ў гарот мы ўжо з мужам вясной. Ну ён гарэ гарот, а я кажу: «Дай мне пагараць». Ён кажа: «Ты не ўмееш». Я кажу: «Ну дай, я папробую». І пашла баразну. А йдзе чалавек, кажа: «О, Сакалоўскі, эта твая жонка гарэ, этак хараша». А ён сядзіць і сьмяецца: «Бо як я пайду на вайну, то яна будзе гараць». Ну і прыйшлося гараць і касіць. А пайшоў на вайну, а асталася с хлопчыкам маленькім. І сама і касіла, і на поле насіла дзіця. Кашу-кашу, азірнуся – хлапец уцёк мой. Даганяю – і гараць, бо мушчынаў ні было. На вайну ўсіх пабралі. І ў лес езьдзіла па дровы, дзіця адно пакідала ў хаце. Далёка вазіла і дрова сама, і касіла, і гарала, і жала, і ўсяляк гаравала. Цяжка было. Паўтара

ґода ці два быў на вайне. Потым вайна ўжо кончылася. Вярнуўся дахаты мой муш, а ў мяне куча дроваў велька. Адна і другая на падворку навазіўшы. Пытаецца: «Баба, а хто ш табе дроў навазіў столька?» А я кажу: «Нажычоныя*, мужычок. Кавалеры навазілі». А ён жа знае, што нікога не было, бо ўсе на вайну пазабіраныя. Хто быў, той дзе хаваўся. Ну й так і жыла.

*Г.Т.Сакалоўская, 1919 г. н.*
*в. Геранёны, 1996 г.*

## АШМЯНСКІ РАЁН

**132.** Ат, няма чым хваліцца. Жыву, як усе – ні лепш, ні горш. Тупаем каля хаты. Мы ш паршука закалолі тэш*. Мая ты мілая, не еў саўсім, нешта ён усё рох-рох, а толку ніякуткага. Лячылі столькі, усяго-ўсякага нашпілялі, а яму ўсё адно ногі баляць. А як калоць сабраліся, то чуць дагналі, так бех па надворку, уцякаў, аткуль і сілы тыя ўзяліся, быў жа ня еўшы саўсім. Але вот, скажы ты, усё жывое канец чуе. Мусіць, рабакі* ў яго былі, то вот і закалолі. Скварка, мая ты, – чатэры пальцы, а кішкі ў плямах, у гузах, то тоўсьценькая, то тоненькая. Значыць, рабакі. Я кішачкі пачысьціла, паскрабла, лепшыя адабрала – і ў Вільню. У Літве бяруць нарасхват, толькі падвось. Цяпер вот кумпяке ў кубельцы на самае дно ў соль закапала, скваркі сьвежай закатала, кілбас маю троха, яшчэ й лой леташні ёсьць. Усяго маю, дзякуй Богу. Так старую скварку прадаю пакрысе, сёня вот дзьве кілі* прадала. Я яшчэ аднаго паршука дзяржу ў павеццы, бо хлява няма, толькі кроквы стаяць. Саломкі паткіну, есьці дам, дзьверы ўцяпліўшы на марос, то качаецца, што пан. Дроту, праўда, меднага німа, кап у лыч зацягнуць. Так рыя, так рыя – спасу німа, ат сьцяны дошкі паадрываў. Мо ў цябе дзе застаўся кусочак? А сям'ю кармлю ўсім. Як кашы с картофель* натаўчэш, то й мой Стасюк добра зьесьць, а ў зацірку лышку не памоча, не любя. Так я за зацірку – і паршуку. А дзецям, калі прыедуць, скварку, кілбасу – на патэльню. Сюды хлеба, батона ў сумаццы прывязуць, а назат цэлымі воркамі* цягнуць, адно давай. Але дзе дзенясься, свае ш дзеці. Пэньсію палучыла трыццаць пяць тысяч чатэрыста семдзісят. Чула, на сесіі выступаў адзін, казаў, што цяпер, каторы не рабіўшы, пэньсію палучае большую, чым каторы рабіўшы. Казалі, гэты, што пераглядаць будуць. Наша заўклубніца чула, то была таксама мне расказаўшы. Калі тое будзе? У цябе то добра. Ён тыля* палучае, і ты, то мільёны маеш. Яшчэ ты з райсабесу за старых, мусіць, бярэш? Я ш учора ў арбоне* чула, с Ашмян ехаўшы, што гэным Ярын-

скавым усё мала й мала. Знаеш, гавэнда* такая ў бап была. Я ш нічога пра вас не ведала, бо ўсё ў хаце сяджу, нікуды не вылажу. Мая ты, што тыя грошы. На адно лякарства колькі трэба аддаць, карваллолу ці лявар'янкі* купіць бутэлячку, то ўжэ й дзесяць тысяч. Мой жа Стасюк зубы ставіць, то за адзін зуп чатэры тысячы аддаў, а яму трэба сем. Камашы на ногі яму, сабе купі, куфайку якую каля скаціны хадзіць. А дзеці колькі цягнуць. Вот ы палічы. А ты кажаш, мільёны маеш. Во, сусетка мая, той давай – не хачу, нап'ецца ды ляжыць, як калотка якая каля плота – ні праехаць, ні прайсьці. Яна то й цьвярозая рэтка калі прачухаецца, стрэне хто чужы – спалохаецца. То яна сьвіньню ці карову дагледзе? Хваробу! З голаду паздыхаюць. А я цалюткімі днямі кручуся, ні рук ні нох не чую, сярэдзіну* вун усю адабрала, але ш затое што-кольвек маю за душою. А ты захоць яшчэ калі, не так ужо тут далёка, пара вёрст якіх, дарога ш някепская.

*Я.І.Ярынская, 1935 г. н.*
*в. Буняны, 1993 г.*

**133.** Цяшка раней жылося. Работы хватала. Усё рукамі рабілі, тэхнікі ані ні было. Як устаніш за ранём, і аш покуль слонца ні зойдзя. Прыходзя жніво – трэба жыта жаць. Падзеляць на дзялкі, і мусіш жаць. Леты былі гарачыя. Бох веда, якая гарачыня стаіць. Слонца смаля як мая моц**. Дык рупіся раней устаць, покуль халадок. Завіхаіся, кап боляй нажаць. Спацеіш, аш пот цячэ, а сіроўна мусіш жаць, бо хто ш будзя рабіць. Первей жнеш, тады ўжо снапы вяжыш, мэндлі ставіш. І ляны тэш* рукамі трэбула* рваць. Ната цяшка было. Замучыся ў полі, ядва ногі валачэш, а ў хаця й свая работа стаіць: і сьвіня накарміць, і кароўку падаіць. Зімой трохі ляхчэй было, такой пільнай работы ні было. Управіся с гаспадаркай, а вечарамі ці кудзелю прадзеш, ці ччэш. І сем'і велькія былі, ні так, як цяпер: адно дзіця, і досі. Раней пра падлогу і думаць ніхто ні мох. Падлогай зямля была голая. А якоя ш там лошка было – на палку* спалі. Саломы ў ворак* насуніш, кап мяхчэй было. Хлеп тэш самі пяклі. Рашчыняіш у дзяжы, за ноч цеста падойдзя, ну й пячэш. Але сіроўна* хлеба ні хватала, бо ратоў шмат. Во так ы жылі. Мучыліся адно, ні жылі.

*М.А.Краскоўская, 1921 г. н.*
*в. Волькавічы, 1993 г.*

**134.** Служыць я паехала ў Вільню. Забаўляла ў паноў чатырохгадовага Яшу. А яны самыя былі жыды. Прося ўсё Яша: напішы яму Сталіна. Напісала я яму нейкага грубога, а зьнізу патпісала – Сталін. Прыходзяць паны з работы і кажаць: «Як ты так

некрасіва напісала. Не нада так». І парвалі. Была ў мяне ксёнжачка* і ружаняц. Яшка ўвідзяў і крычыць. Прышоў пан і кажа: «Трэба ўбраць. У нас ні нада, каб гэта было». А я тады кажу, што пайду да рускага ад вас служыць. Дык тады прыходзя пані і кажа: «Можа ты пойдзіш да Юлькі пацяры гаварыць, да сусеткі?» – «О, не, – гавару я, – альбо я буду тут маліцца, альбо пайду ад вас». Тады нешта пагаварылі яны там цішком. А ён і кажа: «Пшэпрашам*, будзь ужо ў нас, толькі яму ні давай ксёнжачкі з ружанцам». Посьля пайшла ў сельхозшколу, вучылася там разам зь Веркай Гаеўскавай. Трэба было ехаць на практыку, алі мама ні пусьціла. Тады аддавалі мяне замуш за Туманойча, алі ні пайшла, бо рана, ні было яшчэ васімнаццаці гадоў. Неяк рас дала мне Жураўская курыцу-квактуху. Быдла прыйшло ўжо. Толькі перайшла гатку* насланую – воўк нідалёка мяне: «А-у-у-у!..» Пасталі валасы дыбам. А потым гляджу – і другі выходзя, і абудва наперад мяне доляюцца*. Мусі, маладыя. Курыцу ціскаю – крычыць, а ваўкі за мной. Так і выйшла ў вёску. Жылі Адэля зь Янам. Абоя курылі. Казу мелі. Неяк жнём дзяўчаты, а яны на мяжы пасуць казу, загараюць. «Ян, зробіл папяросы?» – «Зробіл». – «Ні лош толькі капшук* с тытунём на мяжу, бо каза зьесьць». А ён кінуў гэты капшук. Каза ўзяла і зьела. Вясной было, цьвіла чаромха. Макарэйч рабіў танцы. Пачалі мы прасіць: «Спраў нам танцы». – «Ну, – кажа, – добра». Прыходзім мы, а ён: «Толькі фукстрат танцаваць!» Ніякіх другіх танцаў ні дае іграць. Тады завяліся хлопцы наўмысна біцца, бо ён гэтага ні любіў. Крычыць: «Хлопцы, перастаньця біцца!» Тады ўжо скакалі мы, што хацелі.

*Г.Ф.Міцкевіч, 1928 г. н.*
*в. Лысая Гара, 1995 г.*

**135.** За польскім** было цяшка жыць. Сваё коні, гумны. Быў паўвалочак зямлі. Малацілі цапамі. Былі гумны. Зложым у тарпок*, як с поля ўсё пазьбіраім. Ссыпалі ў сьвіран. Зробленыя гаруды*, у адным – мука, у другім – ячмень, авёс. Аўса гаруды два намалоціш. Увосінь зара ляны мяць. У лазьні зроблены пол ж жэрдачкаў, ставілі лён, кап сох. Печка была каменная. Потым трэба трапаць, часаць. Па Вельканоцы* ставілі кросны ткаць. Вазілі дваццаць дзівятага чэрфца* ў Вільню, на выстаўкі. Бадаюць*, кап ні было флёркі, вешаюць на выстаўку. Вечарушкі рабілі пры лучыня. Бабы, дзяўчаты зьбіраліся вечарамі. Пасярот хаты пасядзім кругом лучыны. І харашо, бывала, папрадзём.

*Ю.А.Падгайская, 1906 г. н.*
*в. Лысая Гара, 1995 г.*

**136.** Якое было жыцьцё пры панох? У Маркінятах быў пан Бушэўскі, яшчэ нежанаты быў, гадоў сорак меў. А брат яго быў кіроўнік электроўні* ў Вільні. Дзяцей у іх ні было, ды мы часта начавалі, як да Каліварыі прыходзілі. Цяпер усё зьнішчылі, толькі на гары застаўся касьцёл і две каплічкі. Будынкі папастаўлялі. Там цячэ рэчка Цэндрова. Пані была бельгейка. Там ажаніўся і яе прывёс. Прыедзе калі сюды, прыходзіць да бабаў (яны гной выкідаюць) і кажа: «Парсючок – гэта пан, а сьвінка – то гэта я». Была камедная, а гэты то быў паганы. У двары жыў, маёнтак меў. Так, у Давідовічыхі было сем дзяцей. Бацька быў у дварэ пана паропкам. Дзеці гулялі. Маленькі хлопчык меў пяць гаткоў, залес у сат і набраў яблычкаў, што наваліліся, у рубашку. А пан яго злавіў, схваціў за рубашачку, за каўнерык і тры раза стукнуў аб зямлю. Ён ужо сам не мох устаць, гэты хлопчык. Людзі сказалі матцэ. Матка паляцела па яго, падняла, а ў яго з роціку кроў пашла ўжо. Прывяла дахаты. Усе пазьбіраўшыся, паплакалі бабы. Хто чым меў прыкладаў кампрэсы. Быў ён хворанькі, трынасьця гаткоў меў, як памёр. Вось такія Давідовічы былі. А тады быў Даўкша з Чэнявіц, зь вёскі паходзіў. Старшым быў у пана. Яму скажуць работу, а ён пойдзе гэтым скажа. Ён быў на жняярцы, а жонка вязала снапы. У хаце было чацьвёра дзяцей. Яна прыйшла з работы, і не было чаго сьвіням даць. Паляцела ў панскія буракі і наламала бурачніку ў панскім полі. Ён тады яе злавіў каля хаты, бурачнік параскідаў, а пайшоў у яе гарот, што даў на варыва*. Яна была пасадзіўшы капусты загончык. Ён усю капусту павырваў і павыкідаў у барозны. Бабы потым кажуць: «Паночку, ня рві гэтай капусткі, няхай будзе». Ён кажа: «Во, паглядзіце, болей ні адна не пойдзе, бо каждай гэта будзе». Вой, паганы быў пан.

У гэтага самага пана быў мой бацька сторажам і ўзяў задрамаў на лавачке пат хатай сеўшы. Ён злавіў сьпячы і выгнаў, нічога не даў. Не мелі ні хаты, ні поля. А ён выгнаў с хаты, сярот лета гэта было. А тады тата пайшоў да другога пана, у другі маёнтак прасіцца. Там быў пан другі, Дора. Быў ён сам з Кракова, поляк. Кароль называўся. «Міхальцэвіч, – кажа, – пераяжджай да мяне, не бойся. Я табе дам бульбы дзялку, на работу прыму і карове дам на зіму». І мы ў іх прабылі тры гады, бес мала што да вайны. Добры быў, вой, быў добры! Тату нага балела, і ён прыняў, і тата ў яго рабіў. А ён, бывае, такі быў добры. Жонка, бывае, крычыць, што ты Міхальцэвічу задужа даеш, а ён усё адно, цішком возьме і яму дасьць, бо ніхто па-люцку так не вычышча. А ён тут у войску быў і ажаніўся тут з беларускай. Яна была на той бок Маладэчна, пат Краснае. Там граніца праходзіла. Ён яе ўгаворваў цёнгля*: «Мы ш

не зьбяднеем за той літар млека». Карова прапала. На кухню па малачко хадзілі. Былі добрыя, была натта пані добрая. Я служыла ў Мартуса, ён быў сам з Маладэчна, там стаяла армія. Ой, быў камедны пан. Прыходзіць на кухню: «Маня, на поле». А пані, як атходзіць, кажа: «Ты ўбяры і не прыходзь». Прыяшджае ён на лінейцы* і крычыць, а можа зэ злосьці ўдарыць. Уцякала, аж ён даганяў. А потым дзе ш ён дагоніць. Я паляцела на поле. А пакуль ён прыехаў, я была на полі. І пані сказала: «Пабудзь трохі тут». Пані была яго сынавая. Прыехаў ён, а я стаю с снапом лёну. Пагглядзеў і паехаў цішком. Тады пані кажа: «Ідзі ты, Маня, дахаты і ўбірай». Ён там паехаў да мушчызн, яны там касілі атаву. А пані была добрая. Вайна пачалася. Бальшавікі забілі мужа, яе вывезьлі ў Расею, з Расеі забрала Польшча, Чырвоны Кшыж. Пытала: «Дзе мой Янэк?» Не ведала, бо ён уцякаў. Былі мы ў Пашкішках, пан быў трошкі ненармальны. І на касагоры паставіўшы чварак*. Адна старана была ніская, бервяно ляжала на зямлі, а другая – трэба было лесьці на падмуроўку, кап паглядзець у акно. Лавак не было. Сядзелі на падмуроўках. А любачка ты мая, а ў чатыры часа прыходзіць мушчын будзіць, кап ішлі даваць конем. Стукае ў акно і кажа: «Гжэкум, гжэкум! А чэго ш?» Меў жонку. Не жыла зь ім, а жыла ў Вільні зь дзецьмі, а ён ёй усё пасылаў. З гаспадаркі зьбіўся. Зьліцэтавалі*. Асталася адна сьвінка. Дык ён ходзіць і лічыць: «Та сьвінка пшыведзе седам сьвінак, а тэ седам яшчэ па седам. Майда, веле гэта бэндзе?» А потым яго зліцэтавалі. Хадзіў есьці прасіць. Жонка выраклася, сын у войску атравіўся, а ён, лазячы, памёр. Матка была яму пакінуўшы скрыню золата. Прастаў рэку, з заграніцы кароў выпісваў, усё золата маччына размахаў. Во якое жыцьцё было пры панох.

*М.Г.Люковіч, 1916 г. н.*
*в. Кальчуны, 1998 г.*

**137.** Посьля вайны ў кужнай вёсцы хадзіла варта. Вартавалі магазін, у вёсцы быў. Назначалі кужнага па хатах. Вот дзісь* – мы з вамі, заўтра нехта другі, па очарадзі гналі. А стораш быў сьпецьяльны, пры магазіня. Стройлі ўвечар вечарушкі*. Ну й рас пашлі мы на гэты вечарушкі. Прышлі нейкія і сказалі нам сьвет гасіць, а мы ш ні гасілі. Яны выстралілі ў хату і ababралі тым часам магазін. Вот табе і ўсё. А ці там дзісьвіцельна гэныя вартаўнікі былі, ці хто другі, ліха іх ведая. На вечарушках кудзелю пралі, вязалі. І я хадзіла вартаваць. Трэбула* цэлу ноч хадзіць. Але хто там хадзіў? Схаваісься і сядзіш. Ды й на гэныя вечарушкі ш хацелася, паскакаць. А там жа ш ні толькі танцавалі. Хлопцы ўсё зь дзяўчат

шуткаваліся: і кудзелю саб'юць, і шнур укруцяць у караўлот, што хочыш, і пруткі павыцягуюць. А пра васэля? А што там казаць. Гэта ш ні так, як ціпер. Даўней перад васэлям друшкі зьбіраліся, цэлы тыдзянь у хатах дралі, столі вымывалі, сьцены мылі, рыхтавалі. Ну і ўсё, хораша посьля было. Свадзьбу рабілі як і ўсе. Пярвей ні так было, як ціпер. Ну, што, навараць мяса, накрояць, капусты сырой наставяць, шчэ посьля й паранай* паставяць. А як мы былі на адным васэлі, дык там зусём, лічы, нічога есьць ні давалі. Нараніцы далі, а посьля ўсё чыста са стала папрымалі. Ад'яжджала ягона васэля, нейкай бульбы калаватай* паставілі, і ўсяго. Сукню* на васэля маладая шыла, ну а белу, бывая, пазычалі. Хто як мох. Штапельную сукню на шлюп пашыяць, гэта было натта хораша. Я й сама гэтак замуш ішла. Малая як была, чытаць натта любіла. Лямпу шмат паліць ні пазвалялі, дык я на печ залезу, усе дзюрачкі пазатыкаю, лямпу запалю й чытаю. А посьля вайны, як пашлі ў школу, усе былі велькія, а мяне выправілі малую. Татыныя боты велькія набую і хадзіла. Маміну там якую тожа капоту* адзеніш, сумку пашыюць кажды рас прас пляча, на ґузік зашпіляна. А як Стасюк хадзіў наш, дык ён дзеравяннў зробя, дык шчэ і сьлізгаіцца потым на ёй. А як пайду ў школу, дык я ш кажу, былі ўсе чыста велькія, а я адна малая. Прыдуць с танцаў, чытаць аніхто ні ўмея. Іх паставя ў лаўку наўчыцелька*, а мне загадая ля іх чытаць. Тры класы кончыла, пачаў боль галавы, пакінулі на год яшчэ дабыць. Як дабыла, то й дабыла. Тады пашла ўжо ў дзеўкі, на танцы пашла.

*С.А.Вінцаловіч, 1936 г. н.*
*в. Бяцюны, 1997 г.*

**138.** Што раней было, гэта не тое, што цяперака вырабляюць. Посьля вайны сіроткі, мая ты, засталіся, і матка пакалечылася. Што ж, брат старэйшы ажаніўся, і сястра Ванда вывучылася троху шыцьцю і ў Ашмяну выехала. А я ж з мамуськай засталася. Во, дык троху ляхчэй стала, а то ж як меншыя былі, ні яды, анічагусенькі. За вадой паўтары вярсты, мая ты, хадзілі і яшчэ ж не адзін разок на дзень. І вясёла было. А ў пятнасьця ж гаткоў, дзе ш там, яшчэ й пятнасьця не мела, на ферму пайшла. А перад гэтым жа ш паслугавала*, кароў пасла. Гэта ж дваццаць кароў у адной даяркі было, і гэта ш кап толькі падаіць, усё чыста трэба было рабіць, вёдры гэтыя трэба каб былі блішчалі. Там, каля вушкаў, каб нідзе нічога ніколі не было. Там паролі трэскай, каб Божа бронь**, якое балота... І ежэлі доіш карову, то з гэтага вядра ўжо не памыіш і не пальеш на трапкі. Цяпер апарацік на пляча і пайшоў, а мы вёдрамі

цягалі, па гразі, за поўкіламетра. Паваліся было, пагалосіш і далей шуруіш. Такія каромыслы былі, павешаіш на плечы два вядзёркі, адно ў руку, а чвартае* павесіш на другую. Перш пры фанару даілі. Летам на полю даілі, вазом на каню прывязуць бітоны, і лаўкі такія былі сабе парабіўшы. Ехалі, песьні сьпявалі, вясёла сь песьнямі, вот. А цяпер ходзяць панадуваўшыся як мухі патраўленыя, усе недавольныя нечым, усё дрэнна нешта. Усе былі маладыя, адна ў адну, і завшэ* сь песьняй. Вясёла і лёхка было нейк. Стараліся там, а ў хаце тожа трэба было рабіць. Прыляціш, ідзеш у хлеў аходжвацца*. Дровы зь лесу насілі на плячах. І лёхка, і добра, і вясёла было. Зарас прыдзіш дахаты, туды-сюды – ўсё парабіў. Тут хапіў якія чысьцейшыя лахманы, папрасаваў, зьвязаў у вузел, прынёс на ферму, кідыльсь у чысьцейшы кут, троху раскідаў, раскідаў, пакуль кароў падоіш, яны троху распрастаюцца. Тут нейдзе нейкія танцы ці васэля. Танцы ж раней па хатах былі. Дык во, адзеліся, найшло хлапцоў, памаглі, падаілі, малако носім, вясёла. Скарэй сьпішаліся. Ну пайшлі, тут прыйшлі, патанцавалі, тут музыкі выйшлі. А ў нас хата ат сьпеваў разьлягаецца. Што ш, патанцавалі – зноўку на работу. І так во, мая ты, дзьве гадзіны летам, бо больш неяк не выходзіла. І неякая хвароба нас не брала. Бывае, засьпіш, прыляціш зьбянтэжыўшыся на ферму, не знаіш, за што схапіцца, але ўсё ш гэта с панталыку** робіш. Так во, мая ты, жылі і шчасна, і горасна, але вясёла, найперш было вясёла.

*Я.Б.Ціхановіч, 1939 г. н.*
*в. Гродзі, 1998 г.*

**139.** *О*! *Я*к мы жылі! У магазынах лаўкі панакладаныя, сьцены. Як прышла вайна, мы ні маем. Пры немцах жалезную дарогу другую ўвялі. Тут, дзе быў парк, была кухня. Людзей сагнаўшы і з Гервят, і з Гальшан. А жалезную дарогу наш нарот насыпаў уручную. Усе бабы і мушчызны, бо цяпер во кранамі разнымі, трахтарамі капаюць. Ад Маладзечна ўжо другія дарогу рабілі. Усё было ўручную. У Смургонях перадавая, а тут, у нашай вёсцы, перадавой няма. Звазілі немцы ў стох жыта. Летам скасілі косамі, конямі звазілі ў стох, бо машынаў жа ні было раней. А немцы ў Германію завезьлі жыта. Як атступала Расея, дык коні едзя-едзя – кіня, другога ўзяў. Каровы здыхалі, коні. Усе галадавалі. Зямлю аралі, такія плугі мелі і спрунжыноўкі*. А якай там была работа, ні было чым рабіць. Як прыйшлі гэтыя саветы, усё забралі: і плугі, і драбіны, і бароны. Каровы парэзалі, як прышлі немцы. Тады пакуплялі ўсе цяляты, і мы купілі цялётка двухтыднёвае. Заехаў немяц, як атступаў, за ўсё ў вагоны і павёс. А ў нас ні забраў, бо хадзіла на работу сем душ.

Кросны мелі, ткалі. Цёмгле* во гэтыя ступы мелі. Натаўчом зь ячменю груццы*, наварым кісяля, бо дабра да вайны мы свайго мелі па вушы. Жнём уручную, пагодай возім, зімой малоцім. Пшаніцы нагта мы шмат сеялі. Трымалі пятнасьця* авечак, каровы тры-чатыры. У армію забралі нашага каня, яшчэ пры польскіх тысячу злотаў далі за яго. Запраглі кабылу ў брычку, пад гару і гоняць. Спалілі гэту кабылу. А маладая кабыла, харошая! Во бачыш, якія аспадары пашлі, каня нігды* ня бачыўшы. А мы былі аспадары! І я ўжо ўшчытана ў работу, мела, мусі, едынасьця* гадоў. І мы палолі боп, лебяду вырывалі, кап чысты боп быў. А ў Міцкевіча быў сьвіран, дык мы хадзілі перабіраць. Прыехала сь перадавой кампанія аддыхаць, дык у акно трубу ўсунулі, спалілі хату. Галадоўкі цярпелі. Мы пасадзілі бульбы. Прыехалі салдаты сь перадавой. Бульба толькі ўзышла, а салдат прыходзя, капая, бульбы шукая. Ужо й яны галодныя былі. Гэтак шмат гадоў пражыла, але ад малых гадоў гэта вайна. І ўсіх жа пагналі на работу і да сьнегу ганялі. І потым плацілі па марца. Маркай рубель называлі. Але потым ужо адзін гот у Кісялева магазын зрабілі, дык туды хадзілі. Была жытняя пытляваная мука, па пяць фунтаў давалі. Лебяды ўсморгаеш, і селяццы былі, а хлеба няма. Мы, праўда, рыбу мяшкамі насілі. Сягоньня во няма што варыць. Сетку ўзялі, закінулі, налавілі ўсякай рыбы. Былі мянтузы, акуня толькі ні любіла, плоці* было. Пойдзем рыбы наловім, саган наварым. Хто прыходзя – сядай і еш. Шчупакоў напячом, а Бох ведая. Помню, на Юзэфа гэтакіх шчупакоў налавілі! Даўней пасьцілі. Шчупака гэтакі кусок – на талерку, пад'ела і пашла на фэст.

*Г.І.Падляцкая, 1905 г. н.*
*в. Дзягаўцы, 1995 г.*

**140.** Ат, міленькі, якая гэта жызьня. Жыў як гарох пры дарозе. Стары чалавек нікому не патрэбны. Я й дзяцей выгадаваўшы, траіх маю, а ўсё адно адна. Старэйшая на цаліну паехала, тамака й засталася. Ці ш яна даедзя? Цяперака й цэны шалёныя, білет тысячы каштуе. Дзяцей от адна гадуе. Са сваім сходзілася, расходзілася, вось судзьбу й пакалечыла. Як сабе хочуць, я ўжо нічым не памагу. Хлопец у Мінску, грошы добрыя мае, да мяне на сваём таксі прыяжжае. Целевізэр мне купіўшы. А малочшая на стройцы недзе ў Лідзе, ужо лет васемнасьце, мо й болей. Я хату сыну сьцерагу. Ён жыць тутака ня будзе, дык хоць прадасьць. Цяпер маладыя ня хочуць у вёсцы жыць, усё ў гарадах за балконы трымаюцца. А я ў іхнія вульлі тожа не палезу. Тут сама сабе гаспадыня. Дзьверы аччыніла – і на вуліцы, на слонейку пасядзіш. А там не дамы, а вульлі. А сам навучыцелем* робіш? То, мусіць, шалёныя грошы грабеш? І адзеты чыста. Я адразу ш падумала, што начальнік.

Хаця цяперака і сьвет зьмяніўся, ня знаеш, што ад начальніка чакаць. У нас (вы чулі?) у сельскім савеце адна працавала, абакралася, судзілі яе, а цяперака за пеньсіянерамі ўхаджвае. Мне ваду, бывае, прыносіць, падлогу памые. А мне брытка, прывыкнуць не магу, гэтакі чалавек была. Пытаеце, дзе гаспадар? Даўно нямашака, памёр яшчэ як у калхозы зганялі. Перавёс с хутара гэты дом, а потым адышоў, вечны яму покуй. Зямлі ў нас было гактараў восем. Усё пааддавалі, бо Сібірам страшылі. А ў касьцёл не хаджу, хоць ён цераз дарогу. Я дома малюся, як мая мама вучыла, бо наша вера справядлівая, і мы тутэйшыя, тубальцы*. А на польскія, я гэных палякаў не ўважаю, папрыяжжалі сюды, усё па-свойму робяць, імшу не так атпраўляюць. А я гэна не люблю, дык лепш ужо адна памадлюся. Люблю яшчэ наша радзіва слухаць, калі Ліля Кузьменка гаворыць. Хоць, пэўна, яна таксама шмат брэша. А хто цяпер праўду кажа? Вось так ы жыву. Як-небуць даклёваю* да канца.

*У.У.Карлоўская, 1911 г. н.*
*в. Баруны, 1993 г.*

**141.** Ой! Які там замуш? Ні хацела я замуш за яго ісьці. Але бацька прыказаў, і ўсё. Зямля ў іх была. Гэта ні цяпер. Праплакала я ўсю сваю свадзьбу. Мала што помню. Перат самой свадзьбай трэба было жаніху пашыць белую рубашку. Помню, шыла і плакала. У суботу перат тым, як яму прыехаць, убралі мяне дзяўчаты чыста. На галаву надзелі вянок зь мірту. Потым пасядалі ўсе за сталы. Мяне, як цяпер помню, пасадзілі на падушку, апшытую чырвонай стушкай. У нас яе вясельнай звалі. А мне яна горкай была. Пасядзелі троху. Потым усталі. Брат мой, ён ужо памёр, узяў рушнік. Адзін канец сам узяў, другі даў мне. Мы тры разы каля стала абышлі, потым пашлі на пасат, скрыня такая вялікая. Далей блага помню. Толькі што бацькі мяне паблагаславілі. Ён прыехаў. Мы селі ў вазы. Бацька з маткай тры разы абышлі кругом вазоў с хлебам і солю. Помню, што маці мая плакала. Калі йшлі да шлюбу, у мяне ногі падкасваліся. Так не хацела я йсьці. Але што ш паробіш? Кажуць, сьмерць і жона ад Бога суджона. Але пасьля нічога. Добра мы жылі. Ніколі я ад яго благога слова ні чула. Пяцёра дзяцей выгадавалі. Усё жыцейка атпрацавала. Але хоць і цяшка было, усё роўна людзі нейкія весялейшыя былі, воткі гэтулькі ні пілі. А гуляць дык гуляць. Запрашалі музыканта. Тады ўсё на скрыпках ігралі. Танцаў шмат было: і кадрэля, і лявоніха, і полька, і казачок. Да халеры іх было. Дзе ш ты ўсе ўспомніш? А сьпявалі як! Доўгае было жыцьцё. Усяго на сваім вяку нагледзілася.

*У.С.Макойць, 1917 г. н.*
*в. Жупраны, 1992 г.*

## СМАРГОНСКІ РАЁН

**142.** За маёй памяцяй тут прас Вяльлю было аш тры масты. Першы – цымантовы, яшчэ аўстрыйскі, ці там немцы рабілі. Хоць малая была, алі ўжо помню: усе едуць конна зь нейкімі пікамі і гаргочаць. І цяпер на гэным мейсцы вада скора ляціць, алі ўжо ні так. Ці то лёдам сьцёрла, ці то гэны цымант у зямлю палес. Другі мост строілі тожа яшчэ за Польшчай**. На конях лес вазілі, зямлю. Гэта ш трэба было навазіць такія насыпы. Машын не было. Якія раней машыны? Усё на конях ці рукамі. А як вайна пачалася, праз гэты мост усё немцы на матоцыках* ляцелі. Во тут на гарэ яны ўсё астанаўліваліся. Хадзілі па хатах, сьбіралі ежу: курэй, яйкі, малако. А пасьля той мост партызаны спалілі. Прывязьлі шэсь вазоў саломы, аблажылі ўвесь і падпалілі. Ой, страшна гарэла, думалі, што ўвесь засьценак згарыць. Гэта ўжо як немцы назат атступалі. Я ўсё выду на двор, гляжу ў той бок, а там усё неба чорнае ад дыму. Кажу Ігнасю: «Запрагай каня, сь дзецьмі ў лес паехалі». Толька ў лес заехалі, як паляцелі самалёты і давай ськідаць чорныя бутэлькі. А лютцы ўсё лятуць, мяне мінаюць. Дзеці ў плач, а большая: «Мама, пойдзім тапіцца!» Натта страшна было. Дахаты вярнуліся толька на трэці дзень. З засьценку толька цудам наша хата засталася, і то – ні вокнаў, ні коміна. Алі ш трэба было неяк жыць. А трэці мост строілі ваенныя. Ні многа ён пастаяў, гадоў зь дзесяць, а можа і меняй. Кожны год восеньню яго здымалі, каб вясной ні панясло зь лёдам. Пасьля яго разабралі і некуды павезьлі. Так болей і не пабудавалі маста. На лотках на той берах пераяжджаюць.

*А.Т.Сідарэвіч 1905 г. н.*
*в. Рышыняты, 1988 г.*

**143.** Раскажу я табе, дзеткі, як замуш раней выходзілі. Цяжкі быў час. У песьні пяецца: ён багаты, а я бедна, будзе пара атпаведна. Ды няпраўда гэта, дзетачкі. Бацька мой багаты быў, зямлі ў нас шмат было, дзяцей нішмат было. Пасах за мной вялікі давалі. А як жа ш раней замуш ішлі? Сколька рас да мяне сваталіся. Маладая я стройная была. Каса ў мяне была, знаіш, да пояса, і гэдыкая чорная, як смалянiстая. Ну дык вот, прыедуць да мяне сватацца, а я, бывала, схаваюся ў сьвіран ці ў гумно ды не выхожу да іх. Мама мяне ўсё прасіла: «Дзетачкі, хваціць ужо бацьку злаваць. Выхадзі замуш, пакуль жаніхі ёсь». Але мне натта не хацелася ісьці за ўсіх гэтых кавалераў. Бо любіла хлопца зусім другога. Граў у нас на вічарынках Андрэй такі. Рэтка ён бываў у нашай вёсцы, але граў ён спрытна. У час танцаў дась свайму другу пайграць, кап

зьмяніў яго, а сам са мной гуляў. Бывалі выпаткі, што начаваў у вішнях пад акном маёй хаты. Але маладая я на той час была, толька васімнаццаць споўнілася, а ён хлопец старэйшы. Яму пара было жаніцца. Бацька мой сварыўся, што я зь ім дружу. Казаў, што рамясло ў яго непрыгоднае, дый зямлі німа. Сястра й матка патстроілі так, што на Вялікдзень мы пасварыліся. А на Пятро жанілі яго на другой. Плакала я і рукі ламала, ды нічога ш ні зробіш. Адзела сваю самую горшую і старую сукенку ды пайшла глядзець, як ён вянчаецца. Стаяў бедалага, і трасло яго як на марозе. Ні любіў ён сваю жонку, жыў зь ёй блага, біў часта. Яго часта прасілі у вясельлі пайграці, а калі яшчэ і я там была, дык ён ішоў туды вельмі ахотна. Калі іграў яго напарнік, дык ён прасіў у майго хлопца, кап даў хоць адзін танец са мной пагуляць. Бывала, гладзіць мяне па галаве, як той Луіс Марыяну, пацалуе мяне ў валасы. А я аш заходжуся ад болі. Душа ў мяне ныіць. Але куды ш дзенісься, замуш трэба выходзіць. І пасватаўся да мяне хлопец з другой вёскі. На выглят так сабе. Але клапатлівы гаспадар, ціхі. Плакала я, не хацела ісьці. Але куды падзенешся ат бацькоўскай пугі. Бацька мяне пугай калаціў. Бывала, так спаласуе, што два дні падняцца з лошка не магу. Вянчалася я зь ім як у тумане**, не помню анічога. Пражылі гот, усяго было, хіба толькі шчасьця не ставала. Сьцярпелася, але ш не зьлюбілася. Нарадзіўся сын. І цяшка было, і біў мяне мужык, і п'яны дамоў прыходзіў. Гаварыла я з тым хлопцам сваім часта. Жалеў ён мяне, і я яго жалела, але ні разу ў гэтым яму не прызналася. Нядоўга ён пражыў на гэтым сьвеце. Прас пару гот пасьля вясельля забілі яго хапуны. Хадзілі такія баньдзіты па лясах. Паругаўся ён адзін рас з жонкаю. Ехаў на ровары па ляску, і парашылі яго гэтак. А цяпер, дзеткі, вот замуш толькі па любові выходзяць. Бацькам у пасьледнюю очарацць гавораць. І хіба ведаеш, як яно лепяй? Па-рознаму ш бываіць. Каторыя дык і добра жывуць, хоць і бацькі не даюць пажаніцца. А хто і разводзіцца, б'юцца паміш сабой, а бываіць, і бацькі хочуць, кап жаніліся, і радуюцца за дзяцей, а толку з гэтага ніякага. Пытаюся, бываіць, у сына: «Чаму жаніўся на Вольцы?» Пачырванеіць і кажыць, што любіць ён вельмі яе.

*Л.А.Сапега, 1914 г. н.*
*в. Лылойці, 1992 г.*

**144.** Ці ж раней так жылі, як тэрас*? Меў хто сукенку ці блюзачку, і ўсё тут. Да шлюбу і то касьцюм пажычалі, хто ж раней глядзеў на красату, абы зямля ёсьць і прытуліцца ў кутку хаты. Так і дзяўкі шлі і хлапцы жаніліся. Во як з нашай вёскі Лявон жаніўся, ну што на смалярні хата стаіць. Ён у багатых парабкам быў. Гаспадар яго,

эй, добры чалавек быў. Тры млыны меў. Нікому ні адмовіўся. Так Лявон у яго парабкам быў, служыў, значыць. Няўдалы такі. Зусім нікчэмны. А тут дзеўку ўпадабаў, нават і ладную. Ой, мы яе шкадавалі. І што ты думаеш? Паехаў у сваты. Сказаў, што і хата гэта, і гумно яго, а дзеўка здалёк была, нічога ні ведала. Ейныя бацькі радныя – хутчэй аддаваць. А як прывёў жонку ў хату, то толькі маленькі пакоік атрымалі. Ой клопату было. А што ж ужо зробіш. Жывы ў зямельку не палезеш.

*К.Б.Казаневіч, 1916 г. н.*
*в. Монтацішкі, 1989 г.*

**145.** Была такая сям'я. Жылі дружна. Мелі сем сыноў, адну дачку мелі. Жылі дружна, покі не вырасьлі дзеці. Падрасьлі, сталі большыя, сталі дабіраць самі сабе пары. Адзін з гэтай сям'і пагіп у сорак пятым годзе на вайне. Астатнія жаніліся дома. Кожды закладаў сваю сям'ю. Трох жаніліся на праваслаўных, а трох на каталічках. Не можна было хадзіць да касьцёла праваслаўным, то дзеці хрысьцілі ў цэркві. А гэтыя, каторыя каталікі, хрысьцілі ў касьцёле, і іх очэнь любілі. А дочка была адна. Любілася с хлапцом. Мелася свадзьба быць. А яе кавалер быў у арміі польскай. А як даведаўся, што замуж выходзіць, тады ён узяў отпуску і прыехаў на той час, як мелі вянчацца. Ён пастраліў маладую на мейсцы. І маладога, і свата, а тады сам сябе ўбіў. Во і кончылася любов. Адзін ахотнік аб іх быў песьню злажыўшы.

*М.В.Блюшч, 1924 г. н.*
*в. Панарка, 1989 г.*

**146.** Раскажу я табе, мая ты дзевачка, якое страшнае баньдзіцтва было ў нас пасьля вайны. Парцізаны гэтыя зь лясоў павылазілі, пачалі поўзаць па вёсках, футарох. Абіракі гэтыя ўбіваліся ў якую багацейшую хату й забіралі ўсё лепшае. У маей маткі, ты яе і ня відзела, дык пасьледні залатнічок зь сяніка вытрабушылі*. А недалёка ад нас, на футары, багатыр такі жыў, Вайцюль, колькі разоў да яго ламаліся, але ён хітры быў, баяўся, не атчыняў, завалы такія дубовыя парабіў на ўсе дзьверы. Дык яны, пашкуды, во што прыдумалі. На Фалючышыным футары злавілі іх служанку, Ядвіню, зьбілі да сьмерці, казалі, што заб'юць, калі не завядзе да Вайцюлёў. Ну гэна бедная й павяла. Пастукалася, ёй і атчынілі. Ніхто ні ведая, як там што было, але назаўтра найшлі ўсіх гэтых Вайцюлёў парэзаных, Божа шчэш**, крыві поўхаты, хоць рандэлькам* вычэрпавай, а кругом печак дык сьляды дзяціныя крывавыя.

*Н.І.Куліцкі, 1914 г. н.*
*в. Шутавічы*

**147.** Некалі тут скрось бярэзіна стаяла. І на нашым котлішчы, і на той гары. Усюды. Бацька мой, Майсей, калі сюды перасяліўся, то мы карчавалі ды карчавалі бярэзьнік той. Але ўсяго адненькі гіктарык ляда пасьпелі прыдбаць. А тады ў гурт нас сагналі, гэта значыць, у калхос. С тае пары нівязёнка нейкая пашла. Сталі бяднець. Сталі марнець. Кім я рабіў у калхозі? Усялякім даводзілася быць. У асноўным пры канёх. Ага. Малатабойцам яшчэ рабіў, у кузьні. Трох сыноў меў. Хаця п адзін жывы застаўся. А то ходзя, ходзя, і туды. Памрэ. Так траёх і пахаваў. І старая мая пазапрошлы гот памерла. Праўда, дачка яшчэ ё. Але ў Мінску жыве, людзі мне раюць, хуччэй памірай, до мучацца. І рады быў бы, а ні выходзя.

*В.М.Жук, 1916 г. н.*
*в. Бялкоўшчына, 1995 г.*

**148.** Даўно гэта было. Служыла я перш у вёсцы Каменцы пры двары ў пана Рагінскага. Была я яшчэ тады маладая, дык гусей пасьціла, пан быў добры, ён сьлетчым у Вільні быў, а ў свой фальварак прыяжджаў толькі на лета. Калі пан быў у адлучцы, дык яго замяшчаў генерал Агроднік. Летам я палола і палівала агарот. Трэба было прынесьці на агарот вечарам пісят палівачак вады і раніцою пісят. Усюды на руках былі панацягаваны вены ат цяжару. Я ш яшчэ тады маладая была. Садзіла каліфіёры. Гэта такі овашч, лісты як у капусты, а ў сярэдзіне як рэпа. На месцы гарода калісьці быў лес, а генерал яго выкарчаваў. Я такая маленькая пашла служыць, вось таму і няграматная засталася. Яшчэ ў генерала было пяць козаў і кабылка была, а ён вадзіў іх на шпацыр. Так быў вывучыўшы козаў, як салдатаў. Яны так скакалі, калі ён ім каманды падаваў. Служыла я ў іх сем гадоў. Рагінскі вельмі часта прывозіў зь Вільні вакатнікаў*, патпанкаў, і шпацыравалі па лесе, атпачывалі. А Агроднік нам добра плаціў. Летам ён плаціў па пісят злотых, а зімой па трыццаць. Ох, нічога ўспамінаць не хочацца. Цяперашняя молаць не так працуе, як калісьці працавалі мы. Калі я вышла замуш, то вельмі шмат працавала. Язэпа забралі ў армію на тры гады, а я ш с цэпам хадзіла. Малаціла і жыта, і лён. У мяне была конская сіла. Ат палудня растрасала на полі пісят вазоў гною. Хадзіла ў Маладэчна на базар. Насіла вядро агуркоў с расолам, а на плячах яшчэ пут сырых. А зімой малаціла пяць коп у дзень уручную. Ой працавала. І гэдакую малую пенсію палучыла. Кап граматная была, дык дашла п усюды. Мне ш восемдзесят шэсьць гадоў, а я ўсю работу раблю, і бульбу капаю, і агарот палю. Хадзіла я напіхату і ў Вільню. Яшчэ як пятнасьцця гадоў мела, хадзіла с ксяндзамі да Каліварыі. Ішлі мы туды два дні. Толькі ў Ашмянах нача-

валі. А цяпер маладыя ўлехцы са Смургоняў прысьці не могуць. Што за сьвет пайшоў. Бывала, вячэру вару на гэдакую вялікую сям'ю, а ногі так баляць, што стаяць не магу. Мяне за работу ўсе цанілі. Пан Бараклайда казаў бацьку, што твае дочкі рабочыя, но нявестка лучшая. Мяне і сьвякроўка цаніла, а ёй угодзіць было вельмі цяшка.

*М.І.Сосна, 1912 г. н.*
*в. Вялікая Мыса, 1998 г.*

**149.** Вайной у вёску прыслалі бежанцаў зь Віцепшчыны. Прыехала сям'я, да сусеткі пашла матка, а да нас яе дочка, ну, гадоў, можа, дванаццаці. Другая дачка – у другую сям'ю, мела, можа, гадоў дзевяць. Жылі яны ў нас, можа, ад вясны празь лета да зімы. Дзевачка пасьціла кароў, па хазяйству памагала, то дроў прынясе, то вады. Потым сабраліся і паехалі на сваю родзіну, а аттуль прышло пісьмо, што ні было ім там чаго есьці, ш чаго жыць, усё жыта пабіла фронтам. Вярнуліся ў вёску нашу з малочшай дочкай, дзевачку ўзялі да сябе, а матка пашла ў другую вёску, ні было тут мейсца, бо ніхто ні хацеў браць. Нізадоўга матка захварэла. Хазяйка прывезла яе пад нашу хату, вывярнула, а сама паехала. І што нам зь ёй рабіць? Цэлую нядзелю ляжала, за пару дней захварэла яе дочка ў нас, а потым і наша сям'я: мама, я, Лёдзя і Янусь. Дохтар выправіў нас у бальніцу, а бежанка гэна паправілася і стала даглядаць хазяйства. На шчасьце, выжылі мы ўсе, у бальніцы застаўся толькі брат Янусь, самы слабейшы быў. Гэна хвароба была тыфус. Бежанка была вінавата, бо ні сказала нам, што яе другая дочка памярла з гэнай хваробы. Муш быў у Латвіі, і яны туды выяхалі, ніякага пісьма ні было, і ні аказаліся. Усяго было ў нашай сям'і вайной. Старэйшага майго брата забралі ў турму ў Вілейку, за Маладэчнам чы што. У нейкую арганізацыю быў улешшы са сваімі друзьзямі. Потым забралі другога брата, малочшага, ад мяне быў старшы. Лёня быў у Ашмянах, а малочшы ў вёсцы Навасёлках, у яго падлогі паднялі, шукалі нечага. А ў хаце асталіся ў старшага жонка і адзін сынок, а малочшы нежанаты быў. Жонка вазіла Лёню у Вілейку прадукты, бялізну нейкую зьмяніць – ні ўзялі. У нядзелю было ў нас сьвята, хацелі вывясьці за гэтых братоў. Ні нашлі нас у хаце, хацелі ў пятніцу, а ў нядзелю немцы прышлі. Немцы тут – саветы атпаўзьлі. Рускія, адыходзячы, старшага брата забілі, а малочшага гналі на Катынь. Але амэрыканьскі Чырвоны Крыш разрашыў выяжжаць, атпусьцілі ўсіх у дарозе. Брат паехаў у сталіцу, уступіў у армію Андэрса і яшчэ доўга ваяваў. З Ыталіі пераехаў у Аргентыну і памёр там. А ў старшага страшная сьмерць

была. Як гавораць, нейдзе каля турмы стаяла баня невялічкая. Некаторыя гавораць, што іх там памучалі, паабразалі насы, а Янусь гавора, што проста забілі. Стася гаварыла, што пулю ў патыліцу, і ў адзін дол восем чалавек скінулі. Тады людзі перахавалі на магільнік. Франка шукаў нядаўна магілу ў Вілейцы, але ні найшоў.

*А.Ф.Керэль, 1917 г. н.*
*в. Асіпаны*

## АСТРАВЕЦКІ РАЁН

**150.** Раскажу, як мы старажылі вёску. Было некалі так: старажылі вёску, насілі таблічку па очэрадзі з аднэй хаты ў другую па две хаты. І вот мусілі цэлаю ноч хадзіць па вёсца й глядзець, кап не было пажару або злодзеяў. Мы, самі старажы, рабілі шкоду. Тады яшчэ мала ў каго былі сады, то мы ўночы ўлезьлі ў сат, набралі яблыкаў і занясьлі ў гумно і схавалі ў сена. У тую ш ноч пашлі йшчэ і па агуркі, толькі ў другую хату. Набралі гуркоў, а ноч была цёмная, то мы не маглі знайсьці іх. Адзін друх лёх і качаўся, гдзе толька цьвёрда, то мы бралі там гурок. Гэтыя гуркі прынясьлі дахаты і сказалі, што нам падарылі. Нараніцы тата пытаіцца: «Хто вам падарыў?» І мы муселі расказаць усю праўду. Нех яго пёрун**, як мы дасталі. Тата нас пагнаў уперадзе сябе, а мы нясьлі гуркі. Толька аднясьлі адно, другі дзяцька ідзець і кажыць, што мы яшчэ быўшы і ў яблыках. Тут нам і дух забіла**, мы пашлі, сабралі яблыкі і тожа панясьлі назат. Но за гэта мы былі наказаны, стаялі цэлаю нядзелю на каленях у кутку кала печы на гароху. Так што запомнілася гэтае дзяжурства.

Гэта было на Вельканац*. У нас было так прынята: на першы дзень Вельканоцы язьдзілі сьвеньціць да касьцёла, і пакуль ні прыедуць с касьцёла, мы не мелі права хадзіць па яйкі. Вот нашыя былі ў касьцеле, я рашыла схадзіць да хроснага бацькі па яйкі. Ён даў мне два яйкі. Я вышла за гумно і зьела іх. Вот па абедзе сабраліся дзеці і пашлі сабіраць па вёсца яйкі. Но яшчэ такі быў розум, прышла дахаты і стала лічыць, хто якія яйкі даў. Лічыла-лічыла, а ад бацькі хроснага ні было. Тады мама пытаіцца: «А чаму ш німа ад бацькі хроснага?» Я сказала, што ні даў, а дзеці пацьвердзілі, што праўда: «Нам даў, а ей – не». І толька перагаварылі, прышоў хросны. Мама пытаіцца: «Чаму ш ты ні даў ей яйко?» Дзядзя зьдзівіўся: «Як ні даў? Яна ш рана была прыляцеўшы, я ей даў два яйкі».

Тады мама мяне пакарала, паставіла ў вугал кала парога, і стаяла аж да вечара. Вот запомнілася мне сьвята.

*Г.І.Трыбоцкая, 1931 г. н.*
*в. Кямелішкі, 2003 г.*

**151.** Веле* ўспамінаў і добрых, і такіх, якія хочыцца забыцца. Была ў мяне каляжанка*, мы зь ей очань дружылі, яна знала ўсе мае сакрэты. І вот быў у мяне хлопяц, было яму час у арміі служыць. А тады служылі доўга, не так, як сёня. Паехаў ён на колька гот, абяшчаў не забыць. Трэба было лісты пісаць, а пісаць я добра ня ўмела. Мая ш каляжанка была граматная, кончыла колька класаў. Я папрасіла, кап яна пісала пісьмы за мяне, а я толька дыктавала. Сначала так і было, а вот посьле яна пачала пісаць ат свайго імяні. Я нічога ня знала. Ды вот вярнуўся ён не да мяне, а да яе. Пэўна ш, дружбе нашай прышоў канец. Скора яны пажаніліся, алі жылі вельмі нядобра. Посьле ён зноў пачаў заляцацца да міне, але я яго прагнала, бо ён быў жанаты. Скора яны выяхалі, і я ні знаю, што зь імі случылася далей. Так я страціла лепшага друга і сваю першую любоў.

*М.П.Пляўга, 1932 г. н.*
*в. Кямелішкі, 2003 г.*

**152.** Я пашла ў касьцёл. Ксёнц вычытаў запаведзі: «Букель Чэслава с Попішак». І мяне як токам прабіла** з нох да галавы. Прыйшла дахаты, і мама пытаіцца ў мяне, што там было ў касцеле. Я кажу, што хлопец жэніцца там с Попішак. І ён за полчаса прыехаў да нас с суседам. А назаўтра яны прыехалі да нас у сваты. Паставілі вотку на стол, літар, засьцялілі насурку*. І мой тата пытаіцца: «Каторы з вас малады?» Бо два кавалеры былі. І гэты Чэсь, каторы мяне токам прабіла ў касьцеле, аказаўся гэты самы кавалер. На другую суботу паехалі, далі на запаведзі** і згулялі васэля. Патом паявіліся ў нас дзеці. Першая Марыська нарадзілася, у хаце, ні ў бальніцы. Цераз два гады нарадзілася другая дочка Дануська, тожа ў хаце. За два гады радзілася трэцяя дочка, Крыська. Радзілася ў хаце, ні ў бальніцы. А Чэська радзіўся ў бальніцы, чварты*, сын. Так як я паехала на васэля да сястры і там захварэла, і мяне завязьлі ў бальніцу. Пяты, сын Мар'ян тожа радзіўся ў бальніцы. А шостая, дочка Гэльця, – тожа ў бальніцы. Жылі з мужам мы сваім трыццаць адзін гот с палавінай. Тры дочкі выйшлі замуш. Дачакалі чатырох унукаў, і муш памёр. А патом ужо я расьціла, учыла і жаніла адна. Цяшка было, нічога не палучалі ў калхозах. Дзеці ўдаліся ўдачныя, самі сабе раду давалі. Пабралі

жонак і мужоў, якіх самі выбіралі, я ім не бараніла*. Усе вывучыліся. Пайшлі ў людзі. Маю сем унукаў і тры ўнучкі, адзін праўнук і две праўнучкі маю, дзевачкі. Усе ўнукі харошыя, вялікія, як дубы, два афіцэры. А ўнучкі яшчэ незамужнія, яшчэ вучацца. Цяпер жыву адна, маю семсят пяць гадоў. На дзень рažджэньня прыехалі ўсе, навязьлі падаркаў. Усё ў усіх добра, усё харашо.

*Ч.Е.Букель, 1928 г. н.*
*в. Попішкі 2003 г.*

**153.** Я саўсём ужо мала што помню. Да вайны мы ў чваранку* жылі, што каля млына стаіць. Які відок красівы: лес, рэчка, сенажаць. Я тут чалавек бывалішні*, усё знаю. На гэтым мейсцы яшчэ пры маей памяці альха расла. Такі ён ужо красівы куст півоніі рос тут каля акна. Лес недалёка ад нас быў, кажды дзень у паземкі* лёталі. Зайшоў у лес і адразу на зайцавы сьлет напаў. А гэтая фарфуровая статуэтка мне ад дзеда асталася. Гэтай філіжанцы* каля ста гадоў. Мой дзет пры панох тутэйшых лякаям* быў. У нас у хаця толька адзін мушчызна на сям'ю. З нашай сям'і ніхто парцейным ні быў. А ў нас дачка Надзя. Купіла во сіцяц дацэ ў падарак. Дачка мая ў Смургонях наўчыцелькай* робя. Зноў на сесію паехала, а мне рабі ўсё адной, ун якая дачка ў Надзі вырасла. Падарыла мне сваё зд'еньця* на памяць. А мой сын алекстрыкам робя. Даўней ніхто гэтай алекстрыкі ні знаў. Ужо ладне* часу прайшло, як ён паехаў. І хату ладную* пастроілі, а шчасьця ў гэтай хаця німа. Ну і цёшча яму врэдная папалася. Владак сабе ўжо другую таксуфку* купіў. Хваця тут таўпіцца, ідзі на гуліцу. Прынясі мне начоўку, я адзежу мыць буду. А гэты недалэнга ўнук дажа вядро вады ні прынясе. Усю адзёжу выпацкаў, у чым заўтра ў школу пойдзя. Чаму ш твая спадніца такая брудная, як тая адымачка*? Трэба было п ужо бяльлё мыць. Паглядзі, як Надзі дачка вылупілася*, а то раней такая брыткая была. Удвух дык ўсё лацьвей рабіць. Узяла п мядніцу, а то гэтая міса замалая. Што ты мне тут набунтавала*? Куды ш ты столька вады набамбэніла*? Ходзя с самай раніцы раскудланая*, расчасалася п хоць. Спаць позна ложыцца, а тады раніцай ні раскуштаць*. А як ужо ў хаця карэла*, прыбярыця ш вы. Уступіся* ў гумовікі*, а то ногі прамочыш. Унук, зрабіў бы хоць што люцка, а то людзі сь цябе сьмяюцца. А ты ўсё ляндрынкі* ясі, без зубоў астанесься. Што ты гойсаіш цэлы дзень, кнішку хоць пачытаў. Што ты, як надуцька*, цэлы дзень ходзіш? Зачэрпай рэндлікам* вады і ў печ пастаў. Пайду, мусі, адзёжу прасаваць, высахла ўжо. Німа мне боляй чаго рабіці, як з вамі ў хованкі гуляцца. Сколька можна хавацца, работаць пара. Што за маладзёш

цяпер, ні фсігда і дзіньдобрыцца*. Чый гэта які хлапчак харошы? Дык гэта ш Марысіны бахур*. Вазьміця хрустоў* маіх пакаштуйиця. Дзе ш ты такія красівыя малявідлы* купіла? А хто ш табе так красіва манішку вышыў? У Мінску вышыла? А я нігды ў Мінску ні была. Купіла п ты мне да часоў рамушок, а то тут німа нідзе. Ляці ў магазын. Кажуць, аліву* прывязьлі, і цукер прывязьлі, трэба было п купіць. Толька скарэй назат варочайся. Панаехала гэтых гераў*, калейкі* ў магазынах. Гяргечуць* нешта па-свояму, ні разабраць. Прыдумалі яшчэ, кап хлеба купіць, трэба ў магазын с каетам* ісьці. Учора ў магазыне калёшы купіла, ды малыя. Хоць смактулёў* якіх дзецям купіць, а то як з голымі рукамі пойдзіш. Уступілася ў якія-кольвяк трэпы* і ідзі. Нашто добрыя туфлі псуеш? А дзе ты так чуні парваў, у чым заўтра на работу пойдзіш? З гэтым дзедам седзячы, рыхнуцца* можна. Ідзі!

*М.Б.Керн, 1904 г. н.*
*в. Варняны, 1997 г.*

**154.** Кажуць людзі, што калісьці ў Слабоццы, за возерам Слабоцкім, быў замак і там графы жылі, ці як іх. На гэным месцы яшчэ і гара асталася, высокая такая, цяшка залесьці нават. Кажуць, з гэтай гары можна ўвідзяць Вільню. Гару гэтую так і называюць – Замкавая. Там, кажуць, ёсь пад зямлёй праход увесь с каміня і доўгі такі. Цягніцца гэты хот аж да Вільні, да нейкага касьцёла. Можа да касьцёла Пятра і Паўла, а хто яго ве. Я дык ужо і ні помню. Нідаўна ш зь Літвы гэтыя, шукальнікі, ці як іх, былі. Нешта капалі, шукалі доўга, але, мусі, нічога ні нашлі. Казалі, дзеці лазілі, дык пазнаходзілі там нейкія паперкі, але ні прачыталі, бо напісана па-літоўску. Кажуць, яшчэ будуць шукаць, але ці нойдуць што.

*Я.А.Герасімовіч, 1922 г. н.*
*в. Трокенікі, 1992 г.*

**155.** Дзет мой служыў у пана. Там быў небальшы памешчык, меў парапкаў, але быў памешчык. Ну і гэта было на Шкаплерную. Тады ўсе на фэст у мястэчка зьбіраліся. Там у гэтым касьцеле ў мястэчку абрас цудоўны Маткі Боскай Гудагайскай ёсьць. Ну, а гэты пан сказаў парапкам сваім, што ні пойдзіця на фэст, а будзіця касцы, сена касіць, а жнеі пойдуць жыта жаць. Пагода ў той дзень добрая была. Тады яны мусілі ісьці на поле. Награбілі дзьве капы сена, а жнеі нажалі дзьве мэндлі* жыта, і скуль надышла вялікая хмара, і як стрэліў пярун. Пачала бура. Сена ўсё разьнясло па адным каляву, а снапкі ўсе згарэлі. Тады пан сказаў, што покуль жыць

будзе, *са*м рабі*ц*ь ні б*у*дзе і сва*і*х п*а*рапкаў выпраўляць ні б*у*дзе. Цьв*е*рыў* *ё*н, што гэта ц*у*т. Гэта был*а* т*о*чная пр*а*ўда. Бо т*а*м б*ы*ў м*о*й дз*е*т і б*а*чыў гэта, і п*о*тым мн*е* раск*а*зваў.

*Ю.І.Грыб, 1932 г. н.*
*в. Палушы, 1993 г.*

**156.** Ну *ўжо* як дагав*о*рацца сват*ы*, прад васэлям у чв*а*ртак* зьбір*а*юцца ў маладой пан*е*нкі на вян*о*к. Вэлюм ш*ы*юць, пя*ю*ць. Хл*о*пцы ў малад*о*га на кавал*е*рскі* зьбір*а*юцца, выпів*а*юць, жарт*у*юць, як *ё*н з в*о*льнай ж*ы*зьню прашч*а*ецца. Бацьк*і* шык*у*юцца, самаг*о*нкі ўж*о* нагн*а*лі, карав*а*й пяк*у*ць, кабан*і*ны абв*а*раць, р*о*зных т*а*м ш*у*баў не выдумл*я*лі, бо ня ўм*е*лі. Ал*е* хват*а*ла і руляд*а*ў*, і кв*а*шаніны п*о*ўныя м*і*сы. Як малад*ы* прыяджа*е*, у с*е*нях мушч*ы*ны пя*р*оць* на жал*е*за: «Кав*а*й!» Сват*ы* м*у*сяць *і*м фундав*а*ць. Б*а*бы ав*е*чку трас*у*ць і пя*ю*ць: «Ой, ав*е*чачка, т*ы* касм*а*тачка, хт*о* ш ціб*е* папас*е*, мая м*а*тачка?» Быв*а*е, шт*о* і за малад*у*ю гэтакую б*а*бу пас*а*дзяць, убяр*у*ць у шт*о* белая, пакр*ы*ўку на галав*у* ўськ*і*нуць, а настаяшчая малад*а*я м*у*ся м*е*сца выкупляць. На друг*і* дз*е*нь марш*ы* ігр*а*лі, дар*ы*лі. А як м*о*й сус*е*т В*і*цька, дык в*ы*кіня аст*а*тняю капе*й*ку, аб*ы* яг*о* хвал*і*лі, аб*ы* ям*у* з г*о*нарам. Музык*а*нты яг*о* хв*а*ляць, а *ё*н *і*м гр*о*шы в*а*ліць. А т*а*к вас*о*лы б*ы*ў чалав*е*к, ганар*о*вы. Шлях*е*тны, с Астраўц*а*. Т*а*м н*е*калі яг*о* б*а*цька пік*а*рню трым*а*ў. В*о*зьмя с х*а*ты с саб*о*й наз*а*ўтра ўбярэцца ў д*о*ктара, х*о*дзя, людзей хел*і*ць*, жарт*у*я, б*а*йкі р*о*зныя пляц*е*. Ма*я* В*і*кця ц*о*пам-л*о*пам**, дз*е*ла спр*а*віла гал*о*пам. А як Вінц*у*ся н*а*ш, дык уп'*я*на ўсё п*е*сьні склад*а*ў. Мая *А*ньця ф*а*йная-ф*а*йная... Ці б*і*ліся даўн*е*й на васэлях? Был*о*. Зьбяр*у*цца дзяцюк*і* зь в*ё*скі, *і*м, від*о*ма, на васэлі, зафунд*у*юць. Дык дурн*е*йшыя, і дав*а*й в*а*дзіцца*, а п*о*сьля і паб'*ю*цца. Зэдлямі пырыліся*. Н*а*тта К*о*сьця Рум*ы*нцаў і пак*о*йны *Ю*зык Цініф*а*лаў был*і* заядлыя. Даўн*е*й у друг*і* б*о*к *е*хала т*о*лькі л*е*пшая радз*і*на*, хт*о* ні падвядз*е*, ні апаз*о*рыць. П*о*сьля, быв*а*я, зьбір*а*ліся фацэты*, *е*жджалі ў «цыган*ы**». Пан*е*нкі ўбяр*у*цца ў с*у*кні* д*о*ўгія, нашмар*у*юцца* і па*е*халі. Выр*а*бляюцца* т*а*м, ж*а*рты стр*о*яць, п*е*сьні пя*ю*ць. П*о*мню, як дар*ы*лі. Пас*а*дзяць малад*у*ю за ст*о*л, ян*а* гал*о*ся, а радз*і*на пад*а*ркі прэ, св*а*т у бэльку качарг*о*й б'*е*, пя*е*: «Ціб*е*, М*а*нячка, сяс*т*р*ы*ца д*о*ра, т*ы* ўст*а*нь, пакар*ы*ся, н*і*зенька паклан*і*ся».

*М.І.Куліцкі, 1912 г. н.*
*в. Дайлідкі, 1994 г.*

**157.** Пачал*і* жыд*о*ўскае васэля. Тад*ы* ўж*о* ўзял*і* я*е* пасадз*і*лі ў к*у*т. Ян*а* вэлін* адзела. Прыйш*о*ў малад*ы*, склан*і*ўся *е*й, я*е* з-за-пад рук*у* і павёў. Асустэнты* пайшл*і* ззад*у*. Пайшл*і* на сьметнік, дз*е*

сьмяцё высыпалі. Прыйшоў робін і палажыў ім пярсьцёнкі на рукі і тады нейкага віна даў выпіць. Выпілі віно і шклянкі пад ногі. І сталі таптаць і крычаць гвалт. Пасьпявалі, завярнуліся і пайшлі да хаты. Усе зашлі за стол. Музыка грае, а яны крычаць: «Ва-й-ва-й!» Сталі дараваць, кожнаму падносілі талерку, гралі. Як немцы прыйшлі, павыразалі многіх, а хто і ўцёк.

*Т.І.Бяляўская, 1912 г. н.*
*в. Малі, 1994 г.*

**158.** *Я* – Марос Валянціна Міхайлаўна, радзілася ў вёсца Валоцькі. Жылі мы очань багата, мелі два валокі зямлі, вот. Працавалі очань многа. А нас было ўсіх шасьці. Было дзесяць у мамы дзяцей – шасьці нас асталося: два браты і чатыры сястры. Мы багата жылі. Тата ганяў нас на работу, малаціць, цапамі малацілі. А патом учыў нас танцаваць. Кіту* саломы возьмім і танцуім, каб ахотна ішлі малаціць, а то мы ні йшлі. Ідзём с танцаў, а тата гоніць нас малаціць цапамі, а мы плачым, ні хочым ісьці, што ш, тока с танцаў прышлі, спаць хочыцца нам, а ён сёроўна* гоніць. А патом я ўжэ нашла кавалера сабе. Стала любіцца. Тры гады любілася зь ім. Тата ні хацеў: мы былі багатыя, а яны былі бедныя. Матка ягоная ні хацела міне, ні любіла. Бацька ягоны любіў, а ягоная матка ні любіла міне. Тата гаворыць, што нада растацца, патаму што рас матка ні любіць цябе, табе жызьні ні будзя там, ты будзяш усё раўно ў маей хаце. А мы – сёраўно*. Бацька сказаў ягоны так: «Есьлі, дачка, ты любіш майго сына, мы прыйдзім у сваты». І вот яны прыйшлі ў сваты да нас. Сядзім за сталом. Бацька кажыць ягоны: «Дачка, ты любіш майго сына? Мы цябе бяром як стой**, нічога ні нада, ні пасагі, нічога». Ну і што ш. Тата сабраўся за стала і ўцёк. Уцёк, пашоў, сказаў: «Дачка, разыдзіцеся. Можа твой сын вартаўней маей дачкі. Алі як матка цябе ні хочыць, табе жызьні там ні будзіць». Ну і я, мы сабраліся сёраўно. Пашлі, бацьку правялі дахаты зь ім, а тата не выйшаў. Дажа назаўтра нараніцы трэба ш нясьці на запавець**. Ну што ш, пашлі. Пашлі нясьці на запаведзі**. Прышоў ён, тата, селі мы сьнедаць, ён бутэльку на стол, кажыць: «Ну прышоў сьнедаць». Тата закінуў сьнедаць, паляцеў у хлеў коням даваць. А мы сабраліся, я адзяюся. «Ну пойдзім, – кажыць, – на запаведзі даваць ці не?» Я кажу: «Пойдзім». Я і адзяюся, і сьмяюся. Сёроўна пашлі. Не паслухалі бацькі. Пашлі на запаведзі. Ну што ш, складаецца свадзьба. Тры нядзелі прайшло, трэба ш ўжо свадзьбу гатовіць. Давай. Тата нічога не даець: ні пасагі, ні каровы – нічога не даець. А мама гаворыць... Так мы з мамай кралі... жыта, аддавалі на вотку гнаць, на пірагі ад бацькі кралі

мы з мамай. Усё раўно свадзьбу зрабілі. Тата тады што ш, як ехалі мы, ён заехаўся, мяне ўзяў да шлюбу на кані, паехалі, шлюп узялі, прыехалі, ну тады ш ужо была, пасядзелі вечар, ён ужо перавес вечарам да сябе мяне. Ну і сколька я пажыла? Ну, можа, два тыдні пажыла. Ні ўмела дажа падлогі мыць, ні ўмела дажа есьці варыць. Яна ўсё чапілася і чапілася да мяне. А патом ф канцы ён паехаў, работаў ён у радзіоузьле цехнікам, а я была дома. Так ужэ места не было, што дажа і есьці не хацела даваць. Ну і што, тады мы сабраліся, я тады пазваніла. Ён прыехаў з работы, мы сабраліся, пераехалі ў Сьвіра на кватэру. А сь Сьвіра, ужо як ён быў цехнік радзіоузла, перавялі нас у Альхоўку. У Альхоўца мы ўжэ тут жылі. Ужо тут тры гады. Дружыла я зь ім. І тры гады ў нас не было дзяцей. А патом ужэ найшоўся хлопчык у нас на трэцім годзе. Ну і тады от далей-болей жылі дружна, і от скока ш мы пражылі зь ім? Пісят гадоў пражылі. А ціпер вот ужэ ён памёр, німа. Німа, утраціла свайго любімага. Вот. Да, утраціла свайго міла-любімага і ціпер фсю жызьнь буду помніць пра яго, як мы любіліся, як мы дружылі. Як я яго век не забуду, век! Помню, прышоў да мяне пад акно. А ў нас былі там у каморы, мы ў каморы сь сястрой спалі, а там была бутка пад акном, сабака ў нас такая злая была. Як яе звалі, не помню. Мірка? А гэта сабака злая такая. Ён і лезіць да міне праз акно вечарам, мы сь сястрой сьпім. Пастукаў, я атчыніла акно. Гэта сабака яго за штаны, парвала штаны яму. Ён тут улес прас акно. Божа, запалілі агонь, сталі зашываць этыя штаны яго. Назаўтра жэ, эта была сыбота, назаўтра нада на фэст ехаць у Ністанішкі. А як жа ш паедзіш – порткі парваныя. Ну што ш, давай мы, помню як сягоньня**, сь сястрой зашылі гэтыя порткі. Тата ўстаў, кажыць: «Нікакі фэст. Ні паедзіш». Ён прышоў: «Ці пусьціця міне на фэст?» А я, а ён: «Ці пусьціця?» А тата гаворыць: «Нікуды яна ні паедзіць». І тата міне ні пусьціў. Я сядзела, плакала. А ён мяне не пусьціў на фэст. Ён паехаў адзін ў Ністанішкі, штаны этыя ўжо зашылі мы яму, паехаў неяк адзін ужо. А тады і ён там пабыў у касьцеле, скока ён там пабыў – і ўсё, прыехаў дахаты. Прыехаў ізноў да мяне. Тата ні хацеў. Сколька ён плакаў, скока ён пераражываў, што: «Ні йдзі, бо табе матка, ні любіць цябе, табе жызьні ні будзіць, а ты сёраўно не слухаеш. Ні йдзі за яго замуш і ўсё! Я табе гавару!» Ну што ш. Таты не паслухала, сёраўно пашла замуш. Пашла, ну, і мала я там пажыла. Помню, пашлі ў калхос. Ідзём мы ў калхос грабіць сена. Ён мяне, дзе я пайду сена грабіць, дзе я пайду на мяжу сяду, ён мяне ўсюды па сьлядах, па сьлятках пазнаваў. Прыйдзіць на мяжу. Сядзём. Ні я варочаю гэтага сена... Нічога не варочала. У нас была валока, два валокі зямлі, зямлі многа. Тата

выправіць рабіць, а я пралюблюся на мяжы, і хоць бы хнык**. Ну і што? Прыду дахаты, тата: «Мусі сачынка* не варочана?» – «Варочала, тата, я варочала эту сачынку». А дзе ш яна варочана, калі яна сырая. Што ш яна там наварочана. Ну і што ш. Тады прышлося ўжэ эдыт замуш. Ні хацеў, ні хацеў, сёраўно я пашла, за яго замуш пашла. А патом ужо пажаніліся мы зь ім. Паехалі. Тата, працсядацялям калхоза паставілі тату. Паехалі мы ў Мінск. Тата: «Едзьця ў Мінск, бо вам тут німа работы». Паехалі мы ў Мінск. Помню, тры месяцы прарабілі. Ён каждую сыботу езьдзіў дахаты. Бульба была дарагая там у Мінске, ён езьдзіў бульбу закупаў і прадаваў, а я каждую нядзелю сядзела ў хаце. Божа, на яго кажу: «Едзім мы дахаты атсюль, Антон. Яго Аньцюк звалі і Антон – усяк. Едзім мы, кажу, дахаты. Гэдак тут надаела тут. А Божа, далі нам опшчэжыція. Там былі дзяўчаты і мы, а ён адзін, і так адвесіліся простынямі – наша была спальня. І гэтак і жылі. Тады ідзём на базар. Тока началіся яблыкі, купілі кілаграм яблык. Селі мы. Ідучы і пака на работу, зьелі мы гэтыя яблыкі. Яму нічога, а мне дзізеньцерэя. Жывот забалеў, панос, аніяк ні магу. У бальніцу прыехалі забіраць міне, забралі ў бальніцу, павязьлі. Ён астаўся адзін. А я ні магу. Яны ні пускаюць. Сорак дней нада пралежыць у бальніцы. Пака яны эта апсьледуюць палачкі нейкай, не будзіць этай палачкі – тады яны пусьцяць мяне. А мы там ляжым і пяём: «А ні знаець мая мама, а ні знаіць папа мой, што баліць мая галовачка, мне хочацца дамой».

*В.М.Мароз, 1928 г. н.*
*в. Альхоўка, 2002 г.*

**159.** Ну як я ўжэ была малая, ну троха падрошшы, бацькі таксама рабілі, але і нас гналі да работы. Сажнуць жыта, летам, а тады ўжо ў гумно вязуць, думаюць тады ўжо, ідуць малаціць, ну а мы застаёмся ў хатах. Рана ўстаюць: у два часы ўночы, дык пяток* запяе! А тады нам ужо дадуць хлеба, солі на печ, прынясуць, ну дак точна было. Прывязуць хлеба эта й тады кошык бульбы, каб мы скрабалі п. Прыдуць, ну наскрабаўшы, ну добра, тады ш ужэ нас пахваляць, а ізноў як калі не зробіш, так і ругаюцца, чаму не рабілі. Хто сьпіць да слонца, не, хто рана не ўстае, таму Бох не дае. Што мы ўжэ заспаўшыся. Ну вот, а тады, знаеш, ну што, зрасьлі, павырасталі, ужо дзяўчатамі сталі. Хочацца ш і на гуляня йсьці. Просімся-просімся – ды жа й бацькі не пушчаюць, кажуць: «Чаго вам яшчэ! Нагуляіцеся за свой век». Тады ўжо што? Просім і плачым – усяляк як бывая. Пусьця, но толька скажаць, кап скора прыхадзілі. Тады мы ўжэ радыя, ляцім, скачым, сьмяёмся. Ну, чакаўшы ш ужо, ідзём дахаты. Калі на крышачку спозьнімся, дык

ужо бядуям, шту будзе патасоўка па срацах. Падрасла, замуш вышла. Там узялі мяне кавалер неякі ўжо. А кавалер быў стары, быў старшы за мяне, але ш пайшла замуш, мусіла таксама. І хлеп пякла, рашчыняла ў боцца, гляджу: рашчыне кісьня. Адзін рас сьпякла – не фкарошы, а тады ўжо, посьля, наўчылася, і хлеп пякла, і бліны. Але як пападуцца: і спалю, і-і-і добры сьпяку, ну так эты. Сойдземся з этакімі самамі, як я, гаворым-гаворым пра сваю долю і плачым як-калі. Ну, а цяпер што ш мне рабіць, і думаю сабе: трэба набірацца розуму. Гаворым-гаворым, што эта я тады пагаварылі мы з гэтымі сусеткамі, тады раздумаліся, як былі мы маладыя, як падрасталі. Пабяруцца хлопцы і дзяўчаты, і ўжэ бавімся ў «сойсядак*», ужо неяк завецца, і тады другі ходзя, пытаецца: «Ты любіш яе ці не?» Так ужо любя, так кажа: «Люблю». А як каторым пападзецца, мусі, ужо што такі ш яшчэ розум быў: «Не люблю». Тая ўжо атходзіцца, і стыдна ўжо ёй троха. Тады нейкі ўжэ другі скажа, што сусятка кажа, што люблю суседа, тады ўжэ да таго ідзець – вот так і палучалась. І ў эты, тады бывая ігралі ў «цыбульку». Сядуць усе і цыбульку дзеляць. А тады што-та посьля этай цыбулькі было? Фанты такія дзеляць. Ну ўжо яны сядзяць, тады возьме там хто чыё, бярэць ат каждаво якое там што і пытаюцца: «Адгадай, які фант?» Ну так тады ш трэба, яна адгадуе. Ёй скажа: зрабі тоя і тоя ці куды схадзі, ці каго паздароўкайся сь кім, дажа цалавацца трэба як калі-нікалі. Ну, ну так усяляк бавіліся, на гуліцы бегалі, «піцяр»* такі рабілі: паложам камянь на камянь, бяром палены і тадысь ужо б'ём. Як зваліцца «піцяр» – гэта ўжэ выйграў, а як не зваліцца – не выйграў. А Божачка, а яшчэ меньшыя. Бацькі заганялі сьвіня пасьвіць. Пагонім на поля, пасём-пасём – уцякаяць. Прыйдзем дахаты, бацькі наругаяць, што чаму дрэнна пасьвілі. Ну я не ведаю, цяпер што тут і казаць. Даўней жа ш і дзеці, ці ш цяпер так жывуць. Цяпер толькі паны так даўней і то так ні жылі. Было, дзеці, пашыіць матка што с палатна, напрадзе зь лёну, пашыя каму-та, і рады: лётаюць на уліцы, на аднэй назе скачачы. Гэты. А тады яшчэ напрадзе лёну, кукалаўротам* накруця. Што ш, ці мы былі якія як цяперака? Тапачкі, дзіця народзіцца, дык ужо ноunion. Лапці такія кручком зробяць драўляным, яшчэ і кручка не было добраго, драўляным кручком зробяць, і паносіш, панчохі зробяць зь лённых нітак, ну і так і пражывалі. А ўжо як яшчэ падрасла, то ш, знаеш, толька не ў толк гавару. Будзілі на пасту* рана. Пастыр* пасьвіў каровы. Выганяюць, а спаць хочацца, так то, так тожа ш мусіш. Дык калісь-нікалі этыя лапці сьплятуць з ванасьцяў*, з гэтых лыткаў*, тады тут вяроўкамі ўшнуруяць – чуць ні павалюся. А яшчэ ш і пастыр крычыць, то каровы ні туды пашлі:

«Адгані вон туды, вон туды!» Дахаты ўжо вечара ідзеш. Адзін рас прышла да лужы ў лапцях і гляджу: слонца сьвяціла, не знала, куды перайсьці. Во, якое даўней было, не цяпер, што дзіця да пятнасту, да шаснасту гадоў не знае работы. Во, калі як жылі. Ну так вот, якое справачкі, якое там адзеня, ужо падрасьлі, жані ўжо ш. На васэля прасілі, як падрасьлі, ужо ш дзевачкамі сталі. Дак у што ш адзецца? Чы ў вёсца перадзяваліся ш. Як цяпер, ды людзі хоць і разумны. Вот і внучка ёсьць, і дачка была, так адзенуць сукні* так дзьве, а даўней былі бедныя і дурныя. Трэба сколька рас перадзявацца – німа чаго. Так адна аднэй зьменівалі адзеньне, хаця кап убрацца. У касьцёл хадзілі. Так ш мусілі – хадзілі ў туфлях і ці якія, што мелі, клумпы* парабіўшы драўляныя паверх этыя, ну, некай там усё рызінкі ці скуры прыбітыя, і то насілі ў руках, кап ні паламалі. Вот як, якое тут было жызьня. А тады ўжэ як падрасьлі, купілі туфлі нейкія якія. – Радыя. Даўней жа ш гулялі то ш не такія, як цяпер. У вёсках маладзёжы многа было. Усе дзеткі былі з бацькамі. У аднэй хаце бывалі зьберацца і дзьве дзеўкі ці і трэцяя на патхватку**. Кавалеры так прыходзяць, пачнуць гуляць, так ні могуць памясьціцца, ну ўжэ гуляяць-гуляяць, тады ўжо таксама бяруць жа ш кавалеры гэтых дзеўкаў, як кажа, эты, застаецца, як вёсца гаварыць, толька якая Маруля, самая пасьледняя, тады ўжо яе стыднавата. А ў калэчка тады бяруць, гуляюць, тады ўжэ крычаць: «Колэчко! Колэчко!» І ўжо, кап тады ўжо становяцца, усе падаюць рукі і пераходзяць ужо да другіх кавалераў. А як кавалеры, як каторая ні падабаецца, так два разы акруціўся, тры разы – зноў крычыць колэчко. Во, якое было, а-а музыкант, бывая двограткі, трограткі, тады цымбалы і бубіны ўжэ посьля знахадзіліся, гулялі. Ну, танцаў то многа-многа было. Дык можа я ўсіх і ні вылічу. Як пачнецца полька, валец, «Васадуля», «Каробачка», а Божа мой! Да так эта фукстроты якія, ну ўся, як яе, забылася, як ужо і называць, я іх, а тады ўжо, як астатняя полька зробіцца, так папацеяць, памакрэяць, падбіваяць гуляяць. Яшчэ тады, а яшчэ да астатняй так ідуць піць, тады як ужо гэта самагонка знайшлася. Дак самі ідуць піць, музыканта вядуць. І мусяць дзеўкі па очарадзі музыканта карміць, а ўжэ пры музыкантах так і болей нехта. Чы як было. Тады што мне казаць, гаварыць? Добры. Што як у каторай хаце, а даўней жа ш, дзетачка, было ш і куры ў хаце пат печай сядзелі. Добра як калі ўправіліся, а бывае, як хто прыйдзя ці маладыя, а куры па хатах тады разьлятуцца і на лаву што хочаш наробяць. Тады ўжэ талакой пат печ падганяем, а як трэба, та на Велькана ц*, так ужо яйкі гэтыя зьбіраяць, дык тады дзяцей дадуць колькі грошай, ці скажаш, што яйкаў болей на Велькана ц дадуць. Лезуць

пад гэтай патпечак, чысьцяць эты куратнік. То бывая і сьвіня, хоць і ня ў хаце ўжо кармілі, дык у нападворышчы. Вот якія справачкі: даўней жылося то не цяпер, як так. А хадзілі, падрастала, да багатых ужо маладая, сколькі я там, васемнаццаць гадоў мела, на заработкі. Жнеш-жнеш – сьпіна баліць невядома як, і пальцы парэжыш, і трэба сьпяшацца, бо стаіць жа ш аспадар глядзіць, ці добры сноп зьвяжыш, ці так жнеш: можа аржышча высокае пакідаеш. Ой, пажылося. Я хоць цяпер старая, але ўжо хоць троха пажыла багацей, а даўней булка толькі калі была? На Велькалац, на Каляды то не была, толька кажа: «Велькалац – пірох сьпяклі». Во, якія парадачкі. А тады ш ужо бывая, прат сьвятам троха пачысьціш у хаця і лавы. І перш яшчэ малая, і падрастала, бацькі на поля пойдуць ці куды, так не дастанеш шараваць ад зямля, сходзіш па лаве, стол шаруеш пяском, нейкай саломай зьвязаўшы. Тады змыеш, тады лавы сшаруеш, кап чысьцей жа ш было. Нальеш поўхаты вады і добра зробіш, і бацьком тады балота трэба вынасіць. Як сьвіней жа ш мелі, так за сьвіня тожа кармілі, ужо ш бацькі – дапараткуйця, дык нясеш саган, на прыпячак становіш, з двума ушкамі тады кругленькій, а тады ідзеш у варыўню* гэтаю, ці ў камору па бульбу, нясеш-нясеш, тады паставіш і зноў на зэдаль, тады аш рукамі ссыпеш у цаганы, насыпеш, усунеш трохі, абы толькі ў хаце на прыпячку. А тады ўжо дроў прынясеш хоць патроха. Я не складала, бо, эты, не магла, не сумела я ўжо іх злажыць. Бацькі, як прыдуць, дык тады ж яны аш спужаюцца, што ў гэтай хаце робіцца. Пяску ўжо ш насыпяць – натта ш ужо харашо ў хаце, жоўценька. А як летам, так ліпа як цьвіціць, пад бэлькі насунеш. Ужо натта ш ужо моцна хату ўбралі. Ліпового цьвету. А такія ш хаты былі з бэлькамі, у каждаю доскі ш не гэтак, як ціпер, ложацца – доска на доску. Натта ш ужо харашо. Радыя невядома якія, што ў хаце ўбраная. А цяпера што ш там казаць ужо пра гэта, не так саўсём жывецца.

*С.І.Шаблоўская, 1922 г. н.*
*в. Вялікія Яцыны, 2002 г.*

# МІЖМОЎНАЕ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ

**160.** Ну што сказаць, цяпер врэмя дарагое, а як у нашай моладасьці, у нашым децтве было ўсё па-другому. Я тожа хадзіла ў школу, любіла школу, вучыцца любіла, патом вайна. Посьле вайны эта ўжо ўсё прашло доўга врэмя, настала моладасьць, вышла замуш. Всякія законы памянялісь, всякія права памяняліся. Шчас, канешне, харашо было і цяпер харашо, патаму шта жыць можна, врэмена, уяўленьне такое, што цяпер цяшкавата. Ну так што не зраўніш, як было калісьці. В жызьні чалавечай всё бывае, што хочаш. Вышла замуш, двое дзецей мела, забалеў мужык, умер. Патом другі раз вышла, забрала траякія дзеці. Хацелася мне вучыць іх усіх траіх, патаму шта вучоба – гэта сьвет. І я яе любіла сь дзецтва малога. Учыліся ўсе, разышліся. Все на харошых месцах работаюць. Ну а мы жывем, як із'вeсно, на дзярэўні, цяпер прыязджаюць усе да нас. Так што ніплохо, і жыці ў дальнейшым можна, ліш бы ў галаве быў розум і чалавек панімаў чалавечаство. Пад палякамі** я была, канешно, то я дваццаць чацьвёртага года, а вайна стала ў трыццаць дзевятум. В то врэмя жызьнь была зусім другая, патаму шта не было так, як цяпер, хто быў багатшы, у каго было болей зямлі, жыў лучшэ, а зямля была хароша шчэ ў некаторых мясцах, а ў каторых мясцах гладкія пяскі, то жыць не было на чом, былі і батрачаства, былі і безработныя. Усяго хватало, а былі тыя, што і жылі неплохо. Патом ужо ў саракавом годзе калхозаў не было, потым зайшлі немцы, акупацыя, у акупацыі было цяшко, усім было цяшко, патаму шта там былі фашысты, усё было пад страхам. Білі і забівалі. Я сама ў Германію, страшно было ад дому ад'ехаць. Ну, савецкая армія ўжо асвабадзіла, і ўсе фашысты удаліліся. Посьле вайны началі калхозы, я, канешне, у калхозе не была, я вышла замуж бліжай, дзе заводы былі. Ну а потым, як прыйшлося, ходзіла ў калхос, чатырнаццаць лет прахадзіла, нада было, на дзярэўні жыла. Мы цяпер дзяржым карову, сьвіньня дзяржым, бычка. Але растацца не хочацца з гэтым. Дзеці памагаюць. А цяпер у мяне ёсьць дзевяць унукаў, так што ўнукі мае ўжо бальшыя. Я давольна зь іх. Старшыя пайшлі па харошаму пуці. Ім нада памагаць, трэба хадзіць маладым на работу. Унукі вядуць сябе харашо, вучацца добра, трэба ім памагаць. Моладасьць усім прыятна, асобенна я. Я натта любіла сьпяваць, танцаваць. Эта, кажацца, дзе-та там зайграюць і зашумяць маладзёш, а табе трэба яшчэ дома памагаць, нешта рабіць, усё гэта робіш, каб дабегчы і там разам быць. Мне нравіліся песьні, сьпевы. Было харашо. Бежымо маладыя, сьпяваем, сьмяемся:

Ой, цёшча мая, галубятніца,
Наварыла галубей – сёньня пятніца.
Ой цёшча мая, я твой зяць буду,
Я дачушку тваю шанаваць буду.
Чыя хата на канцэ?
Пэўна, цёшчы мае.
Бабы радзіску дралі
І дачушку яе.

*Б.І.Адшчука, 1924 г. н.*
*в. Вялікія Сцяпанішкі Мастоўскага раёна, 1991 г.*

**161.** Я радзіўса дваццаць седмога года. Пашоў у школу, дзе быў пяць лет. Пасьвіў каровы, памагаў дзедушкі работаць, так как у мене ацец памёр маладой – трыццаць пяць лет. Дзедушка посьле ацца пражыў роўно дваццаць лет. Ацец умёр дваццаць пятава апрэля трыццаць дзевятава года. Дзедушка быў маво ацца ацец, а бабушка была мае мамы мама. Вот рас аны пасорыліс зь дзедушкай. Бабушка гаворыць на дзедушку: «Ты дочке аддаў усё золато?» А дзет гаворыць на бабушку: «Можэт ты ўкрала ў меня золато?» Дзет посьле пат печ сматрэць. Дастаў чорную бутылку. Пасматрэў, аказалось усё ў парапткі. У трыццаць дзевятым году мне было дзьвінаццаць лет. Мне заінцерэсовало золато. Я посьле дзеда тожэ палес пат печ, пасматрэць золато. Я дастаў ево, пашчытаў, было підзісят залатых, но я ўсё ўлажыл абратна, так, как яно ляжало. У сорак дзевятым гаду был пажар, у пейсят дзевятым памёр дзет. Куда яно дзевалось, золото, так я і не знаю. Дзедушка нас сматрэл харашо. Мы ему памагалі. Нас было трох брата і адна сястра, меншая. Старшого брата, Сьцёпку, забралі ў Германію, а міне – у парцізаны. Кагда бралі нас у парцізаны, нас было восім чалавек. Із васьмі чалавек мене аднаго выдзялілі ў каманду трыццацть чэтыры чалавека. І с-пат дзерэвні Карачэво Скідзельскова раёна – на Шчару. Шчара ціпер, кажацца, недаляко, но мы да яе дабіраліс шэсьць дней. Я часто ўспамінаю ту балоцістую дарогу. Я думал, што мы гдзе-то около Мінска. Но когда зайшлі на Шчару, нас там парцізаны ўстрэцілі очэнь харашо. Это было вечэрам. Нам сказалі, что аружыя палучыце заўтра. Но вечэрам на весь лес раздался голас дзіктара: «Таварышы! Красная Армія заняла горат Баранавічы». Но заўтра ўсрэцімсо. І точно. Заўтра так устрэціліс. Што там было радасьці, шчасьця! Ні забуду, пака жыць буду. Па прыходу с партызан забралі в армію ў сорак чэцьвёртым гаду. І праслужыў в арміі па пійдзісят первы гот. Служыў сем лет. Прышоў в радной калхос і сразу стаў конюхам. Я очэнь любіў лашыдзей.

Прабыў два года конюхам, і мене паставілі брыгадзірам. У пійсят трэцім гаду фтарова сеньцябра. І праработаў да дзевяносто трэцяга года. Цепер я кала пенсіі. Аддыхаю, з бабушкаю вмесьці тружусо.

*У.Ф.Дзенісевіч, 1927 г. н.*
*в. Сухінічы Мастоўскага раёна, 1996 г.*

**162.** Як была маладая, то мне натта добра было. Нарадзілася трынасты гот. От такое дзела. Жызьня была харошая, зьвязана з рылігіяй. Пазнаёмілася с хлопцам, суседам нідалёкім. Жыў пасусецку. Дзяржаў фальварак, зямлі сваёй ні меў, на чужой працаваў. Пажаніліся ў трыццаць шостым, вяселя згулялі, я ў белай сукеньке была. З балем, усё як трэба адным словам. Пражылі мы да дзівяностая года. Жылі ў Габрэялаўшчызьне, да вайны, да трыццаць дзівятая, жылі прекрасна, да, прекрасна жылі, пукі вайна зачалася. А дваццаць чацьвёртага аўгуста пайшоў на первую вайну. І ўжо ўсё, у плене пабываў у Нігарэлай. З афіцэрамі ў гумне сядзеў, сам меў званьне падафіцэра. А потым падафіцэраў усіх выпусьцілі, і яму дамой разрашылі, а афіцэра засталіся там, закрытыя ў сараі. Галодныя, халодныя маліліся, каб у жыці астацца. Вярнуўся дамой. Жылі ў Габрыялаўшчызьне. Збожа, малако, грошы – усё здавалі ў гасударства. Ніхто ні пытаўся: ці ты маеш, ці ты ні маеш. На рыёне нашым першы калхос быў Лойцаўшчызна. Тады ш ні было ні дня ні начы. Удзень работаем, а нанач ішлі на сабрані. Дзяржалі цэлую ноч нас там, патпісуйцеся ў калхос і ўсё. Мы ў калхос ні пайшлі, хоць і ўсе казалі, што калі Кузьміцкі патпішыцца за пратсядацеля, то ўсе таксама пойдуць. Але ён ні саглсіўся. Купілі старэнькі, благенькі домік і ўцяклі пад горат. Строілі дом пат подруп. Тут і жыць асталіся. У дзівяностым годзе памёр ён, а я асталася адна. Цяпер жыю, чакаю, калі прыйдзе врэмя да яго ісьці. Усё з рук працы. Жывёлку гадавала, ўсё чыста, а тэрас пайшла ў нарсут, то й пэнсіі ні давалі, а мне, што ні работала нідзе, трэба й за гас, сьвет, брыкет плаціць у полнасьці, жаднай зьлішкі няма. Нічога мне ні васола, ні міла, як умер муж – усё ўмярло. Выгадавала чацьвёра сыноў, добрыя дзеці, нічога ні скажаш, заўсёды памогуць. Маю дзевяцёра ўнукаў, а цяпер яшчэ і адну праўнучку і аднаго праўнучка. Скора, пэўна, і трэцяя займаю.

*Ф.Ф.Кузміцкая, 1913 г. н.*
*в. Акмянеі Ашмянскага раёна, 1993 г.*

**163.** Я – муш... Алёны Іванаўны, Нікалай Канстаньцінавіч, дваццатага года нараджэньня. Работаў на сельскам хазяйстве. Патом у сорак чацьвёртам гаду ушоў на фронт. Дземабілязаваўся ў

сорак шэстом гаду. Апяць стаў на сельскам хазяйстве работаць. Арганізавалі калхос у дзярэўні Бяляўшчыны. Работаў бугалцерам калхоза. Шчас нахажусь на пеньсіі с васьмісятава года. Дзеці!.. Адзін сын, старшы, работае шафёрам в Валкавыске. Другі – в калхозе работает, запраўшчыкам, шафёрам-запраўшчыкам. Дочка!.. у Гродне, в універмагу работает. А мы жыём удвох, вдваём ж жэной, старыкі. Жыём пака харашо, ну, і здароуе, канешне, как у старых. Ну пака дзержымся. Ну на фроньце участваваў у Трэцім беларускам фроньці, это в Восточной Прусіі, быў награждзён медалямі за взяціе Кенісьберга, ордзенам Ацечэственай вайны фтарой сьцепені. От. Слава Богу, памаленьку жывём.

*М. К. Грышкевіч, 1920 г. н.*
*в. Бяляўшчына Ваўкавыскага раёна, 1997 г.*

**164.** Вот раскажу табе, внучка, як твой бацька жэніўса. Што вы, маладые, всё гаворыце, што любоф есьць, а всё эта любоф ерунда, нада, кап чалавек быў, а не любоф. Рабіў ён у то ўрэмя ў Гродна па сваей сьпецальнасьці сьвязі. Ехаў з Гродна, увідзеў дзеўчонку в аўтобусі, прыгласіў яе сесьць. Пазнакоміўса зь ею і ў цічэніі двух месяцаў ён жэніўса, вот. Очэнь гаварылі: «Не жэніса, ты яе добра не знаеш». Але жэніўса, не паслушаў нас, казаў: «Нравіцца яна мне, красіва сьпевае, грае». Ну, жыві.

*В.М.Смаленская, 1929 г. н.*
*г. Скідзель Гродзенскага раёна, 1996 г.*

# ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ЗАПІСЫ

## НАРОДНАЯ ФІЛАСОФІЯ, МАРАЛЬ, РЭЛІГІЯ

**165.** Сколькі м*ы* ўж*о* жыв*е*м, і ўж*о* стар*ы*я, а ўсё раўн*о*, х*о*чацца шчэ ж*ы*ць. Х*о*чацца пар*а*даваццa ўн*у*камі, дзяцьм*і*. Бо гэта ш р*а*дасьць н*а*ша – гэта в*ы*, н*а*шы дз*е*ці. М*ы*, бацьк*е*, х*о*чам, кап в*ы* был*і* шчасьл*і*вымі, кап в*а*м жыл*о*со лепей, як н*а*м жыв*е*цца, н*у* кап у в*а*с был*о* ў ж*ы*зьні, т*у*лькі р*а*дасьць. Н*у*, ні быв*а*я, вяд*о*ма, бес г*о*ра. Ал*е*, дз*е*танькі, глядз*і*ця, беражэця др*у*г др*у*га, уваж*а*йця. Ні забыв*а*йця с*а*мы сва*і*х бацьк*о*ў. Ну і н*а*с, старэнькіх баб*у*лькаў, дзяд*у*лькаў. Бо і в*ы* гэтакія такс*а*ма б*у*дзеця старэнькімі.

*Н.Жук, 1932 г. н.*

*в. Сухінічы Мастоўскага раёна, 1996 г.*

**166.** М*ы* веруюшчые. У н*а*с касьцёл у вёсцы. Такс*а*мо да касьцёла м*ы* хадз*і*лі. П*о*тым ксёнс памёр у нас ф сороков*о*м року*. Н*а*ш касьцёл закр*ы*лі. М*ы* пад дзьвяр*а*мі мадл*і*ліся, хадз*і*лі, н*а*с і ст*у*ль ган*я*лі. І нія*к* ні пушч*а*лі, усё да таг*о* дайшл*о*, што зьн*і*шчылі касьцёл, усё, адз*і*н т*о*лько м*у*р аст*а*ўсо. Кр*ы*ць н*а*м ні дав*а*лі, ніч*о*го. Дабів*а*ліса, нігдз*е* н*а*с ні дапусьц*і*лі. Ну а в*е*рыць л*ю*дзі веруюшчые хацелі т*а*к, каб ы был*а* вера, бо бэзь веры нім*а* ніц*. В*о* бэзь веры *я*к ст*а*ло. Ні был*о* веры – усё ўп*а*ло. Н*у*, ціпер м*а*ем т*а*к, м*а*ем і касьцёл. Хоць ксёнза нім*а* ў н*а*с, прыягдж*а*я, але м*ы* х*о*дзім, в*е*рым, м*о*длімсо. Но зат*о*е н*а*м, м*о*жэ, й ж*ы*ць д*о*бро. Маг̲аз*ы*н м*а*ем пры касьцелі. Т*а*к што ціпер м*о*жно был*о* бы ж*ы*ць, каб это в*е*к як продл*у*жыць. Нім*а* так*о*го, што б продлуж*а*лі. М*у*сіць, усё б*ы*ці па зак*а*зу, як назнач*о*но. Ну вот ы т*а*к. Т*ы*ле* ўсёг*о* тут. Найлепей, як чалав*е*к так тр*о*шка в*е*рыць, бо бэзь веры н*і*ц ні б*у*дзе, н*і*ц ні б*у*дзе на сьв*е*ці. Паг*і*нуць, і маладзёш зг*і*не.

*С.К.Грынашкевіч, 1906 г. н.*

*в. Перстунь Гродзенскага раёна*

**167.** *Я* ціпер пагляджу, ма*е* ўн*у*чкі сядуць і сьмяюцца. *Я* д*у*маю, чаг*о* ян*ы* сьмя*ю*цца, ш чаг*о* *і*м гэтакі сьмех. А п*о*тым як зд*у*маю: ужэ *я* т*о*жа был*а* хахат*у*ха хар*о*шая. Д*у*маю: Б*о*жа, то *я* ст*о*лькі сьпяв*а*ла і сьмяялася, а сёньня ўжэ на ўсё атх*о*дзіць, гад*а* ўсё забір*а*юць. *Я*г̲ бы т*ы* ні д*у*маў, я*г̲* бы ні бадр*ы*ўся, я*г̲* бы т*ы* ці д*у*жы, ці т*ы* ніду*жы*, сёраўн*о** гад*а* сваё адбір*а*юць, ян*ы* ўжэ астаўляюць таб*е* с*а*мае слабенькае ў тва*е*й ж*ы*зьні. Ну, а ў так*і*х гад*а*х, як ма*е*

ўнучкі, о, там да дваццаці лет яшчэ яны, шаснаццаць, сямнаццаць, там дваццаць, то гэтакім во самы сьмех. О, дай Божа, кап яны вясёлыя былі, здаровыя і сьмяяліся!

*А.І.Грышкевіч, 1919 г. н.*
*в. Бяляўшчына Ваўкавыскага раёна*

**168.** Пашла я ў магазын, купіла палаценцо на хрэст, бо шчэ ні было ў міне, і навалачку. Ужэ прыгатовілася да сьмерці. Прышла, расказваю сваем дзецям, што вы не сумнявайцеся, што я гавару пра сьмерць, бо толькі хто ні нарадзіўся, той ні памірая, а чалавек сколькі п ні жыў, усё раўно жыць хоча. Бывало, казаў мой бацько: «Дана жызьня чалавеку й каню, сабацы й абязяні. Чалавек пражывае свае годы мало, забірая конскія, тады ўжэ цяне на ўнуке. Пражыў конскія лета – пачыная сабачы век. Ужэ тады нападаюць балезьні, ён становіцца злым, нянавісным, як сабака. Пражыве сабачыя годы, яшчэ возьме абязяніны. Ужэ й зубы пападаюць, слабы стане, а там ужэ й памрэ». Я сваю жызьню ўсю гаравала, было трудно, бедно. Алі змоладу як калі пранясло. А як ужо дзеці пагадаваліса, разьехаліса, та балезьні ні даюць жыць. Ціпер думаю, як умярці, кап хоць ні мучыцца. Мне здаецца, што нідоўго я пражыла. От, бацько памёр дзевяць лет назат, а мне здаецца, што нідаўно, што ўчорака яшчэ. Так дні гэтыя бягуць, што ні аглянесса. Ні дзіво, што старэйшыя ўсе гаворац: чысто* ў адныя дзьверы ўвайшоў, прас другія вышаў. Адным днём гэта жызьня праходзіць, адным днём.

*М.М.Садаўнічая, 1935 г. н.*
*в. Каменка Бераставіцкага раёна, 2003 г.*

**169.** Дзіва што кажуць людзі, кажа: аддаў бы ўсё сваё, што маяш, каб вярнуліся маладыя годы. Але назат ужо не вярнуць іх, і не верняш. А хочацца яшчэ пажыць, і паглядзець, і паесьць лепяй, і паглядзець на ўсё. Кажацца, і купіў бы тое, атлажыў бы тое, але ўжо ні ўрэмя, німа за што. Ні тыя годы, ні тое ўсё. Як тая песьня сьпяваяцца: «Вярнецеся, маладыя гады, хоць да нас у госьці». Таксама і гэта. Як выйшаў замуж, усё тваё прапала, усё тваё кончылася, уся твая вясёласьць. Ужэ хоць і малады, ужэ дзе куды падзеш на якую прычыну, падзеш дзе ў госьці, ужэ усёраўно не тое. Дзеці пачнуцца, хваробы, хлапата, хазяйства, забота, ужэ ўсё тваё прапала. А так яшчэ пакуль малады, куды паедзяш, што паглядзіш, што паходзіш, што павесялісься, то ўсё тваё. Як мая дочка старэйшая гаварыла, яна, як паехала учыцца, паехала ўсё па сьвеце, патом яна рабіла, паехала правадніца на поезьдзе. «Мама, – кажа, –

што я відзела па гарадах, што я егдзіла, што я паглядзела, як людзі жывуць, я буду ўсю жызьнь успамінаць». А як вышла замуж, то ўсё яе ўжо кончылася. Сядзі, кажа, нос спусьціўшы, глядзі, кажа, на гэтыя дзеці і на гэтыя трапкі, а так, кажа, што ўгуляяш, што ўегдзіш, што ўходзіш, то гэта тваё. Потым успомніш у старыя годы, але іх ужо не дагоніш, не вярнеш. Яшчэ, дзеткі, адно шчасьця, як выдзяш замуш і пападзе чалавек добры, як пападзя пара харошая, между сабою жывуць харашо і ўсё адно другому памагаюць, адно другому сачуствуюць, гора і шчасьця дзеляць папалам. Тады хоць не так, хоць недаясі добра, хоць недасьпіш, то будзя добра, адно другому пасачуствуя, адно другому паможа. І як толькі зыдзецца пара, ўсё самая мілая жызьня, самая мілая шчасьце, як тулька между сабой жыця харошае. А есьлі толька не пападзе харошы чалавек, не саўпадзе добрая пара, тады кончацца, толька ўспомніш, сьлязамі абальесься, і тоя на том кончыцца. І адно, дзеткі, наша шчасьця, што пааткрывалі нам гэтыя касьцёлы, пааткрывалі нам цэрквы. Ест дзе пайсьці, ест дзе нам памадліцца, папрасіць Бога здароўя, кап даў Бох здароўя дзеткам, кап даў Бох здароўя ўнучкам нашым, прасіць Бога, кап нам Бох там загатаваў месца, кап нас прыняў туда, каб мы ні хадзілі па сьвету, кап па сьвету ні балталася наша душа. Што нам больш ужо, дзеткі? Ужо ўсё, наша ўсё кончылася, мы даходзім да свайго врэмені, падбліжаемся. Што нам больш трэба? Уся наша жызьня і прожытая так. Чалавек жыве, што-та думая, на што-та надзеяцца. Ну і ўсяраўно*, пакуль чалавек жыве, пакуль вочы сьвецяць, духам ні падаяш, тое думаяш яшчэ зрабіць і тое думаяш зрабіць. Думаяш, яшчэ трэба нешта пастроіць, нешта купіць трэба, нешта ўнучке трэба прыгатовіць. От мы так цяпер і жывем, так праходзіць наша жыця. Дзень да вечара то ў агарот падзеш, то з агароду прыдзеш, то ў хлеў падзеш, то с хлява прыдзеш. Так мы й жывем, так наша і жызьнь, жыця праходзіць.

*М.І.Багатава, 1937 г. н.*
*г. п. Астрына Шчучынскага раёна, 1996 г.*

**170.** Дзетачкі мае, а ці вы ў Бога верыце? Усе мы пад Богам: і мы, і вы. Пройдзе якоесьці ўрэмя, і вы тое самае скажаце. У нас вось якона ест «Пан Буг ест, відзі, слышы, запісуе». А потым зьвесяць усё, добрыя ўчынкі й плахія, і што пераважыць. І вот зьдзіесь паказано: сьмерць справедлівэго. Як умірае, то анёлік каля ніего стоя, і сьмерць грэшніка, што люцкія душы загубіў. Моего мужа мама замуж шла, гэта якона была. То яна ўжэ трыццаць лет, як паміерла. Я ўжэ сорок осім ліет как зьдзіесь. А гэта якона ўсё ест. Хачу, каб зьняў мне хто якону на плёнку, каб перафатаграфіраваў.

Каб была на памяць маім унукам яшчэ. Мы вієруюшчыя. Помнім, што Буг ест. Своего касьцёла ў нас няма. Так мы езьдзім у Гродно, да біернардынаў ці ў фарны. А адзін год паехала я зьезьдзіла на фэст у Вільню. Чаму ні зьезьдзіць – білет тры тысячы стоіць. Прыехала і сказала: «Як буду жыць, то і на сьледушчы год паеду». Как красіва ў Вільнусе, ні так, як у нас.

*Г.М.Лобік, 1914 г. н.*
*в. Белічаны Гродзенскага раёна, 1990 г.*

**171.** Ціперака німа этаго. Ціпер ніякога посту німа. А некалі мы ні танцавалі ў посьці, ніякіх танцаў ніхто ні рабіў. А ціпер моладзеш зусім ні ў што ні верыць, у яго Бога німа. А некалі нас радзіцелі вучылі, што ест Бох над намі, і нада, гэтаго, як пан Езус цярпеў, так і нам нада цярпець. І мы шэсьць нядзель, шэсьць тыдняў, а сёма нядзелька – ужо патходзіць Вялігдзянь. Тады мы шыкуямся, тады да касьцёла зьбіраямся йсьці. Кажду нядзельку хадзілі да касьцёла, а ўжо як на Вялігдзянь, то гэта ўжо файна трэба было, бо я насіла учажы, як мы называлі, была ў працэсіі. Трэба ш, кап было белянько плаценько харошэнько і вяночак на галоўцы, і тады трэба йсьці да касьцёла гэтак. А ціпер, хто ціпер бачыць касьцёл, хто ціпер у што верыць. Ціпер кажа: Бога німа. А мы верылі, і я, покуль жыву, буду верыць, што ест над намі вышша ўлада. Во! Ціпер ужэ варочаюцца, алі цяшка вярнуцца, ежэлі адбілі ад Бога маладзеш. Можа, ціпер каторы і хацеў бы, кап ён быў, а ціперака столька парабілася: бандытство, зладзейство, а некалі гэтаго ні было. Некалі хлопяц да дзеўчыны як прыдзя, так лядачаго слова нігды* ні скажа. А ціперка праходзіш гуліцаю, то вушы вянуць, вушы трэба затыкаць, як хлопяц зь дзеўчынаю гаворыць. Чаму, золатко, такого раней ні было? Бо верылі, што ест Бох на сьвеце, а ціперака ніхто ні верыць, і вот за гэтым так і пашло. Гэтага ні было, бо хадзілі, моладзеш хадзіла да касьцёла. А есьлі прыйдзе маладзёш да касьцёла, то ў касьцёле ні вучаць, кап шоў красьць, піць, забіваць, а вучаць, кап было ўсё харашэнько, кап маладзёш была хароша, і маладзёш гэта была хароша. А ціпер маладзёш зусім... Але ціпер хоча яна вярнуцца, алі цяшка варочацца.

*М.С.Салалайла, 1917 г. н.*
*в. Правыя Масты Мастоўскага раёна, 1990 г.*

Гл. таксама №№ 8, 39, 41, 48, 56, 68, 78, 96, 98, 117, 126, 129, 133.

**172.** Цяперака ўсё ш ні так, як раней. Ці ш так жылі, ці ш так елі, ці ш тоя насілі? Э-э-э... Не-а... У маей радзіне* было шэсь душ*: я, мама, тата, дзьве сястры і брат, у дзевятнасьця* гадоў памёр. А ў мужа так саўсім дзесяць братоў было, а ён ядынасты*. Ну вот як пажаніліся ўжо, так я да мужа пашла жыць, восям душ было ў адной хаця. І ні разу ні пабіліся, ні паругаліся, усім усяго хватала, усе рабілі. Калі яшчэ жылі на футарох, радзіна майго мужа звалася натта багатай. А багацця было многа: мусі, дванасьця гактарaў зямлі, два кані, са тры каровы, авечкі, сьвіньні, пчолаў было, дажа мёт елі. Алі і рабілі многа на зямлі: жыта сеялі, ячмень, авёс, буракі, бульбу садзілі. А яшчэ і пастух жыў разам з намі, кармілі яго, а ён кароў пасьціў. Пры сьвяця хадзілі да касьцёла. Пазьней ужо клумпы* такія былі абувацца, алі ні абуваліся, ішлі босыя, а пат самым ужо касьцёлам ногі трохі там абатрэш і ўступаліся*. Як калі ў Вільню хадзілі, што-кольвяк куплялі: соль ці цукяр у цагелачках** такі быў. І ідзеш, і падляціш, а калі пашэньця, так і на возя пад'едзіш. У ядзе былі ні пераборлівыя, што было, тоя і елі, тоя і смачна. Алі на кажды дзень была свая страва: у панядзелак елі кашу з бульбы і які там суп зварaць; у аўторак елі бліны (хто ш чым) і па блінах – крупы; у сераду была бульба ў муньдзярах**, ну й яшчэ там што; у чвартак* елі бліны і тады супу пасёрбаць пачакаўшы; у пёнтак* была бульба і рыба, мог быць тварох, мяса ніколі ні было – пасьцілі; у суботу елі кашу і што было застаўшыся ат пёнтку; у нядзелю елі бліны са скваркамі, крупы і пілі каву з жалудоў. Цяшка было, калі пачалі с футароў зганяць, скаціну забіралі... І немцаў помню: прыхадзілі і прасілі малако, яйкаў. Мама дала ім у хустачку яйкаў, яны і пашлі, а праз сколька днёў ізноў прышлі, алі, мусі, згубілі гэнаю хустачку і кажа адзін: «Матка, антух – капут!» А што там за такі «антух», а Бох яго ведая. Аля акуратныя былі, нічога благога ні рабілі. Якая там жызьня была, вот... жылі ш і тады, і цяперака жывём.

*С.І.Шаблоўская, 1922 г. н.*
*в. Вялікія Яцыны Астравецкага раёна, 2002 г.*

**173.** Ой, дзеці, вы ўсё кажаця, што вашо жыцё цяшкоё, але ні бачылі вы ішчэ ценжару*. Есьці е што, адзецца тожа е ў што, абы на што ні глядзіце, усё кап лепшае хочаце. Мо гэта і добро, але мне здэцца, што лішня распуста да дабра тожа ні даводзіць. Паглядзі,

якія людзі цяпер злыя сталі, што зьвяры ў лесі, усё п, здэцца, пат сябе падграблі п. Што ні кажы, а даўней тыя людзі, хоць і цяшкае жыццё ў іх было, усё ш лепшыя былі. От як мы са сваім Стасям жылі, тожа ўсяго было, і плахого і добраго, але нек патрымлівалі адзін аднаго. Мая маці не хацела, кап я за яго выходзіла, бо ён бедны быў, але ш я прасілася, рукі цалавала, мама і благаславіла. Жылі ў яго бацькоў, і адразу з першага дня трэба было ўпрагацца ў работу. Трэба і карову падаіць, і сьвіням даць, і курэй пакарміць, і ў хаці ўсё зрабіць, бо сьвякруха са сьвёкрам старыя былі. Та добро, што Стась мой памагаў. А як лета прыходзіць, та зусім, хоць ваўком вый ат работы. І іншы рас та і ні кладавіся* зусім, а яшчэ дзеці малыя работы прыбаўляюць. Потым, здэцца, ляхчэй трохі стало як ат бацькоў адышлі. Але не ўсьпелі добро на ногі стаць, як сталі калхозы складаць. Первыя годы очань цяжало было, усё сваё імушыство ў калхос трэба было здаць. У калхозах плацілі мало: адну капейку на трудадзень, пару грамаў збожа – і ўсё. Не было за што ні паесьці, ні адзецца. Помню як сёня**, як са сваім Стасям хадзілі за хлебам. Цэлы дзень прабегаям за хлебнаю машынаю і ў добрыя дні прыносім дадому па баханцы хлеба, а іншы рас і ніц не маям. Ледзьве ногі да лошка дацягням, а наранку зноў усё значала. І іншы рас і на сьвет Божы глядзець ні хочацца. Але ш нек перажылі ўсё. Ось такоё маё жыццё было, не дай каму пане Божа.

*М.А.Вановіч, 1918 г. н.*

*в. Марцінавічы Зэльвенскага раёна, 1992 г.*

**174.** Раней мы на хутары жылі. Жылі бясь сьвету, палілі лампу. У хаці зімою пат печу трымалі курэй. Часоў* у хаці не было. Уставалі па пятуху**. На кухні полу не было, а зямляны ток. Пасыпалі яго жоўтым пясочкам. Стаяў стол і шырокая лава. Былі два жалезныя лошкі с саламянымі сяньнікамі. Лошкі накрываліся саматканым радном* ці радзюшкаю*. У куту віселі іконы. Пад ымі самаробны стол, дзе абедалі, палуднaлі і вячэралі. Вокна былі маленькія. Пры хаці былі вялікія сені сь сьцёпкаю*, каморачкаю і каморкаю. У сьцёпцы трымалі сало, капусту, гуркі. У каморачцы збожо, жыто, муку. У каморцы стаяў сундук з адзенем: кажухі, сукянкі, спаніцэ, галіфэ. Пры хаці ў кожнага быў хлеўчык, дзе гадаваліся сьвіні.

*М.І.Цвікевіч, 1937 г. н.*

*в. Пасінічы Слонімскага раёна, 1993 г.*

**175.** Нас нарадзіласё чатырнаццаць дзяцей. Дзьве сям'і было ў хаце. Усіх разам нас жыло дваццаць адзін. Ад сьцяны да сьцяны

нічого не было. Было адно лошка для бацька з мацярай. А для астатніх палок* з досак. Пала не было, гліна была. На яе лажыліся доскі, і на іх спалі. Да гадоў пятнаццаці хадзілі ў сарочках. Маці наварыць капусты, расолу, картоплі, кашы ці заціркі, падбеліць малаком. Садзіліся за стол як папало. Усе разам не сядзеш. Дзе на палку прыткнешся. Адны вылятуць, другія прысядуць, жылось вельмі кепско. Большыя дзеці гадавалі заўсёды меньшых дзяцей. У гадоў дванаццаць – пятнаццаць пасьвілі кароў, сьвіней, авечак, а некаторыя ішлі служыць. Пазьней ужо, як падрос, сабіраліся па сем – дзесяць чалавек у адну хату. Разважалі, як кап ляпей стало жыць. Але власьці гасударсьцьвенныя называлі гэто паліцікаю. Часам і лупілі.

*М.К.Галоўчыц, 1915 г. н.*
*в. Асташына Навагрудскага раёна, 1993 г.*

**176.** Рабілі, дай Божа рады**. Нават дзеці параткаваліся*, хто ў хляве, хто ў полі. Жанчынам трэба варыва* пагачкаваць*, па гаспадарцы аглядацца*, а ў хаце трэба печ распаліць, лохан* бульбы паставіць, прыбраць, пасьціраць адзежу. Мужыкам работа болей цяшкая: сенаваць скаціне на зіму, абрабляць палі. Усё трэба ўмець: каня запрэхчы, касу пакляпаць, паветку дастроіць. Пры талковым бацьку ўжо малы ўмеў усё гэта рабіць. Работа неяк не ў цяжасць была, ішла лёхка, спорка. І не хварэлі людзі так, як цяпер, усе неяк здаровыя былі. Калі хто і прыхварэя, што забаліць, настой с травы папіў, і дахтары не трэба. І дзяцей гадавалі не так, як цяпер, не нянчыліся так. У поле бабы пойдуць, дзіця пат куст у траву паложаць, а назат вечарам ідуць – забяруць. А елі што? Кажуць, зарас есьці няма чаго, бо немаведама што хочуць, з жыру бесяцца. Помню, маці бульбу звара, халаднічок трохі сьмятанкай забеля, яйка сьпячэ. На сьвята бапку ў печ паставіць, крупянік звара, пірох сьпячом, квас згатуем. Вось гэта было для нас сьвята. Цяпер леднік* заваляны клундзякамі*, вандзёнкамі*, а плачуць – мала ім. Бліжэй да восені вяселі наладжаюцца, хто жаніха да бацькоў прывядзе, нажычоную*. Пасьля сваты, а калі справяцца ў полі, вяселі гуляла ўся вёска: і старыя, і маладыя. Дзецям прысмакаў дадуць, яны і скачуць па падворку.

*А.М.Місюкевіч, 1923 г. н.*
*в. Гальшаны Ашмянскага раёна, 1994 г.*

**177.** Што за жызьня была да саветаў? Хадзілі ў лапцях, у шарачковых ганавіцах*. Добра, калі маці дасьць белыя ганучкі. У сямнаццаць гадоў я ўжо стаў вазаком, рано жаніўся. Пашлі дзеткі,

стала цяжэй. Дзеці да трох гадоў хадзілі ў кашульках, а потым ужо шылі ганавіцы і сукенкі. Бывало, прыдзя вячэра, жонка наварыць чугун картофлі з лупінамі, насыпля на стол, глядзіш – мігам разабралі, ведама, семера. Раней гэта былі п вечныя парапкі, памешчык бы запрох у хамут і вег бы паганяў. А цяпер мае дзеці ўсе выйшлі ў людзі. Сталі дзеці падрастаць – яшчэ жызьня цяжалейшая стала. Думкі спаць ні даюць. Трэба зямельку купляць, бо ў мяне расло чатыры хлопцы, а пахаці было паўтара морга, ды чвэрць сенакосу. Недаядалі, а зьбіралі грошы на зямлю. Я зарабляў па злоту ў дзень, а да таго яшчэ выгадуяш ці цялушку й завядзеш на базар ды прадасі. І ўсе гэтыя грошы сабіралі на зямлю. Калі пан стаў прадаваць зямлю, то я купіў у яго морх. А праз два гады аж валасы на сваёй галаве рваў, чаму я так мучыў сваю сям'ю, бо як прыйшлі саветы, то ўсю зямлю панскую раздалі на Пуцэвічы й Кміцянку. Мне далі аш цэлых два гактары й чвэрць сенакосу, бо давалі падушна. Насеялі жыта, аўса, ячменю, грэчкі, кап хваціло дзецям хлеба, і скаціну можно адгадаваць. Толькі сталі абжывацца, а тут – вайна зь немцам. Мішу, старэйшаго сына, забралі на фронт, а потым і Ваня пайшоў у партызаны. Сям'ю маю сталі палохаць, сталі з нас зьдзекавацца, а мы ўжо цярпелі. Скончылася вайна. Усе асталіся жывыя, толькі не вярнуўся з вайны Міша: яго забілі на Одары. Ну, а цяпер от бачыця, як жывем. Хоць на старасьць убачыў харошую жызьню. Просто сам сабе не веру, што гэдак багато жывуць людзі.

*Г.Д.Машчонскі, 1906 г. н.*
*в. Пуцэвічы Навагрудскага раёна, 2002 г.*

**178.** От тэрас* добра маладым жывеца! Хачу учуся, хачу раблю, хачу зразу замуш іду. Ун як наша Марыся. А за польскім часам** так ні было. Мы ў мамуські памошнікамі былі. Татачка, дай Бох яму неба**, добры быў, але рана пашоў на той сьвет. Мамачка з намі пяцю асталася. Аш тады як жылі: ест кароўка, паршучок, курычкі, ту будзіш жыць, а німа, ту закіняш торбачку на плечы і будзіш па сьвеце жабраваць. Рабілі мы тады што жвяры, як устаняш зраніцы, ту аш да ночы: ту бульбачка, ту гарот, ту збожа. Я тэрас думаю, што доля ў міне, як у мамы. Рана вышла замуш. Можа, гаткоў шаснаццаць і мела. А дзет мой, дай Бох яму неба, рабацяшчы быў, алі ш дзе што ні так, ні па-ягонаму, ту зразу крычаў. А потым ішчэ вайна началася. Ні ведаю, чаму гэта ў ксёншках* ці ун па цілівізару так страшна, а хай Бох крыя-ратуя**, пра немцаў гаворачь. А да нас прышлі ў вёску, нічога ні трогалі, тылька есьці ўсё прасілі. Помню, там дзе тэрас бульбачка расьце, гумно калісьці

стаяла. Зашлі яны туды, я сь сенцаў выхожу на уліцу і віжу, як яны кароўку маю цянуць. А ў міне ўжо Стасючок быў. Маленькі, гатка не было. Я плакаць давай, а яны сьмяюцца, чэрці. Пасьмяяліся і пашлі, а кароўку ні трогалі. Ці то малога пашкадавалі, ці, можа, добрыя якія папаліся. Ліха іх ведая. Раза два да нас у вёску прыходзілі, а больш – не. Посьля вайны мой дзет у магазіне рабіў. У Вашкелях тады магазін быў. Тэрас там Юзі хата. Алі нідоўга і ён там нарабіў. Эта тэрас выгода, што хочаш, можна купіць. А тады – не. Мой па блату пакідаў, хаваў так на складзе ту ватовачку, ту боты, ту гаці*. А боты тады керзавыя от дарагія былі. Я ш знала, алі от ш дурная, баялася яму слова сказаць. Помню, тылька разьвіднела, прышлі і забралі яго. Потым чатыры гадочка адна была. От тады нацярпелася. Яначка старэйшая была. Прыляціць, бывала, са школкі, і учыца трэба, а яна мне ўсё паробіць: і кароўку прыгоніць, і падоіць яе, і сьвінке занясе. А касіла як старая. От ёй Бох і даў шчасьлівую долю тэрас, а тады давалі дзялкі нам на сінажаці. Яна ў школе была. Я блізьнюкоў зьвязала ў хусьцінку, закінула на рамёны* – і на поля. А там за гэтай травы аш дусяца*. А што мне казаць, папрыходзілі мужыкі, а я адна баба ды ішчэ зь дзецьмі. Далі там с краю, далёка. Хадзіла па вёсцы, прасіла, плакала, кап скасілі. А каму галава баліць? Цёмна ішчэ, устанім зь Яняй і ідзем касіць. Папалуднюям* на полю, і Яня ў школку ляціць. Потым ужо як блізьнюкі падрасьлі, ляхчэй стала. Бацька, як вярнуўся с турмы, ту ражжыліся, дзякуй Богу, троху. Роварчык* купілі, сячкарню на матору. Шкода, як пажар быў, веля* дабра згарэла. Добра, што хоць кароўку выцягнуць усьпелі. Бох карая хіба міне, ці што. Двух сынкоў ужо пахавала. Сама страшна дзетак сваіх лажыць у зямельку**. Ні дай Бох каму пераж ыць такоя! Сьню іх часта. Ту я тады ўночы ўстану, вазьму ксёнжачку* і пацяры гавару. Адзін, а то і два ружаньчыкі за ноч згавару. Думаю, памадлюся, ту можа ім на тым сьвеце, бядачкам, лёхка і добра будзя.

*М.А.Станчык, 1921 г. н.*
*в. Янапаль Воранаўскага раёна, 2005 г.*

**179.** Ну як жылі, як жылі? Часам лепей, часам хужай. Ціпер вы, маладыя, кажаце, што вам адзяваць няма чаго. А калісь было анно плацьцё куды высьці. Прыдзеш на танцы, стаімо цэлы вечар, кап склатку ні замяць. Во як было. Ціпер маладыя на сваю галаву ўсяго панарабляюць. Дасьць Бох добру галоўку, то паскручваюць. Раней ідзеш на вячоркі, то лёкі* вылажыш, варкоцікі* пазакручваеш. Весела мы жылі. Маладыя былі. Хлопцаў многа ў міне было, алі ш ні хацела я ні с анным, бо Антося ўпадабала. Вазіў міне на

ровары*, то ш тады ганарова было. *Я* сірота была, ні знала, ісьці мне за яго ці не. Алі пашла. І добра мы зь *ім* жылі п, кап ні вайна. Забралі майго на вайну. То ш мы думалі, што тая вайна кончыцца зара*, а яна надоўга была. У сяле анныя бабы асталіся, а дзяцей карміць німа чым, а я ш яшчэ маладая была, а дзяцей трое. Выгадуй папробуй. Круціся цэлы дзень. Дыхнуць німа калі. Калі нарадзіла малотшую дачку, то старшы падбягае і крычыць: «Мама, занясі яе на лух, хай яе коні затопчуць. Ты яе кідай, а сама ўцякай». Бачыш, шкадаваў мамку. Алі ш нічога, дзеці і памагалі анно аннаму. Даў Бох, усе ў людзі выйшлі. А дачку патом назвалі Шуркай. Так звалі бежанку, што жыла ў нас вайною. Добрая была дзяўчына. Памагала нам усё. Жала. Картофлі* садзіла, капала. А пасьля вайны зьехала яна ў Расею. Ні знаю, што зь ёю сталася. Хацела я, кап мая дачушка была такою. У міне добрыя дзеці. Ціпер радавацца п зь іх. Гадаваць было цяшка. Алі ш нек мы вайну гэту перажылі. Вярнуўся мой Антось. Трохі ляхчэй стала. Алі ш голат быў пасьля вайны. Мы ш тады хлеп самыя пяклі. Алі, кап той хлеп сьпячы, трэ было многа рабіць. Жылі, жылі. Думалі, лепей будзе, а яно ўсё горай.

*В.В.Майсюк, 1915 г. н.*
*в. Пескі Мастоўскага раёна, 1994 г.*

**180.** Школу кончыла – чытыры класы. Два гады каровы пасвіла, а потым пашлі на работу ў саўхос. Дзяўчаты зьбіраюцца ў кучу, йдзімо на работу сена грабіць, сьпяваім. З работы зноў сь песьнямі. Жыта жалі сярпамі. Бульбу капалі ўручную. Цяшка жыць было, што й казаць. Вечарам брыгадзір важыць, кап трудадні запісаць. Помню, маладзёш хацела хадзіць да касьцёла, нас ні пускалі, стаялі ўчыціля ў дзьвярах і пільнавалі. А тэрас* добра во: даюць і сьвята сьвяткаваць. А сьвятам ні было так чаго й есьць. Прыдзя Куця. Матка на стол паставіць сялёткі якой ці йшчэ дзе чаго, і ўсё. У нас у сям'і было ўчытырох, сядзям за стол есьці, матка насыпя на стол аднаму, другому цукру на чытыры рашкі**. Мы ўжо ўглядаімся: Ірцы венцай* насыпала, мне меняй. Плачу тады. Мама ўсуня руку ў торбачку, мне – сыпць. Потым падрасьлі. На танцы сталі хадзіць. Ужо хлопцы зробяць вечарынку. Дзяўчаты прыбіраюцца, закуску музыкантам шыкуюць, кап даць ім вячэру. Сьпявалі. Весяла нам было. Як стала дзеўкай, тут прышоў хлопяц з арміі. Думаю, як яго паткруціць? Хлопяц харошы, валасы кучаравыя. Алі гляджу, й я яму панаравілася. Хадзілі-хадзілі, потым надумалі жаніцца. Бацькі васэля зрабілі. Васэля было летам. Пяшком хадзілі ў Асаву да касьцёла шлюп бралі. Прыехалі да ма-

ладой. Потым забраліся да маладога паехалі. Там гулялі. Адгулялі й думаям, дзе будзям жыць. Мужык кажа: «Будзям у нас жыць». А я ні хацела. Забралася й да сваёй хаты пашла. Ззаду і ён прышоў. Пашла рабіць на ферму. На фермі тры гады рабіла. А што мы зараблялі – капейкі. Цягалі ўсё ўручную. Прэш чорт зная дзе тыя вёдры. Потым задумалі строіцца. Што ш, німа дзе жыць. Пляц далі ў адным мейсцы. Сталі строіцца. Паставілі выжай* окнаў, прышоў нам укас, што тут ні паложана. Сколькі мы плакалі, грызьліся. Алі нічога ні зробіш. Парухалі тую хату, перавезьлі ў другоя мейсца ставіць. Строіліся тры ці чытыры гады. Піраехалі ў нову хату. Мужык міне пакінуў, а сам паехаў на трактары на работу. А мне адной што рабіць? Я хату на замок і да сваіх бацькоў пашла. Аш пяць кіломятраў, хіба. А потым, патрошку-патрошку, й прывыкла. Дзяцей нажылі. Перш сын нарадзіўся. Бацька рады быў. Назвалі хлопчыка Янусям. Да трох месяцаў такі крыклівы быў. Помню, адзеня мыю, стаўшы, а бокам калыску калышу. Ну ўжо, здаецца, сьпіць. Толькі пірастану калыхаць, ізноў раве. Што мы ні рабілі: і соляй абносілі, і апцірала падолкам. Аш покуль ні пахрысьцілі. Дачка ўжо спакайнейша была. Ну што, дзеці вырасьлі. Павыучваліся, пажаніліся. Мы ўнукаў дачакаліся. Прыяжджаюць да нас. Звоняць.

*Л.Ф.Пачкоўская, 1938 г. н.*
*в. Сакалы Воранаўскага раёна, 2004 г.*

**181.** Суседамі мы зь ім былі. Не маглі ніяк памірыцца нашыя бацькі. Потым пачалі мы тайком хадзіць. Зьведала мая матка, але бацьку не казала, баялася, што біць будзя. Нашыя бацькі не маглі зямлі падзяліць, то й сварыліся чуць ня ўсю жызьнь. Потым мой бацька захварэў на почкі. У бальніцах валяўся веля* гадоў. Але нічога, выжыў. Юзэфа бацька аддаў праз веля часу тыя гяктары. Нават самымі найдружнейшымі суседзямі ў вёсцы сталі. Ну мы й пажаніліся. Гулялі свадзьбу чатыры дні. Друшкамі былі мае падругі, чалавек дзесяць. Зажылі ўсім на завісьць. Праз веля* гадоў мой бацька памёр, усё ат тых почкаў. Не стала каму памагаць. Ну але выкарапкаліся. Пашлі дзеці: тры сыны й дачка. Вырасьлі ўжо даўно. Свае сем'і маюць. Сыны два ў Лідзе, адзін у Мінску, а дачка ў Клайшах вышла замуш. Тэрас, як зьбяромся на сьвята якоя, то сям'я велькая. Пяць унукаў маю. Сыны то добра жывуць, а дачцы памагаю. У калхозе робяць, то вядома ш, скуль тыя грошы. Зарплаты ня плацяць, а дзяцей адзяваць, карміць трэба. Хто ш памагаць будзя, калі ня бацькі. А нам, старым, пеньсіі адной хватая. То от унукі ў нядзелю, бывая, прыдуць, то ўжо й паткіну кілька

тысяч. Тэрас* о бульбу садзіць трэба, то хто ш нам, старым, паможа? Сыны далёка, ды й вядома ш, гарацкія, ня натта рабіць хочацца. А дачка з мужам тут, за пара кілометраў жывуць, то й прыедуць, памогуць. У зяця трахтар свой, а плух, там яшчэ што, ў друзей возьмя. А не, то каня папросім у каго. Людзі ў нас добрыя. О так й жывем. Яшчэ карову трымаям. Пакуль можам. Малако сваё. Ужо купляць ня трэба. Унь у Валькі дачка, восім месяцаў. Прыходзіць па малако. Бяз грошай даём. Няхай яе. А той хер лысы кінуў. Што тэраз адной зь дзіцям малым рабіць? А яшчэ тры хлопцы-коні. А карміць трэба ўсіх, але і рабіць ня хоча. Тылько каб даваў хто дармова, то з радасьцю. На Літву ежджае, пару капейкаў зарабіць, і то добра. Матку ня глядзела. Тая жыла п, то ўсё ляхчэй было п. Ну але яе праблемы. Самым бы як-кольвік жыць, і то добра. Абы дзеці шчасьлівыя. Няхай дачцэ трохі цяжэй, але покі* мы з бацькам жывём, то паможам. Ой Божачкі! Я ш ужо загаварылася, катора гадзіна? Дахаты йсьці трэба, бо стары адзін, дзе што рабіць будзя. Прыду, то ўжо спытая, ці выгаварылася, пакрычыць. Але Бох зь ім. Ведаеш, Ганька, у хаце адной тожа дрэнна. Прайдуся, пагавару, то аш на душэ вясялея.

*В.В.Жыткевіч, 1938 г. н.*
*в. Віганцы Воранаўскага раёна, 2005 г.*

**182.** Якая ўпярот* была моладасьць, скажы ты. Да семнаццаці лет кароў пасьвіла. Патом паслалі акопы капаць. Туды, за Путрышкамі, забыласа, якая дзярэўня. Разам с пленнымі нямецкімі дванаццаць дней капалі акопы. Мое начальства, якое было, сказала, што прымаць зьмену німа каму. Не было чаго есьці. А пленным брушку* давалі, а мы не хацелі яе есьці і ўцякалі. Баяліся, каб нас не злавілі, і напяхоту пайшлі дахаты. А патом ужэ, як была маладая, васемнаццаць гадоў мне было, стала таргаваць у магазіне, чатырнаццаць гадоў таргавала. Патом і ў гэтым таргавала, дзе матка твая зарас робіць. Патом кінула, здала гэты магазін. Тады пайшла ў Гродна, рабіла кладаўшчыком. Такі ёсьць у Гродні завод бытавых прыбораў. Там і рабіла, панравіласа мне там. Ну і тамака пазнакоміласа с хлопцам, выйшла замуш і жылі мы ў Астроўку, каля Гродна. Я рабіла ўсё кладаўшчыцай на заводзе. Прайшоў час, і я забярэменела. Рабіла аж да родаў, бо ніхто не хацеў прынімаць завот. Аднаго асудзілі, і ўсе баяліса. І там жылі, у том Астроўку. Тадыка мама была тут, у Житомлі, і мы прыехалі да яе ў дзярэўню. Падалі заяўленьне ў калхос, тут быў прэдседацель в то врэмя Абуховіч Эдмунт. Купілі гэту кварціру, аддалі васемнаццаць тысяч на тыя грошы. Тутака рабіла ў калхозе, а патом яшчэ зноў пайшла

ў магазін прадаваць і чатыры гады таргавала. Патом началі мала плаціць – трыццаць тысяч. Пайшла ў калхос і ўжэ ў калхозе рабіла да пенсіі. Палучыла пенсіі восемдзесят адну тысячу. Пачакай-пачакай, кап ужэ точна было, пайду па кніжачку, і тады глянем, калі я точна на пенсію пайшла. А цяпер я ўжэ палучаю сто трыццаць тысяч. О ё маё, скольки траціць на мяне грошай гасударства! Скольки папарабіла. Чула, як адна кабета расказвала, падумала яна, што ўсе грошы забярэ, і рабіла, як дурная, а зарабіла радзікуліт сабе. Як тая баба, і ў калхозе, і за калхозам. Я і цялятніцай была. Куды пашлюць – везьдзе была, а цяпер во вязала. Бачыш, чаго панавязала, вышываю, вышывак многа маю, глянь, якія салфеткі. Ды і вот дзяржу парасёнка, кацёнка і курэй. Ужэ ш я ні зусім старая, калі на базар паеду. Сёньня во яблык вазіла, лук*, маркоўку нада прадаваць. Усё трэба збываць, бо замнога сабе. Маю падружак. Хаджу да суседак, у хату хаджу і на уліцы стаім, гаворым прас куранятак ды пра ўсё. У магазін зайду, ды па часу стаім, ходзім, гаворым. А во, пра курачак раскажу і табе. У мяне два курніка: цёплы і халодны. Калі на вечар куры ідуць у халодны, значыць, на уліцы заўтра цяпло будзе. О, куры разумныя, усё знаюць! Бедненькія, што толькі не гавораць нічога. І я бедненькая, што адна засталася, бес мужыка, сяджу як мыш у нарэ. Ужэ трынаццаць гадоў як адна. Трэба людзі прасіць і згараць, і навос – усё. У горат не пайду, бо прапашча ў горадзе. Во, падумай, тут палучаю сто трыццаць пенсіі, прадам на сто трыццаць, і маю. Толькі што цяшка з гародам, нічыво калхос не памагае. Пшаніцы сеяць – заплаці, усё заплаці. Нічыво не памагае.

*В.М.Сідарчук, 1926 г. н.*
*в. Жытомля Гродзенскага раёна, 2003 г.*

**183.** Я, як маладая была, валасы ў міне красівыя, длінныя былі. А ўсе мае падрушкі завіўкі парабілі – натто модно было тады. А мама казала, што, калі валасы абрэжу, то я табе галаву адрэжу. Сьмяялася, ведамо. Так вот, гэта завіўка пры Польшчы** натто дораго стоіла: два злотыя. Гэта трэ цэлы дзень працаваць, жаць на полі. А брат мой ужэ рабіў, ён даў грошай. Пайшла ў Ваўкавыск, зрабіла завіўку. А дамоў прыйшла – баюся платка зьняць. Я й кладавілася, і ўставала с платком, кап мама ні бачыла, што я зрабіла. Хадзіла так тыдзень мо. А нядзеля, трэ ў касьцёл, бо касьцёл – гэта было й кіно, і ўсё. Калі ў касьцёл ні пойдзеш, то было п табе. Маці й кажа: «Уставай, мый галаву, бо зара вошы завядуцца. Я ш усё знаю». Я памыла галаву, а дзе тая завіўка? Ну, ніц*. Я й так, я й гэдак, а валасы толькі пышненькія. Маці й кажа: «Ідзі да той

яўрэйкі, што завіўку рабіла, пытайся». Пайшла, а яна мне кажа, кап галаву вуксасам паласкала. Я так і рабіла. Дзесяць месяцаў яна дзяржалася. А тамака адна дзеўка карасінаю мыла, то валасы былі мяькія. Бало, косу спусьціць, то як шоўк. Бало, й на танцы хадзілі. Цэлы тыдзень робіш-робіш, а ў суботу пойдзеш на рэку, памыесься – як усё сь цябе змывае. Зьбіраесься на танцы, а там усякіх хлопцаў надыдзе, музыкаў. Граюць, у бубен бубняць. Добра было. Ат мамы хаваесься, а яна цябе ўжэ жыдае, бо ксёнц забараняў, кап хадзілі. Так і жылі. Марыя, дачка мая, у велько сьвято роджана. Старынныя людзі гаварылі, што ў яго нат ні можна пачасацца. А тады цяпло было, харашо. Але пасьля вайны, гэта ў пяцьдзесёнт першум годзе было, галадоўка велька была. Акушорка ў бальніцы нам толькі зацерку насіла, дак я прасіла, каб ні салодзіла мне, а прысольвала трохі, о. Але яна баялася, казала: мо часам дохтар прыйдзе. А больш ніц і ні было, мы шчэ кабанчыка не калолі. У нашай палаці дзьве караваці стаяла ды столачак маленькі. Вось рас прыходзіў да міне сястры маёй мужык і пытаецца: «Як ты маесься?» Я кажу: «Кап есьці хто прынёс». Зазьліўся ён. Назаўтра прыходзіць сястра, прынесла паўбаханкі хлеба, шчэ там нешто, о. А ў палаці холат-холат быў, я прытулю Марыську да сябе, хукаю. Так і адхуквала яе. Акушорка, Аня называлася, спакойненька така была. А ў тае акушоркі сястра была, мела таквеля* дзяцей. А ў яе дзяцей ні было. Вось пры родах яе сястра й памерла, то гэта яна яе дзевачку й усынавіла. Калі выйшла з бальніцы, трэ было йсьці ў Місьцібава за мэтрыкай, то дай, думаю, адблагадару. Узяла сала, кілбаскі троху, круп, занесла той Ані. А ў бальніцы дахторка была, Марыя Паўлаўна называлася. Мне так спадабалася. Думаю, у міне ш мужык Павал, назаву Марыяй. Так і зрабіла. Потым у міне дохтар пыталася, ці ахрысьцілі як. Я й кажу ёй, што так завецца, як вы. Колькі я зь ею папаходзіла, калі яна зусім малая была, колькі папацягала, о. Бало, йду на Лысу Гару зельлё жаць і яе с сабою. Купляла ёй хвартучкі кляёвыя такія. А дзецкаго обувё натта ні было. Сандалікі ёй яксьці купіла жоўценькія, акуратненькія, здатненькія такія, падэшоўка добрая, ш шнурочкамі, то яна, бало, дастане гэтыя шнурочкі, паплінтае* імі, сьмех!

*А.І.Давыдзік, 1920 г. н.*

*в. Андрэевічы Ваўкавыскага раёна, 2005 г.*

**184.** Раней было жыцьце вельмі ш цяшка. Цяшко працавалі, плоха елі, як гаварыла мая дзядзіхна: «Рэткія картоплі, густыя картоплі, густыя картоплі, ды й тых не хватало». Хлеба выдзяляў сьвёкар на дзень два танюткіх ломці, сала тожа не хватало ўдосталь, а

пра мяса ніхто нават і не думаў. Гаспадарка была вялікая, зямлі не дужа многа, паўучастка на ўсю сям'ю. А ў нас ў хаці было дзесяць галоў, ні то што ціпер бацькі адныя жывуць. Лошкаў не было, спалі на запечках, укрываліся бітукамі, маракамі. Зімою ў хаці было халадно, печы палілі ядлаўцом. Запалкі былі дарагія, каномілі іх. Зімы былі цяшкія. Бралі ў хату пат прыпечак курэй, прыводзілі каціцца гавечак, парасіліся сьвіньні тожа ў хаці. Гумнаў цёплых не было, а скаціна мёрзла. Я крыху яшчэ помню, як мы малыя былі й аткрадалі ад сьвіньні малюсенькіх парасяткаў і хавалі сабе пат бітухі, за што бацькі і адлупцоўвалі шнуроўкамі ад хвартухоў. Вось як жылося. Ні знаць болей такога жыцьця. Кап усталі нашыя бацькі й пагглядзелі, як мы ціпер жывем, не паверылі. У каждага цяперака свае грошы, пенся, у лаўцы* гатовы хлеп, поўныя сьцёпкі* сала, мяса, цукру й другога ядзэньня. Але цяперака ў людзей губа не дура, абыля*-чаго есьці не хочуць, усё прысмакаў чакаюць. Добрае жыцьця настала. Адно жыць ды жыць, але ўжэ і сьмерць на носе.

*І.Я.Карней, 1921 г. н.*
*в. Аляксандраўшчына Зэльвенскага раёна, 1988 г.*

**185.** Радзіласа я ў дваццаць пятым годзі каля Дубна. Мы тады ішчэ на хутары жылі. У сям'і нас было чацьвярых: тры сястры і брат. Бацьке многа скаціны дзяржалі: каня, дзьве каровы, быка, сьвіней, курэй. Цяшка было, алі ўпраўляліса. Меньшая сястронка была натта хворая і быстра ўмярла. Тры годзікі было. Помню, як мама галасіла, калі яе хавалі. Я тады самая старшая была, то вот і запомніласа добра. Як началаса вайна, мне было шаснаццаць гаткоў. Мы былі ў гародзі, палолі грады, як прыбегла мама і сказала, што на хутар едуць немцы. Мы ўчулі, як у саседзяў дзеці плачуць. Тады мама наказала нам хавацца ў яму. Немцы прышлі ў хату і сталі забіраць лепшыя вешчы. Забралі бацькаў новы кажух, валёнкі і ішчэ многа чаго. Я ўжэ добра ні помню. Немцы пагналі ўсю скаціну. Яма была парожняя, і мы праседзелі там усю ноч. На сьледушчы дзень мы пашлі ў лес хавацца. Бацько пашоў у парцізаны. Жылі ў лесі, покуль вайна ні кончыласа. Хутар наш згарэў, і посьля вайны мы перабраліса ў Дубна да бацькавай сястры. Яна адна жыла. Посьля вайны цяшко было. Есьці ні было чаго. Бывало, па некулько дзён ні елі. Я пашла рабіць на ферму ў калхос. Мама тожа там рабіла ішчэ да вайны. Усё рабілі ўручную, ні так, як ціпер. Бывая, так наробіса, што рук ні чуяш. А ў хаці тожа работа ждала. Трэ было і пабяліцца*, і вары* якой сварыць, і ў хаці прыбраць. Пакаміcь усё зробіш, то німа калі і да падрух схадзіць. Гулялі і калі якоя сьвято. На Новы гот заўшы* варажылі. Блінцэ

сабакам кідалі, чый быстрэй схэлтае*, тая і замуш быстрэй пойдзя. Абдымалі платы, вобуў* кідалі чэрас парох. Весяло было. Летам любілі па ягады хадзіць. Лес блiско, кажны дзень бегалі. Замуш я пашла ў дваццаць тры года. Быў хлопяц адзін. Прыехаў да нас у Дубна з другога сяла работы шукаць. Файны* хлопяц, рабацяшчы. Зара ў нас дзеткі паявіліса: перш сын, патом дзеўкі. Калхос памох хату паставіць, сталі абжывацца. Міша, сын, выкапаны* бацько. Цікавы быў да работы. Усё памагаў, нігды ні аслухаўса. Верачка і Зойка ўсё каля міне. Памагалі гарот палоць, да халеры** цыбулі мы кожны гот садзілі. А шчэ ў калхозі заўшы дзялку буракоў давалі палоць. Я натта любіла вышываць. Усякіх узораў умела. Вышывала больш зімой, бо было другой работы мало. Рушнікі вышывала, навалкі, настольніцы. Многа вышытага ў цэрку дала. Бацюшко шчэ доўга міне дзякуваў. А ціпер ні вышываю. Вочы ўжэ ні тыя, рукі шаршавыя, нітку ні чуюць. Як дзеці ў школу пашлі, мы стараліса ўсё лепшае для іх купляць, абы вучыліса добра. Помню, як радаваласа Верачка, як ёй пальцячко купілі і лакеркі. Яна любіла модзіцца. Як паканчалі школу, дзяўчата пашлі ў горат вучыцца, а Мішу ў армію забралі. Посьля армі быстро жаніўса. Я ні хацела, кап ён браў сваю Нінку, бо яна развядзёна была, алі дзяцей ні мела. Міша міне ні паслухаўса. Алі добро жывуць, багато, двух дачок нажылі. Верачка вышла замуш, асталаса ў горадзі жыць. А вот Зойцы ні пашыкавала*. Замуш позна вышла. Зразу добро жылі, сына радзіла. А ціпер сьпіўса мужык. Бывая, што нядзелямі п'яны ў дыміну**. Зальє зеґра** і тады ляжыць логма*. Зацьнецца*, ні гаворыць. Хазяін мой у тым годзі ўмёр, то Зойка са мной жыве. Мне ляхчэй зь імі. Унучак мой, Максімко, ужэ ў школу ходзіць. У шасты клас. Добро вучыцца. Бывая, што ні слухаіцца, алі ціпер усе дзеці такія.

*Г.С.Халько, 1925 г. н.*
*в. Дубна Мастоўскага раёна, 2005 г.*

**186.** А пасьля вайны бедна людзі жылі, хадзілі да Масту, сюды пад Гродна, да Масту хадзілі па чырвоную гэту салетру, гэтак салілі, гэтак елі. А як дзяліліся. Во, пойдзе сусетка мая ці хто, яна шмат не прынясе – стаканчык, паўстаканчыка солі і мне дасьць, і вам дасьць. Гэтакія людзі былі літасьцівыя. А цяпер людзі лядачыя, цяпер людзі ні спаганныя, а тады людзі спаганныя былі, галадалі людзі, страдалі моцна, не было чаго есьці. Малолі ў жорнах, у нас жорны былі, тато паставіў, стаялі во тут во, пат паветкаю. Хто ха-

цеў, той і ішоў, ужо й не пыталі яны нічога. Та пакідаюць хоць місачку, хоць паўтары місачкі пакінуць табе мукі, і далей ужо хто другі займае, гэтак дзяліліся людзі, вельмі літасьцівыя былі людзі, а цяпер ужо няма гэтакіх літасьцівых. Цяпер людзі багата жывуць. Пасьля вайны бедна-бедна людзі жылі. Намыяш што-нібуць, якое плацьцё, а гэта ш тады было плацьце сіцявае*, памыеш, высахне, ізноў зложаш, ізноў ідзеш і на танцы дажа йшлі кругом, ведамо ж, маладзёш, а танцы ш у хатах былі. На вячорках кудзелю пралі, ткалі. Дзяўчата хадзілі на вячоркі. Хто дзе сь кім панараві́ўся, дружылі. А замуш я вышла ў дваццаць чатыры гады. Зразу пасьля вайны вываска лесу была, пілілі лес, на берах, на Шчару вазілі лес, а потым, ну хто меў каня, то вазілі, а хто не меў, то не езьдзіў, так хадзіў зарабляць, кап на хлеба кусок зарабіць.

*Л.М.Паўлюк, 1931 г. н.*
*в. Лявонавічы Дзятлаўскага раёна, 2005 г.*

**187.** Пасьвіла каравы. У лапцях хадзіла. Пагнала рас каравы ў лапцях, у вадзе стаяла напрывясьне* і дастояла да вечару. Каравы тыя прыгнала. Цётка рада была, што я прыгнала каравы, патом зноў на другі дзень пагнала. Пасьвіла каравы ўсе, патом падрасла, стала зь дзяўчатамі, с хлопцамі. Пайдзем жаць у наём і па дзесяць злотых зараблялі, па пяць злотых зараблялі, а сама я была сірота, бацькоў ні было, жыла пры цёццы. І цётка мне ні давала жаць. Сказала, ідзі ты зарабляй, бо табе німа каму даць, бацькоў німа, а я хадзіла, жала. Жнем. Узналі міне, што я сірота, нігды* міне ні выпусьцілі людзі так, каб я ні павячэрала. Прыду я, яны мне дадуць есьці ўсё, сьнедаць. Узналі, што сірота. А я ні сяджу так да іду каравы даіць. Падаю каравы. Яны рады былі зь міне, што я гэдыка была. І казалі, як ты пайдзеш замуш, ды будзе табе легко, бо ты вельмі дагадліва, усё сама, табе ні трэба казаць. Гэдак і было. І тагды прыдзем. Прыдзем увечары зь дзяўчатамі, с хлопцамі, на уліцы песьні паем, усё і гэдак жылося. Патом зімою с кужалямі. Пралі кужэлі, і дзяўчата, і хлопцы прыходзяць, і песьні сьпявалі. Прадзем кужале і песьні сьпяваем. Усё. І на танцы хадзілі. Маладзёш атстроіў, ціпер кажуць клуп, народны дом атстроіў маладзёш. А зь міне нігды ні выбіралі грошай, нігды ні бралі, бо я была сіротай. Адзін рас (усё параскажу) адзін рас патшуціў адзін хлопец і ўзяў ад міне. Давай грошай. Ні даеш грошай – ідзі с танцаў. Я пашла с танцаў. Прышла дадому. Разьдзелася і кладаўлюся спаць, а цётка на міне: нешта ты зарана прышла, чаму ты прышла гэ-

дыкі? А *я* нічога н*і* кажу. Пат*о*м прышл*і*, міне перапрас*і*лі*. *Я* ні хацела ўжо ісьц*і* на т*а*нцы. Пат*о*м пашл*а* на т*а*нцы. Перапрас*і*лі, *я* пашл*а* на т*а*нцы. Б*о*льш с таг*о* г*о*ду зь мін*е* н*і*гды, н*і*гды ні бр*а*лі дзенек. І пат*о*м гэдыка ўсё маладыя гад*а* праходзілі. І т*о*й клуп маладзёжны, т*о*й народны д*о*м адстроілі. А т*а*м быў і магаз*і*н быў усярэдзіне ў том д*о*мі. А пат*о*м першаго м*а*я сьвяткав*а*лі, дзяўч*а*та чырвоныя хусткі пазавязваюць, хлопцы б*а*нты чырвоныя папрычэпваюць. Адз*і*н сядз*і*ць у вакне пінн*у*е, ц*і* міл*і*ца ні йдзе. Гэта был*о* гэдых. А ў н*а*шай вёсцы паліцік*а*нты* был*і*. І піннав*а*лі. Гэдак піннуюць, як ідз*е* міл*і*ца, то хт*о* куд*а* ўцяк*а*юць з таг*о* д*о*му. Д*о*м прав*і*цельства назв*а*лі, як атстроілі маладзеж для сяб*е*. *Я* з Вострава сам*а*. То ў Востраве велька вёска, і т*а*м гэдак маладзёж атстроіла д*о*м. І атстроілі, і сьвятказ*а*лі первого м*а*я ўсе, і песьні сьпяв*а*лі, і т*а*нцы т*а*м быв*а*лі ў том д*о*м прав*і*цельства, д*о*м маладзёжы. А пат*о*м і на гуліцах сьпяв*а*лі, і ўзімою на вячэрках был*і*. А был*і* старыя. *Я* пражыл*а*, пры цётцы жыл*а*. Цётка ў л*а*пцях хадз*і*ла. Абуе л*а*пці, белыя ганучкі і ідзе ў цэркву ў гэтых л*а*пцях, белых ганучак паапкручвае. І цяпл*о* был*о*, і здаровыя был*і*. Жылося гэдык. Ну ціпер лучша маладзеж. Упярод маладзеж был*а*, бацькоў лепш паваж*а*лі, як ціпер маладзеж. Ціпер аднае м*а*церы, б*а*цька ні хочуць, ні панім*а*юць, шт*о* то есьць м*а*ці, б*а*цько. А даўней гэтаго ні был*о*, жыл*і* па тры сям*і*, і траякія дзеці был*і*, і міргав*а*ліся*. І ў адной х*а*ці жыл*і* добра, а ціпер аднае м*а*церы ні хочуць і б*а*цько ні прызна*ю*ць. У даст*а*тку жывуць, ды ні прызна*ю*ць нічого. Усяг*о* хват*а*е, і адзежы хват*а*е, і ядзі, і мясо к*а*жды дзень ядуць, нічога ні бракуе. І нашт*о* *і*м м*а*ці. Кварц*і*ры да*ю*ць. Ды нашт*о* *і*м м*а*ці патрэбна? М*а*ці ні патрэбна і б*а*цько. А даўней уваж*а*лі бацькоў лепш, як ціпер. Пат*о*м *я* зрасл*а** ўжэ, зрасл*а*, вышла, з*а*муж. Прышл*а* з*а*муш у другую вёску, недалеко так. Вёска Паляжын. Нідалеко, кіломэтраў м*о* пяць, м*о* т*а*к чатыры, в*о* гэдык, в*о* неяк. Жыл*а*, у міне нарадз*і*лася дзевачка, *я* был*а* р*а*да, у міне радз*і*целяў ні был*о*, нікого ні был*о*, і дзе *я* жыл*а* пры цёццы, і т*а*я цётка гаварыла мне т*а*к, шт*о*, дачушка, ні пл*а*ч, ты пайдзеш з*а*муш, будзе ў цябе і м*а*ці, будуць у цябе і дзеці, і сёстры, і м*а*ці. І *я* давольна был*а* так*а*я. І ў восем – пяць лет гэтай ст*а*ршай был*о*, мне жызьні ні был*о* харошай, і *я* мусіла адходзіць. І пашл*а* з дзецем служыць. Пражыл*а* *я* з*і*му, а пат*о*м муш. У п*а*на пашл*а* ў двор служыць з малым дзецем, пяць лет был*о* дзіцяці, з*і*му паражыл*а*, і тады прыехаў навесну муш міне забраў, і ст*а*лі мы дзял*і*цца, падзял*і*ліся ўсё і разжыл*і*ся, ст*а*ло

добро. Найшла вайна. Немец атступаў, спаліў міне, усё як стой** асталося. Усё, праўда, было. І ўсё як стоя** асталася: і боса, і гола, і вайна тут, і дзеці, двое малых дзяцей было, і жыла я сама. Усе людзі знаюць, у Дзярэчыні ў калідоры жыла, жыла зь дзецьмі, і хадзіла дзевачка ў школу. Я ў школі рабіла, і звару есьці ёй, раненько ў пеццы ў школі, у чыгунік укручу, у вядро ўстаўлю, яна паесьці картошку з вадою і ідзе ў школу. Гэдак вучылася. Ціпер мая дочка робіць у радакцыі бугалцерам, і ціпер усяго хватае. У яе адзін сын і два ўнукі. І жыве добро, і кварціру далі, гасударство дало. І я ціпер рада, што дзяцей прыждала, і жывуць с сваімі дзецьмі. Ну зь дзецьмі цяшко жыць сёньня, цяшко жыць. І ўсё хачу, кап кварціру дастаць сабе, а можа й дадуць кварціру шчэ мне. Падала заяўленя ў калхоз, і мне абяшчалі, што дадуць кварціру, я рада, што ўжо жду, калі мне дадуць кварціру. Аднаму найлепш жыць. А цяпер ну рада зь дзяцей, шкадую дзяцей. Ну зь дзецьмі цяшко жыць, зь дзецьмі німа як жыць. А цяпер, і жыла пры цётцы ўсю жызьнь, а цяпер жыву ў школі, трыццаць восем лет раблю на адным месьці і жыву. Мне добро, і грошы палучаю, і хаджу кажды дзень на работу, тры кіламетры хаджу. Я зь дзесятаго году, яшчэ здарова, я магу рабіць, то раблю, а як ні замагу, то кіну, але магу рабіць. Тры кілометры іду ў школу і прыду і параблю. І учыцеля давольныя мною, нігды ні сказалі на мяне, што я кепско зрабіла ім, а я стараюся так зрабіць, каб на міне нічого не гаварылі, што я кепско зрабіла.

*М.І.Латош, 1910 г. н.*
*в. Паляжсын Зэльвенскага раёна*

**188.** Дзяцей у нас было чацьвёро. Рабіць трэба было с самых малых, езьдзілі па ягады. Ехалі на раварах* далеко, аш за пятнаццаць кілометраў. Зьбіралі ягады ў кашы зьбіралкамі*. Гэта невялікая дзяраўляная скрынка ж жалезнымі зубамі. Зьбіраць імі ягады было німожна. Лясьнікі, калі іх знойдуць, білі. Яшчэ жыто хадзілі жаць. Жалі сярпамі, зьвязвалі ў снапы, ставілі ў ляшкі* або дзесяткі* – па дзесяць снапоў. Калі нажыналі шыйсят снапоў – гэта была капа. Узімою мужыкі малацілі жыто ў гумнах цэпам. Бабы ўзімою лён церлі на церніцу, трапалі трапачкаю, часалі шчоткамі, пралі і ткалі.

*Я.К.Шастак, 1943 г. н.*
*в. Студзенікі Свіслацкага раёна, 1993 г.*

**189.** Здумала *я* сваё дзецтва ціперака, як пайшл*а* на пенсію. Ціперашнё ўсё забыв*а*ю, а дзецтва ўсё помніцца. Был*о* мн*е* яшчэ тад*ы*, у саракав*о*м гад*у*, дзесяць гад*о*ў. Был*і*, як называ*ю*ць, сав*е*ты прыйшл*і* ў тр*ы*ццаць дзевятум гад*у* да н*а*с пасьл*я* пал*я*каў. І тад*ы* усё раб*і*ць. Мал*ы*х гэтых задуш*ы*лі, застаўлялі раб*і*ць гэтых дзяц*е*й. Бацьк*і* сам*ы*я за гэту з*е*млю душ*ы*ліся, купл*я*лі, л*е*с выкарч*о*ўвалі ўручн*у*ю ўсё, кап дзецям, бо безь зямл*і* ні был*о* як ж*ы*ць. А ціпер ус*я* т*а*я н*а*ша зямл*я* прапала, і за гэтыя нішч*а*сныя с*о*ткі ск*у*ру дзяр*у*ць, і абрабляць ужэ нім*а* ч*ы*м, і да чаг*о* м*ы* ужэ тут дажывем. А был*о* тад*ы*: бр*а*лі, хват*а*лі, хт*о* дз*е* атк*у*ль, зь як*і*х кустоў гэто сен*о* ваз*і*лі. Прывёс сусет, дзе-то ў лесі т*а*м накас*і*ў у п*а*нскум па-за куст*о*х, а к*а*ля гумн*а* раск*і*нуў суш*ы*ць, а с*а*м па*е*хаў яшчэ дабыв*а*ць. А дзеці мал*ы*я адн*ы*я пакідалі бес усякага нагляду. Дзеці паўстав*а*лі р*а*но, мал*ы*я яшчэ, паўл*а*зілі пр*а*с акн*о* і запал*і*лі тоё сено, і палав*і*ну н*а*шае вёскі згарэло, да маг*і*лак у т*о*й б*о*к і ўсё падр*а*т церас тр*ы* х*а*ты хват*а*ласё, бо ўсё был*о* кр*ы*то сал*о*маю. А вецяр, а гэто был*о* перат с*а*мым пр*а*зьнікам Пятр*о*м. А *я*, тад*ы* был*о* ўжэ мн*е*, ск*о*лькі гэт*о* ўжэ – дзесяць гад*о*ў, старэйша, а бр*а*т б*ы*ў меншы, с тр*ы*ццаць чацьвертаго г*о*да. *Ё*н б*ы*ў у х*а*це т*о*жа адз*і*н, а б*а*цько с м*а*цяраю па*е*халі па сена. А *я* ўст*а*ла і с сус*е*ткаю ўзял*і* к*у*бачкі і пайшл*і* ў лес па *я*гады, л*е*с недалеко каля н*а*с, і зьбір*а*лі. А п*о*тым як угледзелі гэто в*о*гнішча, аг*о*нь, ян*а* сьмял*е*йша, та дад*о*му рв*а*лася, і мян*е* цягн*у*ла, а *я* баялася агн*ю*, нік*о*лі яшчэ ні б*а*чыла ў ж*ы*зьні, ды як магл*а* ў лес уцяк*а*ла, гэто д*у*мала, што аг*о*нь за мн*о*ю бяж*ы*ць, а ўсё гарэло. Анн*о* на чардак*а*х гэтых. Дз*е* хт*о* як*о*ё адзеньне вісело, суш*ы*лі л*ю*дзі, та палатн*о* матылял*а*сё. Стр*а*шно был*о* глядз*е*ць, усё сч*ы*сьціло. Прыйшл*і* м*ы* дад*о*му, і б*а*цько прыехаў з м*а*цераю, та месца не зн*а*ць был*о*, дз*е* х*а*та стаяла, усе буд*ы*нкі: і хлявэ, і гумна – усё пагарэла, ніч*о*га ні был*о*, л*ю*дзі і л*о*шку, і м*і*ску дав*а*лі, дз*е* як*і*я ранн*ы*я был*і*. Ну, і гэто жыл*і*, дажыв*а*лі якнібудзь, і цяжк*о*ё ўрэмя был*о*, і памаг*а*лі анн*о* друг*о*му. А тад*ы* ў сорак друг*о*м гад*у*, ужэ п*о*тым пайшл*а* вайн*а*, паяв*і*ліся парціз*а*ны. Парціз*а*ны был*і* ў лесі, н*а*ша вёска каля лесу, то прыягдж*а*лі днём і гулянкі раб*і*лі, на каня*х* *е*гдзілі і піл*і*, і ўсяг*о* был*о*. А немцы был*і* т*о*жа, за пяць кіламетраў шт*а*п нямецкі стая*ў*, зас*а*ды раб*і*лі. Зн*о*ў м*ы* н*е*ку х*а*тку паст*а*вілі з анн*ы*м акенцам, як б*у*тку як*у*ю, і хляв*у*шок зраб*і*лі, т*а*м усё н*а*шо был*о*: і зярн*о*, і скац*і*на, х*о*ць скац*і*ны тад*ы* не был*о* – немцы саб*е* забір*а*лі, *а*лі кар*о*ўка яшчэ был*а*. Парціз*а*ны зн*о*ў *е*сьці та хацелі, забір*а*лі та парас*я* як*о*е, та ав*е*чку

бралі, прыягджалі. Засаду немцы рабілі на парцізанаў, пад ранкі аткрылі агонь, зноў згарэў той хлеў, згарэло і тоё збожжо, і ўсё: і намалочано, і немалочано, і кабыла ўся абгарэла. Мы нек выпаўзьлі ў падвал, дзе картошка была. Маці нас пабудзіла, а потым пазганялі нас ў анно месца ўсю вёску. Ужэ апставілі пулямётамі страляць немцы, а нас каля таго падвала хацелі растраляць, ужэ паставіў пулямёт немец, але патскочыў другі, даў бацьку прыкладам у зубы, у бацька кроў пайшла. Але потым пагнаў нас, сказаў, кап усе ў места. Анно потым быў перагаворшчык*, аўстрыец, ат нас тут быў, вельмі ў немцаў прасіў і атстояў, што людзі добрыя, што німа тут парцізанаў. І гэто нас атпусьцілі на той рас**, а потым церас месяцаў два нек ужэ зімой, пасьля Калят, жывых паліць сагналі – мушчынаў у адзін дом, а жанчын зь дзяцьмі ў другі, і зноў, благадара Богу, нек абышлосё. Анну бабу там зьбілі былі, а нас атпусьцілі. А паліцманы* былі і са сваіх вёсак некаторыя, прадацелі, пайшлі панажывацьця да немцаў. Анно цягнулі, паграбілі ў каго што па хатах, павыганяўшы нас. Дык вот ні было ніякага дзецтва, ні моладасьці, нічога. А рабіць трэба было. Бало ўжэ жнеш-жнеш летам, хочацца пайсьці на гвуліцу, зьбіраліся, весяло было – уся маладзёш па кампанях, весь сьвет ат песьняў дрыжаў, а ціпер нідзе ніхто рота не разьзявіць**, анно цілівізары, больш ніякай вясёласьці няма, банда анно пайшла. Тады просіш у мацяры разрашэня, кап пусьціла хоць на вуліцу, а ні пусьціць, та не пайдзеш, та просіся, та кажа, ідзі, але свой час траціш. Калі трэба, тады будзеш і ўставаць. А прыдзяш, летня ноч та нівелька, пабудзеш дзе да дванаццаці, а ў тры часа ўжэ ідзе, падымае, кажа, ідзі жаць. Трэба жыта з расой, мокро жаць, бо асыпаецца днём пасохшы, на перавясла класьці. І кабылу трэба пасьвіць, і карову, гэто ні то, што ціпер, усё можно, пусьціў, ды кругом можно, а тады на свой клачок толькі, на чужое не ступіш, бо ва ўсіх было мало. Гэто ціпер паўчышчалі балата, а тады было трунно. Ну, потым было добро ў калхозі, як быў увесь Саюс, усё механізіравана, усяго было, усё дзёшаво, а ціпер пенсіянерам пенсію дадуць на хлеп і на соль, ды і гэтак пражывуць, але во гэты маладзёш, што вучыць ім глаўно трэбо. Мы то ўсяго бачылі, і добраго, і кепскаго, а ціперака што дзень, та ўсё гарэй, да хутшаго даходзіць.

*В.Ф.Крэўчык, 1930 г. н.*
*в. Малыя Азёркі Мастоўскага раёна, 2001 г.*

# ПРАЦА

## *Сенакос*

**190.** Н*у*, дз*е*вачка, яшчэ раскаж*у*, як у калх*о*зі ран*е*й был*о* вес*я*л*о*. На сенак*о*сі ўс*ё* ш с*е*но і кас*і*лі і ўбір*а*лі рук*а*мі. Ні был*о* ні эціх кас*і*лкаў. Ус*ё* грабл*я*мі, уручн*у*ю. Маш*ы*намі калх*о*знымі н*а*с т*о*лькі ваз*і*лі на сенаж*а*цю. Як назьбір*а*ецца н*а*с чалавек двесьця. Ус*е* т*у*т каля н*а*шай х*а*ты зьбір*а*лісо, бо б*а*цько брыгадз*і*р, т*у*т *ё*н н*а*с п*е*рап*і*сваў ус*і*х у сва*е* цетр*а*дзі, к*о*лькі людз*е*й, кап пат*о*м начысьліць н*а*м трудадн*е*. Н*у*, вядома, у першую в*о*чарадзь, был*а* раб*о*та, а п*о*тым, у вабет, ужэ ўс*е* зьбір*а*ліса ў адн*у* к*у*чу. І уж*о* хт*о* на шт*о* спас*о*бны. Сьмеяліса, гвар*ы*лі, хт*о* *я*к м*о*х. Награб*е*шса, здаецца, т*о*га сена, а д*о*бро был*о*, не ч*у*ствуеш та*е* м*у*кі, ніч*о*га, а яшчэ ш д*у*маеш, дз*е*ткі, гэта ні ўс*ё*, яшчэ ў х*а*ці хазяйство, ус*ё* трэ был*о* т*а*м параб*і*ць. І яд*у* трэ был*о* прыгат*о*віць дзецям, ус*ю* адз*е*жу паглядз*е*ць, бо кап был*а* ч*ы*ста. Бо дзеці – шк*о*льнікі, кап у шк*о*лу хадз*і*лі ч*ы*стыя. І ў х*а*ці прыбр*а*ць, кап б*ы*ў пар*а*дак. Н*у*, хват*а*ло, дз*е*ткі, раб*о*ты. Але *я* каж*у*, як зьбярэмсо б*а*бы на т*у*ю сенаж*а*цю, адзяв*а*ліса ў платк*е* белыя, кап был*о* ўс*ё* в*ы*сьцірана, ус*ё* пауц*ю*жано д*о*бро, стар*а*ліса, н*у*, малад*ы*я шчэ был*і*. Паэтаму хацел*і*, кап адн*а* лепша за др*у*г*у*ю.

*Н.С.Дзенісевіч, 1932 г. н.*
*в. Сухінічы Мастоўскага раёна, 1996 г.*

**191.** Нарадз*і*ўся *я* ў т*ы*сяча дзевяцьс*о*т дв*а*ццаць першым г*о*дзе. Сям'*я* ў н*а*с на т*ы*я час*ы* был*а* мал*а*я: бацьк*і*, сястр*а* і *я*. Сь сям*і* гад*о*ў да дван*а*сту п*а*сіў сва*е* кар*о*вы – м*е*лі дв*е* каровы, цял*у*шку, каб*ы*лу і дван*а*сьця* ав*е*ц. У дван*а*сьця гад*о*ў пач*а*ў гар*а*ць, уж*о* ў шасн*а*сьця* гад*о*ў абрабл*я*ў канём дван*а*сьця акт*а*раў*. М*е*лі шэсьць акт*а*раў сва*ё*й і шэсьць сас*е*дняй. *Я* ні ч*у*ствваў ніякай ц*я*жасьці. Вас*о*ла был*о* раб*і*ць. Ніколі ў п*о*лі не сьціх*а*ла песьня, б*а*бы, ідуч*ы* на п*о*ле, с п*о*ля, аб*о* с*я*дуць атпачыв*а*ць, як зац*я*гнуць песьню – ус*ё* круг*о*м перальецца. *Я* н*а*тта люб*і*ў кас*і*ць. Кас*і*ў д*о*бра. Санаж*а*ці н*а*шыя был*і* далёка ат н*а*шай вёскі. *Е*халі на к*о*нях. Т*а*м кас*і*лі да в*е*чара, а п*о*тым астав*а*ліся н*а*нач. Санаж*а*цяў м*е*лі шм*а*т і т*а*м был*і* нек*а*льк*а* дней. Т*а*м на менсцы суш*ы*лі сена, уж*о* гатовае ваз*і*лі ў г*у*мны. Был*о* н*а*тта вас*о*ла. П*о*сьля раб*о*ты зьбяр*о*мся ўс*е* малад*ы*я ды д*а*жа і пажыл*ы*я людзі, прынясём гарм*о*нік, гр*а*ем, ск*а*чым. На вечар*ы*нкі прых*о*дзілі і стар*ы*я б*а*бы с мушч*ы*знамі. Як гарм*о*нік не

ігр*а*е, тад*ы* сьпів*а*ем п*е*сьні. Па ўсёй вёсцы чув*а*ць был*о*, што вечар*ы*нкі.

*І.І.Шымановіч, 1921 г. н.*
*в. Граўжышкі Ашмянскага раёна, 1993 г.*

**192.** С*е*но кас*і*ць *е*халі за тр*ы*ццаць кіл*о*метраў на цэлы т*ы*дзянь. Бр*а*лі *е*сьці на т*ы*дзянь. Начав*а*лі на гр*у*дзі. Гатав*а*лі *е*сьці ў невял*і*кім чыгунк*у* на агн*е*. Р*а*но, п*а*куль яшчэ сонцо ўз*ы*дзе, вых*о*дзілі кас*і*ць. Вад*а* халонна, л*е*сьці ні х*о*чацца. С*е*но ляж*ы*ць на п*о*лі п*а*ру дзён. На друг*і*м т*ы*дні *е*халі грапц*і*. Перш грабл*і* ў валк*і**. Тад*ы* валк*і* кл*а*лі ў кап*і*цы* на нас*і*лы*. Нас*і*лі на нас*і*лах да сцежар*а**. Кал*і* пан*о*сяць усё, кл*а*лі стажок. Стажок ста*і*ць на бал*о*ці, пак*у*ль ян*о* ні замерзьне. Узім*о*ю запраг*а*лі ў баўкар*ы** каня і *е*халі па с*е*но.

*Б.В.Шастак, 1938 г. н.*
*в. Студзенікі Свіслацкага раёна, 1993 г.*

## Жніво

Гл. таксама №№ 57, 58, 77.

**193.** Хач*у* в*а*м гавэндзіць*, *я*к то л*ю*дзі ран*е*й жыл*і*, нічаг*у*ткі ні заб*ы*ла, усё п*о*мніцца. Цяп*е*рака ўсё, што х*о*чаш, паб*а*чыш, а ран*е*й нічаг*у*ткі гэтага ні был*о*, л*е*дзьвяка дачак*а*емося, калі васкрас*е*нё найдз*е*. А як п*о*мніцца, в*ы*йдзямо ўс*е* г*у*ртам на пагна*е** ж*ы*та ж*а*ць. Даўн*е*й у спан*і*цах па п*я*ты х*о*дзімо. С*о*нца см*а*ліць, цал*ю*сенькі дзень гэтак праробіш. Бр*о*нь Б*о*жа** п*о*ле к*і*нуць незак*о*нчаным. Л*е*дзьвяка канц*а* дачак*а*емося, а ні *е*ўшы цэлы дз*е*нь, нічаг*у*тко ні б*а*чыш ат п*о*ту. Паўзір*а*емося, н*е*як бр*ы*тко так*і*м маладз*і*цам дах*а*ты ляц*е*ці. В*ы*п'ямо тр*о*ху в*а*ды ля дзеся*т*кі*, аспадар*а* памянём ды зн*о*ў за раб*о*ту прынім*а*емося. А ж*а*лі то ран*е*й ні т*о*, што сёньняка – с*я*рпом. І р*у*кі, быв*а*е, парэжаш. Палемянт*у*еш, але й зн*о*ў за раб*о*ту бярэсься, бо н*і*хто чап*а*ць паласы та*е* і не б*у*дзе. В*о* як ран*е*й раб*о*талася. А пасьл*я* даж*ы*нкі раб*і*лі. Зах*о*дзімо ў х*а*ту, каласьв*е* сьпляцёныя ў вянок нясём, якрас і снап*ы* сь песьнямі зан*о*сім. Тад*ы* муз*ы*кі на скр*ы*пцы гр*а*юць, а м*ы* ўс*е* гэтак пас*я*дзімо на п*о*куцях, ды на ўс*е* лад*ы* гал*о*сім, а старэйшыя ск*а*чуць на так*у*. Зд*а*тная* м*у*зыка был*а*, ногі ск*а*чуць і прып*ы*нку не ведаюць.

*А.Д.Кадач, 1912 г. н.*
*в. Малькавічы Мастоўскага раёна, 1990 г.*

**194.** *Я* был*а* мал*а*я. М*а*ма хадз*і*ла ж*а*ці ў калх*о*с. Устав*а*ла р*а*на, р*а*на й мін*е* р*а*зам будз*і*ла. А ўстав*а*ць ні хацелася. Друг*і* р*а*с плака-

ла.. Жнем цэлы дзень. Сонца пячэ, пат кустом ялаўцу, што расьлі на межах, і зноў аш покуль сонца ні зойдзе. Шмат выжыналі. Я маленькая, алі жала шыпка. Толькі я жала ў кучкі, а снапэ вязала мама. Займалі дзялкі, і тады брыгадзір вымяраў і начысьляў. На маму ўсе запісаць ні маглі, так многа яна нажынала. Ніхто ні верыў, як гэта Нінка столькі нажынала адна. А міне ніхто за жняю і ні лічыў. Алі затоя ў нядзелю я спала аш да палудню. А зімою, помню, зьбярэмся ўвечары на печ усе. Мама прынясе халоднай скваркі і дасьць усім па адной, падзеліць. Смачная якая! Ні то, што вы ціпер, ляжыць у халадзельніку, і калі хочацца, тадэ і ясьце.

*Ф.С.Наркевіч, 1909 г. н.*
*в. Асіпаўцы Воранаўскага раёна, 1997 г.*

**195.** Даўней, як хадзілі жыта жаць, выжынаюць невялікі снапок. Прыносілі яго ў хату і ставяць на кут. Ён стаіць аш покуль жыта не стануць вазіць у гумно. Кладуць перш-наперш гэты снапок, пасьля складаюць усё жыта. Калі канчаюць жыта жаць, дажынаюць і прыгаворваюць: «З усіх палёў, з усіх двароў ды ў маю тарпу*, у маё гумно». І так крычаць тры разы на ўсё поле, чым мацней.

*А.І.Курак, 1913 г. н.*
*в. Вішнева Смаргонскага раёна, 1995 г.*

## *Пастухоўства*

Гл. таксама № 67.

**196.** Босыя, пажанеш* карову, босы, раса, халадно, мароз белы, а пажанеш каровы, то тылька углядаесса, дзе карова стаіць, памочыцца, то ляціш хуччэй на тое пятно, пагрэяш ногі. О як. Лубен, лубен быў роўна з каровай, плачаш, пака іх пазганяяш, этыя каровы. А пасьвіў кожды сваю карову, а такіх малых, як такія, што пасуць, па шэсьць лет, па пяць лет, та такіх малых ні хацелі, пажануць большыя. Самыя сядзяць, а гэтых малых усё ганяюць пераймаць, о. Міня колькі рас вылучалі, то брат хадзіў, набіў аднаго, патаму шта ён міня вылучаў. Казаў: бяры сваю карову, жэнь дзе хочаш, і пасі, дзе хочаш. А я та баюса, шэсьць лет мне, та што я зраблю. То брат хадзіў, біў яго, о. А цяперака ўжэ кампанія, бачыце, цяперака адзін пасе такую кампаню кароў, і ўсемка добра, і каровы панаядаўшыса. Ну вот і ўсё. А цяпер, я вам пасьпяваю, больш нічога гаварыці ні ўмею. Во так, усё.

*Г.А.Шчарбаковіч, 1912 г. н.*
*в. Каменка Гродзенскага раёна, 1991 г.*

**197.** Тады я яшчэ ў дзяцька была. Трэбо было сьвіней пасьвіць. Пагналі мы сь Ёзікам, а самы селі ў сьвінку гуляць. Ямачку выкапаям, і трэбо камушке туды загнаць. Каль я заглядзюся: «Ёзік, дзе сьвіня?» – «Ну дзе-дзе, можа, да Дэраша пайшлі, а можа, дахаты». Пабеглі дахаты, дзяцько зьверам глядзіць: «Дзе сьвіня? Пэўно ў Дэраша». Што рабіць будзям? Ідзем да Дэраша, можа, аддасьць. А там сабак мо сь пяць, соваюцца да нас. Бачым, нясе служанка есьці, мы ўглядаямсё, дзе ліць будзя, трэбо ўзнаць, дзе нашы сьвіня. Не, гэто, прызналі, сваім дала. А праз вакно відаць: паны есьці селі. Ёзік кажа: «Я цібе ўсаджу прас плот, потым назат выцягну, ты ляхчэйшая». Я пабегла, хлеў аччыніла, сьвіней выпусьціла, яны падаліся сабе. А сьцямнела ўжэ. Тут сабакі напалі, паны пачулі. «Вазьмі!» – крычаць. Нам німа дзе падзецца. Мы да саджалкі. Сабакі троху паціхлі, мы паўзем, потым усталі, ідзем, за рукі пабраўшыся. Ён міне валачэ, крычыць, а я замучылася. Прыходзім, пасталі каля парога, еля сапем, плакаць пачалі. Як пазнаць, ці сьвіня ў хляве. Ёзік кажа: «Я пастаю ў дзьвярах, а ты ў сярэдзіне паглянь». Я абмацала адно. Рас адно, та ўсе есьць. «Вылась», – кажа Ёзік. Выйшла, паплакалі мы, у хату пайшлі. Дзяцька як гыркня: «Дзе сьвіня?» – «У хляве», – кажам. Пайшоў ён, мы хуччэй паразьдзяваліся, пазалазілі хто на печ, хто за печ. Ніхто ні пытаў, ці есьці хочам, ці не. Другі рас пойдзям пасьвіць, ні будзям у сьвінку гуляць.

*С.С.Навіцкая, 1912 г. н.*
*в. Нацавічы Мастоўскага раёна, 1993 г.*

**198.** Ці бо мы жылі раней гэтак, як цяпер. Маладыя зусім разбэшчаныя. Раней не елі гэтакіх выдрымусаў*, як цяпер, а былі здаравейшыя, ды і ў цяпершыня гады і смак не гэтакі. Дзіцё яшчэ сьвету не пабачыла, а ўжэ разбэшчана: дай яму тое, дай яму гэта. Цяпер дзеці не ведаюць, што такое пасьвіць каровы ды гоўцы, а мы, бывало, як трохі пайшлі сваймі нагамі, дык на поле выпраўляюць. Вялікае шчасьце было, калі якая маці зварыць ці патсмажыць яечко. І так кожны дзень з ранку да вечара. Я каровы пасьвіла аш пакуль дзеўкай не стала. А што мне было рабіць? Тато памёр рано, я нават яго і не помню добро. Ведаю только, што мяне моцно любіў. Маці тады ўсе сьлёзы выплакала, а што ёй беднай было рабіць з малымі дзецьмі? Другі рас вышла замуш, айчым быў хоць і добры, але што ні гавары, айчым та не бацька родны.

*С.С.Савасцянік, 1914 г. н.*
*в. Янова Ваўкавыскага раёна, 1994 г.*

## Вырошчванне і апрацоўка лёну, прадзенне, ткацтва

**199.** Перш лён сеялі. Бывало, у сямянах лёну былі сямяна жыцюхі, зельлё такога. То кап іх аддзяліць, сямана сыпалі на доску, апцянутую мяхом. Сямяна лёну падалі, а жыцюха аставалася на мяху. Патом сямяна сабіралі ў шаснастку – кубеляц для сямян с адным ушком. Калі лён зацьвіце, тады галавачкі сь семем рвалі, вязалі ў пучкі, вязьлі дадому і праталі* пат страху, карнямі ўверх начаплялі на жэрдачку. Пасьля жніва пучкі растаўлялі ў бапкі на пяць кучак і абівалі лён пранікам, які быў з дуба ці граба. Патом у гумне на гліняным таку ці ў сенях сямяна веялі. Абмалочаныя пучкі зьвязвалі ў кулікі. Меньшы лён слалі на балоце, вязалі яго адным перавяслам, а велькі лён вязалі ў кулік трымя перавясламі, пасярэдзіне і па краям, і мачылі ў рацэ. Забівалі ў рацэ калкі і перавяслы прывязвалі да іх. Гэта быў мочаны лён. Былі жанкі, што кулікі клалі ў сяньнікі, кап не занясло іх мулам, і прывязвалі сяньнікі ў рацэ. Як былі навальніцы, то кулікі путаліся, кепска тады было. Пасьля тыдня вынімалі лён і слалі на балоці. Кожная абводзіла сваё рады кругам са льну, па рагах радоў клалі са льну жыкі*, кап віхар не панёс льну. У завісімасьці ат пагоды ляжаў лён на балоці: калі даждліва – меньш, калі пагодна пара – даўжэй. Бралі горстку льну, нясьлі дадому. Сушылі на печы і заціралі на церніцы. Было две церніцы: трайня і пяцярня. Начыналі заціраць на трайні, заканчвалі на пяцярні. Як было гатова, як лён быў сухі, сабіралі ўвесь лён, мочаны і сланы аддзельна. Сухія кулікі праталі на сьвіронкі ад дажджу. Пасьля ўсіх работ браліся за лён. Пакуль сьцерці, сушылі на печах. А сколькі пажараў было! Сушаны лён бралі, дзялілі на павесма*, білі на зямлі пранікам, кап трасца* памякла, павесмы перавязвалі льнінкаю, а тады церлі. Выцярты лён клалі па два павесмы, скручвалі, перавязвалі і складалі ў велькі радняны* мех, у ім цэнтнер зярна ўмяшчаўся. Лён трапалі, перад гэтым у хаце яго сушылі. Трапач – гэта кусок доскі, убіты ў аполак, кап стаяў на зямлі. Трапалі трапачкаю. У леву руку бралася павесмо льну, у праву бралася трапачка і білі па павесму, кільканаццаць* рас варочаючы яго. Тады ў руку бралі другі канец павесма і трапалі да той пары, пакуль ні асталося ні кальва каросты*. Трапалі на гарэ – чардаку. Прыдзя, бывало, бабулька ўся ў пылі, у пакулі. Атрэпаны лянок тожа скручвалі на два павесмы і нясьлі ў хату на прылавак каля печы. Часалі лён патом. Было две шчоткі: радзейшая і гусьцейшая. Перш часалі на радзейшу, тады на гусьцейшу, павесмо варочалі ў руках. Ачэсаны лён складвалі ў паўкопкі*, па пятнаццаць павесмаў, і клалі ў сундучкі. Пакулё, каторо было на шчотках, трасьлі ў кудзялі верацяном, с-пат трапачкі зьбіваўся вал, с

каторага ткалі мяхі. С-пат шчоткі пакулё называлася зрэбі. С-пат рэдкай шчоткі зрэбі была горшая. Са зрэбей ткалі радзюшкі* на лошкі. Перат прадзеннем павесма часалі яшчэ рас. Шчотка была з ручкай і сь цвердай шчацінай. З гэтага лянку рабілі кудзелю, раскладалі на столку, завязвалі да прасьніцы і пралі. У прасьніцы была прарэзана дырка і прывязваўся мотус*, якім акручвалі кудзелю. Пралі на верацяно або на калаўротку. На калаўротку пралі на аснову – гэта нітка была кручэйша. На ўток пралі на верацяно. Яшчэ была калаўротка, якая называлася козачка, на ёй нітка была меньш крутая і плоска. С калаўроткі ніткі маталі на матачку, бо, як пралі, нітку сьлінілі, а на матачцы яна сохла. Прадучы, елі рабіну ці каліну, кап паяўлялася больш сьліны. З верацяна маталі на матавідла. З матачкі, калі нітка высыхала, яе вілі ў клубок, абычно мушчыны, бо ў нас балелі рукі. Сухі клубок вешалі на бэльцы. Клубок трэба было добро матаць, кап чашуйкі роўна лажыліся, кап, як будуць снаваць, роўно нітка ішла. Ну, значыць, снавалі на сноўну. Перш сноўна называлася беганка. Да палкі былі прыбіты калкі, таму хадзілі кругом іх, і так снавалі на гэтыя калкі. Патом была сноўна, на якую снавалі, стоячы на адным месцы, бо сноўну круцілі рукой. У другой руцэ дзяржалі две ніткі з двух клубкоў і снавалі. Значыць, снавалі. Завісімо ат таго, у сколькі пасак было бердо ў кроснах, такведе* трэба было снаваць нітак. Абычно было васемнаццаць пасак. Аснову зьнімалі са сноўні і плялі рукамі ў пляцёнку, тады аснову навівалі на кросна і ткалі. У кроснах многа дзеталяў. Была набельніца, якою стукаюць і прыціскаюць ніткі, ніткі праходзяць цераз нічальніцы. Палатно ткалася ў две нічальніцы, палучаліся ўзоры. Яшчэ з бавальніцы* у шэсць і восім нічальніцаў ткалі дываны, у дзевяць пасак ткалі ручнікі. Як браліся ткаць, навівалі аснову на навой. Да нічальніцаў шнуркамі прывязаны панажы, сколькі нічальніц, такведе* панажоў. Маткі накладаюць на развітушкі, ніткі сучаць сукадлам на цэўку. Цэўка ўкладаецца ў чаўных і тчэцца. Выткано палатно закручваецца на навойчык. А, яшчэ ні сказала. Пасьля часаньня лёну, калі ўжэ зрэбі стрэсяны і паробляны кудзялі, тады хату бялілі мелам, які мачылі на ноч у цэбры. Зара яшчэ пра палатно скажу. Кужаль зьнімалі з навойчыка. Калі многа было гібаў (чатыры локці дліны) асновы, то весь кужаль не ўмяшчаўся на навойчык. Тады тры гібе адаткаўшы, адразалі. З двянаццаці гібаў было чатэры кускі палатна. Палатно бялілі. Са сланага лёну было рудоё палатно, з мочанага было бялейшо, але ўсё раўно бялілі. Палатно замочвалі на ноч у вадзе, а кажды ранак выкідалі на росу на весь дзень. Сярод дня сухое палатно мачылі і зноў выкідалі на траву. На ноч палатно замочвалі ў лузі. Белячы, палатно сморгалі па жоўтым пяску. Патом пясок спалоквалі на рацэ,

пранікам сьпіралі на столачку. Патом з гэтага палатна і адзежу ладзілі. Але перш палатно згібалі напалам і качалі ў свої (такія скруткі палатна) і пратал*і* іх у сундук. С палатна шылі сарочкі. Было яшчэ палатно ў клетачку, плаценка называласё. Зь яго шылі навалкі, патклатку. Так і жылі.

*М.К.Чарнушыц, 1911 г. н.*
*в. Пляцянічы Зэльвенскага раёна, 1994 г.*

**200.** Я раскажу, як людзі ценшка рабілі, кап займець сарочку. Вот раскажу, скольки было трудоў. Перша сеялі лён, а потым палолі, потым рвалі, потым сушылі, потым аббівалі сямяна, потым расьцілалі на полі рэдзенька, радочкамі, і дошч яго змачваў. Потым зьбіралі і вязьлі ў лазьню, сушылі. А высахшы, церлі на церніцу. Пацёршы, трапалі трапачкай. Патрапаўшы, білі шчоткай з дратоў і часалі, потым рабілі кудзелі і пралі на кавародак. Потым іш шпулі маталі на клубок. Потым снавалі на снуйніцу сьценную. Потым ставілі ў хаць кросна дзеравянныя і ткалі. Нада было зарадзіць кросна, кап было берда, і нічальніцы рабілі зь нітак, і былі дзеравянныя панажы, якімі камандавалі ногі, падымаць гэтыя нічальніцы. Выткаўшы палатно, называлася суравое, потым гэта палатно, парашкоў не было, лажылі ў попел зь бярозавых дроў, і так бялілі палатно. А потым, вясной, мачылі ў воду і расьцілалі на зялёную траву, мокрае, кап солнышка выпальвала суравіны. І вот даўней была такая ценшкая работа, пукі* аспадыня зажыла на радзіну* сарочку. Як прыходзіў Вялікдзень, то аспадыні шылі на сям'ю новыя сарочкі, а мушчынам рубашкі, і так ішлі да касьцёла, што п былі ў новым. Мы ўжо былі дзеўкамі, і мама нам давала кавародак і прасьніцу.

*С.Свёкла, 1930 г. н.*
*м. Парэчча Гродзенскага раёна, 2002 г.*

**201.** Раней усе сеялі лён. Кажды хазяін сеяў лешку* льну. Палолі лён, рвалі, патом слалі яго на балоці, тады зьбіралі, ставілі на печ, ды церлі, часалі. Сядзелі вечарамі, пралі. Работы каля яго много, як у того воўка**. Перш маці ні давала добраго кужалю прасьці. Пакуль ні навучымся, пралі раднаніцу*. Гаш пальцы палупяцца. У велькі пост снавалі кросна на сноўніцы. Навівалі на навой. Тады кідалі ў нічальніцы. Бердо і ткалі. Тады бялілі сарачке, пасьцілкі, мяшке, радзюгі. Вучыла маці ўсё рабіць з малого, кап пасьля й ўсё ўмелі: і шыць, і вышываць, і ткаць. І брытко было, калі хто гэтаго не ўмеў рабіць.

*Т.Л.Кадаўб, 1922 г. н.*
*в. Казловічы Зэльвенскага раёна, 1993 г.*

**202.** Вось паслухай, я табе раскажу, як раней ткалі. У адну хату зьбіраемся чалавек дваццаць пяць, а то і боляй, сядзям у крух, а пасярэдзіне лучына сьвеціць, і прадзем, хто на вярацяне, хто на калаўротку. Кап цяпер тую лучыну, дык цямнота была п, а нам тадэ сьветла было. Месяцаў так тры зьбіраліся. Нам было так вясяло, добра, хлопцы з гармонікам прыйдуць с цалай вёскі. Прадзем кужаль, зрэбна палатно потым тчэм, а за зіму тыля* напрадзем, што кожна дзеўка вытчэ посьцілкаў шмат на ложка. Ды шчэ ручнікі снавалі гіп* чатыры. Пачакаўшы, с сноўніцы здымаем у пляцёнку. Прыносім у хату кросны і навіваем гэту плятню, зачынаем ткаці. Выткаўшы, нясём кужалі і зрэбі бяліць на рэку. І так яно беліцца месяца з два, пакаміс жаць ні пайдзём. Кужду сыботу шаруяш яго, расьцілаям на траве, пасыпаем жвірам з ракі. Двох бярэмся і махаям ту ў той бок, ту ў той. А тадэ ставілі слона* ў рэцы і яго выпаласкваям і перым* пранікам. Потым яно гэтык добра беліцца. Выбялім на рацэ, што аш сьвяціцца. Кап патсохла яно, вешаем яго на плоці альбо на якіх жэртках. Калі яно добра высахня на слонцы, тадэ нясем у хату і качаем качалкам і пранікам.

*Г.К.Палуян, 1930 г. н.*
*в. Альхоўка Лідскага раёна*

**203.** Што казаць, даўна жылося саўсім хужэй, як цяпер, затое, што ні было ш чаго і дзе ўзяць што. А калі надыходзіў час ткаць і шыць, то ў хаце для малых і для нас, старых, было гэто чысто як сьвято, можно сказаць, што гэто тканіно рабілася, як вялікі абрат. Мушчыны апраналіся ў новыя штаны, а бабы ў спадніцы. Бывало, трэбо было ўстаць, як першы пятух каля катуха запяе, трэбо было напрасьці лёну. Пры лучыні, бо газьнічка была ў таго, ў каго было срэдства карасіны купіць. Ну а ў нас ні было за што купляць. Рабілі работу цемрадзю. Паробіш работу, ды зноў за гэто праньнё. А тады ш трэбо ткаць, тожа начы ні дасыпаць. Цяшко было, натто цяшко. Зімой пралі вечарамі, начамі. Ночы то былі вялікія, з двух часоў устаняш і прадзеш. Даўней усё было свае выдзялкі. Дзяржалі авец, стрыглі, шэрсьць пралі, а потым ткалі сукно. Ткалі белае, сівая. Патом красілі ў якую захочаш краску. У малінаваю, зялёнаю, бурдоваю. Самы красілі на чорнае, для мушчынаў пінжакі шылі, штаны, бабы спадніцы сабе шылі. Было ўсё самадзельнаё, а цяпер усё пакупноё. Кружава вязалі і панчохі вязалі. Усё ўмелі самі рабіць. І на кравацъ ткалі, тканая такая, што на кравацъ накрываць, такая, як капа. Як і ў кожнай хаце, і ў мяне есьць дзьве штукі. Адну хаваю на выхадныя, а другую на нішчасны случай хаваю засьцілаць. Работалі много раз больш, як цяпер

работаюць. Раньшы, штоб зрабіць рубашку, надо было сколькі ўкласьці трудоў, бо для рубашак, трэбо адзначыць, холст сьпецыяльно ткалі. Перш трэбо было ўспахаць плугам дзірвянным ілі жалезным, патом ждуць, калі ён высахне, паб'юць бабы праньказмі. Патом яго на луг насьцелюць і ждуць, пака ён улежыцца. Дзесьці месяц пройдзя, сматра калі ён улежыцца. Ну патом падымуць яго, навяжуць у кулі. Патом кладуць у баню. Топіцца баня, а ён сушыцца сабе там. Патом памнуць, патрэплюць бабы яго. Патрапаўшы, надо абдзіраць. А калі бабы давадзілі лён да дзела, тады пачыналі яго прасьці. Пралі вельмі тонінько на вірацёны, зь вірацёнаў разматвалі на матавіла. Патом маталі на клупкі. Надо было зматаць два клупкі, што п аснуваць кросны. І яшчэ шмат разнай работы і вось толькі тады і атрымаецца сукно.

*М.С.Скубанава, 1910 г. н.*
*г. п. Рось Ваўкавыскага раёна, 1993 г.*

**204.** Мэтар сіццу стоіў восімсят грошай. Трэбало* ўжэ адзявацца, ужэ пятнаццаць гадоў стала, трэба думаць, што трэба праць ды ткаць. Цалу зіму трэбало абрабляць гэты лён, і прасьці, і ткаць. Было цяшка прасьці. І пальцы прапрадалі, што ішла кроў. Так спаць хацелася, што, кажацца, кап выспацца, нічога на сьвеці** ні хацела п. Прасілі ў мамы, кап дала паспаць. Усё было самаробная (ні магу вам перашчытаць), бо купіць ні было за што. Калі купіш што з лахманоў, то дзяліліся сь сястрой на дзьвох.

*М.У.Ваўчкевіч, 1921 г. н.*
*в. Галубы Мастоўскага раёна, 1996 г.*

**205.** Былі вечара, зьбіраліся дзяўчата, хлопцы. Прадзем кудзелю. Устрояць такі покус: хлопяц патпаліць кудзелю дзеўчыне, да ўсе яе тушым, ды наробім галасу, ды крыку. Весяло было, бо зьбіраліся много дзяўчатаў, хлопцаў много, і гэтак файно-файно* ў нас ішла вечарына. Гэта было ўзімою. Зімой пралі кудзелі, а цяплом другая работа, а зімой пралі кудзелі, вывязвалі, вышывалі дзяўчата тожа, каторыя ўмелі ні гэтак, як ціпер, ціпер умеюць добра, і тады ўмелі добра. Катора рукавіцы робіць, катора шкарпеткі, катора кудзелю прадзе, катора вышывае, катора зубы* робіць да якой галькі* сабе пат спот да спадніцы прышыць.

*М.С.Салалайла, 1917 г. н.*
*в. Правыя Масты Мастоўскага раёна, 1990 г.*

**206.** Талокі былі вельмі розныя. Часьцей за ўсё было каля васьмі жанчын. Вядома ш, зямлі было няроўна. Лён рвалі, абівалі,

слалі на сенажаці, прас тры нядзелі падымалі, сушылі й звозілі дахаты. Пасьля ставілі ў лазьні, палілі лазьню й сушылі лён. Жанчыны прыходзілі сь мяльніцамі* й мнулі яго. Пасьля ўвечары вячэралі. Калі мялі дзяўчаты, то прыходзілі хлопцы. Быў такі абычай, называўся прыходзяць габляваць. Хлопец хватае дзяўчыну й пачынае цягаць па падлозе за рукі й ногі, кап стройнае было валакно. Затым яго трапалі, пралі, ткалі.

*Т.С.Пішчака, 1936 г. н.*
*в. Вішнева Смаргонскага раёна, 1995 г.*

**207.** Перш разьвівала гэтыя шпулькі, тады ўжэ снавала на сноўніцы. Много дзён. Ідзеш у адзін бок, чыны заварочваеш, потым – у другі. Чыны трымаюцца на двух калочках. Аснавала, пазьбірала ў маток. Гэто яшчэ можно ў плятню браць, коску заплясьці. Але я на рукі матала ў маток. На адном канцы зьвязала і на другом, кап ні заблонтваліся. Тады ўжэ красіла. Як красіш гэто парцяно, то трэба соль сыпаць, а шарсьцяно – асенсіі ці уксусу. Кап лепш краска трымалася і ні аблазіла. Потым прынясла гэто, выпалакала, а потым разам з дачкою растурзалі*. Адной гэта ні зробіш. Ну вось, растурзалі, кап паразьбягаліся, можа заблёнталіся ці што, ведаеш. Потым павесілі высахнуць. Як высахлі, зноў растурзалі. Потым пазьбіралі, і я ўжэ запляла ў косу. Зьбірала ні с чыноў, а с хваста. Гэто чыны ўжэ ідуць наперат, як навіваць. Канцы насаджваеш на навой, потым усаджваеш дошчачкі і пачынаеш разьбіраць. Перш дзелім папалам, а потым па каслаўкам*. Дайшоў канец да століка – вынялі с століка і надзелі аснову, і толькі тады разабралі па каслаўкам, кап ужэ ні заблёнтана была. Разрэзалі і завязалі каля чыноў. І яно ўжэ ў цібе ні заблёнтаецца. І тады ўжэ ў ніцільніцы кідалі, а потым – у бердо. Па дзьве ніткі. Потым бярэцца адвязік і закручваецца на навой зьнізу. Адвязік яшчэ называюць і завязікам, як хто. Прывязалі аснову да адвязіка. Гэто такая палка с палатном закручаным, а на канцы коскі заплецены. Вось і прывязваем аснову да гэтых косак. Затчэм зразу проста, потым ужэ выбіраем узоры. Тут ужэ трэба добра глядзець. Як узор просты, то я і адна тку, а як які цяжэйшы, то ўдвох трэба. І шчытаць кожны рас па-новаму, і доску прыкладаць. Ткаць ужэ проста. Мяняй ногі на панажах ды глядзі, якую нітку чаўныком працягваць. Вось нарэшце даткала. Аснова выйшла, ужэ німа куды круціцца. Заткала добра, кап ні білі набільніцы. Зьняла з навоя аснову і ўставіла адвязік. Прывязала да адвязіка аснову і зноў пачала ткаць. Даткала гладкім палатном, пакуль коскі адвязіка ні дайшлі да

ніцельніц. Потым голкаю апкідала край і адрэзала. І кончыла. І засьцілай палавік.

*З.М.Тарчук, 1925 г. н.*
*в. Дашкавічы Свіслацкага раёна, 1992 г.*

**208.** Трэбало* адзецца, трэбало і мех на картошку зрабіці, і пат спот бяльле зрабіці, і ткалі посьцілкі, і навалачкі ткалі, пасьля фарбавалі у гразе. Некалі былі такія канавы, дзе была рыжа грась. У гэтуй гразе таптал і нагамі вытканая. Таксама ткалі порткі палосачкамі. А калі паявіліся крамныя* ніці, тады людзі перашлі на шпулькі і пачалі ткаць на посьцілках усялякія узоры. Кап выткаць посьцілку, на сьцену прыбівалі калэ і на сьцену снавалі губіцы*. Анна губіца – посьцілка. Колькі губіц наснуеш, столькі будзя посьцілак. Потым іх навівалі, кідалі ў нічальніцы, у берда, а тады палатно прывязваюць. Такі езь навой. Тады ткуць чылныкамі. Сучаць цэўкі на сукала, й тады ткуць. Кветкі на посьцілках круцяць усялякімі ніцьмі і ткуць набіванікі рознымі цьвятамі: і чорна есьць палоса, і зялёна, і бурдова.

*Г.У.Баклага, 1912 г. н.*
*в. Галубы Мастоўскага раёна, 1996 г.*

**209.** Усё рабілі. Два участкі зямлі мелі. Касіць трэба было. Умела складаваць вазы, пласт па чатырох вуглах палажу, тады сярэдзіну ў пласты, сена прыцісну, тады ізноў гэтак, і воз не разваліцца, тады жардзёй, потым вяроўкай заціскаіш – і ўсё. У нас маладзёш сабіралася, тата іграў, упісываў у кавалеры, у дзеўкі. Танцавалі, гулялі. Мама загадвала пер'і скупці. Буднямі днямі пралі па колейцы* ў каждай хаця. Стаіць прасьніца, калаўрот, вывязываеш кудзелю, цягніш і прадзеш. Матаіш на вітушку, закладываіш і другую прадзеш. Са шпулі маталі на вітушку, тады снавалі. Снавалі на сьцяне, здымалі, навівалі на навой, вешалі нічальніцу, бёрду, навадзілі кросны і ткалі, устаўлялі цэлку ў чалнык, завадзілі кросны. Можна было ткаць перабіральнікі. На пруток каждую нітачку набіралі. Хочыш цьвет – нада шчытаць. Пісалі карту, сколька трэба кветачкаў на цьвет, – і тады палавіна набіралі, а другую аттыкалі. Падойме нітку, ты падапхнеш трапачку і натчэш клетачку, выцягваіш гэту і другую бярэш нітку. Па колейцы набіралі, чвартую* часьць набярэш і тады гэта адатчэш, ізноў чвартую – і ўжо паўдывана. І далей гэтак, чвартую наберыш, чвартую датчэш – і ўжо дыван. Былі на сто пяцьдзесят, на сто трыццаць нітак, як які ўзор.

*М.М.Мароз, 1928 г. н., Г.К.Пазлевіч, 1931 г. н.*
*в. Альхоўка Астравецкага раёна, 1999 г.*

**210.** Ціпер адзяваюцца прыгожо, у лапцях ні ходзяць, як даўней хадзілі ў лапцях, у спанніцы сваей, са свае работы. Прадуць воўну, ткуць, выткуць, хварбуюць. І лён сеялі, абівалі, слалі, патом зьбіраем, трэм яго, трэплем, чэшам на шчоткі. Былі такія шчоткі зробленыя, і на шчоткі чэшам гэты лён. Вычашам, напрадзем і тчэм кужаль, тагды той кужаль белкі, пранікам пірым, белім, каб набело было. Выбелім набело. Бралі з дроў попел, попелам гэтым і варылі, попел гэты астаецца, што ў печы палім. Нічого не марнавалася. Луг називалі. Лугу паварым і туды палатно намочым і белім гэдак у вадзе, патом пранікам выбіваем гэта палатно. Выбялім і тады шыем рубашкі з гэтаго, ні куплялі, шылі рубашкі з доўгімі рукавамі, а ціпер с кароткімі носяць, цяпер ляхчэй. І шылі, ткалі, патом дыванэ ткалі, спадніцэ самадзельскія шылі, ткалі і насілі гэдыкі, а цяпер усё купляно. Самыя ткалі спадніцэ, пралі воўну і ткалі самыя спадніцэ самадзельскія. А цяпер усё куплено. Тады было ўсё самадзельско.

*М.І. Латош, 1910 г. н.*
*в. Паляжсын Зэльвенскага раёна*

## *Выпечка хлеба*

Гл. таксама № 26.

**211.** Для таго, кап сьпякчы хлеп, трэба ш была мука. Для гэтага гаспадар у жорнах, бо ў нас мельніцаў не было, малоў жыто. Мука выходзіла крупная, жорсткая, грубага памола. І з такое мукі прыходзілася пякчы хлеп. Яе мы сеялі на рэшата, і з гэтай прасеяннай мукі рашчынялі хлеп у дзешцы. Туды дабаўлялі тоўчаную картофлю, разведзеную цёплай вадой, і кісьлю. Кісьля – гэта камячок жытняга цеста, які пакідалі ў дзешцы, пасьля выпечкі ставілі дзешку ў цёплае мейсца. А пасьля глядзелі, ці яно ўкісла. Калі ўкісла, то дабаўлялі шчэ мукі, дабаўлялі кмен або чарнушку, калі яны былі ў гаспадыні. Мясілі двумя рукамі, покуль не загусьцела. А пасьля ставілі, кап яно падыйшло. За гэты час гатовілі печ. У печы палілі дровы так, кап уверху цэглы паднябеньня былі белыя, а жар разгортвалі па печы, кап ток* нагрэўся. Кап зьнізу хлеп не сеў на закалец, лішняе вуголе жару качаргою выграбалі ў яшку* на прыпяк. Калі печ гатова, пачынаем рабіць баханкі. Дзеля гэтага бралі круглую лапату зь дзерава, пасыпалі яе мукою. Летам клалі на яе ліст капусты, а як пяклі на Сёмуху, то клалі яер*. Кап зрабіць баханку, трэбыло* б у міску набраць вады, памачыў рукі, і мокрымі рукамі браць цеста зь дзешкі. Рабілі тры, чатэры, пяць баханак, сматра якая была сям'я. Праз час хлеп вымалі сь печы, клалі на

заслон* і змочвалі зьлёгенька вадою, кап скарынка была мякчэйшая і харошая. Пасьля таго, як сьпяклі хлеп, дзешку пустую выносілі ў сені і пакідалі ў ёй камячок кіслага цеста, кап можна было рашчыніць хлеп у другі рас.

*Т. Т. Бялецкая, 1927 г. н.*
*в. Вераскава Навагрудскага раёна, 1993 г.*

**212.** Купляць ні было чаго. І дзе купляць? Хлеп трэ было пячы. Сям'я бальшая, штонядзелю тые два пуды трэба сьпячы, замясіць было ўсё сваімі рукамі. Садзіш у печ, зажарнаеш* тую печ. Ну, крыш паставіш на першуй булцы. Садзіш (такая лапата была) на лапаці, потым тожа на лісьці. Потым хлеп садзіш, зажарнаеш* яго, ну й добра ўсадзіш. Ужо цешыса, што хоць хлеп быў смачны. Заставаліса, хто прыйдзе, суседзі ці хто, ну што ш тэрас* там дзе чым так частуюць, а тады то хлебам частавалі. Прыйдзе – наця, пакаштуйця бонды*. Смачна. Цешыліса ўсё, усё добро было.

*С.А.Грынашкевіч, 1906 г. н.*
*в. Перстунь Гродзенскага раёна*

**213.** Даўней мы самыя пяклі хлеп. Вот вада, картофлі* гатовілі, картофлі обо сечкай* высякалі мякянько, або качалкам таўклі як на кашу, і вада, гэта картошка. З мукі рашчыняям. Становім яе ў дзяжы на ноч, кап квасілася, квасіцца. Назаўтра ўжэ пячэм хлеп: бярэм муку, падмешваям, бывая, і солі, патсольваем хлеп, хто любіць салёны. Умелі рабіць дзежы такія. А бывая, што нідакішшы той хлеп, то яшчэ пакідаюць на другі дзень, бо ён тады не ўдаецца, спадаяцца, і ён ніхарошы. Калі рашчына ні кіслая, то тады пакідаюць на другі дзень. Калі сёньня рашчыняям, назаўтра бярэм муку, месім, патсыпаям муку, вымешваям натуга, і тады закрываям печку, топім. Яна патходзіць у дзяжэ гэты хлеп. Выхадзіўся – паглядзім, як ён падышоў. Печ добра ўжэ напальваям, паўтары гадзіны ці дзьве, бо ў нас велькія булкі пяклі. Былі такія лапаты, парабілі зь дзерава. Яшчэ ў міне маленька е лапата, на тую лапату бярэм кавалак рашчыны хлебнай, на гэту лапату, і вады місачку прыгатовім, на лаву патсыпаям аеру, ён даўней над рэчкаю рос. На аеры садзілі, так ён пахня хораша. Набярэм гэтаго аеру, насьцелям на лапатку і потым кладзем гэты раствор-рашчыну на лапату, і тады вадой намочым рукі, бо бярэцца, так і загладжваям баханку хлеба, загладзім – і ў печку. Жар ужэ вагорняны ў бакі. С хвойкай памяло такое робім – венік, вымятаям гэту печ і садзім у печ падрат тры булкі, а бывая, і чацьвертую сюды бліжай пасадзім. Ну й сядзіць ён там, бывая, перакруціш яго там у печы, качаргу возьмяш,

кап яна ўжэ на другом месцы была, можа, тое месца ні гарачае. Апкруціш мінут скольні, пабудзе гадзіну ці паўтары, ужэ відно, за скольні ён упячэўса. Потым дастаём сь печы, кладзем пасярэдзіні, дзе хлеп ложым, пот называям, бярэм вадзічкі, і вадзічкай на руку пальем, змыям. Пара пойдзя зь яго ўжэ, ён мякчэйшы становіцца, тады астывая. Выносім у стопку*, як мы ўжэ гаварылі, кладзем на доскі там упраўляныя, і ён астывая. Гарачаго, гаварылі, німожно есьці, бо гэта на жалудак шкодзіць, а як астывая, потым ужэ ядзім. І такі хлеп пячэм, што на цэлую нядзелю, баханак чатыры – пяць, на цэлы тыдзянь хватая. Гэты канчаям – другі разбаўляям, пячэм. Пяклі жытні хлеп, а с пшаніцы, то ўжэ булкі называлі. На сьняданьнё падаецца як што: ці картошку згатовяць з малаком, ці бліны пякуць, сьпякуць сала ці яйкі ўб'юць, што-нібуць такое да бліноў. Вот сняданьнё. Абет ужэ – што згатавана: суп які там, бурачкі, капуста, бывая, мяса які кусочак укіня, як сьвіню ці парсюка заб'юць. Бывая, чай ці кава, па-нашаму, а чай то – гарбата папросту называлі. А вечарам ізноў: альбо гэту бульбу парым ізноў ці ў лупінках, альбо ачышчаям на вячэру, а да бульбы гэтай ці малачка, ці з бурачкоў халаднічок гатовілі, патквашвалі, ціпер то так, а даўней патквашвалі ў бочачках кроп, кмен.

*М.К.Бобрык, 1909 г. н.*
*в. Геруцева Свіслацкага раёна, 1992 г.*

**214.** А якое сьвято было ў хаце, калі пяклі хлеп! Гэто ні цяпер, што кожны дзень прывозяць сьвежы хлеп, а раней рас у месяц пяклі. Мясілі хлеп у сьпецыяльных пасудзінах. Звычайна яны былі дзеравяныя. Добрыя гаспадыні хлеп пяклі рана ранкам. С усходам сонца, кап пасьпець яшчэ і на работу. Нам, дзецям, у гэтую ноч не спалося, бо ведалі, што разам с хлебам пякуць і капусту. Хлеп пяклі на дубовых лістках, ён тады атрымліваўся нейкім больш пахучым. Як маці пякла хлеп у печы, то дзяцей было ат яе не адагнаць. Натто добро было, калі хлеп быў с акаліцам*. Акалец – гэта калі ссподу хлеп асядаў. Ды што там гаварыць! Як успомніш, аш млосна становіцца. Паглядзіш цяпер, у хатах харашыня, каўры ўсюды. А раней падлогі не было. Праўда, на вялікія сьвяты хату падбельвалі, падлогу пасыпалі жоўтым пясочкам. А ці гэтае харастко доўга набудзе, калі ў хаце варылі і сьвіням, і куры начавалі ў запечку. Бывало, пад ранак, як пачне кукарэкаць пятух, та мусіш уставаць. Маладая ш была, хацелася і на танцы пайсьці. Зарас маладыя ўсё за модай гоняцца, а раней я мела адну чысьцейшую сукеначку, кап выйсьці ці да касьцёла, ці да людзей. Прыйдуць вечарам каровы, пакуль падоіш, аходзіся*, ужо й цёмна. Цяпер, кап хто і грошы

даваў, та не пашла бы на гэтыя танцы, а та ш раней бегала. Зойдзеш на танцы і глядзіш, кап хто с хлопцаў узяў патанцаваць, бо раней дзеўка бес хлопца не танцавала, нават брытко было, не то што зараз таўкуцца на адным месцы. Прыйдзеш наранак дахаты, і лягаць спаць німа калі, адразу ідзеш аходжвацца. І яксьці ш ліхо* было.

*С.С.Савясцянік, 1914 г. н.*
*в. Янова Ваўкавыскага раёна, 1994 г.*

**215.** Хлеп пяклі рэтка. Як у каго сям'я. Раз у тыдзень, а то і раз у два тыдні. Як зьядалі, так і пяклі. Калі скончыцца хлеб раней, чым пячы будзеш, то мусілі пазычаць у суседзяў. Паважаць табе на бязьменьчыку колькі там, столькі потым і аддаць мусіш, калі ўжо свой мець будзеш. У кожнай хаце была свая дзяжа з закваскай для хлебу. У першы дзень рашчынялі для закваскі, а назаўтра ўжо мясілі. Замесіш яго, дык трэба, каб яшчэ колькі гадзін падыходзіла. Падыдзе, ды і ў печ яго. Шмат на што маглі выкладаці. Выкладалі на лісты розныя і на бляшку. У хаце печ тапілі і хлеб у гарачую печ садзілі. Пасадзіш, бывала, ды дзьверы на клямачку прыкрыеш, каб ніхто ў хату не зайшоў. А то ш казалі, як хто зойдзе, то хлеб не падыдзе. Хлеп пячэш, то на цэлы дзень больш ніякай работы няма. А як ідзеш па вёсцы, і ў якой хаце робяць хлеп, то здалёк ужо пачуеш. Так пахне, што на ўсю вёску. Нічога хіба смачней не было, як хлеп сьвежы. Мы ўжо стараліса, як хлеп пячэм, так і масла зьбіці. Дастанеш яго сь печы, дзеці зьбягаюцца. І хто ш чым: хто з маслам, хто з малаком аб'ядаліса. Зато сваім ні шкадавала. А ў суседзяў, у тых шмат дзяцей было. Ну і ў іх трохі так галадалі. Пат сталяваня* былі яны зрабіўшы палічку. Ну й на яе ўжо складалі хлеп. Дзеці то не дастануць яго там. У бацькі папросяць, то мо дасьць, а мо й не. Мае дзеці часьцяком бегалі да іх пагуляці. Як пойдуць зрана, дык і не прыклічаса давечару. Ужо ідзеш з дупцом. Дачка да іх усё лётала. А ў їх што ш, сваіх едакоў хапала. Яны ёй за цэлы дзень нават скарыначкі ні дадуць. Яны сям'ёй – за стол, а яна – у куточку. Ну й ясна. Хто хоча чужога дзіцяці карміць? Кап хоць сваім хапіла. Як гаспадар скажа, так і будзе ў хаце. Дзеці і рота разінуць баяліса. Не то, як цяпер. Дык хоць і парадак у сям'е некі быў. Дзеці бацькоў паважалі. А цяпер як паслухаеш, дык страх.

*Г.П.Лацкевіч, 1925 г. н.*
*в. Азёры Гродзенскага раёна*

### *Пачатак калгаснага жыцця*

Гл. таксама № 59, 62.

**216.** Раней былі ў адзіналічасьцьві*. Была свая зямля. Коньмі гаралі, сеялі самы, баранавалі, сярпамі жалі, цапамі малацілі. Сеялі лён, палолі яго, рвалі, сушылі, абівалі семяна. Патом церлі, трапалі, часалі, пралі і ткалі. Ткалі палатно. С палатна шылі сарочкі і простыні. Патом арганізавалі калхос, забралі зямлю, коні, вазы, плугі, гумна. Сталі сеяць калхозам. Людзі баяліся, ні хацелі ў калхос ісьці, плакалі, што паздыхаям з голаду. Людзям было страшно, што як гэто будзям жыць бес свае зямлі. Сталі назначаць хадзіць на работу. Прышоў гараць трахтар, людзі беглі глядзець на яго, як на цудо. Патом прышла малацілка. Трудно было прывыкаць, але прывыклі.

*Д.Ю.Смурага, 1933 г. н.*
*в. Яруцічы Зэльвенскага раёна, 1993 г.*

**217.** Цяшка жылося мне, за сваё жыцё шмат нагараваўся. Я радзіўся ў трыццаць першум року* ў вёсцы Кавалеўшчызна, пасьля стаў хадзіць да школы, але хутка зачалася вайна. Немцы зайшлі ў нашу вёску – і кончылася ўся мая ўчоба. У той час у вёсцы кіраваў солтыс*. Людзям трэба было аддаваць яму лішнюю жывёлу. Помню, мы тады далі цялушку і адну сьвіню, бо што немяц скажа, так і было. Раней пісалі, хто веля* малака, мёду, яяк здасьць, бо як здасі сто дзесяць літры ат каровы малака, тады давалі па дзьве кілі солі, карасіны адзін літар. Цяшка было з гэтым солтысам ужыцца, бо натта гаткі быў, людзі гора мелі зь ім. Ужо ў сорак чвартым* саветы выгналі немца. Надышла савецкая власьць. Людзі тады адналічна* жылі, калхозаў ні было, малако, мяса сваё мелі, алі прыходзілася хаваць, бу за агентамі ні можна было жыць. Ніхто спакою ні меў. Яны ганялі людзей ў лес на работу, білі тых, хто проціў што казаў. Тады ў калхос ніхто ісьці ні хацеў. У нашай хаце было забраньне*, бабы ўсе плакалі, думалі, голат будзе. Палова людзей патпісалася, а астатніх застаўлялі сілай. Потым міне забралі ў войска. Два гады ні прыходзіў дахаты, а калі вярнуўся, у калхозе была пабудавана канюшня, кароўнік свой мелі. Ужо пры мне пайшлі першыя камбайны, яны яшчэ былі бес кабінаў, зярно высыпалі рукаяткай. На той час у нашым калхозе, помню, яксьці вялікія малацілкі былі, нямецкія, казалі. Мы цэлай брыгадай малацілі: адныя ськівалі снапы, другія падносілі да малацілкі. Тады пускалі ў цапы, зярно адзялялі і коньмі адвозілі салому. Машынаў тэш* ні было, трактары, праўда, у нас два былі. Добра помню, як

першыя «Беларусы» прыгналі ў калхос. Цяшка жылося, і так як я дагэтуль дажыў. Калхос у нас бедны быў, дасьць сто кіль зярна авансам, а ў канцы падаб'юць, і астанеся вінаватым, вышчытаюць і ў другім годзе скажуць адрабіць. Помню, зь вясны коней бярэш, запрагаеш, а яны слабыя пасьля зімы, іські ні хочуць. Аграном дае тры бабы садзіць бульбу, тады барануім, ну ту давалі за гэта сорак сотак: палову бульбай, палову зярном садзілі, так і мелі. Касіць, бывала, пойдзім, касцоў дзесяць – пятнаццаць ішлі, бабы нам тэш памагалі: грабалі, сушылі, насілі ў гумны, потым жывёлу кармілі. Цяшка было з рук** рабіць, алі ш нікому ні пажаліся. Як восень прыдзя, рабілі дажынкі. Брыгадзір вычытваў лепшых работнікаў, даваў ім за гэта больш зярна. Людзі зьбіраліся ў адным двары, мелі сваіх музыкантаў, васало было, танцавалі, сьпявалі, там я і з жонкай сваёй пазнаўся. Так я і жыў: і гора, і дабра нагледзіўся за свой век. А тэрас*, як прышлося дажываць, адзін астаўся: жонка памярла, сын выяхаў у Маскву. От такоя маё і жыцця.

*В.Д.Сцефановіч, 1931 г. н.*
*в. Кавалеўшчына Воранаўскага раёна, 2003 г.*

**218.** Было гэта, кажыся, у пійсятым або ў пійсят чацьвёртым годзе. Хацелі мяне раскулачыць. Мелі мы крыху зямлі, ля* вунь ля, прас вакно бачная, што каля Ляхаўшчыны, мелі шмат гавец, мусяць, чатыры каровы, гусі, куры. Гэтае зямлі якрас хапала, кап нас карміць усіх. Але ш восяка, што было. Аблажылі саветы мяне велькімі падаткамі, і, скажытыся*, прыйшлося мне хавацца па лесе, бо грошай у нас ценгле* мала было. Хаваўся я і ў Міцкевічавым лесе, і па Рачышчы гойсаў. Праседжваў я ў лесе цалюткімі днямі, а на вячэру ўжо дахаты прыходзіў. Бало, баба наша сама мне ў лес есьці прыносіла, што дзе скрозь робіцца, гаварыла. А то ля, рас прышла зарованая* ўся: «Вой ліхенка!» Кажу: «Што там нарабілася?» А баба наша размэчганая* такая, уся рассалепаная*, запыханая, заплаканая, кажа: «Штосяка прыехалі гэтыя тоўстыя кіндзюкі* з раёна і пазабіралі ўсё, што было: гоўца, каравы, курэй, гусей». Я, кажа, прасілася – не рушце нічога, а яны не ўслухаліся. Вой людзячкі**! А што-то, скажытыся, нарабілася. І напісаў я зь леса пісьмо ў Маскву. Пісаў, што я тутака рабіў як чалавек, а розныя бэбахі* й кіндзюкі землю адбіраюць. Але ш як час прайшоў, дайшло да мяне, што пісьмо маё нават да Зэльвы ні дайшло, што, скажытыся, вынялі яго. Тады што рабіць? Асьмеліўся ш ды ў Маскву паехаў. Усё апхадзіў, бо, ля, шукаў гэтае міністэрства па налогам. Калі знайшоў, то пусьцілі мяне ў некі кабінет, сядзеў там у кабінеце дзет барадаты, барада, што ў папа Забалінскага. Я гаварыўшака, чаго

прыехаў сюды, а гэты дзет усё слухаў, па кабінеце пачаў хадзіць туды-сюды, а патомака сказаў мне: «Едзь дахаты. Такое беды**! Усё ў цябе добра будзя». Тады далей так яно й было.

*Б.І.Патаповіч, 1915 г. н.*
*в. Забагонне Зэльвенскага раёна, 1993 г.*

**219.** Як гналі ў калхос, абкладалі падаткамі. Выплаціш адзін – другі накладуць. А людзі не хацелі ісьці, хаваліся, уцякалі. Хавалі скаціну ў лесі. Пагарадзілі на лесі загарады і хавалі сьвіней, кароў. А потым райфо агледзела, што на лесі, што па лесі хаваюць сьвіней, так прыходзілі нават і на лес забіралі і гналі ўсё ў калхос. Гэта было зімою. Аднаго нашаго суседа ўнаранку, як толькі разьядняла, акружылі хату і сталі ад яго усё вывозіць. Запраглі каня, на сані паклалі велькага паршука, да саней прывязалі карову, якая толькі што ацялілася. А яго жонка баялася, кап не забралі вайлакі* і кажух, і адзела на сябе. А кажух доўгі, аш па пятах брытаецца. А яе мужык натта хацеў раней бальшавікоў. Як бальшавікі прыйшлі, ён натта цешыўся, што прышлі таварышы яго. А потым, як сталі ўсё забіраць, яго ўсё жонка драчыла*: «О, таварышы, бальшавічкі твае, паглядзі, як абіраюць, таварышы твае. Пацалуй ты іх!..» А ён як дагоніць яе, як дасьць грымака** ў плечы, так яна й ляжыць на сьнягу. Яна падымаецца і зноў на яго, што таварышы-бальшавічкі горнуць, забіраюць усё, а ён ізноў ёй у плечы. Райфо ў іх адбірае, а яны так на гуліцы біюцца. А потым прыехалі і забралі яшчэ ат іх стох сена, і ў стозе знайшлі схованы вос, і той вос забралі. А адна бапка ў нас у вёсцы, удава, і ў яе забралі адзеня куфар, пасьцялкі. Цэлу вёску памясілі. Дось усіх людзей абіралі за падаткі. А дзеці потым усё гулялі ў тое райфо. Адзін – Казлоў, другі – яшчэ нейкі з райфа. Дось іх грумада* было, чалавек шэсьць прыягджала. Цяшко было жыць. Што адабралі, тое, хоць і пойдзеш у калхос, то не адавалі. Зьдзіралі ш чалавека астатняя адзеньня, вобуй.

*М.С.Дубінка, 1926 г. н.*
*в. Першамайск Шчучынскага раёна, 1996 г.*

**220.** Вярнуўся мой муш посьля вайны. Сталі мы будаваць другое гумно, бо немцы, як атступалі, нам гумно спалілі. І вос сгарэў, і бярвеньні было ў гумне згарэлі. Усё пагарэла, што было. Сталі ганяць у калхос. Яго адразу калхозным прэдсідацілям выбіралі, а ён ні паслухаў, ні захацеў, баяўся, бо людзі проціў былі калхозаў. Дак як зазлаваліся на яго, што ён ні пашоў, яго ўжо як бы праступнікам. І вот нам разабралі гумно, і, помню, збожа прышлі. А я ўжо хадзіла бярэмянай дзяўчынкай, бо хлопчык быў першы, як ён быў

на вайне, а потым ужо дзяўчынкай. І яны скінулі ворак* жыта з гары* забіраць, абагуліваць ужо гэтыя, сабіраць. А я села на ворак жыта і кажу: «Троньце міне, скіньце, бярыце!» І палядзелі яны, палядзелі, што я баба бярэмянная, і того жыта ні бралі. І рас ізноў прыходзяць абагуліваць. Усё чыста ўжо ababралі: і куры, і гумно, і сьвіня, і ўсё. Прышлі, астатняе ізноў аддавайця ўсё, што ест. А сын старшы сядзіць і кажа: «А што ш мы есьць будзям?» А яны палядзелі і гавораць: «О, які памешчыцкі абет». І пашлі. А патом ізноў вярнуліся, дык я кажу: «Во што дзіця гаворыць: мама, а што ш мы есьць будзям, як у нас збожа, астатняе жыта забяруць, хіба з гліны зацірку варыць будзям?» От. Ну яны – а хай цябе з бабай, завярнуліся і пайшлі. Ні забіралі нічога, жыта ўжо ні забіралі. Як нам цяшко было. Ужо ўзялі яго праціўнікам. Дзе аткуль – так усё, дзе што – ужо ён праціўны, што ён ні пайшоў ужо за пратсідацеля. Ён ні хацеў, бо баяўся, бо тады палілі і забівалі. Хадзілі ўсяляк, усяго было, от. Ну й потым ужо што ш рабіць – пашлі ў калхос, сталі людзі ісьці, пайшлі й мы. Хадзілі, рабілі: і снапы падавалі, і буракі матыкавалі, лён рукамі рвалі, мялі – і ўсё цяшко было. Хадзілі і ў гумно, і снапы падавалі на машыны, на вазы, і вазідлі збожа с поля. Усё працавалі цяшко. А потым ужо патрошку сталі калхозы ўжо багатшыя, сталі на ногі. Сталі рабіць, палучаць палучку. Так і пражывалі, а потым ужо падрасьлі дзеці, ужо стала троха ляхчэй.

*Г.Т.Сакалоўская, 1919 г. н.*
*в. Геранёны Іўеўскага раёна, 1996 г.*

## АДПАЧЫНАК, СВЯТКАВАННЕ

### *Калядьі*

**221.** Каляды начыналіся так: строілі ўсё, рабілі. За нідзелю да Калят прыбіралі ў хаці, тудака эта пяклі ўсё. Патом, калі папрыбіраеш у хаці, рабілі павучке с саломы, вешалі да сталяваня*, яны віселі, вот эта сама. Ікону прыбіралі сь цвятамі с паперу і вешалі харошы рушнік на ікону. Патом ужэ натходзіла сьвята, пяклі ўжэ што там маглі, што мелі. Пяклі с муке пірагі такія посныя на Куцю і рабілі такі квас* с грыбоў, каторы вараны быў, як крупнік. Мама пякла, а мы ставілі елку. Выразалі с паперу зайчыкі, тамака вавёрачкі і вешалі на елку. Ну яблычкі, калі былі ў нас, вешалі. На стол мама пат абрус лажыла сена і ў покуць. Патом эта сена називутра нясьлі каровам у хлеў, аддавалі есьці. Ну а патом сьвяткавалі. На Куцю самы аспадар сядзеў за сталом, першы аспадар начыноў, вот,

маліліся сразу, гаварылі пацеры, вот, тады елі куцю. Была куця, такая пярловая каша, сялётка, рыба, ну і пірашке там і рыбныя, капусныя. Вот так і такая куця была. Як паелі куцю, то лажыліся спаць. Стала не ўбіралі, стол назаўтра ўбіралі, гэта ўсё пакідалі на сталe. Ну а назаўтра ўжэ, канешне, другое. Там ехалі ў цэркву тада рана, а патом с цэрквы прыехаўшы, ужэ тады начыналі сьвяткаваць. Вот там і бутылачку ўжэ можна, на Куцю ні пілі, німожна. Вот такоё ў нас было ўсё. На другі дзень нічого ні рабілі, эта ні рабілі тры дне, а патом днём рабілі, а вечарамі не. Эта былі сьвятыя вечарэ. Хадзілі адзін да другіх, хто ў госьці, а дзеці гулялі. Такі ў нас абычай быў. Дзьве нідзелі сьвяткавалі, вечарамі нічога ні рабілі, хадзілі на вячоркі, елка стаяла, там сьпявалі, танцавалі, каля елкі этай, ну і вот так. Патом Тры карале былі, і мы хадзілі тры карале сьпявалі. Заходзілі ў хату, у кажду хату заходзілі, пра зорку калядну гаварылі ўсё, што чакалі першай зоркі, той чакалі, калі тая перша зорка засьвеціць – начыналі ўжэ вячэраць. Вот есьлі зорніста неба, та казалі, куры будуць несушчыя, а есьлі хмурна неба, то каровы дойныя. Вот так у нас на Куцю гаварылі. Ну вот так, вот такі ў нас быў абычай. Што яшчэ я магу тут сказаць? Ну і мы варажылі: хадзілі пат вокна, хадзілі, хлопцы варота зьнімалі, пат вокна слухалі, хто што гаворыць. Адзін кажа, што ідзі там, ідзі. Ну эта добра, як ідзі, есьлі кажа сяць – ужэ нідобра. Вот так слухалі. Яшчэ хадзілі слухалі, дзе сабаке там брэшуць, у якой старане, туда замуш пойдзем. Ну і яшчэ драва бралі, паленаў сколькі хвацім, есьлі да пары, значыць, выйдзям замуш. Мерале яшчэ туфлі да ці там які вобуй мелі. Ат покуці да парога мерале. Як пападая, есьлі пападзя носікам, значыць, ідзем замуш. Вот, ну што яшчэ, ну вот такія былі ў нас скаскі маладым. Ну вот і так, так сьвяткавалі. Вот такоё сьвято ў нас было. Хадзілі на Тры карале ўбраныя, на ім шапкі былі такія харошыя, залацістыя шапкі такія і зорка ў хлопцаў. Вот яны і прыходзілі, і пыталіся, ці можна ў хату вайсьці, вот, і сьпявалі. Можна – усе ўваходзілі, ніхто не атпраўлёў, і вот, і эта яны прыходзілі. Ну і патом ім давалі там хто што мох, там ужэ не абязацельна, хто што мох, то і даў. Вот так яно было. Яны пасьпяваюць, патопаюць і патанцуюць. Эта на Тры карале ўжэ можна было і гуляць, бо гэта заканчвалася сьвята ўжэ. Прас дзьве нідзелі сьвято заканчвалася, тады патанцуюць. Так было. У хатах і кілбасы давалі, і воткі давалі, ну ўсяго давалі, хто што меў, хлеба давалі. Раней іньцярэсных блюдаў ні было. Кісель быў аўсяны, што там было, ціпер кісяля аўсянаго ніхто ні варыць, а тады кісяля наварaць аўсянаго цэлу дзешку, і вот і с малаком ці с салоткай вадой ядуць. Вот такоё было, тады быў заўсем другі абычай. Бяд-

ней людзі жылі, але былі вясёлыя, ні ругаліся так, як ціперака, неа, а ціпер страшна, хай яно вытаня**. Вот так яно было ў нас.

*М.В.Гей, 1927 г. н.*
*м. Парэчча Гродзенскага раёна, 2002 г.*

**222.** Помню, зімою, на Коляды, хадзілі калядаваці. Рабілі зьвязду і хадзілі па гуліцы, калядавалі. Тады даюць нам грошы, вотку, кілбасы. Гэта ўсё складаям разам і сьвяткуям. А то зьбіраліса чалавек дванасьця* і ідзём варажыць. Насыплям зярна кучкі і курыцу выпускаям. Да чые кучкі першай падыдзеся, тая перша замуш пойдзе. А то хадзілі на двор па дрова. Набярэм бярэма і нясем у хату і лічым, сколька іх. Калі ў пару, то замуш пойдзям. Сьмяяліса. А то шчэ хадзілі пад вокна і слухалі, што гавораць у хаці, і тожа дазнаваліса, хто замуш пойдзя. Пасьміемса, пажартуям і дахаты ідзем.

*Л.В.Хомка, 1915 г. н.*
*в. Галавічполе Шчучынскага раёна, 1996 г.*

**223.** Сабраліся мы, было сьвята Каляды. Ну от, сабралася молаць, дзяўкі, хлопцы, і пайшлі ў вёску зьнімаць вароты. Мы, значыць, павінны былі заняць гаспадароў. А хлопцы ў гэты час зьнімалі вароты. Ну от, мы прыйшлі па шчодрыкі, гаворым, значыць: «Шчодры, шчодры вечар добры, дайця каўбасу, занясу Міхасю, дайця скварку, занясу Міхалку». От, ехаць ці ісьці, пыталіся. Як гаспадар атказваў «ехаць», то мы крычалі ўра і выбягалі з надворку, а як казаў «ісьці», то хлопцы зьнімаць павінны былі ў гэтай хаці варота або залажыць комін, кап дым ні прайшоў у пячэ. Або якую другую шкоду: дзьверы патперсьці, кап ні можно было аткрыць хлеў ці хату. Ну і вось мы гэдак па ўсёй вёсцы. Усе былі людзі добры і нам усё жадалі ехаць. А быў адзін гаспадар, ён ні меў сваіх дзетак, яму Бох ні даў мець сваіх дзетак. Ён быў натто злы на чужых. І вось мы зайшлі да яго зьнімаць тыя вароты і крычымо: ехаць ці ісьці ў канцы. А ён выходзіць с хаты, бярэ неку мятлу ды кажа: «Я ось вам дам ехаць ці ісьці, усе вы зара* ў міне тут пойдзяця!» І пачаў нас лавіці, ды злавіў, якрас міне злавіў за варатнік. Кажа: «Я зара паляну, чыя ты. А, брыгадзірава. Усё далажу бацьку, будзя табе німало**. Лянь ты, завадатарка прыехала». А я тады ў Зельві вучылася, хлопцаў сабрала вароты здымаць. Усе расбегліся, але за мною засталося-такі пару дзяўчат. Ён мяне за варатнік. «Павяду да бацькі», – кажа. А бацькі майго на той час у сяле ні было. Я думаю: вядзі, куды ты міне павядзеш? Тут ён успомніў, што бацькі німа, хацеў нешта сказаць, а я гэты час зьбег-

ла. Узаўтра прыехаў бацько мой. Мы нешта разам рабілі ў хаці, ажно бачу, гэты дзяцько йдзе, што мы вароты зьнялі. Павітаўся ды кажа: «Гэта твая малая натто ш шпарка, падбухторыла хлопцаў, і зьнялі ў міне вароты, на лёт кінулі, кап паплылі. Нікаторым у канец сяла занясьлі, пад магазін, на тын. Быля*-куды пазаносілі». – «Няўжо праўда? Ну я ёй дам», – тато кажа. А я тэш* у хаці была, толькі схавалася ў кухні, у боццы велькуй. Дзяцько гэты пайшоў. Тато падыходзіць да бочкі й кажа: «Вылась, ні бойся. Адно толькі скажу табе: больш варот ні здымайця ў тых людзей, што дзяцей ні любяць». Засьмяяўся ды пайшоў. Так ось, дзеткі, добро для міне скончыліся гэтыя Каляды.

*М.Ф.Мацяс, 1932 г. н.*
*в. Дружная Ваўкавыскага раёна, 1996 г.*

**224.** Як раней Коляды спраўлялі? Бралі дзіця года два і лажылі ў жалабок на сена. За гэтым падбіралі Маці Божую і сьвятога Восіпа. Гэтае дзіця са жлопкам лажылі пат шопку*, а побач станавіліса Маці Божая і Восіп. Да гэтага яселка рыхтаваліса цэлы месяц, а ўжо малыя дзеці ні маглі дачакацца гэтага сьвята, натто інцярэсна ім было. Так было на першы дзень Калят. Куцю спраўлялі прат Калядамі. Сьпярша на стол лажылі сена і засьцілалі белым абрускам, ставілі тады не менш за дванаццаць блюдаў. Мяснога нічога ні было, толькі ўсё поснае. А заўтра са стала ўбіралі, а сена несьлі каровам, авечкам, каню. Усім па жменьцы давалі і верылі, што яны будуць гаварыць міш сабою ў гэтую ноч, так што малыя дзеці хацелі ісьці пільнаваць, кап патслухаць, як яны будуць гаварыць. Пасьля Калят маладыя хадзілі па хатах і насілі зорку, у якой быў жлобак і сьвечкі. А дзеці с цэлай вёскі хадзілі за імі і ажыдалі, пакуль тыя выдуць. Сьпявалі калядныя песьні, паздраўлялі гаспадароў хаты. За гэта ім давалі сыр, масла, кілбасы. Так маладыя хадзілі цэлую ноч. Адну вёску пройдуць – заўтра ўйдуць у другую. За сьвята праходзілі каля васьмі вёсак. Пасьля гэтага ўсяго ўстройвалі танцы, а дзеўкі нават варажылі. Пасьля Куці выходзілі на двор і прыслухоўваліса, зь якой стараны сабакі забрэшуць, значыць, у тую сторану пойдзе дзеўка замуш. Я помню, як была яшчэ маладая, вышла на Куцю ў сат. А была сьліўка, што ні давала ўраджаю ўжо дзесяць гот. Пастукала я па гэтай сьліўцы сякерай і сказала, што калі ў гэтым годзе ні ўродзіш, вырубаем цябе с коранем. А летам так урадзіла сьліўка, што галінкі аж да зямлі гнуліса.

*Я.К.Міклаш, 1928 г. н.*
*в. Лапенкі Гродзенскага раёна, 1996 г.*

**225.** Шэсьць нядзель посту. Колядамі нічога скаромнага есьці нямможна. Першай Куця была поснай. Варылі квас* з грыбамі, мак малолі, піраге пяклі з бульбы цертай. Потым была Другая куця, але кашу варылі са скваркамі. Кілбасу таксама можна было есьці. Прас тыдзянь – Трэцяя куця, зноў посная. Крупнік варылі з грыбамі, булку пяклі з макам. Хадзяін хаты прыносіў сена, а хадзяйка яго на стол клала, засьцілала абрусам. Тады ўся сям'я садзілася. Маладыя дзеўкі выцягвалі с-пат абруса па сяніне: калі доўгая, то далёко замуш пойдзя, калі кароткая, то нідалёко.

*Н.С.Павядайка*
*в. Замасцяны Шчучынскага раёна, 1996 г.*

**226.** *Я* раскажу, як сьвяткавалі раней Каляды. Сьвяткавалі Каляды сёмага студзеня. Вечарам рабілі куцьцю. Тато ўпрaвіцца і прыносіць с хлява пад рукою сена. Сена кладзе ў покуці. Стол для вячэры ставім на покуці хаты. На яго кладзём сена і засьцілаем белым абрусам. Пан *Е*зус радзіўся ў сені. Усе сядаюць вячэраць. Мама падае посную куцьцю. Дастае с печы куцьцю, селядзец, алаткі на алеі, аўсяны кісель, вараны гарох. Гарох ніколі ўвесь не зьядалі, а тато ім апсыпаў вульлі с пчоламі і сат, кап новы рок* быў багаты на садавіну і на пчол. Сена і ўся вячэра са стала не сьнімалася, заставалася да раніцы. С-пат абруса выцягвалі сена: у каго даўжэйшае, у таго лён будзе даўжэйшы ўлетку. Глядзелі, якіх зярнят болей за ўсё заставалася на сталe, пат сенам, які ўраджай будзе ў наступным годзе. Само сена тато аддаваў жывёле, кап не хварэла. Посьля вячэры рабілі ёлку, калядаваньне. Зьбіраюцца хлопцы, дзяўчаты, адзяюць розныя маскі і ідуць па хатах калядаваць. Прыходзілі пад вокны людзей і сьпявалі калядныя песьні:

Шчадрую, шчадрую,
Кілбасу чую.
Сьвяты вечар.
Дайце кілбасу.
Сьвяты вечар.
Дайце мне грошай –
Падзякую большай.
Сьвяты вечар.

Рабілі маскі жывёл, выварочвалі кажухі. Заходзілі ў хату, віншавалі са сьвятам. Назаўтра ўжо была багатая куцьця: жарылі кілбасу і стравы зь мяса. Сабіраліся і рабілі танцы пат гармоню.

*П.А.Бобрык*
*в. Манцякі Зэльвенскага раёна, 2004 г.*

**227.** Вот падыходзяць Каляды. Перат Калядзьмі бывае Андрэя, і маладыя дзяўчаты варожаць. Сеялі каноплі каля студні і гаварылі: «Сьвенты Андрэй, сею канапелькі, дай Божа знаць, с кім буду век векаваць». Вот рыхтуемся да Куцьці. Дваццаць чацьвёртага дзекабра Куцьця. Маткі пяклі дванаццаць блюдаў, усё каб было посная. Ізноў дзяўчаты варожаць, дровы нясуць у хату, цеста кідалі, сабаку пускалі: хто першы хваця кусочак, замуш пойдзеш першай. Нараніцы ідзем на пастэрку*. Цёмненька яшчэ. Бох ведае, якое сьвята ўстраівалі. Дзяўчаты вячэру строілі па очарадзі. Як зьядзём куцьцю, ляцім на поле, дзе пасеяна жыта. Кладзесься на зямлі і слухаеш: як музыка зайграе, замуш выйдзіш. Па нябошчыку сьпяваюць – памрэш. Посьле Куцьці мяцем хату, бо ў лошках была салома. Слухалі, у якой старане сабака брэша, у гэну старану замуш пойдзеш. На Коляды разам сабіраліся ўсе родныя. Чыста прыбіралі хату, вымываліся самыя, калолі парсюка. Калі на стол ставілі, то перш пат цырату лажылі сена. Гатавалі тылька посныя стравы. Раней купіць не было, то рабілі самыя. Варылі кісель. Перш авёс сушылі на пеццы, а потым валкам пабівалі асьцюкі. Зьмелюць і рашчыняюць аўсянку. Пяклі сьлізікі да салоткай вады. Цукру не было, саладзілі сахарынкай*. Многа блюдаў гатавалі, сьвята вялікае, родныя сабіраліся, нічога ні шкадавалі. А самае галоўнае – пансак* – каша с круп і фасолі. Яшчэ пяклі булачкі з макам. Мак сякерамі церлі, бо машынкаў тады не было. Ну і выпіць ш хацелася, але тылька віно дазвалялі. А як запальвалася першая гвязда*, усе сядалі за стол. Адное места пакідалі для Пана Езуса. Сеўшы, усе модляцца, ядуць аплатку. Трэба папробаваць кожнай стравы. Нанач са стала нічога не зьбіралі, бо той, хто памёршы, уночы прыдуць частававацца. Назаўтра астаткі са стала аддавалі скаціне: курам, карове. Позна вечарам, посьля куці, сабіраліся дзяўчаты варажыць. Яшчэ на Андрэя ставілі ў ваду ялінку вішні, а на Куцю глядзелі: калі заквітла, выдзеш замуш. Сыпалі ў кучкі ячмень і выпускалі пятуха. Да чые кучкі падыдзе, той і замуш ісьці. Яшчэ, як сьмяцё с хаты выносілі, слухалі, у якой старане сабакі брэшуць – у ту і замуш пойдзеш. Хто яго знае, ці праўда, але ў некаторых збывалася. На першы дзень посьля Куці зьбіраліся ў адной хаце і сьпявалі песьні, танцавалі, гулялі, жартавалі. На Новы гот хадзілі калядаваць. Аднога прыбіралі ў старое адзеньне – стары рок*. Другі ш быў адзеты сьвяточна – новы рок. Новы рок усіх віншаваў, а стары плакаў, жаліўся. Гаспадары частавалі іх чым мелі. Яшчэ хадзілі калядаваць на Тры каралі. Сьпявалі песьні. Людзі надзявалі перавернутыя кажухі і хадзілі па хатах. Гэта былі тры каралі: Каспар, Мельхер і Бальтазар. С сабой яны насілі берлы*, казу* і

гвязды*. Як адыходзілі, на дзьвярах пакідалі знак К+М+В. Думалі, што тады ў хаце будзе шчасьце і дабро цэлы рок. Посьля Трох каралёў больш не калядавалі. Пачыналі брацца за працу, якую адлажылі за час сьвятаў.

*А.В.Лоўчыс, 1928 г. н.*
*в. Павіланцы Воранаўскага раёна, 1997 г.*

**228.** Вот і сьвята Коляды. На Коляды прыгатаўляемса, мыем падлогу ў хаці, шаруем венікам, кап была жоўтая. А патом ідзем ў хлеў, рэжам сечку там для каровы; на тры дне нарэзваем, кап карові рэзаць сечкі ні было, сьвятам не рэзалі. Бо сьвята – значыць грэх. А палім печ, пячэм хлеп у пячэ. Варым куцю. А такі быў гаршчочак, гліняны гаршчочак. А ў гэты гаршчочак паложым куце, зварым куцю, рыбы ні жарылі, а ў гаршчочку натушым. Так паставім, і яна ў пячэ сьпячэцца эта рыба. Напячэм аглаткаў такіх вялікіх на этуй, на патэльні. Патэльні вялікія. І аглаткаў многа-многа напячэм. Цэлы такі велькі стох, кап было на ўсіх. А тадэ прыносім дахаты сена, ложым сена на стол і засьцілаем такім абрускам. Такое саматканыя, такі белы, ну, добры такі, харошы. І тадэ ставім куцю на стол і завем эта ўжэ штобы пры... А куцю пачынаем есьці, када ўжэ зойдзе слонца і ўжэ ўсе зоркі на небе паявяцца. Тадэ толька можна было есьці эту куцю. І сядаем ўсе за стол. Ні пілі ні воткі, скаромного ні елі. А быў пост, шчыры пост. Цэлых шэсьць нідзель перат Колядамі. І вот тадэ сьвята ўжэ назаўтра. Рана ўстаем, раненька. Усе ўжэ, этыя, мы дзеці ў хаці сядзім на пячэ, а маці там, у каго есьць. Едуць ўсе да цэрквы і, эта, санямі. А ў сані запрагуць каня. А конь такі, харошыя эція галаголы* такія, звончыкі, прывязаныя да саней, харошай радзюшкай* засланы сані. Сядаюць ўсе на сані і едуць да цэрквы. Прыязджа... патом прыедут, і ўжэ ўсе с цэрквы ўжэ ўсе сядаюць за стол. Раненька прыедуць – ужэ сонца зыдзя, і тады сядаюць усе за стол і сьвяткуюць сьвята. І тады назаўтра, ужэ як сьвята, тады ўжэ ўсім. Як мушчыны у каго есьць у хаці, та ўсім даюць па чуць-чуць трошка воткі. Такі маленькі быў кручок*, маленькі-маленькі. Я ні знаю там, скока там было, лезла ў той кручок. Мушчынам давалі, бабы нігда* не бралі воткі. І бабам нігда воткі ні давалі, бабы нігда воткі ні пілі. А только мушчыны трошка. Нігда п'яных я ні відзела, штобы былі п'яныя. А ўжэ – эта першы дзень сьвята, а на другі дзень сьвята зьбіраюцца ўсе: і дзяўчата, маладыя хлопцы і нанімаюць музыканта. І тады робяць забаву такую. І танцуюць у хаці, і гуляюць у хаці, а вечарам бяруць такую, зробяць зьвязду і ходзяць па хатах. І хто што дасьць. Выбіраюць. Хто каўбасу дасьць, хто пірох

дасьць, хто што. І тадэ гуляюць. Два дне гуляюць сьвята эта. А танцы. Ці раней былі танцы другія, як ціперака танцы. Ціперака зусім другія танцы. Ціперака ўсе танцуюць, не знаяш, хто сь кім што танцуе. Калісьці дзеўку бралі хлопцы танцаваць (гэта было ні так, як ціперака ? дзеўкі бяруць хлопцаў танцаваць), а калісьці хлопцы бралі дзевак танцаваці. І танцавалі добра так, хораша танцавалі «Лявоніху», «Гракавяк» танцавалі. І ўсякія і такой быў яшчэ названьне такога танца «Падзіспан». Такі танец быў добры. А бабы так любілі пайці пад вакно паглядзець, як іхныя дочкі ілі сынэ танцуюць. Пад вокнамі глядзяць ходзяць. Было весела. Жызьнь, жыцё было такое вясёлае, прыгожае было жыцё. А асоба ў вёскі, у горадзі ні знаю як, а ў вёскі – добрая была. А як начнецца ўжэ, эта, зімой-та гулялі, а як начнецца-та вясна, а работы было скока многа – усяго.

*В.С.Альховік, 1925 г. н.*
*в. Навасёлкі Гродзенскага раёна, 2001 г.*

## Вялікдзень

**229.** Пасха лічыла,са вялікім сьвятам. Ніхто нічога не рабіў, людзі весяліліса. Найперш на гэтае сьвята людзі шлі ў царкву сьвянціць яйка. Палуночніца пачыналася ў адзінаццаць часоў вечара. Бацюшка с брацтвам ішлі ў царкву. Брацтво несла харонгі*, сьпявалі песьні. Людзі пасьцілалі палатно да ўходу бацюшкі, пасыпалі яго кветкамі, страчалі. Потым заходзілі ўсе ў царкву. У царкве каля іконаў людзі лажылі ядзеньне: каўбасу, сыр, мёт, с пут мукі ў карапкі. І з адзінаццаці часоў пачыналаса маленьне ў царкве. У дзьвінаццаць часоў пачынаўса крэсны хот. Уперадзі бацюшка, за ім брацтва с харонгам хадзілі тры разы круга царквы. Потым бацюшка ўзыходзіў на крыльцо і абвяшчаў Пасху: «Хрыстос уваскрэс! Хрыстос уваскрэс! Хрыстос уваскрэс!» Бацюшка абвясьціў Пасху, пасьвянціў яйкі, розныя прадукты. Людзі пачынаюць віншаваць адзін другога. Пасьля маленьня людзі разыходзяцца дахат. Прыходзяць дахат, пякуць булкі, рыхтуюць стол. Пасядзяць за сталом і выходзяць на вуліцу. На вуліцы зьбіраюцца валачобнікі. Хросныя бацька і маці нясуць валачоны сваім хросным сынам і дочкам. Валачобнікі б'юцца ў яйкі, прабуюць, чыё крапчэйшае. Іншы рас каторы валачобнік столькі яйкаў многа навыбівае. Потым валачобнікі хадзілі па хатах і віншавалі ўсіх са сьвятам. Стукаюць у дзьверы і гавораць: «Хрыстос уваскрэс! Пане гаспадару, дазволі дом павіншаваць». Аспадара і ўсю хату віншуюць са сьвятам, сьпяваюць песьні, а аспадар частуе валачобнікаў. Дае ім гро-

шы, яйкі, прадукты. Маладыя гулялі па вёсцы, хадзілі на рэку, каталіса на качэлях, сьпявалі песьні. На вечар спраўлялі музыку і рабілі танцы. Але ш кап ноччу патанцаваць, хадзілі па дазвол да немца. Атрымаўшы дазвол, гралі музыку і танцавалі. Уперамешку с танцамі гулялі ў фанты, цалаваліса. Весела было. Тры дні сьвяткавалі, а на чацьвёрты дзень – Градавая серада. Таксама не дазвалялася нічога рабіць. Бо грат усю зямлю сьпіша, не будзе нічога расьці. Хоць цяшка было рабіць, але вясельля пасьля сьвята хватала надоўга.

*З.М.Жук, 1907 г. н.*
*в. Канюхі Гродзенскага раёна, 1990 г.*

**230.** Раней у нашай вёсцы зьбіраліся жанкі, да іх прылучаліся пару мушчын, ну, такія дзяцюкі старэйшыя, а хто быў такі пранырлівы, той маладзейшы ішоў. І прыходзілі сьпявалі ў хацінах, а не пад акенцамі, а за прыталаку* зайшоўшы. А некаторыя і перат прыталакай стаялі. Чалавек хаты дзьверы рашчыняў, а яны сьпявалі. Болей сьпявалі сьвятых песень, пачыналі сьпяваць песьняй «Хрыстос уваскрэс». А потым і яшчэ якія-то сьвятыя, усіх там не запомніш. Пасьпяваўшы, чалавек хаты і яго баба, яго жонка, мусілі нешта даць ім. Якую-небуць вандліну ці кусок кумпяка, які запякалі ў цесьце, яйца, хто мо сыра даваў, хто мо масла. Зрэшты, давалі ў каго што было. Яны дзякавалі гэтага чалавека. Ну і жадалі гэтаму хазяйству ўсяго-ўсяго: і кап куры нясьліся, і кап скаціна не хварэла, і жыта радзіла, і сенакос добры справілі, і каб лён добры рос. Ну, а ў каго былі дзеўкі або хлопцы ў хаце, дык жадалі, каб у гэтай хаці да другога Вялікадзяня было вясельле або заручыны.

*В.П.Бойка, 1930 г. н.*
*в. Шылавічы Слонімскага раёна, 1992 г.*

## Вяселле

Гл. таксама №№ 5, 8, 114, 124, 127, 131, 141, 157.

**231.** Гэта так было. Едуць гэтыя... Сватаюць. Прыходзяць сваты. Ну не панравіцца гэта ей. А бацькам панравіцца. Ну і сілай яе аддаюць. Вот свадзьба. Прыбіраюць яе. Прыедзе малады. Ну там два сталы паставяць. І гэтыя. Яе прыбіралі ўжо, пасадзілі. І гэтыя, да вянца як ад'яжжаюць, кругом стала пасядуць бацькі. А хросныя і родныя. Тады дзевачка яе бярэ і водзіць кругом стала. Кланяюцца гэтым, бацькам. Тады яе ўжо паставяць на каленкі і пытаюць у бацькоў: «Ці е ў яе бацька і маці, ці пазволяць косы

пасмаляці?» Бацьке атвячаюць: «Пасмаляйце». Пасмаляць косы, тады ўжо яе выводзяць. Яна ўжо кланяецца. А дзяўчата папрыходзяць і сьпяваюць ей песьні. Ну катора плача, а катора не: рада, што замуш ідзе. А як ужо не плача, то ей сьпяваюць: «Станьце, дзевачкі, у палосы, натрыце ёй цыбулі пад вокі, кап яна плакала». Ну і выходзіць яна ўжо с хаты. Усім пакланяецца. Бацька ўжо бярэ хлеп, тожа абводзіць кругом гэтого каня, бо гэто былі гэтыя на конях едуць шалястуны*, і сваты, і дваццатнікі*, дзьве друшкі, і свах, і сваха. Большэ не было. А госьці ідуць ужо на гэту свадзьбу, нясуць бохан хлеба, закуску. Ну там стаіць два сталы, і гэтыя маладыя ўжо за сталамі сядзяць. А гэтыя госьці, ну, кругом гэтого эта ўжо сядзяць. Бярэ адна закуску, а другая бярэ хлеп, а трэця – гарэлку, і гэто ходзяць кругом ужо хаты. Гэто так свадзьбы былі ў маёй памяці.

А маё вясельле было, ужо калі мне было друшкі, трыццатнікі*. І дзве свахі, ну але тожа на конях ехалі. На конях ехалі ўжо калі... Цяпер ужо, як я ішла, то ўжо фата была, валян*, красівы і ўсё. Ну, і так я ішла. Ну, не было бацька, маці была, а бацька не было. Ну, тожа выпраўлялі, кланялася ўсім. Ну і так вот, я ішла. Такое вяселя было. Ну але ўжо людзей было много. Ужо, як я ішла, у хаці. І сталы ўсім былі. Усе за сталамі сядзелі. І так вот эта было. Ужэ ўсе забылі ўсё пра вайну і давай рабіць ужэ ў вёскі і свадзьбы, хто якія вяселі. А вяселі якія былі інцерэсныя, добрыя такія. На вяселя навараць квашаніны, а квашаніну якую ні бралі этым, а лошкамі* елі квашаніну. Сыраў наробяць, паложаць на стол і так гулялі вяселя, музыканты іграюць добрыя такія. А дзеўкі танцуюць. Прыпеўкі ўсякія, забаў ўсякіх. Ужо я прызабыла ціпер трохі этых прыпеўкаў. А ну вот эта на вёскі гаварылі. Так старыя бабы сабяруцца і гавораць, што лепей рана замуш выйсьці, чэм старой дзеўкай астацца. І ўсе так сьпяшаліся замуш. Але мая цётка ні выйшла замуш, патаму што яна-та выбірала: та малы, та лысы, та нос велькі, і вот так і асталаса ў старых дзеўках. А ў вёскі сьміюцца, што старая дзеўка астаецца. Вот. Жыццё, такое жыцьцё дзеравенскае.

*В.С.Альховік, 1925 г. н.*
*в. Навасёлкі Гродзенскага раёна, 2001 г.*

**232.** Свадзьбу раней рабілі так. Да маладой ішлі сватэ, малады са сваімі хрышчонымі бацькамі. Прыдуць, робяць запоіны*. Дзяўчына давала жаніху кусок тканіны, кап на вясельле шшыў сабе новую кашулю. Тады гавораць пра пасах. А прас нядзелі дзьве і робяць свадзьбу. За дзень да свадзьбы маладая зьбірае падружак. Плятуць вянке, робяць кветкі з барлінку*. Так і вечар гэты называ-

юць – вянкі. У дзень свадзьбы малады ўжо зьбірае дружыну* і частуе ў сваёй хаці. Тады едуць да маладой. Выходзіць бацька с хлебам с сольлю. Просіць у хату. Калі нявеста першая ўбачыць жаніха, значыць, будзе ў хаце камандаваць. Нявеста чапляла жаніху кветачку, тую, што сама зрабіла. Тады садзіліся за стол. Нявесьці ні давалі ні піць, ні есьці. Бацькі благаслаўлялі дачку, і маладыя ехалі вянчацца. Коні ўжо на дварэ чакалі. На вос клалі посьцілкі, на коней вешалі шаластунэ*. Маладых садзілі на розныя вазы. Разам няможна было ехаць. А як с цэрквы прыедуць, тожа бацька страчае. Тады гуляюць адзін вечар і назаўтра. Назаўтра ўжо на ноч едуць да маладога. Там гуляюць вечар і яшчэ дзень.

*А.М.Ганчарук, 1922 г. н.*
*в. Дзям'янаўцы Дзятлаўскага раёна, 1993 г.*

**233.** Як я замуш выходзіла, усё гэта, дзетка, стаіць у мяне ў памяці. Добра вельмі, мне якрас было тады дваццаць гадоў. Ох як весела мы тады жылі! Вечарам зьбіраемса ў адной хаце. Дзяўчата прыходзяць, і кажда рукадзельніца: хто вяжа, хто шыя, вышывая. Ну а потым ужэ хлопцы прыходзяць і гарманіста за сабою вядуць. Яны яго за гарэлку нанімаюць. І тады ўжэ танчым*. Дзяўчына якая ладнейша, то цэлы вечар танцуя. Здояць яе хлопцы на нет**. От такая ў нас жыцейка была. Ну й спадобаў мяне тады конюх. Наш, харошы такі хлопец, статны, але ш напіваўса досыць многа. Не скажу, кап у нас такая крэпкая любоў была, але ш была. Ну і пад весну стаў сватацца да мяне Дудзько. Шмат старэйшы за мяне ён быў. Са мною ён мала гаварыў, а ўсё з бацькам. Я с хаты ўцякала, але ш куды ты ад бацькавай волі уцекнеш? Хацела, ці не хацела – ніхто у міне не пытаўса. От на гэтым і кончылаcа мая любоў. Летам справілі свадзьбу. І от пражылі усё жыце, і дзетак вывелі да людзей**. От так я выходзіла замуш.

*А.Ф.Дудзько, 1922 г. н.*
*в. Ціхаволя Свіслацкага раёна, 1993 г.*

**234.** У дзень васэля ў хаці маладой зьбіраюцца друшкі, прыходзяць і другія госьці, якіх прасілі на васэля. Маладой адзяваюць доўгу белу сукню* і валён*. Маці маладой, да таго пакуль прыедзя малады, прычапляя для яе вянэк. Да сукні прышпільваюць графку*, кап маладых хто-кольвек не ўрок. Чакаюць усе маладога. Калі прыяжджая малады, мушчыны і кабеты робяць браму*, яны чакаюць воткі. Побач стаяць дзеці і просяць цукерак. Маладого пра-

пускаюць. Перад дзьверамі стаяць друшкі і таксама трэбуюць выкуп за маладую. Расхвальваюць яе. Калі малады даў усё, што яны патрабавалі, яго прапускаюць. Малады разам с сватам, дружбантамі ідзе ў хату, просіць, жэбы* вышла маладая. І туды выходзіць кабета старэйша, пераадзета ў маладую. Яна плача, бо ні хоча замуш ісьці. Малады атказваяцца ад яе, кажа, што гэта ні яго маладая. Потым выходзіць дзеўка, пераадзета ў маладую. Малады зная, што і гэта ні яго. І ён пачыная валаць*. Маладую вядуць два браты, і стылу* ідуць друшкі. Малады дорыць ёй букет, маладая прычэпвая яму кветку. Тоя самая робяць і друшкі. Важнай асобай на васэлі ест сват, ён вядзе васэля. Сват чытая вянэк* для маладой. Ён гаворыць, што дзісяка* тутака ў нас сьвято, наша маладая пожуца* дом ронны. Жэгна* се з ойцэм і матко, зэ своім паненскім жыцем. А отходзі да інэй родзіны*, не ве*, як там ойцец, як матка. Жэгна своіх колегув* і колежанэк*, жэгна своіх родзіцов* і хжэсных*. До відзэня**, пані млода. Кончылосе юш* твое колежэнство*. Маладая плача. Перат тым як ехаць да шлюбу, маладыя атрымваюць благаславенство ад бацькоў родных і хрышчоных. Пасьля благаславенства маладыя выходзяць, а маладая з усенькімі* разьвітваяцца. Сванька* з маладой кідаюць цукеркі. Васэля едзя да шлюбу. Як маладыя прыяжджаюць назат, музыканты граюць, а бацькі с хлебам і соляй спатыкаюць. Пасьля усенькія йдуць да стала. На першы кілішак** клічуць бацькоў, кап тыя маладых павіншавалі і выпілі за іх здароўе і іх дзетак. На васэлі ест таксамо дзень добры**: госьці заказваюць маладым песьні і за гэто плацяць. Як і тэрас*, госьці сьпявалі песьні народныя. Вечарам прыходзілі ні тылько хлопцы і дзяўчата з аднае вёскі, але і з другіх, нават літоўскіх вёсак, жэбы* паглядзець на маладога і маладую, патанцаваць. Мы скакалі і нашу польку, і разам зь імі літоўску польку з рошкамі. Нікаторыя прыходзілі, кап тылько нацюкацца. На другі дзень падаркі адорвалі маладым. Жычылі ім шчасьця, здароўя, добрых дзетак і ўсяго найлепшага. Посьля падаркаў васэля ад'яжджала да маладога. Маладая з усімі разьвітваяцца. У маладого спатыкаюць цыганэ*. Яны сьпяваюць песьні і трэбуюць у маладых выкуп. Дастаўшы, што хацелі, прапускаюць маладых. Маладых спатыкаюць бацькі маладога, музыканты. А ўжэ вечарам маладая абдорвала бліскіх родных маладога. Пасьпяваюць, патанцуюць і расходзяцца дахаты. Хацеласа п, жэбы ено было даўжэй.

*А.А.Варановіч, 1945 г. н.*
*в. Галавенчыцы Гродзенскага раёна, 2002 г.*

**235.** Як у гэтым канцы свадзьба, значыць ідуць у той канец с курыцаю. А ўжэ як у том канцэ свадзьба, ідуць у той канец. Тады зойдуць з гэтым усім, з этаю курыцаю, і тады там яе смаляць. Аж за канцом, за вёскаю смаляць. Асмаляць, і гэту курыцу тожэ на калок, і, хто нёс яе, той нясе яе абрадно аж на свадзьбу. Тады ўжэ на свадзьбі гэту курыцу мігам яе чысьцяць, выпатрашаць усё-ўсё-ўсё і вараць суп. Эта ўсё робіцца – як вы да мяне прыйшлі, то ўсё гэтак зрабілася. Гэта так было тадыка ўпярот*. Ну і, а так свадзьбы, я вам хачу сказаць, свадзьбы не такія былі, як цяперака свадзьбы. Свадзьба такая, значыць: паехалі маладыя ў цэркву, зьвянчаліся, прыехалі зь вянца. Адзін стол стаіць. Там селі маладыя, там пара дружак, пара такіх во людзей малотшых, а ўсе астальныя во так во – кругом. І тады разносіць, нясе во гэта самае: адна нясе румку, другая – вотку, трэця нясе закуску. Наліла тамака, выпілі яны, закусілі і далей пайшлі. То не так, як ціпер – каждаму тарэлачку. Вот такія былі свадзьбы ўпярот.

*З.М.Рукша, 1925 г. н.*
*в. Жорнаўка Гродзенскага раёна, 2003 г.*

**236.** Ціпер жэняцца ні так, як раней. І вясельлё робяць ціпер ні так. Раней ходзіць да дзеўчыны хлопец. Не глядзіць, ці красіва, але кап багата была, кап добры пасах быў: карова, гактар поля. Маладая можа быць і крывая, і старая. Хлопец пытая ў бацькоў, як дадуць карову і гактар поля, дык ідзе ў сваты запівае*. На другі дзень, калі зап'юцца, вязуць маладых у касьцель ці ў цэркву на запавець*. Запрагаюць каня і едуць. Ксёнц вычытвая запавець, і прас тры нядзелі робяць вясельлё. Тады зарэжуць якога барана ці цялё, купяць, бало*, літраў воткі ды віна. На стале паставяць сало, агуркі. Калі хто багацейшы, дык, бало, напякуць хлеба свайго, пірагоў, капусты навараць, макаронаў, картопляў. Дык вось і ўсё. Боляй нічога ні ставілі на сталы, як ціпер. Гэта ціпер сталы на вясельлі заставяць усім, што ажно ломяцца ат талерак і бутэляк. Патомака дзялілі каравай. Дарылі то рубель, то тры, а як хто пяць падорыць, то гэто было много натто. Пасьля вясельля забіраюць у тыдзянь пасах, карову, а гактар поля навесну сеюць. Ды і па вясельлі было. Маленькая свадзьба была.

*Я.І.Латош, 1921 г. н.*
*в. Старое Сяло Зэльвенскага раёна, 1989 г.*

**237.** Раскажу табе, як некалі свадзьбу рабілі. Маладыя ні сходзіліся, а дагаварваліся бацькі. І тады едуць у сваты. Прыедуць і робяць запоіны*. Пап'юць і паедуць. А тады за нідзелі тры робяць

свадзьбу. Тады прыяжджая малады да маладое коньмі, коні паўбіраюць лентамі і шалястунамі*. І тады прыедуць да маладое пат хату. Выходзіць бацько маладое с хлебам-солю і просіць усіх у хату. Уваходзіць свадзьба ў хату, сядаюць за стол, а маладую хаваюць. Только кап маладая зірнула рас на маладого, а тады яе схаваюць. А тады прыносяць дзешку, ставяць кала стала, кладуць на яе кажуха. Дружбант выводзіць маладую да стала і садзіць на той кажух. Тады вып'юць па тры чаркі воткі, маладому і маладой ні даюць да вянца. Тады выходзіць бацько, бярэ сьвечку, абводзіць тры разы круга сталоў і патпальвая валасы трохі. Тады маладая прашчаяцца з усімі, выходзіць і сядая на вос, только сядая асобна ад маладого, сядае з друшкамі, і едуць. А малады сядая на другі вос. І тады едуць вянчацца. А як с касьцёлу прыедуць, тожа бацько ўстрачая і просіць зноў у хату. Тады яны гуляюць адзін вечар і назаўтра дзень, а на ноч едуць да маладого. А ў маладого тожа само пагуляюць адзін дзень. А назаўтра маладая падарыць усіх сваякоў маладого і дзеліць каравай. Тады сьвякроў зьнімая вэлян* і адзявае маладой на голаў хустку. А ўсе друшкі, адна за адной, надзяваюць вэлян і танцуюць з маладою валяц*. А потым сьвякроў выводзіць маладую на таняц. Танцуя зь ёю, а ўсе глядзяць, ці ні кульгава ды ні крывая. Тады госьці яшчэ трохі пап'юць, пасьпяваюць і расходзяцца з тым караваям, што маладая дала дахаты. Ну і так во праходзіло нашо вяселё.

*М.І.Якубовіч, 1910 г. н.*
*в. Плябанаўцы Мастоўскага раёна, 1987 г.*

**238.** *Я* вам раскажу, як у нас жаніліса. Канешна, не так, як ціпер, а зусім па-другому было. Некалі ш не гэтак, як ціпер. Ідуць у сваты. Ідуць з бутылкай. Малады на гэтую бутылку завязвая бант, і з гэтай бутылкай ідуць да маладой. Некалі як маладая ішла замуш, то садзілі яе на дзешку, гэта так да вянца ўжэ ехаць. І патсмальвалі ёй яшчэ валасы ў трох мясцах. Тады едуць да вянца, вянчаюцца. А як маладая ідзе, бацька даваў карову ў пасах. Во як раней было. А на сталах тады зусім нічога і не было. Ну як не было. Зусім не так, як ціпер. Трохі зробяць яешні, дзе трохі зварапь мяса. Выганюць трохі воткі. І так гуляюць вяселя. Тады нанімалі аднаго музыканта, які іграў на гармоніку, а яшчэ калі і скрыпача нанімалі. Тады весялей было, як ціпер.

*А.М.Гапон, 1914 г. н.*
*в. Багатырэвічы Мастоўскага раёна, 1990 г.*

**239.** У канцы лістапада, трыццатага чысла, такое сьвята ест – Андрэя. На Андрэя дзяўчата варожаць. Ідуць увечары пацёмнаму, ламаюць вішню, там тры ці чатыры галіньні кажда ламая. Прыносяць дахаты, на кажду галінку, ці на хлопца, ці на дзяўчыну, завязваюць стужачку аддзельную і патпісваюць чыё імя, на каго варожаць. І трэба паставіць гэта ў цёмнае места. Ну дзе ш цёмна места ў хаце – гэта патпечак. Ставяць патпечак. Стаяць гэтыя вішні, і ні трэба іх глядзець аш да сьвята Калят. На Каляды дастаюць гэту вішню і глядзяць: чыя вішня распусьцілася, значыць, ці хлопяц, ці дзяўчына ажэняцца ці выйдзя замуш. Некалі рабілі васэля так. У суботу да маладой прыходзяць друшкі, прыбіраюць ёй вэлюм, сукенку – усё. Усё гэта прыбралі і пашлі дахаты. Назаўтра прыходзяць да маладой друшкі прыбраўшыся, усё. Прыбіраюць маладую і сядаюць за стол, сядаюць за стол і чакаюць маладога. Як малады прыедзе, заходзіць у хату першы сват, за сватам малады, а потым астальныя дружбанты. Усе яны начынаюць ад маладой і да ўсіх друшкаў здаровацца за руку. Паздароваліся ўсе, і тады музыка грае, і яны садзяцца за стол. Кажды ведае, на якое месца садзіцца: хто першы, хто другі, і так па паратку і садзяцца. Ну, пачапілі тыя кветкі, назначылі дружбантаў. Вылазяць з-за стала і едуць да роспісу. Там расьпішуцца і едуць да маладога. У маладога там страчаюць іх бацькі ў варотах, вывярнуўшы на левы бок кажухі. Ну, маладая дае ім падаркі. Яны вядуць іх у хату. У хаце за сталамі сядзяць прыбраныя, як-та як цыганы, цыганы і цыганята. Маладая павінна даваць ім або хустачкі, або стушкі. Ну маладая кідая так і хустачкі, і стушкі, і яшчэ дружбанты даюць цукерак. І толькі тады яны вылазяць с стала і сядаюць на гэта места, ужо заходзяць маладыя. Пасядзеўшы за сталом, зайграе музыка, выводзяць маладую. Выводзіць ці то бацька, ці то маці маладога, можа, і брат, і сястра. Ну, і як кажуць: «Лядзеця, якія ў нашай нявесткі ногі, ці простыя ці то курвыя*». Маладая дае за гэта падарак той жа. Ну і садзяць за стол, і далей грае музыка, і далей гуляюць вясэля. Назаўтра ўжо, як сабіраюцца госьці там, то маладая дае падарак, хто васельля справіць – падарак, і гэтыя гаспадыні, што сталы паддаюць – тожа падарак. Ну як даходзіць час да дарэньня, нясуць каравай. Маладая абдорвая ўсю радню маладога. Некалісьці ні так, як цяпер: хлопяц зь дзяўчынаю дагаварыліся і пажаніліся. А некалісьці езьдзілі ў сваты. Прыедзе гэты хлопяц ужо сам са сватам і дагарваюцца. Ну, калі дагаварыліся з гэтаю дзяўчынаю, значыць, дзяўчына ў другую суботу ці ў нядзелю едзя ўжо да гэтага хлопца на пярэгляды*, глядзець, як гэты хлопяц жыве. Ну вот і ў нас так было. І паехала гэта наша дзяўчына да таго хлопца глядзець, як ён

жыве. Ну той хлопяц і кажа: «Во мая зямля, во й там, і там». Завёў у сьверан. Там стаяць засейкі*, у засейках поўна збожжа там, ячменя, усяго панасыпана, пяць засекаў стаіць. Гэта дзяўчына і кажа: «А можа ты гэтыя засекі дагары перавярнуў і тока на дно насыпаў там збожжа?» Яна ўзяла палку і палкаю праткнула – аш да дна зярна насыпана. Ну там пачаставаў гэты хлопяц іх, яны дагаварыліся ўжо і паехалі дадому. І калі гэта дзяўчына за яго замуш вышла потым, то аказалася: ні тога збожжа ў яго ні было і зямлі толькі палавіну, а ён, аказваяцца, мох паказаць чужую зямлю, а сваёй зусім мала было, бо бедны быў. Ну, алі што ш, калі прышла, то ўжо мусіш жыць. Цяпер можна разьвясьціся, а некалі няможна разводзіцца, бо грэх, дзе ш ты будзеш разводзіцца. Вось і жылі, бедна-багата, і жылі.

*С.П.Ялоўка, 1949 г. н.*
*в. Голдава Лідскага раёна, 1989 г.*

**240.** А як жа ш, дзеткі, раней замуш ішлі? Бацька мой багаты быў. Сколькі рас да мяне сваталіся. А я, бывала, схаваюся ў сьвіран, не выхажу да сватоў тых. Ды хто ш столька цярпець будзе? Сабраў бацька ў ворак* мой пасаг, сказаў, кап зьбіралася замуш. Пасватаўся да мяне цяперашні мой чалавек, не любіла я яго, але што ўжо тут рабіць. Адзяюць мяне ў вясельнае, жаніх павінен прыехаць, а я галашу, што сілы стае. Бацька зайшоў у камору, узяў лейцы, хацеў мне пераехаць пару разоў – маці не дала. Адна толькі цётка мяне разумела, усё хадзіла па хаце, прыгаворваючы: «І што гэта вы робіце, беднае дзеўчанё». Ня слухаў яе толькі ніхто. Так і стала я замужняй. Дзеці нарадзіліся, выраслі. Так, дзетачкі, й пражыла я без усякай там любові, прывыкла. А ёсьць жа ж, напэўна, гэта любоў на сьвеце, ды толькі ніхто ні відзяў любові гэтай, дзіцятка.

*І.М.Санюк, 1915 г. н.*
*в. Лылойці Смаргонскага раёна, 1992 г.*

**241.** Як я выходзіла замуш? А я ведаю, як выходзіла? Быў сват зь Зяльван. Нічога ў міне ні пыталі. Папілі, паелі, запілі. Тады мне хлапец ні панаравіўса, быў брыткі. Заплаціла я грошы, і разышліся ўсе. Паехалі дахаты. Потым сватаўся Апімаха сваяк. Потым ужо што, мне гэта Алеся сваталі. Прыехалі, прысваталі. Потым на міне ўсе напалі, што будзяш сядзець, як мы, у дзеўках, ідзі лепяй. Ну ўжо трэбо йсьці, а ні хочацца, хацела, каб за харошаго, добраго. Ну й пашла. Грошай ні аддавала. Паехаў мой брат, Адам, на ўлядзіны*, хату ўлядзець ужо. Прыехаў, ды пагаварылі мы зь ім: хто яго зная, хата слабая, каб дзе лепш, але нічога, можна бу-

дзя жыць. Як Адам езьдзіў, яго напаілі, накармілі знарок, казалі, што дадуць хату жыць маладым. Як зайшла замуж, гора хватало й цесна было. Ну, прыехаў малады. Тутака маладую ўжо ўбралі. Як малады ўваходзіў у хату, міне ўжо выпярлі, каб глянула на маладога, і схавалі. Выкупа ні было. Было ўсё ціха, нявесела. Ну і што, селі на вазы, паехалі канямі, убранымі шалахтунамі* і рознымі лентамі. Вянчаліся ў малой капліцы. Прыехалі с шлюбу – началося вяселё. А замуш я ішла ж жалобаю па маці, таму музыканты гралі ў сусеньняй хаці. А йшчэ што. Калі ехалі да шлюба, вос чуць ні перавярнуўся, куфар мой аткрыўся – гэта ні павязе, значыцца, маладым. Ну й што, так і жыла, як выходзіла. Аж Божа ш мой Божа**, хто ведаў, як лепяй. Ну, а як далей жылі? Так і жылі. Пабылі рок*, потым Алесько мой на вайну пашоў. Сын у міне нарадзіўся вайною. Такая жызьня была ніважна. Ні было цьвятастай жызьні, у хваробі, ні пахваліся, нічога. Потым падзяліліся хатай, стала горш, ні было ні хлеба, нічога. Гараваласо.

*В.А.Стойлік, 1919 г. н.*
*в. Дубаўцы Ваўкавыскага раёна, 1993 г.*

**242.** Было эта ішчэ прат калітывізацыяй у нашай вёсцы. Велька вёска была, эта толькі тэрас* пару хат засталося. Ішоў мне тады ўжо дваццаты гот, і рашыў бацька мой, што ажаніцца мне ўжо патрэбна. Нівесту доўга ні шукалі, была ў міне на воку дзеўка адна, с суседняй вёскі. Ганнаю зваць. Старая во стала, нічога ні помніць. А табе скажу, хлопчэ, любілі мы адзін аднаго. Бывая, уцічом с хатаў на поле і цалы дзень там і прагуляім. І вот, значыцца, рашыў бацька мой, што трэба яе браць. Але от бяда тады сталася, гот быў дрэнны, жыта ні было, а сватам то трэ было паказаць, жэ* хата багатая, а то ні захацелі п мне жонку даваць. А я тады хітры хлопяц быў, ні тоя, што ціпер. Узяў дзьве бочкі такія вялікія, па трыста кілаграмаў у кожну лезла, і піравярнуў іх уверх тылам*. А такія бочкі ў нас былі, жэ ат дна да краю шчэ дзесяць санціметраў было, і было ў міне трохі зярна ішчэ. Насыпаў я туды тоя зярно і стаю, на сватоў чакаю. Прыехалі сваты. Ну тады, як і ціпер, прат васэлям: наш тавар – ваш купец. Глянулі яны на бочкі і аш падзівіліся, што шмат маю. Сказалі, жэ заўтра зь нівестаю будуць. Вот так вот, сынку, я сватоў абмануў ды й на бабе сваёй ажаніўся.

*С.Б.Гелдзінскі, 1928 г. н.*
*в. Мікшавічы Воранаўскага раёна, 2004 г.*

**243.** Вінарскага васэля было. *Я* друшкай была. Дружбантаў дзялілі: на картачках цягнулі, на пальцах варажылі, чый будзе. *Я*

першай была. Мы дарогі не гарадзілі, а нам загароджвалі, як ехалі да шлюбу ў Геранёны. Ксенц вышаў, спатыкнуў нас, маладых, дружбу*. Прэці* велькао олтажа* быў шлюп. А мы ў дружбе, й сядзіцелі* былі. Дахаты ехалі леххавымі й адна грузавая была. Маладыя й сваты ў леххавых, а дружба ў грузавой, навярху. Заяжджалі ў лес на палянку, там выпівалі, танцавалі. Музыкант у нас быў, граў на армоніку. Як ехалі дахаты, то нам дарогу заступалі, вяроўкай пераймалі. Сваты вотку выносілі, а мы сядзелі на грузавой. Як прыехалі ат шлюбу, брама была ўстроена зь дзеразы, ні ёлка, бо ёлка на нябошчыкаў. У браме ўжо сядзелі ўбраўшыся цыганскі табор. Буракамі нас малявалі, а ў самых кольчыкі* з бульбы й цыбуляй абвешаўшыся. Тады вышлі бацькі маладога й маладую страчаць. І выстрал быў, тры разы стралялі. Тады марша агралі й селі за стол. Назаўтра, гэта панядзелак быў, вотку саладзілі**, на лаву сталі й бралі першае мейсца. Я прыс узяла, усім прымер давала. Потым падарункі й дзіндобры* былі. Посьля васэля разышліся ладненька. Мяне дружбант прапусьціў. У аўторак паляцелі на пахмелку. Панапіваліся коль*-хто, дружба не напілася, тылько пастароньнікі*, усе валяліся, хадзілі і іх жэргалі*. А як у Магдаленкі была друшкай, дружбант быў брыткі, няладны. Я праз акно выскакнула й магільнікам да свайго нажычонага* паляцела. Яшчэ я грала ў клубе на дарах* і ўсіх хлопцаў зводзіла, была самы чорт**.

*С.А.Кавальчыс, 1936 г. н.*
*в. Дайнава Воранаўскага раёна, 2001 г.*

**244.** Клубаў ш ня было. Як зімою, дык танцы ў каго ў хатах. У каго хата велькая, дык наймалі, ужо плацілі за хату. А летам танцы былі на сяле. На Ушэсьцё быў у Шчорсах фэст, або гермаш* называлі. Тады ў Шчорсах былі танцы. А ў Лосках былі каля Шасьцяля. Даўней танцы рабілі на Пусцы. Зьбіраласё маладзёжы шмат. На Прычыстую дык былі танцы на Антонаўшчыня. С чужых дзярэўняў прыходзілі на танцы, і мы хадзілі ў суседнія дзярэўні. Посьля сталі клубы. Яшчэ возьмуць ды драку падымуць, ды паб'юцца. Што хоч** было. Вяселя вот як рабілі, дык на конях ехалі. Дзяругаю вазэ засьцілалі, коні прыбіралі. На шыю каню вешалі шаламке*. Малады прыедзя, а яна прыбіраецца ў суседнюй хаця. Ідуць па маладую, а дружына сядзіць за сталом. Як ідзе маладоі дружына – віталіся хустачкамі церас стол. Тады ўжо маладоі шафяркі прышпільвалі бантэ на кляпу* летніка*. Абыдуць раз, два, тры. Дык ні ведаю, колько. Абыдуць кругом сталоў і едуць у цэркаў вянчацца. Потым ужо ні вянчаліся, а так толькі расьпісваліся. Запынялі маладых, бралі брамавоё*. Са сватам таргуюцца, загарод-

зяць дарогу. Сват таргуяцца зь імі, а бывая, пасварыцца каторы. Бывая, то па совясьці бутэльку просяць, а бывая, просяць то ўжо і залішнё. Ня рас запыняць на дарозя. А брамавоё каля весьнікаў заўсёгады запыняць. Ні пускаюць маладых у хату. Адзін гэдыкі быў на Лычычах. Таргаваліcь, таргаваліcь с тым сватам, а малады ня вытрываў, узяў нагою пад табарэтку падбіў ды пайшоў з маладою ў хату. Дык і гэтта* калі-то ў нас быў бой. Тожа за брамавоё. Па пашы лятали як бешаныя. Ні далі брамавого, колькі яны хацелі, а яны – у бой. Тады ўжо назаўтраё маладую забіраюць. Вот якія даўней былі свадзьбы.

*А.М.Курапата, 1933 г. н.*
*в. Лозкі Навагрудскага раёна, 2003 г.*

**245.** Раней у нашым сяле вяселё спраўлялі інакш, як цяпер. Малады да маладое ехаў на канях. Зімою каня запрагалі ў сані, летам – у вос. Прыбіралі зімою ёлачкаю, вясною і летам – бяросскаю. У маладое сельскія хлопцы ставілі флах. За гэта пыталі выкуп. Увайшоўшы ў хату, малады с шафярамі садзіліся за сталэ. Тады да іх выходзіла маладая с шафяркамі, кожная шафярка садзілася супраць шафяра. Яны здароўкаліся за рукі. Шафярка дарыла шафяру платочак. Перад вянцом тры разы абыходзілі вакол сталоў. У гэты час бацька і маці маладое садзіліся пад ыконамі для благаславеня. Маладая плакала. Потым едуць у цэркаў вянчацца. Прыехаўшы зь вянца, бацька і маці сустракаюць маладых хлебам-сольлю. Маладыя становяцца на кажух, п'юць і разьбіваюць чаркі. Далей гуляюць вяселё, п'юць, танцуюць. На вяселё раней рабілі вінягрэт, варылі кісель, было мясо, сало, сяляццэ. У канцы вяселя давалі на сталэ забеленыя самаробныя макароны. А калі ў каго было павідло, гаварылі, што багато вяселё. На другі дзень ехалі да маладога. Уся яго радня сустракала іх. Бралі хто вядро, хто каструлю, хто чыгун. Стукалі і гралі, як аркестар. Яшчэ прыбіраліся, хто мядзьведзем, хто канём, хто цыганом і цыганкаю. Весяло было. У канцы вяселя дарылі грашыма, тканінаю. Дарылі з рознымі прыгаворамі: «Дару венік зь бярозы, кап мужык да жонкі прыходзіў цьвярозы».

*М.І.Цвікевіч, 1937 г. н.*
*в. Пасінічы Слонімскага раёна, 1993 г.*

**246.** Уначале малады прыходзіў да маладой у хату і, як бы то сказаць, выкупляў яе. Дзяўчына плакала, хоць і выходзіла замуш за любага, але бацькоў і родную хату не хацелася пакідаць. Маладой маці чапляла на вэлюн* ветку мірты, што казала ап дзявоц-

касьці нявесты. На вяселях было вельмі весела, сьпявалі песьні розныя, і вясёлыя, і грусныя. Як выходзяць ат стала, то пачынаюць скакаць лявоніху, кракавяк, польку, вальс, гапак. Зарас не ўмеюць так танцаваць, цяпер стануць і дрыкаюцца. Тады ш, кап добра танцаваць, трэба было умець. Маладому мужу трэба добра глядзець, бо нявесту кралі асыстэнты*, хавалі яе, загадвалі выкуп. Малады добра фундаваў, кап забраць жонку. Сваты перадзяваліся ў цыганоў. Патходзілі да стала, гадалі, зычалі маладым шчасьця, здаровых дзетак, шмат грошай. На другі дзень вяселя маладым дарылі: хто грошы, хто посут. Як бы ў пасах маці маладой давала прыпасеныя даўно коўдры, падушкі, простыні, навалачкі. Я нават і цяпер сваё вяселе помню, ужо і мой гаспадар памёр, а я жыву. Вось сяду каля печы і ўспамінаю. Калі заплачу ў такую часіну, калі пасьмяюся.

*А.М.Місюкевіч, 1923 г. н.*
*в. Гальшаны Ашмянскага раёна, 1994 г.*

**247.** Дык вось. Некалі, калі трэба было хлопцу жаніцца, ну, браць гаспадыньку ў хату, дык кожны хацеў, каб выбраць лепшую дзеўку, якая б умела бы прасьці, ткаці, хлеп сьпячы, жывёлу ў хляве дагледзець, ухадзіцца*, ну і яшчэ лепш, кап конь быў у пасазе і карова. Дык тады браў хлопец сваіх дзяцькоў, цёткаў, там яшчэ таго-сяго з радні. Ну і ішлі да дзеўчыны, пры гэтым хлопец кідаў лапці ў хаце дзеўкі і казаў: «Шуры-буры, лапці ў гуры». Ну а дзеўка таксама глядзела, што гэта за хлопец, ці ні гультай, або які-небуць лабатрас, або абібока. І як ёй ён ні прыходзіў даспадобы, дык яна яму казала: «Ні шурай, ні бурай, свае лапці забірай!» І вось так хлопец хадзіў, пака ні надыбаўшы быў на сваю дзяўчыну. А вось дзеўка, якая спадабала хлопца і вырашыла сваю судзьбу зьвясьці зь ім, нічога ні казала і лапці тыя прыбірала. І тады радня хлопца разам зь ім ішла ў хату, сядалі за стол, пілі гарэлку і дагаварваліся пра вясельлё, пра пасах.

*С.В.Барысік, 1922 г. н.*
*в. Задворані Свіслацкага раёна, 1992 г.*

**248.** Ах мая ты дзетка, як даўно ўсё гэта было, у дваццаць восьмым годзе. Даўнішняе цяпер добра помню, вось тут стаіць тое. У сваты прышлі на Праводнай нядзелі, на Вялікадні. А вясельле на Сёмуху было, на другі дзень вянчаліся. У хату зайшлі дваём: жаніх мой Мікалай ды сват. А мама ды тато сваіх клікалі на вотку, на дагаворы. У душы тады гарэла**, як сэрцайка наружу не выскачыў. Маё вясельле доўга цягнулася, бо другі быў. Але там хата вель-

ка, усім наравіць трэба, а тут – адзін, ды я гаспадыняй стала. Так вось, пашла не па прымусу. Як маладою была, дык хораша дзяўчаты мяне прыбралі. Прыбіралі ды так хораша сьпявалі, а я плачу. Сванька*, маці мая хрышчона, каравай сьпякла. Харошы, вялікі, нават у печ ні ўлез, крыху надламіўся. Як ужо дарыць трэба было, дык два браты несьлі гэты каравай на ручніку, ды падавалі сваньцы. Ды й ручнік я сама вышывала, так трэба было. Сванька рэзала каравай на кускі. А як дарылі, па куску разам гэтакі каравай бралі. Вянчаца ў цэркву ехалі коньмі. І кожны дружбант браў свайго каня. Брат мой ужо вёз у царкву міне ды сваньку. А назад дык ужо с Мікалаем ехала. Коні папрыбіраныя хораша кветкамі, шалустунамі*, а да вобруці ленты прывязвалі. Шасьцёра дружак было ды дружбантаў толькі ш. Вядома, адны перад аднымі. Садзіліся на вазы са сьмехамі. А як шлюп узялі, ды ехалі ад царквы да майго, дык ён мяне на руках нёс праз мост. А масток стары быў такі. Мікола прыціснуў міне да грудзей, а рукі дрыжаць. Баяўся, каб ні зьляцелі. Перашлі, паставіў і кажа: «Калі ціпер прашлі разам, то жыцьцё разам пройдзем». Так і ёсьць. Усяго было. А гора колькі, але ш разам былі. Во толькі хіба ў вайну. І вось так вясельле. Музыкі былі. Некалі хораша ігралі. Як зайграюць, здасца, хата падымаецца. У нас пяцёра музыкаў было, гэта на скрыпцы ігралі, на барабане, аш во гармонік, кларнэт ды яшчэ нека дутка. Дзень, два ігралі, а то і болей. Шмат грошай бралі на той час. На сталах было і тады. Але астатняе выкачвалася. Дзе якое парэсе ці цялё. Боршч варылі, бліны, квашаніну, яшчэ макароны варылі, мяса. Але ні гэтак прыбіралі, як цяпер, ды і пад'есці лепей можна было. Як шлюп узялі, дык адразу да маладога паехалі. З таго часа тут хата мая.

*А.І.Рахман, 1909 г. н.*
*в. Белевічы Лідскага раёна, 1989 г.*

**249.** Спачатку йшла падгатоўка да вясельля. Па вечарам да маладое прыходзілі дзяўчаты, гатовілі, вышывалі. А тады ўжэ маладая сь першаю друшкаю хадзілі па хатах да радні і клікалі на вясельля. Пачыналаса вясельля. Да цэркві маладыя едуць адзьдзельна. А калі ўжэ павянчаюцца, та малады маладую, а чашнік* друшку сядавіць на калені. Едуць на конях чатырох, сьперадзі вазьніца і сваха. Прыяжжаюць. Тут бацька с тарэлкаю запрашая ў хату. Пагасьцяцца ў маладое, пагуляюць, госьці падарацць маладую і едуць да маладога. Там таксама гуляюць два дні. Як заягжая маладая да маладога, друшка высьціляя пасьцелі, колькі ёсьць дываноў, пяць, шэсьць ці сем. І сьцелюць дываны адзін на адзін. Пасьцелюць кравацць, а тады вывешваюць рушнікі, ні такія, як ця-

пер, што рукі выціраюць. Затым высьцілаюць настольніцы на стол. Цяпер та чорт аслабадзіў бы таго стала, так наставяць, а тады падзьвінуць хлеп і сьцелюць. Людзі стаяць і ўзіраюцца, колькі настольніц, дываноў, якая пасьцель. Затым сьвякруха настольніцы здымая, а рушнікі вісяць аш цэлую нядзелю, да пірагоў*. Адгуляюць вясельля, жывуць. Маладая павінна ўмець пячы хлеп, і ўжэ калі ідуць жаць, маладая першы сноп сьвязвае сама, і на яго вешая падарка, які бярэ с сабою. А сьвякруха затым яго здымая. Як нядзелю маладая пражыве ў маладога, тады робяць пірогі. Цяпер та ўжэ гэтага няма, а раней было так. Вось так праходзіла ў нас вясельля.

*Н.Д.Юшко, 1929 г. н.*
*в. Клепачы Бераставіцкага раёна, 1993 г.*

## Вячоркі, танцы, гульні, забавы

Гл. таксама №№ 28, 113, 121.

**250.** Было мне трынаццаць гадоў. Вучылася я ў школі. А ўвечары хадзілі с мамаю на вечаркі. Жанчыны на вечарках вязалі панчохі, пралі кудзелю, хто верацяном, хто калавароткаю*. Рас стукае нехта ў вакно. Хазяін пайшоў аччыняць. Уваходзяць у хату наражаныя баба зь дзедам і журавель з доўгаю дзюбаю. Сталі яны танцаваць. Я сь печы паглядала, бо баялася. Патанцавалі, жанчыны іх падзякавалі, далі брушкі с моркаўю. Пайшлі яны. Хазяін хату зачыніў. Бабы сталі смяяцца, жартаваць, сьпяваць песьні. Анно ш прас мінут дваццаць уваходзіць нехта ў хату. Ва ўсім белым, як сьмерць, прастынёю апкрыты, рэшато на галаве. Бабы – вішчаць. Хазяін за – ім, ён – уцякаць на двор. Мы ўсе пабеглі да акна, але нічога не відаць, бо цёмна. Гэто ш калі прыходзілі баба зь дзедам, ён зь імі зайшоў і ў сенях схаваўся. Гэто быў адзін хлопец с нашай вёскі. Раней лепш жылі, весялей. І на работу ішлі сь песьнямі, і з работы. А цяпер як дзе засьпяваюць, то гаворaць, што напіліся гарэлкі.

*Л.М.Сяцько, 1937 г. н.*
*в. Пасінічы Слонімскага раёна, 1993 г.*

**251.** Як вечарынкі ў нашай вёсцы, тык мы запрашалі с другіх вёсак маладзёш. Давалі ім вячэру, гасьцілі. На другую нядзелю яны заклікалі нас да сябе. А ўжо як заступя адвант*, тады зьбіраліся ў сваёй вёсцы ў адну хату і гулялі ў розныя гульні: фанты, розачка. А старэйшыя на вечарушках пралі кудзелю, круцілі ніткі, рабілі рукавіцы, шкарпэткі. Усё гэта адбывалася пры лучыне, куравай лямпе. Раней цехнікі не было, ну жыцьцё было вясёлае. А цяпер, калі

хто засьпявае, то адразу кажаць – пяны. Вапшчэ цяперняя жызьня невасолая, не зраўняіш яе с даўнейшай. Хоць работы было боляй. Але жыць было васола.

*І.І.Шымановіч, 1905 г. н.*
*в. Граўжышкі Ашмянскага раёна, 1993 г.*

**252.** Восеню, як лён ужэ патрэм, па хатах ходзім. У кампані нашай ходзім па калейцы*. Потым ужэ шара гадзіна** была. Прыдуць хлопцы. Потым у крух усе пасядзем с калаўроткамі. Лямпы тады карасінавыя былі. А хлопцаў было многа. Пойдзем на вячэру, а хлопцы ўсе пойдуць, нам усё папорцяць, кудзелі папаляць, памяняюць. А мы прыдзем, то шуцім, покуль нойдзем. А тато адзін рас як пагнаў усіх! А песьні сьпявалі! І хлопцы памагалі нам. У нас у дзярэўні было пяць кампаняў дзяўчат. Мы Лесткі называліса. Танцаў было па тры ў дзярэўні. А хлопцы па ўсіх ходзяць. Нават біліса ўхажоры. Нават хлопцу аднаму цэбар на галаву адзелі. Усялякіх фокусаў дзеўкам было. Біцца заводзіліса, як зь дзеўкай чужой танцуеш. Перат Калядамі рабіць німожна нічога, тады толькі гуляць. А дзьве нідзелі толькі вязаць можна на Шчадры. Рабілі ўпярот* дзеўкі, а ціпер нічога ні робяць. А калі санкі ўкрадзем, то ішлі ўсе на гару. Аж да Сьвіслачы заяжджалі. А калі спаць ні хочыцца, паўбіраемса ў кажухі, у страхе* панамазваемса і ідзем да другіх дзявок. Весела было тады.

*В.П.Чабатарэвіч, 1918 г. н.*
*в. Сухая Даліна Гродзенскага раёна, 1996 г.*

**253.** Зьбіраліся мы заўсягды канпаніяй дзе ў каго ў хаці. Хадзілі з кудзелямі, пралі, песьні сьпявалі. Хлопцы зьбіраліся, прыходзілі да нас. Прыходзілі з музыкаю, усе танцавалі, сьпявалі. Поўна хата назьбіраяцца. Гулялі ў фанты, у кальцо. Пасядзям усе дзеўкі і хлопцы на слоне* і гуляям. Гасьцім* мы хлопцаў такімі калачамі. Таўклі каноплі і сьпяклі калачы на бляхах. Таксамо прыносілі хто хлеп, хто кілбасу, хто кусок мяса. Патом расходзіліся па хатах. Хлопцы нас праводзілі. Та ўжэ ш даўно гэта было, зарас ўсё ні ўспомніш.

*Л.В.Хомка, 1915 г. н.*
*в. Галавічполе Шчучынскага раёна, 1996 г.*

**254.** Як жылі? Так і жылі: ткалі, пралі, жыто жалі, скаціну пасьвілі – работы хватало. І на танцы хадзілі, канешне. Ано танцы тады былі ні такія, як ціпер. Сабярucца хлопцы, дзеўкі і ідуць у якую-нібудь хату, просяць, кап пусьцілі патанцаваць. Як сагласіцца хто, то добра, як не, то ідуць у другую хату. У хаці цёмно –

лучынку якую смальнейшу запаляць ды й танцуюць. А танцы ні гэдакія, як вы танцуяця. Што ш гэта за танцы? Пастануць і выкручваюцца кажды сам сабе. Трэбо ш с хлопцамі танцаваць, у пары. Для гэтаго і танцы. Танцавалі ні натто ш доўго, бо ўставаць рано ўсім трэбо было. Ну канешне, як панаравішся якому, той дахаты правядзе. Пастаіш крыху, павечаркуеш*. Але ш кажды і меру знаў. А на другі вечар да другіх у хату прасіліся. Так і весялілася раней маладзёш.

*А.Ф.Грушэўская*
*в. Новы Двор Свіслацкага раёна*

**255.** Як я добро танцавала, бывало! Хлопцы аш закладваліся на грошы, с кім пайду пратанцую. А ціпер што. Ціпер ні танцы. Раней былі мазурка, лысы, аборак, полька, кракавяк. Яшчэ ат таго, мусіць, ногі баляць, аш ціпер успамінаць шкада. Ой, прывозім музыкантаў с Крапіўніцы, с Шурыч. Зь вёскі музыкант граў на гармоні, на цымбалах. Ой, як файно граў, хай яго. Я ш кажу, моладасьць у міне хароша была, а жызьня плахая. Ва ўсіх дзяўчат так было.

*В.А.Самойлік, 1908 г. н.*
*в. Ражкі Свіслацкага раёна, 1992 г.*

**256.** Было нас у бацькі пяцёра. Я самая ярэйшая* была. З маленства ўсё рабіць навучылася. Матка рана памерла, уся работа тады на міне звалілася. Цёнгля* рана ўставала, позна лягала, мушчынскую работу лепей знала, як бапскую. Гараць бацьку памагала, у лес браў міне с сабой. Малотшаму нашаму, Бладыську, тады толькі тры гаткі было, такі ён янчонцы* быў малы, а халерысты*, усюды ўлезя. Дак я ў поля атходзячы, прывяжу яго вяровачкай за нагу. Начай ні маглі даць рады. Мне ш зь дзяўчатамі і на танцы схадзіць хацелася. Уступлюся зімой у дзеравяні*, ляту па гурбах. Лапцей бацька шкадаваў. Але ш ні чула і холаду тога. Праўду кажуць, што ахвота хужай ніволі. Танцы былі ні такія, як ціпер. Ніхто гэтых жадных шэйгаў ні знаў – пастануць і дрыгаюцца. Што тут за красата? Гэта маладзёш зрыны пазалівая**. Не, некалі не рабілі так.

*Г.А.Касцюк, 1925 г. н.*
*в. Лаздуны Іўеўскага раёна, 1992 г.*

**257.** Я раскажу пра танцы, як даўней натто харашо танцавалі: і умбэрак, і кракавяка, і мазурку, і так харашо скакалі казака, на прысяткі як пойдуць, і так харашэнька ўсё танцавалі, што можна было міла паглядзець на тыя танцы. Ак ціперака, то і старэйшым

людзям і няма на што й глядзець, а даўней так красіва, хто ўмеў. Ну, ні кажды ўмеў танцаваць харашо. Натто казака на прысятушкі ды так вось харашо пайдуць дзяўчата с хлопцамі. І лявоніху да таго ш харашо і танцавалі, і так харашо сьпявалі. Музыканты так харашо во папросту гралі, і гэтымі барабанамі барабанілі, на скрыпках – міла было глядзець. Ну й пазьбіраюцца ўсе нядзеляй, і дзяўчаты, і хлопцы, па ягады, мо зь якіх вёсак дзесяць. І там стануць, граюць, танцуюць, напітак прывозяць, ужо троха людзі разбагацеўшы, што продалі, купляюць. Так весела было маладым, усе па хатах сядзелі, ніхто ні вучыўся нідзе, усе па хатах з бацькамі сядзелі, а ціпер усе дзеткі этыя маладыя па сьвеці, німа нікога. Толька адны старыя асталіся ў вёсках, сідзяць, а нідзе маладога чалавека ні ўвідзіш, усе па гарадах. А тут старыя гэтыя пераживаюць, як там тыя дзеці там жывуць, маюца. Што яны там, хаця кап дзе ні пашлі ў якія хуліганствы, дзе якое, усё баяца, гэтыя старэнькія людзічкі, сідзяць маткі, бабы і дзядулі ўсе па хатах.

*Р.І.Іодка, 1938 г. н.*
*в. Ваверка Лідскага раёна, 2002 г.*

**258.** Даўней было от як цікава. Найболей* у суботу сабіраліся ў чыёй-небуць хаце, у кожнага па вочарадзі, на вячарынкі. Адзенем даўняшні сукенкі і пашлі. Музыкі не было, гралі на губны гармонік і цэлы вечар танцавалі. А якія раней танцы? Гэта мазурка, кракавяк, каробачка, польку скакалі. Хлопцы прыглашалі дзяўчат танцаваць. А ў будзень дзень, увечары, зьбіраліся прасьці кудзелю, а разам ужо сьпявалі ўсялякія песьні. А хлопцы тожа сядзелі, разам ужо сьпявалі ўсялякія песьні. А хлопцы тожа сядзелі разам, памагалі сьпяваць. Вот калі скіне шнур с караўлотка*, кап зачапіць дзеўчыну, а так ні мяшалі прасьці. Перат Коляды, на Андрэя, быў такі дзень, зьбіраліся дзяўчаты варажыць. Сеялі каноплі на пасьцелі, лажыліся на іх і гаварылі словы: «Андрэю, Андрэю, я на цябе каноплі сею, дай мне знаць, с кім я буду век дажываць». А яшчэ вот як інакш гадалі: на падлозі сыпалі чытыры кучкі ячменю, выцягвалі пятуха с-пат печы. Катору кучу першу дзёўбаць пачне, тая перша дзеўка замуш пайдзе. На Куцю ідзем да суседа пад вакно, а каль там скажуць у хаце «ідзі», то пойдзе дзеўка замуш, а калі пачуеш «сяць», то й будзеш сядзець у дзеўках. Натта не хацелі йсьці да Кузьміноў, бо ў іх грумада* дзяцей, толькі чуеш, як енкат на ўсю воласьць. Цёмгля* амінали іх хату. На Куцю прынясем бярэмя дроў, кінем тыя дровы, палічым, каль будзе да лішкі, та не пайдзеш замуш, а каль будзе да цоту, та пайдзеш. Перат вячэраю выходзіць

дзеўка ў варота, кідае лапаць на гуліцу, у каторы бок носам пойдзе, туды дзеўка замуш пойдзе.

*Н.К.Місюкевіч, 1934 г. н.*
*в. Куляшы Шчучынскага раёна, 2005 г.*

**259.** У нашую моладасьць весяло было. Днём на рабоце робім, а вечарам ідзём на танцы. Многа маладзёжы на танцы прыхадзіла. Усе гуляюць, ніхто ні сядзіць. Вот і я прышла на танцы, на адной назе пакруцілася, на другой, патом вышла на двор, маханулася, маханулася, і ізноў гуляць. Весяло было, ні тое, што зарас. Натанцуюся, прыду дадому, і ногі ні баляць. Рано падымуся і бягу на работу. На танцы многа хлопцаў прыхадзіло. Іду на танцы я, кап с харошым хлопцам пагуляць. Я хорашо гуляла, лёхко гуляла. Хацела ўсягда гуляць с харошым хлопцам, які хорашо гуляе. Прыду, сяду і пазіраю, які хлопяц ідзе мяне прыглашаць. Калі ён не панравіцца, то патхаплю падругу, і гуляем. Я й музыкант была. Сама іграла, сама пела. Іграла і Марыйка. Як гармошка зайграе, запае, мы ўсе туда, брат, круцімся на том пабрэзьзі, гуляем, танцуем. Добра нам было. Як музыка зайграла, мы – рас і паляцелі. Забыліся, што на рабоце замарыліся. Яшчэ інцярэсно было ў нашай жызьні, калі мы езьдзілі выступаць с Іраідаю Іванаўнай. Паехало рас нас чалавек сорак у Наваградак с канцэртам. Селі каля свайго стала і песьні паём. Была ў нас выпіўка, закуска. Хто падыдзе да нас, усіх частавалі, нагуляліся тады мы ўволю. Дадому ехалі позно. Па дарозе песьні пелі. Цэлы дзень весяло прашоў. А прыехалі дадому, нек і грусно стало, бо трэба было і гаспадарку даглядзець, і сям'ю накарміць. Многа дзе выступалі: і ў Гродне, і ў Мінску, і ў Наваградку многа разоў былі. Дзе п мы ні былі, нас вязьдзе хорашо сустракалі.

*Н.Я.Бурак, 1934 г. н.*
*в. Сланева Навагрудскага раёна, 2003 г.*

**260.** Ну што, ну вот, як зьбіраліся на танцы дзе ў хатах. Раньшэ ў хатах было, бо клубаў не было. Танцы былі ў хаці. Ну, гулялі ўсякія танцы: і польку, і дробненькую польку, і амбэрак, і кракавяка – і гэта ўсё, і пат іспаны, лысага, і гэтак усе-ўсе танцы, і гэта ўсе былі харошыя, і каробачка: «Ой ты, каробачка – розавы букет. Ты мяне любіш, а я цябе – нет». Сьпявалі і лысага, усякія-ўсякія песьні. Ну, а потым гуляем-гуляем, ну, а тады ўжо зьбяромся сьпяваемсьпяваем. Ужо і прасьпяваям песень пару, а патом апяць танцуем. Ну вот і праводзім вечар, ну, часоў да чатырох так. Харашо было ўсё. Ну што вам яшчэ расказаць? А на Шчадраваньня, на Шчадру-

ху, перад Новы гот. Вот, перад Новы гот хто с хазяйкі першы запаліць, бліноў напячэ, дым с коміна пойдзя, значыць, першы пойдзя жыта жаць улетку першае. Ну, вот бліны кралі, на вогнішча бегалі. Дзе сабака брэша, там кавалер мой будзя, ці туды ўжо замуж пайду гэта значыць. Ну, гадалі ўсяляк, як гадалі? І булачкі пяклі. Напякуць булачак з макам і сабаку клічуць у хату. Так сабака чыю першую булачку схопіць, тая першая замуж пойдзя. І вобуў* церас крышу кідалі. Куды стане носам, туды яна пойдзя. І дрова насілі: як пара, значыць, будзя пара ў этам гаду, а як не пара, то не будзя ў цябе пары і ў гэтым гаду. Ну што яшчэ вам расказаць? І зеркала ставілі. У дванаццаць часоў ночы зеркала паставяць і сьвечкі запаляць. І ўжо ўсё глядзіш-глядзіш, ну і праўда, як глядзіш-глядзіш, дык нейкія ўжэ на радке станавяцца, і нейкага ўгледзіш. Усяляк было, ой, весела было. Ну што ж вам яшчэ расказаць, дзеткі?

*З.А.Трайнель, 1930 г. н.*
*в. Парэчча Дзятлаўскага раёна, 2003 г.*

**261.** Ніцікава цяпер людзі жыць сталі, нейкія замкнёныя ў сабе сталі. Шчэ як у вёсцы, та трохо лепей, а што ў горадзі, та й гаварыць няма чаго. Вунь дачка мая ў Гронні жыве, та й саседзяў ні знае. Калі ш такое было. Раней, як я шчэ маладой была, та мы па ўсёй акрузі адзін аднаго ведалі, а цяпер дажа ў госьці пірасталі хадзіці, усё ім талявізары ды таляхоны замянілі. А што песьні цяпер сьпяваюць, та хай іх халера**. Ужо ўнук з Гронна як прыедзе, як уключыць свой хлітахон*, та хоць ты с хаты цякай. І што добрага ў такіх сьпевах? Калі я яшчэ маладая была, то тады песьні дужа добрыя былі, я і сама сільна сьпяваць любіла. Бывала, як зьберамося ў адной хаці з усяе гуліцы бабы на вячоркі, хто с кудзеляю ці с пруткамі, кап вязаць, альбо з вышываньнем. І дзеці малыя напрыходзяць, пасядуць на пячы і ўслухаюцца, пра што бабы гавораць, та й пазасынаюць там. А мы пра жызьню нашу пагаворымо, а ўжо нагаварыўшыся, песьню зацягваем. А песьні сьпяваем розныя: вясёлыя, і такія, што нават заплачашся. А як хлопцы прыдуць, та й патанцуемо тады. Ды й танцавалі та як, не тое, што цяпер, дрыгаюць толькі, глядзець гатка. А то ш цыганачкай як пойдзем па крузе, альбо ўпрысятку, празабаўляемася гэтак цалютку ноч, а зранку жа да працы ісьці трэбо, і нічога – рабілі. Вось як мы та жылі, і не жалабіліся*.

*М.К.Лыч, 1910 г. н.*
*г. п. Вялікая Бераставіца Бераставіцкага раёна, 1993 г.*

**262.** У царкв*у* ішл*і* б*о*сыя. Дзяўч*а*ты т*у*флі сва*е* нясуць у ру-к*а*х, хл*о*пцы зак*і*нуць на пл*е*чы сва*е* кам*а*шы* і ід*у*ць. Дзяўч*а*ты накр*у*цяць валасэ на гв*о*сьць, зав*я*жуць х*у*сткі-бацісто*ў*кі. Ід*у*ць у цэркву. *Ю*пкі был*і* ў зб*о*рачку, к*о*фты ш*ы*ліся футб*о*лачкаю. Назы-в*а*ліся ран*е*й к*у*рткамі. Ні б*ы*ло канбін*а*шак. Адзяв*а*лі сп*о*днія спадн*і*цы. Г*а*лькі* *і*х назыв*а*лі. Маляв*а*ня ўсял*я*кага ні б*ы*л*о*, як ціп*е*р. Шч*о*кі малявалі бум*а*гаю. Был*а* гэта т*о*ўстая так*а*я, чырв*о*-ная бум*а*га. П*у*дры ні был*о*, м*е*лам маляв*а*ліся. Бр*о*вы маляв*а*лі ву-гальк*о*м, г*у*бы ні крас*і*лі. Ід*у*ць хл*о*пцы ці дзяўч*а*ты, каля цэрквы набув*а*юцца. С цэрквы ішл*і* такс*а*ма б*о*сыя. Бо х*у*тка падзяр*у*ць т*у*флі і бац*і*нкі. На т*а*нцы хадз*і*лі такс*а*ма босыя. Гарм*о*шкі ні б*ы*ло, гр*а*лі на скр*ы*пцы. Назыв*а*лі на *і*х муз*ы*кі. Танц*а*валі на зямл*і*, п*а*льцы пазьбів*а*юць. Был*і* ўс*е* заг*а*раныя. І ні т*а*к, як цяп*е*р. Ус*е* был*і* ка-р*ы*чнявыя, як н*е*гры, адн*о* з*у*бы і в*о*чы беляхцяць*. Крэмаў ні*я*кіх ні б*ы*ло. А пан*е*нкі ўс*е* б*е*лыя. Шт*о* раб*і*ць? М*ы* ў рэчку, нарв*е*м л*і*лій, нал*о*жым на шч*о*кі. Аб*о* к*і*слае малак*о*, ян*о* крых*у* адб*е*львае. Жыл*і* цяжал*о*. Раб*і*лі цяжалей, гр*о*шай ст*о*лькі ні был*о*. Па в*ё*сках кін*о* был*о* біз зв*у*ка, т*у*лько пак*а*звалі Іс*у*са Хрыст*а*, яг*о* м*у*ку. Кал*і* прышл*і* Сав*е*ты, пачал*і* ст*а*віць кін*о* са зв*у*кам. Стар*ы*я б*а*яліся, гавар*ы*лі: «Нячыстая с*і*ла, уцяк*а*ймо атс*ю*ль». Ва ўс*і*х был*і* к*о*сы, ні был*о* ні*я*кіх зав*і*вак, *і*х бы ніхт*о* і ні раб*і*ў. Як выхадн*ы*я, гул*я*лі ва ўсял*я*кія *і*гры: у ф*а*нты і *і*ншыя. *О*чань крас*і*во сьпяв*а*лі. Вечар*а*мі зьбір*а*ліся. Т*а*к был*о*, як пак*а*зваюць па тэлев*і*зары, ал*е* ян*ы* тр*о*ху брэшуць. Т*а*к ні выдзяв*а*ліся. Надзеў ч*ы*стае, пам*ы*тае, узяў кудзе-лю і пайш*о*ў, па-будзёнаму. Вышыв*а*ць т*о* вышыв*а*лі, ал*е* т*а*к ні выдзяв*а*ліся, і прыч*о*сак так*і*х ні раб*і*лі. Рашчэшуць і ўсё. Кап прый-ш*о*ў с так*о*ю прыч*о*скаю, апсьмяялі п цяб*е*, сказ*а*лі п, гульт*а*й.

*Н.П. Чарнова, 1924 г. н.*

*г. п. Вялікая Бераставіца Бераставіцкага раёна, 1996 г.*

**263.** І в*о*т м*ы* ўс*е* сабір*а*ліса па в*о*чарадзі, па т*ы*дню, у к*о*жную х*а*ту, дзе был*а* дзеўка ў х*а*це. Пр*а*сьць як Б*о*х д*а*ў**. Прых*о*дзілі кавал*е*ры, сьпяв*а*лі, танцав*а*лі. Дах*а*ты та не ішл*і* зім*о*ю, гэта был*о* та зім*о*ю. Аспад*а*р прын*о*сіць н*а*м кулёў пяць-шэсьць сал*о*мы, і ўс*е* ў м*е*сца лаж*ы*ліса сп*а*ць, кавал*е*ры і дзеўкі, але сал*о*ма лят*а*ла аш пат сталяв*а*не*. П*о*тым ішл*і* ў друг*у*ю х*а*ту. Даўн*е*й ж*ы*ць был*о* л*е*пей малад*ы*м, хоць был*і* негр*а*матныя. У н*а*шай вёсцы был*о* в*о*зе-ра, хадз*і*лі на в*о*зера. Прыжан*е*м кар*о*вы, нажн*е*мса ж*ы*та, абув*а*ц-ца не был*о* ў шт*о*, ус*е* н*о*гі был*і* пап*о*раныя п*о*жняй, кр*о*ў зь *і*х цякл*а*. Ал*е* ўсё ш был*о* вясял*о*. Прых*о*дзіць в*е*чар, сабір*а*емса ўс*е* дзеўкі, ідз*е*м на в*о*зера, в*ы*купаемса, і як засьпяв*а*ем каля в*о*зера, то ўс*е* вых*о*дзілі на св*о*й падв*о*рак і сл*у*халі. В*о*т і цяп*е*р кат*о*рыя

ёсьць старшыя людзі, усягда ўспамінаюць нас і называюць салаўямі. Нават пабочныя дзерэўні радышкам чулі нашыя галаса. А як захочам, кап далей было чуваць, то на дзерава залазілі і так сьпявалі. Бывала, песьні былі не цяперашнія, былі жыцейныя. Вот была вясёлая жызьня, усягда яе ўспамінаю, цяпер маладзёш тухлая.

*С.Свёкла, 1930 г. н.*
*м. Парэчча Гродзенскага раёна, 2002 г.*

**264.** Неяк маладыя раней лепей, дружней жылі. Летам, як зьвечарэе, зусім сьцямнее, агледзяцца* і бягом на цялятнік. Ночкі сьветлыя, неба чыстае, толькі зорачкі гарацъ. Хлопцы агонь распаляць, дзяўчаты бульбы, сала напякуць. Хто гавора, хто песьні пяе. Бывае, дзяўчаты грусную песьню як зацянуць, аш плакаць хочацца. Хто на каго вока пакладзе, хто каму прыглянецца, ужо па хатах пад раніцу расходзяцца паркамі. Пры варотах пастаяць ціха, кап хто с старэйшых не ўвідзяў, дагаворацца стрэцца назаўтра. Зраньня маткі дабудзіцца не могуць, паактуюць* на ўсё падвора. Хочацца паваляцца ў лошку, але ўставаць трэба, работу рабіць.

*А.М.Місюкевіч, 1923 г. н.*
*в. Гальшаны Ашмянскага раёна, 1994 г.*

## ВАЙНА

Гл. таксама №№ 7, 17, 18, 21, 27, 29, 32, 36, 38, 43, 44, 47, 50, 63, 59, 70, 84, 95, 105, 106, 111, 130.

**265.** Што ш табе, дзеткі, расказаць? Як у вайну жылі? Цяшко жылі, галадалі часто. Бывало, німа чаго есьці, дык мы сь сястронкаю пайдзем, наскубем якое лебяды, крапівы маладое ці шчаўя дый наварым, кап трохі пасёрбаць было. Осяньню то яшчэ нічого было, укапаяш пры хаці якую-нібуць картопліну, сьпячэм лупонікі*, дый добро. Усяк было, дзеткі. А адным летам панаяжджало немцаў поўну вёску, мы сядзімо ў хаці, баімося на двор высьці, кап дзе ні забілі. Пабылі яны мо зь месяц дый выяхалі. А назаўтра, пад лесам, страляніна была, аш у хаці было чуваць, як тамака ўсё грымело. Пэўно ш, пагналі іх нашыя. Як усё пасьціхало, дык мы пашлі да лесу, кап падзівіцца. Як прышлі туды, нас аш закалаціло – людзей да халеры** пабіто было, і немца, і нашых. І так ціхо было, аш млосно зрабіласё. Ужэ атходзілі, адно чуемо некі голас. Пашла я туды, ажно гляжу, ляжыць наш маладзенькі салдацік, раняны моцно. Прынясьлі мы яго ў вёску. Глядзелі за ім усе: хто малака прынясе, хто яйко якое. Думалі, мо выжывя, ажно не, умёр прас колькі

дней. Ой, дзеткі, як жа ш жалко было, саўсім жа ш маладоё хлапчанё было. Хавалі яго на нашых могілках. Выкапалі яму, закруцілі яго шынелькай, дый так і засыпалі. Ні было пры ім ніякуткіх бумах, дык і зара* ні знаям, як яго называлі. Так і стаіць чысьцянька магілка, нічога на ёй ні напісано. От як было, дзеткі.

*М.К.Лухтан, 1921 г. н.*
*в. Цяглевічы Зэльвенскага раёна, 1993 г.*

**266.** Не дала нам жыці вайна, немцы нахлынулі, запаланілі ўсенькі сьвет. Усяго было ў войну, усяго. Мы і ўдзень і ўночы баяліса. У нас лес такі бальшы. Уночы парцізаны, днём немцы едуць. Як кепска было. Страшна, ой як страшна было перажыць. Як немцы растрэльвалі людзей, як палілі вёскі – ні расказаць вам. Мне было якіх сем гадоў ці восім, як увосень сорак першаго году прыехалі немцы на машынах с салдатамі, пачалі апкружаць сяло. Асталосо тылько уцякаць. Людзі, хто на чом мох і як мох, уцякалі ў лес. А хто ня ўцёк, немцы забралі іх, сагналі да гумна, паставілі ў тры рады па восім чалавек. Дзяцей і жанчын атабралі ў вадзін бок, мушчын – у другі. А другія немцы патпальвалі хаты, забіралі скаціну. Мушчын немцы растралялі. Людзі ногі цалавалі, прасілі не растрэльваць маленькіх дзетачкаў, але яны пагналі ўсіх у гумно і патпалілі яго. Сполаху я ні магу ніяк сама ў сябе прысьці, у вачах матылі лятаюць**, ногі паткошваюцца. Слабасьць. Моташнасьць. Але я пабегла ў лес, кап міне немцы ня ўбачылі. Колькі перажыла. Яко страху перанесла. Калі немцы паехалі, людзі вярнуліся на пажарышчы, сталі шукаць родных, кап пахаваць. Што там рабіласа. У хаці сьцены былі ў асколках, што як вымеш зь дзерава, тако як рана на целе астаецца.

*А.Н.Пазняк 1934 г. н.*
*в. Леснікі Лідскага раёна, 2002 г.*

**267.** Я, Амялевіч Міхаіл Мікалаевіч, дзярэўня Даўбенькі. Я ў начала іюня ўехал у Германію, міне выслалі, малалетка. Ну і я прыехаў. Там спрашвала начальства: «Нашто вы такога пацана прывязьлі?» Ані гаворацць на іх: «Ну якога нам далі, такога мы прывязьлі». – «Так толька яму кароў нада пасьвіць, а не, – гаворацць,– работаць у нас». Ну я так і астаўся. А завязьлі нас на завот, бумажны. Ну я там работаў можа паўтара месяца на заводзе тому. Ну пабыў абет, пашлі на абет мы. Там прышоўшы кацяр быў, і вугаль на завода. Ну і прыйшлі этыя рабята, пашлі яны палезьлі па лесьніцы, а я думаю, лянь, што жа я ні прыгну. Ну я ўзёў зьверху так эта і прыгнуў. А стаяла тачка там, на вугле, і я каленкам ударыўся

ў тачку і разьбіў каленка. Ну і я ні мох нікак ні работаць. От. Ну міне адаслалі ўжэ ў обшчажыця. Я пабыў у обшчыжыці, назаўтра міне начальнік завода завёс да ўрача. Урач ізноў гаворыць: «Ну так што вы хочаце з гэтакого пацана?» Гаворыць: «Гэта ш толька яму кароў пасьвіць». Ну патомака міне ўволілі з гэтаго з завода. Я папоў ужэ на начальству. Ну прыходзіць мужык пат самы вечарок, міне, этаго, бярэ міне на работу. Ну я думаў, што можа там мне і мелка работа. Ажно тамака было у хадзяіна трыццаць кароў дойных. Ну і было нада даіць. А тока мы, я і ён быў і жана калі-нікалі прыходзіла. Ну і столька нада было выдаіць гэтых кароў. Мне сталі рукі пухнуць. Ну і я тамака папрасіў у дзевачкі, яна пашыла рамушке на рукі, і даіў так каровы, мучыўся. Да тога ў міне сілы не было такой, как это ў мушчыны. Ну ён зачоў міне ўжэ ізьбіваць. Пабіў рас крэпка. Патом пабіў другі рас крэпка міне. Ну там былі пленныя. Я пашоў да іх, от. Ён тады прышоў тудэ, забраў міне, зьбіў і кінуў у падвал. І я ў адной рубашонцы быў пасьці тры нядзелі ў падвалі. От. Ну і гэтаго, і так вот я, кажу, пражыў. Пасьля мы пераехалі ў другі завот, да другога хадзяіна. І гэтаго хадзяіна тожа, гэта сама, яшчэ большэ ската. Ну а ён такі зьвізьверг, і я ні мох там ужэ работаць. Ён, гэтаго, міне зьбіваць стаў. Бярэ банкі на вос, этыя двацацілітровыя, ну я жа адною рукою ні падыму, я ледзь дзьвума рукамі на вос здыму эту рамку, эты бітон. І, гэтаго, і разьліў там троха малака: стукнуў у берах. Ён патомака, гэта пагрузілі, і так зьлезе з воза, ды і давай міне апяць купаць. І ён зьбіў міне тожа. Ну і ўсё. І сам павёс малако ў малочную здаваць. Я астаўся, стоў быке чысьціць, былі два быке. Ажно ён прыехаў і ўзёў неку палку і давай міне каля гэтых быкоў малаціць. Ён міне зьбіў ушчонт, разьбіў мне голаву, разьбіў мне плячо вядром, от эта, і акрывавіў так міне крэпка, што я быў весь акрываўлены. Ну і я патом што ні рашыў: ну нікуда я ні дзенуся. Толька мне ісьці канец сабе шукаць, канец які і ўсё. Ну я і пашоў так. Пашоў, ішоў, мусі, троі суткі я. Двоі суткі то ніяк ні еўшы пасьці ішоў. Так толькі картошкі кругом сібе наброў я на полі сырой, так калі картошку пагрызу, і этак ішоў. Ну а патом лясьнік міне ў лесі ўстрэціў уночы, ішоў з другой старанэ паласэ лесу і ўстрэціўся. Я – на дарогу, а ён за кустам быў. Ну ён быў з руж'ём тамака і лісапед у яго быў. Ну ён міне ўзёў і павёў атуда. Павёў ён міне, вывеў за лес. Ажно там домік стаіць, віжу, радам. Ну і завёў у гэты домік, абудзіў там хадзяйку, хадзяіна, і пусьцілі міне на кухню. Пусьцілі міне на кухню, стоў хадзяін, стала хадзяйка, і гэты самы лясьнік тут давай міне правяраць карманы. Праверылі карманы: ну нічаво ні было, толькі каропка сьпічак і кругом картошкі я набраў, крайні случай будзе труд-

на, то хоць прыгрэю яе дзе і паем гэткай картошкі. Ну і хадзяйка, праўда, прынясла мне дзьве лустачкі хлеба, пашмаравана ягадным гэтым варэням, і я паеў і лёх спаць. Ажно яны, гэты лясьнік ужэ пашоў дахаты. Прыходзіць сусет, ну і стоў гаварыць да міне. Ужэ ён разгавор проста панятны, нашы, беларускі. От. Ну і спрашвая: «Куда ты ішоў?» – «От, – кажу, – туда ішоў, куда вочы нясьлі, бо я ненадзёжны, мне і так трудна». Вот. А ў міне усенка рубашка ў крыве і плячо разьбіта ў крыве, пацякла. Ну, знаяця, ішоў. Ажно патом прыходзіць хадзяйка тога хадзяіна. Ну тая стала гаварыць па-ўкраінску, яна з Расеі была. Ну і яна стала гаварыць: «Куда ты, сынок, ідзеш? Дзе ты? Аткуда ты?» Я яму расказваю, што ў Гродзенскай абласьці Сабакінцы – мясьцечка, вёска Даўбенькі. Ну і я так эта расказаў ім усё сваё – і ўсенка. Ён, хадзяін, гаворыць: «У міне есьць хлопец із Вільнюса. Ён сапожнікам работая. Я во хачу пусьціць, пусьць вучыцца сапожнікам большэ. Узяў бы цібе, – гаворыць, – двоя коней і чатэры штукі ската. От, – гаворыць, – табе да ската, для цібе, – гаворыць, – у міне німнога работы, – гаворыць, – і будзя дзела. Толькі накарміць і навос выкінуць, а астальноя – хадзяйка». Каровы даіла ім дочка, каровы даіла, а я гэта толькі работаў. Ну вот так я і прабыў, прабыў я зіму там і аж да мая месяца прабыў. Ажно патомака міліцыя ўжэ зіскалася міне, што я ўцёк дамой: я ш нідзе ні ўцяку, бо я вапшчэ ніграматны і ні ведаю, куда і што ехаць. От, але так ішоў кудэ міне вочы нясьлі. Ну і забрала міне міліцыя. Міліцыянер сказоў гэтаму хадзяіну прывясьці на вакзал. Ну хадзяін мне назаўтра нічога ні гаварылі, але назаўтра ўзёў запрох маладога каня і пасадзіў міне разам, і паехалі. Прыяжджаем – ажно той міліцынер акраз на вакзалі стаіць пат сьценкаю. Ну і сказаў, што ў гэты вот вагон нада ісьці і ўсё. Я зайшоў у вагон. Ажно там яшчэ двоя рабят ішлі, эты, сядзелі. Ну я зь імі паздароўкаўся, стоў пояст зарас рухаца. Я выйшаў, с хадзяінам папрашчаўся, стоў я плакаць, паплакаў, і павязьлі міне. Так. Павязьлі, завязьлі ў лагер, і я ў лагеры ўжэ быў. Ну і патом сказалі, што паехаў на сваё старое месца. Вот. Я сказаў, што я туда ні пайду. Вапшчэ мне жысьць каротка, то я рашаю ўжэ сваёю жызьняю і я туда ні пайду. От. Ну тада міне ўжэ пусьцілі. Нас там ганялі, мусіць, чалавек дзесяць на складэ этыя там, паразвозілі адзёжу, паразвозілі шапкі, паразвозілі наске, паразвозілі нас, такія работы былі, вазілі ў начальства, як яго то гэтаго, тамака картошку парабіралі. Ужэ нам там і есьць дадуць, і ўсё, гэтыя салдаты. Ну і там мы ўжэ гэта дабывалі так, хадзілі, мусі, пасьці чуць ні да месяца, і тадэ ўжэ нас давай паслалі па ізноў, гэта ўжэ атпраўляць. Ну та хто старэйшы папоў, таго зразу ўзялі, а нас удваём такіх малых

асталося, то мы сядзелі цэлы дзень да вечара. Увечары прышоў старык нівелькі, ага, хоча чалавека ўзяць на работу. Ну паглядзеў-паглядзеў, нас паднёў, ну што ш, малыя, дзеці. Ну пашоў, пашоў тудэ, а той начальнік гаворыць: «Да табе другіх людзей не прывядуць. Толька во гэтыя, што асталіся: хочаш – бяры, хочаш – ні бяры». Ну і ён тады ўзёў міне. Ну там хадзяін бальшой: восем коней было і трактар свой быў. Ну я і каровы даіў, і на полі рабіў, і трактарам рабіў, і коньмі рабіў – усё ім. Так я і пражыў у іх.

*М.М.Амялевіч, 1925 г. н.*
*в. Даўбенкі Шчучынскага раёна, 2003 г.*

**268.** Як прыехалі немцы, было страху вельмі многа. *Я* тады шчэ малая была. Гэтак палучалася, што тамака па Ражанскай шашы нашы атступалі, а вось тут, па Косаўскаму тракту, немцы ішлі. Перастрэлка была, страх успомніць, мілая мая. Вой, як я здумаю, як з братам уцякала па жыце. Бяжым зь ім, а кулі сьвішчуць. Сяло гарэла. Лічаныя хаты засталіся. Немцаў было тут не пашчытаць. Мілая мая, і гэтак было. У начале сяла немцы стаялі, каго паймаюць – разьдзяюць, чысто цела – атпусьцяць, а калі ёсьць наколка – ўсё, магіла, капец*. Вось і сьвякроў мне што казала. Немцы зьдзяваліся ўсяк. Людзей выганялі с хат на гуліцу. Але ж, міла мая, ды з кожнае хаты гналі. Усех за сяло. І там пачалі сарціраваць. Вядома, было падана*, бо чыталі ўсіх начыста па лісту. Ну й патом каго – налева, каго – направа. Людзі валнаваліся – хто куды. Кой направа, тых усіх у гумно пазвалакалі. Аблілі патом бензінам і патпалілі. А гэтых, каго налева, яшчэ сарціравалі. Адных – у Германію, а астатніх атпусьцілі. *Ой*, было ўсё, міла мая. Страх успомніць.

*Л.Ф.Дарашэвіч, 1932 г. н.*
*в. Дзеравянчыцы Слонімскага раёна, 1991 г.*

**269.** Была бальшая партызаншчына. Яго ўбілі. Прыйшла, аслабадзілі нас рускія. Усе гэтыя вярнулі школы. *Я* была ў чацьвертым класі, вярнулі міне. З чацьвертага перайшла ў пяты, і больш у нас школы не было. У нас дарога была, гэта сама цэнтральна, па каторуй машыны ходзяць. Пад'ехалі машыны да Мілявіч – дзярэўня Мілявічы і Дарогляня. Тут свае былі, рускія салдаты, яны не зналі, што тут сядзіць засатка*. А танкаў много ішло, я помню. Давай страляць па гэтых салдатах. Той туды пахіліўся, той туды у тангах. Колько мы плакалі па іх! Усё мы бачылі, а яны не зналі друг аб другу, што гэта свае, рускія, у Дарогляні, а ў Мілявіч тожа рускія. Адныя па другіх білі. Тагды нам было очэнь цяшко. Днём ад немцаў бяда, а ноччу – ат парцізанаў бяда. Нам жыць было трун-

но. *Е*сьлі зн*а*е, хт*о* парцізан – убів*а*лі. Парціз*а*ны т*о*жа зн*а*юць, хт*о* да н*е*мца паш*о*ў, чыя нямецка сям'*я*. Гр*а*білі і т*о*жа ўбів*а*лі. Не был*о* ад адн*ы*х *я*к ж*ы*ць, і ад друг*і*х. Адн*ы*х не пахв*а*ліш, друг*і*х не пасудзіш. Сёня д*о*бра ж*ы*ць, ал*е* ўж*о* г*о*ды падышл*і*, трэба іcьц*і* дах*а*ты**, а х*а*та на мог*і*лках. Н*а*цкава гарэла ў вайн*у*, парціз*а*ны запал*і*лі н*а*ша сял*о*. Бы*ў* у н*а*с, у н*а*шай дзярэўні, каменд*а*нт, Сір*у*цік фам*і*ля, Уладзім*і*р, *я*к па б*а*цьку, ні п*о*мню. *Ё*н бы*ў* каменд*а*нт у Кур*ы*лавіч пастар*у*нку*. *Ё*н зр*а*зу зраб*і*ў самах*о*ву ў н*а*шай дзярэўні, у Н*а*цкаве. А п*о*тым м*е*ў сьв*я*сь с парціз*а*намі. Тад*ы* т*ы*я парціз*а*ны, у як*і* дз*е*нь, прышл*і*, ус*і*х людзей, каг*о* б*а*чылі на г*у*ліцы, убів*а*лі і пал*і*лі, м*а*ло хт*о* аст*а*ўся. Патам*у* шт*о* ён м*е*ў сьв*я*сь, ён прад*а*ў, і ў Дзярэчыне *ё*н бы*ў* каменд*а*нт, і т*о*жа ўс*ю* ням*е*цку міл*і*цыю прад*а*ў ён, ус*ю* прад*а*ў. Гэту міл*і*цу ням*е*цку праз в*о*кна цяг*а*лі, убів*а*лі. Пр*о*ста был*о* нехараш*о* ж*ы*ць н*а*м, малад*ы*м.

*М.С.Васілеўская, 1929 г. н.*
*в. Нацкава Мастоўскага раёна, 2003 г.*

**270.** Па*е*хала *я* ў Герм*а*нію не за сва*е* гад*а*. Был*о* гэта ў с*о*рак трэцім. Падр*у*га был*а* ў мян*е*, узял*і* мян*е*, в*ы*правілі за *я*е. *Я*е б*а*цько аткуп*і*ўся, а н*а*м н*е*чым был*о*. Спач*а*тку ў г*о*рах Магілянскіх хав*а*ліся. Жэня мн*е* *е*сьці ўсё прын*о*сіла. А п*о*тым с*а*мі в*ы*йшлі. С*о*лтус* сказ*а*ў, кап явіліся ў райц*а*нтар, атт*у*ль павязьл*і*, у Гр*о*дне на п*о*ест пасадз*і*лі. Завязьл*і* ў Герд*а*ўн, на пр*у*сах недалёка. Сказ*а*лі: «Па цяб*е* ў ст*о*лька прыедуць, па цяб*е* – у ст*о*лька». П*е*ршы р*а*с дал*і* мян*е* так*о*му дзяцьку, што ў яг*о* хазяйства был*о* мал*о*е. С*е*м кар*о*ў дзяржаў, усё малак*о* аддав*а*ў на фр*о*нт, ніхт*о* ям*у* гр*о*шы не дав*а*ў. Н*е*мцы ваююць, *і*м трэба, а р*у*скія гал*о*дныя, і д*о*бро был*о*. П*о*тым был*а* ў маёнтке, жыл*а* ў хазяіна ў х*а*це. Плац*і*лі вясн*о*ю дв*а*ццаць чат*ы*ры м*а*ркі, зім*о*ю – днан*а*ццаць, к*о*жны м*е*сяц. Карм*і*лі д*о*бро: ч*а*й, м*а*сло, у аб*е*т – скв*а*рка, *я*йко, ніякіх кап*у*стаў, гар*о*хаў не был*о* ў *і*х. Хадз*і*ла на п*о*ле, кар*о*вы п*а*сьвіла. Палякі был*і* т*а*м і р*у*скія, *я* – адн*а* белар*у*ска. *І*м дав*а*лі маргар*ы*ну, а мн*е* – т*о*лькі м*а*сло. Завял*і*ся свар*ы*цца, а *я* адн*а* ў старонцы ста*ю*. Прыйш*о*ў брыгадз*і*р і к*а*жа: «В*о*льга д*о*брая». У Кол*я*ды ням*е*цкія раб*о*чыя, што жыл*і* каля н*а*с, прын*о*сілі каўб*а*с. Н*е*мцы ні р*а*зу не б*і*лі, ніч*о*га. *Я* не хацела г*о*рда зь *і*мі быць, не свар*ы*лася, бо даст*а*не піста*л*ет і заб'*е*, як саб*а*ку. Трох*у* па-ням*е*цку навуч*ы*лася гавар*ы*ць. У н*е*мцаў скр*о*сь пар*а*дак трэба кап б*ы*ў. Т*ы* в*ы*йдзі, кап был*а* парв*а*на спадн*і*ца, брыгадз*і*р в*о*зьме зус*і*м парв*е*. «Т*а*к не м*о*жна, – к*а*жа, – трэба пастр*о*іць і пам*ы*ць, х*о*ць і стар*о*е». Сав*е*ты асвабадз*і*лі н*а*с, ма*е* хазяяв*а* паехалі ў Амэрыку, зв*а*лі мян*е*, але *я* не па*е*хала. Паля*к*аў дах*а*т пусьц*і*лі, а р*у*скім і белар*у*сам кар*о*вы сказ*а*лі гн*а*ць с

Германіі. Гналі мы каровы, я ногу паламала, пасадзілі на вос, я кіравала коньмі. Дваццаць чатыры павоскі мукі яшчэ вязьлі, цялят – такое багацтва. Нас банда перапыняла ў лесе, восем мушчын і дзьве бабы было. Стралялі па нас, забіралі каровы, некаторых людзей забралі. А мы пайшлі далей. І цяпер, здаецца, ішла п невядома куды, ногі мне не баляць. Як выйшлі ў маі, то зайшлі ў сеньцябрэ. Усё добро кончыласо. Прыехала – бацько памёр, хата сгарэла. Вязала сьветры, зарабляла грошы, кап купіць хату. Жылі ў чужой хаце, потым купілі. Хадзіла ў Зарубічы да родных, пасваталі яны мяне. Быў ён старэйшы ад мяне, у яго зямлі многа было, але калхос начаўся. Зрабілі вясельле. Пасьля нічога добрага не бачыла за ім: піў, халерны конь**, піў як цэмент воду **. Едык* мучылася. Працавалі як коні**, ідзем раненько, жнем, прыходзім – у хаце сьвіні, карова. Што я толькі не перажыла, хай Бог бароніць**.

*В.П.Казак, 1923 г. н.*
*в. Кавалічы Гродзенскага раёна, 1996 г.*

**271.** Дзесьці ў сорак чацьвёртум годзе ўжэ пачалі немцы ехаці зь дзярэўні. Я ш тады яшчэ малая была. Усе людзі выбраліса ў лес за кіломятар ці больш. І я пайшла. Тулько бачу лух, ды хтосьці з ыншай дзярэўні каровы пасе. У лес прыйшлоса занесьці тое, што пасьпелі схапіці. Там мы былі, пакуль немцы ня выяхалі. Пакуль нашы войскі іх на той бок Нёмана ня выгналі. А старыя людзі не захацелі ісьці ў лес, яны засталіся ў дзярэўні. Спалі ў лесі хто на возі, хто на зямлі. Кажухі, радзюшкі*, подушкі былі. Мусі*, адна тулько карова ў нас была, хлеба не хапало. Дзіцей каторых падымалі на рукі на ўзгорку, каб бачно было, як дзярэўня гарыць. Калі мы прыйшлі ў дзярэўню, ат хат пасьці* што адны коміны засталіса. Усюль пабітыя танкі стаялі ды ляжалі немцы мёртвыя. Потым іх закапалі дзесьці ў тым месцы, дзе зарас лух. Мы жылі ў сваіх сваякоў, у іх хата не згарэла. Мая маці даўно плакала, ды адразу сказала, што будзя цяшка жызьня, от. Быў у час вайны адзін цікавы выпадак. Недалёко ат цяперашняга арапорта быў футар Мар'янаўка. На ім жылі ў адной жэншчыны парцізаны, немцы тады ўбачылі, што адзёжа вісела мушчынская. Парцізаны ў той час сядзелі на гарэ* хаты. Пачаласа перастрэлка. І от, дочка гэтай бабы ўцякла ў нашу дзярэўню, але дзяўчына паранена была, таму на сьнезе застаўса сьлет. Немцы знайшлі хату, дзе хаваласа парцізанка. За гэты ўчынак немцы хацелі спаліці ўсю дзярэўню. Але наш бацюшка ўмеў гаварыць па-нямецку. Ён сказаў ворагам, што навошта страляці ў нявінных. І от сабралі мушчын і жанчын у адну хату, а дзяцей – у адрыну. Але ўсё закончыласа добро. У памяці

таго, што людзі засталіса жывымі, жыхары купілі ікону. Яна і зараз вісіць у царкве.

*З.Д.Сідарчук, 1931 г. н.*
*в. Коматава Гродзенскага раёна, 1996 г.*

**272.** Я аднаго немца бачыла ў жызьнь. Я тожа малая была. Ехалі машыны шмат, дак астанавіліся, і мы сядзелі, ту нам па канфеце далі, дзецям. А мы на весьнікі пачапляліся, углядаліся. Так яны нам вынялі па канфеце далі. А нас і ні чапалі тыя немцы. А так ўсяго было. Дзе людзі, гэты во, проціў іх, дак і спальвалі ш і вёскі. Усяго было. А мой брат у першуй устрэчы** ў парцізаны пашоў. Іхнія бацькі ўміралі сь ціфы. А самы старшы, Аляксандар быў, дак пашоў на польскую, ніхто ні знаў, дзе ён, думалі, прапаў. А ён аш пры саветах прышоў, вот як. А кажуць, тожа бачылі ў парцізанах, туды за Карэлічы, яго. А ён і нікагда ні расказаў. А тут у іх астаўсё Габрусь, каторы пайшоў у парцізаны, Ніна, і Маня, і Пеця, самы. Пеця яшчэ малы, падросткам. Гэты пайшоўшы і Пеця ў лес, куды дзецца. А гэтыя пайшлі на Сянежычы, там у вёску Руднікі, дзе ў каго ў лесе хаваюцца, у каго там радня, дзе ў каго-нібуць пераначуюць, во так. Як немцы прыехалі, забралі карову, гэты во, паўкідалі падушкі, нажом парэзалі, адно пер'е шло. І с пушкі стралялі, папрабівалі сьцены і вокна, усё. А яны былі ў Чантарэях. Маня казала, узяў быў міне немяц на бінокаль, але ні захацелі, кажа, ляцець за намі, ужо ўпусьцілі іх. А Пеця, бывало, казаў, кажа, прыду, кап далі кусочак хлеба, дак бацько кажа: «Ідзі скарэй адгэтуль, кап немцы ні ўгледзелі. А як па радні, дак усю сям'ю выб'юць». Кажа, вот як міне на надворак ні пускаў, дзяцько родны. Кожны бярох сваю сям'ю і сваю шкуру. А дзяцька Антона, роднаго татава брата, забралі былі. Яны ўсех, немяц усех выз[?]ваў да аднаго. Сагнаў у гумно, а тады пісаў, у каго якія дзеці, ўсё, усю сям'ю сьпісваў і, гэты во, браў жо ш на работу некатарых у Германію. Дак узяў эты наш дзяцько ды ўцёк, і яшчэ адзін наш сусет, уцяклі. А ў тата папыталі, што дзеці малыя, дак далі на пілараме работу, аш у горат кожны дзень хадзіў. Але глаўно каля дому быў. А гэты дзяцько ўцёк. І Качан быў. Дак Качан зрабіў зямлянку, і сколько тут тыя немцы былі, я ні помню, два, тры годы, сколько яны былі, ён у зямлянцы жыў, у том лесе, дзе астаноўка, во. А гэты во, а дзяцька злавілі, гэтаго майго, і завезьлі ў Германію, білі. Ну тылько я ні панімаю, якім пуцём былі асколкі ў яго, дванаццаць шрампнераў, як казалі. Вот у Бродніках быў як бы доктар, зь вёскі, ён жыў там. Так посьля вайны расказваў, што ў яго гэдак было, ды кажа, я ні мох пазірацъ. Павесяць галавою ўніс, ды б'юць, б'юць.

Дак гэты дзяцько пры саветах прышоў, мо поўгода пажыў, можа і не, і памёр. Што ш, этыя асколкі сядзелі ў ём.

*Т.В. Яхант, 1937 г. н.*
*в. Рутка II Навагрудскага раёна, 2005 г.*

**273**. Як жылі раней? О, дзеткі, усяляк жылі. А натта цяшка жылі, калі вайна была. Тады ўся вёска ў лесе хавалася. Мы с хаты ўсё лепшае пазабіралі, а скаціну тожа ў лес сагналі. Баяліся. Мы былі дзецьмі, у той час быдла па лесе пасьвілі. Як паходзіш босы дзён сколькі, ногі папэнкаюць*, баляць і потым натта доўга гояццца. Зімою страшна было. Тою зімою шмат каго немец растралёў. Калі немец дазнавоўся, што хто з вясковых с партызанамі страчоўся, таго яны прывязвалі да галобляў* за рукі і гналі коней на ўсе чатэры**. Страшна было глядзець. Мала хто дажывоў, покуль да Сабакінцаў давязуць, мёрлі. Хто жывы быў, таго растрэльвалі. Вот так жылі і баяліся, нават ціпер страшна становіцца. Але посьле вайны яшчэ страшней жыць стала. У лесе партызаны паявіліся, людзей, падлы, шукалі. Ночаю прыходзілі, яду забіралі, адзеньня, не давалі спакою людзям. Рас во с самага ранку, мы яшчэ ўсе ў хаце былі, прыходзіць старая Маня і кажа майму бацьку: «Паўлючок, на вяселя прыхоць». – «Што за вяселя, што ты мэндзіш*, бапця?» – «Застрэлілі маю дочку, зьвярэ гэтыя, яна яшчэ спала. Зь ёю малы сын споў, але, дзякуй Богу, жывы застоўся». Вот так, дзеткі, было, страшна было.

*Н.П.Праневіч, 1932 г. н.*
*в. Рыскі Шчучынскага раёна, 2005 г.*

**274.** Немяц наляцеў і збамбіў ваенны гарадок. Ніхто і не думаў, што гэта вайна. Немяц прышоў скоро, стаў забіраць усё. Нападаў на вёскі. Забіраў коні, каровы, сьвіней. Мы жылі толькі са свайго труда: што дзе сеялі трохі, дзе якая гратка была. Пры немцу былі ўстрояныя карткі хлебныя. Сеялі кажды сам сабе, сеялі лён. І лён трэбо было пасеяць, вырваць, паслаць, падабраць, сьцерці. Кап атрымалася кудзеля. С кудзелі пралі ніткі, і тады ткалі кросна, ткалі палатно, плаценка і шылі сачыкі*. Зь лёну адзяваліся – была ўся наша апора. Тады зь'явіліся парцізаны. Немцы нападалі, людзі баяліся ў хатах начаваць, уцякалі ў лес. Разам с сабой забіралі і скаціну. А хаты былі пустыя. Толькі ўдзень прыходзілі дахаты, дзе што зрабіць. Немяц, як атходзіў, забіраў с сабой цэлыя стадо скаціны. Вывозілі людзей у Германію. Людзі хаваліся, хадзілі начаваць у лясы, хаваліся па ямах. Як пачалі разьбіваць немца, то многія паўцякалі. Папрыходзілі дахаты пяшком. У вайну рабіла на торфе, там цяшко было рабіць нам. Капалі зямлю-пласты, і скла-

далі іх у клеткі*. Кап яны сохлі. Было цяшко, і я кінула і пашла на швейную фабрыку. Бо вучылася на краўчыху. Тады мяне падалі ў суг, што кінула работу. Мяне асудзілі на чатыры месяцы. Але за тое, што перашла з работы на работу, мяне пасадзілі на тры месяцы. І я тры месяцы сядзела ў турме. Маці прыносіла картоплі*, але і яе ўсю нам не давалі – анну, дзьве пададуць. Атсядзела турму і скоро вышла замуш. Жаніх ваяваў, а тады папаў у плен. Марылі голадам. Так яны даставалі с сяльнікоў* салому і елі. Замужам доўго не пажыла – скоро мужык памёр. Немяц закатаваў, і ўсё сказалася на здароўі. Засталася адна, з двума дзецьмі. Было яшчэ цяжэй, усё рабілі. І цягалі на плячах, дровы зь лесу і тыя насілі на плячах. Усё рабілася сваім трудом. Коней не было. А потым, калі нават і з'явіліся, то ўдовам яны не перападалі. Было вельмі цяшкае жыцьцё.

*в. Ладзенікі Навагрудскага раёна, 1998 г.*

**275.** У нас лішне многа выбілі немцы людзей. Хто ў гэту сторану ўцякаў, за шашу, за цэтральну дарогу, тых усіх паўбівалі, а хто ў гэту старану ўцякаў, я ўжо ў гэту старану ўцякала, і з намі два брата й бацьке былі, і значыць, да нас прыбілася дзеўчына с той стараны. Матка пабегла ў тую старану, а яна невялікая, ну гадоў восім, ці мо й ні было восім, прыбегла да нас і разам спаслася. І асталася ў жызьні. А матку яе забралі і забілі. Хай Бох крые**. Самая цэнтральная вёска, што партызаны праест мелі, і сюды прыходзілі. Немцы тут стаялі, акопы былі, дзе клуп, тут акопы былі, тут жандармерыя жыла, як мы ўжо ведаем, помнім, гэта начальства іхняе. Ну й тут яны адгэтуль хай дзе толькі замецяць што, а па краях дзяжурныя стаялі, паставыя, салдаты, хай толькі замецяць, што парцізаны дзе. А ў нас яўрэйчыкі былі, людзі, вот і нашы суседы. Ну прыходзяць, прыходзяць што й паесьці, ну а людзі ўсялякія былі, як ціпер, так і некалі. Бывае, што скажуць, во, пайшоў да іх той і той. Бывае скажуць, бывае і ні скажуць. Вот гэтак і было. Ну так прыходзілі, але нашы то ў Палястыну паўцякалі некаторыя, а некаторых пабілі. Аднаго кавалера, дваццаць чатыры годы, забілі на гародзі, возьле нашага дому, там, дзе школа, стаяў наш дом. І на гародзі яго забілі немцы.

*Л.М.Паўлюк, 1931 г. н.*
*в. Лявонавічы Дзятлаўскага раёна, 2005 г.*

**276.** І рас мы леглі спаць. Эта была субота. У суботу цётка нават напякла хлеба ў пячэ, смашнага такога. Мы леглі спаці. Нарана ўстаём – вайна. Мы ўсе плакалі, што началаса вайна. Эта

быў рок* сорак первы. Сорак первы рок эта быў. Я добра помню. Прышлі. Вайна. Сталі бамбіць бомбамі, лятали этыя арапраны*. І многа было арапланаў. Білі ўсе. Гарада білі. Ну на вёскі ні білі, патаму шта на вёскі, ну што вёска. Там німа нічога. Каровы – і ўсё. Мы – што рабіці нам? Давай капаці такую яму. Схрон* такі бальшы. Велькі такі схрон выкапалі. Ну там памагалі нам дзяцькі старыя такія. Патаму шта маладых ўсіх забралі на эта. Паўцякалі ўсе ў лес, ад немцаў пахаваліса. А мы ўжэ, малыя дзеці, бабы, асталіса ў вёскі. Прышлі немцы. Патом мы так перажы... плакалі. Аны да нас прыходзілі, забіралі яйца, куры. Крычалі, эта, куры яшчэ не зьнясуць яйцаў, аны ўжэ крычаць: «Давай яйца!» Мы выкапалі той схрон. І на адзін куль саломы ўзялі палажылі выша. Заслалі радзюшкай* такой тканай, красівай, добрай такой, харошай. Ну і от так і жылі пры немцах. Баяліса этых немцаў. І этыя немцы прабылі ў нас тры пасьці* рокі. І пашлі далёка-далёка ўжо, аш пад Масквой. Мы ўсе плакалі, што ўжэ немцы будуць. А патом давай нашыя адбіваць іх. І абратна немцы атступалі. Это было самая страшная, када атступалі немцы. А мы стаялі ў нас на агародзі. Эта былі на этых шапках такія трупья голавы**. Мы дажэ не знаем, што там было нарысована на тых шапках. І мы куры тыя пазамуроўвалі пат печ. А самі каровы гэтыя ўсе загналі ў балота і прыганялі дахаты. І этыя немцы стаялі каля нас на агародзі тры дне. А патом ужэ мы ўжэ баяліса, кап нас немцы ні пабілі. Мы кінулі вёску і пашлі. Там быў недалёка такі біндаш* называўся. Ну схрон такі. Тоўстыя былі такія. Ну када-та пры цару пастрояны. І мы тамака начавалі тры ночы, пака этыя немцы не атступілі. Када, калі нашыя прышлі, та нам ужэ было так добра. Мы так перажы... плакалі ат этай велькай радасьці, патаму шта за немцамі маю цётку эту, што жыла за мной, забіралі, бралі ў Германію. І ўсё жа яна там мусіла быць. Яна была там у маёнтку. Прабыла яна там восім месяцаў, у Германіі той. Але сіраўно* яна такая была хванабэрыстая дзеўка. І ўцякала. Уцякала, ішлі яны ночамі, ішлі яны дахаты, да вёскі шэсьць нідзель. Ішлі толькі ночамі, а днём была восень. Ужо было бульбу капаці. А й халадно было. Яны, яна расказвала, што яны праталіса, этым днём у саломі. Вот салома стаіць там, дзе якая капа на полі. І яна спратаіцца. Яна не адна была, зь ёй была яшчэ адна падрушка такая. Там недалёка другой вёскі. Аны двоіх не хацелі быць у Германіі. І мусілі, мучыліса і прышлі ўсё жа ў вёску. Паўцякалі, і яна хаваласа яшчэ ў эту вёску. Сядзела дзе. Днём сядзела ў хаці на пячэ, а як вечар, прыягджалі немцы ў вёску, і яны рабілі такую аблаву. Та яна хадзіла ў гадрыну*. А ў гадрыне там было жыта. Такая ну, такі старонак* цэлы жыта. І вот мы

такую зрабілі, жыта тое дасталі, такую яму зрабілі. Яна туда залазіла, і жытам тым, другім такім снапом закрывалі яе. Ну а патом ужэ, як нашыя асвабадзілі, і яна вышла, яна такая была белая ўся. Патаму што яна была, ну эта, сядзела ў хаці. Не выходзіла ш на вуліцу; ніхто ў вёскі не знаў, што яна это, хаваецца ад немцаў, ад Германіі этай. І вот так ужо, як нашыя асвабадзілі, мы ўсе такія былі радыя, што асвабадзілі. І тады сталі жыць, лепей трошкі сталі жыць, абратна сталі дзяржаць кароўку.

*В.С.Альховік, 1925 г. н.*
*в. Навасёлкі Гродзенскага раёна, 2001 г.*

# ВУСНАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## *Легенды і паданні*

Гл. таксама № 89.

**277.** Пэўна раскажу табе пра Вяльлю нашую. Гэная Вяльля, што за Альхоўкай цячэць. Было гэта натта даўно. Тэй парой і мяне ні было, і бабы тваей ні было. Жыў каваль адзін, і называўся Сьцяпанам. Гэты Сьцяпан стройны* быў натта чалавек, натта ўмеў усё рабіць. Што чалавек ні скажа – усё зробя. Алі жа ш адзін быў: ні маткі ні меў, ні жонкі. А ў вёсцы тэй дзяўчына натта харошая жыла. І дзяўчына гэтая тэш нешта мела да Сьцяпана. А Сьцяпан жа ш той нічога ні знаў, а ўжо дзеўку тую так любіў, што і ні расказаць. Хадзілі і любілі адзін аднаго, і ні зналі пра гэта. Раз ноч была на дворы. Цёмна было хоць вока калі**. Сьцяпан сядзеў у хаце і гараваў, а потым сабраўся і пайшоў у поле. У полі гэтым быў вялікі камень. Сеў хлапец каля гэтага каменю і пачаў сьлёзы ліць. А тут пяруны пачалі страляць, дождж уліў. Маланкі бліскалі і бліскалі. Аднэй зь іх забіла Сьцяпана. Раніцай бабы ішлі рабіць на поле і ўвідзялі каля каменю вялікі чорны роў. Зразу і ні понялі нічога, а потым пачалі казаць у вёсца, што гэта месца, дзе Сьцяпан згінуў. Дзяўчына гэтая, ну, Сьцяпанавая, гаравала натта. Пайшла ўночы да гэтага каменя і так ужо галасіла, што сама ў ваду выцякла разам са сваімі сьлязьмі. Німа шчасьця. Так во і пачалася Вяльля, з каменю і слёзаў дзяўчыны, што галасіла каля гэнага каменю.

*І.І.Штур, 1922 г. н.*
*в. Альхоўка Астравецкага раёна, 1992 г.*

**278.** Ну што вам сказаць? Жыць у вёсцы цяжэй, як у горадзе. Тут табе й сьвіня, і каравэ, і гарадэ. Чаго толькі німа. Нідзе ні

пасьпяваяш, то туды бяжыш, то сюды, ніяк ні ўправісься. Во, усе рукі нацягнула, галава баліць. А куды дзенесься, ніхто за цябе рабіці ні будзе. Ды што ш гэта я. Лепей, мо, я вось што вам раскажу. Гэта было дужа даўно. Яшчэ калі мае дзет ды баба былі малыя. Тады на гэтым месцы ўсюды былі балатэ. Людзям ні было куды падзецца, дык і сяліліса яны тут. Жылі яны тут і нічога ні ведалі пра тых, хто жыў па суседніх вёсках. Ні было ім як да іх дайсьці. Тут жылі, жаніліса, дый паміралі. Калі ш паны падзялілі зямлю паміш сабою, захацеласа ім егдзіці адзін да аднаго ў госьці. Так і пачалі яны рабіці мастэ ці нявелькія кладачкі адзін да аннаго. С таго часу сталі хадзіці людзі ў суседнія вёскі, хто ў госьці, а хто і так чаго. Калі хто пытаўса, як куды дайсьці, дык людзі гаварылі, што яму проста туды, праз мастэ. Потым людзей тут стала жыць усё больш ды больш, хатаў усё большала ды большала. Так і зрабіліса туташнія нявелькія вёсачкі анной велькай. Яе і сталі клікаць Мастамі. Ды хоць і была гэта анна вёска, але падзялялі яе мастэ. Гэтак людзі і сталі гаварыць пра тых, хто жыў на левы бок ад мастоў, Левымі Мастамі, а хто жыў на правы бок – Правымі Мастамі. Гэтак і цяперака: есьць Мастэ – горат; тутака, дзе мы жывямо – Правыя Мастэ, а на левы бок ад нас – Левыя Мастэ. І хто ведае, што будзе далей.

*А.А.Здановіч, 1930 г. н.*
*в. Правыя Масты Мастоўскага раёна, 2003 г.*

**279.** Мой дзет жыў у вёсцы Ніцечы. Раней на том месцы, дзе ціпер вёска, быў футар. Бліско футара быў прут, на яком стаяў млын. Малады паніч, пераяжжаючы прут, утапіўсо ў ём. Пані, сама была варажэйка*, страшно кляла прут. Кожнаго дня яна прыходзіла на гэта места і праклінала: «Не цячы». Быстро пасьля таго прут высах. Людзі пачалі будавацца, на том месцы, дзе быў прут, стала вёска. Людзі, помнячы праклён пані, назвалі вёску Ніцечы. Места там было добрае, зямля багатая. Там добро расьлі картопля, пшаніца, гарох. Мой дзет меў паначалу два гактары зямлі. Шло врэмя, панэ продалі свае землі. Дзет купіў у аднаго пана дзесяць гактараў, у другога чатэры. Зямля тады стоіла дораго. Гактар прымерно стояў як ціпер машына. Рабіць было цяшко, але, прыдбаўшы гаспадарку, мус* рабіць. Гаспадарка была вялікая. Было чатэры каровы, трое коней, пятнаццаць штук гавец, васьмёро сьвіней. Сёньня гэтулькі не дзержаць. Меў дзьве адрыны, сьвиран, хлявэ. Багато жыў.

*Р.А.Гайдзель, 1947 г. н.*
*в. Кухары Мастоўскага раёна, 2001 г.*

**280.** Натта даўно на гэтум месьці была глуш. На некалькі вёрст было глухое балота, а вакрух яго ўсё лясы. І ні аднаго чалавека тут ні было. Толька, пэўна, воўкі вылі па начах, ды хвойкі глуха рыпалі ад ветра. Алі ўсё-ткі аднойчы прышлі сюда людзі. Пэўна ш і ні ад лёхкага жыцьця прыбіліось яны ў гэты кут. Шукалі лепшай долі ды шчасьця. Далей жа іісьці то й німа куда. Балота, глухоя балота. Як вокам сьцяць** густы лес шуміць. «Куды ж нас Бох прынёс?» – казаў адзін. «Глядзіце, глядзіце. Які цут», – крыкнуў другі. І тутка ўсе ўбачылі сямю харошых, красівых такіх ланяў. Людзі павесялелі. Рас тут хадзілі лані, та й мы тутка жыць станям, хадзіць будзям. Бачна, што гэты край багаты на зьвярыну, на грыбы ды ягады. Ну, а калі папрацуям добра, та й балота атступіць. «Вочы баяцца, а рукі ні страшацца», – сказаў старшы. Усю ноч гарэў агонь. А ўранку сь першымі прамянямі слонейка застукалі сякеры. І пашла работа на невялікім пагорку. Праз некі час паявілася першая хаціна, потым і другая. Селішча гэтая назвалі Хадзіланамі, а церас некі час і – Хадзілоні. Во табе, дзеткі, й названя якое атсюда й пашло.

*З.І.Іваноўская, 1926 г. н.*
*в. Хадзілоні Шчучынскага раёна, 2005 г.*

**281.** Чаму мая вёска Ашнаравічы называецца? А хто яго ведае. Чысто* я жыла ў тыя часы? Вось неяк казаў, што пан жыў Шнуровіч некалі. А некалі тут хутары былі, і зямле мелі недзе чтэры на дваццаць пяць. Гэтыя кускі і называлі шнурамі. Ці то атсюль мо. Бо раней былі Шнуровічы, яшчэ пры дзеду майму былі Шнуровічы, а зарас – Ашнаравічы. Як перайначваюць нешта усё, на халеру** гэта? Хай сабе былі п Шнуровічы.

*С.С.Арцюх, 1919 г. н.*
*в. Ашнаравічы Слонімскага раёна, 1996 г.*

**282.** Было гэта яшчэ калі жыў прадзед майго дзеда. Пачалася гэта гісторыя с таго, як на нашых землях прайшоўсё вялікі Напалеён са сваім войскам, каб забраці сабе ўсіх нас. Калі праходзілі праз наш футар, яны парашылі тут прыпыніцца. Я ўжо ні буду гаварыці ап тым, як яны мучылі нашых людзей. Чаго мы толькі ні бачылі тады. Ну дык вось, спыніліся яны ў нас на футару. Ні захацелі яны жыці ў нашых сялянскіх хатах, а мы і радыя былі. Панаставілі салдаты па ўсім нашым футары свае вялікія палаты*. Днём і ночу яны хадзілі па нашай дзярэўні. Усю ежу ў нас адабралі, хоць у самых усяго было ўдоваль. Мясцовасьць жа была торхяная, а нідалёка было файна озера. Свае палаты, у якіх яны жылі, назы-

валі кватэрамі, у іх быў нават ганак. За імі і мы свае хаты пачалі так называці. А пазьней, калі Напалеён са сваімі войскамі пакінуў нашыя землі, людзі с суседняй дзярэўні пачалі называці наш футар Кватэры. Пазьней назву Кватэры замянілі на Кватары. І па сёняшні дзень наша дзярэўня так і называецца – Кватары. І кожны, хто жыве тут, ведае, аткуль пайшла назва нашае дзярэўні. Вось і ўсё, што я хацела вам расказаць.

*Ж.М.Шэмет, 1921 г. н.*
*в. Кватары Бераставіцкага раёна, 2002 г.*

**283.** Заблукаў у гэтым лесе, калі малы быў. Як цяперака помню. Тамака за рачышчкай, церас дарогу пачынаецца другі лес – Шастакоўскі. Гэта некалі даўно быў у сусецкай вёсцы Пасуцічы пан Шастак. То й вось ля*, лес ягоным лесам лічыўся. Яшчэ ведаю, што ён яблыні любіў садзіць. То палянька, колькі гот прашло, а каля Шастакоўскага лесу сат яблыневы ёсьцяка, праўда, ужо запушчаны, стары. Ну, і яшчэ адзін лес застаўся – Казённы. Яго так празвалі, бо некалі ён быў лесам нашага Забагонскага пана Лашкевіча. А калі прышлі саветы, дык адабралі лес. Восяка і сталі называць Лашкевічаскі лес Казённым. І цяперака Казённым завуць. У той лес, як раней, то й цяперака, бабы ўсё па маліны ходзяць, чыста* ім лахін* з багна* мала.

*Б.М.Патаповіч, 1923 г. н.*
*в. Забагонне Зэльвенска раёна, 1992 г.*

**284.** Калісьці на гэтым месцы ні было ні адной хаты. Яно было пуста. Потым тут пасяліўся адзін стары чалавек, нават бесь сям'і. Жыў на дварэ. Назаўтра рашыў, што пачне будаваць сабе хату. Людзі с суседняй вёскі пыталіся ў яго, аткуль ён сюды прыйшоў і чаму жыве вунь тут адзін. Стары атказваў, што раней ён жыў са сваёй сям'ёй у невялікай хаціне. Калі здарыўся пажар, яго дзеткі пагарэлі, а жонка праз некаторы час памерла ат апёкаў. Ён раззлаваўся на Бога і пачаў не верыць у яго. Астатнія людзі кпілі яго за гэта. Стары не мог доўга гэтага вытрымаць і адасобіўся ат ўсіх астатніх веруючых. Пазьней да яго пачалі далучацца яшчэ людзі, пачалі будаваць там хаты. Так і ўтварылася вёска, якую пазьней назвалі Няверавічы.

*А.М.Кантар 1939 г. н.*
*в. Няверавічы, 2003 г.*

**285.** Некалі быў замак у нас. Во й ест. Але ўжо ён апушчаны. Толькі муры яшчэ некаторыя стаяць, тырчаць ад замка, і наўкола вада апушчаная, горы. І гаварылі, што была крулёва ў нас, а круль быў віленскі, з Вільна. Натто любіў нашаю крулёвую. А яна не хацела ісьці. Казала, есьлі твой нарот прыме веру каталіцкую, перахрысьціцца ўвесь нарот твой, то я за цібе выйду, а есьлі не – ні пайду. І ён сказаў. І ўвесь нарот хрысьціянску веру прыняў яго літоўскі. Ну ён тутака жыў. Быў тутака ўжо прышоў. Яна ўзяла яго маладая. Ён старэйшы. Але яна ўзяла яго, як прыняла веру Літва каталіцкую. Ішчэ і ціперака гэты замак ест, ест муры, троха знаць. І гаварылі, што ён на гэтых горах высыпаў сахарам тыя сьцешкі, як хацеў летам катацца на санках коньмі наўкола, па замку. Яшчэ падвалы ад замка ест у землі. Там акенца ест, такое нівелько. Як кінеш камушок, доўго ляціць, а потым зазвоніць ай што-то. І прыязжалі саперы і рвалі гэты замак, паткладалі міны. Нічога не зрабілі, ні парвалі тых муроў у этым замку. Ну і гавораць усё людзі, што там, што аш да Вільна ест хот з замка. І круль с каралеваю аш ежжалі ў Вільнус пат зямлёй. А цяперака ніхто не можа ўскрыць, і ня ведаюць, што тамака. Аднаго разу на маі* (у нас ходзяць у касьцёл пад вечар) я пашла, яшчэ трошка было зарана. Я думаю сабе: касьцёл закрыты яшчэ, замкнёны. Я села на лавачку, а прыходзяць пагранічнікі літоўскія, на літоўскай граніцы стаяць. Пад вечар трох хлопцаў і прыселі пры мне. І сталі распытвацца пра замак, што-то на этым замку. Я ім, што знала, усё расказала. Што й муры ест, і падвал ест (узарваць не маглі), як кароль апускаўся вадой, як наступаў штурм. Вайна была, былі войны. Кажуць, што этыя самыя лёха* ест такія. Вымуравана аш да Вільна. Кароль ежджаў тэй лёхай у сама Вільна с каралевай. Ну, потым яны ў міне спрашываюць: «А чаму ў вас тры красты пат касьцёлам на цмэнтару?» Я гавару: «Эта гура тшыкшыска. Тры крыжы. Як крыжавалі Хрыста, то двух лотраў побаку, а Хрыстус быў пасярэдзіне. Эта тшыкшыска гура». А я ім, што знала, усё расказала. Яны мне так дзякавалі, этыя хлопцы, казалі: «Ой спасіба, бабушка, што так нам расказала много, а мы ш нічога не ведалі». Ну і гавораць, мы пойдзем у замак. І патом яны пашлі абглядзілі гэты замак і ўвайшлі ў касьцёл. Мы маі атпраўлялі, яны прыйшлі ў касьцёл, і яны былі разам у касьцелі, гэтыя літоўцы, гэтыя пагранічнікі нашыя, ну й от.

*Г.Т.Сакалоўская, 1919 г. н.*
*в. Геранёны Іўеўскага раёна, 1996 г.*

Гл. таксама № 9.

**286.** Гэто было ў Гостраве. Ну і было тыля* вужоў, што ў хату ішлі. Ну і адзін чалавек сказаў: «Я вам іх замоўлю, капайця яму, і туды будуць усе вужы ісьці адусюль». А папытаў, ці німа там белага вужа. Людзі сказалі: німа, ні бачылі. Ну добро, німа й німа. Ну ён залес на гэдаку дзіравіну і што меў замовіў, сьвіснуў, ну так усе вужы адусюль ішлі і падалі ў туюю яму, колькі разоў кожны з вужоў прыгаў, хацеў скінуць чалавека ў яму, алі гэто не ўдалося зрабіць. І самыя не маглі вылесьці зь ямы, а ён сядзіць на том кале і ўзіраецца. Ён ведаў, што кап ні йшоў белы вуш, дык усё было добро. Алі нарэшці самым астатнім ідзе той белы вуш, круль іх. Дак чалавек закрычаў: «О, ето ўжо мая сьмерць ідзе». Ну той вуш патпрыгнуў на кол і сьцягнуў таго чалавека. Проўда то было ці покаска*? Старыя, бало*, гаварылі гэто. І зарас на гэтым месцы невялікая выспа, а на ёй дрэва, яко вырасло с таго кала.

*У.П.Мулярчык, 1921 г. н.*
*в. Падбалоцце Зэльвенскага раёна, 2002 г.*

**287.** Гэта было ў майго бацькі ў гумне. Яшчэ да Мікалаеўскай вайны, як ён быў падросткам. У гэтым гумне паказываўся страх. Днём баба пойдзе малоць, вечарам, і ўжо прыцямнее, і тады нехта круціць гэтыя вехці* с саломы і ўсе кідае ў яе. І так яна не кончыць малоць і ўцякае. Прыйдзе дахаты і кажа дзеду: «Не магу малоць, нехта б'е вехцямі, па таку летае». Тады мой дзет кажа: «Ну паглянем, пойдзем, злапаем яго». Ідзе ён са сваімі старымі сынамі. Лезуць на сена й сьпяць. Накрыюцца кажушкамі і сьпяць. Як толькі поўнач, чуюць, па страсе спускаецца зьверху на ток. І пайшоў па таку капыткамі, так як авечка, а потым лезе да іх на торп*. Хапае за кажух і сьцягуе. У вехці круціць, вехцямі ў іх кідае, й дзет як разлуецца й кажа: «Ідзем лапаць* на ток, быць не можа, кап яго не злапалі». Возмуць кажухі, расьцягнуць і стаяць. Як толькі падлятае да адноя, так ён кажухом лупіць па ім. Сын крычыць: «Тата, злапаў?» Кажа: «Не, не злапаў, ён ужо каля цябе, ты ўжо лапай». Сын кажухом яго сьцярэбіць. Але ўсё роўна ніяк не злапаюць. Змучаюцца, і ідуць дахаты. Страх прадаўжаўся кажду ноч. А як згарэла гумно, то ўжо й страх той прапаў. На тым месцу больш будынка не ставілі.

*В.Б.Жукоўская, 1932 г. н.*
*в. Пагародна Воранаўскага раёна, 1994 г.*

**288.** На назе вылілася гадзіна. Настаящча гадзіна на нерве. Дзе яна ўкусіць, яд пройдзе, і знак наложыць гат страшны. Ішла я раз, ішла, Божачка, ляжыць гадзіна, і ўся галава ў пер'і, і сьпіна ў пер'і. Ну я аттуль уцякла ўжо. І колькі жыву – у той бок у лес не йду. Цяпер не знаю, ёсьць ці не, а раньша былі шмат. Церлі мы лён у лазьні, а ішоў адзін чалавек. Ён умеў вядзьмарыць. Лапатачка такая ў яго нявелька ў руцэ. І бабы хвігі трымалі, як ён ідзе. А я нічога не знала. Дык ён да гэтых бабаў, да аднаго, да аднаго, а потым да, ён да мяне, і лапатачкай упароў у жывот. Я давай сьмяяцца. І потым, як ён даў ды і пайшоў за дзьверы. І мы пайшлі на возера мыць лён. На клатцы як пачаў мне балець жывот, як нож усадзілі. Я кончыла, узяла ўсё на руку і на дзевачку кажу: «Маня, якая я?» Яна як глянула, зьбялела і кажа: «Ты ш у чорным твары**». Гэдак мне жывот балеў. Палезла на печ грэць жывот. Як легла ніцма і як кінула мяне зь печы. Тады я пайшла с хаты. Пайшла да сусеткі. Гэтакі ш боль. Да таго ш змучылася. А каля нас была яшчэ вёска. Там адзін чалавек замаўляў. Пайшлі да гэтага дзяцькі. Загаварыў ён – і ўсё. Тады дапусьціла мяне да пасьцелі.

*Л.І.Міхневіч*
*в. Задворнікі, Астравецкага раёна, 1990 г.*

**289.** Аднаму чалавеку натта хацелася граць на скрыпцы, ну ні было ў яго вазможнасьці купіць яе. А ў гэта врэмя дарогі былі благія, кругом грязныя. Ішоў ён аднойчы дахаты падвыпіўшы, і ўстрэціўся яму падарожнік. Разгаварыліся пра тое, пра сёе, пра жыцьцё, пра быцьцё. Чалавек прызнаўся, што натта любя граць, але няма за што купіць скрыпку. Падарожнік прапанаваў пайсьці зь ім, пайграць, пасядзець. Чалавек і сагласіўся, чаму ш і ні пайграць. Ну і як сталі існці, яму паказаліся і дамы, і вуліцы, і прысады. А ў дзейсьтвіі падарожнік вёў яго па кустах і па балотах і прывёў у красівая месца, дзе маладзяш танцавала і пяяла. Пасадзіў яго ў крэсла, даў яму скрыпку, і чалавек пачаў граць. Чалавек узяў яго пальцы і прыціснуў да струнаў. Чалавек так стройна граў. Усе скакалі пат яго музыку. І хто ведае, дакуль гэта было бы, ажно запяяў пятух ў вёсцы. Усё ў гэта врэмя зьнікла. Чалавек агледзеў, што ён сядзіць на вялікім карчэ сярот балота, у руках тожа корч, а другой рукой ні можа пакрануць пальцамі, якімі цісн уў па струнах. Тады ён прычакаўся чуць сьвітанку і стаў выбірацца аттуль. Барахтаўся па балоця, і шчасьце яшчэ, што не ўтапіўся. Тры нядзелі пасля таго ні мох крануць рукой, якой граў. С той пары той чалавек быў музыкант на цэлую акругу. Але больш

ні с кім ні вадзіў дружбу. І на выпіўку забыўся, бо зноў баяўся чарцям баль спраўляць.

*А.М.Субач, 1926 г. н.*
*в. Слабсны Смаргонскага раёна, 1995 г.*

**290.** Быў музыкант у Хаміч. Прыходзіў граць у Стральцэ. Ісьці трэ было цераз балото. Граў танцы да дванаццаці часоў. Потым маладзеш парасходзіласа, а музыканту і кажуць: «Ідзі дахаты». Ідзе той музыкант, запыняюць яго на балоці тры панічэ. Яны яму кажуць: «Грай нам тут, пакуль слонцо зыдзя, а мы табе заплацім». Граў музыкант цэлу ноч. Узышло слонцо, і ён раніцой пайшоў дахаты. Усунуў рукі ў карманы, ажно ш у карманах грась. Так тыя панічэ заплацілі музыканту. Людзі кажуць, што гэта былі чэрці.

*Ю.М.Урбановіч, 1917 г. н.*
*в. Стральцы Мастоўскага раёна, 1992 г.*

**291.** От зарас я табе раскажу історыю. Зьбіралася я на работу. Ну ўсё, правёў мяне Ёзік за дзьверы, а сам закрыўса. Я ўжэ й пайшла. А ў нас да каліткі дарошка такая была і забор. Было тады дванаццаць гадзін ночы. Ну во йду я, йду да каліткі і тут бачу, ідзе да каліткі нека бела дзеўка. Красіва така, але ўся-ўся бела: і хустка, і плаце, і сама нават бела. Я сразу гавару ёй: «Чаго хочаш? Што табе трэба?» А яна мне не атказвая, а глядзіць і ўлыбаяцца мне. Тут я спалохаласа і давай біць у дзьверы. Крычу: «Ёзік! Выхоць!» А яна ўсё стаіць і стаіць. Пакуль мой Ёзік праснуўса, то яна адышла ат каліткі і пайшла аж да нашай другой сасеткі. Гляжу, яна ўвайшла да іх ува двор і зьнікла. Ёзік выйшаў, а мне й сказаць няма чаго, ні паверыць. Во так я бачыла сьмерць. Праўда-праўда! Таму што праз месяц у той хаце хазяйка памерла.

*Г.Н.Красівая, 1925 г. н.*
*г. Скідзель Гродзенскага раёна, 1996 г.*

## Казкі

Гл. таксама № 90.

**292.** Жыў дзет і з бабай. І ў іх была каза, катора много ела. Наняў дзет мужыка, кап памох пасьвіць яму этую казу. Пагнаў дзет, мужык, гэтую казу пасьвіць. Пасьвіў-пасьвіў, прыганяе дахаты, прывязалі да забора. Прыходзіць дзет да гэтай казы і спрашывая: «Каза-каза, козачка-козачка, чы* наелась ты?» Ана атвячая, атказвая, што: «Дзе ш я наелася? Ляцела чэрас масток, хапіла кляновы

лісток, крапэльку вады, ап тым і жыву». Як зазлаваўся гэты дзет, выгнаў гэтого хазяіна, ужо каторага наняў. Выправіў дочку. Пайшла дочка пасьвіць. Пасьвіла-пасьвіла яна гэту казу. Не давала ей лажыцца. Прыганяе дахаты і кажа. Дзет пытаецца: «Козачка-козачка, чы наелася ты?» А яна гаворыць: «Дзе ш я наелася? Ляцела чэрас масток – ухапіла кляновы лісток, крапэльку вады, ап тым і жыву». Як зазлаваўся гэты дзет на дочку. Узяў і выгнаў яе с хаты. Прыходзіцца жонке пасьвіць. Вот. Пагнала жонка пасьвіць. Пасьціла-пасьціла і позна прыгнала. Прыходзя, прывязала да забора. Прыходзіць дзет і спрашывае: «Козачка-козачка, чы наелася ты?» А яна говора: «Дзе ш я наелася? Ляцела чэрас масток, ухапіла кляновы лісток, крапэльку вады, ап тым і жыву». Як заабідзеўся гэты дзет. Узяў і забіў жонку. Ну што ш, прыходзіцца яму самому гнаць. Пагнаў. Пасе сам, пасе-пасе, ганяе-ганяе гэту козачку, кап яна хацяне клалася, а ела. Прыгнаў дахаты. Прышоў дахаты, патачыў нош. Прыходзя, спрашвае: «Козачка-козачка, чы наелася ты?» А яна атказвае: «Дзе ш я наелася? Ляцела чэрас масток – ухапіла кляновы лісток, крапэльку вады, ап тым і жыву». Як зазлаваўся гэты дзет на гэту козачку. Давай ей жывой кожу лупіць. Як сарвецца козачка зь вяроўкі і паляцела ў зайчыкаву хатку. Прыляцела ў зайчыкаву хату, села і сядзіць. Прыходзя зайка дахаткі. Такі давольны прыходзя і спрашывая. Так і ўглець – нехта ў хатцы ягонай ёсьць. Ён спрашывая: «А хто ў хатке?» Ён кажа: «Казёл барадаты, бок абадраты, рошкамі затапчу, бароткай замяту». Як спугаецца гэты зайчык, выйшаў на уліцу, сеў і плача. Ідзе лісічка, спрашывая: «Зайчык, а чаго ты плачаш?» Кажа: «Нейкі бес у маю хатку ўлес». А ён кажа: «Хто, які бес у зайчыкаву хатку ўлес?» – «Ы-ы-ы, – атказвае каза, – я – казёл рагаты, бок абадраты, рошкамі затапчу, бароткай замяту». Села і ліса плача. Прыходзя воўк і спрашывая: «Чаго плачаш, ліса?» Ана атказывая: «А чаго плача зайчык?» – «Зайчык-зайчык, чаго ты плачаш?» – «Нейкі бес у маю хатку ўлес». А ён кажа: «У-у-у, я гэту бяду рукамі разьвяду». – «Дзе ш ты, – кажа, – выганіш. Ніхто не выгнаў, і ты не выганіш». Ну, падумалі, што воўк харошы, ну, сільны і выганя. Прыходзя воўк і кажа: «Які бес у зайчыкаву хатку ўлес?» Атказвае, эты, каза: «Я – казёл рагаты, бок абадраты, рошкамі затапчу, бароткай замяту». Сеў і воўк плача. Ляціць пшчолка, пытаецца: «Чаго плачаш, воўк?» А воўк атказвае: «А чаго плача ліса?» – «Ліса, а чаго ты плачаш?» Ана гавора: «А чаго зайчык плача?» А зайчык: «Як мне не плакаць, калі некі бес у маю хатку ўлес». А пшчолка гавора: «Ха! Я гэту бяду рукамі

разьвяду». – «А дзе ш ты, – кажа, – разьвядзеш рукамі. Усе мы выганялі, і ніхто не выгнаў. І ты не выганіш». А яна аткзвая: «Вот я і выганю». Яна прылятае, як укусіла гэтую казу за той бок, каторы абарваны. Гэта каза выляцела і паляцела. І сталі яны ўмесьце жыць-пажываць.

*М.А.Болдан, 1942 г. н.*
*г. Ашмяны Ашмянскага раёна, 2003 г.*

**293.** Жыў мужык і з жонкай. Жонка памярла. І асталася ў іх дзевачка. Мужык рашыў пажаніцца. Ажаніўся. Ну, і ў іх была общчая дочка. Сіротку мачыха выправадзіла да пана мясьці сьвіран. Ну яна пашла месьці. Ідзе-ідзе па дарозе. Устрэчае яблыну і кажа: «Яблына-яблына...». – «Дзевачка-дзевачка, абяры мяне». Дзевачка яблыну абабрала. Пашла далей. Ідзе-ідзе, стаіць цеста, хлеп. Ана кажа: «Дзевачка-дзевачка, замясі мяне». Ана замясіла, ну, і пашла дальшэ. Ідзе-ідзе, стаіць печ. Кажа: «Дзевачка-дзевачка, патпалі мяне». Ана патпаліла і пашла дальшэ. Ідзе-ідзе, стаіць мост, кажа: «Дзевачка-дзевачка, падмяці мяне». Яна падмяла, ну, і пашла да этага пана мясьці сьвіран. Падмяла яна гэты сьвіран, увідзела золата, найшла і давай уцякаць і з гэтым золатам. Пан паглядзеў – дзевачкі няма. Ну і пусьціў козы. Кажа: «Козы-козы, ляціце, вярніце гэту дзевачку. Ляціце». Козы лятуць, і ляціць эта дзевачка. Даляцела да яблыны і кажа: «Яблына-яблына, абарані мяне. Лятуць козы – заб'юць мяне». Яблына кажа: «Хавайся пат мяне». Ну яны кустамі сталі біць козаў. Ну козы вярнуліся назат. Выпусьцілі другую стаду. Ляцяць козы, а дзевачка тожа ляціць. Стаіць хлеп. Яна кажа: «Хлябок-хлябок, абарані мяне. Лятуць козы – заб'юць мяне». А гэты хлябок ей хлебам, хлебам у яго. Ну, і козы вярнуліс абратна. Прылятаюць да пана, а пан гавора: «Ну што?» А яны гавораць: «Ну, німа гэтай дзевачкі». І абратна другую выпусьціў парцію кос. Лятуць-лятуць гэтыя козы, ляціць і дзевачка. Стаіць печ. Кажа дзевачка: «Печ-печ, абарані мяне. Лятуць козы – заб'юць мяне». Печ гавора: «Хавайся ў печ». А яна пахавалася. Ну, козы паляцелі. Паляцелі дальшэ. Паляцелі козы дальшэ, а дзевачка абратна ляціць. Лятуць козы другія. Дзевачка гавора: «Мост-мост, абарані мяне. Лятуць козы – заб'юць мяне». А мост гавора: «Ну, лесь пат мост». Дзевачка пахавалася. І козы вярнуліся. Прыходзіць дзевачка дамой і з этым золатам. Мачаха паглядзела, што дзевачка прынесла многа золата. Тада яна выпусьціла сваю дочку ўжо на сьвіран гэты да пана. Ну, прышла эта дзевачка. Ідзе. Стаіць яблына. Яна кажа:

«*Я*блына-*я*блына...» – «Дз*е*вачка, абяр*ы* мян*е*». А ян*а* гав*о*ра: «Н*у*, яшчэ б*у*ду р*у*кі цар*а*паць». Пашл*а* гэта дзевачка д*а*лей. Ідз*е*-ідз*е*. Ста*і*ць хлеп. К*а*жа: «Дз*е*вачка-дз*е*вачка, замяс*і* мян*е*». А ян*а*: «Яшчэ б*у*ду р*у*кі м*а*заць». Ідз*е* д*а*льшэ, ідз*е*-ідз*е*. Ста*і*ць печ: «Дз*е*вачка-дз*е*вачка, патпал*і* мян*е*». А ян*а*: «*А*й! Яшчэ, – к*а*жа, – сьп*і*чкі пал*і*ць». Н*у* і пашл*а* д*а*лей. Ста*і*ць мост. А ян*а* к*а*жа: «Дз*е*вачка-дз*е*вачка, памяц*і* мян*е*». А ян*а* гаворыць: «Ні б*у*ду месьсці, пайд*у* д*а*льшэ». Ну, і пашл*а* д*а*льшэ. Прых*о*дзя да п*а*на. Падмял*а* эты сьв*і*ран. Прых*о*дзя. В*і*дзя – з*о*лата ляж*ы*ць. Ну, ян*а* за гэта з*о*лата хап*і*ла і х*о*ду. Ув*і*дзеў п*а*н, што нім*а* дзевачкі. Ну *ё*н в*ы*пусьціў к*о*заў, кап к*о*зы ўхап*і*лі гэту дзевачку. А ян*ы* ляц*е*лі-ляц*е*лі. Ляц*і*ць дз*е*вачка і к*а*жа: «*Я*блына-*я*блына, абаран*і* мян*е*. Лят*у*ць к*о*зы – заб'*ю*ць мян*е*». А ян*а* гав*о*ра: «Т*ы* н*а*с не ababр*а*ла – м*ы* цяб*е* не абар*о*нім». Прыляц*е*лі к*о*зы і заб*і*лі эту дз*е*вачку.

*М.А.Болдан, 1942 г. н.*
*г. Ашмяны Ашмянскага раёна, 2003 г.*

**294**. Был*а* адн*а* хазяячка баг*а*та, а друг*ая* – бедна. Б*о*х хац*е*ў *і*х спрабав*а*ць*. В*ы*слаў дз*е*да. А дз*е*т той хадз*і*ў р*а*с у рок*. Прыйш*о*ў дз*е*т у вёску, спын*і*ўся каля н*о*вай х*а*ты, хар*о*шай, а т*у*т жыл*а* баг*а*та. Як уб*а*чыла дзеда, і закр*ы*лася, кап ні нанёс граз*і*. А т*у*т друг*ая* х*а*та. Т*а*м бедна жыв*е*. Хаз*я*ячка ідз*е*, аччыняя дз*е*ду і к*а*жа: «Ма*я* х*а*та старэнька». Пасадз*і*ла дз*е*да на сл*о*ні*. Пыт*ая* дзет: «Шт*о*, хаз*я*ячка, дас*і*?» Ян*а* адрэзала кус*о*чак хлеба. К*а*жа: «Нім*а* ў шт*о* ўлаж*ы*ць. Хоць у палатн*о* закруч*у*». Узял*а* палатн*о*, а ян*о* пачал*о* мн*о*жыцца, ш*ы*рыцца. А дз*е*т сказ*а*ў: «*Я* на друг*і* рок пры*ду*, ў гэты с*а*мы дз*е*нь. А сёня, шт*о* т*ы* начнёш раб*і*ць – будз*я*ш раб*і*ць да с*а*мага зах*о*ду сл*о*нца». Хаз*я*ячка начал*а* ш*ы*ць т*о*рбачку, і палатн*о* ўсё мн*о*жыцца. Прыб*е*гла баг*а*та і гав*о*рыць: «Шт*о* т*ы* сёня р*о*біш? Чам*у* ні в*ы*дзяш?» Т*ая* і расказ*а*ла ўсё баг*а*туй. Начал*і* наст*у*пнага р*о*ку ждаць. Баг*а*та дажд*а*лася дз*е*да. Кл*і*кнула ў х*а*ту, абд*а*рвая яг*о*. Дз*е*т к*а*жа: «Як начнеш зр*а*нку раб*о*ту – да веч*а*ра ні к*о*нчыш». А с*а*м дз*е*т паш*о*ў д*а*ляй. А ў баг*а*тай у х*а*ці вад*ы* ні был*о*. Ян*а* – па в*о*ду. Прыняс*е* да пар*о*га, а вад*а* – бэх і в*ы*льяцца. Пабегла папрас*і*ла б*е*дну, кап т*ая* прынясл*а* вад*ы*. «Палянь, – к*а*жа, – шт*о* мн*е* дз*е*т нараб*і*ў. П*о*ўна х*а*та вад*ы*». Бедна памагл*а* баг*а*туй усё па гаспад*а*рцы зраб*і*ць. *О*, як был*о*. Трэба, дзеткі, з*а*ўша* прым*а*ць чалавека з дар*о*гі.

*Я.Н.Нядзвецкая, 1918 г. н.*
*в. Ляхавічы Зэльвенскага раёна, 1994 г.*

**295.** Цёшча к зяцю пайшла ў госьці. Ой сярдзіты быў той зяць: ні пяшчоты, ні мілосьці, а ў мінуту нібы злосьці можа лейцы ў рукі ўзяць, кап паставіць па-сваёму і ў свае апцугі ўзяць. Не прасіся лепш Ахрому – дасьць па карку і наломіць, такі страгі, хай яго багі. А пытае дочку маці: «Ну, дачушка, як жывеш, як паводзіцца ў хаці?» – «Эх, матулька, што казаці, прападзеш зь ім, прападзеш». Маладзіца тут у сьлёзы, бэсьціць мужа і кляне, а бадай яго пагрозы, вокам ласкі ні зірне. То яму дзяжа нячыста, то хлеп прэсны і сыры. Ой, які ўжо наравісты, хоць ты падай прат ім лістам і да трох не гавары. Будзіць рана да работы, нібы наймічку-слугу, а рабіць няма ахвоты. Гора, адны згрызоты, жыць тут болей не магу». – «Кінь, дурная, – кажа маці да яе с пакорай, – што табе здарма згрызоты, заваліся на палаці і прыкінься хворай, ляжы, нібы ў агні, і войкай, і стагні, пячы сабе яечні, а тады, такому мужу – нішчымнага гароху, падняць дух, канешня». І давай вучыць старая, як горш зяцю дапячы. А ён дзьверы атчыняе: «Так-так, матка, павучы, кап цябе зямля сырая, кап разумная ты і добрая была, на дабро накіравала, гультаіна ты, завала. Звадзіцелька ты, сава, дубавая галава. І ў чыю сыкаеш руку, і сыкаеш вужакаю, а ну, цёшча, за навуку хадзі я табе падзякую». Упрох цёшчу зяць сярдзіты, ды ў барону ўпрох, аш брамчаць у цёшчы пяты, толькі стрыбалкі міхцяць. «Ся, малая, гэй, паволі», – на кабылу сьвішча зяць. Выпрах цёшчу зяць сярдзіты ды па цёшчы пугаўём. Церас поля, церас жыта смаліць к дзеду перуном. Прымчала дадому засопчыся цешча. На зяця старому і верне, і плешча. «Ах барджэй ты, дзет, зьбірайся, ідзі дочку ратаваць, толькі ты асьцерагайся, гэта кат наш, а не зяць». А дзет слухаў зубы сьцяўшы, чы* праўдзіва гэта ест, і нарэшце, палку ўзяўшы, і да зяця ідзе цесьць. За дзьвярыма зяць скрыўся, вуха к дзюркі прылажыў, слухаў ён, не варушыўся, што цесьць жонцы гаварыў. «Ой, дурная ты, дачушка, ці бес працы можна жыць, выкінь дур ты гэты слушна, трэба мужу наравіць. Ён ні прагны, ні нігодны, ні дурны ён, ні гультай. Так жывеце, дзеткі, згодна, і язык ты свой стрымай. Люба слухаць, што да ладу з-за дзьвярэй гукае зяць: «За разумную параду ты на покуць, бацька, сяць». Пасадзіў за стол старога: «Смаш, брат-жонка, калбасу, а я скочу да старога і гарэлкі прынясу». Выпіў цесьць і зьеў на славу, хоць жывот расьперажы. «Ды часьцей захоць, стары ты, ды пра нас не забывай». Ды зваліў яму на плечы здаравецкі каравай. Цёшча рукі заламала**, дзеда згледзеўшы здалёк, бо я борану цягала –

цесьць с хамутом дамоў уцёк. Дзет ідзе сабе, сьпявае, нібы заяць адмаладзіў, каравай ён лець трымае, аш плячук паверадзіў.

*М.А.Шлейтала, 1915 г. н.*
*в. Эйтуны Лідскага раёна, 1995 г.*

**296.** Вечар быў марозны, зімні, у небі зоркі, як агні, а ў Язэпавай скаціны німа корму, ані-ні. Знаў Язэп, што гэты тыдзянь возяць сена для калгаса, бярэ граблі ён у рукі, кап ні траціць дарам часу. Горне, ў кучкі ўсё складае, так зайшоў ў вялікі лес. Раптам нос ён паднімае, чуе – пахне чэміргес*. А, тут проўра нідалёка, ды ні бачыць маё вока. Вось за гэтымі кустамі добра выпіць з дружбакамі. Глянуў ён на цёмны бор, аш патыліцу пацёр. Яму вецьце вочы пора, а ён лезе прас кусты. Зь веткі сьнежныя каты* яму валяцца на сьпіну. Так ён выбыў прас гадзіну па гушчары, па кустох, пат сабой ні чуўшы нох. Раптам чуе, штосьці збоку, нехта стукнуў нінарокам ці то сякерай, ці то пілой. Наш Язэп туды бягом. Тут ў лесе, пры балоце, дзе гусьцей разросься лес, гоняць хлопцы чэміргес. Дым кашлюе*, стогне брага, катлы чорныя шыпяць, а вакол, пабраўшы палкі, самагоншчыкі стаяць. Тут і Мішка, тут і Грышка, разам сын яго малы, то пілуюць, то рубаюць, паткладаюць пат катлы. Зарас дровы разгарэлісь, канцы ў трубачках нагрэлісь, і закапала сырыца, як крынічная вадзіца. «Паглядзець трэба, брат, ці хоць трохі яна варт. Во будзя вотка, – кажа Мішка, – як агнём яна пячэ». «Праўда, будзя, – уторыць Грышка, – добра вотачка цячэ». Тут Язэп с-пад елкі лезя: «Во, здаровы жывяце! Што ўжо й вотачку пяце?» – і зайшоўся сам ат сьмеху. «О, Язэп прышоў да нас! Паглядзі, брат, што за квас тут у нас цячэ с патрупкі. Вось памочым сёня гупкі!» – кажа Мішка да Язэпа. Адламаў кусочак хлеба, наліў кубак першаку, падае Каменюку. «Што вы, хлопцы, будзе многа, вельмі ш кепская дарога, у гурбу носам павалюся і дамоў не дацягнуся. Памарожу к чарту ногі ці зусім замёрзну, што вы!» – «Кінь ты, што тут піць». – «А няхай яна згарыць. Яна й так мне насаліла, усе вантробы папаліла». – «Кінь ты, вып'еш і закусіш, як ты хочаш – выпіць мусіш». Цэлы кубак паўлітровы залпам выпаліў Язэп, аш паставіў вочы ў лэп*. Токі дух яму забіла, сьлёзы пырснулі з вачэй: «А бадай яе спаліла! Сьнегу, хлопчыкі, хуччэй!» Крыкнуў Мішка, скочыў Грышка, ўміх качаюць па сьнягу. Ледзьве дух таму атскочыў: «Ой, браточкі, ні магу!» – «О, нічога, зара пройдзе. Ты заскора яе піў, аш на полу во праліў». Стаў Язэпка наш сьмялейшы, засьмяяўся, застагнаў, стаў намнога весялейшы, у рукі кубачак узяў. «Нешта сэрца стала біцца. Ці ні хоча пахмяліцца?» – залпам выпаліў Язэп, ухапіўшыся за хлеп. Мішка к трупцы прыхіліў-

ся – поўны кубачак налііўся: «Не шкадую, пі да дна. Во закусіш потымка». – «Ну, дык буцьце жа здаровы! Дай Бох мелі вы што гнаць. Гэта вып'ю – пайду спаць». Ды кульнуў Язэп той кубак, як за плечы замахнуў. Падышоў тады да трупкі ды і песьню зацягнуў: «Паціхеньку, памаленьку так Сымонка пачынаў. Гнаў Сымонка самагонку і агеньчык раскладаў». – «Ні крычы, Язэп, па ночы, яшчэ ў лесі, як той бес». А Язэп аш сьціснуў вочы, зацягнуў на ўсенькі лес. «Замаўчы! – як крыкнуў Мішка, – бо зубоў ні сабярэш! Ты ні знаяш, дзе равеш?» – «Ну дык так, ты мне зубы выб'яш? Ох, халера, замалы!» – тут хапіліся як відзіш** нашы хлопцы за калы. Тут Язэпа павалілі, насадзілі фанароў*, адлупілі так, як трэба** і пашлі самы дамоў. Ужо й пат бочкамі патухла, а Язэп ляжыць як тус**. Морда зьбітая распухла, усё роўна як гарыць. Выпаўс неяк на дарогу і папоўс дахаты ён, ні падымяцца на ногі, злы, надуты як шаршон**. Позна к дому прыкаціўся, к сьценцы бокам прытуліўся і пастукаў у акно. Жонка выскачыла ў сені: «Хто тут?» – «Ціха, гэта я! Ах, Марыйка дарагая, ах ты жоначка мая!»

*С.П.Ялоўка, 1949 г. н.*
*в. Голдава Лідскага раёна, 1989 г.*

**297.** Хачу, браткі, вам расказаці, як удалося зайца мне спаймаці. Ну што зрабіў я зь ім, то раскажу я вам усім, як заяц трапіў на скваротку, як прыкусваў зайцам вотку, як зайца смажыў я усьмятку, то раскажу вам па паратку. Быў дзень пагодлівы такі. Пайшоў зьбіраць баравікі. Іду па лесі, разглядаю, ап зайцы й думак я ні маю. Прайшоў дарошку ніскавую, а потым выйшаў на другую. Стаю сабе я, разважаю, куды падацца, сам ні знаю. Схіліўся ў лес я верасовы, дзе верас рос зялёны, новы, радзіўся гэтаю вясною, мяшаны з мохам і травою. Праходжу лесам вакол ёлак, вакола тых калючых голак. Баравіка знайшоў, другога, а посьля трэцяга малога. І так правёў дзянёк вясновы. Патходжу пат кусток лазовы. І рэжа ножык дупчык ціха. Гляджу, сьпіць заяц, што за ліха? А ён тут спаў пасьля дарогі, расьцягнуўшы наўсьцяш ногі. Паклаўшы вушы, прытаіўшы, ён спаў, пра ўсё ужо забыўшы. Патходжу я, ні сарамлюся, у кусточак ціхенька таюся і так я ціха патпаўзаю, рукамі зайца заграбаю. І страпянуўся заяц зразу, і даў ён газу да атказу. І колькі ён ні трапятаўся, усё роўна ён мне здаўся. І сэрца б'ецца, ну аш носіць, а заяц той пішчыць, галосіць, глядзіць вачыма ён касымі і ўжо прашчаецца з усімі, каго ў лесі пакідае, бо ён не вернецца, ён знае. Калі спаткаўся ён са мною, прасьціўся з мохам ён, с травою. Яго нясу я, разглядаю, няхай жыве, ні забіваю, няхай глядзяць вясковы дзеці, як жыве касы на сьвеці. Прынёс яго я, ў

кубел кінуў, як ён у мора тое згінуў, с таго страху ўтапіўся, у куточак кубела зашыўся. І сэрца б'ецца, сьлёзы льюцца. Нат зайцам тут стаяць, сьміюцца, пытаюць, мо і не дазанаўся яшчэ, як ты сюды папаўся. І што ш, пара ужо вымаці, ды будзем з зайца скуру драці. Прасьціцца с страхам і зь бядою, с сваёю горкаю судзьбою. І ножык гостра нагастрылі, набела рукі ўжо памылі. Дабілі зайца палкай дзеці, пакончыў ён жыцьцё на сьвеці. І зайца тут раскрыжавалі, і зайцу ногі падразалі, садралі скуру і на чмысё*, і пасалілі ў велькай місе. Агонь тут сталі раскладаці, усё патроху рыхтаваці. Кладуць зайца на скваротку, трохі скваркі і цыбулі, і з зайца пахі ўжо падулі. І пайшоў пах па усёй хаці, патходзіць час і балеваці. Чубы гладзяць грабянямі, стаіць заяц перад намі. Яду хваляць і сьмяюцца, аж губы ў іх трасуцца, што ўсё зрабілі па паратку і зайца ўсмажылі ўсьмятку. А што было далей, не знаю. Сваю я гутарку канчаю. А што праходзіла між намі, то гэта вы судзіця самі.

*Л.В.Белагрывы*
*в. Старчаняты Іўеўскага раёна, 1987 г.*

**298.** Піша мой кумішча мне пісьмішча: прыягжай да мяне ў Маскву. *Я* цяперыча ў ватпуску, горат табе пакажу. Ну, *я* падумала і паехала. Надзела нажутку, спадніцу, паверху каптан і паехала. Села ў антобус*, а антобус тунды-сюнды, тунды-сюнды. Ну, даехала *я* да Масквы. Ну, падышла да міліцанера і пытаюся: «Дзе тутака мой кумішча жыве?» А ён мне гавора: «Прайдзіце налева, потым направа, увідзіце магазін каўбасны. Там ваш кум жыве». Ну, прайшла *я* налева, потым направа, знайшла магазін каўбасны, а тамака мой кумішча чай с сасіськамі папівае. Ідзём мы па вуліцы, ён мне нейкіх семачак купіў. Ну, *я* іду: плюк налева, плюк направа, а тут міліцанер патходзіць: «Гражданачка, плаціце штраф». А кум мне гавора: «Мо ў кіно сходзім ці ў тэатр?» – «Мо ў кіно», – сказала *я*. Паглядзела *я* фільм, а ён пра вёску быў. І так мне захацелася ў сваю вёску, што не вымавіць. Кажу *я* кумішчу: «Паехалі на вакзал, купляй мне бялет у мае Смургоні». Так *я* зьегздзіла ў Маскву. Вось і ўсё, чага *я* магла расказаць.

*Я.І.Васілеўская, 1909 г. н.*
*в. Крапіўна Смаргонскага раёна, 1990 г.*

**299.** Аддала мяне мама замуш у васямнаццаць лет. Дзеці былі малыя, мужык п'яніца быў. Трэ было работу рабіць, дзеці гадаваць. Трэ было масла біць, не было калі дома. На футары жылі. Дзеці каля мяне былі, *я* з бойкаю масла біла каля каровы, і дзеці каля мяне. Дажану карову ў хлеў, мужык крычыць: «Давай есьці!»

Не ўсьпеў з воза зьлесьці – давай есьці. Няма чаго. Трэба хлеп пячы яшчэ. Муку сею, хлеп мяшу, дзіця плача – калышу. А мужык: «Давай есьці!» Ды па галаве мне. Я плачу, дзеці плачуць, а певень пат хатаю кудакча, не знае, ў чым дзело, думае, што мы весялімо-со. Ён думаў, што радасьць ў хаце, а тут плач. І так трэ было жыць як набяжыць. Пайду жаць, дзіця пасаджу, кажуха расьцялю дагары воўнаю, надаю цацок дзіцяці, цёгае за воўну, упадзе, перакінецца на пожню. Ах! Як мне гэта замужняя жызьня надаела. Забірай, мамачка, дахаты. Да мамы не было калі паехаць і казала: «Мамо ж мая, мамо, мамо ж мая міла! Спамінай мяне, мамо, хоць рас у нядзелю, а я цябе буду сьцелючы пасьцелю. Спамінай мяне, мамо, хоць рас у аўторак, а я цябе, мамо, на дзень разы сорак. Спамінай мяне, мамо, хоць рас у суботу, а я цябе йдучы на работу. Ты думаяш, мамо, што я тут паную, прыдзі падзівіся, як я тут гарую. Чаму ж мяне, мама, не ускінула з высокага мосту? Аддала мяне мама, дзе дружына* няшчасна, дружына няшчасна, хатка невясёла. Аддала мяне мама ў чыстае поле, у чыстае поле, дзе мой міленькі нажачоненькі* ніґды не прыходзіць. Што б я гэта знала, што замужам гора, та я бы сядзела б, гуляла б лецячко, другое. Ат дому да дому ехалі казакі, прывязалі Галю к сасне валасамі. Сасна дагарае, Галя прамаўляя: «А хто дочкі мае, няхай навучае, няхай да карчомкі гуляць не пушчае». Аддала мяне мама, дзе я непрывычна, дзе я непрывычна, прывыкаці мушу, старэнькаму, маленькаму дагаджаць мушу. Як я была мала, та я была рэзва, церас плот ды ў гарот па гурочкі лезла, а цяпер і на лаву не зьлезу». Прайшлі гада, прайшлі мінуты, а цяпер трэба забірацца да цёмнае цюты*. Жыць добро, але маю лет цэлае бярэмя**, але жыць ужо не ўрэмя. Шкадую сама сябе і сваe даўнейшыя лета, што тады гаравала, а цяпер жызьня добра, свабода: сьпі, ляжы і Бога прасі.

*С.А.Янушкевіч, 1919 г. н.*
*в. Талькаўцы Ваўкавыскага раёна, 1996 г.*

**300.** Гэта было пры цару гароху**, мой дзед жыў пры Мікалаю-скамароху. Ён жа, сусед, ня мог жаніцца, бо ў галаве было не густа, а пуста. А жаніх та быў багаты. Дзет павёс яго далеко, у чужое сяло, у свацье*. Па дарозе папярэдзіў, каб не гаварыў бязглузьдзіцы, а круглыя словы. Думаў жаніх па пуці. І ўспомніў. Нарэшце ўсе апынуліся за сталом. Пачалося частаваньне. З боку маладой сыпаліся пытаньні жаніху. Мікалай лічыў сябе няўломкам, хутка выпаліў. Калясо. І так на кожнае пытаньне ён гаварыў слова калясо. Усім стала вядома, што хлапец хоць і багаты, але розумам

рагаты**. Галава ягоная сусем нічога не варыць. І дала маладая яму паварот да варот**.

*Н.С.Клыбік, 1939 г. н.*
*в. Хадзявічы Слонімскага раёна, 1994 г.*

## Апавяданні-ўспаміны

Гл. таксама №№ 53, 94, 143.

**301.** Даўно гэта было, як я яшчэ маладзенькая была, красіва дзеўка, спрытна, каса доўга, вочы чорны, хлапцы мяне вельмі любілі. А тады ш лазьню было дорага паліць. А працавалі мы, от як працавалі. Зранку ўстанеш, кароўку падоеш і ў поле прагоніш. А ўжо і мамка ўстае. Пачынаем сьнеданьне гатаваць, а тады ш у поле ідзем. І касілі, і малацілі. Усё самыя. Усё рукамі. Хто хацеў працаваць, той жыў добра, як той казаў, і на хлеп, і на сала хапала. Дык вось, мы, дзеўкі, напрацуемся і на рэчку мыцца. Вадзіца сьветла, чыста, не тое, што зарас: як памыеш нагу, дык не ведаеш, калі чысьцейшая была, тады ці цяпер. А ў вёсцы жыў у нас дурачок Хума. Не ведаю, аткуль ён узяўся, а толькі ні кала ні двара, як гэны казаў**, а сыты. Я яшчэ невялічка была. Гаткоў мо пятнасьце мела. Нажаліся мы рас са старэйшымі дзеўкамі, і ну купацца. Пасьцідалі адзёжу, залезьлі ў ваду, сьмяёмся, песьню зацягнулі, а тут с кустоў галава высоўваецца. Глядзім, а гэта Хума падглядвае. Вось глянь, дурны-дурны, а шкваркі ў супе ловіць. Ну, дзеўкі, што старэйшыя за мяне, павыскоквалі на берах, хапілі яго і ў ваду, а ён спужаўся і ну крычэць. Тут зь вёскі людзей наляцела, страх. Уся вёска сьмяялася, а мяне потым мамка за касу цягала, кап болей так не рабілі. А ўжо ў вайну недзе зьнік ён. Але ш дурненькі быў, яго Божанька мо пакараў.

*Е.Е.Серпутоўская, 1926 г. н.*
*в. Будзёнаўка Ашмянскага раёна, 1996 г.*

**302**. Гэта было ўжэ пасьля вайны, памёр у нас у вёсцы мушчына. Ён ляжаў у бальніцы, там і памёр. Жонка яго прышла да міне і кажа, кап я паехаў яго забраў дахаты, ну, бо ўжэ і машыну калхос даў, і труну зрабілі. Я сагласіўся. Паехаў я на грузавой машыні, алі ш ні ў кабіні, а на кузаві. Ужэ дзесьці пад Індурай пачаўся дошч. Я доўго ні думаў, залез у труну і накрыўся крышкай, кап ні змокнуць. Тут чую шофяр астанаўліваецца і залазіць яшчэ дзьве бабі, папрасіліся да Гродна пад'ехаць. Ну, селі яны і давай пра сваіх мужыкоў гаварыць. Хто кепскі, хто добры. Мне ўжэ надаело ляжаць. Я паднімаю крышку і пытаюся у іх: «Што, дзевачкі, дож-

джык ужэ кончыўся?» А яны так папалохаліся, што паздзыгвалі* за борт. Адна нагу паламала, другая руку. Прышлося і іх весьці ў бальніцу.

*С.І.Карпук, 1925 г. н.*
*в. Малая Бераставіца Бераставіцкага раёна, 1996 г.*

**303.** А ў вайну ў нас тут немцы стаялі. Ні можно было калоць сьвіней, бо яны іх забіралі сабе. Алі ш людзі ўсяляк выкручваліся. Аднаго разу мы з бацькам узялі сьвіню і павязьлі яе ў лес, кап там закалоць. На сьвіню надзелі шапку, кажух і палажылі ў вос. Самыя селі і едзям. Тут бачым, застрагла* німецкая машына, і яны ні могуць ніяк выехаць. Адзін немец спыняя нас. Паказвая на міне і кліча, кап памох ім. Я пайшоў. Пхнулі-пхнулі, а дзе, ні дамо рады. Немяц кліча бацька. Прыйшоў бацько, і зноў нічого не выходзіць. А немяц бачыць, што ў возі яшчэ хтосьці ляжыць і кліча яго. Той ні ідзе. Пайшоў немяц глядзець. Падышоў, узяў за шапку і ўбачыў сьвіную морду. Тады забралі ў нас гэту сьвіню, алі добро, што яшчэ так абышлося.

*С.І.Карпук, 1925 г. н.*
*в. Малая Бераставіца Берестявіцкага раёна, 1996 г.*

**304.** Раскажу табе, дзеткі, інцярэсну історыю. Было гэто даўно, я забылася й калі. Ехаў с кірмашу Юзаф Фер'яноў. Моцно паганяў каня, ну, крыху быў п'яненькі. Даехаў ён да дуба, прыпыніў свайго каня і лёх пад дзеравам. А прас колькі-то мінут ехаў яго сасет с кірмашу. Убачыў ён п'янаго Юзафа і захацеў патшуціць нат ім. Узяў сьцягнуў боты з нох – той нават не павярнуўся і вусам не шавяльнуў. Сьпіць як забіты, аш храп раздаецца на ўсю аколіцу. Прайшла можа гадзіна, а можа, і две. Па гэтай дарозі ехала Маня, удава, тожа с кірмашу. Глядзіць – мужык сьпіць пад дубам, а ногі на дарозі. Яна і кажа яму: «Прымай ногі свае, мужык!» Юзаф падняў галаву, спрасоньня паглядзеў на ногі і прабарматаў: «Ець сваей дарогай. Гэто не мае ногі. Мае былі ў ботах». Во як бывае: знарок гэто не прыдумаеш.

*П.І.Аніська, 1936 г. н.*
*в.Студзенікі Свіслацкага раёна, 1992 г.*

**305.** Некалі тутака натта ж ваўкоў было шмат. Сучачка ў нас была, дык з ланцугом папёрлі. А ўжо як на кані ўночы, то як піць даць дарогу заступяць*. Дык во раскажу, як было. Гэта праўда.

Некалі вазілі дзяцей хрысьціць толькі кумы. Паехалі ўжо яны, ахрысьцілі дый дахаты едуць. А тутака ўжо цямнець стала, бо касьцёл далёка быў. Пакуль туды-сюды зьвярнуліся, уехалі яны ў лес, а тутака ж ужо зусім цёмна. Глядзяць – за імі цьма ваўкоў ляціць. Тады кум кідае на іх сякеру, а яны ўсяроўна лятуць. Тады ён пачаў кідаць, што было на возе, а яны ўсё лятуць, ужо каня за горла хапаюць. Тады кум кажа: «Кінь дзіця, покуль яны яго зьядуць, мы ўцячом». А кума сказала: «Не кіну». Тады ён узёў і штурхануў яе зь дзіцём, а сам – па кані бічом ды бічом. Алі ж ваўкі як ляцелі, абмінулі яе зь дзіцём ды пагналіся за ім. Як дагналі, то зьелі ўсяго, толька ногі ў ботах асталіся. А яе Бох асьцярох за тоя, што анёлачка не кінула. Гэты кум нядобры быў, лядачы, хацеў дзяцячай сьмерцяй аткупіцца.

*А.Ю.Мацкевіч, 1907 г. н.*
*в. Пелкаўшчына Іўеўскага раёна, 1989 г.*

**306.** Помню, як посьля вайны я адзела зялёно пальто і чаравікі братавы, бо ні было ніякаго абутку, і пашла напяхта* ў Валкавыск, бо трэбо было купіць усяго на Коляды. А ў горадзі ўсюды очарадзі, і хадзілі міліцыянеры, праганялі тых, хто зь вёскі. Адзін і да міне падышоў, але я сказала, што раблю на заводзі кірпічнум. Як набрала я хлеба, цукру, алею, сялёткі, то ледзьвя дайшла назат. Дваццаць вёрст – гэто ш німало. Калісь усюды напяхта хадзілі, гэто ціпер прывыклі на алтобусах езьдзіць і на машынах.

*Я.І.Ярашук, 1920 г. н.*
*в. Шурычы Свіслацкага раёна, 1996 г.*

**307.** Жыў-быў пан. Яго было назвіско* Залятынскі. Быў ён зь мясцовасьці Лобаўшчына, з Рэплянскай парафіі. Там былі вёскі Духаўляне, Навасады, Навасёлкі. Быў велькі пан. Меў і ў Маскве, Варшаві, Францыі камяніцы. Трымаў парапке, служанкі. Меў жонку й аднаго сына. Жонка яго пакінула й паехала ў Варшаву, а дзіця аставіла з бацькам. Гэты пан што робіць? Купіў казу, й служанка даіла гэту казу й паіла малаком дзіця. Вырасло велькае дзіця. Быў такі старэнькі мушчына за лёкая ў гэтага пана, а малады паніч хадзіў і гаварыў: «Дай, Ігнацы, табе войсы павырывам». А Ігнацы адвернецца й гаворыць: «Пане Багдане, злотувкэ за адзін вус».

*Ю. М. Урбановіч, 1917 г. н.*
*в. Стральцы Мастоўскага раёна, 1992 г.*

# СЛОЎНІК

## ЛЕКСІКА

### А

*Абіякі* – абутак на драўлянай падэшве
*Аблучок* – кашэль
*Абуў* – абутак
*Абыля* – абы
*Агер* – аір
*Агледзецца* – управіцца па гаспадарцы
*Аглядацца* – упраўляцца па гаспадарцы
*Адвант* – вялікі пост
*Адзіналічаство* – аднаасобніцтва
*Адналічна (адналічно)* – аднаасобна
*Адналічнік* – аднаасобнік
*Адымачка* – ануча, якой дастаюць гаршкі з печы
*Азіяд* – азіят
*Акаліц* – закалец
*Актар* – гектар
*Акцыя* – карная аперацыя
*Аліва* – алей
*Алсі* < *алёс* – балота
*Аная* – адна
*Андуляцыя* – від жаночай прычоскі
*Анегды (анэгды)* – аднойчы, калісьці
*Антобус* – аўтобус
*Анум* – ажно
*Апалкі* – перапечка
*Апрыч* – асобна
*Арапран* – аэраплан
*Арбон* – аўтобус
*Асопчык* – значэнне не высветлена
*Асустэнт (асыстэнт)* – шафер
*Атрэп'е* – адходы пры апрацоўцы лёну
*Аходжвацца (ахожвацца)* – упраўляцца па гаспадарцы

### Б

*Бавальніца* – бавоўна
*Багно* – імшыстае балота
*Бадаць* – правяраць
*Байкі* – на шчасце
*Бало* – бывала

*Балотнік* – меліяратар
*Бараніць* – забараняць
*Барджэй* – хутчэй
*Барлінак* – барвенак
*Баўкары* – сані для перавозкі сена зімой
*Бахур* – пазашлюбнае дзіця
*Безустыдзьдзе* – бессаромніцтва
*Беляхцець* – блішчаць
*Берлы* – нявеянае збожжа
*Бізунаваць* – біць бізуном
*Біндаш* – бліндаж
*Бляшка* – прылада з ліставога жалеза для выпечкі хлеба
*Бонда* – бохан хлеба
*Бордзянька* – хуценька
*Бразгуны* – бомы
*Брама* – перагароджанае месца, праз якое за плату прапускаюць вясельны картэж
*Брамавоё* – плата за пропуск вясельнага картэжа праз браму
*Броня* – зброя
*Брушка* – бручка
*Бувалішні* – тутэйшы
*Бульва* – бульба
*Бурачэньне* – лісце буракоў
*Быля* – абы
*Бэбах* – жывот
*Бэлян* – вэлюм

**В**

*Вадзіцца* – сварыцца; дражніцца
*Вайлакі* – валёнкі
*Вакатнік* – той, хто знаходзіцца на канікулах
*Валаць* – клікаць
*Валачона (валачодно)* – велікоднае яйка
*Валён (валян)* – вэлюм
*Валок* – згорнутае ў адзін рад сена, салома
*Валяц* – вальс
*Ванасці* – значэнне не высветлена
*Вандзёнка* – вяндліна
*Вара* – варыва
*Варажэй* – варажбіт
*Варажэйка* – варажбітка
*Варкоцікі* – значэнне не высветлена
*Варыва* – гародніна
*Варыўня* – памяшканне для захоўвання гародніны
*Ве* – ведае

*Веле (веля)* – колькі; столькі
*Велізна* – многа
*Велъканац (Велъканоц)* – Вялікдзень
*Венцай* – больш
*Вехці* – пучкі саломы
*Вечарушкі* – вячоркі
*Відовіска* – відовішча
*Вобуў* – абутак
*Война* – тут
*Ворак* – мех
*Выдрымусы* – розныя нетрадыцыйныя стравы, ласункі
*Выжай* – вышэй
*Выкапаны* – такі самы як
*Вылупіцца* – падрасці, папрыгажэць
*Вырабляцца* – крыўляцца
*Вытрабушыць* – выняць, дастаць
*Вэлін (вэлюн, вэлян)* – вэлюм
*Вэнзал* – вузел
*Вядрына* – адрына
*Вялікень* – Вялікдзень
*Вянкі* – адзін з этапаў перадвясельнага ці вясельнага абраду
*Вянэк* – вянок: перадшлюбнае слова на дарогу, з якім сват звяртаецца да маладой
*Вясёнка* – жаночае дэмісезоннае паліто

## Г

*Гавэнда* – гаворка
*Гавэндзіць* – гаварыць
*Гадзіць* – заахвочваць платай
*Гадрына* – адрына
*Гаёвы* – ляснік
*Галаголы* – бомы
*Галобля* – аглобля
*Галька* – сподняя спадніца
*Ганавіцы* – нагавіцы, штаны
*Ганучнік* – анучнік, зборшчык анучаў
*Гара* – гарышча
*Гаргатаць* – гаварыць на незразумелай мове
*Гартай* – араты
*Гаруд* – засек
*Гаспадыня* – служанка
*Гаспося* – гаспадыня
*Гасьціць* – частаваць
*Гатка* – грэбля
*Гаці* – штаны

*Гваздацца* – біцца
*Гвязда* – зорка
*Гер* – літовец
*Гермаш* – кірмаш
*Гергетаць* – гаварыць на незразумелай мове
*Гіба* – мера палатна ў чатыры локці
*Гібаць* – гнуць; мясіць
*Гміна* – самая дробная тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка ў Польшчы і Заходняй Беларусі
*Гопа* – бабка (страва)
*Горбачка* – кучка
*Горшкі* – на плячах (несці)
*Графка* – шпілька
*Грумада* – шмат
*Грумадаю* – гуртам
*Груцца* – каша з ячных круп
*Губіца* – адзінка вымярэння даўжыні асновы і палатна
*Гулда* – від жаночай прычоскі, кукла
*Гумовікі* – гумовыя боты
*Гэдыксамо* – таксама
*Гэйдалка* – гушкалка
*Гэтта* – тут

## Д

*Даклёваць* – дажыць
*Дальбу* – далібог
*Дапраўды* – сапраўды
*Дары* – дарэнне
*Двадзесьця* – дваццаць
*Дванасьця* – дванаццаць
*Двацатнікі* – значэнне не высветлена
*Дзевятнасьця* – дзевятнаццаць
*Дзед* – рытуальны сноп
*Дзеравяні (дзеравянікі)* – абутак на драўлянай падэшве
*Дзесятак (дзісятак)* – укладка снапоў для сушкі на полі
*Дзіньдобры* – этап вяселля, на якім вясельнікі за плату заказваюць мелодыі, песні
*Дзіньдобрыцца* – вітацца
*Дзісь (дзісяй, дзісяка)* – сёння
*Дзыгаць* – скакаць
*Длугі* – доўгі
*Доляцца* – ісці долам
*Донька* – дачка
*Драбіны* – рашотчатыя бакі ў возе
*Драчыць* – дражніць
*Дружба* – дружкі і дружбанты маладых

*Дружына* – сям'я; сябры маладога на вяселлі, якія выпраўляюць яго з бацькоўскай хаты
*Дрын* – палка
*Дрэўчыны* – дровы
*Дусяца* – душацца
*Душа* – чалавек
*Дыля* – тоўстая дошка
*Дэка* – чарка

**Е**

*Едык* – гэтак
*Едынасьця* – адзінаццаць

**Ж**

*Жалабіцца* – скардзіцца, жаліцца
*Жанца* – жняя
*Жанец* – жнец
*Ждайгі* – значэнне не высветлена
*Жонт* – дзяржава
*Жывіна* – жывёла
*Жыкі* – значэнне не высветлена
*Жэ* – што
*Жэбы* – каб
*Жэгнаць се* – развітвацца
*Жэргаць* – пераступаць

**З**

*Забракнуць* – не хапіць
*Забране (забраньне, забраня)* – сход
*Завшэ* – заўсёды
*Зага* – пякотка
*Зажарнаць* – канчаткова нагрэць поласць печы шляхам разгортвання жару па ўсёй плошчы пода
*Зайсці* – пачацца
*Залапаць* – залавіць
*Заміж* – замест
*Запіваць* – заключаць дамову аб шлюбе
*Запоіны* – перадвясельны застольны абрад, на якім замацоўвалася дамова аб шлюбе
*Запрыдух* – штукар, жартаўнік
*Запусты* – апошні дзень перад постам, калі ядуць скаромнае
*Зара* – зараз; хутка; цяпер
*Зарованы* – запалаканы
*Засатка* – засада
*Засейкі* – засекі
*Заслон* – услон
*Застрагнуць* – забуксаваць

*Заступіць* – перагарадзіць; прыйсці, з'явіцца; усталявацца
*Заўша (заўшы, заўшэ, зафша)* – заўсёды
*Зацьнецца* < *затнуцца* – зацяцца
*Збыткаваць* – здзекавацца
*Збыткі* – здзек
*Званчак* – частка драўлянага вобада ў коле ад воза
*Здатны* – прыгожы
*Зд'енцыя* – фотакартка
*Зельска* – зелле
*Злапаць* – злавіць
*Злыгаць* – салгаць
*Зну* – зноў
*Зрасці* – вырасці
*Зровяны* – заплаканы
*Зубы* – карункі ў форме трохвугольных выступаў
*Зьбіралка* – прылада збіраць ягады
*Зьлёпаць* – збіць
*Зьліцэтаваць* – прадаць з таргоў
*Зьлякацца* – спалохацца

**К**

*Кавалерскі* – кавалерскі вечар: застольная бяседа маладога з сябрамі перад вяселлем
*Кагэла* – кагал
*Кает* – сшытак
*Каза* – калядная маска ў вобразе казы
*Казьлячкі* – маслячкі
*Калаваты* – каляны
*Калаваротка* – калаўрот
*Калейка* – чарга
*Калёня* < *калонія* – хутар
*Каляжанка* – сяброўка
*Камадэйкі* – забавы
*Камашы* – гамашы
*Камедны* – смешны
*Капаніца* – матычка
*Капец* – канец
*Капіца* – малая ўкладка сена
*Капота* – жакет, фуфайка
*Капшук* – кісет для тытуню
*Караўлотак* – калаўрот
*Карафка* – графін
*Кароста* – кастрыца
*Картоплі (картопля, картофлі, картофля)* – бульба
*Карэла* – брудна

*Каслаўка* – пасма
*Катак* – цэментавая труба, цэмбравіна
*Каты* – камы (снегу)
*Кашарыць (кашэрыць)* – мыць, прыбіраць
*Кашляваць* – вярнуць
*Каштураваць* – пікіраваць (пра пасадку раслін)
*Квас* – грыбны суп
*Кілё (кіля)* – кілаграм
*Кільканаццаць* – некалькі, многа
*Кіндзюк* – страўнік у жывёлы
*Кіндэр* – дзіця
*Кіта* – вязанка, сноп
*Клетка* – штабель
*Клумпы* – абутак на драўлянай падэшве
*Клундзякі* – каўбасныя вырабы
*Кляпа* – борт (адзення)
*Колега* – сябар
*Колежанка* – сяброўка
*Колежэнство* – дзявоцтва
*Колейка* – чарга
*Коль-хто* – хтосьці
*Кольчыкі* – завушніцы
*Крамны* – магазінны
*Круцель* – перавясла
*Кручок* – маленькая бутэлечка
*Крэга* – крыга
*Ксёнжачка* – кніжачка, малітоўнік
*Ксёнжка* – кніга
*Кубарка* – пасудзіна, каробка
*Кукалаўрот* – калаўрот
*Кулёнія* – хутар
*Кулэчка* – кола
*Куляжанка* – сяброўка
*Кунатка* – бульбачка
*Курвы* – крывы

**Л**

*Ладна* – добра
*Ладне* – многа, багата
*Ладны* – добры, прыгожы
*Ламата* – ламачча
*Лапаць* – лавіць
*Ласаўцы* – уласаўцы
*Лаўка* – магазін
*Лахіны* – буякі

*Лахуцець* – балбатаць
*Леднік* – халадзільнік
*Летнік* – пінжак
*Лешка* – града
*Лёкі* – локаны
*Лёха* – падземны ход
*Лінейка* – выязны воз
*Ліпец* – ліпень
*Лісапед* – веласіпед
*Ліхо* – добра, выдатна
*Логма* – лежма
*Лохан* – гліняны гаршчок
*Лошка* – лыжка
*Лук* – цыбуля
*Лупонікі* – бульба, спечаная ці звараная ў лупінах
*Лыга* – лыка; віка
*Лыткі* – лыкі
*Лэп* – лоб
*Люфа* – дула
*Ля* – глянь; глядзі
*Лявар'янка* – валер'янка
*Лякабая* – легкавая машына
*Лякай* – лёкай
*Ляндрынкі* – ледзянцы
*Ляпняк* – хлеб нізкай якасці
*Лятонцы* – рухавы, хуткі
*Ляшка* – укладка снапоў на полі

**М**

*Маі* – маёскія набажэнствы ў касцёле
*Малавеле* – амаль што, вельмі
*Малявідла* – касметыка
*Марац* – сакавік
*Марынарка* – пінжак
*Матоцык* – матацыкл
*Міґдалы* – штосьці неверагодна смачнае
*Мірґавацца* – праяўляць памяркоўнасць, цярплівасць
*Мотус* – матуз
*Мувіць* – казаць
*Мулячок* – мазоль
*Мус* – мусіш, неабходна
*Мусі* – мусіць
*Мусове* – трэба, неабходна
*Мэндаль* – укладка снапоў на полі для сушкі
*Мэндзіць* – плесці, гаварыць абы-што

*Мэнка* – мука
*Мядніца* – вялікая металічная міска
*Мяльніца* – церніца

**Н**

*Набамбэніць* – наліць
*Набой* – мазоль
*Набунтаваць* – наблытаць
*Навучыцель* – настаўнік
*Надуцька* – насуплены чалавек
*Нажычона (нажычоная)* – нарачона; нявеста
*Нажычоны (нажачоненькі)* – нарачоны; кавалер, жаніх
*Назвіско* – імя
*Найболей* – часцей
*Намесьнік* – памочнік пана
*Напрывясьне* – перад самай вясной
*Напяхта* – пешшу
*Насілы* – насілкі
*Насурка* – насоўка, сурвэтка
*Натэрнат* – інтэрнат
*Наўпярот* – наперад
*Наўчыцелька* – настаўніца
*Нашмараваццa* – намазацца
*Негжэчны* – нетрывалы
*Нігды (нігда)* – ніколі
*Ніц* – нічога
*Нічого* – слабы, нямоглы
*Нэндза* – нуда
*Няладны* – непрыгожы

**О**

*Ойцец* – бацька
*Олтаж* – алтар

**П**

*Паактаваць* – лямантаваць
*Пабяліцца* – памыць бялізну
*Павесма* – мера ільновалакна
*Павечаркаваць* – пагуляць на вуліцы ў вячэрні ці начны час
*Павэдля* – у адпаведнасці, паводле
*Пагачкаваць* – паматыкаваць
*Пагнае* – неўрадлівая зямля, на якой сеялі толькі з унясеннем гною
*Паграць* – спароўвацца
*Падат* – падатак
*Падаць* – данесці на каго-н.
*Падзяла* – апорныя бэлькі, на якія кладзецца драўляны насціл у бульбянай яме

*Падзяўкаваць* – правесці час у забавах, гульнях да замуства
*Падранкі* – перад світаннем
*Падходжвацца* – упраўляцца па гаспадарцы
*Пажанеш* – пагоніш
*Пажытка* – пазыка
*Пазатакрак* – пазамінулы год
*Паздзыгваць* – пасаскокваць
*Паземкі* – суніцы
*Палакаць* – паласкаць
*Палата* – палатка
*Паліцікант* – палітык
*Паліцман* – паліцай
*Палкнуць* – каўтнуць
*Палок* – палаці
*Паломка* – палонка
*Палуднаць* – абедаць
*Паляңгвіца* – паляндвіца
*Пансак* – каша з ячных круп
*Панцак (панцачок)* – ячныя крупы; каша з ячных круп
*Папалудняваць* – паабедаць
*Паплаўчы* – палявы вартаўнік
*Паплінтаць* – паблытаць
*Папэнкаць* – палопаць
*Параны* – бульба, звараная ў лупінах
*Параткавацца* – упраўляцца па гаспадарцы
*Парцізанка* – партызаншчына
*Паслугаваць* – служыць
*Паста* – пасьба
*Пастароньнікі* – людзі, не запрошаныя на вяселле
*Пастарунак* – мясцовае аддзяленне паліцыі
*Пастол* – лапаць
*Пастыр* – пастух
*Пастэрка* – калядная імша
*Пасьці* – амаль
*Пасьціць* – пасвіць
*Патампленне* – патапленне
*Паткручываць* – заляцацца
*Паткусіць* – данесці на каго-н.
*Патрафіло* – удалося
*Патрула* < *патруціць* – атруціць
*Паўкопка* – паўкапы
*Пачарэвак* – падчарэўе
*Пачка* – пасылка; кампанія
*Пашмараваць* – памазаць

*Паштарка* – паштальёнка
*Пашыкаваць* – пашанцаваць
*Пашэнця* – пашчасціць
*Пелюсьці* – чалеснікі
*Перабіранка* – даматканая посцілка з узорамі
*Перагаворшчык* – перакладчык
*Пераглядзіны* – пярэгляды
*Перапрасіць* – папрасіць прабачэння
*Перыць* – біць, стукаць
*Пёнтак* – пятніца
*Пірагі* – бяседа праз тыдзень пасля вяселля, на якую збіраецца самая блізкая радня маладых
*Пірыць* – моцна падаць (пра дождж)
*Піцер* – від дзіцячай гульні
*Плоць* – плотка
*Пляц* – участак
*Пожуціць* – пакінуць
*Покаска* – выдумка
*Покі* – пакуль
*Попліска* – палка
*Постаць* – палоска, якую займае жняя ў час жніва
*Праве* – амаль
*Пратаць* – прыбіраць; хаваць; складваць
*Прыстань* – значэнне не высветлена
*Прыталака* – перакладзіна паміж вушакамі перад дзвярыма
*Прэнтка* – хутка
*Прэці* – супраць
*Пукі* – пакуль
*Пшэпрашам* – прабач, прабачце
*Пякавы* – кухар
*Пярот* – раней
*Пярыцца* – біцца чым-небудзь
*Пярыць* – біць, ударадь
*Пярэгляды* – агледзіны
*Пятнасьця* – пятнаццаць
*Пяток* – певень
*Пячайка* – пякотка

**Р**

*Рабак* – чарвяк
*Радзіна* – сям'я; радня
*Радзюшка* – дзяруга
*Радnaніца* – ніткі для ткання радна – грубага палатна
*Радно* – грубае палатно
*Радняны* – зроблены з грубага палатна

*Размэчганы* – замурзаны
*Рамёны* – плечы
*Рандэлек* – каструля з ручкай
*Раскудланы* – раскудлачаны
*Раскуштаць* – раскатурхаць
*Рассалепаны* – запыханы
*Растурзаць* – разблытваць
*Ровар (роварчык)* – веласіпед
*Родзіна* – сям'я
*Родзіцы* – бацькі
*Рок* – год
*Руляда* – рулет
*Румянак* – рамонак
*Рыхнуцца* – здурнець
*Рэндлік* – каструля з ручкай

## С

*Савет* – савецкая ўлада
*Акватар* – секвестратар
*Сапануць* – перадыхнуць
*Сахарынка* – сахарын
*Сахор* – вілы
*Сачак* – пінжак
*Сачынка* – сачыўка
*Сванька* – свацця
*Свацьцея* – сваха
*Свой* – сувой
*Сераўно* – усё роўна
*Сечка* – сякач
*Сёраўно (сёроўна, сіраўно, сіроўна)* – усё роўна
*Сіцявы* – паркалёвы
*Скажытыся* – скажы ты
*Сканаваліць* – згвалціць
*Слон* – услон
*Смагла* – старанна
*Смаглы* – дужы, моцнага целаскладу
*Смактулі* – ледзянцы
*Сойсядак* – від гульні моладзі
*Солтус (солтыс)* – староста
*Солтысіха* – жонка солтыса
*Спрабаваць* – выпрабаваць, праверыць
*Спраўны* – здатны, спрытны
*Спрунжыноўка* – культыватар
*Сталяване (сталяваня)* – столь
*Старонак* – застаронак

*Столак* – зэдаль
*Стопка* – кладоўка; варыўня
*Страмак* – прылада для капання торфу
*Страх* – пудзіла
*Строй* – убранне
*Стройны* – прыгожы
*Стронціць* – пакалечыць
*Стрэсці* – сабраць
*Стылу* – ззаду
*Судзя* – посуд
*Сукня* – сукенка
*Схрон* – сховішча
*Схэлтаць* – з'есці
*Сцяжар* – подсціл пад стог
*Сьвінура* – дробная бульба, прызначаная на корм свінням
*Сьвятовы* – сусветны
*Сьцёпка* – кладоўка; варыўня
*Сядзіцель* – сведка
*Сядно* – усё роўна
*Сяльнік* – сяннік
*Сярадня* – пасярод дня
*Сяроўна* – усё роўна
*Сярэдзіна* – спіна

## Т

*Таквеле (таквеля, таквеляко)* – столькі, столькі многа
*Такрок* – мінулы год
*Таксуфка* – легкавы аўтамабіль
*Танчыць* – танцаваць
*Тарпа* – сціртa, стог
*Тарпок* – стажок
*Ток* – под (у печы)
*Торп* – сціртa, стог
*Торпа* – торф
*Точка* – радыёкропка
*Трасца* – кастрыца
*Трэбало (трэбола, трэбула, трэбыло)* – трэба было
*Трэпы* – тапачкі
*Трыбух* – жывот
*Трыцатнікі* – значэнне не высветлена
*Тубалец* – тутэйшы
*Тшэбо* – трэба
*Тыгодзень* – тыдзень
*Тыко (тыку)* – толькі
*Тыл* – ніз, дно

*Тыле (тыля)* – столькі, столькі многа; некалькі; колькі
*Тырыць* – працаваць
*Тэразьнейшы* – сучасны
*Тэрас* – цяпер
*Тэш* – таксама

**У**

*Улядзіны* – агледзіны
*Уперат (упярот)* – раней
*Усенкі (усенькі)* – увесь
*Уступацца* – абувацца
*Усяраўно* – усё роўна
*Утранцацца* – прэтэндаваць
*Ухадзіцца* – управіцца па гаспадарцы
*Уходжвацца* – упраўляцца па гаспадарцы
*Учытаць* – галасіць

**Ф**

*Файно* – добра
*Файны* – добры
*Фанар* – сіняк
*Фацэт* – весялун
*Філіжанка* – кубак
*Фільцы* – абутак, збіты з лямцу
*Флах* – сцяг
*Фцале* – у цэлым
*Фэйчар* – фельчар

**Х**

*Хаваць* – гадаваць, трымаць жывёлу
*Хадакі* – лапці, пашытыя са скуры
*Халерысты* – шкадлівы
*Хамуталаўка* – будынак, памяшканне, дзе захоўваецца збруя
*Харонгі* – харугвы
*Хжэсны* – хросны
*Хлітахон* – магнітафон
*Ходачкі* – лапці, пашытыя са скуры
*Хрусты* – печыва хрушчы
*Хцэш* – хочаш
*Хэўра* – многа
*Хяліць* – цвяліць

**Ц**

*Цернік* – церніца
*Цёмгле (цёмгля, цёнгле, цёнгля)* – заўсёды
*Цёс* – столь
*Цурка* – дачка

*Цыганы (цыганэ)* – удзельнікі вясельнага абраду, якія выконваюць ролю цыганоў
*Цьверыць* – даказваць
*Цьвятасты* – прыгожы
*Цюта* – значэнне не высветлена
*Цяпаць* – рыхліць глебу і палоць з дапамогай матыкі

**Ч**

*Чамарашны* – нядошлы
*Часы* – гадзіннік
*Чашнік* – шафер
*Чварак (чваранок)* – хата для пражывання батракоў, слуг
*Чвартак* – чацвер
*Чварты* – чацвёрты
*Чмыса* – мыза
*Чолга* – танк
*Чы* – ці
*Чынасты* – трынаццаты
*Чыста (чысто)* – быццам; поўнасцю, цалкам
*Чэміргес* – самагонка
*Чэрфца* – чэрвеня

**Ш**

*Шакур* – значэнне не высветлена
*Шаламке* – бомы
*Шаласткі* – бомы
*Шаластунэ (шалустуны, шалахтуны, шалястуны)* – бомы
*Шаснасьця* – шаснаццаць
*Шво* – шыццё
*Швэрґетаць* – гаварыць на незразумелай мове
*Шлям* – слой гразі, смецця, раслінасці над залежамі торфу
*Шопка* – павець
*Шпадэль* – лапата
*Шчапкі* – прышчэпленыя дрэвы
*Шырэнх* – шарэнга, рад

**Э**

*Электроўня* – электрастанцыя
*Эташкі* – значэнне не высветлена

**Ю**

*Юш* – ужо

**Я**

*Ядынасты* – адзінаццаты
*Яер* – аір
*Янчонцы* – крыклівы
*Ярэйшы* – спрытнейшы
*Ясік* – малая падушка
*Яшка* – значэнне не высветлена

# ФРАЗЕАЛОГІЯ

**А**

*А Божачкі мае* – выказванне розных пачуццяў
*Аднаму пану Богу вядома* – няясна, невядома
*Ад свету* – на світанні
*Андарак у зубы* – сабрацца
*Анно аннаго не падымае* – адзін за другога меншы (пра дзяцей)
*Ах матачкі мае* – выказванне розных пачуццяў
*Аш вушы трасуцца* – з вялікім апетытам (есці)

**Б**

*Біць у кацюты* – біць у ладкі; *перан.* радавацца
*Божа ш мой Божа* – выказванне розных пачуццяў
*Божа шчэш* – выказванне засцярогі ад чаго-н. непажаданага
*Бох стаяў* – нічога дрэннага не здарылася з кім-н.
*Бронь (бруні, брынь) Божа* – выказванне перасцярогі ад чаго-н. непажаданага
*Будзя німало* – каму-н. пагражае пакаранне

**В**

*Вой людзячкі* – выказванне розных эмоцый
*Вотку саладзіць* – цалавацца на вяселлі
*Вывесьці да людзей* – дапамагчы каму-н. заняць сваё месца ў жыцці

**Г**

*Горла залівацъ* – п'янстваваць
*Гуш галавы не ўсуне* – што-н. зарасло зеллем, кустоўем, лесам

**Д**

*Даваць на запавець* – рэгістраваца ў царкве ці касцёле для ўступлення ў шлюб
*Да (до) відзэня* – да пабачэння
*Дай Божа ножачкі* – хутка пабегчы
*Дай Бох неба* – добрае пажаданне нябожчыку
*Дай Божа рады* – вельмі многа
*Да крышкі* – поўнасцю, цалкам
*Дало ліха* – здарылася, атрымалася, сталася
*Да сонца* – да світання
*Да сьвету* – да світання
*Да халеры* – вельмі многа
*Даць грымака* – даць кухталя, стукнуць
*Даць дзень добры* – павітацца
*Даць на запавяць* – зарэгістравацца ў царкве ці касцёле для ўступлення ў шлюб
*Даць пахвалёны* – прывітацца
*Дзень добры* – этап ваясельнага застолля, калі музыкі па заказе прысутных выконваюць мелодыі, песні, прысвечаныя маладым ці іншым вясельнікам

*Дзенькуя Богу* – вельмі добра
*Дух прахваціло* – каму-н. стала вельмі страшна

**З**

*За далёкі свет* – далёка
*Заліць зегра* – напіцца спіртнога
*За немцам (за немцамі)* – у час нямецкай акупацыі
*За польскім (за польскімі, за польскім часам, за Польшчай)* – у перыяд з 1921 па 1939 гады, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы
*Згракам ляцець* – нападаць на каго-н., моцна сварыцца з кім-н.
*З мундурамі* – звараная ў лупінах (бульба)
*З пуда* – з вынікаў сваёй працы
*З рук* – уручную
*Зрыны пазаліваць* – напіцца спіртнога

**І**

*І дух забіла* – стала цяжка дыхаць ад хвалявання
*Ісьці дахаты* – паміраць

**К**

*Кавалерскі вечар* – вечар перад вяселлем, на які збіраюцца сябры маладога
*Каноплі сеяць* – варажыць на канапляным семі
*Кленска боска* – кара, пракляццe божае

**Л**

*Лажыць у зямельку* – хаваць нябожчыка.
*Лёхкія рукі мець* – быць схільным да бойкі

**М**

*Мець моду* – быць схільным рабіць што-н.
*Мець павадзэньне* – карыстацца павагай, поспехам на танцах, у кампаніі

**Н**

*На нет* – дашчэнту
*На ногі ўпасці* – не магчы хадзіць
*На папрадухі* – на вячоркі
*На патхватку* – на падхваце
*На сьвеці* – зусім, абсалютна
*На той рас* – часова
*На ўсе чатэры* – галопам
*На халеру* – навошта
*На чатыры рашкі* – кавалкавы (цукар)
*Нех яго пёрун* – выказванне незадавальнення ці адмаўлення
*Нех яго халерачка* – выказванне незадавальнення ці адмаўлення
*Ні сяк ні так* – недарэчны, несур'ёзны, няварты
*Ні ў доўгі час* – хутка
*Нясьці на запавець (на запаведзі)* – ісці рэгістравацца ў царкве ці касцёле для заключэння шлюбу

*Няхай сам Бог бачыць* – выказванне катэгарычнага непажадання бачыць што-н.

*Няхай яно праваліцца* – выказванне незадавальнення, адмаўлення

**П**

*Паварот да варот* – адмова каму-н.

*Падаваць на запавяць* – рэгістравацца ў царкве ці касцёле для заключэння шлюбу

*Пад палякамі* – у перыяд з 1921 па 1939 гады, калі Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе Польшчы

*Па калена* – вельмі многа чаго-н.

*Панесьці на запавяць* – пайсці рэгістравацца ў царкве ці касцёле для заключэння шлюбу

*Па пятуху* – арыентуючыся на чарговасць спеваў пеўня ў начны і ранішні час

*Пат сьвет* – пад раніцу

*Першы кілішак* – пачатак вясельнага застолля

*Прагрэць лаву* – праседзець доўгі час

*Пры Польшчы* – у перыяд з 1921 па 1939 гады, калі Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе Польшчы

*Пры цару гароху* – вельмі даўно

*Пярун іх зная* – невядома

**Р**

*Рас-два* – вельмі хутка

*Розумам рагаты* – бесталковы, неразумны

*Рот разяўляць* – гаварыць, спяваць

**С**

*Самы чорт* – вельмі энергічны, лоўкі, шустры чалавек

*С сваіх пяці пальцаў* – з працы рук сваіх

*С панталыку* – знянацку, безразважна

*С поля ні сходзіць* – многа, заложна працаваць у полі

*Страла іх зная* – невядома

**Т**

*Такое беды* – няхай будзе так

*Трупья голавы* – эмблема з выявай чалавечага чэрапа

**У**

*У вачах матылі лятаюць* – у чыім-н. уяўленні ўзнікаюць страхі, здані, каму-н. што-н. здаецца

*У голаў не браць* – не засвойваць розумам

*У душы гарыць* – хто-н. адчувае вялікае хваляванне

*У дыміну* – вельмі (п'яны)

*У сваццье* – у сваты

*У кацюты біць* – моцна радавацца

*У муньдзярах* – звараная ў лупінах (бульба)

*У падоле прынесьці* – нарадзіць не будучы замужам

*У першай устрэчы* – стрыечны

*Усюды поўна* – хто-н. рухавы, актыўны, энергічны
*У цаґелачках* – кавалкамі (пра цукар)
*У чорным твары* – вельмі змарнелы, страшны з выгляду

**Х**

*Хай Бог (Бух) бароніць (крые, крыя, крэя, крыя-ратуя)* – выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, непрыемнага
*Хай яго бомбы* – выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага
*Хай яго (іх) халера <возьме>* – выказванне незадавальнення, нязгоды, адмаўлення
*Хай яно вытаня* – выказванне незадавальнення, роспачы, адчаю
*Халера яго ведая* – невядома
*Халерны конь* – кепскі чалавек
*Хвароба яе зная* – невядома
*Хоць бы хнык* – усё роўна каму-н.
*Хоць вока калі* – вельмі цёмна
*Хоць пэнкні* – абавязкова, нягледзячы ні на якія абставіны

**Ц**

*Цёмная хмара* – змрочная часіна
*Цопам-лопам* – абы-як, спяшаючыся (зрабіць што-н.)
*Цэлае бярэмя* – вельмі многа чаго-н.

**Ш**

*Шара гадзіна* – прыцемак ў перадвячэрні час
*Што дух стаіць* – вельмі хутка (бегчы)
*Што-та я* – ганарысты, фанабэрысты
*Што хоч* – вельмі многа чаго-н.

**Я**

*Як Бох даў* – неабавязкоава, як прыйшлося, як сталася
*Як відзіш* – вельмі хутка, адразу
*Як вокам сыцяць* – на вялікай прасторы ў наваколлі
*Як гэны казаў* – як той казаў (пабочная канструкцыя)
*Як конь* – вельмі многа (працаваць)
*Як мая моц* – вельмі моцна
*Як муха траўленая* – кволы, слабы, нямоглы
*Як на баране праехаць* – вельмі дрэнна, няўдала (пражыць)
*Як стой (як стоя)* – без нічога, без рэчаў, без маёмасці
*Як сягоньня* – вельмі добра (помніць)
*Як токам прабіла* – раптоўна ўразіла што-н.
*Як трэба* – спраўна, як належыць
*Як тус* – нерухома
*Як у тога воўка* – вельмі многа (работы)
*Як у тумане* – у стане разгубленасці, глыбокай безразважнасці
*Як цёмныя хмары* – канчаткова, назаўсёды (разысціся)
*Як цэмент воду* – вельмі, празмерна (піць спіртное)
*Як шаршон* – вельмі злосны

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Хрэстаматыя

Аўтары-складальнікі: **Даніловіч** Мікалай Аляксандравіч
**Памецька** Ніна Казіміраўна

Рэдактар *М.У. Вахмяніна*
Камп'ютарная вёрстка: *Р.М. Баранчык*
Дызайн вокладкі: *В.В. Канчуга*

Здадзена ў набор 09.02.2007. Падпісана да друку 20.06.2007.
Фармат 60×84/16. Папера афсетная.
Друк RISO. Гарнітура Таймс.
Ум. друк. арк. 15,34. Ул.-выд. арк. 15,63. Тыраж 80 экз. Заказ 169

Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт
імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0133257 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.

Надрукавана на тэхніцы выдавецкага цэнтра
Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт
імя Янкі Купалы».
ЛП № 02330/0056882 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.